АКАДЕМИЯ НАУК СССР

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ СССР

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО ДЕЛАМ ИЗДАТЕЛЬСТВ, ПОЛИГРАФИИ И КНИЖНОЙ ТОРГОВЛИ

# СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ НАРОДОВ СССР

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1984

ББК 63.3 (2Б)
З — 41

З-41 **Збор помнікаў** гісторыі і культуры Беларусі. Брэсцкая вобласць /АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Рэд. кал.: С. В. Марцэлеў (гал. рэд.) і інш.— Мн.: Беларус. Сав. Энцыклапедыя, 1984.— 368 с., іл.

У пер.: 8 р. 00 к.

З $\frac{0505040000-006}{М\ 318(05)-84}$ 6—83

ББК 63.3 (2Б)

# ПРАДМОВА

Помнікі гісторыі і культуры — своеасаблівы летапіс жыцця народа, яскравыя сведкі яго працоўнай, рэвалюцыйнай і баявой славы. У лепшых творах архітэктуры, скульптуры, манументальна-дэкаратыўнага жывапісу, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ўвасоблены важнейшыя гістарычныя падзеі. У іх адлюстраваны гістарычны лёс народа, развіццё яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, барацьба працоўных за светлую будучыню.

Савецкі народ з надзвычайнай увагай ставіцца да спадчыны, якую пакінулі нам папярэднія пакаленні. Без вывучэння і дэталёвага высвятлення сутнасці спадчыны мінулага немагчыма ўявіць гісторыю чалавечага грамадства, а тым больш вытлумачыць шляхі яго развіцця. Помнікі памагаюць выявіць заканамернасці грамадскага развіцця, яго рухаючыя сілы, даюць магчымасць глыбей асэнсаваць сучаснае, вызначыць шляхі ў будучыню.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад бачаць у помніках гісторыі і культуры важны сродак ідэалагічнага і мастацкага выхавання працоўных. Яшчэ ў першыя гады Савецкай улады быў прыняты шэраг заканадаўчых актаў Савета Народных Камісараў, падпісаных У. І. Леніным, а таксама адозваў і заклікаў цэнтральных і мясцовых органаў Савецкай улады аб захаванні і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры.

5.10.1918 г. У. І. Ленін падпісаў дэкрэт Саўнаркома РСФСР «Аб рэгістрацыі, узяцці на ўлік і ахове помнікаў мастацтва і старадаўнасці, якімі валодаюць прыватныя асобы, таварыствы і ўстановы». Гэты дэкрэт паклаў пачатак дзяржаўнаму ўліку і сістэматычнаму вывучэнню помнікаў, азнаямленню шырокіх мас насельніцтва з мастацка-гістарычнымі скарбніцамі. У 1918—19 гг. па ініцыятыве У. І. Леніна распрацавана сістэма мерапрыемстваў па збудаванню помнікаў выдатным дзеячам рэвалюцыйнага руху, навукі, літаратуры і мастацтва, па мастацкаму афармленню гарадоў. Гэтыя мерапрыемствы ўвайшлі ў гісторыю як ленінскі план манументальнай прапаганды, які меў на мэце зрабіць мастацтва даступным і карысным народу.

Ленінскія палажэнні аб ахове помнікаў гісторыі і культуры развіты ў заканадаўчых актах Савецкага ўрада і саюзных рэспублік, у т. л. і БССР. 30.1.1919 г. Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад БССР прыняў пастанову «Аб перадачы культурных каштоўнасцей навукі і мастацтва, якія знаходзяцца ў маёнтках і розных установах, Камісарыяту асветы і аб арганізацыі іх уліку, аховы і збірання». 24.12.1923 г. ўрад БССР прыняў пастанову «Аб рэгістрацыі, узяцці на ўлік і ахове помнікаў мастацтва, старадаўнасці, быту і мясцовасцей прыроды, што знаходзяцца ў валоданні ўстаноў і таварыстваў, а таксама прыватных асоб». Пытаннямі аховы культурных каштоўнасцей непасрэдна займаўся Наркамат асветы БССР (пададдзел аховы помнікаў аддзела мастацтва, Навукова-тэрміналагічная камісія Наркамата асветы БССР). Выяўленнем, улікам і вывучэннем помнікаў архітэктуры, мастацтва і археалогіі займаўся таксама Інстытут беларускай культуры, дзе ў 1925 г. была створана спецыяльная камісія па ахове помнікаў старадаўнасці, мастацтва і прыроды.

Яшчэ больш увагі ахове і выкарыстанню помнікаў аддаецца ў пасляваенныя гады. 14.4.1945 г. СНК БССР прыняў пастанову «Аб ахове і аднаўленні гістарычных і архітэктурных помнікаў і ўвекавечанні знамянальных месц і падзей, якія звязаны з вызваленнем Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў». Пасля прыняцця гэтай пастановы, а таксама закона БССР ад 3.7.1945 г. «Аб азнаменаванні перамогі і ўшанаванні памяці воінаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза» ў рэспубліцы пастаўлена шмат помнікаў баявой славы, асабліва ў 1970—80-я гады. Створаны мемарыяльныя комплексы Брэсцкая крэпасць-герой, Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі (на 18-м км шашы Мінск — Масква), Хатынь, на плошчы Перамогі ў Віцебску, «Прарыў» ва Ушацкім р-не Віцебскай вобл., Ману-

 мент у гонар савецкай маці-патрыёткі ў Жодзіне і многія інш.

Паводле прынятага 26.12.1969 г. Вярхоўным Саветам БССР закона «Аб ахове помнікаў культуры», «усе размешчаныя на тэрыторыі Беларускай ССР помнікі культуры, якія маюць гістарычную, навуковую або мастацкую каштоўнасць і з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю, уласнасцю калгасаў, іншых кааператыўных арганізацый, іх аб'яднанняў, уласнасцю грамадскіх арганізацый або асабістай уласнасцю грамадзян, знаходзяцца на ўліку і ахоўваюцца дзяржавай. Клопаты па захаванню помнікаў культуры з'яўляюцца ганаровым, патрыятычным абавязкам усіх грамадзян». У 1978 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў новы закон «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры». Палажэнне аб ахове помнікаў замацавана і ў новай Канстытуцыі БССР: «Захаванне гістарычных помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей — доўг і абавязак грамадзян Беларускай ССР» (арт. 66). Неабходнасць паляпшэння аховы і прапаганды помнікаў гісторыі, культуры і прыроды адзначыў XXVI з'езд КПСС у прынятых ім «Асноўных напрамках эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1981—85 гады і на перыяд да 1990 года». На паляпшэнне аховы помнікаў накіравана і пастанова Савета Міністраў БССР «Аб мерах па паляпшэнню аховы, рэстаўрацыі і выкарыстання помнікаў гісторыі і культуры ў Беларускай ССР», прынятая ў жніўні 1980 г.

Ахова помнікаў з 1967 г. ўскладзена на Міністэрства культуры БССР, а таксама на выканкомы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў. Актыўны ўдзел у ахове помнікаў прымае грамадскасць. Паводле пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 19.6.1965 г. арганізавана Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, якое садзейнічае ажыццяўленню мерапрыемстваў партыі і ўрада па ахове помнікаў і выкарыстанню іх у камуністычным выхаванні працоўных. Яно аб'ядноўвае больш за 1,5 мільёна чалавек.

Гісторыя вельмі жорстка адбілася на помніках Беларусі. Тэрыторыя Беларусі неаднаразова была арэнай ваенных, палітычных і рэлігійных сутыкненняў, у выніку чаго стваральнай дзейнасці чалавека, у т. л. помнікам, наносіліся велізарныя страты. Суровы гістарычны шлях Беларусі адзначаны вялікай колькасцю помнікаў, якія ўвекавечваюць многія значныя падзеі з жыцця не толькі беларускага, але і суседніх народаў.

З мэтай выяўлення, сістэматызацыі і вывучэння помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, іх шырокай папулярызацыі Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР падрыхтаваў «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Артыкулы пра помнікі археалогіі зроблены Аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. У падрыхтоўцы да выдання «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — дапаўненні і ўдакладненні звестак пра помнікі і навуковым рэдагаванні матэрыялаў прымалі ўдзел супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі — частка Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР. Яго выданне — канкрэтнае ажыццяўленне палажэнняў Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР аб ахове гістарычных помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей, закона СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» і адпаведнага закона Беларускай ССР. «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — афіцыйны дакумент, які ўключае помнікі, што ўзяты або павінны быць узяты пад дзяржаўную ахову.

У «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» ўключаны толькі нерухомыя помнікі, у іх ліку:

помнікі археалогіі — рэшткі старажытных пасяленняў, стаянкі, гарадзішчы, селішчы і гарады, старажытныя помнікі вытворча-працоўнай дзейнасці чалавека, могільнікі, надмагільныя і рытуальныя збудаванні;

помнікі гісторыі — помнікі вытворчай (працоўнай) дзейнасці людзей розных гістарычных фармацый, памятныя месцы і помнікі, звязаныя з дзяржаўным будаўніцтвам, з адлюстраваннем класавай барацьбы і барацьбы за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, за незалежнасць, з абаронай сацыялістычнай Айчыны, развіццём культуры, навукі, мастацтва;

помнікі архітэктуры — горадабудаўнічае мастацтва, жыллёвая, грамадзянская і культавая архітэктура, помнікі ваенна-абарончага дойлідства, прамысловай архітэктуры, інжынернага і садова-паркавага мастацтва, архітэктурныя манументы;

помнікі манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — манументальная скульптура, манументальны жывапіс, творы дэкаратыўнага мастацтва.

У выданне ўключаны ўсе ўцалелыя помнікі архітэктуры з часоў старажытнасці да сярэдзіны 19 ст., найбольш характэрныя для 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст., а таксама помнікі архітэктуры савецкага даваеннага перыяду (1917—41 гг.) і лепшыя архітэктурныя збудаванні пасляваеннага часу (1950—80-я гг.), якія адлюстроўваюць дасягненні савецкай архітэктуры ў прамысловым, жыллёвым, грамадскім і сучасным сельскім будаўніцтве. У выданне не ўключаны помнікі гісторыі і культуры, якія не захаваліся, яны толькі разглядаюцца пры агульнай характарыстыцы развіцця культуры вобласці, горада ці пэўнага архітэктурнага комплексу.

Кожнаму помніку прысвечаны артыкул з характарыстыкай яго гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей. Многія артыкулы суправаджаюцца фотаздымкамі, чарцяжамі, схемамі, картамі. Кожны

том мае паказальнікі — храналагічны, імянны, геаграфічны, а таксама пералік абласных і раённых бібліятэк, музеяў і архіваў з кароткім апісаннем фондаў. Кожнай вобласці рэспублікі і сталіцы г. Мінску прысвячаецца асобны том.

Сістэматызацыя помнікаў у кожным томе праведзена паводле тэрытарыяльнага прынцыпу — матэрыял размяшчаецца па раёнах (у алфавітным парадку іх назвы). Як самастойная тэрытарыяльная адзінка вылучаецца абласны горад, звесткі пра які змяшчаюцца ў пачатку тома. Унутры раёнаў першымі разглядаюцца матэрыялы пра адміністрацыйныя цэнтры, а потым — матэрыялы па алфавіце населеных пунктаў. Артыкулы пра помнікі аднаго населенага пункта падаюцца ў алфавітным парадку назваў помнікаў.

Многія помнікі, асабліва архітэктуры, манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, раней не былі ўлічаны і не даследаваліся. Таму пры падрыхтоўцы выдання неабходна было пачынаць з іх выяўлення, абмераў, фатаграфавання, складання навуковых пашпартоў і г. д. Аўтарскі калектыў правёў усебаковае комплекснае даследаванне ўсіх выяўленых помнікаў. Вывучаліся таксама матэрыялы, якія захоўваюцца ў архівах, бібліятэках і музеях рэспублікі, а таксама Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Львова, Падольска, у бібліятэках і архівах ПНР.

Матэрыялы гэтага выдання з'явяцца базай для шырокай папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны, распаўсюджання ведаў аб выдатных падзеях у жыцці і дзейнасці нашага народа.

Рэдакцыйная калегія спадзяецца, што выхад у свет гэтай працы будзе мець важнае значэнне ў развіцці беларускай савецкай культуры, гістарычных і мастацтвазнаўчых навук, адыграе важную ролю ў патрыятычным выхаванні народа, паляпшэнні аховы і прапаганды помнікаў гісторыі і культуры.

* *
*

Помнікі гісторыі і культуры Брэсцкай вобл., якім прысвечаны гэты том, сваім зместам адлюстроўваюць аб'ектыўны ход гісторыі, паступальнае развіццё матэрыяльнай і духоўнай культуры ў гэтым рэгіёне. З'яўляючыся грамадскім асэнсаваннем жыцця, сродкам эмацыянальнай і ідэйнай яго ацэнкі, яны ўвасобілі думкі і пачуцці, пакуты і надзеі народа, яго працавітасць, патрыятызм і дасягненні мастацтва і архітэктуры.

Вялікае месца ў томе займаюць помнікі, якія адлюстроўваюць самаадданую барацьбу працоўнага народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, супраць іншаземных замахаў на нашу Айчыну. Асаблівае месца сярод іх займаюць помнікі, што ўвекавечваюць падзеі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, гераізм і мужнасць савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны, раскрываюць грандыёзную карціну бітваў Савецкай Арміі супраць гітлераўскіх войск, усенароднай барацьбы супраць акупантаў.

Калектыў, які працаваў над матэрыяламі гэтага тома, выказвае глыбокую падзяку партыйным і савецкім органам Брэсцкай вобл., актывістам Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, а таксама прадстаўнікам навуковай грамадскасці рэспублікі за актыўную дапамогу ў падрыхтоўцы да выдання тома.




**УКАЗАМ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР АД 17 ЛІПЕНЯ 1967 г. ЗА АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У ПАРТЫЗАНСКІМ РУХУ, МУЖНАСЦЬ І СТОЙКАСЦЬ, ПРАЯЎЛЕНЫЯ ПРАЦОЎНЫМІ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ Ў БАРАЦЬБЕ З НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ Ў ПЕРЫЯД ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, І ЗА ПОСПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ Ў АДНАЎЛЕННІ І РАЗВІЦЦІ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ, БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ССР УЗНАГАРОДЖАНА ОРДЭНАМ ЛЕНІНА.**

# БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Раёны**

БАРАНАВІЦКІ
БРЭСЦКІ
БЯРОЗАЎСКІ
ГАНЦАВІЦКІ
ДРАГІЧЫНСКІ
ЖАБІНКАЎСКІ
ІВАНАЎСКІ
ІВАЦЭВІЦКІ
КАМЯНЕЦКІ
КОБРЫНСКІ
ЛУНІНЕЦКІ
ЛЯХАВІЦКІ
МАЛАРЫЦКІ
ПІНСКІ
ПРУЖАНСКІ
СТОЛІНСКІ


НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
па колькасці жыхароў
ад 100 000 да 500 000
ад 50 000 да 100 000
ад 10 000 да 50 000
менш за 10 000
па адміністрацыйнаму значэнню
БРЭСТ Цэнтр вобласці
Цэнтры раёнаў
Цэнтры сельскіх Саветаў
па тыпу пасялення
ПІНСК Гарады абласнога падпарадкавання
СТОЛІН Гарады раённага падпарадкавання
Лагішын Пасёлкі гарадскога тыпу
Лінова Сельскія населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
дзяржаўныя
саюзных рэспублік
абласцей
раёнаў
ШЛЯХІ ЗНОСІН
чыгункі
Безрэйкавыя дарогі
агульнадзяржаўнага значэння
іншыя
у Ліду
у Мінск
26°
27°
53°
52°
24°
25°
у Беласток
у Варшаву
у Ковель
у Сарны
у Калінкавічы
у Асіповічы
ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛ.
МІНСКАЯ ВОБЛ.
ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛ.
ВАЛЫНСКАЯ ВОБЛ.
РОВЕНСКАЯ ВОБЛ.
УКРАІНСКАЯ ССР
ПОЛЬШЧА
Парэчча
Дзятлава
Нававельня
Валеўка
Мір
СТОЎБЦЫ
Узда
Вензавец
Дварэц
Цырын
Мікалаеўшчына
Вішнявец
Лоша
Гацук
Казлоўшчына
Пачапава
Карчова
Моўчадзь
Гарадзішча
Вольна
Гарадзея
Паўлава
Перхавічы
Арабаўшчына
Савічы
Сноў
Бабоўня
Камсамольская
Цешаўля
Сталовічы
Крошын
НЯСВІЖ
Лань
Грозаў
Грэк
Мал. Казлоўшчына
Парэчча
Палонка
Нов. Мыш
Падлясейкі
Капыль
СЛОНІМ
БАРАНАВІЧЫ
Навасёлкі
Жарабковічы
Малахоўцы
Фядзькі
ЛЯХАВІЧЫ
КЛЕЦК
Цімкавічы
СЛУЦК
Жыровічы
Міжэвічы
Лясная
Вял. Лукі
Мал. Гарадзішча
Грыцэвічы
Селішча
Падгорная
Уцёс
Сінявка
Семежава
Белічы
Зеляневічы
Мілавіды
Быцень
Востраў
Поразава
Новы Двор
Ружаны
Лыскава
Паўлава
Бусяж
Даманава
Дабрамысль
Крывошын
Куршынавічы
Морач
Чырвоная Слабада
Варанілавічы
Нача
САЛІГОРСК
КОСАВА
Кушняры
Вялька
Любашава
Агарэвічы
Вял. Рожан
Квасевічы
Любішчыцы
ГАНЦАВІЧЫ
Чудзін
Старобін
Роўбіцк
Сухопаль
Стайкі
ІВАЦЭВІЧЫ
Яглевічы
Дзяніскавічы
Харава
Мокрае
Крыніца
Вял. Сяло
Ясельда
Сялец
Козікі
Выганашчы
Хатынічы
Люсіна
Морач
Камянюкі
ПРУЖАНЫ
Смаляны
БЯРОЗА
Жытлін
Святая Воля
Вял. Чучавічы
Каленкавічы
Шарашова
Шані
Першамайская
Сакалова
Цеяханы
Яскавічы
Дзмітравічы
Стар. Пескі
Аброва
Гарталь
Малькавічы
Хорастава
Вярховічы
Навіцкавічы
Лінова
Здзітава
Рэчкі
Бобрык
Нов. Расна
Войская
Шчарчова
Малеч
БЕЛААЗЕРСК
Амяльная
Гарадзечна
Бакуны
Здзітава
Валішча
КАМЯНЕЦ
Рачыца
Высокае
Лышча
Бастынь
ВЫСОКАЕ
Ратайчыцы
Відамля
Міжлессе
Пагост-Загарадскі
Тэўлі
Хомск
Лагішын
Крывляны
Вял. Боркі
Опаль
Моталь
Вольнянка 2-я
Воўчын
Дзяткавічы
Нов. Двор
Дзятлавічы
Ленін
Хмелева
Сяпанкі
Батчы
Астромічы
Імянін
Бездзеж
Псышчава
Табулкі
Лунін
Дварэц
Радзігерава
Лышчыцы
Чарнаўчыцы
Нямержа
Вулька
Дружылавічы
Сошна
Вял. Матыкалы
КОБРЫН
Залессе
Антопаль
Бражэвічы
Мерчыцы
ЛУНІНЕЦ
ЖАБІНКА
Гутава
Дастоева
Ставок
Кажан-Гарадок
Сінкевічы
Мікашэвічы
Клейнікі
Чэрні
Ленінскі
Хідры
Гарадзец
ДРАГІЧЫН
ІВАНАВА
Лясковічы
Ахова
Гарадзішча
Тэльмы 1-я
Галоўчыцы
Папіна
Малоткавічы
ПІНСК
Беразцы
Прыпяць
БРЭСТ
Азяты
Аніскавічы
Закозель
Снітава
Бродніца
Дубай
Рудск
Лемяшэвічы
Лядзец
Вял. Малешава
Мухавец
Радванічы
Навасёлкі
Вял. Чарняны
Агаўцы
Крытышын
Плешчыцы
ДАВЫД-ГАРАДОК
Харомск
Рамель
Лапацін
Беражное
Велямічы
Пашчоўшча
Павіцце
Залядынне
Махро
Хойна
Рухча 1-я
Відзібор
Рубель
Вялікарыта
Дзівін
Адрыжын
Фядоры
Глінка
Белавуша
Лукава
Воса
Радастава
Ласіцк
Гарадная
СТОЛІН
Знаменка
Макраны
Гвозніца
МАЛАРЫТА
Зарэчнае
Рэчыца
Струга
Хаціслаў
Любяшоў
Дамачава
Олтуш
Ратна
Арэхава
Забалаццэ
КАМЕНЬ-КАШЫРСКІ
ДУБРОВІЦА
Тамашоўка
Шацк
Мухавец
Днепра-Бугскі канал
Ясельда
Шчара
Горынь
Стыр
Случ
Буг
оз. Выганаўскае
оз. Чорнае
оз. Спорава
оз. Белае
МАШТАБ
15
0
15
30
45 км

# УВОДЗІНЫ

Брэсцкая вобласць размешчана на паўднёвым захадзе Беларускай ССР паміж рэкамі Заходні Буг і Случ, каля дзяржаўнай граніцы СССР з ПНР. Утворана 4.12.1939 г. У сучасных граніцах з студзеня 1954 г., калі да яе былі далучаны ўсе раёны Пінскай і 4 раёны Баранавіцкай абласцей. Плошча 32,3 тыс. км$^2$. Насельніцтва 1 млн. 391 тыс. чалавек (на 1.1.1983 г.). Цэнтр вобласці г. Брэст. Уключае 16 раёнаў: Баранавіцкі, Брэсцкі, Бярозаўскі, Ганцавіцкі, Драгічынскі, Жабінкаўскі, Іванаўскі, Івацэвіцкі, Камянецкі, Кобрынскі, Лунінецкі, Ляхавіцкі, Маларыцкі, Пінскі, Пружанскі, Столінскі; 20 гарадоў, 7 гарадскіх і 2 рабочыя пасёлкі.

На значнай тэрыторыі паверхня нізінная — на паўднёвым захадзе Брэсцкае Палессе, на ўсходзе Прыпяцкае Палессе, паміж якімі раўніна Пінскае Загароддзе і Дняпроўска-Бугскі водападзел. На захадзе вобласці Прыбугская, на поўначы — Баранавіцкая раўніны і частка Навагрудскага ўзвышша. Галоўная водная артэрыя — р. Прыпяць са шматлікімі прытокамі: Піна, Ясельда, Бобрык, Цна, Лань, Случ (злева), Стыр, Гарынь, Сцвіга (справа) і іншымі. На поўначы цячэ прыток Нёмана Шчара, на захадзе — Буг з прытокамі Мухавец і Лясная. На паўночным захадзе вобласці раскінулася Белавежская пушча — адзін з найстарэйшых лясных запаведнікаў Еўропы.

Багацце археалагічных помнікаў на Брэстчыне дае магчымасць вывучыць гістарычнае мінулае тэрыторыі з часоў з'яўлення тут чалавека. Самыя старажытныя археалагічныя помнікі Брэстчыны — стаянкі першабытнага чалавека эпохі верхняга палеаліту. У сувязі з адступаннем апошняга ледавіка і змякчэннем клімату ў 10—9-м тысячагоддзях да н. э. пачалося засяленне поймаў рэк плямёнамі свідэрскай культуры, якія рухаліся на поўнач па далінах Заходняга Буга, Гарыні, Стыры (Бабровічы Івацэвіцкага р-на, Опаль Іванаўскага р-на).

У эпоху мезаліту (9—5-е тысячагоддзі да н. э.) тэрыторыя вобласці была заселена амаль поўнасцю. З помнікаў гэтага часу, выяўленых на поймавых выдмах і надпоймавых тэрасах, найбольш вядомыя Дабрынёва (Івацэвіцкі р-н), Зарэчча (Бярозаўскі р-н), Опаль. Макралітычныя (масіўныя) крамянёвыя прылады працы (грубаабітыя трапецападобныя і авальныя сякеры, трохгранныя пікі, скрэблы, разцы, цёслы і скоблі) маюць агульныя рысы з прыладамі, знойдзенымі на паселішчах паўночнай Валыні, у басейнах рэк Вісла і Нёман. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, на невялікіх паселішчах будавала жыллё ў выглядзе буданоў з агнішчамі ў сярэдзіне, карысталася лукам і стрэламі. Развіваўся родаплемянны лад, умацоўвалася мацярынская родавая абшчына, фарміраваліся плямёны.

У эпоху неаліту (5-е — канец 3-га тысячагоддзя да н. э.) колькасць паселішчаў значна павялічылася. Як і мезалітычныя, яны размяшчаліся пераважна на пясчаных узгорках забалочаных рачных поймаў і прыазёрных выдмах, асобныя — на першай надпоймавай тэрасе і нават на ўчастках высокай поймы. Большая частка тэрыторыі вобласці была заселена плямёнамі нёманскай культуры (4—3-е тысячагоддзі да н. э.): Добры Бор (Баранавіцкі р-н), Спорава (Бярозаўскі р-н), Бакінічы, Церабень (Пінскі р-н), Дабрынёва, Любішчыцы (Івацэвіцкі р-н), больш за 20 стаянак у ваколіцах вёсак Пагост-Загародскі і Камень (Пінскі р-н). Насельніцтва карысталася пераважна вастрадонным ляпным посудам, упрыгожаным арнаментам з наколак, насечак, пракрэсленых рысак, грабеньчатых адбіткаў, трохвугольнымі наканечнікамі стрэл, каменнымі сякерамі з шліфаваным лязом, серпападобнымі нажамі, разнастайнымі скрабкамі і іншымі прыладамі. Шмат рэчаў, асабліва для апрацоўкі дрэва, рабілі з рогу і косці. Прылады працы звычайна выраблялiся на тэрыторыі паселішчаў, пра што сведчыць выяўленая археолагамі майстэрня на паселішчы каля в. Опаль. Асновай гаспадаркі неалітычных плямён заставалася паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва, аднак пачалі зараджацца прымітыўнае земляробства і жывёлагадоўля.

На мяжы 3-га і 2-га тысячагоддзяў да н. э. пачаўся бронзавы век. Аддаленасць ад старажытных цэнтраў металургіі абумовіла захаванне на тэрыторыі Беларусі каменных прылад працы, але яны былі лепш апрацаваныя. У раннім бронзавым веку тэрыторыю Брэстчыны насялялі плямёны палескай групы культуры шнуравой керамікі (канец 3 — сярэдзіна 2-га тысячагоддзя да н. э.). Іх асноўныя помнікі — Здзітава (Бярозаўскі р-н), Востраў (Пінскі р-н), Велямічы (Столінскі р-н),

Камень, Церабень і інш. Насельніцтва карысталася крамянёвымі чатырохграннымі сякерамі, сярпамі, кінжаламі з трохвугольным лязом і інш., вырабляла посуд з акрэсленай шыйкай, звонападобныя і шарападобныя гаршкі, упрыгожаныя кароткімі і дугападобнымі адбіткамі шнура. Паселішчы размяшчаліся на пясчаных узвышшах па берагах рэк і азёр. У сярэднім бронзавым веку на Палессі жылі плямёны тшцінецкай культуры (15—11 ст. да н. э.). На Брэстчыне вядома больш за 30 помнікаў гэтай культуры, у т. л. Прылукі (Брэсцкі р-н), Бяроза і Горбаў (Бярозаўскі р-н), Востраў. Плямёны выраблялі крамянёвыя сярпы, скрабкі, шліфаваныя і свідраваныя сякеры, матыкі, апрацаваныя з абодвух бакоў тропкавыя і трохвугольныя наканечнікі стрэл і дроцікаў, пазней — бронзавыя кінжалы, шылы, бранзалеты з завіткамі на канцах, шпількі з спіральнай галоўкай, пярсцёнкі. Посуд — высокія цюльпанападобныя гаршкі з вузкім дном, упрыгожаныя ў верхняй частцы жалабковым арнаментам. Пахавальны абрад — трупапалажэнне і трупаспаленне на курганных і бескурганных могільніках. Пашырэнне земляробства і жывёлагадоўлі, паяўленне металічных рэчаў садзейнічалі развіццю абмену. Зараджалася маёмасная няроўнасць. Асноўную ролю ў гаспадарчым і грамадскім жыцці роду і племя паступова пачалі адыгрываць мужчыны — склаўся патрыярхальнародавы лад.

У 7—6 ст. да н. э. на тэрыторыі Беларусі пачаўся жалезны век, які характарызаваўся пашырэннем металургіі жалеза і вырабам з яго рэчаў. Жалеза здабывалася з балотных жалезных руд сырадутнай плаўкай у невялікіх гліняных печахдомніцах. Зробленыя з яго прылады працы і зброя былі значна мацнейшыя за каменныя і бронзавыя, што адыграла вялікую ролю ў развіцці прадукцыйных сіл. Ствараліся ўмовы для атрымання прыбавачнага прадукту і накаплення матэрыяльных каштоўнасцей, у выніку чаго паглыбіўся распад першабытнаабшчынных адносін. Неабходнасць процістаяць ворагам паскорыла фарміраванне племянных саюзаў. З мэтай абароны замест адкрытых паселішчаў будаваліся ўмацаваныя гарадзішчы.

У 7—3 ст. да н. э. большую частку тэрыторыі вобласці насялялі плямёны мілаградскай культуры. Яны жылі ў паўзямлянках і жытлах слупавой канструкцыі на паселішчах і гарадзішчах. Пры раскопках помнікаў знойдзены жалезныя нажы, наканечнікі коп'яў, сярпы, сякеры, шылы, шпількі, бронзавыя ўпрыгожанні (бранзалеты, трапецападобныя і трохвугольныя падвескі, скроневыя кольцы), гліняныя арнаментаваныя грузікі, ляпны круглadонны гладкасценны посуд. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на курганных (Дубай, Бор Дубінецкі Столінскага р-на) і трупаспаленне на бескурганных могільніках.

У 4—2 ст. да н. э. з захаду на паўднёвы ўсход Брэстчыны перасяліліся плямёны паморскай (усходне-паморскай) культуры. Для іх характэрны неўмацаваныя паселішчы з наземнымі жытламі і каменнымі агнішчамі ўсярэдзіне (Агароднікі, Хмялі Камянецкага р-на). Насельніцтва выраблялa жалезныя нажы, сякеры-кельты, іголкі, долаты, бронзавыя сярпы, каменныя зерняцёркі, карысталася ляпным посудам, металічнымі і шклянымі ўпрыгожаннямі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных могільніках (Дружба Брэсцкага р-на, Трасцяніца, Ратайчыцы Камянецкага р-на, каля ст. Драгічын, г. Пінска і інш.). Вядомы 4 віды пахаванняў: абкладзеныя камянямі, падклёшавыя (урна накрыта вялікім гаршком — «клёшам»), урнавыя і ямныя.

У 2 ст. да н. э.—4 ст. н. э. амаль усю тэрыторыю вобласці насялялі плямёны зарубінецкай культуры. Яны займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам, рамёствамі, выраблялі жалезныя прылады працы (сякерыкельты, сярпы, нажы) і зброю (наканечнікі коп'яў, стрэл, дроцікі), упрыгожанні (разнастайныя фібулы, бранзалеты, падвескі, пярсцёнкі, шпількі, шкляныя пацеркі), грубаляпны і глянцаваны посуд, гліняныя прасліцы, каменныя зерняцёркі. Насельніцтва будавала наземныя слупавыя і паўзямлянкавыя жытлы на неўмацаваных паселішчах, побач з якімі звычайна былі бескурганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення (Атвержычы, Велямічы, Рубель Столінскага р-на), трапляюцца могільнікі з пахавальным абрадам трупапалажэння, пахаванні урнавыя і ямныя. Зарубінецкія плямёны мелі сувязі з Паўночным Прычарнамор'ем.

У 2-й палавіне 2 ст.— канцы 4 ст. н. э. на захадзе Палесся пашырыліся помнікі тыпу брэсцкага бескурганнага могільніка з пахавальным абрадам трупаспалення (Вялічкавічы Камянецкага р-на, Дружба Брэсцкага р-на і інш.); пахаванні ямныя і урнавыя. Пры раскопках знойдзены біканічныя гаршкі, міскі, кубкі, гліняныя праслiцы, касцяныя грабяні, металічныя спражкі, шкляныя і бурштынавыя пацеркі, бронзавыя фібулы і інш. Мяркуюць, што помнікі належалі да валынскай групы палёў пахаванняў.

З сярэдзіны 6 ст. тэрыторыю на поўдзень ад Ясельды і Прыпяці насялялі славянскія плямёны пражскай культуры (або культуры тыпу Карчак). Яны займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі, выраблялі жалезныя нажы, сярпы, сашнікі, наканечнікі стрэл, коп'яў, упрыгожанні. Посуд ляпны, без арнаменту, са слаба акрэсленымі плечыкамі і з невысокім адагнутым венчыкам. Насельніцтва жыло на паселішчах і круглых у плане гарадзішчах, умацаваных валамі і равамі, якія ў час небяспекі служылі сховішчамі, будавала невялікія паўзямлянкі і зямлянкі прамавугольнай формы з гліпабітнымі печамі ўсярэдзіне (Хатомель Столінскага р-на). Могільнікі бескурганныя з пахавальным абрадам трупаспалення (Хорск, Хатомель Столінскага р-на).

У 8—10 ст. асноўным насельніцтвам тэрыторыі Брэстчыны былі дрыгавічы. Яны ўпершыню ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых часоў», дзе сказана: «...а друзии седоша межи Припетью и Двиною и нарекошася дреговичи...». Археалагічныя помнікі дрыгавічоў — курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення (Ясянец Ганцавіцкага р-на) і трупапалажэння (Агарэвічы, Дзяніскавічы, Малыя Круговічы Ганцавіцкага р-на). На падставе пісьмовых і археалагічных звестак можна сцвярджаць, што дрыгавічы ў сацыяльна-палітычных адносінах належалі да найбольш развітых груп усходніх славян — яшчэ да ўключэння ў Кіеўскую Русь мелі сваё «княжанне».

На паўднёвым захадзе вобласці жылі валыняне. Іх могільнікі — земляныя насыпы, у якіх выяўлены драўляныя дамавіны (Ратайчыцы Камянецкага р-на).

Невялікую тэрыторыю на поўнач ад Брэста займала балцкае племя яцвягаў. Іх курганы складзены з камянёў або абкладзены вялізнымі валунамі; пахавальны абрад — трупапалажэнне (Войская, Ратайчыцы, Трасцяніца, Гуркі, Свішчова Камянецкага р-на). У пачатку 2-га тысячагоддзя яцвягі ў значнай ступені асіміляваны славянамі.

Пераход ад першабытнаабшчыннага ладу да феадалізму ў плямён, якія засялілі тэрыторыю Беларусі, адбываўся ў 6—9 ст. Пачала развівацца папарная сістэма земляробства, хатнія рамёствы паступова ўтваралі асобную галіну рамеснай вытворчасці — апрацоўку жалеза, каляровых металаў; наладжваліся знешнія сувязі. Узнікненне адасобленай гаспадаркі малой сям'і і развіццё прыватнай уласнасці прывялі да стварэння тэрытарыяльнай сельскай абшчыны, у аснове якой ляжалі эканамічныя сувязі. У 9—10 стагоддзях у межах Старажытнарускай дзяржавы пачалося зліццё роднасных усходне-славянскіх плямён у адзіную старажытнарускую народнасць, што абумоўлівалася агульнымі эканамічнымі сувязямі, этнічнай, тэрытарыяльнай( культурнай і моўнай супольнасцю. Гэтаму спрыяла прыняцце хрысціянства ў 988—989 гг.

У канцы 1-га тысячагоддзя тэрыторыя Брэсцкай вобл. ўвайшла ў Кіеўскую Русь, да сярэдзіны 12 ст. была ў складзе Тураўскага княства, з якога пазней вылучыліся Пінскае, Давыд-Гарадоцкае і інш. княствы. З 2-й палавіны 12 ст. Берасцейская зямля і суседнія тэрыторыі ў складзе Уладзіміра-Валынскага княства. На працягу 11—13 стагоддзяў тут сутыкаліся інтарэсы кіеўскіх, тураўскіх, пінскіх, галіцка-валынскіх князёў з інтарэсамі польскіх феадалаў, якія спрабавалі захапіць Берасцейшчыну.

Аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі садзейнічала ўзнікненню і хуткаму развіццю гарадоў. Старажытнарускія летапісы называюць гарады Брэст (Берестье, 1019 г.), Пінск (Пинеск, 1097 г.), Здзітаў (1252 г.), Камянец (1276 г.), Кобрын (1287 г.). Яны былі цэнтрамі гандлю і рамяства. Паводле археалагічных даследаванняў, у Брэсце і Пінску ў 11—13 стагоддзях былі развіты кавальскае, ганчарнае, ювелірнае, гарбарнае, шавецкае і іншыя рамёствы. Гараджане займаліся таксама сельскай гаспадаркай, паляваннем, рыбалоўствам і бортніцтвам. Гарады былі асяродкам высокаразвітай на той час культуры, пра што сведчаць помнікі пісьменнасці і мастацтва, якія да нас дайшлі. У Пінску знойдзены фрагмент глінянай амфары з надпісам «(я)рополче вино», на Берасцейскім гарадзішчы — самшытавы грэбень з выразаным на ім з 2 бакоў алфавітам (ад А да Л). Гэта своеасаблівы самы старажытны на тэрыторыі Беларусі «буквар». Можна меркаваць, што ў Пінску вялося летапісанне. На той час прыпадае дзейнасць старажытнарускага пісьменніка і царкоўнага дзеяча Кірылы Тураўскага (каля 1130 г.— каля 1182 г.). «Словы» і прытчы яго сведчаць пра высокую культуру красамоўніцкага мастацтва ў Старажытнай Русі.

Рэшткі язычніцтва яшчэ доўга захоўваліся ў духоўным жыцці старажытных славян, пра што сведчаць каменны ідал, знойдзены ў в. Астрамечава (Брэсцкі р-н), і 2 каменныя бабы, выяўленыя каля вёсак Грабаўцы і Залуззе (Жабінкаўскі р-н).

У канцы 13—1-й палавіне 14 ст. Берасцейская зямля ўвайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага. Пастаянная пагроза агрэсіі з боку Тэўтонскага ордэна і сацыяльна-палітычнае становішча ў Вялікім княстве Літоўскім і Польшчы прывялі да заключэння ў 1385 г. паміж апошнімі саюза — Крэўскай уніі. У Грунвальдскай бітве 15.7.1410 г. аб'яднаныя войскі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага разграмілі крыжакоў, гэтым спынілі іх агрэсію на ўсход. У бітве прымалі ўдзел харугвы (палкі) з Брэста і Пінска.

Тэрыторыя Брэстчыны з 1413 г. знаходзілася ў складзе Трокскага ваяводства. Асобныя княствы (Пінскае, Кобрынскае, Давыд-Гарадоцкае) да 15 ст. захоўвалі аўтаномію. У 1520 г. заходняя частка Брэстчыны ўвайшла ў Падляшскае, а паўночна-ўсходняя — у Навагрудскае ваяводствы. У 1566 г. створана Берасцейскае ваяводства. У Брэсце перасякаліся гандлёвыя шляхі, што звязвалі беларускія землі з Украінай, Польшчай і паўднёвай Прыбалтыкай. У 14—16 стагоддзях гарады Брэст і Пінск сталі важнымі адміністрацыйна-эканамічнымі і культурнымі цэнтрамі. Развіваючы гандаль і рамяство, гарады Брэстчыны імкнуліся да незалежнай ад феадалаў сістэмы кіравання і суда. У канцы 14 ст. першым з беларускіх гарадоў атрымала кіраванне на аснове магдэбургскага права Бярэсце (1390 г.), пазней — Камянец (да 1492 г.), Пінск (1581 г.), Пружаны, Кобрын, Гарадзец (усе ў 1589 г.), Дзівін (1642 г.), Лагішын (1643 г.), Мальча (1645 г.) і інш. Некаторыя вёскі сталі мястэчкамі. У ліку значных сярэдневяковых паселенняў Брэстчыны па пісьмовых крыніцах вядомы Шарашова (з 1380 г.), Драгічын (з 1452 г.),



*Гербы гарадоў паводле прывілеяў на магдэбургскае права і пячатак на дакументах 16—18 ст. (злева направа): Пінска, Брэста, Камянца.*

Бяроза (з 1477 г.), Пружаны (Дабучын, з 1487 г.), Лунінец (з 1540 г.), Лагішын (з 1552 г.), Маларыта (з 1566 г.) і інш. Вядучую ролю ў эканамічным і грамадска-палітычным жыцці гарадоў адыгрывалі феадальна-купецкія вярхі, вышэйшае духавенства. Сярод гараджан пераважалі рамеснікі, гандляры, дробныя і сярэднія купцы, земляробы, значную праслойку складалі немаёмныя вольныя гараджане. У гарадах жылі і феадальна-залежныя людзі, якіх феадалы перасялялі на ўласныя землі ў гарадскіх межах (т. зв. юрыдыкі).

У 14—16 стагоддзях фарміравалася беларуская народнасць. Беларуская мова была афіцыйнай у Вялікім княстве Літоўскім. На ёй пісаліся летапісы і хронікі, свецкія і царкоўныя творы, статуты, граматы, сеймавыя пастановы, вялося справаводства і судаводства.

На працягу 16 — пачатку 17 ст. на захадзе Беларусі, у т. л. на Брэстчыне, праводзілася аграрная рэформа, т. зв. валочная памера. Рэформа пачалася ў 1530 — 40-я гады і асабліва пашырылася пасля замацавання яе ў законе 1557 г.— «Уставе на валокі». Вынікам рэформы было пашырэнне фальварковых панскіх гаспадарак, павышэнне іх даходнасці з адначасовым узмацненнем феадальнага прыгнёту сялян. Іх зямельныя надзелы скараціліся, сяляне прымацоўваліся да зямлі, павялічылася паншчына.

Паводле Люблінскай уніі (1569 г.) Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. Беларускія землі асталіся ў складзе Вялікага княства Літоўскага, якое захавала свае вышэйшыя органы ўлады, фінансы, войска, заканадаўства. Аднак з гэтага часу на беларускіх землях актывізаваў свае пазіцыі каталіцызм. На Брэстчыне з'явілася шмат каталіцкіх ордэнаў, якія будавалі свае касцёлы, кляштары, засноўвалі школы і пры іх дапамозе намагаліся акаталічыць мясцовае насельніцтва. На царкоўным саборы ў Брэсце 6.10.1596 г. заключана Брэсцкая унія, паводле якой праваслаўная і каталіцкая цэрквы былі аб'яднаны на ўмовах падпарадкавання праваслаўнай царквы папе рымскаму і прызнання асноўных догматаў каталіцызму, але пры захаванні праваслаўнай абраднасці. Кіруючыя колы Польшчы і каталіцкая царква з дапамогай уніі імкнуліся дамагчыся паланізацыі беларускага і ўкраінскага народаў, разрыву іх гістарычных сувязей з рускім народам, умацавання пазіцый каталіцызму на Беларусі і Украіне, аслаблення антыфеадальнага руху народных мас. Ахвярай нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту сталі шырокія слаі насельніцтва. Гвалтоўнае насаджэнне уніі ўзмацніла імкненне народных мас Беларусі да ўз'яднання з рускім народам. Узмацненне феадальнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту абвастрыла класавыя супярэчнасці. У канцы 16 — 1-й палавіне 17 ст. барацьба сялян, гарадской беднаты супраць магнатаў і шляхты, прымусовага акаталічвання ахапіла ўсю тэрыторыю Беларусі. Вялікую ролю ў гэтай барацьбе адыгрывалі брацтвы, якія ўзнікалі пры праваслаўных манастырах і цэрквах. Яны засноўвалі брацкія школы (у Брэсце, Пінску і інш.), друкарні, імкнуліся захаваць беларускую мову і культуру, умацоўвалі сувязі з Рускай дзяржавай. У брэсцкай брацкай школе ў 1592—95 гг. працаваў выкладчыкам беларускі гуманіст-асветнік Лаўрэнцій Зізаній (Тустаноўскі). Яго брат Стэфан Зізаній (Тустаноўскі) — пісьменнік-палеміст і царкоўны прапаведнік — быў аўтарам і выдаўцом кніг, выступаў з пропаведзямі супраць каталіцкай царквы, езуітаў, уніі, караля. Асноўная рыса яго вучэння, якое мела рэлігійна-містычную форму,— цесная сувязь з нацыянальна-вызваленчай барацьбой народных мас Беларусі і Літвы.

Барацьба супраць феадальнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту з боку шляхецкай Польшчы, за ўз'яднанне з Расіяй перарасла ў вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў у 1648—54 гг. У маі 1648 г. на тэрыторыю Беларусі прыбылі казацкія атрады, пасланыя Б. Хмяльніцкім. Гэта паслужыла штуршком да ўздыму вызваленчай барацьбы беларускага народа. Жорсткія баі ішлі і на тэрыторыі Брэстчыны. Летам 1648 г. сялянскія паўстанні ахапілі Пінскі і Кобрынскі паветы. Шляхта сабрала сваё апалчэнне, якое стала лагерам каля Брэста. У верасні 1648 г., пакараўшы западозраных у падрыхтоўцы паўстання ў Брэсце, шляхецкія харугвы накіраваліся да Кобрына, каб задушыць паўстанне ў павеце, а потым памагчы феадалам Піншчыны. У гэты ж час Б. Хмяльніцкі накіраваў новыя казацкія атрады да Брэста, Пінска, Мазыра. Казацка-сялянскія атрады нанеслі паражэнне шляхецкім войскам каля Брэста, знішчылі буйны атрад на чале з брэсцкім кашталянам К. Тышкевічам, акружылі Кобрын і разграмілі кавалерыйскую харугву стольніка В. Корвін-Гансеўскага, захапілі многа трафеяў. У кастрычніку паўсталі гараджане Пінска. Разам з казакамі пад кіраўніцтвам А. Нябабы жыхары Пінска і сяляне з наваколля перабілі шляхту і каталіцкае духавенства, грамілі іх дамы, касцёлы, кляштары, знішчалі даўгавыя запіскі і кабальныя абавязацельствы. На задушэнне паўстання гетман польны Я. Радзівіл накіраваў войскі з шляхты і

наёмнікаў на чале са стражнікам Мірскім. Атрады Мірскага занялі Хомск, у канцы кастрычніка асадзілі Пінск. Неаднаразова ў 1648 г. і 1649 г. паўставалі жыхары Брэста. Паўстанні ў Пінску і Брэсце былі задушаны, іх удзельнікі жорстка пакараны. Баі паміж войскамі Я. Радзівіла і паўстанцамі ў Брэсцкім ваяводстве працягваліся ў лістападзе — снежні 1648 г. У выніку ваенных дзеянняў былі моцна разбураны Брэст, Пінск, Кобрын і іншыя населеныя пункты Брэстчыны. Ваенныя дзеянні адбываліся на тэрыторыі вобласці і ў час руска-польскай вайны 1654—67 гг., што прычыніла вялікія страты гаспадарцы краю. У Паўночную вайну 1700—21 гг. шведскія войскі разрабавалі і спустошылі ў 1706 г. Брэст, Бярозу, Пінск, многія мястэчкі і вёскі. Усё гэта прывяло да эканамічнага і культурнага заняпаду краю. Толькі ў 2-й палавіне 17 ст. пачалося яго эканамічнае адраджэнне. У 1770-я гады А. Тызенгаўз заснаваў у Брэсце суконную, а ў 1776 г. ва ўрочышчы Рудня каля Маларыты — жалезаробчую мануфактуры. Развіццю прамысловасці і гандлю садзейнічала будаўніцтва дарог і водных шляхоў. У гэты час праз палескія балоты пракладзены 2 тракты — Пінска-Слонімскі і Пінска-Валынскі, пабудаваны Агінскі канал, што злучыў басейны Нёмана і Дняпра (праз Шчару і Ясельду), і ў 1775—1884 гг. Дняпроўска-Бугскі канал.

Развівалася культура беларускага народа. Вялікую ролю ў фарміраванні яе адыграў рост гарадоў. У 16—17 ст. у асяроддзі гараджан узнікла апазіцыя пануючай феадальнай ідэалогіі, паявіліся гуманістычныя плыні. Прадстаўнікі перадавой грамадскай думкі выступалі супраць царкоўных аўтарытэтаў, традыцый, догмаў, крытыкавалі феадальна-прыгонніцкую сістэму, дзяржаўны лад. Вырас інтарэс да чалавека, лёсу радзімы, да культуры. У Брэсце, Пінску і іншых гарадах існавалі бібліятэкі і цэнтры рукапіснага майстэрства. У сярэдзіне 16 ст. ў Брэсце створана друкарня — адна з першых на Беларусі. У 1558 г. ў Брэсце выдадзены першы ва Усходняй Еўропе спеўнік з нотамі — канцыянал, у 1563 г.— брэсцкая «Біблія».

Развіваліся літаратура, мастацтва, дойлідства. У канцы 16 — пачатку 17 ст. напісаны «Дзённік» Ф. Еўлашоўскага (ураджэнец Ляхавіч) — твор свецкай мемуарнай літаратуры, які адлюстраваў жыццё і побыт прадстаўнікоў розных саслоўяў і перш-наперш дробнай шляхты. Значны след у жанры палемічнай літаратуры пакінула творчасць Л. Карповіча (ураджэнец Пінскага павета), які выступаў супраць Брэсцкай царкоўнай уніі. Прадстаўнік дэмакратычнага крыла ў палемічнай літаратуры А. Філіповіч змагаўся супраць уніі і каталіцызму, быў прыхільнікам уз'яднання Беларусі з Расіяй. З Брэстчынай звязана жыццё і творчасць выдатнага беларускага мысліцеля-атэіста К. Лышчынскага. У 1680-я гады ён напісаў трактат «Аб неіснаванні бога». За адмаўленне існавання бога каталіцкая царква пакарала Лышчынскага смерцю. Асветнік, публіцыст і палітычны дзеяч 2-й палавіны 18 ст. М. Карповіч (ураджэнец Камянца) адзін з першых на Беларусі выступіў з крытыкай прыгонніцтва, невуцтва і марнатраўства магнатаў.



*Аблога Брэста шведамі ў 1657 г. З гравюры 18 ст.*

Брэстчына дала такіх класікаў польскай літаратуры эпохі Асветніцтва, як Ю. Нямцэвіч, А. Нарушэвіч. Тут нарадзіліся польскі паэт А. Міцкевіч і палітычны і ваенны дзеяч, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Т. Касцюшка. З Брэстчынай звязаны жыццё і творчасць польскага пісьменніка Ф. Карпінскага.

У развіцці беларускай культуры 2-й палавіны 18 ст. значнай з'явай была дзейнасць прыгонных (прыдворных) тэатраў і школьных тэатраў пры духоўных навучальных установах. Такія тэатры дзейнічалі пры двары князёў Сапегаў у Ружанах, пры манастырскіх калегіях у Брэсце і Пінску.

Вялікі ўплыў на эканамічнае, сацыяльна-палітычнае і культурнае развіццё Беларусі мела ўз'яднанне з Расіяй. Яно вызваліла беларускі народ ад прымусовага акаталічвання, стварыла ўмовы для гаспадарчай спецыялізацыі, спрыяла аб'яднанню рэвалюцыйных сіл рускага, украінскага, беларускага і іншых народаў Расіі ў барацьбе супраць царызму, памешчыкаў і капіталістаў. Тэрыторыя Брэсцкай вобл. ўз'яднана з Расіяй паводле 2-га (1793 г.) і 3-га (1795 г.) падзелаў Рэчы Паспалітай. Яна ўваходзіла ў склад Мінскай (з 1793 г.), Слонімскай (з 1795 г.), Літоўскай (з 1797 г.), Гродзенскай (з 1801 г.) губерняў.

Нашэсце арміі Напалеона на Расію ў 1812 г. сустрэла ўпартае супраціўленне на тэрыторыі Брэстчыны. 3-я руская армія пад камандаваннем генерала А. П. Тармасава вяла баі супраць саксонскага корпуса Ж. Рэнье і аўстрыйскага корпуса К. Шварцэнберга. 15 ліпеня каля Кобрына авангард 3-й рускай арміі ў жорсткім баі акружыў і прымусіў капітуляваць 4-тысячны атрад генерала Клінгеля з корпуса Ж. Рэнье. У Кобрынскім баі рускія войскі атрымалі першую значную перамогу ў Айчыннай вайне 1812 г. 25 ліпеня перадавыя часці 3-й рускай арміі нанеслі паражэнне кавалерыйскім часцям напалеонаўскай арміі пад Брэстам. 31 ліпеня каля вёсак Паддубна, Гарадзечна і Стрыгава Кобрынскага пав. адбылася Гарадзечанская бітва, у выніку якой рускія войскі паспяхова адбілі атакі карпусоў Ж. Рэнье і Шварцэнберга і адышлі за р. Стыр. Шварцэнберг быў вымушаны адмовіцца ў жніўні — верасні 1812 г. ад актыўных баёў супраць арміі А. П. Тармасава. Ваенныя дзеянні на тэрыторыі Брэстчыны вяліся ў кастрычніку — лістападзе 1812 г. ў час уцёку напалеонаўскай арміі з Расіі.

1-я палавіна 19 ст. ў Расіі характарызавалася распадам феадальна-прыгонніцкага ладу і развіццём капіталістычных адносін. У гэты час Гродзенская губерня, у склад якой уваходзіла і тэрыторыя Брэстчыны, па развіццю прамысловасці была на першым месцы ў Беларусі. У сярэдзіне 19 ст. дзейнічалі некалькі мануфактур у Пінску, суконныя мануфактуры ў Бярозе-Картузскай, Ружанах, Шарашове, Парэччы, Лапаціне Пінскага пав. і інш. На суконных прадпрыемствах Пуслоўскага ў Косаве і Хомску ўпершыню на Беларусі пастаўлены паравыя машыны.



*Дом Верашчакаў у маёнтку Туганавічы (цяпер в. Карчова Баранавіцкага р-на), у якім бываў А. Міцкевіч. Гравюра 19 ст.*

У сельскай гаспадарцы расла таварнасць памешчыцкіх гаспадарак на аснове ўзмацнення паншчыны, пашырэння панскіх ворных зямель за кошт скарачэння сялянскіх зямель, лугоў і пашы. Беззямелле і малазямелле сялян, а таксама частыя неўраджаі ў канцы 18 — 1-й палавіне 19 ст. абумовілі заняпад сялянскіх гаспадарак і рэзкае збядненне сялян. Памешчыцкія гаспадаркі не мелі асновы для далейшага развіцця прадукцыйных сіл. Пачаўся крызіс феадальна-прыгонніцкай сістэмы. Апошнія дзесяцігоддзі напярэдадні рэформы 1861 г. характарызаваліся вострай барацьбой сялянскіх мас супраць памешчыкаў. У 1819—20 гг. у хваляваннях удзельнічалі некалькі тысяч сялян Брэсцкага, Кобрынскага і Пружанскага паветаў.



*Замак Пуслоўскага і сядзіба Т. Касцюшкі ў г. Косава Івацэвіцкага р-на. 19 ст. Малюнак з натуры Н. Орды.*

Летам 1820 г. яны пашырыліся амаль на ўвесь Брэсцкі пав., у сувязі з гэтым улады прыслалі сюды салдат і пад канвоем ганялі прыгонных на паншчыну. Увосень 1846 г. хваляванні ўзмацніліся, асабліва ў Кобрынскім павеце.

У 1830—40-я гады ў грамадскай думцы Беларусі вылучаецца рэвалюцыйна-дэмакратычны кірунак. Адзін з выдатных яго прадстаўнікоў — ураджэнец в. Вяляцічы Пінскага пав. беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, паэт і публіцыст Ф. А. Савіч. Ён быў перакананым рэспубліканцам, прыхільнікам узброенага паўстання сялян, галоўнай мэтай якога лічыў знішчэнне паншчыны, сацыяльнае вызваленне народа. За сваю дзейнасць Савіч быў зняволены, потым здадзены ў салдаты. Трагічным быў і лёс беларускага сялянскага паэта П. Багрыма, ураджэнца в. Крошын Баранавіцкага р-на. За антыпрыгонніцкія вершы ён быў таксама здадзены на 25 гадоў у салдаты.

На Пружаншчыне жыў польскі пісьменнік, гісторык, мастак, грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку Ю. Крашэўскі, які вывучаў жыццё і звычаі жыхароў Палесся і апісаў іх у шэрагу нарысаў. У Людвінове па Палессі з 1858 г. да 1864 г. жыла польская пісьменніца-дэмакратка Э. Ажэшка. У сваіх творах яна апісала цяжкае жыццё беларускага сялянства, раскрыла лепшыя рысы нацыянальнага характару і духоўнае багацце беларускага народа.

Рэвалюцыйная сітуацыя 1859 — 61 гг. у Расіі дала штуршок да ўзброенага нацыянальна-вызваленчага паўстання на тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны. Паўстанне 1863—64 гг. па сваёй праграме і рухаючых сілах мела характар буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Асаблівая заслуга ў падрыхтоўцы і ў кіраўніцтве паўстаннем на Беларусі і ў Літве належыць беларускаму рэвалюцыйнаму дэмакрату К. Каліноўскаму, які трымаў курс на аграрную рэвалюцыю, вёў агітацыйную работу сярод сялян. З сярэдзіны 1862 г. К. Каліноўскі разам з В. Урублеўскім і Ф. Ражанскім выдавалі «Мужыцкую праўду» — першую на беларускай мове нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную газету, якая распаўсюджвалася амаль па ўсёй Беларусі. Тэрыторыя Брэстчыны была арэнай шматлікіх баёў паміж паўстанцкімі атрадамі і царскімі войскамі. Найбольшыя з іх адбыліся ў Пружанах, пад Мілавідамі (Баранавіцкі р-н), Адрыжынам (Іванаўскі р-н), пад Столінам. Тут дзейнічалі мясцовыя і іншыя паўстанцкія атрады. Сярод іх — Брэсцкі атрад Я. В. Ваньковіча, які разам з Кобрынскім атрадам Р. Л. Траўгута зрабіў рэйд на Піншчыну і Валынь. Праз Брэстчыну прайшоў рэйдам з Польшчы атрад Р. Рагінскага, які 13.2.1863 г. захапіў Пружаны. Атрады В. А. Урублеўскага доўгі час дзейнічалі ў Белавежскай, Пружанскай і Ружанскай пушчах, адзін з іх — конны атрад К. Кабылінскага — захапіў 2.6.1863 г. Ружаны і раззброіў там салдат. Пры ажыццяўленні рэформы 1861 г. царскі ўрад мусіў пайсці на некаторыя ўступкі ў губернях, ахопленых паўстаннем, каб адцягнуць ад удзелу ў ім шырокія колы сялян.

Адмена прыгоннага права паскорыла развіццё капіталізму. Да канца 19 ст. былі пабудаваны чыгункі, якія звязалі Брэстчыну з цэнтральнымі раёнамі Расіі, Прыбалтыкай, Украінай, Польшчай. Павялічылася колькасць прадпрыемстваў, што працавалі на прывазной сыравіне. На тэрыторыі Брэстчыны развівалася лесапільная, вінакурная, запалкавая, фанерная, тэкстыльная вытворчасць. У Пінску, напрыклад, у 1890-я гады створаны чыгуначныя майстэрні (600 рабочых), запалкавая фабрыка «Прагрэс-Вулкан» (590 рабочых), суднаверф, тытунёвая фабрыка і інш. У 1873 г. на цагельным заводзе ў Брэст-Літоўскай крэпасці адбыліся выступленні рабочых, выкліканыя невыноснымі ўмовамі жыцця і жорсткай эксплуатацыяй, у 1882 г. баставалі сталяры вагонных майстэрняў Брэст-Літоўска. Масавымі стачкамі ў чыгуначных майстэрнях Пінска ў 1893 г. (у 3 стачках удзельнічала 1700 чалавек) кіравалі перадавыя рабочыя, якія выпрацоўвалі патрабаванні і вялі перагаворы з адміністрацыяй. За 1890—95 гг. у Пінску адбылося 10 стачак, за 1894—1900 гг. у Брэсце — 5 стачак. У 1890-я гады пад уплывам Пецярбургскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа» на Беларусі ўзніклі сацыял-дэмакратычныя гурткі (у Брэсце — тайнае таварыства рабочых і рамеснікаў), распаўсюджваліся лістоўкі і пракламацыі. Сярод найбуйнейшых стачак пачатку 20 ст. былі: у 1901 г. стачка рабочых фанернай фабрыкі ў Пінску (удзельнічала 300 чалавек), у 1902 г.— рабочых запалкавай фабрыкі ў Пінску (665 чалавек) і рабочых прамысловых прадпрыемстваў у маёнтку Альбрэхтава Пінскага пав., у 1903 г.— у Ружанах і Картуз-Бярозе. У 1904 г. антыўрадавыя выступленні мелі месца ў Пінску і Лунінцы.

Працоўныя Брэстчыны прынялі актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. У гады рэвалюцыі ў Брэсце і Пінску дзейнічалі арганізацыі РСДРП, а ў Брэсце — і ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП. Пад кіраўніцтвам бальшавікоў у Брэсце, Пінску, Баранавічах, Лунінцы і ў іншых населеных пунктах адбыліся рэвалюцыйныя выступленні рабочых. Працоўныя актыўна падтрымалі Снежаньскае ўзброенае паўстанне ў Маскве. У многіх вёсках Пінскага, Кобрынскага, Пружанскага і іншых паветаў сяляне захоплівалі панскія землі, сенажаці, самавольна секлі лес. У панскіх маёнтках адбываліся шматлікія забастоўкі батракоў і падзёншчыкаў. Баранавіцкае ўзброенае выступленне рабочых-чыгуначнікаў падтрымалі салдаты мясцовай чыгуначнай брыгады. Двойчы ў 1905 г. і 1906 г. паўставалі салдаты Брэсцкай крэпасці, адбыліся хваляванні салдат у Пінскім гарнізоне.

Пад уплывам рэвалюцыйнай барацьбы працоўных рос і шырыўся нацыянальна-вызваленчы рух рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку. Сярод яго ідэйных выразнікаў былі беларускія пісьменнікі

Я. Купала і Я. Колас. У гарадах, мястэчках і нават у асобных вёсках ствараліся культурна-асветніцкія гурткі, бібліятэкі, клубы, кнігарні. У в. Астрамечава Брэсцкага пав. ў 1905 г. на сродкі прагрэсіўнага рускага кнігавыдаўца Ф. Ф. Паўленкава была адкрыта бясплатная народная бібліятэка — адна з першых на Беларусі. У яе стварэнні прымалі ўдзел М. Горкі і Я. Купала.

З наступленнем рэакцыі ў сувязі з масавымі арыштамі ў 1907 г. спынілі дзейнасць Брэсцкая і Пінская арганізацыі РСДРП. Новы ўздым рэвалюцыйнага руху пачаўся з 1910 г.

У 1-ю сусветную вайну на тэрыторыі Брэстчыны ў 1915 г. пачаліся ваенныя дзеянні. Тысячы жыхароў вымушаны былі пакінуць родныя мясціны і эвакуіравацца на ўсход. Да кастрычніка 1915 г. лінія фронту стабілізавалася і праходзіла на ўсход ад Пінска і Баранавіч. У чэрвені 1916 г. каля Баранавіч войскі Заходняга фронту, каб падтрымаць наступленне на Паўднёва-Заходнім фронце, правялі Скробава-Гарадзішчанскую наступальную аперацыю, але беспаспяхова.

* *
*

Мастацкая культура Брэстчыны знайшла сваё яркае адлюстраванне ў самабытных помніках драўлянага і мураванага дойлідства, манументальнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Спецыфіка краю, багатага лясамі, абумовіла фарміраванне і развіццё пераважна драўлянага дойлідства. Дрэва на працягу стагоддзяў было асноўным матэрыялам, з якога будаваліся сялянскія сядзібы, храмы, палацы, абарончыя ўмацаванні. Сярод помнікаў драўлянага дойлідства, якія дайшлі да нашага часу, найбольш пашыраны культавыя пабудовы. У іх яскрава адлюстраваны багаты будаўнічы і творчы вопыт народных майстроў. Будаўнікамі іх былі народныя дойліды, выхадцы з сялян і гарадскіх рамеснікаў, якія з пакалення ў пакаленне перадавалі сваё майстэрства. У аснове фарміравання гарадоў 11—13 стагоддзяў ляжалі прынцыпы старажытнарускага горадабудаўніцтва. Звычайна гарады развіваліся вакол умацаванага дзядзінца, які размяшчаўся часцей за ўсё ў сутоку 2 рэк. Дзядзінец і гандлёвую плошчу горада акружаў гандлёва-рамесніцкі пасад. Буйныя гарады, апрача замкавых умацаванняў, мелі ўмацаваныя пасады (Брэст, Камянец, Пінск і інш.). Абарончаму будаўніцтву было ўласціва спалучэнне мураванай вежы (данжона) і драўляных умацаванняў (Камянец, Брэст). Большасць гарадоў у сярэднія вякі набыла радыяльна-веерную ці радыяльна-кальцавую планіроўку (Пінск, Кобрын, Давыд-Гарадок і інш.). Культавыя збудаванні размяшчаліся ў цэнтры гарадоў ці на важнейшых магістралях. Мастацтва гэтага часу развівалася ў рэчышчы старажытнарускай культуры, пра што сведчаць уцалелыя помнікі — выява «Купяціцкай маці боскай»,



*Мітынг рабочых і салдат у Лунінцы ў дні Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.*

(1182 г.) на роўнаканцовым металічным крыжы і каменныя абразкі 12 ст., знойдзеныя пры раскопках у Пінску. Першыя мураваныя храмы на тэрыторыі вобласці вядомы з канца 12 ст. (у Пінску). У 2-й палавіне 13 ст. пабудаваны абарончая вежа (данжон) у Камянцы, мураваная вежа і Мікалаеўская царква ў Брэсце. У Кобрыне з канца 15 ст. вядомы мураваны Спаскі манастыр.

У 13—16 стагоддзях у беларускай архітэктуры быў пашыраны стыль готыкі, які меў тут своеасаблівую трактоўку. Ён унёс змены ў тэхніку будаўніцтва мясцовых храмаў: шырока сталі выкарыстоўвацца прагрэсіўныя ў той час рабрыстыя нервюрныя скляпенні. Найважнейшыя рысы готыкі перш за ўсё выявіліся ў своеасаблівай каркаснай канструкцыйнай сістэме, у якой нагрузкі ад перакрыцця перадаваліся з дапамогай нервюр на асобныя вузлавыя часткі сцен, умацаваныя контрфорсамі, і слупы. Гэта дазваляла палегчыць канструкцыю сцен і перакрыцця, значна павялічыць пралёты. Склалася цікавая трактоўка архітэктурнага вобраза гатычнага збудавання. Фасады аздаблялі дэкаратыўнымі нішамі і аркатурай, паглыбленыя плоскасці якіх атынкоўвалі вапнай. Гэта кантраставала з выступамі неатынкаваных сцен, ствараючы двухколерную бела-чырвоную гаму. Нервюр-



*Камянецкая вежа ў сучаснай забудове горада.*

2 Зак. 2447



*Сядзіба ў в. Моладава Іванаўскага р-на. 19 ст. Малюнак з натуры Н. Орды.*

ныя скляпенні ў інтэр'еры ў 15—16 стагоддзях набылі складаны малюнак, які нагадваў шматканцовую зорку. Своеасаблівасць беларускай готыкі — скульптурнасць форм пабудовы (касцёл у в. Ішкалдзь Баранавіцкага р-на). У 16 ст. на тэрыторыі вобласці паявіліся пабудовы з элементамі рэнесансу ў аздобе інтэр'ераў і фасадаў. У некаторых будынках элементы готыкі спалучаліся з асобнымі элементамі рэнесансу (царква ў в. Шумакі, касцёл у в. Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на).

У 15—16 стагоддзях даволі хутка раслі існаваўшыя, узніклі новыя гарады і мястэчкі, многія з іх належалі буйным феадалам (Ружаны, Пружаны) або манастырам (Бяроза). Планіроўка мястэчак і многіх гарадоў была пераважна лінейная, яны развіваліся ўздоўж гандлёвых трактаў. Так, на буйным гандлёвым тракце Брэст — Пінск узніклі Антопаль, Іванава, Драгічын. Цэнтральнае месца ў гарадах і мястэчках займала гандлёвая плошча з крамамі. Пашыралася мураванае будаўніцтва, у якім выкарыстоўваліся буйнапамерная цэгла і валуны. Значнае месца займала абарончае і культавае будаўніцтва.

Станаўленне мастацтва беларускага народа ў 13—16 стагоддзях адбывалася пры інтэнсіўным развіцці рамяства, звязанага з ростам гарадоў, пашырэннем эканамічных і культурных сувязей з суседнімі народамі. Буйным мастацкім цэнтрам у 14—16 стагоддзях стаў Пінск. Пісьмовыя крыніцы захавалі імёны беларускіх рамеснікаў: разьбяра Ананія, жывапісца Навошы (Нявона), які, як мяркуюць, у 1-й палавіне 16 ст. прымаў удзел у аздабленні замкавага палаца князя Фёдара Яраславіча ў Пінску. У пачатку 17 ст. ў горадзе існаваў цэх ювеліраў. Вядомым майстрам залатых спраў быў Я. Пархвяновіч. У 1-й палавіне 16 ст. ў Брэсце дзейнічалі цэхі па вырабу мастацкіх тканін, рэчаў для літургіі, аздобленай дэкорам зброі і інш. Сярод майстроў брэсцкага і пінскага цэхаў ювеліраў у 16—17 стагоддзях вядомы залатых спраў майстры С. Радванскі, Пятроўскі, Дамінік, Баркоўскі, М. Гранастайскі, С. Гутроўскі, С. Сапальскі, Я. Дрызнер і інш.

У развіцці мастацтва Брэстчыны 14—16 стагоддзяў сінтэзаваліся традыцыі старажытнарускага і заходнееўрапейскага мастацтва. Найбольш поўна прасочваецца сувязь са старажытнарускім і візантыйскім мастацтвам у абразах «Маці боская Замілаванне» з Мікалаеўскай царквы ў Маларыце (14—15 стагоддзі), «Маці боская Іерусалімская» з Варварынскай царквы ў Пінску (16 ст.), «Адзігітрыя» з царквы ў в. Дубенец (Столінскі р-н, 16 ст.). Значную цікавасць мае абраз «Раство Марыі» (канец 16 — пачатак 17 ст.) з в. Ляхаўцы (Маларыцкі р-н), напісаны ў стылі Адраджэння. Высокага ўзроўню развіцця дасягнула скульптура, у якой выявіліся мясцовыя мастацкія рысы і ўплыў раманскай і гатычнай пластыкі. Скульптурныя творы выконваліся пераважна з дрэва, радзей з каменю і металу і прызначаліся для афармлення палацаў і культавых збудаванняў (касцёлы, прыдарожныя капліцы, уніяцкія цэрквы). Найбольш ранція ўцалелыя помнікі — драўляныя паліхромныя фігуры святых у Мікітаўскай царкве ў в. Здзітава Жабінкаўскага р-на, выкананыя ў стылі готыкі. Гатычнай скульптурай быў аздоблены інтэр'ер Троіцкага касцёла ў в. Ішкалдзь Баранавіцкага р-на.

Асноўным мастацкім кірункам у архітэктуры 17—18 стагоддзяў на Брэстчыне было барока. Стыль барока найбольш пашырыўся ў мураваным будаўніцтве сядзібных ансамбляў і храмаў. Для сядзібна-паркавых ансамбляў характэрны ў той перыяд восевыя рэгулярныя і пейзажныя кампазіцыі з курданёрамі, алеямі, баскетамі, лабірынтамі і г. д. (в. Скокі Брэсцкага і в. Дубай Пінскага р-наў). У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі інтэр'ера палацаў шырока выкарыстоўваліся прыёмы вылучэння цэнтральнай параднай групы залаў і анфіладнай узаемасувязі жылых памяшканняў (палац у Пінску). Храмы перыяду ранняга беларускага барока звычайна былі аднанефавыя, з вежай на галоўным фасадзе. Маляўнічы сілуэт збудавання спалучаўся са строгімі формамі абарончай архітэктуры. Аздабленню фасадаў уласцівы стрыманасць дэкору і спрошчанасць ордэрных дэталей (Пакроўская і Петрапаўлаўская цэрквы ў в. Бухавічы Кобрынскага р-на і г. п. Ружаны). Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя і сілуэт збудавання паступова ўскладняліся, пластычнае вырашэнне набывала большую выразнасць і рэльефнасць. У гэты перыяд будаваліся і аднанефавыя і трохнефавыя базілікальныя храмы, якія мелі двухвежавы, аднавежавы і бязвежавы галоўныя фасады. Аднавежавае вырашэнне галоўнага фасада характэрна для аднанефавых храмаў (Троіцкі касцёл у в. Лыскава Пружанскага р-на, касцёл Карла Барамея ў Пінску), двухвежавыя фасады — для трохнефавых базілік (касцёл Іаана Хрысціцеля ў в. Сталовічы і Троіцкая царква ў в. Вольна Баранавіцкага р-на, францысканскі касцёл у Пінску). Бязвежавыя храмы мелі франтоннае завяршэнне галоўнага фасада (Варварынская і Крыжаўзвіжанская цэрквы

ў Пінску і в. Вістычы Брэсцкага р-на). Некалькі адыходзіць ад традыцыйнай мясцовай архітэктуры храм у в. Воўчын Камянецкага р-на, які мае цэнтрычную васьмігранную кампазіцыю, вырашаную пад уплывам італьянскага барока.

У 14—18 стагоддзях на тэрыторыі вобласці было пашырана будаўніцтва манастыроў. Вядомы праваслаўныя манастыры: драўляныя Ляшчынскі пад Пінскам, у в. Купяцічы Пінскага, в. Дзятлавічы Лунінецкага р-наў, мураваны Спаскі ў Кобрыне і інш. З канца 14 ст. кляштары пачалі будаваць каталіцкія ордэны. Найбольшы размах будаўніцтва кляштараў і калегіумаў набыло ў 17—18 стагоддзях (кляштар картэзіянцаў у г. Бяроза, езуіцкі калегіум у г. Пінск і інш.). На тэрыторыі вобласці ў 18 ст. працавалі такія вядомыя архітэктары, як Я. Бекер, І. Глаўбіц, І. Фантана (г. п. Ружаны Пружанскага, в. Сталовічы Баранавіцкага р-наў).

Масавым тыпам народнага жылля была двухкамерная хата з жылым памяшканнем і сенцамі. Найбольш старажытны тып сялянскага двара — вянковы, у якім жылыя і гаспадарчыя пабудовы стваралі замкнёную кампазіцыю. З 16 ст. ў выніку правядзення валочнай памеры пашырыліся пагонныя двары, дзе ўсе пабудовы былі выцягнуты ў адну лінію. Характэрнымі комплексамі таго часу былі феадальныя сядзібы. Яны ўключалі двор з жылым панскім домам, гумнішча і сад. У дробных сядзібах да пачатку 20 ст. захоўваўся традыцыйны тып трохкамернага жылля (хата+сенцы+камора; хата+сенцы+хата). Багатыя рэзідэнцыі магнатаў і шляхты набылі складаную планіроўку, завяршаліся ламанымі дахамі, часам фланкіраваліся алькежамі. Галоўныя ўваходы падкрэслівалі слупавыя ганкі. Блізкія выглядам да заможных магнацкіх сядзіб многія драўляныя замкі і палацы. З дрэва ставіліся і буйныя грамадскія будынкі — ратушы і гандлёвыя рады. Яны звычайна складалі адзіны ансамбль. Найбольш характэрнымі тыпамі гандлёвых радоў можна лічыць замкнёныя, што арганізоўвалі прастору гандлёвай плошчы (Давыд-Гарадок), і рады з 2 паралельных карпусоў, якія ўтваралі гандлёвую вуліцу (Пінск).

Драўляныя культавыя помнікі па кампазіцыйных адзнаках можна падзяліць на 3 асноўныя групы: храмы падоўжна-восевай кампазіцыі без вярхоў, ярусныя глыбінна-прасторавай кампазіцыі, крыжовыя. Для першай групы характэрна сувязь з народным жыллёвым будаўніцтвам. На Брэстчыне былі пашыраны аднazрубныя храмы (Ільінская царква ў в. Бялавічы Івацэвіцкага, Петрапаўлаўская царква ў в. Шарашова Пружанскага і царква Раства Багародзіцы ў в. Рухча 1-я Столінскага р-наў), двухзрубныя з вылучаным алтарным зрубам (царква Раства Багародзіцы ў в. Вавулічы Драгічынскага і Міхайлаўская царква ў в. Рамель Столінскага р-наў) і трохзрубныя з дадаткова вылучаным зрубам бабінца (Мікітаўская царква ў в. Здзітава Жабінкаўскага р-на) збудаванні. У храмах яруснай глыбінна-прасторавай кампазі-



*Пінск. Езуіцкі касцёл. 17 ст. (не збярогся).*

цыі зрубы завяршаліся чацверыковымі вярхамі, якія ў 18 ст. пад уплывам стылю барока ўскладніліся, сталі васьміграннымі. Найбольш былі пашыраны трохзрубныя храмы з цэнтральным верхам (Георгіеўская царква ў в. Сінкевічы Лунінецкага р-на). Найвышэйшае дасягненне ў развіцці ярусных трохзрубных кампазіцый — пабудовы з 3 вярхамі (Міхайлаўская царква ў в. Рубель Столінскага р-на). Пад уплывам мураваных храмаў стылю



*Пінск. Гандлёвыя рады 19 ст. (не збераглiся).*

барока ў 18 ст. ўзніклі двухзрубныя пабудовы з 2 вежамі на галоўным фасадзе (Георгіеўская царква ў в. Валавель і Троіцкая царква ў в. Бездзеж Драгічынскага р-на, царква Параскевы Пятніцы ў в. Дзівін Кобрынскага і Спаса-Праабражэнская царква ў в. Хаціслаў Маларыцкага р-наў), а таксама трохнефавыя базілікі (цэрквы Параскевы Пятніцы і Мікалая ў в. Опаль Іванаўскага і в. Спяпанкі Жабінкаўскага р-наў). Цікавымі помнікамі з'яўляюцца драўляныя званіцы. Прасцейшыя з іх — слупавыя канструкцыі пад двухці чатырохсхільнымі дахамі (в. Стрыгінь Бярозаўскага і в. Ражкоўка Камянецкага р-наў). Трапляюцца ашаляваныя знадворку каркасныя пабудовы з адкрытай галасніковай часткай (в. Хмелева Жабінкаўскага р-на). У выніку злучэння зрубнай каркаснай частак узніклі двух'ярусныя зрубна-каркасныя званіцы (в. Сінкевічы Лунінецкага і в. Шарашова Пружанскага р-наў). Своеасаблівыя формы мае трох'ярусная званіца ў в. Чэрск Брэсцкага р-на.

Важная роля ва ўбранстве інтэр'ераў палацаў і храмаў належала скульптуры (статуі, рэльефы), якой аздабляліся алтары, амбоны, дарахавальніцы, спавядальні. Характар скульптуры гэтага часу ў многім вызначаўся архітэктурай. Скульптуры ўключаліся ў ансамбль інтэр'ера або ставіліся ў спецыяльных нішах на фасадах будынкаў. Прыклад гарманічнага спалучэння манументальна-дэкаратыўнай скульптуры з архітэктурай — афармленне інтэр'ера францысканскага касцёла ў Пінску, у якім размешчана каля 100 скульптурных выяў. Багата дэкарыраваны разной драўлянай скульптурай алтары і амбоны Праабражэнскага касцёла ў в. Новая Мыш і Троіцкай царквы ў в. Вольна (усе Баранавіцкага р-на). Сярод помнікаў манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — шмат'ярусныя разныя іканастасы Васкрасенскай і Юр'еўскай цэркваў у в. Альгомель і г. Давыд-Гарадок Столінскага р-на, разныя царскія вароты Спаса-Праабражэнскай царквы ў в. Шумакі Брэсцкага р-на.

Тагачасны манументальны жывапіс падзяляўся на роспіс храмаў, у які ўсё часцей пранікалі свецкія матывы і рэалістычнае светаадчуванне, і манументальна-дэкаратыўны роспіс палацаў, які меў свецкі змест і ў якім антычныя міфалагічныя сюжэты, алегарычныя вобразы спалучаліся з арнаментальнымі кампазіцыямі. Фрэскавыя роспісы выконвалі пераважна майстры жывапіснага цэха г. Брэста. Вядомы імёны жывапісцаў О. Лукшы, які працаваў на Піншчыне. П. Гарэлічава — аўтара роспісаў у Сталовіцкім палацы (Баранавіцкі р-н, 1775 г.), Ю. Місланґевіча і інш. У станковым жывапісе склаўся самабытны стыль, які спалучыў эмацыянальную насычанасць старажытнарускага мастацтва з выяўленчымі прыёмамі мастацтва Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Дэкаратыўнасць жывапісных твораў узмацняюць разныя па ляўкасу арнаментальныя вохрыста-залацістыя і серабрыстыя фоны.

У фарміраванні дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва важнае значэнне мела інтэнсіўнае развіццё рамёстваў у гарадах і сядзібах 17—18 стагоддзяў. Вядомы мануфактуры 18 ст.: суконная і палатняная ў г. п. Ружаны, тэкстыльная ў г. п. Камянец, суконная ў г. Брэст, фаянсавая ў г. п. Целяханы, шкларобчая ў в. Новая Мыш (Баранавіцкі р-н), металаапрацоўчая ў в. Рудня (Маларыцкі р-н) і інш. Захаваліся цікавыя ўзоры вырабаў мастацкіх мануфактур і рамеснікаў таго часу — ювелірныя, ткацтва і вышыўкі, у т. л. залатое шыццё. Да нашых дзён дайшлі ўшытыя ў арнаты фрагменты літых слуцкіх паясоў, узоры мастацкай коўкі. Вядомы імёны майстроў: брэсцкага ювеліра А. Якубовіча (1720 г.), чаканшчыка Крэўскага з Ружан (пачатак 18 ст.), разьбяра Войцеха са Сталовіч (1755 г.) і інш.

У 2-й палавіне 18—1-й палавіне 19 ст. на тэрыторыі вобласці ў будаўніцтве мураваных палацавых і сядзібных ансамбляў пашырыўся новы стыль — класіцызм. Сярод помнікаў пераходнага тыпу ад барока да класіцызму — палацы ў Пінску і Ружанах. Рысы класіцызму ярка выявіліся ў сядзібна-паркавых ансамблях (в. Скокі Брэсцкага і в. Паланэчка Баранавіцкага р-наў). Гэтым збудаванням уласцівы выразная планіроўка, трохчасткавае сіметрычнае вырашэнне аб'ёмаў, лаканізм дэкаратыўных сродкаў, выкарыстанне класічных ордэрных кампазіцый. Класіцыстычнае аблічча маюць многія драўляныя сядзібныя дамы, хоць асобныя рысы барока захаваліся ў іх і ў 19 ст. (в. Старыя Пескі Бярозаўскага р-на).

Пасля ўз'яднання Беларусі з Расіяй у канцы 18 ст. горадабудаўніцтва і манументальная архітэктура Беларусі развіваліся ў традыцыях рускага класіцызму. На тэрыторыі вобласці пачалася перапланіроўка гарадоў на аснове прынцыпаў класіцызму. Ставілася мэта ўпарадкаваць гарадскую структуру, стварыць новыя гарадскія раёны з рэгулярнай забудовай. Найбольш цікавымі былі генеральныя планы Брэста (1811 г.) і Пінска (1800, 1842 і 1856 гг.). Захоўваючы гістарычную планіроўку, яны прадугледжвалі рэканструкцыю вулічнай сеткі і рэгуляванне забудовы гарадскіх цэнтраў. У 2-й палавіне 19 ст. ў сувязі з пракладкай чыгунак узнік шэраг новых гарадоў і гарадскіх пасёлкаў (Баранавічы, Ганцавічы, Жабінка і інш.). Планіроўка іх рэгулярная, з густой сеткай вуліц і дробнымі прамавугольнымі кварталамі. Асобныя элементы класіцызму адлюстраваны ў архітэктуры паштовых станцый, пабудаваных у сярэдзіне 19 ст. на тракце Масква — Варшава (в. Няхачава Івацэвіцкага р-на, в. Мілавіды Баранавіцкага р-на, г. Кобрын). Гандлёвыя рады вядомы ў 2 варыянтах планіроўкі: замкнёная кампазіцыя з унутраным дваром (г. п. Антопаль Драгічынскага р-на) і выцягнуты пагон (Пружаны, Брэст). Стыль класіцызму ў культавым мурава-

ным дойлідстве выявіўся ў архітэктуры храмаў з купальным завяршэннем у цэнтральнай частцы (в. Дубай Пінскага р-на) або без купала — з порцікам і 2 вежамі на галоўным фасадзе (Пружаны, в. Шарашова Пружанскага р-на).

У культавым драўляным дойлідстве 19 ст. прадаўжалі развівацца старажытныя традыцыі. Узводзіліся традыцыйныя ярусныя збудаванні з верхам у цэнтры (царква Параскевы Пятніцы ў в. Беражное Столінскага р-на), павялічылася колькасць крыжовых храмаў. Прыклад пяцізрубнай пабудовы з 5 вярхамі — Мікалаеўская царква ў в. Кажан-Гарадок (Лунінецкі р-н), дзе творча ўвасоблены традыцыі мясцовай школы 18 ст. Гэтыя традыцыі ў Прыпяцкім Палессі захоўваліся да канца 19 ст. (Ільінская царква ў в. Велямічы Столінскага р-на). Аб творчай перапрацоўцы форм мураванай архітэктуры класіцызму сведчыць крыжова-купальная Троіцкая царква ў в. Зёлава (Драгічынскі р-н). Спаса-Праабражэнская царква ў в. Дзятлавічы (Лунінецкі р-н), фланкіраваная па вуглах 4 вежамі, адлюстравала зварот да архітэктурных форм абарончых храмаў 16 ст.

Паступова меншала залежнасць мастацтва ад царквы, траціла эстэтычную і сацыяльную каштоўнасць рэлігійная тэматыка. У жывапіс, скульптуру і графіку ўвайшла свецкая тэма, якая адлюстроўвала рэальнае жыццё народа. З'явіліся сатырычныя творы, якія выкрывалі заганы тагачасных сацыяльных парадкаў. Шырока развівалася кніжная і асабліва станковая графіка. Характэрная ў гэтых адносінах творчасць мастака А. Бартэльса (1818—85 гг.). На Брэстчыне працавалі А. Даманскі, М. Кулеша, Н. Орда і іншыя, якія пакінулі нам малюнкі Пінска, Камянца, Іванава, сядзіб у в. Дубай, Мерачоўшчына (г. Косава), кляштара картэзіянцаў у Бярозе і інш.

У пачатку 20 ст. па ініцыятыве рускай і беларускай інтэлігенцыі пастаўлена (пераважна на грамадскія грошы) некалькі помнікаў у гонар перамог над арміяй Напалеона. Сярод іх — помнік у Кобрыне, які па задуме яго стваральнікаў павінен быў выразіць сілу і веліч рускай зброі, гераізм рускага і беларускага народаў пры абароне радзімы. У манументальным жывапісе 19 — пачатку 20 ст. выявіліся свабода і майстэрства выканання, тонкія колеравыя спалучэнні: роспіс францысканскага касцёла і Варварынскай царквы ў Пінску, Петрапаўлаўскай царквы ў Ружанах, мазаікі Пакроўскага сабора ў Баранавічах пачатку 20 ст. і інш. Аднак у тэматыцы і кампазіцыі твораў адчувалася пэўная акадэмічная ідэалізацыя.

Архітэктуры канца 19 — пачатку 20 ст. ўласцівы супярэчлівыя фармалістычныя і эклектычныя тэндэнцыі развіцця. На яе стапоўча ўплывала развіццё будаўнічай тэхнікі (укараненне новых будаўнічых матэрыялаў, канструкцый), горадабудаўніцтва, прамысловасці, чыгуначнага транспарту (буйнамаштабныя будынкі запалкавай ф-кі ў Пінску, чыгуначнага вакзала ў Брэсце і інш.). Пашыралася будаўніцтва навучальных устаноў (гімназіі ў Пінску і Брэсце), адміністрацыйных будынкаў, даходных дамоў. Аднак пры гэтым парушалася стылявое адзінства архітэктуры, уласцівае мінулым эпохам. Архітэктары імкнуліся адрадзіць мастацкія прыёмы гістарычных стыляў (готыкі, барока, класіцызму). Мураваныя касцёлы будаваліся ў формах несапраўднай готыкі. У архітэктуры цэркваў выявіліся псеўдарускі і псеўдавізантыйскі стылі (сабор у Баранавічах, царква ў Камянцы). Неакласіцызм адлюстраваны ў архітэктуры сядзібы ў в. Нача Ляхавіцкага р-на. У пачатку 20 ст. развіўся новы стыль «мадэрн», які выявіўся пераважна ў будаўніцтве гарадскога жылля (Брэст, Пінск і інш.). Драўляная архітэктура гэтага часу захоўвала старадаўнія мясцовыя традыцыі. У сядзібных будынках выкарыстоўваліся асобныя элементы класіцызму (порцікі на галоўным фасадзе — сядзіба ў в. Агарэвічы Ганцавіцкага р-на), у культавай архітэктуры развіваліся тыпы храмаў падоўжнавосевай і крыжова-цэнтрычнай кампазіцый.


*Царква ў в. Гарадзішча Пінскага р-на. 19 ст. Малюнак з натуры Н. Орды.*

* *
*

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі на неакупіраванай частцы Пінскага і іншых паветаў Брэстчыны была ўстаноўлена Савецкая ўлада. II Усерасійскі з'езд Саветаў па прапанове У. І. Леніна прыняў Дэкрэт аб міры. У адпаведнасці з ім у снежні 1917 г. на Заходнім фронце быў падпісаны дагавор аб перамір'і. У лютым 1918 г. германскія войскі, парушыўшы перамір'е, перайшлі ў наступленне і захапілі ўсю Брэстчыну. Пасля падпісання Брэсцкага мірнага дагавора (3.3.1918 г.) паміж Савецкай Расіяй і Германіяй (і яе саюзнікамі) Пінскі павет і некалькі валасцей іншых паветаў паўднёвай Брэстчыны адышлі да т. зв. Украінскай народнай рэспублікі. На акупіраванай тэрыторыі ствараліся падпольныя камуністычныя арганізацыі (у Брэсце, Лунінцы, Пін-

ску і інш.), якія кіравалі разгортваннем вызваленчай барацьбы беларускага народа супраць акупантаў. 13.11.1918 г. Савецкі ўрад ануляваў Брэсцкі мірны дагавор, пачалося аднаўленне і ўстанаўленне Савецкай улады ў вызваляемых раёнах. 1.1.1919 г. абвешчана Беларуская ССР. Брэстчына ўвайшла ў яе склад як Баранавіцкі р-н з падраёнамі: Баранавіцкім, Брэсцкім, Кобрынскім, Пінскім і Пружанскім. З канца лютага 1919 г. тэрыторыя Брэстчыны ў складзе Літоўска-Беларускай ССР, у межы якой уварваліся войскі буржуазнай Польшчы. Да жніўня 1919 г. польскія акупанты захапілі ўсю Брэстчыну. На акупіраванай тэрыторыі разгарнуўся партызанскі рух, якім кіраваў Брэсцкі падпольны камітэт КП(б)ЛіБ. У ліпені 1920 г. Чырвоная Армія вызваліла тэрыторыю Брэстчыны ад акупантаў, была адноўлена Савецкая ўлада. Для ажыццяўлення рэвалюцыйных пераўтварэнняў створаны Баранавіцкі, Брэст-Літоўскі, Кобрынскі, Пінскі, Пружанскі рэўкомы. Яны падтрымлівалі парадак, памагалі фронту, бралі на ўлік фабрыкі, заводы, памешчыцкія маёнткі. 19.8.1920 г. польскія войскі зноў занялі Брэст, а да канца кастрычніка 1920 г.— і ўсю Брэстчыну. Паводле Рыжскага мірнага дагавора (сакавік 1921 г.) тэрыторыя Брэсцкай вобл. адышла да Польшчы і ўваходзіла ў склад Палескага (цэнтр г. Брэст, паветы Брэсцкі, Драгічынскі, Кобрынскі, Косаўскі, Лунінецкі, Пінскі, Пружанскі і Столінскі) і часткова Навагрудскага (Баранавіцкі павет) ваяводстваў. Як і ва ўсёй Заходняй Беларусі, тут была адноўлена ўлада буржуазіі і памешчыкаў, усталяваны жорсткі рэжым бяспраўя, эксплуатацыі і нацыянальнага прыгнёту працоўных. У эканамічных адносінах Брэстчына была аграрным прыдаткам Польшчы, крыніцай сыравіны і таннай рабочай сілы, рынкам збыту для польскай прамысловасці. Мясцовая прамысловасць складалася ў асноўным з невялікіх прадпрыемстваў — будаўнічых, па вырабу керамікі, лесапільных, гарбарных, харчовых і інш. Польскі ўрад праводзіў вялікадзяржаўна-шавіністычную палітыку прымусовай паланізацыі, выкаранення беларускай культуры.

На працягу амаль 2 дзесяцігоддзяў працоўныя Брэстчыны вялі барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У пачатку 1920-х гадоў на Палессі разгарнуўся партызанскі рух, кіраўнікамі якога былі К. П. Арлоўскі, В. З. Корж, С. А. Ваўпшасаў і інш. Найбольш значныя аперацыі партызаны правялі ў в. Чучавічы Столінскага пав. і в. Добрае Дрэва Лунінецкага павета (1922 г.), у Целяханах і Пружанах (1923—24 гг.), на ст. Парахонск Лунінецкага пав. (1924 г.), у Ляхавічах Баранавіцкага павета (1925 г.). Рэвалюцыйная барацьба ўзмацнілася пасля стварэння Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ, 1923 г.). У Палескім (і часткова Навагрудскім) ваяводстве дзейнічалі Брэсцкі, Пінскі і Слонімска-Баранавіцкі акруговыя і 43 раённыя і падраённыя камітэты КПЗБ. Пад кіраўніцтвам КПЗБ дзейнічалі Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ), а таксама рэвалюцыйна-дэмакратычныя арганізацыі — Беларуская сялянска-рабочая грамада, «Змаганне», Таварыства беларускай школы (ТБШ). Партыя ўзначальвала рэвалюцыйныя выступленні рабочых, барацьбу сялян за зямлю, супраць непасільных падаткаў, нацыянальнага ўціску, за школу на роднай мове. КПЗБ стварала падпольныя друкарні, нелегальна выдавала і распаўсюджвала сярод працоўных перыядычныя выданні, пракламацыі, прапагандавала дасягненні савецкага народа ў сацыялістычным будаўніцтве. Найбуйнейшыя выступленні працоўных Брэстчыны: дэманстрацыя рабочых і сялян у Косаве ў 1927 г., якую расстраляла паліцыя, забастоўкі рабочых дрэваапрацоўчай прамысловасці і лесараспрацовак у Белавежскай і Ружанскай пушчах у 1932—34 гг.; узброенае выступленне сялян Кобрынскага павета ў 1933 г. і інш. На тэрыторыі Брэстчыны барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне вялі такія актыўныя дзеячы КПЗБ і КСМЗБ, як В. З. Харужая, А. А. Альшэўскі, С. Я. Багданчук, М. М. Дворнікаў, І. П. Урбановіч, С. С. Панкова, У. З. Царук і інш. Для палітычных вязняў польскі буржуазны ўрад стварыў у 1934 г. Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер.

У верасні 1939 г., пасля нападу фашысцкай Германіі на Польшчу, паводле распараджэння ўрада СССР Чырвоная Армія перайшла (17 верасня) савецка-польскую граніцу і ўзяла пад сваю абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. Працоўныя Брэстчыны актыўна памагалі Чырвонай Арміі: стваралі атрады рабочай гвардыі, часовыя гарадскія ўпраўленні і сялянскія камітэты, якія падаўлялі супраціўленне эксплуататарскіх класаў, устанаўлівалі рэвалюцыйны парадак. 22 кастрычніка адбыліся выбары дэпутатаў у Народны (Нацыянальны) сход Заходняй Беларусі, які працаваў 28—30.10.1939 г. ў Беластоку. Ён прыняў Дэкларацыю пра абвяшчэнне Савецкай улады, уключэнне Заходняй Беларусі ў склад СССР і ўз'яднанне яе з БССР, дэкларацыі аб канфіскацыі памешчыцкіх зямель, нацыяналізацыі банкаў і буйной прамысловасці, выбраў паўнамоцную камісію (60 чал.) і паслаў яе ў Маскву на сесію Вярхоўнага Савета СССР і ў Мінск на сесію Вярхоўнага Савета БССР, каб перадаць рашэнне Сходу прасіць прыняць Заходнюю Беларусь у склад СССР і ўз'яднаць з БССР. 2.11.1939 г. 5-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета СССР прыняла закон «Аб уключэнні Заходняй Беларусі ў склад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і ўз'яднанні яе з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай». 14.11.1939 г. 3-я (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета БССР пастанавіла прыняць Заходнюю Беларусь у склад Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. З утварэннем у Заходняй Беларусі абласцей (4.12.1939 г.) і раёнаў (15.1.1940 г.) тэрыторыя

Брэстчыны ўвайшла ў склад Брэсцкай (18 раёнаў), Пінскай (11 раёнаў) і часткова Баранавіцкай (4 раёны) абласцей. 24.3.1940 г. ў Заходняй Беларусі адбыліся выбары ў Вярхоўныя Саветы СССР і БССР, а 15.12.1940 г.— у мясцовыя Саветы дэпутатаў працоўных. Пачалося сацыялістычнае будаўніцтва. За кароткі час былі ажыццёўлены вялікія сацыяльныя і эканамічныя пераўтварэнні.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны тэрыторыя вобласці стала месцам жорсткіх баёў савецкіх войск супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Легендарнай славай пакрылі сябе абаронцы Брэсцкай крэпасці, якія больш за месяц змагаліся з ворагам. Мужна трымаліся пагранічнікі 17-га Чырванасцяжнага пагранатрада, абаронцы Брэсцкага вакзала. Жорсткія баі адбыліся на тэрыторыі Пружанскага, Кобрынскага, Маларыцкага і інш. раёнаў. З самага пачатку нямецка-фашысцкай акупацыі зарадзіўся партызанскі рух. На Піншчыне быў створаны адзін з першых на Беларусі партызанскі атрад, які ўзначаліў у чэрвені 1941 г. В. З. Корж. У чэрвені 1941 г. ў Жабінкаўскім р-не пачаў дзейнічаць Старасельскі атрад (пазней імя М. М. Чарнака), у жніўні 1941 г. ў Бярозаўскім р-не — атрад на чале з В. М. Манахавым і інш. У пачатку 1942 г. на тэрыторыі вобласці змагаліся 23 партызанскія атрады. Арганізатарам і кіраўніком барацьбы савецкага народа ў варожым тыле была Камуністычная партыя. На тэрыторыі вобласці дзейнічалі ў ліпені — верасні 1941 г. і з верасня 1942 г. Пінскі падпольны абком КП(б)Б (сакратары П. Г. Шапавалаў, М. К. Зайцаў да верасня 1941 г., А. Я. Кляшчоў у красавіку — кастрычніку 1943 г., С. Р. Вайцаховіч з красавіка 1943 г.), з сакавіка 1943 г. Баранавіцкі падпольны абком КП(б)Б (сакратары В. Я. Чарнышоў, Ф. А. Баранаў), з красавіка 1943 г. Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б (сакратары С. І. Сікорскі, І. І. Баброў). Падпольныя абкомы КП(б)Б накіроўвалі дзейнасць Брэсцкага, Баранавіцкага і Пінскага партызанскіх злучэнняў, якія летам 1944 г. налічвалі каля 50 тыс. чалавек, стварылі на Брэстчыне сетку падпольных міжрайкомаў, гаркомаў, райкомаў КП(б)Б. Пад кіраўніцтвам падпольных абкомаў партыі працавалі Брэсцкі, Баранавіцкі і Пінскі падпольныя абкомы ЛКСМБ, якія кіравалі работай камсамольскіх арганізацый. Гераічна змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў камсамольцы Сінкевіцкай (Лунінецкі р-н), Блудзенскай (цяпер в. Першамайская Бярозаўскага р-на), Мотальскай (Іванаўскі р-н) і іншых падпольных арганізацый. Сетка падпольных арганізацый уключала і масавыя антыфашысцкія групы, якія пачалі складвацца з восені 1941 г. У маі 1942 г. створаны міжраённы антыфашысцкі Камітэт барацьбы з нямецкімі акупантамі, які кіраваў дзейнасцю антыфашысцкіх арганізацый у Бярозаўскім, Камянецкім, Косаўскім, Пружанскім, Ружанскім і іншых раёнах. У чэрвені 1943 г. міжраённы камітэт рэарганізаваны ў Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт. Яго ўзначальвалі І. П. Урбановіч, М. Е. Крыштафовіч, І. І. Жышка і інш. З мая 1942 г. дзейнічала Баранавіцкая акруговая антыфашысцкая арганізацыя, камітэт якой узначальвалі Г. М. Картухін, А. Ф. Манкевіч. На тэрыторыі вобласці выдаваліся 3 падпольныя абласныя газеты: «Заря» Брэсцкага, «Чырвоная звязда» Баранавіцкага і «Палеская праўда» Пінскага падпольных абкомаў КП(б)Б, 9 падпольных раённых газет, антыфашысцкая маладзёжная газета Баранавіцкай вобл. «Молодой мститель», газета «За Родину» — орган Брэсцкага антыфашысцкага камітэта. Нямецка-фашысцкія захопнікі ўстанавілі на Брэстчыне жорсткі акупацыйны рэжым беззаконня, гвалту, грабяжу і крывавага тэрору. За час акупацыі ў Пінску знішчана 59 тыс. мірных жыхароў і ваеннапалонных, у Баранавічах 31 тыс., у Століне 8 тыс., у Ляснянскім лагеры смерці (Баранавіцкі р-н) больш за 88 тыс., у Калдычэўскім лагеры смерці (Баранавіцкі р-н) 22 тыс., каля в. Бронная Гара (Бярозаўскі р-н) больш за 50 тыс. і тысячы ў інш. месцах масавай загубы савецкіх людзей. Карнікі знішчылі разам з насельніцтвам 102 вёскі вобласці, 5 з іх не адрадзіліся. Былі разбураны амаль усе прамысловыя прадпрыемствы, абрабаваны калгасы і саўгасы, МТС, навучальныя і культурныя ўстановы.



*Партызаны слухаюць радыёперадачу з Масквы. Атрад імя М. М. Чарнака брыгады імя І. В. Сталіна.*

Пасля Мазырска-Калінкавіцкай аперацыі (студзень 1944 г.) 61-я армія Беларускага фронту за зіму і вясну 1944 г. прасунулася ўздоўж правага берага р. Прыпяць і на захад да г. Ратны (на поўнач ад Ковеля). Утварыўся 350-кіламетровы выгіб лініі фронту на ўчастку 61-й і 70-й армій. Насупраць стаяла 2-я нямецкая армія, асноўныя сілы якой замацаваліся на левым беразе Прыпяці. Амаль увесь гэты час, асабліва ў сакавіку 1944 г., тут вяліся баі мясцовага значэння, у т. л. і

**ПРИКАЗ**

**Начальника Центрального Штаба Партизанского Движения**

**ПРИ СТАВКЕ ВЕРХОВНОГО ГЛАВНОКОМАНДОВАНИЯ**

**№ 0042**

14 июля 1943 г. г. Москва

**О ПАРТИЗАНСКОЙ РЕЛЬСОВОЙ ВОЙНЕ НА КОММУНИКАЦИЯХ ВРАГА**

Советские партизаны своими действиями по разрушению коммуникаций противника оказывают большую помощь Красной Армии в деле разгрома немецких захватчиков.

Уничтожение вражеских эшелонов, паровозов, вагонов, взрывы мостов, водокачек, железнодорожной связи и оборудования является важнейшей задачей партизанских групп и отрядов.

Огромный размах партизанского движения позволяет в настоящее время нанесить массированные повсеместные удары по железным дорогам с целью их полной дезорганизации и срыва операций врага на фронтах.

Такой удар партизанами должен быть нанесен врагу рельсовой войной, т. е. массовым повсеместным уничтожением рельс. Враг уже сейчас испытывает недостаток рельс. Запасные рельсы и многие рельсы станционных путей и второстепенных линий израсходованы на восстановление взрываемых партизанами путей.

Во многих случаях со вторых путей и второстепенных линий рельсы сняты и направлены в переплавку. В этих условиях массовый вывод партизанами рельс, путем перебивания их пополам, приведет врага к невосполнимым потерям и поставит в положение, граничащее с катастрофой.

**Приказываю:**

1. Партизанским соединениям и отрядам, дислоцирующимся в районе железных дорог, одновременно с другими диверсиями, проводить систематическое и повсеместное разрушение рельс на железных дорогах врага путем перебивания рельс пополам.

2. Перебивание рельс производить на основных магистралях, запасных, подъездных, вспомогательных, деповских путях, уничтожать запасные рельсы, исключая для противника возможность перешивания и маневрирования рельсами.

3. В целях внезапности удара первую операцию провести одновременно по сигналу Центрального штаба, а после этого действовать непрерывно, всеми средствами уничтожать рельсы.

*Загад № 0042 начальніка Цэнтральнага штаба партызанскага руху аб правядзенні «рэйкавай вайны».*

на тэрыторыі паўднёвых раёнаў Брэстчыны. У ліпені 1944 г. войскі 1-га Беларускага фронту (камандуючы Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі) у выніку Баранавіцка-Слонімскай і Люблінска-Брэсцкай аперацый вызвалілі Брэстчыну ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Значную дапамогу Чырвонай Арміі аказалі партызаны. У красавіку 1944 г. яны змагаліся каля в. Здзітава Бярозаўскага р-на, з 21 лютага да 30 сакавіка 1944 г. ішлі баі партызан з буйной групоўкай ворага на Дняпроўска-Бугскім канале. За 3 дні да Беларускай аперацыі партызаны ў «рэйкавай вайне» нанеслі масавы ўдар па чыгуначных камунікацыях ворага. Партызаны Пінскага злучэння памагалі часцям Чырвонай Арміі вызваляць Лагішын, Лунінец, Пінск. У разгроме варожай групоўкі ў Маларыцкім р-не і ў баях за вызваленне Брэста ўдзельнічалі партызаны брыгады імя У. І. Леніна.

У аднаўленні разбуранай гаспадаркі Брэстчыны вялікую дапамогу аказалі народы ўсіх брацкіх рэспублік СССР. Працоўныя вобласці ў сваю чаргу памагалі лесаматэрыяламі і рабочай сілай у аднаўленні разбуранай прамысловасці ў гарадах і абласцях, якія найбольш пацярпелі ў гады вайны. Гераічнымі намаганнямі працоўных вобласці да 1948 г. адноўлена прамысловасць, наладжвалася работа аўтамабільнага і чыгуначнага транспарту, сродкаў сувязі, гідратэхнічных збудаванняў. Адраджаліся разбураныя гарады і вёскі. Велізарныя сацыяльна-эканамічныя змены адбыліся ў сельскай гаспадарцы. Пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ажыццяўляўся пераход вёскі да калектыўнага вядзення гаспадаркі. Да 1951 г. амаль закончана калектывізацыя сельскай гаспадаркі. У студзені 1954 г. Брэсцкая вобл. узбуйнена, да яе далучаны ўсе раёны скасаваных Пінскай і 4 раёны Баранавіцкай абл. За пасляваенны перыяд вобласць стала краем высокаразвітай прамысловасці і перадавой сельскай гаспадаркі. Тут пабудавана і рэканструявана каля 240 прамысловых прадпрыемстваў і буйных цэхаў. Створаны новыя галіны прамысловасці: электратэхнічная, дывановая, баваўняная, металаапрацоўчая, будаўнічая, цукровая і інш. Да ліку буйнейшых на Беларусі адносяцца брэсцкія электралямпавы і газавай апаратуры заводы, дывановы і панчошны камбінаты, пінскія камбінат верхняга трыкатажу, фабрыка трыкатажных спартыўных вырабаў і завод штучных скур, Баранавіцкі баваўняны камбінат. У вобласці створана магутная энергетычная база. Пабудавана Бярозаўская ДРЭС, якая па магутнасці займае 2-е месца ў Беларусі (пасля Лукомскай ДРЭС), павялічылася магутнасць электрастанцый у Брэсце, Баранавічах, Пінску. Прамысловаму развіццю вобласці садзейнічала пракладка газаправодаў Дашава — Мінск (з адгалінаваннем на Брэст) і Таржок — Івацэвічы. Створана буйная будаўнічая індустрыя, працуюць камбінаты жалезабетонных канструкцый у Баранавічах, будаўнічай індустрыі ў Пінску, домабудаўнічы ў Брэсце, заводы жалезабетонных вырабаў у Брэсце, Баранавічах, Бярозе, Кобрыне, Івацэвічах, Іванаве, Ляхавічах, Высокім, камбінаты будаўнічых матэрыялаў у Пружанах, Кобрыне, Бярозе, Брэсце, у в. Даманава Івацэвіцкага р-на. У рабочым пасёлку Рэчыца Столінскага р-на працуе завод abліцовачна-фасаднай керамікі. Для здабычы граніту створаны камбінат нярудных матэрыялаў «Мікашэвічы» (Лунінецкі р-н). Развіваецца і дасягнула высокага ўзроўню механізацыі лясная і дрэваапрацоўчая прамысловасць. Прадпрыемствы вобласці вырабляюць мэблю, запалкі, драўнінна-стружкавыя пліты, буддэталі, піламатэрыялы і інш. Новыя мясакамбінаты, кансервавыя і малочныя заводы пабудаваны ў Баранавічах, Брэсце, Пінску, Кобрыне, Пружанах, Століне, Давыд-Гарадку, Камянцы, Маларыце, Драгічыне і інш. У Жабінцы дзейнічае адзін з буйнейшых у рэспубліцы цукровы завод.

Сельская гаспадарка вобласці спецыялізуецца на мяса-малочнай жывёлагадоўлі, развітым ільнаводстве ў спалучэнні з буракаводствам.

За актыўны ўдзел у партызанскім руху, мужнасць і стойкасць працоўных Брэсцкай вобл. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны і за поспехі ў аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі 17.7.1967 г. Брэсцкая вобл. узнагароджана ордэнам Леніна.

Брэстчына — край высокай культуры. Асабліва вялікіх поспехаў дасягнула вобласць у пасляваенныя гады. У Брэсце працуюць педагагічны імя А. С. Пушкіна і інжынерна-будаўнічы інстытуты, у вобласці 18 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, 1001 агульнаадукацыйная школа, 21 прафесійна-тэхнічнае вучылішча. Дзейнічае 1147 бібліятэк, 935 клубных устаноў, 426 дзіцячых дашкольных устаноў, 1030 кінаўстановак, 126 бальнічных устаноў.

У 1956 г. ў Брэсце адкрыты Музей Брэсцкай крэпасці-героя, у 1957 г.— абласны краязнаўчы музей, у экспазіцыях і фондах якога захоўваюцца унікальныя рэчы з археалагічных раскопак, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы. У Пінску з 1926 г. дзейнічае адзін з старэйшых на Палессі краязнаўчых музеяў з унікальным этнаграфічным аддзелам (з 1979 г. Беларускі дзяржаўны музей сацыялістычнага пераўтварэння Палесся). Краязнаўчыя музеі ёсць у Баранавічах (з 1952 г.), Століне (з 1955 г.), ваенна-гістарычны імя А. В. Суворава ў Кобрыне (з 1946 г.), гісторыка-рэвалюцыйны ў Бярозе (з 1961 г.), музей прыроды «Белавежская пушча» ў Камянюках.

У вобласці працуюць абласны драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі, абласны тэатр лялек. Дзейнічаюць шматлікія самадзейныя калектывы — народныя тэатры, народныя хоры, ансамблі, аркестры; абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці і культасветработы. На Брэстчыне ёсць абласныя аддзяленні Саюза мастакоў БССР, Саюза пісьменнікаў БССР, Саюза журналістаў БССР, Саюза архітэктараў БССР. У скарбніцы беларускай савецкай літаратуры ёсць творы і пісьменнікаў з Брэсцкай вобл. Вядомы беларускі паэт і празаік П. Пестрак стварыў шэраг твораў аб барацьбе працоўных Заходняй Беларусі, паэт М. Засім прысвяціў роднай Брэстчыне старонкі сваіх кніг.

Савецкі перыяд у горадабудаўніцтве Брэсцкай вобл. вызначаецца шырокім развіццём прамысловай індустрыі, на базе якой многія гарады сфарміраваліся ў буйныя прамысловыя цэнтры (Брэст, Баранавічы, Пінск), а невялікія мястэчкі ператварыліся ў гарады або пасёлкі гарадскога тыпу (Івацэвічы, Жабінка, Лагішын і інш.). Рэканструкцыя Дняпроўска-Бугскай воднай сістэмы і пракладка новых магістралей садзейнічаюць далейшаму развіццю эканомікі вобласці. Разам з будаўніцтвам фабрык і заводаў ажыццяўляюцца новыя прынцыпы іх размяшчэння ў планіровачнай структуры горада: ствараюцца спецыяльныя прамысловыя раёны і вузлы, якія маюць зручныя сувязі з жылымі раёнамі і аддзяляюцца ад іх зялёнымі ахоўнымі паласамі (пабудаваны ў Брэсце, Бярозе, Пінску). У іх выкарыстоўваюцца прагрэсіўныя прынцыпы планіроўкі і архітэктурна-канструкцыйнага вырашэння. Так, у Брэсцкім прамысловым вузле ўпершыню скарыстана максімальнае кааперыраванне розных прамысловых прадпрыемстваў і іх дапаможных службаў, што, апрача значнага эканамічнага эфекту, адкрыла дадатковыя магчымасці ў горадабудаўнічым і архітэктурным вырашэнні забудовы ўсяго раёна. У вялікіх гарадах (Брэст, Пінск, Баранавічы) фарміруюцца комплексныя сялібна-вытворчыя раёны, у межах якіх у асноўным задавальняюцца патрэбы гараджан у працаўладкаванні, культурна-бытавым абслугоўванні і адпачынку. Буйныя планіровачныя раёны ствараюцца ў Брэсце. Новае будаўніцтва вядзецца ва ўсходняй частцы горада, дзе размешчаны прамысловыя будынкі, вучэбны гарадок інжынерна-будаўнічага інстытута, жылыя масівы. Узведзены шэраг цікавых па архітэктуры будынкаў: абкома КПБ, Дома палітасветы, гандлёвага цэнтра па вул. Маскоўскай і інш. У апошнія гады хутка добраўпарадкоўваецца Пінск, структура якога ў асноўным сфарміравалася гістарычна. Тут рэканструяваны раёны малапавярховай драўлянай забудовы. Новае будаўніцтва вядзецца і на свабодных тэрыторыях, дзе выкарыстоўваюць прагрэсіўныя прынцыпы комплекснай забудовы (паўночны раён), і ў раёнах, дзе ажыццяўляецца рэканструкцыя ўстарэлага жылога фонду (цэнтральны і заходні раёны). Непазнавальна змянілася архітэктурнае аблічча іншых гарадоў вобласці: забудаваны новыя мікрараёны, рэканструяваны кварталы аднапавярховай забудовы, добраўпарадкавана гарадская тэрыторыя. Пры рэканструкцыі гарадоў галоўная ўвага аддаецца развіццю жыллёвага будаўніцтва. У малых і сярэдніх гарадах пераважна будуюць 3—9-павярховыя, а ў вялікіх — і 9—16-павярховыя добраўпарадкаваныя жылыя дамы. У жылых і адміністрацыйных будынках выкарыстоўваюць новыя будаўнічыя і аддзелачныя матэрыялы. Развіваецца і ўдасканальваецца камунальная гаспадарка і транспарт, інжынернае абсталяванне, добраўпарадкоўваюцца вуліцы і плошчы гарадоў. Вядзецца рэканструкцыя старых паркаў, сквераў, бульвараў, набярэжных. На берагах рэк ствараюцца зоны адпачынку, будуюцца спартыўныя комплексы (Брэст, Кобрын, Столін і



*Брэст. Вуліца Набярэжная.*



*Цэнтральная сядзіба саўгаса «Малеч» Бярозаўскага р-на.*

інш.). Ідзе працэс рэканструкцыі гарадскіх грамадскіх цэнтраў, дзе сканцэнтраваны асноўныя адміністрацыйныя, гандлёвыя і культурна-асветныя ўстановы. У г. п. Камянец, г. Кобрын і інш. населеных пунктах, гістарычныя цэнтры якіх склаліся ў мінулыя стагоддзі і не адпавядаюць патрабаванням сучаснага горадабудаўніцтва, ствараюцца новыя грамадска-адміністрацыйныя комплексы непадалёку ад галоўных магістралей. Пры рэканструкцыі такіх гарадоў вырашаецца ўзаемасувязь новых ансамбляў з існуючай забудовай, уключэнне помнікаў архітэктуры ў сучасную забудову. Так, у Брэсце фарміруецца новы грамадска-адміністрацыйны цэнтр, які мае выхад да набярэжнай р. Мухавец і звязаны з мемарыяльным комплексам Брэсцкая крэпасць-герой.

Развіваюцца і добраўпарадкоўваюцца сельскія населеныя пункты вобласці. Замест дробных вёсак узнікаюць перспектыўныя ўзбуйненыя пасёлкі, у якіх горадабудаўнічыя праблемы вырашаны ў комплексе з арганізацыяй усёй гаспадаркі населенага пункта. Ажыццяўляецца эксперыментальна-паказальнае будаўніцтва пасёлкаў новага тыпу з поўным інжынерным абсталяваннем і палепшанымі бытавымі ўмовамі для насельніцтва (в. Малеч Бярозаўскага і в. Новая Расна Камянецкага р-наў). Тут створаны новыя грамадскія цэнтры, у якіх канцэнтруюцца гандлёвыя і культурна-бытавыя ўстановы. Добрую ацэнку атрымалі пабудаваныя ў гэтых пасёлках двухкватэрныя жылыя дамы з кватэрамі на двух узроўнях і чатырохкватэрныя дамы з асобным уваходам у кожную кватэру. Пры рэканструкцыі і добраўпарадкаванні сучасных гарадоў і сельскіх населеных пунктаў вырашаецца асноўная сацыяльная задача — павышэнне жыццёвага ўзроўню, усебаковае задавальненне культурна-бытавых патрэб насельніцтва.



*Забудова вёскі Клепачы Пружанскага р-на.*

У 1960—80-я гады шырока развіваецца манументальнае мастацтва. Яго росквіту садзейнічалі мерапрыемствы Савецкага ўрада па стварэнню помнікаў выдатным дзеячам рэвалюцыйнага руху, навукі, літаратуры і мастацтва, героям Вялікай Айчыннай вайны, у гонар найважнейшых гістарычных падзей. У стварэнні помнікаў на Брэстчыне ўдзельнічалі вядомыя беларускія майстры З. Азгур, А. Бембель, У. Кароль, І. Міско і інш., а таксама мастакі і архітэктары з Масквы — А. Кібальнікаў, М. Мілавідаў, М. Альтшулер. У вобласці ўстаноўлены шэраг помнікаў правадыру сусветнага пралетарыяту і стваральніку Савецкай дзяржавы У. І. Леніну. Выразнай пластыкай, манументальнасцю і лаканізмам форм, глыбокім унутраным зместам вызначаюцца помнікі ў Брэсце і Баранавічах. Арыгінальнымі па кампазіцыі і рамантычна-вобразнаму вырашэнню з'яўляюцца помнікі У. І. Леніну ў Пінску, Пружанах і Століне. Стварэнне гэтых манументаў — значны ўклад у беларускую Ленініяну. На Брэстчыне створаны велічныя, глыбокага ідэйнага зместу архітэктурна-скульптурныя комплексы з даўгавечных матэрыялаў, архітэктурныя і скульптурныя манументы, абеліскі (у спалучэнні з Курганамі Славы, з рэаліямі мінулай вайны — танкамі, самалётамі, катэрамі і інш.). Беларускія скульптары стварылі бюсты-помнікі Героям Савецкага Саюза, якія ўстаноўлены ў абласных і раённых цэнтрах рэспублікі. Сярод іх — бюсты двойчы Героя Савецкага Саюза С. І. Грыцаўца ў Баранавічах, Героя Савецкага Саюза В. З. Харужай у Пружанах і Пінску, двойчы Героя Савецкага Саюза П. І. Клімука ў Брэсце, двойчы Героя Сацыялістычнай Працы У. А. Ралько ў в. Аснежыцы Пінскага р-на. Назіраецца імкненне да сінтэзу архітэктурных і скульптурных форм, да ўмацнення ролі архітэктурных элементаў у вобразным ладзе помнікаў. Гэта тэндэнцыя знайшла сваё ўвасабленне ў мемарыяльных комплексах. Самым буйным у вобласці з'яўляецца мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой, які ўвекавечыў беспрыкладны подзвіг, стойкасць і мужнасць савецкіх воінаў — абаронцаў Брэсцкай крэпасці ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Глыбокі патрыятычны змест, гарманічнае адзінства і рэалістычная выразнасць выяўленчых сродкаў робяць яго адным з найбольш значных ансамбляў у савецкай архітэктуры і манументаль-

ным мастацтве. Вялікае эмацыянальнае ўражанне сваёй выразнасцю, лаканізмам і драматычнасцю вырашэння тэмы выклікае мемарыяльны комплекс на месцы загубы 3 тыс. чэхаславацкіх грамадзян — ахвяр фашызму ва ўрочышчы Гай пад Баранавічамі. Вылучаюцца мемарыяльны комплекс на гарнізонных вайсковых могілках і помнік пагранічнікам у Брэсце, комплекс «Здзітаўская абарона» (Бярозаўскі р-н), помнікі «Кулямётчык» у в. Камянюкі (Камянецкі р-н), юнаму партызану М. Гойшыку ў в. Міхнавічы (Івацэвіцкі р-н) і інш. У вобласці шмат Курганоў Славы (Бессмяротнасці) і Курганоў Памяці. Вылучаюцца Курганы Славы ва ўрочышчы Мелавая Гара (Маларыцкі р-н) і ў в. Мінічы (Ляхавіцкі р-н).

Гістарычныя, археалагічныя, архітэктурныя і мастацкія помнікі Брэстчыны яскрава адлюстроўваюць яе багатую шматвяковую гісторыю і культуру, рэвалюцыйна-вызваленчы рух, барацьбу народа за пабудову сацыялістычнага грамадства, за незалежнасць нашай Радзімы, услаўляюць змагароў за камуністычныя ідэалы.

*Літ.:* Энгельс Ф. Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы.— Мн., 1970; Ленін У. І. Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура.— Тв., т. 10 (Полн. собр. соч., т. 12); яго ж. Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню.— Тв., т. 20 (Полн. собр. соч., т. 24); яго ж. Аб пралетарскай культуры.— Тв., т. 31 (Полн. собр. соч., т. 41); Антонович В. Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. В. 1.— Киев, 1878; Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Арэхва М. С. Рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі ў гады белапольскай акупацыі.— Мн., 1958; Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 1—12.— Мн., 1969—75; Белогорцев И. Д., Гурин И. И., Кустанович С. М. Развитие городов Белоруссии.— Мн., 1967; Белоруссия и Литва; Исторические судьбы Северо-Западного края.— СПб., 1890; Болбас М. Ф. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978; яго ж. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1962—72; Бруноў М. I. Беларуская архітэктура XI—XII ст.— У кн.: Зборнік артыкулаў. Этнаграфія. Антрапалогія. Псіхалогія, псіхатэхніка і навуковая арганізацыя працы. Гісторыя мастацтва. Мн., 1928; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии: (советский период).— Мн., 1975; яго ж. Жилищное строительство в Белорусской ССР.— Мн., 1980; Воранава А. I. Рабочы рух у Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг.— Мн., 1960; Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.— Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг.— М., 1965; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1.— Мн., 1936; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1—2.— Мн., 1968—69; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1—5.— Мн., 1972—75; Грушевский А. С. Города Великого Княжества Литовского в XIV — XVI вв. Старина и борьба за старину.— Киев, 1918; Дробов Л. Н. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974; Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Т. 3. Ч. 1—2.— СПб.; М., 1882; Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976; История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 4.— М., 1962; Кацер М. С. Белорусская архитектура: Исторический очерк.— Мн., 1956; яго ж. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода: Очерки.— Мн., 1969; Квитницкая Е. Д. Малоизвестные зальные сооружения Белоруссии конца XV — начала XVI в.— Архитектурное наследство, 1967, в. 16; Козловский П. Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в.: (по материалам магнатских вотчин).— Мн., 1969; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1975; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962; Король В. А. Комплексное экспериментально-показательное строительство в селах Белоруссии.— Строительство и архитектура Белоруссии, 1971, № 4; Короткевич В. Б. Памятники истории и культуры.— Мн., 1978; Кухаренко Ю. В. Зарубинецкая культура.— М., 1964; яго ж. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961; яго ж. Первобытные памятники Подесья.— М., 1962; яго ж. Раскопки на городище и селище Хотомель.— М., 1957.— (Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры АН СССР; в. 68); яго ж. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Липило П. П. КПБ — организатор и руководитель партизанского движения в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны.— Мн., 1959; Липинский Л. П., Лукьянов Е. П. Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900—1907 гг.).— Мн., 1968; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974; Майзель Л. Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей.— Мн., 1934; Марцелев С. В. К духовному расцвету.— Мн., 1974; яго ж. Художественная культура Белоруссии на современном этапе.— Мн., 1978; Молчанова Л. А. Материальная культура белорусов.— Мн., 1968; Навечно в сердце народном.—3 изд.— Мн., 1984; Народное хозяйство Белорусской ССР в 1981 г.: Статистический ежегодник.— Мн., 1982; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.— Мн., 1968; Орлова М. А. Искусство Советской Белоруссии.— М., 1960; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.—2 изд.— Мн., 1968; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1—2.— Мн., 1970—72; Пашуто В. Т. Образование Литовского государства.— М., 1959; Петриков П. Т. Организация и деятельность революционных комитетов на территории Белоруссии в 1920 году.— Мн., 1962; Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV — XVI вв.— М., 1961; яго ж. Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии.— М., 1940; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Полесье: (Лингвистика. Археология. Топонимика).— М., 1968; Рашевский Н. А. Брестская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1975; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966; [Раманаў] Е. Р. По Гродненскому Полесью: (Из записной книжки археолога).— Записки Северо-Западного отдела имп. Русского географического об-ва. Вильно, 1911, кн. 2; Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.).— Мн., 1977; яго ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII ст. ст.— Мн., 1978; Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962; яго ж. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX ст.ст.— Мн., 1978; Dmochowski Z. Sprawozdanie ze studjów nad poleskiem budownictwem drzewnem w r. 1934—35.— Biuletyn Historji Sztuki i Kultury. Warszawa, 1935, [t.] 3, № 4; Gloger Z. Geografia historyczna ziem dawnej Polski.— Kraków, 1900; Moszyński K. Kultura ludowa Słowian. T. 1—2 wyd.— Warszawa, 1967.

*Г. І. Барышаў, В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч, В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская, Ю. А. Якімовіч.*




Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

## І. БРЭСТ

Горад, цэнтр Брэсцкай вобл. Размешчаны на р. Мухавец пры ўпадзенні яе ў р. Заходні Буг. Буйны эканамічны і культурны цэнтр. Вузел чыгунак на Баранавічы, Лунінец, Ковель, Беласток, Варшаву і аўтамабільных дарог. Рачны порт, звязаны праз канал з басейнамі Дняпра і Буга. Аэрапорт. Насельніцтва 201 тыс. чалавек (на 1.1.1982 г.). Летапісная назва Берестье (Бярэсце), у 17 — пачатку 20 ст.— Брэст-Літоўск, у 1921—39 гг.— Брэст-над-Бугам, з верасня 1939 г.— Брэст. Мяркуюць, што старажытная назва Бярэсце паходзіць ад назвы мясцовай пароды вяза ці ад бярозавай кары — бярости.

Месца ў сутоку Мухаўца і Заходняга Буга, дзе размяшчалася старажытнае Бярэсце, знаходзілася на скрыжаванні 2 старажытных гандлёвых шляхоў праз землі ўсходніх славян у Польшчу, Прыбалтыку і Заходнюю Еўропу. Адзін з іх ішоў па Заходняму Бугу з Галіцкай Русі і Валыні, другі — па Мухаўцу, Валоцы, Піне, Прыпяці, Дняпры і звязваў Бярэсце з Кіевам, Прычарнамор'ем і Блізкім Усходам.

Упершыню Бярэсце ўпамінаецца пад 1019 г. («Аповесць мінулых часоў»). Быў гандлёвым цэнтрам Старажытнарускай дзяржавы на мяжы з польскімі і літоўскімі ўладаннямі. У выніку пагранічнага становішча часта быў у цэнтры ваенных падзей. У 11 ст. належаў тураўскім, кіеўскім князям, з сярэдзіны 12 ст.— галіцка-валынскім. У 1020 г. захоплены польскім князем Баляславам Храбрым, у 1044 г. вернуты кіеўскім князем Яраславам Мудрым. Пра паходы на Бярэсце ўпамінае Уладзімір Манамах у сваім «Павучанні»: «...пасласта Берестию брата на головне, иде бяху Ляхове пожгли, той ту блюд город тих». У 1164 г. Бярэсцем завалодаў літоўскі князь Скірмунт. Горад не раз пераходзіў з рук у рукі, быў разрабаваны і разбураны. Але геаграфічнае становішча спрыяла яго адраджэнню і развіццю як гандлёвага і рамесніцкага цэнтра. Тут было пабудавана ўмацаванне для аховы гандлёвых караванаў, бралі мыту (пошліну) за правоз тавараў. У 13 ст. Берасцейская зямля знаходзілася пад пагрозай мангола-татарскага заняволення. У Іпацьеўскім летапісе ёсць ускоснае сведчанне пра бітву каля Бярэсця: «Данилови же со братом пришедшу ко Берестью, и не возмогоста ити в поле смрада ради множьства избьеных». Летапісных звестак аб знішчэнні горада ў гэты час і яго заваяванні няма. У 2-й палавіне 13 ст. Бярэсцем валодаў валынскі князь Уладзімір Васількавіч, які пабудаваў у горадзе «столп камен» — высокую мураваную вежу. Паводле ўстаўной граматы другога валынскага князя Мсціслава Данілавіча ад 1289 г., гараджане Бярэсця плацілі яму падатак. Тагачасны горад уяўляў сабою шчыльна забудаванае драўлянымі дамамі паселішча, умацаванае землянымі валамі і частаколам з тоўстых бярвенняў. З ростам насельніцтва забудова вялася на прылеглых тэрыторыях.

У канцы 13—1-й палавіне 14 ст. Бярэсце імкнуліся захапіць літоўскія князі і польскія каралі. У 1319 г. горадам завалодаў вялікі князь Вялікага княства Літоўскага Гедымін, але неўзабаве ўступіў яго валынскаму князю Андрэю Юр'евічу. Каля 1341 г. літоўскія князі зноў завалодалі Бярэсцем. У 1348 г. горад захапіў польскі кароль Казімір III, які ў 1366 г. заключыў дагавор з літоўскім князем Кейстутам, паводле якога Бярэсце адышло Вялікаму княству Літоўскаму. У 1379 г. на Бярэсце напалі тэўтонскія рыцары, разрабавалі і спалілі яго, але горад быў хутка адноўлены, стаў гандлёва-прамысловым цэнтрам Вялікага княства Літоўскага. У 1390 г. ён першым з беларускіх гарадоў атрымаў самакіраванне на аснове магдэбургскага права, якое не раз пацвярджалася (1408, 1511, 1554, 1580, 1607, 1614, 1661 гг.). У пачатку 15 ст. над горадам зноў навісла пагроза з боку Тэўтонскага ордэна. На тайнай нарадзе ў Бярэсці ў снежні 1409 г. польскі кароль Уладзіслаў II Ягайла і вялікі князь Літоўскі Вітаўт распрацавалі план сумеснага паходу супраць крыжакоў. Гараджане выставілі ім харугву (полк), якая геройчна змагалася ў бітве 1410 г. пад Грунвальдам. У 1500 г. горад разрабаваны войскамі крымскага хана Менглі Гірэя.

У 14—15 стагоддзях Бярэсце — адзін з буйнейшых гарадоў Вялікага княства Літоўскага. Прывілеем 1441 г. ён афіцыйна аднесены да галоўных гарадоў княства. Быў цэнтрам рамяства і гандлю. Высокага ўзроўню дасягнулі апрацоўка дрэва, кавальскае, ювелірнае, ганчарнае, гарбарнае, шавецкае і іншыя рамёствы. Былі развіты земляробства і жывёлагадоўля, жыхары займаліся таксама рыбалоўствам, паляваннем, бортніцтвам. Мясцовыя купцы вывозілі ў Заходнюю Еўропу футра, скуры, лес, пяньку, збожжа, прывозілі соль, цукар, паперу, сукно, шоўк і г. д. Праз Бярэсце ў Польшчу везлі тавары маскоўскія купцы. Тут наладжваліся кірмашы. У 1380 г. ў горадзе паявіўся гасціны двор. З 1413 г. Бярэсце — цэнтр Берасцейскага староства, якое ўвайшло ў склад Трокскага ваяводства, з 1520 г.— цэнтр павета Падляшскага ваяводства. У 1554 г. зацверджаны герб горада: на чырвоным полі замак у сутоку 2 рэк. З 1566 г.— цэнтр Берасцейскага ваяводства. Паводле звестак на той час, у Бярэсці каля 7 тыс. ж.; сярод іх называюцца імёны муляраў, друкароў, дактароў, кавалёў, злотнікаў, ліцейшчыкаў, мечнікаў, бляхароў, шкляробаў, буднікаў, ганчароў, ігольнікаў, шапачнікаў, 3 скамарохаў (Ціт, Герасім і Герман). Тут працавалі дойліды, майстры станковага і манументальнага жывапісу. У 1553 г. брэсцкі староста М. Радзівіл (Чорны) заснаваў у горадзе кальвінскі збор і друкарню, у якой у 1563 г. надрукавана Брэсцкая «Біблія». У 1569 г. адкрыта першая аптэка. У канцы 16 ст. ўзнікла праваслаўнае брацтва, пры ім у 1591 г.— школа. У Апісанні Берасцейскага староства 1566 г. ўпамінаюцца «шпіталь месцкій» і «шпіталь з касцёлам», друкарня, ратуша, Віленская брама, касцёл Барбары, кляштар з касцёлам (вул. Прэорская), мураваная царква і фарны касцёл (вул. Мікулінская), «двор владычны с царквой мураванай», цэрквы Троіцкая, Спаская і Чэснага Крыжа, царква і манастыр Раства, Сямёнаўскі манастыр і інш. Замак быў абкружаны сцяною з 5 вежамі (на адной з іх быў устаноўлены гадзіннік) і 3 уязнымі брамамі. На яго тэрыторыі былі цэйхгауз, 2 вадзяныя млыны, вадзяная лесапільня, півоварня, вадакачка, саляны склад, за сценамі замка — гандлёвая плошча, ратуша, прадмесці, дзе жылі мяшчане, рамеснікі, гарадская бедната. Усяго ў Бярэсці налічвалася 928 дамоў (пераважна драўляных). Вуліцы масцілі дрэвам (першыя звесткі пра іх брукаванне адносяцца да 1588 г.). У горадзе адбываліся важныя гістарычныя падзеі: праходзілі сеймы і з'езды беларускіх і літоўскіх феадалаў (1446, 1454, 1460, 1478, 1505, 1511, 1515, 1518 гг.).

Паводле Люблінскай уніі 1569 г., Бярэсце — у складзе Рэчы Паспалітай. У 1596 г. на царкоўным саборы, які праходзіў у горадзе, абвешчана Брэсцкая унія праз аб'яднанне на тэрыторыі Рэчы Паспалітай праваслаўнай і каталіцкай цэркваў.

У вызваленчай вайне ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. су-



І. *Мікалаеўская царква 16—18 ст. Малюнак са старажытнага абраза.*



I. *Мемарыяльная капліца на Трышынскіх могілках. Чыгуннае ліццё. 19 ст.*

праць феадальна-прыгонніцкага ўціску, нацыянальных і рэлігійных ганенняў з боку шляхецкай Польшчы, за ўз'яднанне з Расіяй актыўна ўдзельнічалі і жыхары Бярэсця. Паўстанні гараджан 1648 і 1649 гг. былі бязлітасна задушаны, горад разбураны, загінула каля 2 тыс. чалавек. У 1659 г. ў Бярэсці заснаваны манетны двор, дзе ў 1664—66 гг. чаканілі



I. *Мемарыяльная лаўка на Трышынскіх могілках. Чыгуннае ліццё. 19 ст.*

дробныя медныя манеты (соліды) з выявай «Пагоні» — герба Вялікага княства Літоўскага. Ад прозвішча арандатара манетнага двара Ціта Лівія Бараціні манеты называлі таксама барацінкамі. У 17 ст. горад быў месцам збору вайсковых канфедэрацый (1605, 1612 гг.), сейма Рэчы Паспалітай (1653 г.). На гравюры 1657 г. паказаны план і агульны выгляд тагачаснага горада. Цэнтр яго сфарміраваўся на востраве (цяпер цэнтральны востраў Брэсцкай крэпасці). Тут былі гандлёвая плошча з ратушай і крамамі, мураваныя будынкі кляштара езуітаў (1623 г., разбураны ў 1660 г., адбудаваны ў 1678 г.), базыльян (1629 г., пазней вядомы пад назвай Белы палац), бернардзінцаў (1653 г.), а таксама уніяцкай царквы, сінагогі і інш. За востравам, на берагах Буга і Мухаўца, знаходзіліся кляштары бернардзінак (з 1624 г. драўляны, з 1787 г. мураваны), трынітарыяў (1628 г., касцёл з 1651 г.), касцёл брыгітак (1621 г.). Амаль усе гэтыя будынкі разбураны пры будаўніцтве крэпасці.

У Паўночную вайну 1700—21 гг. Брэст-Літоўск захапілі (1706 г.) шведскія войскі і спустошылі яго. 2-я палавіна 17—1-я пал. 18 ст. ў гістарычным лёсе горада характэрны рэзкім эканамічным заняпадам, выкліканым працяглымі войнамі, голадам і эпідэміямі. Зменшыліся колькасць жыхароў, аб'ём рамесніцкай вытворчасці і гандлю. Толькі ў 2-й пал. 18 ст. пачалося эканамічнае ўзнаўленне. Горад становіцца рачным портам. У 1770-я гады падскарбі надворны літоўскі А. Тызенгаўз заснаваў суконную фабрыку (7 ткацкіх станкоў). У канцы 18 ст. ў Брэст-Літоўску каля 3,5 тыс. ж. У 1792 г. тут была рэзідэнцыя Таргавіцкай канфедэрацыі — рэакцыйнага саюзу магнатаў і шляхты Рэчы Паспалітай, накіраванага на ліквідацыю прагрэсіўных рэформ чатырохгадовага сейма 1788—92 гг. і Канстытуцыі 3 мая 1791 г.

Пасля ўз'яднання з Расіяй (1795 г.) Брэст-Літоўск — спачатку павятовы горад Слонімскай, потым Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1797 г. ў горадзе 623 дамы, з іх толькі 21 мураваны. Драўляная забудова была прычынай даволі частых пажараў: у 1802 г. згарэла каля 160 дамоў, у 1822 г.— гандлёвая частка (150 крам) і 70 жылых дамоў, у 1895 г. агонь знішчыў амаль палавіну пабудоў.

З пачаткам Айчыннай вайны 1812 г. Брэст-Літоўск стаў арэнай ваенных дзеянняў, быў захоплены кавалерыйскімі часцямі напалеонаўскай арміі. 25 ліпеня часці 3-й рускай арміі пад камандаваннем генерал-маёра І. М. Шчарбатава вызвалілі горад.

Брэст-Літоўск у складзе Расійскай імперыі атрымаў магчымасць пашырыць свае сувязі з многімі яе губернямі. Хутка расла колькасць насельніцтва: у 1825 г. было каля 11 тыс., у 1845 г.— каля 18 тыс. ж. У 1830—40-я гады на месцы старажытнага горада пабудавана Брэсцкая крэпасць. Было распрацавана некалькі праектаў, якія на аснове гістарычнай схемы прадугледжвалі далейшае развіццё планіроўкі і забудовы Брэст-Літоўска. Гэтыя планы не ажыццявіліся. У 1869-я гады працавалі 5 тытунёвых фабрык, 8 заводаў па вырабу свечак, гарбарныя, шапачна-капялюшныя, швейныя, фарбавальныя і інш. майстэрні. У 1861 г. было 178 крам, 60 харчэўняў, 5 пастаялых і 2 заезныя дамы, карчма, кандытарская. Пасля завяршэння будаўніцтва чыгунак Брэст — Варшава (1869 г.), Масква — Брэст (1871 г.), Кіеў — Брэст (1873 г.), Брэст — Гомель (1884 г.) горад стаў буйным чыгуначным вузлом. Паводле перапісу 1897 г., яго насельніцтва 46,6 тыс. чалавек. З 1865 г. дзейнічала чатырохкласная мужчынская прагімназія, з 1874 г.— прыватная бібліятэка, з 1885 г.— музычнае таварыства.

Горад інтэнсіўна забудоўваўся ў 2-й палавіне 19— пачатку 20 ст. Значна расшырылася яго тэрыторыя, ставіліся мураваныя жылыя і грамадскія будынкі. Цэнтральная частка фарміравалася ў межах сучасных вуліц Савецкай і Маскоўскай, дзе будаваліся пераважна двухпавярховыя мураваныя жылыя дамы з крамамі на першым паверсе. У цэнтры былі пабудаваны гасціны двор з крамамі (1842 г., не захаваўся), чыгуначны вакзал, мужчынская гімназія (1903 г., цяпер корпус педагагічнага інстытута), зімовы тэатр (пачатак 20 ст.), касцёл святога Крыжа (1856 г.), Сімяонаўскі сабор (1862 г.), Мікалаеўская царква (1906 г.). Праводзілася добраўпарадкаванне і азеляненне горада. З ростам рабочага класа (у канцы 1890-х гадоў на прадпрыемствах, у рамесніцкіх майстэрнях было занята 1,1 тыс. рабочых) актывізавалася яго барацьба супраць бязлітаснай эксплуатацыі, за палітычныя і эканамічныя правы. Першыя выступленні пралетарыяту ў Брэсце адбыліся ў 1873 г. на цагельным заводзе. У 1897 г. ў горадзе існавала тайнае таварыства рабочых і рамеснікаў. Першы сацыял-дэмакратычны гурток аформіўся ў канцы 19 ст. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. дзейнічала Брэсцкая арганізацыя РСДРП, адбыліся выступленні рабочых і салдат. Палітычную работу сярод салдат гарнізона вяла Брэсцкая ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП. Яна кіравала выступленнямі салдат 1905—06 гг.

Напярэдадні 1-й сусветнай вайны ў горадзе 53 тыс. ж., 30 дробных прадпрыемстваў і рамесных майстэрняў, 2 тэатры, кінематограф, музычна-драматычнае таварыства, чатырохкласнае і 6 прыходскіх двухкласных вучылішчаў, 2 гімназіі, прыватнае сямiклас-

нае камерцыйнае вучылішча, таварыства выкладчыкаў, бібліятэка імя М. В. Гогаля, 2 урачы, 17 фельчараў і акушэрак.

У 1-ю сусветную вайну Брэст-Літоўск у ноч на 26.8.1915 г. акупіраваны нямецкімі войскамі. З 9(22).12.1917 г. да 3.3.1918 г. тут адбываліся мірныя перагаворы паміж Савецкай Расіяй і дзяржавамі германскага блока. 3.3.1918 г. падпісаны Брэсцкі мірны дагавор. У лютым 1919 г. Брэст захоплены войскамі буржуазнай Польшчы. Тут дзейнічала падпольная камуністычная арганізацыя на чале з Я. Б. Быкіным. 1.8.1920 г. ў Брэст-Літоўск уступілі часці Чырвонай Арміі. Улада перайшла да Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. 19.8.1920 г. горад зноў захоплены войскамі буржуазнай Польшчы. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. Брэст-Літоўск у складзе Заходняй Беларусі адышоў да Польшчы. У 1921—39 гг.— цэнтр Палескага ваяводства.

Планіровачнае развіццё горада ішло ў заходнім напрамку. На тэрыторыі, абмежаванай сучаснымі вуліцамі Маскоўскай, Леніна, паркам імя 1 Мая, у 1922—39 гг. пабудаваны новы жылы раён (арх. Ю. Лісецкі). У цэнтральнай частцы горада ўзведзены шэраг грамадскіх будынкаў. У 1937 г. насельніцтва 51,2 тыс. чалавек. Працавалі чыгуначныя, кравецкія, збраёвая і механічныя майстэрні, электрастанцыя, тытунёвая фабрыка, гарэлачны завод акцыянернага таварыства «Познань», піваварны завод «Карона», лесапільныя заводы, млын. Страцілі сваё значэнне пазбаўленыя расійскага рынку Дняпроўска-Бугскі канал і чыгуначны вузел. Заняпад назіраўся і ў галіне асветы і культуры. Да 1939 г. ў Брэсце не было ніводнай беларускай школы. У 1936 г. з 18 агульнаадукацыйных школ — 10 дзяржаўных (8 сямікласных, пяцікласная, шасцікласная) і 8 прыватных. З 5 гімназій толькі адна была дзяржаўная. Навучанне вялося ў асноўным на польскай мове. Працавалі гарадская бібліятэка і 3 кінатэатры. Матэрыяльнае становішча працоўных было цяжкім. У 1930—32 гг. колькасць беспрацоўных у горадзе павялічылася з 1,7 тыс. да 4,4 тыс. чалавек.

Амаль 20 гадоў працоўныя Заходняй Беларусі вялі барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У 1921—22 гг. яе ўзначальвала Камуністычная рабочая партыя Польшчы. У 1923 г. створаны Брэсцкі акруговы камітэт КПЗБ, у 1924 г.— брэсцкія акруговы і гарадскі камітэты КСМЗБ. Пад кіраўніцтвам камуністаў у 1922 г. баставалі рабочыя друкарняў горада, у 1923 г.— чыгуначнікі і рабочыя кравецкіх майстэрняў, тытунёвай фабрыкі, лесапільнага завода. 26.4.1925 г. адбылася дэманстрацыя рабочых у гонар 1 Мая, 21.2.1926 г.— буйная дэманстрацыя беспрацоўных. У 1927 г. створана падпольная друкарня ЦК КПЗБ. Летам 1928 і 1929 гг. баставалі рабочыя 3 лесапільных заводаў. 1930 год быў адзначаны буйнымі забастоўкамі чыгуначнікаў. Сярод актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху — С. А. Дубовік, З. Ф. Паплаўскі, Р. Л. Каплан, П. А. Руцкі, Л. А. Носік, П. М. Козел. У студзені 1927 г. тут адбыўся палітычны працэс 31-го, на якім былі прыгавораны да катаржных работ вядомыя дзеячы КПЗБ В. З. Харужая, З. Ф. Паплаўскі, Р. М. Калепік, Л. П. Герасімук і інш.



I. *Забудова вуліцы Савецкай.*

Калі 1.9.1939 г. Германія напала на Польшчу, Савецкі ўрад прыняў рашэнне ўзяць пад абарону насельніцтва Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. 17 верасня Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую граніцу, 22 верасня ўступіла ў Брэст. Жыхары горада з радасцю сустрэлі армію-вызваліцельніцу.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР пачалася работа па сацыялістычнай перабудове гаспадаркі Брэста, паляпшэнню эканамічных і культурных умоў жыцця працоўных. Як і ў іншых гарадах Заходняй Беларусі, у Брэсце было ліквідавана беспрацоўе. У пачатку 1940 г. ў горадзе дзейнічалі 24 прамысловыя прадпрыемствы, адноўлены рух па Дняпроўска-Бугскім канале. На 1.9.1940 г. працавалі 17 агульнаадукацыйных школ, педагагічны і чыгуначны тэхнікумы, 3 тэхнічныя вучылішчы. У 1940 г. пачаў дзейнічаць Рускі драматычны тэатр. Адкрываліся новыя медыцынскія і дзіцячыя ўстановы. З 4.12.1939 г. Брэст — абласны цэнтр БССР. У 1939 г. 41,4 тыс. жыхароў.

22.6.1941 г. Брэст і крэпасць аднымі з першых прынялі на сябе ўдар нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Упартыя баі ішлі на вуліцах горада. Бяспрыкладны гераізм паказалі абаронцы крэпасці, якія больш за месяц у цяжкіх умовах блакады адбівалі атакі ворага. Нямецка-фашысцкія захопнікі ўстанавілі ў горадзе бязлітасны акупацыйны рэжым. Яны загубілі больш за 34 тыс. грамадзян, знішчылі ўсе прадпрыемствы, культурна-асветныя ўстановы, 48,7 % жыллёвага фонду. У Брэсце дзейнічалі партыйнае, камсамольскае і антыфашысцкае падполлі.

У выніку Люблінска-Брэсцкай аперацыі 28.7.1944 г. горад вызвалены войскамі 1-га Беларускага фронту (камандуючы Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі). 47 вайсковым злучэнням і часцям нададзена ганаровае найменне «Брэсцкіх». Пачалося аднаўленне гаспадаркі горада. У першую чаргу наладзілі работу чыгункі. 2.8.1944 г. ў Брэст прыбыў першы эшалон. Уся краіна дапамагала брэстчанам. Быў адбудаваны чыгуначны мост цераз Заходні Буг. 1.9.1944 г. пачалі працаваць школы, дзіцячыя сады, бальніцы. У кароткі тэрмін наладжана энерга- і водазабеспячэнне, поўнасцю здадзены ў эксплуатацыю чыгуначны вузел, порт і Дняпроўска-Бугскі канал. У першыя пасляваенныя гады рэканструяваны і пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы, шмат увагі аддавалася жыллёваму будаўніцтву, рабоце культурна-асветных устаноў.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны Брэст адбудоўваўся паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1948 г. ў інстытуце «Белдзяржпраект». Захоўваецца гістарычная схема планіроўкі, ствараюцца прамысловыя зоны, новыя жылыя раёны, удасканальваюцца транспартныя сувязі. Галоўныя магістралі — вул. Леніна (поўнач — поўдзень), якая злучыла Прывакзальную пл. з набярэжнай р. Мухавец, і вул. Маскоўская (захад — усход) ад Брэсцкай крэпасці да Мінскай шашы. Рэ-



1. *Бульвар Шаўчэнкі. Від з боку р. Мухавец.*

канструяваны вуліцы Пушкінская, Савецкая, Камсамольская, Дзяржынскага. Тут у 1951—57 гг. пабудаваны жылыя дамы (арх. А. Сувораў, З. Леўчанка). Добраўпарадкавана Прывакзальная пл., адноўлены разбураны ў гады вайны будынак вакзала (1956 г., інж. І. Пестракоў). У 1957—67 гг. пабудаваны комплексы жылых і грамадскіх будынкаў па вуліцах Леніна, Маскоўскай, Набярэжнай, Інтэрнацыянальнай (арх. А. Гарбачоў, З. Леўчанка, А. Сувораў, Р. Шылай, А. Шкляр). Узведзены грамадскія будынкі ў цэнтральнай частцы горада: універмаг (1955 г.), швейнае атэлье (1956 г., арх. А. Сувораў), гасцініца «Буг» (1958 г., арх. Г. Бенядзіктаў), Дом палітычнай асветы (1964 г., арх. Л. Маскалевіч). Добраўпарадкаваны гарадскі парк культуры і адпачынку, бульвары Гогаля, Міцкевіча, Шаўчэнкі. У 1962—65 гг. устаноўлены бюсты М. В. Гогаля і А. Міцкевіча. У 1965 г. ў скверы на пл. Свабоды ўзведзены помнік Вызвалення. У 1960-я гады закончана будаўніцтва і добраўпарадкаванне пл. Леніна, якая стала адміністрацыйна-грамадскім цэнтрам горада. Архітэктурны ансамбль гэтай плошчы складае комплекс уцалелых і новых грамадскіх і жылых будынкаў. Яго кам-

пазіцыйны цэнтр — помнік У. І. Леніну. У заходняй частцы плошчы — будынкі Ленінскага райкома КПБ і райвыканкома, аблвыканкома, банка, у паўднёвай — Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. Усходняя частка плошчы забудавана ў 1961—63 гг. (будынак аблсаўпрофа, шматкватэрныя жылыя дамы з гандлёвымі і грамадскімі ўстановамі на першых паверхах; арх. Р. Будзько, З. Леўчанка, Л. Маскалевіч, А. Сувораў). У планіровачнай структуры горада важнае месца займае афармленне набярэжнай р. Мухавец. На вул. Набярэжнай склаўся выразны архітэктурны ансамбль жылых дамоў. Цэнтр кампазіцыі — два 9-павярховыя жылыя дамы (1961 г., арх. А. Гарбачоў, Р. Шылай), якія архітэктурна аформілі ўезд у горад з захаду. У ансамбль уваходзіць шырокі сквер на беразе Мухаўца, 12-павярховыя жылыя дамы, якія стварылі выразны сілуэт забудовы. Новы генплан, распрацаваны ў 1965 г. ў «Белдзяржпраекце», прадугледжваў далейшае развіццё горада ва ўсходнім напрамку. У 1960—70-я гады тут пабудаваны прамысловы вузел: дывановы і панчошны камбінаты, электралямпавы і электрамеханічны заводы і інш. Разам з прамысловым вузлом з 1967 г. вядзецца забудова новага жылога раёна Усход (арх. В. Анікін, А. Кудзіненка, П. Лагуноўская), які ўключае 7 мікрараёнаў і грамадскі цэнтр. На Партызанскім пр. пабудаваны ансамбль 9-павярховых жылых дамоў, Палац культуры (у парку адпачынку), на вул. Маскоўскай — студэнцкі гарадок Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. У цэнтральнай частцы горада — новыя будынкі гасцініцы «Беларусь» (1971 г., арх. З. Леўчанка), музычнай школы (1973 г., арх. Р. Шылай), абкома камсамола (1974 г., арх. Р. Будзько), абкома партыі, вытворча-тэхнічнага ўпраўлення сувязі (1975 г.) і кінатэатра «Беларусь» (1977 г.), сфарміраваны новы культурна-бытавы цэнтр. Узведзены 10-павярховая гасцініца «Інтурыст», Дом гандлю. Цэнтр забудовы — чатыры 10-павярховыя жылыя дамы (арх. Р. Будзько, Л. Маскалевіч, А. Сувораў), новыя 9-павярховыя 260-кватэрныя жылыя дамы з магазінамі (арх. В. Анікін, А. Ляшук, Р. Шылай). У пачатку вуліцы Маскоўскай аформлены цэнтральны ўезд у Брэсцкую крэпасць, дзе ў 1971 г. адкрыты мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой.

У 1975 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва закончана карэкціроўка генплана, паводле якога Брэст, акрамя ўсходняга, атрымлівае тэрытарыяльнае развіццё і ў паўднёвым напрамку. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр, які склаўся на



І. *Плошча Леніна.*

пл. Леніна, развіваецца па вул. Леніна, дзе ўзведзены будынак вылічальнага цэнтра. Планіровачная структура горада складаецца з 4 раёнаў (цэнтральны, усходні, паўднёвы і паўночны). У кожным, акрамя жылля, арганізоўваюцца культурна-бытавыя цэнтры, зоны адпачынку, прадугледжваюцца зручныя транспартныя сувязі з прамысловымі прадпрыемствамі.

Сучасны Брэст — адзін з буйных прамысловых цэнтраў рэспублікі. На яго долю прыпадае 1/4 валавой прадукцыі вобласці. Значнае месца ў прамысловай структуры горада займаюць электрапрыладабудаванне (электралямпавы і электрамеханічны заводы), машынабудаванне і металаапрацоўка (заводы газавай апаратуры, аўтарамонтны, металавырабаў, сельскагаспадарчага машынабудавання). Шырока вядомы прадпрыемствы: лёгкай прамысловасці — дывanова-суконнае аб'яднанне (дывановы камбінат і суконная фабрыка), панчошны камбінат, фабрыкі верхняга трыкатажу, абутковая, швейная, сувеніраў і інш.; прамысловасці будаўнічых матэрыялаў (камбінаты будаўнічых матэрыялаў і домабудаўнічы, заводы жалезабетонных вырабаў, зборнага жалезабетону і інш.), дрэваапрацоўчай (мэблевая фабрыка), хімічнай (завод бытавой хіміі), харчовай (мясакамбінат, малочны і хлебапрадуктаў камбінаты, хлебазавод, піваварна-безалкагольны, лікёра-гарэлачны, віна-сокавы заводы і інш.).

Брэст — буйны транспартны вузел знешнегандлёвых сувязей СССР з краінамі Захаду. Тут сыходзяцца важнейшыя чыгуначныя і аўтамабільныя магістралі саюзнага значэння. Чыгуначны вузел поўнасцю рэканструяваны, механізаваны Брэсцкі рачны порт.

На 1.1.1981 г. ў Брэсце 2 ВНУ (педагагічны імя А. С. Пушкіна і інжынерна-будаўнічы інстытуты), 4 сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы (будаўнічы і чыгуначнага транспарту тэхнікумы, медыцынскае і музычнае вучылішчы), 5 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, 29 агульнаадукацыйных школ, 51 дзіцячая дашкольная ўстанова. Працуюць абласныя тэатры (драматычны імя Ленінскага камсамола, лялек), 30 клубных устаноў, 24 кінаўстаноўкі, 90 масавых бібліятэк, музеі абароны Брэсцкай крэпасці-героя і абласны краязнаўчы, абласныя аддзяленні Саюза архітэктараў БССР, Саюза журналістаў БССР, Саюза мастакоў БССР, Саюза пісьмен-



І. *Панарама забудовы ўздоўж р. Мухавец.*



I. *Брэсцкі абласны драматычны тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі.*




I. *Гасцініца «Беларусь».*

нікаў БССР, Дом народнай творчасці, народны тэатр і народная харавая капэла клуба чыгуначнікаў, народная харавая капэла настаўнікаў, народны ансамбль песні і танца «Брастчанка», народны ансамбль песні і танца «Прыбужжа», народны гарадскі ансамбль танца «Радасць», народны хор аблсаўпрофа, народны духавы аркестр электрамеханічнага завода. Выходзяць абласная газета «Заря» і раённая «Заря над Бугом». Працуюць абласныя радыёвяшчанне і студыя тэлебачання.

У горадзе 10 бальнічных і 30 амбулаторна-паліклінічных устаноў і кансультацый (у т. л. 6 дыспансераў), 45 фельчарскіх пунктаў, санітарна-эпідэміялагічная станцыя, 10 аптэк, Дом санітарнай асветы.

Уздоўж р. Мухавец ствараецца паркавая зона. На паўднёвы ўсход ад Брэста на азёрах Белае, Рагазнянскае, Чорнае — турысцкія базы, дамы адпачынку.

*Літ.:* Белогорцев И. Д. Развитие западных городов Белоруссии: (Методический материал в помощь лектору).— Брест, 1971; Белоруссия и Литва: Исторические судьбы Северо-Западного края.— СПб., 1890; Бескровный Л. Г. Отечественная война 1812 года.—М., 1968; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т.1.— Мн., 1936; Зоненберг Х. История города Брест-Литовска. 1016—1907.— Варшава, 1908; Науменко В. Я. Брест: Историко-экономический очерк.— Мн., 1970; Рашевский Н. А. Брестская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1975; Саркисов Н., Горбачев А., Кузнецова С. Бресту — 950 лет.— Архитектура СССР, 1969, № 8.

*М. І. Алексяюк, І. Д. Белагорцаў, В. Б. Караткевіч, А. Д. Кудзіненка, Т. І. Чарняўская.*

**1. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт., гіст.). На скрыжаванні вуліц Будзённага і 17 Верасня (вул. Будзённага, 41). Пабудаваны ў 1920-я гады з цэглы як будынак гарадскога суда. Цяпер у ім размешчана ўпраўленне юстыцыі Брэсцкага аблвыканкома.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак. Галоўны ўваход з вул. Будзённага вылучаны рызалітам, завершаным прамавугольным атыкам. Фасады раскрапаваны спаранымі лапаткамі і радамі гарызантальных паясоў. Фасад на вул. 17 Верасня сіметрычны, фланкіраваны рызалітамі. Унутраная планіроўка калідорная. У ёй вылучаецца прамавугольная зала пасяджэнняў. Дзве міжпаверхавыя лесвічныя клеткі размешчаны па вуглах дваровага фасада.

10—17.1.1927 г. ў будынку адбыўся палітычны працэс над 31 членам КПЗБ (працэс 31-го). Каб задушыць рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі, польскія буржуазныя ўлады ў ноч на 7.11.1925 г. правялі ў Брэсце і навакольных вёсках масавыя арышты. За краты трапіла каля 200 членаў КПЗБ і спачуваючых. 31 член КПЗБ прыцягнуты да судовай адказнасці. Сярод іх В. З. Харужая,

З. Ф. Паплаўскі, Л. П. Герасімук, Р. М. Каленік, Х. Д. Шэрцман, Ф. С. Строкач і інш.

В. З. Харужая была накіравана на падпольную работу ў Заходнюю Беларусь у лютым 1924 г. Адважная падпольшчыца распаўсюджвала нелегальную партыйную літаратуру, арганізоўвала камсамольскія канферэнцыі і сходы, выступала на мітынгах, пісала адозвы і артыкулы для падпольных газет, арганізавала выданне газеты ЦК КСМЗБ «Малады камуніст». У чэрвені 1924 г. выбрана сакратаром ЦК КСМЗБ, членам ЦК КПЗБ і ЦК камсамола Польшчы. У верасні 1925 г. ў час падрыхтоўкі Беластоцкай акруговай канферэнцыі КПЗБ арыштавана.

Працэс 31-го выліўся ў пратэст падсудных і працоўных горада супраць буржуазна-памешчыцкага ладу. Пасля абвяшчэння прыгавору (В. З. Харужая, З. Ф. Паплаўскі, Л. П. Герасімук, Х. Д. Шэрцман, А. Х. Раф — 6 гадоў зняволення, Ф. С. Строкач — 5, астатнія — 4 гады) асуджаныя заспявалі «Інтэрнацыянал».

У 1965 г. на будынку, дзе адбыўся працэс, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗБ — актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.— Мн., 1958.

*Г. Б. Ватковіч, А. М. Кулагін.*

**2. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). Вул. Леніна, 11. Пабудаваны ў 1938 г. з цэглы як ваяводскае ўпраўленне. Цяпер будынак аблвыканкома.

Чатырохпавярховы аб'ём меў спачатку прамавугольную форму з выступаючымі на галоўным і дваровым фасадах цэнтральнымі рызалітамі. У 1960 г. прыбудавана чатырохпавярховае крыло, якое надало плану Г-падобную форму. Цэнтральная частка на ўсю вышыню будынка вылучана пілонамі. Перад уваходам — дэкаратыўныя газоны. Першы паверх аддзелены ад верхніх шырокім гарызантальным поясам. Рыфленая тынкоўка сцен прарэзана рустам. Планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў. Прастора вестыбюля чляніцца 2 радамі круглых, абліцаваных штучным чорным мармурам калон. Шырокая трохмаршавая лесвіца ў вестыбюлі вядзе на другі паверх, дзе размешчана зала пасяджэнняў. Ніжняя частка сцен цэнтральнага хола і парэнчаў лесвіцы абліцавана мармурам карычневых таноў. Сцены хола другога паверха і вестыбюля руставаныя. Столь залы пасяджэнняў расчлянёна глыбокімі кесонамі.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры, створаны пад уплывам канструктывізму.

*А. А. Міцянін.*

**3. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). Вул. Энгельса, 3. Узведзены ў 1977 г. (арх. Р. Шылай, інж. Г. Кароль, І. Дунайка) як будынак абкома КПБ. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя ствараецца на кантрастным проціпастаўленні высокага 6-павярховага Г-падобнага ў плане корпуса і нізкага шасціграннага аб'ёму залы пасяджэнняў на 320 месцаў. Галоўны фасад з высокім абліцаваным цёмным паліраваным гранітам цокалем арыентаваны ў бок плошчы Леніна. Яго рытм ствараецца пілонамі з алюмініевымі рэбрамі на ўсю вышыню будынка, чаргаваннем аконных праёмаў. Асноўны корпус мае калідорную сістэму планіроўкі. Зала пасяджэнняў далучана да кароткага крыла, мае выхад ва ўнутраны дворык адпачынку. У дэкаратыўнай аздобе інтэр'ера выка-



1. *Адміністрацыйны будынак. План 1-га паверха.*



1. *Адміністрацыйны будынак.*



2. *Адміністрацыйны будынак на вуліцы Леніна.*



3. *Адміністрацыйны будынак на вуліцы Энгельса.*



4. *Ансамбль жылых дамоў на бульвары Касманаўтаў.*



4. *План 1-га паверха жылога дома № 96 на бульвары Касманаўтаў.*

рыстаны граніт, мармур, мастацкі паркет, дэкаратыўная тынкоўка. У парадным вестыбюлі першага паверха ўстаноўлены бюст У. І. Леніна.

Будынак — узор новага тыпу адміністрацыйных збудаванняў савецкай архітэктуры. *Т. І. Чарняўская.*

**4. АНСАМБЛЬ ЖЫЛЫХ ДАМОЎ** (архіт.). Бульвар Касманаўтаў. Сфарміраваны ў 1979 г. (арх. Р. Шылай, А. Казюкоў, Р. Будзько) з 3 аднолькавых па свайму архітэктурна-планіровачнаму вырашэнню 9-павярховых дамоў (№ 92, 94, 96), аб'яднаных аднапавярховымі блокамі гандлёва-бытавых устаноў. Кожны 60-кватэрны дом складаецца з 2 аб'яднаных лесвічна-ліфтавым вузлом карпусоў. Тыпавыя паверхі карпусоў уключаюць аб'яднаныя вакол калідора кватэры з утульнымі жылымі пакоямі, прасторнымі кухнямі, убудаванымі шафамі, балконамі ці лоджыямі. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя ансамбля ствараецца кантрастным процістаўленнем высокіх і нізкіх аб'ёмаў. Сцены жылых будынкаў абліцаваны керамічнай пліткай цёмна-ружовага колеру.

Ансамбль — прыклад новага аб'ёмна-прасторавага вырашэння магістральнай забудовы галоўных вуліц жылымі дамамі. *Т. І. Чарняўская.*

**5. АНСАМБЛЬ ЖЫЛЫХ ДАМОЎ** (архіт.). Вул. Набярэжная. Сфарміраваны ў 1978 г. (арх. Р. Шылай, інж. С. Мартынаў, І. Дунайка) з 3 аднолькавых 12-павярховых дамоў (№ 28, 32, 38), да першых паверхаў якіх прыбудаваны аднапавярховыя карпусы грамадскіх і гандлёва-бытавых устаноў (прадуктовы магазін, бібліятэка, Дом шлюбу).

Планіровачная структура жылых дамоў вырашана блакіроўкай 2 жылых карпусоў на 55 кватэр кожны з выхадам на лесвічную клетку з 2 ліфтамі. На кожным паверсе 10 кватэр (па 5 у кожным корпусе) палепшанай планіроўкі. Пластыку фасадаў ствараюць вертыкальныя канструкцыйныя рэбры, а таксама размешчаныя ў шахматным парадку балконы і лоджыі. Фасады абліцаваны светлай керамічнай пліткай.

Ансамбль — прыклад комплексу жылых дамоў, характэрных для новых мікрараёнаў. *Т. І. Чарняўская.*

**6. АСАБНЯКІ ГАРАДСКІЯ** (архіт.). Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы, маюць аналагічную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, вызначаюць фронт забудовы вул. А. Міцкевіча.

**6а.** Асабняк на скрыжаванні вуліц А. Міцкевіча і Камсамольскай, 22/20. У ім размешчана адміністрацыйная ўстанова. Цэнтральная частка — двухпавярховая з двухсхільным дахам, 2 бакавыя — аднапавярховыя з вальмавымі дахамі.



5. *Жылы дом на вуліцы Набярэжнай, 32.*



5. *План 2-га паверха жылога дома № 32 на вуліцы Набярэжнай.*

Галоўны (паўднёвы) фасад вылучаны чатырохкалонным порцікам з драўляным трохвугольным франтонам над уваходам. На 2-м паверсе на ўсю шырыню порціка балкон з драўлянай балюстрадай. Дваровы фасад аформлены 4 паўкалонамі, якія адпавядаюць кампазіцыі порціка галоўнага фасада. Вонкавы дэкор: руставаны цокаль, прафіляваны карніз і сандрыкі над прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У цэнтры 1-га паверха быў вестыбюль, да якога прылягалі жылыя памяшканні, на 2-м — парадная зала і пакоі (унутраная планіроўка часткова зменена). Будынак мае цокальны паверх.

**6б.** Асабняк на скрыжаванні вул. А. Міцкевіча і Савецкай, 26/13. У ім размешчана медыцынская ўстанова. Мае сіметрычную кампазіцыю: цэнтральная частка двухпавярховая, 2 бакавыя — аднапавярховыя. Галоўны фасад вылучаны чатырохкалонным порцікам з франтонам і балконам. Уваход па лесвіцы, прыбудаванай да тарца. Унутраная планіроўка зменена.

Асабнякі — помнікі жылой архітэктуры з рысамі класіцызму.

*Т. І. Чарняўская.*

**7. БЕРАСЦЕЙСКАЕ ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На тэрыторыі Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці. У час будаўніцтва крэпасці рэльеф мясцовасці зменены, зніклі прыкметы, характэрныя для гарадзішчаў старажытнарускіх гарадоў. Таму пытанне аб месцы размяшчэння старажытнага Бярэсця доўгі час было нявырашаным. Выявіў у 1969 г. і даследаваў на працягу 1969—81 гг. П. Ф. Лысенка. Раскопкамі 1969—70 гг. пацверджана меркаванне, што дзядзінец старажытнага Бярэсця знаходзіўся на мысе, утвораным правым берагам Заходняга Буга і левым берагам левага прытока Мухаўца. Шурфы і раскопы, закладзеныя каля падножжа гарадзішча і на паверхні пяцівугольнага бастыёна, выявілі культурны пласт (да 7 м) старажытнага горада. Трохвугольная форма гарадзішча, рэшткі абарончага рова з боку поля, археалагічныя знаходкі сведчаць аб тым, што дзядзінец знаходзіўся менавіта на мысе і яго рэшткі пры будаўніцтве крэпасці былі выкарыстаны як падножжа бастыёна. Культурны пласт дзядзінца мае высокую вільготнасць і добра захаваў рэчы арганічнага і неарганічнага паходжання. Пры раскопках выяўлены рэшткі жылых і гаспадарчых пабудоў, насцілы ў дварах, парканы. На плошчы раскопу (26×54 м) ускрыты 3 паралельныя вуліцы, накіраваныя з усходу на захад; вулічны насціл з тоўстых колатых дошак на падоўжных падвалінах, пад якімі ляжалі папярок бярвенні. Асноўным планіровачным элементам былі вуліцы. У 1969—81 гг. выяўлена больш за 200 пабудоў 12 будаўнічых ярусаў. Усе тыпу наземных аднакамерных будынкаў зрубнай канструкцыі, квадратныя ў плане. Даўжыня сцен жылых пабудоў 3,2—6 м, гаспадарчых — 2,6—3,4 м. У жылых (часам і гаспадарчых) будынках падлога з дошак, печы глінабітныя і з выкарыстаннем цэглы. Забудова шчыльная. Ёсць пабудовы, у якіх захавалася па 12 вянкоў зруба. У 3 будынках цалкам зберагліся дзвярныя праёмы. Меткі-насечкі на сценах некаторых пабудоў сведчаць аб тым, што будынкі перанесены на пастаяннае месца пасля ўзвядзення зруба.

У культурным пласце знойдзены прылады працы (нарог сахі, сярпы, косы, акоўка рыдлёўкі, нажы, нажніцы, ліцейная формачка, жорны, драўляная нажная ступа і інш.), прадметы ўзбраення, амуніцыя конніка і збруя (фрагмент пласцiністых даспехаў, наканечнікі коп'яў, стрэл, шпоры, фрагменты стрэмя і цугляў, ка-



6а. *Гарадскі асабняк. План 1-га паверха.*



6а. *Гарадскі асабняк. Галоўны фасад.*




7. *Берасцейскае гарадзішча. Схема размяшчэння дзядзінца.*



7. *Берасцейскае гарадзішча. Рэшткі пабудоў 13 ст.*



7. *З раскопак Берасцейскага гарадзішча: рэчы гаспадарчага прызначэння, самшытавы грабеньчык з алфавітам, вязаная рукавіца, бранзалеты.*

валкі кальчугі, крыжавіна мяча), рэчы бытавога прызначэння (замкі і ключы да іх, крэсіва, дзвярныя кольцы і прабоі, клямкі і інш.), жаночыя ўпрыгожанні (бранзалеты, падвескі, спражкі, заходнелітоўская фібула, білонны колт). Шмат вырабаў з дрэва (вёслы, абады і спіцы ад колаў, часткі санак, ткацкага станка, верацёны, лыжкі, кавалкі посуду і інш.), скуры (ножны, футаралы, кашалькі, абутак). Найбольш цікавыя знаходкі — самшытавы грабеньчык з выразанымі на абодвух баках літарамі кірыліцы ад А да Л (напісанне, характэрнае для пачатку 13 ст.), запэцканая фарбай касцяная пласцінка, накшталт мастыхіна мастака, вязаная шарсцяная рукавічка. Гарадзішча датуецца 11—13 стагоддзямі. Упершыню ў СССР раскапаныя пабудовы закансерваваны (1971 г.) у палявых умовах. Кансервацыя вялася пад кіраўніцтвам прафесара В. Я. Віхрова. На аснове выяўленай забудовы на тэрыторыі старажытнага Бярэсця створаны археалагічны музей.

*Літ.:* Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974; яго ж. Раскопкі Бярэсця.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 1; яго ж. Раскопки древнего Берестья.— У кн.: Археологические открытия 1969 года. М., 1970; яго ж. Археологическое изучение древнего Берестья.— У кн.: Тезисы докладов советской делегации на IV Международном конгрессе славянской археологии. София, сент. 1980 г. М., 1980; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972.
*П. Ф. Лысенка.*

**8. БРАЦКАЯ МАГІЛА БУДАЎНІКОЎ КАНАЛА** (гіст.). На беразе р. Мухавец, каля шлюза Дняпроўска-Бугскага канала. Пахаваны галоўны інжынер будаўніцтва канала Р. І. Шыфрын, начальнік атрадаў І. І. Абрадзін і У. М. Кудыш, галоўны інжынер атрада Л. К. Папоў і начальнік аховы гідравузла І. М. Бачкоў, якіх у кастрычніку — лістападзе 1944 г. забілі ворагі Савецкай улады. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Літвін А. М. Дняпроўска-Бугскі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1977. № 4. *А. С. Барысавец.*

**9. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Маскоўская, на Трышынскіх могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі 7.7.1945 г. ў барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады. У 1945 г. на магіле пастаўлены 3 абеліскі.

**10. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Могілкі былой в. Рэчыца. Пахаваны 88 савецкіх воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёсак Рэчыца і Клейнікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**11. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне горада, у скверы. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**12. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Леніна, у гарадскім парку імя 1 Мая. Пахаваны 72 воіны і сакратар Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б Іван Іванавіч Баброў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Васіль Іванавіч Аляксандраў, Сяргей Нічанаравіч Бамбураў, Віктар Аляксандравіч Малясаў, Павел Якаўлевіч Мацвееў, Сямён Нікіфаравіч Мірвода, Валянцін Ягоравіч Сітноў, Георгій Ільіч Скрыннікаў, Міхаіл Міхайлавіч Сцяжкін, Абрам Ісакавіч Тарнопальскі, Аляксандр Ігнатавіч Уласавец.



12. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

В. І. Аляксандраў нарадзіўся 7.4.1919 г. ў в. Загор'е Удомельскага р-на Калінінскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну з верасня 1941 г. на Паўднёвым, Крымскім, Паўднёва-Усходнім, Бранскім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтральным, 1-м Беларускім франтах. Гвардыі старшы сяржант В. І. Аляксандраў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра і ў баях за вызваленне Брагінскага р-на Палескай вобл. (верасень 1943 г.). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Загінуў у баі 29.7.1944 г.

І. І. Бабpoў нарадзіўся ў сакавіку 1905 г. ў в. Малыгіна Кашынскага р-на Калінінскай вобл. Член КПСС з 1925 г. У 1919—28 гг. рабочы. У 1930—38 гг. на партыйнай рабоце ў Ленінградзе. У 1940 г. скончыў Вышэйшую школу партарганізатараў пры ЦК ВКП(б). З сакавіка 1940 г. загадчык прамысловага аддзела, з сакавіка 1941 г. сакратар Брэсцкага абкома КП(б)Б. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны на Заходнім фронце, палітработнік, з жніўня 1942 г. ў Цэнтральным штабе партызанскага руху, з лістапада 1942 г. ў распараджэнні Беларускага штаба партызанскага руху, з сакавіка 1943 г. памочнік упаўнаважанага гэтага штаба па Брэсцкай вобл., сакратар Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б. Загінуў 1.11.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у в. Бялавічы Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл.

С. Н. Бамбураў нарадзіўся 10.9.1914 г. ў с. Варашылава Севернага р-на Арэнбургскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1938 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У жніўні 1938 г. ў баі супраць японскіх захопнікаў каля воз. Хасан праявіў мужнасць і адвагу, выйшаў з варожага акружэння. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.10.1938 г. У 1941 г. скончыў Ваенна-палітычную акадэмію імя У. І. Леніна. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Ленінградскім і 1-м Беларускім франтах, намеснік камандзіра палка па палітчастцы, з лістапада 1944 г. камандзір палка. Загінуў 6.2.1945 г. ў баі за г. Гнезна (ПНР).

В. А. Малясаў нарадзіўся 4(17).11.1917 г. ў Ташкенце. З рабочых. Член КПСС з 1942 г. У 1942 г. скончыў Ташкенцкае пяхотнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну з мая 1942 г. на Заходнім, Цэнтральным, Бранскім, 1-м Беларускім франтах, капітан. 28.9.1943 г. ў час баёў за вызваленне Брагінскага р-на Палескай вобл. батальён пад камандаваннем В. А. Малясава першым фарсіраваў



13. *Брацкая царква. План.*



13. *Брацкая царква. Фрагмент бакавога фасада.*



13. *Брацкая царква. Галоўны фасад.*

Дняпро, захапіў плацдарм і ўтрымліваў яго, пакуль пераправіліся іншыя падраздзяленні палка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Удзельнік фарсіравання Прыпяці, Заходняга Буга, вызвалення Брэста. Загінуў у баі 17.10.1944 г. на тэрыторыі Польшчы.

П. Я. Мацвееў нарадзіўся ў 1915 г. ў в. Палянскае Сасноўскага р-на Горкаўскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1940 г. У Чырвонай Арміі з 1937 г. Скончыў ваеннае авіяцыйнае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г., камандзір атрада авіяпалка далёкага дзеяння. Зрабіў 200 начных баявых вылетаў, бамбіў ваенныя аб'екты і аэрадромы праціўніка ў Польшчы і Германіі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.3.1944 г. Загінуў у баі 9.4.1945 г.

С. Н. Мірвода нарадзіўся ў 1904 г. ў г. Піраціп Палтаўскай вобл. Член КПСС з 1928 г. У Чырвонай Арміі з 1926 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Крымскім, Сталінградскім і 2-м Украінскім франтах. У пачатку сакавіка 1944 г. ў баях на подступах да г. Умань камандзір танкавай брыгады палкоўнік С. Н. Мірвода паказаў прыклад мужнасці і адвагі, быў паранены. 18.3.1944 г. з групай танкаў і аўтаматчыкаў фарсіраваў Днестр. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 12.5.1944 г. Загінуў у баі 3.8.1944 г. на тэрыторыі Польшчы.

В. Я. Сітноў нарадзіўся 5.12.1918 г. ў с. Сырасёва Дзівееўскага р-на Горкаўскай вобл. З сялян. У 1938 г. скончыў Дзяржынскі хімічны тэхнікум, у 1939 г.— авіявучылішча. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г., камандзір эскадрыллі бамбардзіровачнай авіяцыі. Зрабіў 222 баявыя вылеты. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.6. 1942 г. У 1943 г. збіты ў баі, паранены, трапіў у палон. Быў у канцлагерах Асвенцім, Бухенвальд. У красавіку 1945 г. ўдзельнічаў у паўстанні вязняў Бухенвальда. Пасля вызвалення ваяваў на 1-м Украінскім фронце. Загінуў 20.12.1945 г. пры выкананні службовых абавязкаў.

Г. І. Скрыпнікаў нарадзіўся 4.5.1908 г. ў с. Султан Курсаўскага р-на Стаўрапольскага краю. З сялян. Член КПСС з 1942 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., камандзір стралковага батальёна. У ліпені 1944 г. батальён пад камандаваннем капітана Г. І. Скрыпнікава першым фарсіраваў Заходні Буг, захапіў плацдарм, адбіў 7 контратак праціўніка, пад Брэстам разграміў каля 2 варожых батальёнаў. Быў паранены, але не пакінуў поля бою. Загінуў 15.8.1944 г. ў баі пад Варшавай. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

М. М. Сцяжкін нарадзіўся 12.11.1920 г. ў с. Уалушка Маймінскага р-на Горна-Алтайскай аўтаномнай вобл. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г., камандзір гарматы, сяржант. 28.6.1944 г. каля в. Княжыцы Магілёўскага р-на агнём з гарматы адбіў контратаку ворага, знішчыў некалькі гармат і аўтамашын, нанёс страты жывой сіле праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.8.1944 г. Загінуў 24.12.1944 г. ў баі на тэрыторыі Польшчы.

А. І. Тарнопальскі нарадзіўся 28.2.1912 г. ў г. Нежын Чарнігаўскай вобл. ў сям'і служачых. Член КПСС з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. 28.9.1943 г. пры вызваленні Брагінскага р-на Палескай вобл. батальён пад камандаваннем гвардыі капітана А. І. Тарнопальскага фарсіраваў Дняпро, захапіў плацдарм, адбіў контратаку праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Гвардыі маёр А. І. Тарнопальскі загінуў 27.7.1944 г. ў баі за вызваленне Брэста.

А. І. Уласавец нарадзіўся 26.7. 1901 г. ў в. Лапацічы Слуцкага р-на Мінскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1925 г. У Грамадзянскую вайну партызан у Слуцкім пав. З 1922 г. ў Чырвонай Арміі. У 1928 г. скончыў Ленінградскую школу ваенных зносін. З ліпеня 1942 г. на Сталінградскім, Сцяпным, 2-м Украінскім франтах, камандзір стралковага палка, гвардыі падпалкоўнік. 26.9.1943 г. полк пад камандаваннем А. І. Уласаўца фарсіраваў Дняпро ў раёне Новы Орлік — Барадаеўка Днепрапятроўскай вобл., захапіў плацдарм, нанёс ворагу вялікія страты. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1943 г. Загінуў 23.1.1945 г. пры вызваленні Польшчы.

У 1945 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**13. БРАЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Савецкая, 10. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер у будынку размешчаны Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобл.

Пабудова крыжова-купальная з пяціграннай апсідай. У дэкоры выкарыстана форма какошніка. У кампазіцыі будынка дамінуе высокая шатровая званіца з галоўкай на васьмігранным барабане. Над цэнтральным аб'ёмам пяцікупалле. Цэнтральны шлемападобны купал — на цыліндрычным барабане. Галоўны ўваход вылучаны шырокім ганкам з трохпралётнай аркадай.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

# БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ — ГЕРОЙ

1. Усходнія валы
2. Усходні форт
3. Паўночныя вароты
4. Паўночна-заходнія вароты
5. Руіны шпіталя

1. **Галоўны ўваход**
2. **Усходняя частка галоўнага вала. Казематы**
3. Скульптурная кампазіцыя „Смага“
4. Руіны Белага палаца
5. Плошча Цырыманіялаў
6. **Галоўны манумент „Мужнасць“**
7. Штык-абеліск
8. Некропаль-калумбарый
9. Вечны агонь
10. Руіны будынка інжынернага ўпраўлення
11. Холмскія вароты
12. Цярэспальскія вароты
13. Руіны казармы 9-й пагранзаставы
14. Руіны казармы 333-га стралковага палка
15. Руіны чырвонаармейскага клуба
16. Месца штаба абаронцаў крэпасці
17. Музей абароны Брэсцкай крэпасці-героя
18. Усходні форт

**14. БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ** (гіст., архіт., маст.). На заходняй ускраіне г. Брэста. Комплекс помнікаў гісторыі, архітэктуры і манументальнага мастацтва.

**14а.** Крэпасць пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. на месцы старажытнага горада, на ўтвораных рэкамі Буг, Мухавец і сістэмай каналаў астравах. Складалася з 4 умацаванняў: Цэнтральнага (Цытадэлі), Цярэспальскага (Заходняга), Валынскага (Паўднёвага), Кобрынскага (Усходняга).

Важнае ваенна-стратэгічнае становішча, якое займаў Брэст-Літоўск на захадзе Расійскай імперыі, абумовіла выбар яго месцам для будаўніцтва крэпасці. Стварыць фартыфікацыйныя ўмацаванні менавіта ў сутоку Буга і Мухаўца прапанаваў у 1797 г. ваенны інжынер Дэвалан. Праект крапаснога ўмацавання распрацавалі (зацверджаны ў 1830 г.) рускія ваенныя інжынеры — генералы К. І. Оперман і Малецкі, палкоўнік А. І. Фельдман. Спачатку былі ўзведзены часовыя ўмацаванні, якія ў 1832—42 гг. перабудаваны. 1.6.1836 г. закладзены першы камень будучай крэпасці. Адкрыта 26.4. 1842 г.; агульная плошча 4 км², даўжыня галоўнай крапаснай лініі 6,4 км.

Галоўны абарончы вузел — Цытадэль — самкнёная двухпавярховая абарончая казарма даўжынёю 1,8 км са сценамі амаль двухметровай таўшчыні і 500 казематамі, у якіх маглі размясціцца 12 тыс. чалавек з неабходным для ваенных дзеянняў рыштункам. Нішы сцен казармы з байніцамі і амбразурамі былі прыстасаваны для артылерыі і стралкоў. З Кобрынскім умацаваннем Цытадэль злучалася праз Брэсцкія і Беластоцкія вароты і мост цераз Мухавец, з Цярэспальскім — праз аднайменныя вароты і самы вялікі на той час у Расіі канатны мост цераз Буг, з Валынскім — праз Холмскія вароты і разводны мост цераз Мухавец. Холмскія вароты мелі 4 вежы з зубцамі. Пяціярусная вежа з дазорнай пляцоўкай над Цярэспальскімі варотамі надбудавана пазней. Над уязным праёмам былі 4 ярусы вузкіх акон-байніц. У будынку кляштара езуітаў (пабудаваны ў 1623 г., аднаўлены ў 1679 г.) размяшчалася канцылярыя каменданта крэпасці. Будынак кляштара базыльян (1629 г., пазней вядомы пад назвай Белы палац) быў перабудаваны пад афіцэрскае казіно. Архітэктурны цэнтр Цытадэлі — пабудаваная на самым высокім месцы гарнізонная Мікалаеўская царква (1856—79 гг., арх. Д. Грым). У былым кляштары бернардзінцаў (на Валынскім умацаванні) у 1841—60 гг. размяшчаўся Брэсцкі Аляксандраўскі кадэцкі корпус, пазней — вайсковы шпіталь. Цярэспальскае, Кобрынскае, Валынскае перадмаставыя ўмацаванні з рэдутамі, сістэмай бастыёнаў, валоў і водных перашкод прыкрывалі цэнтральны востраў. Па знешняй лініі крэпасці ішоў земляны вал вышынёю да 10 м з цаглянымі казематамі, за ім — каналы з перакінутымі цераз іх мастамі, якія вялі за межы крэпасці. У пачатку свайго існавання Брэсцкая крэпасць была адным з найболып дасканалых крапасных умацаванняў Расіі. Крымская вайна 1853—56 гг. паставіла перад фартыфікацыяй новыя патрабаванні. У 1857 г. генерал Э. І. Татлебен падрыхтаваў запіску аб мадэрнізацыі рускіх умацаванняў у адпаведнасці з узрослай магутнасцю артылерыі. У 1864 г. пачалася рэканструкцыя Брэсцкай крэпасці. Пабудаваны Заходні і Усходні рэдуты (форты) — падкованападобныя валы з казематамі, траверсы, парахавыя склепы, у 1878—88 гг. яшчэ 10 фортаў. Абарончая лінія дасягнула 30 км. У выніку 2-й рэканструкцыі (1911—14 гг.) Брэсцкага абарончага комплексу, у якой прымаў удзел ваенны інжынер Дз. М. Карбышаў, цалкам мадэрнізавана лінія ўмацаванняў. На адлегласці 6—7 км ад крэпасці стваралася другая лінія, частка якой знаходзілася за жылымі кварталамі горада. Будаўніцтва і рэканструкцыя фортаў крэпасці да пачатку 1-й сусветнай вайны не былі завершаны.



**14а.** *Крэпасць Брэст-Літоўск у 1840 годзе. З карціны мастака Б. Залескага.*

У 1-ю сусветную вайну рускае камандаванне, каб пазбегнуць акружэння, эвакуіравала з крэпасці гарнізон і ўзарвала (жнівень 1915 г.) некаторыя яе ўмацаванні. У 1918 г. на тэрыторыі Цытадэлі, у Белым палацы, падпісаны Брэсцкі мір.

У верасні 1939 г., калі войскі фашысцкай Германіі напалі на Польшчу, частка Цытадэлі разбурана, пашкоджаны будынкі Белага палаца і інжынернага ўпраўлення.

З павышэннем мабільнасці і ўдасканаленнем тэхнічнай узброенасці армій Брэсцкая крэпасць як ваеннаабарончы комплекс паступова траціла сваё ранейшае значэнне. Да Вялікай Айчыннай вайны выкарыстоўвалася для расквартаравання часцей Чырвонай Арміі.

22.6.1941 г. гарнізон крэпасці першым прыняў удар нямецка-фашысцкай арміі, больш месяца гераічна трымаў абарону. У вайну крэпасць моцна разбурана. Знішчаны або пашкоджаны амаль усе будынкі, якія мелі гістарычную і мастацкую каштоўнасць. *І. Дз. Белагорцаў.*

**14б.** Месца рэвалюцыйных выступленняў салдат гарнізона ў 1905 і 1906 гг. Рэвалюцыйны рух рабочых і сялян у 1905—07 гг. зрабіў уплыў і на армію. Пры Брэсцкай арганізацыі РСДРП з канца 1905 г. да кастрычніка 1906 г. дзейнічала ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП, якая вяла работу сярод салдат гарнізона крэпасці. У яе ўваходзілі рабочы І. І. Зінаўчук (кіраўнік), салдаты М. М. Какавіхін і Анісі-



**14а.** *Межавы знак паміж Брэсцкай крэпасцю і горадам Брэстам.*



14а. *Брэсцкая крэпасць. Холмскія вароты.*

маў, пісары Аляксандраў, Гарохаў, урач Іваноў. Арганізацыя вяла рэвалюцыйную агітацыю, у жніўні і лістападзе 1905 г. выдала адозвы «Да салдат Брэст-Літоўскай крэпасці», «Да ўсіх салдат Брэст-Літоўскай крэпасці і гарнізона», лістоўку «26 патрабаванняў салдат да начальства».

24.11.1905 г. рота крапасной артылерыі на чале са старшым пісарам Аляксандравым арганізавала мітынг, у якім прынялі ўдзел 7, 11, 12, 15 і 16-я роты. Салдаты патрабавалі вызваліць севастопальскіх і кранштацкіх рэвалюцыйных матросаў, якія адбывалі пакаранне ў Брэсцкай крэпасці, і салдат-агітатараў гарнізона, палепшыць умовы службы і г. д. Гучалі заклікі змагацца з царызмам, браць прыклад з паўстаўшых салдат Харкава і Гродна. Выступленне артылерыстаў не падтрымала пяхота, і яно было задушана.

Пад уплывам рэвалюцыйных падзей у краіне 9—10.7.1906 г. выступілі салдаты 2-га асаднага артылерыйскага палка Брэсцкага гарнізона. Яны адмовіліся ісці супраць бастуючых, патрабавалі вызваліць арыштаваных таварышаў, дазволіць атрымліваць газеты і г. д. Калі пачаліся арышты, салдаты спалілі памяшканне лагернага афіцэрскага сходу, паранілі некалькі афіцэраў. Нягледзячы на падтрымку іншых часцей, сувязь з батальёнамі ў крэпасці ўстанавіць не ўдалося. Выступленне было задушана, 700 яго ўдзельнікаў зняволены.

У памяць аб рэвалюцыйных выступленнях салдат на сцяне каля Паўночных варот крэпасці ў 1967 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Бальшавікі Беларусі ў першай рускай рэвалюцыі.— Мн., 1955; Липинский Л. П., Лукьянов Е. П. Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900—1907 гг.).— Мн., 1968; Майзель Л. Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей.— Мн., 1934.

*В. Б. Караткевіч.*



14а. *Брэсцкая крэпасць. Руіны Цярэспальскіх варот.*

**14в.** Месца падпісання Брэсцкага міру 1918 г.

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі адным з першых дэкрэтаў, прынятых II Усерасійскім з'ездам Саветаў 26.10(8.11).1917 г., быў Дэкрэт аб міры. У ім Савецкі ўрад прапанаваў усім дзяржавам, якія ўдзельнічалі ў 1-й сусветнай вайне, спыніць ваенныя дзеянні і пачаць перагаворы аб міры. Дзяржавы Антанты не адказалі на гэту прапанову. Савецкі ўрад быў вымушаны адзін пайсці на перагаворы з Германіяй і яе саюзнікамі. 2(15) снежня падпісана пагадненне аб перамір'і, 9(22) снежня ў будынку інжынернага ўпраўлення крэпасці пачаліся мірныя перагаворы. Кіраўнік савецкай дэлегацыі А. А. Іофэ прапанаваў мір без анексій і кантрыбуцый. Выкарыстаўшы цяжкае становішча Савецкай рэспублікі, Германія запатрабавала тэрыторыю больш за 150 тыс. км² (Польшча, Літва, частка Украіны, Беларусі, Латвіі, Эстоніі). У. І. Ленін лічыў, што неабходна прыняць гэтыя ўмовы міру, каб даць краіне перадышку, захаваць Савецкую ўладу. Супраць іх выступіла група «левых камуністаў» на чале з М. І. Бухарыным. 10.2.1918 г. Германія выставіла ўльтыматум. Замест таго, каб выканаць дырэктыву Саўнаркома аб заключэнні дагавору,




**14а.** *Брэсцкая крэпасць. Паўночныя вароты.*

Л. Д. Троцкі, які на той час узначальваў дэлегацыю, заявіў, што Савецкая рэспубліка спыняе ваенныя дзеянні, дэмабілізуе армію, але мір падпісваць не будзе. 18.2.1918 г. нямецкія войскі перайшлі ў наступленне. У выніку вострай і ўпартай барацьбы У. І. Леніна і яго прыхільнікаў супраць «левых камуністаў» большасць членаў ЦК выказалася за падпісанне міру на германскіх умовах. Атрымаўшы згоду Савецкага ўрада, прадстаўнікі Германіі выставілі больш жорсткія ўмовы міру, далі на яго падпісанне 48 гадзін. 3.3.1918 г. ў будынку Белага палаца быў падпісаны дагавор паміж Савецкай Расіяй з аднаго боку і Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Турцыяй, Балгарыяй — з другога. Паводле ўмоў Брэсцкага міру Савецкая Расія траціла значную частку тэрыторыі (каля 1 млн. км²), паводле руска-германскага фінансавага пагаднення, падпісанага 27.8.1918 г., павінна была выплаціць кантрыбуцыю ў 6 млрд. марак. Нягледзячы на цяжкія ўмовы, Брэсцкі мір даў маладой Савецкай рэспубліцы перадышку, дапамог сабраць сілы, каб адстаяць рэвалюцыю. Пасля Лістападаўскай рэвалюцыі 1918 г. ў Германіі Брэсцкі дагавор быў ануляваны.

У 1976 г. на руінах Белага палаца, дзе быў падпісаны Брэсцкі мір, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Майоров С. М. Борьба Советской России за выход из империалистической войны.— М., 1959; Почанин С. З. В грозовом восемнадцатом: Большевистские организации Белоруссии в борьбе за власть Советов в 1918 году.— Мн., 1969. *В. Б. Караткевіч.*

**14г. Абарона Брэсцкай крэпасці ў 1941 г.** На дзень вераломнага нападу гітлераўскай Германіі на СССР у крэпасці дыслацыраваліся падраздзяленні 6-й і 42-й стралковых дывізій, 33-га інжынернага палка і 17-га пагранічнага атрада, частка батальёна войск НКУС. Часці былі ўкамплектаваны па штатах мірнага часу. Частка іх знаходзілася ў лагерах, на будаўніцтве ўмацаванага раёна, на палігонах. З пачаткам баявых дзеянняў каля палавіны асабовага складу здолела выйсці ў раёны канцэнтрацыі войск, у крэпасці асталося крыху больш за 3 тыс. чалавек. Акружаныя ворагам, ва ўмовах вострага недахопу, а потым і адсутнасці боепрыпасаў, медыкаментаў, вады і прадуктаў, воіны гарнізона здзейснілі неўміручы подзвіг.

Штурм Брэсцкай крэпасці пачала 45-я пяхотная дывізія 12-га корпуса 4-й нямецкай арміі. Сілы ворага пераважалі над сіламі гарнізона амаль у 10 разоў. Нямецкае камандаванне меркавала авалодаць крэпасцю адразу. Пасля інтэнсіўнай артылерыйскай падрыхтоўкі і бамбардзіроўкі вораг перайшоў у наступленне, уварваўся на тэрыторыю Цярэспальскага і Валынскага ўмацаванняў. Асобныя штурмавыя групы праніклі ў Цытадэль. Савецкія воіны аказалі нямец-



**14а.** *Брэсцкая крэпасць. Руіны Мікалаеўскай царквы.*



**14а.** *Брэсцкая крэпасць. Фрагмент казармы (паміж Холмскімі і Цярэспальскімі варотамі).*



**14в.** *Брэсцкая крэпасць. Белы палац. Здымак пачатку 20 ст.*

ка-фашысцкім захопнікам упартае супраціўленне. Яны мужна адбівалі атакі ворага і самі неаднаразова пераходзілі ў контратаку. Разлік ворага на раптоўнасць быў сарваны. Першы бой у Цытадэлі прынялі байцы 84-га стралковага палка на чале з палкавым камісарам Я. М. Фаміным. На Кобрынскім умацаванні пайшлі ў контратаку чырвонаармейцы 125-га стралковага палка пад камандаваннем капітана У. В. Шаблоўскага, на Валынскім — група курсантаў палкавой школы 84-га стралковага палка і пагранічнікі, на Цярэспальскім — пагранічнікі, якіх узначалілі старшыя лейтэнанты Ф. М. Мельнікаў і А. С. Чорны, лейтэнант А. М. Кіжаватаў. Пакінуўшы на полі бою забітых і параненых, гітлераўцы вымушаны былі адступіць. Яны ўтрымалі толькі невялікія ўчасткі перадмаставых умацаванняў крэпасці. У наступныя дні баі мелі яшчэ больш жорсткі характар. Савецкім воінам даводзілася адбіваць у дзень па 6—8 атак. Фашысты пусцілі ў ход танкі і агнямёты, у кароткія прамежкі адноснага зацішша праз рэпрадуктары гучалі іх заклікі здавацца ў палон. 29—30 чэрвеня цаною вялікіх страт гітлераўцам удалося захапіць Цярэспальскае, Валынскае ўмацаванні і заходнюю частку Кобрынскага. У Цытадэлі і на астатняй тэрыторыі Кобрынскага ўмацавання прадаўжаліся ўпартыя баі. Два тыдні моцным вузлом абароны былі Усходнія валы. Тут самааддана змагаліся артылерысты 98-га асобнага супрацьтанкавага артылерыйскага дывізіёна на чале з намеснікам камандзіра па палітчасці старшым палітруком М. В. Несцерчуком і начальнікам штаба лейтэнантам І. П. Акімачкіным. На Кобрынскім умацаванні найбольш буйным участкам баёў стаў Усходні форт, дзе камандзір 44-га стралковага палка маёр П. М. Гаўрылаў сфарміраваў з байцоў розных падраздзяленняў атрад з 400 чалавек і ўзначаліў абарону. На чале партыйнай арганізацыі, створанай у час баёў, стаў палітрук С. С. Скрыпнік. Абавязкі начальніка штаба выконваў капітан К. Ф. Касаткін. Каб зламаць супраціўленне абаронцаў, гітлераўцы ўжылі газы, агнямёты, скідалі з земляных валоў падпаленыя бочкі з бензінам. Але мужныя патрыёты працягвалі барацьбу. Пасля 13 ліпеня невялікая група абаронцаў на чале з П. М. Гаўрылавым вырвалася з Усходняга форта і працягвала барацьбу з знешняга вала. 23 ліпеня цяжкапаранены П. М. Гаўрылаў трапіў у палон.



**14д.** *Брэсцкая крэпасць. Памятны знак на месцы казармы 9-й заставы 17-га Чырванасцяжнага пагранатрада.*

Жорсткія баі разгарэліся ў Цытадэлі. Штурмавыя групы ворага імкнуліся захапіць будынак чырвонаармейскага клуба, ператварыць яго ў свой апорны пункт, але да канца першага дня вайны былі выбіты. 24.6.1941 г. адбылася нарада камандзіраў і палітработнікаў, на якой створаны штаб абароны, зводная баявая група (камандзір — капітан І. М. Зубачоў, намеснік камандзіра — палкавы камісар Я. М. Фамін) і аддадзены «Загад № 1». Паводле рашэння штаба атрад абаронцаў на чале з лейтэнантам А. А. Вінаградавым 26 чэрвеня пайшоў на прарыў. За ім павінны былі выйсці з акружэння астатнія групы гарнізона, але далейшыя спробы прарвацца аказаліся беспаспяховымі. Праз варожае кальцо прабілася толькі некалькі груп. Некаторыя з іх дайшлі да лініі фронту і злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі, астатнія пайшлі ў партызанскія атрады.

Групы, якія засталіся ў крэпасці, працягвалі барацьбу. Не хапала боепрыпасаў, прадуктаў, вады. Побач з байцамі былі жанчыны і дзеці. Яны памагалі раненым, падносілі патроны, самі вялі агонь па фашыстах. Не вытрымлівалі мураваныя сцены, плавілася цэгла, але савецкія воіны не скараліся. Нават вораг быў уражаны



**14в.** *Брэст. Белы палац. Мірныя перагаворы. 1918 г.*




**14д.** *Брэсцкая крэпасць. Памятны знак на месцы прарыву 26 чэрвеня 1941 г. групы абаронцаў.*

стойкасцю і гераізмам абаронцаў крэпасці. У сваім данясенні камандзір 45-й нямецкай пяхотнай дывізіі генерал Шліпер вымушаны быў прызнаць, што «рускія ў Брэст-Літоўску змагаліся выключна ўпарта і настойліва. Яны паказалі выдатную вывучку пяхоты і праявілі нязломную волю да барацьбы». Нямыя сведкі гераізму і мужнасці апошніх абаронцаў крэпасці — палымяныя надпісы, якія героі пакінулі на сценах крапасных казематаў і сутарэнняў: «Загінем, але з крэпасці не пойдзем...», «Паміраем не ганьбячы...», «Паміраю, але не здаюся. Бывай Радзіма! 20.VII.41 г.». У дні абароны Брэсцкай крэпасці яскрава выявілася непарушнае адзінства народаў СССР. Плячо ў плячо тут змагаліся прадстаўнікі больш як 30 нацыянальнасцей. Абарона Брэсцкай крэпасці — прыклад мужнасці і стойкасці савецкага народа, легендарная старонка яго барацьбы за свабоду і незалежнасць Радзімы.

У старых мурах крэпасці, якая даўно страціла значэнне абарончага ўмацавання, савецкія воіны на працягу некалькіх тыдняў скоўвалі дзеянні 45-й нямецкай дывізіі. Толькі за 9 дзён абароны гэта дывізія страціла 482 забітымі і больш як 1000 параненымі салдат і афіцэраў. Савецкія воіны да канца выканалі свой абавязак перад Радзімай — яны змагаліся да таго часу, пакуль рукі трымалі зброю, пакуль біліся іх сэрцы. Абарона Брэсцкай крэпасці — адзін з найвялікшых подзвігаў савецкага народа ў гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, гэта прыклад воінскай славы і доблесці, бязмежнай адданасці ідэям камунізма, палымянай любві да сацыялістычнай Радзімы. Савецкі народ, Камуністычная партыя, Савецкі ўрад высока ацанілі выключны гераізм абаронцаў крэпасці. У 1957 г. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР маёру П. М. Гаўрылаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Пасмяротна званне Героя Савецкага Саюза прысвоена лейтэнанту А. М. Кіжаватаву. Каля 200 удзельнікаў абароны ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. 8.5.1965 г. крэпасці прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой» з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка». На тэрыторыі крэпасці створаны велічны архітэктурна-скульптурны мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой.

*Літ.:* Брестская крепость: Путеводитель по местам боев.— 7 изд.— М., 1967; Брестская крепость-герой: Фотоповесть.— [Мн., 1966]; Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд. — Мн., 1977; Героическая оборона: Сборник воспоминаний об обороне Брестской крепости в июне — июле 1941 г.— 4 изд.— Мн., 1971; Непокорённая Белоруссия: Воспоминания и статьи о всенародном партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг.).— М., 1963; В памяти народной.— Мн., 1969.

*Л. У. Кісялёва.*



**14д.** *Мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой. Галоўны ўваход.*

**14д. Мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой.** Ва ўсходняй частцы цэнтральнага вострава. Адкрыты 25.9.1971 г. Аўтарскі калектыў: народны мастак СССР скульптар А. Кібальнікаў (галоўны мастацкі кіраўнік), народны архітэктар СССР У. Кароль, народны мастак БССР скульптар А. Бембель, скульптар У. Бабыль, архітэктары В. Волчак, В. Занковіч, Ю. Казакоў, А. Стаховіч, Г. Сысоеў.

Комплекс уключае манументальны галоўны ўваход, пад'езды і плошчы, галоўны манумент «Мужнасць», штык-абеліск, плошчу Цырыманіялаў, тэрасы-трыбуны, некропаль-калумбарый, скульптурную кампазіцыю «Смага», уцалелыя збудаванні і руіны крэпасці. Галоўны ўваход уяўляе сабой урэзаны ў вал маналітны бетонны масіў з праёмам у цэнтры ў выглядзе зоркі. Сколы перакрыжоўваюцца ў складанай дынамічнай форме, што



**14д.** *Брэсцкая крэпасць. Мемарыяльная дошка на будынку, у якім 24.6.1941 г. быў падпісаны «Загад № 1».*




**14д.** *Мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой. Дошка з тэкстам Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні Брэсцкай крэпасці ганаровага звання «Крэпасць-герой».*

стварае святлоценявыя кантрасты, уражанне напружанасці і імклівасці. Бетонны масіў галоўнага ўвахода падтрымліваюць адхоны вала і цагляныя сцены ўцалелых казематаў; на сцяне каля ўвахода металічная дошка з тэкстам Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні Брэсцкай крэпасці ганаровага звання «Крэпасць-герой». Ад галоўнага ўвахода ўрачыстая алея вядзе цераз мост да плошчы Цырыманіялаў. Злева ад моста — скульптурная кампазіцыя «Смага» — фігура савецкага воіна, які, апіраючыся на аўтамат, з каскай у руцэ цягнецца да вады. Выразны сілуэт, дынаміка, напружанасць кампазіцыі, насычанасць формы ствараюць вобраз вялікай эмацыянальнай сілы. У планіровачным і вобразным вырашэнні ансамбля важная роля належыць плошчы Цырыманіялаў (разлічана на 25—30 тыс. чалавек), на якой адбываюцца ўрачыстыя рытуалы. Плошчу з боку р. Мухавец замыкаюць уцалелыя будынкі казарм з казематамі, з процілеглага — будынак музея і руіны Белага палаца. Кампазіцыйны цэнтр комплексу — манумент «Мужнасць» (бетон колерам і фактурай нагадвае

**14д.** *Мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой. Від на плошчу Цырыманіялаў.*

каменны маналіт; вышыня 33,5 м) і штык-абеліск (вышыня 100 м). Манумент — пагрудная скульптура савецкага салдата, высечаная быццам са скалы. Схіленая галава воіна, магутныя плечы, адкрыты мужны твар ствараюць абагульнены вобраз савецкага воіна-пераможцы, абаронцы Савецкай Радзімы, гатовага змагацца за родную зямлю да канца. На адваротным баку манумента — рэльефныя кампазіцыі, якія адлюстроўваюць эпізоды абароны крэпасці. Уверсе — сюжэт «Атака»: выявы воінаў перад рыўком у атаку, фігура камандзіра дадзена больш маштабна. Унізе — гарэльеф «Партыйны сход» і рэльефы «Апошняя граната», «Подзвіг артылерыстаў», «Кулямётчыкі». Над прасторай мемарыяльнага комплексу дамінуе абліцаваны тытанам штык-абеліск. З манументам арганічна звязаны трыбуна і некропаль — 3 галерэі-калумбарыі, у якіх урны з прахам 833 загінуўшых абаронцаў крэпасці. Іх імёны (207, астатнія невядомыя) выкладзены аб'ёмнымі металічнымі літарамі. Некропаль абліцаваны плітамі лабрадарыту, 3 уступамі ўзнімаецца да пляцоўкі каля галоўнага манумента. Перад руінамі інжынернага ўпраўлення ў абліцаваным гранітам паглыбленні праз бронзавую пліту з выразанай у ёй пяціканцовай зоркай прабіваецца полымя Вечнага агню славы і народнага смутку. Перад плітой — адлітыя з бронзы словы: «Стаялі насмерць, слава героям!». На месцах канкрэтных падзей у крэпасці ўстаноўлены памятныя дошкі — Мемарыяльны каляндар 1941 г., які расказвае аб асноўных эпізодах абароны, і каменная глыба з уманціраванай у яе бронзавай зоркай і мемарыяльнай дошкай (на месцы былой 9-й пагранічнай заставы).

Схіленыя над каналам і р. Мухавец вербы, зарослыя хмызняком адхоны валоў, алеі руж узмацняюць эмацыянальнае ўздзеянне мемарыялу. Усе элементы кампазіцыі звязаны дарожкамі з чырвонага пластабетону. Дэкаратыўнае падсвечванне — чырвонае зарыва за галоўным манументам, глыбокія цені на яго блоку, барвовая падсветка руін, светлавыя пункціры нізкіх паўкруглых свяцільняў, зеленаватае свячэнне скульптурнай кампазіцыі «Смага», а таксама прыглушанае гучанне «Летуценняў» Р. Шумана і «Свяшчэннай вайны» А. Аляксандрава надаюць асаблівую вастрыню ўспрыманню комплексу. Глыбокі філасофскі сэнс, арыгінальная рэалістычная выразнасць выяўленчых сродкаў робяць яго адным з значных ансамбляў савецкага манументальнага мастацтва. Багаты фактычны матэрыял аб абароне крэпасці ў Вялікую Айчынную вайну знаходзіцца ў Музеі Брэсцкай крэпасці-героя.

*Літ.:* Сысоев Г. В., Казаков Ю. И. Стоящим насмерть.— Строительство и архитектура Белоруссии, 1971, № 4; Белоусов О. Памятники войне и миру.— Декоративное искусство СССР, 1972, № 7.

*Л. Г. Лапцэвіч.*



**14д.** *Мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой. Галоўны манумент «Мужнасць».*

**15. БУДЫНАК БАНКА** (архіт.) Вул. Леніна, 9. Пабудаваны ў 1926 г. з цэглы.

Трохпавярховы будынак з высокім цокальным паверхам. Вуглавая частка вырашана ў выглядзе дамінуючай над усёй пабудовай ратонды з высокім сферычным купалам. Цэнтральная частка крыла, што выходзіць на вул. Леніна, крыху выступае наперад і мае двухпавярховы аб'ём з высокімі вокнамі на 2-м паверсе, дзе размешчана галоўная аперацыйная за-



**14д.** *Мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой. Скульптурная кампазіцыя «Смага».*



14д. *Мемарыяльны комплекс Брэсцкая крэпасць-герой. Галоўны манумент «Мужнасць». Рэльефныя кампазіцыі.*

ла. Архітэктурны акцэнт зроблены на арыентаваных на плошчу і вул. Леніна аб'ёмах, сцены якіх чляняцца пілястрамі з іанічнымі капітэлямі і калонамі ў 3/4 (ратонда). У дэкаратыўнай апрацоўцы фасадаў выкарыстаны сферычныя нішы, сандрыкі на фігурных кранштэйнах, ляпныя элементы. Будынак вянчае развіты карніз, над якім — парапет-балюстрада. Унутраная планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем службовых памяшканняў. Цокальны паверх перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. На астатніх паверхах столь плоская. Па перыметры круглага ў плане вестыбюля размешчаны гранёныя слупы. Сцены вестыбюля і яго парадная вінтавая лесвіца дэкарыраваны рустам. Асаблівай урачыстасцю вызначаецца фае на 2-м паверсе ратонды і аперацыйная зала. Іх сцены расчлянёны пілястрамі і ўпрыгожаны ляпнымі элементамі.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры неакласіцызму.

*А. А. Міцянін, М. В. Чарнатай.*

**16. БУДЫНАК ДЗІЦЯЧАГА САДА** (архіт., маст.). Вул. Герояў абароны Брэсцкай крэпасці, 69. Пабудаваны ў 1977 г. (арх. Р. Будзько, А. Ляшук, інжынер І. Дунайка).

У аснову планіроўкі пакладзены тыпавы праект дзіцячага сада-яслаў на 280 месцаў з некаторымі прыбудовамі (адкрытыя веранды, плавальны басейн). Для кожнай узроставай дзіцячай групы прызначаны самастойны блок (спальні, сталовыя, пакоі для гульняў) з асобным уваходам. Усе блокі аб'яднаны гаспадарчымі і службовымі памяшканнямі, а таксама вялікай музычнай залай. На 2-м паверсе — адкрытая веранда для гульняў. На тэрыторыі двара — паветкі. Пла-



15. *Будынак банка.*



14д. *Будынак музея Брэсцкай крэпасці-героя.*



15. *Будынак банка. Фрагмент інтэр'ера.*



16. *Будынак дзіцячага сада. Мазаічнае пано «Кветкі на акне».*

вальны басейн злучаецца з корпусам падземным пераходам. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынка выкарыстаны каляровыя мазаічныя пано. На гладкіх тарцовых сценах пры ўваходзе ў кожны групавы блок і на фрызе басейна 6 кампазіцый: «Салют Перамогі», «Вясёлка над горадам», «Сонечны дзень», «Кветкі на акне», «Падводнае царства», «Плыўцы» (мастакі В. Пучкоў, Я. Русаў), а таксама мазаічнае пано ў інтэр'еры басейна (мастак Я. Аракчэеў). Лаканічныя сюжэты мазаік па характару набліжаюцца да дзіцячых малюнкаў, надаюць маляўнічасць і святочнасць усяму будынку. Дзве маляўнічыя кампазіцыі па матывах казак і дзіцячых гульняў упрыгожваюць інтэр'ер будынка (мастак Я. Русаў). У аздобе музычнай залы выкарыстаны дэкаратыўны каляровы вітраж.

Будынак дзіцячага сада — прыклад удалага спалучэння архітэктурных форм і дэкаратыўнага афармлення.

*Т. І. Чарняўская, Г. М. Ярмоленка.*

**17. БУДЫНАК ПОШТЫ** (архіт.). Вул. Маскоўская, 32. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Цяпер у правым крыле будынка службы міжгародняй



16. *Будынак дзіцячага сада. Мазаічнае пано «Сонечны дзень».*

16. *Будынак дзіцячага сада.*

4 Зак. 2447



**17.** *Будынак пошты.*

тэлефоннай станцыі, тэлеграфа і АТС, у левым — паштовае аддзяленне.

Двухпавярховы выцягнуты ў плане аб'ём з невялікімі бакавымі і развітым з боку дваровага фасада цэнтральным рызалітамі. Спачатку складаўся з 2 карпусоў, аб'яднаных перашыйкам са скразным праездам. Планіроўка анфіладная. Будынак накрыты вальмавым дахам, прарэзаным паўкруглымі дахавымі вокнамі. Паверхі дзеліць крапаваны пояс, які праходзіць па ўсім перыметры збудавання. Плоскасці сцен левай палавіны пабудовы апрацаваны рустам, аконныя праёмы аздоблены фігурнымі ліштвамі. Сцены правага крыла вылучаны вузкімі палічкамі і шырокімі ліштвамі ў верхняй, паўцыркульнай частцы акон 1-га паверха. Уваход вырашаны ў выглядзе партала, створанага шырокімі пілястрамі, з трохвугольным франтонам над ім.

Будынак — помнік грамадзянскай архітэктуры класіцызму. *А. А. Міцянін.*

**18. БУДЫНКІ ІНЖЫНЕРНА-БУДАЎНІЧАГА ІНСТЫТУТА** (архіт.). Вул. Маскоўская, 267. Уваходзяць у ансамбль мікрараёна Усход. Пабудаваны ў 1965—80 гг. на аснове тыпавога праекта.

Галоўны пяціпавярховы корпус (1965—67 гг.) — буйнамаштабны будынак, архітэктура якога заснавана на рытме вертыкальных пілонаў. Двухступеньчатая кампазіцыя галоўнага (паўночнага) фасада асіметрычная. З усходняга боку выступае глухі тарэц крыла з аўдыторыямі, з заходняга — корпус актавай залы. У афармленні маналітнай тарцовай плоскасці выкарыстана пано (чаканка), для дэкаратыўнай апрацоўкі канструкцыйных элементаў — светлая керамічная плітка. Асіметрычна размешчаны галоўны ўваход выдзелены шырокімі ганкам і казырком. З двара да галоўнага корпуса прымыкаюць крылы адміністрацыйных памяшканняў і спартзалы, якія ўтвараюць прасторны ўнутраны двор. Лесвічныя клеткі і вестыбюлі ўбудаваны ў месцах злучэння крылаў з галоўным корпусам.

У аснову планіроўкі галоўнага корпуса пакладзена калідорная схема з двухбаковым размяшчэннем аўдыторый. У дэкоры ўваходнага вестыбюля пано (чаканка), паліхромная падлога з мармуровай крошкі, зялёны газон. У галоўным корпусе 80 аўдыторый, 2 лекцыйныя залы, вырашаныя амфітэатрам, на 200 месцаў кожная, больш за 60 лабараторый, спартыўная і актавая залы, бібліятэка, кнігасховішча, чытальня.

Крыты пераход на ўзроўні 2-га паверха злучае галоўны корпус з чатырохпавярховым навучальна-лабараторным, у якім 20 аўдыторый і 30 лабараторый.

Архітэктура будынкаў інстытута адпавядае функцыянальным і эстэтычным патрабаванням сучасных навучальных устаноў.
*І. Д. Белагорцаў, А. М. Кулагін.*

**19. БЮСТ КЛІМУКА** Пятра Ільіча (гіст., маст.). На скрыжаванні вул. Маскоўскай і бульвара Касманаўтаў. Устаноўлены ў 1978 г. ў гонар двойчы Героя Савецкага Саюза генерал-маёра авіяцыі лётчыка-касманаўта СССР П. І. Клімука.

П. І. Клімук нарадзіўся 10.7.1942 г. ў в. Камароўка Брэсцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1963 г. У 1963 г. скончыў Чарнігаўскае вышэйшае авіяцыйнае вучылішча, у 1977 г.— Ваенна-паветраную акадэмію імя Ю. А. Гагарына. У атрад касманаўтаў залічаны ў 1965 г., прайшоў поўны курс падрыхтоўкі да касмічных палётаў. Першы арбітальны палёт у якасці камандзіра карабля «Саюз-13» разам з бортінжынерам В. В. Лебедзевым ажыццявіў 18—26.12.1973 г. За 8 сутак касманаўты паспяхова правялі навукова-тэхнічныя і медыка-біялагічныя даследаванні і эксперыменты. Праводзілася спектрграфаванне асобных участкаў зорнага неба і фатаграфаванне актыўных участкаў Сонца. За паспяховае выкананне арбітальнага палёту П. І. Клімуку 28.12.1973 г. прысвоены званні лётчыка-касманаўта СССР і Героя Савецкага Саюза.

Другі, 63-сутачны, палёт у космас у якасці камандзіра касмічнага карабля «Саюз-18» здзейсніў 24.5—26.7.1975 г. разам з бортінжынерам В. І. Севасцьянавым. На арбітальнай станцыі «Салют-4», састыкаванай з касмічным караблём «Саюз-18», упершыню ў практыцы касмічных палётаў выканана комплекснае фота- і спектрграфічнае даследаванне палярных ззянняў і серабрыстых воблакаў. Палёт у космас П. І. Клімука і В. І. Севасцьянава стаў чарговым этапам на шляху вырашэн-



**18.** *Галоўны корпус інжынерна-будаўнічага інстытута.*

ня адной з галоўных задач касманаўтыкі — павелічэння працягласці палётаў, адаптацыі чалавека ў космасе і рэадаптацыі яго ў зямных умовах пасля палёту. Экіпаж «Саюза-18» двойчы выходзіў на сувязь з касманаўтамі карабля «Саюз-19», якія ўдзельнічалі ў праграме «Саюз — Апалон». 27.7.1975 г. за паспяховае выкананне палёту на арбітальным комплексе «Салют-4» — «Саюз-18» П. І. Клімук узнагароджаны ордэнам Леніна і 2-м медалём «Залатая Зорка».

У 3-м палёце 27.6—5.7.1978 г. П. І. Клімук узначальваў міжнародны экіпаж на касмічным караблі «Саюз-30». Разам з грамадзянінам ПНР М. Гермашэўскім правёў стыкоўку з арбітальным навуковым комплексам «Салют-6» — «Саюз-29». На працягу 7 сутак касманаўты У. В. Кавалёнак, А. С. Іванчэнкаў, П. І. Клімук і М. Гермашэўскі вялі візуальныя назіранні і фатаграфаванне розных раёнаў паверхні Зямлі, праводзілі тэхналагічныя і медыка-біялагічныя эксперыменты, падрыхтаваныя вучонымі і спецыялістамі СССР і ПНР. 5.7.1978 г. за паспяховае выкананне праграмы палёту П. І. Клімук быў узнагароджаны 3-м ордэнам Леніна. Дзяржаўны Савет ПНР узнагародзіў яго ордэнам «Крыж Грунвальда» 1-й ступені. П. І. Клімук — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1979 г., лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР 1978 г.

Пагрудны бюст касманаўта ўстаноўлены на высокім гранітным пастаменце (скульпт. І. Міско, арх. С. Баткоўскі; бронза, чырвоны граніт; вышыня пастамента 3 м, бюста 1,1 м). У развароце выпрастаных плячэй, развароце галавы, выразных рысах твару — рашучасць і цвёрдасць. Мундзір, выявы ўзнагарод удакладняюць характарыстыку героя. Ніз пастамента абвіты бронзавым вянком. Асіметрычны гранітны стылабат з 3 прыступкамі злева агінае бардзюр. На пастаменце рэльефная выява 2 ордэнаў Леніна і 2 медалёў «Залатая Зорка». Ніжэй накладнымі бронзавымі літарамі даецца тэкст Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні П. І. Клімука ордэнам Леніна і 2-м медалём «Залатая Зорка».

Спалучэнне паліраванага чырвонага граніту пастамента і стылабата з цёмнай бронзай бюста надае яму дэкаратыўны эфект і ўзмацняе яго гераічнае гучанне. Вакол разбіты газоны, высаджаны дрэвы.

*Літ.:* Клімук П. І. Зоры — побач: Кніга аднаго палёту.— Мн., 1977; Ваганов И. И., Панасюк Н. В., П. И. Климук.— Мн., 1976.

*В. М. Баскова, Л. Г. Лапцэвіч.*




19. *Бюст П. І. Клімука.*

**20. ГАНДЛЁВА-БЫТАВЫ ЦЭНТР** (архіт.). Вул. Маскоўская, 19. Пабудаваны ў 1978 г. на месцы былых гандлёвых радоў. У аснове пабудовы — жалезабетонны каркас і тыпавыя будаўнічыя канструкцыі (арх. С. Неўмывакін, Г. Кісялёва, А. Фядорчанка, інжынеры У. Касцючэнка, М. Гелер, М. Булаўка).

Кампазіцыйна і функцыянальна комплекс аб'ядноўвае 3 рознавялікія кубы-блокі: універмаг з выставачнай залай, блокі бытавога абслугоўвання, гандлю і грамадскага харчавання. Корпус універмага, блок бытавога абслугоўвання і бетоннае пергала абмяжоўваюць унутраны дворык, адкрыты ў бок вул. Маскоўскай. У агульнай кампазіцыі дамінуе вертыкальная квадратная ў сячэнні рэкламная вежа, якая адначасова ўраўнаважвае масіўны аб'ём універмага.

Аб'ёмна-прасторавую структуру комплексу вызначае характар прадпрыемстваў. Корпус універмага прамавугольны ў плане. На першых 2 паверхах — гандлёвыя залы, у падвале і на 3-м паверсе — складскія, дапаможныя і тэхнічныя памяшканні. Адміністрацыйна-бытавыя памяшканні размешчаны ў паўднёвай частцы 3 павераў. Рытм фасадаў кубападобнага корпуса універмага створаны рабрыстымі навяснымі панелямі і вертыкальнымі аконнымі праёмамі. У іх аздабленні выкарыстана дэкаратыўная тынкоўка, мармур, керамічная плітка, алюмініевыя пераплёты. Два ўваходы (прамавугольныя парталы) з боку вул. Маскоўскай выкладзены белым мармурам.

Трохпавярховы кубападобны блок бытавога абслугоўвання размешчаны ў сярэдзіне комплексу, 2 уваходамі звязаны з унутраным дворыкам. Фасады суцэльнага зашклення рытмічна дзяляцца вертыкальнымі рэбрамі. У аснову планіроўкі пакладзены прынцып групоўкі памяшканняў вакол вестыбюляў. Да паслуг наведвальнікаў салоны прыгажосці, пракату, выставачны салон мэблі, фотастудыя, атэлье трыкатажных вырабаў і пашыву адзення, а таксама службы рамонту і майстэрні рознага профілю, дэманстрацыйная зала.

Ва ўсходнім крыле комплексу двухпавярховы блок прадпрыемстваў грамадскага харчавання, універсам і магазін агароднiны (цокальны паверх). Уваход у рэстаран і кафэ з боку галоўнага фасада. Прадпрыемствы гра-



20. *Гандлёва-бытавы цэнтр.*



21. *Гарнізонныя могілкі. Помнік савецкім воінам.*

мадскага харчавання групуюцца на паверхах вакол цэнтральнай лесвічнай клеткі і вестыбюля. У інтэр'еры выкарыстаны белая тынкоўка з украпінамі слюды, чырвоны граніт, дубовы шпон, белы мармур.

Гандлёва-бытавы цэнтр у Брэсце — прыклад удалага спалучэння розных функцыянальных аб'ёмаў, аб'яднаных у адзіны гарманічны ансамбль.

*А. М. Кулагін.*

**21. ГАРНІЗОННЫЯ МОГІЛКІ** (гіст., маст.). На вул. Героеў абароны Брэсцкай крэпасці. Пахаваны воіны Савецкай Арміі, Героі Савецкага Саюза П. М. Гаўрылаў, П. Б. Лакціёнаў, М. Р. Макараў, А. К. Скрылёў, удзельнік рэвалюцыйнага руху П. М. Гулаў і дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі З. Ф. Паплаўскі.

Магілы савецкіх воінаў. У 496 магілах (з іх 67 брацкіх) пахаваны 912 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг. на тэрыторыі Брэсцкай вобл. і ПНР. У 1948 г. на магілах устаноўлены абеліскі, мемарыяльныя пліты. У адной з брацкіх магіл пахаваны Герой Савецкага Саюза Панцялей Барысавіч Лакціёнаў.

П. Б. Лакціёнаў нарадзіўся 27.6.1922 г. ў с. Нова-Троіцкае Бярдзянскага р-на Запарожскай вобл. Член КПСС з 1944 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёвым, Беларускім і 1-м Беларускім франтах. Вызначыўся на тэрыторыі Валынскай вобл. пры фарсіраванні р. Прыпяць і ў баях на плацдарме, а таксама пры фарсіраванні р. Заходні Буг. 17.7.1944 г. ў раёне г. п. Ратна рота пад камандаваннем старшага лейтэнанта П. Б. Лакціёнава адна з першых уварвалася ў варожыя траншэі. Камандзір знішчыў 3 агнявыя кропкі, захапіў 2 кулямёты. 21.7.1944 г. каля в. Рагозна Брэсцкага р-на з групай байцоў фарсіраваў Заходні Буг і забяспечыў пераправу батальёна. Загінуў у баі 27.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

Магіла Гаўрылава Пятра Міхайлавіча. П. М. Гаўрылаў нарадзіўся 30.6.1900 г. ў в. Альведзіна Пестрачынскага р-на Татарскай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1922 г. З 1918 г. ў Чырвонай Арміі, удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1939 скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. Вялікую Айчынную вайну маёр П. М. Гаўрылаў сустрэў у Брэсцкай крэпасці камандзірам 44-га палка 42-й стралковай дывізіі. З 22.6.1941 г. ўзначаліў абарону Усходняга форта. 23.7.1941 г. цяжка паранены трапіў у палон. Вызвалены савецкімі войскамі ў маі 1945 г. Да 1946 г. служыў у Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі жыў у Краснадары. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.1.1957 г. Быў членам Савецкага камітэта ветэранаў вайны, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР у 1958—62 гг. Памёр 26.1.1979 г. ў Краснадары. На магіле ў 1979 г. пастаўлены абеліск. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Краснадары, калгас на радзіме.

Магіла Макарава Мікалая Рыгоравіча. М. Р. Макараў нарадзіўся 25.12.1917 г. ў г. Сярдобск Пензенскай вобл. ў сям'і рабочых. Член КПСС з 1942 г. У 1937 г. скончыў Сярдобскі заатэхнікум і быў прызваны ў Чырвоную Армію. У 1941 г. скончыў Энгельскае лётнае ваеннае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Калінінскім, Варонежскім, 1-м Прыбалтыйскім франтах. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка маёр М. Р. Макараў вызначыўся пры



22. *Гасцініца «Буг».*



22. *Гасцініца «Буг». План 1-га паверха.*



23. *Гасцініца «Інтурыст». План тыпавога паверха.*




23. *Гасцініца «Інтурыст».*

вызваленні Гарадка, Езярышч, Віцебска, Полацка, Бешанковіч. Зрабіў 115 баявых вылетаў, знішчыў 8 танкаў, 90 аўтамашын, паравоз, 15 вагонаў, 6 складаў з боепрыпасамі, 30 агнявых кропак праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.6.1945 г. Да 1958 г. палкоўнік М. Р. Макараў служыў у Савецкай Арміі, пасля дэмабілізацыі жыў у Брэсце. Памёр 15.5.1974 г. У 1975 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

Магіла Скрылёва Аляксея Канстанцінавіча. А. К. Скрылёў нарадзіўся 17.3.1918 г. ў с. Міхайлаўка Ужурскага р-на Краснаярскага краю ў сям'і служачых. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1937 г. У 1939 г. скончыў 1-е Кіеўскае артылерыйскае вучылішча. На фронце з чэрвеня 1941 г. 23.4.1945 г. ў баі за прыгарад Берліна камандзір артылерыйскага палка гвардыі маёр А. К. Скрылёў забяспечыў выхад палка на канал Берлін-Шпандаў. Толькі 16—24.4.1945 г. байцы палка знішчылі 58 гармат, 233 кулямётныя кропкі, 9 артылерыйскіх і мінамётных батарэй праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1945 г. Загінуў 6.12.1946 г. пры выкананні службовых абавязкаў. У 1948 г. ўстаноўлена надмагілле. Яго імем названа вуліца ў Брэсце.

Магіла Гулава Паўла Мартынавіча. П. М. Гулаў нарадзіўся 12.7.1893 г. ў в. Жураўлёўка Рузскага р-на Маскоўскай вобл. ў сям'і селяніна. Член КПСС з 1917 г. З 1914 г. на франтах 1-й сусветнай вайны. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі старшыня ротнага, намеснік старшыні палкавога салдацкіх камітэтаў, член Савета салдацкіх дэпутатаў Вяземскага гарнізона. Удзельнік устанаўлення Савецкай улады ў Вязьме, ад мясцовага Савета накіраваны дэлегатам на II Усерасійскі з'езд Саветаў. У Грамадзянскую вайну старшыня Вяземскага павятовага выканкома, рэвалюцыйнага трыбунала, ваяваў на Паўднёвым фронце. З 1923 г. ў Крыме на партыйнай і савецкай рабоце. У Вялікую Айчынную вайну быў ваенным пракурорам дывізіі. З 1946 г. намеснік пракурора Брэсцкай вобл. Ганаровы грамадзянін Брэста (1969 г.). Памёр 19.12.1972 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

Магіла Паплаўскага Захара Філімонавіча. З. Ф. Паплаўскі нарадзіўся 28.2.1898 г. ў в. Буякі Брэсцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1922 г. У юнацтве быў парабкам. У 1917 г. мабілізаваны ў армію, ваяваў на Заходнім фронце, удзельнічаў у рэвалюцыйных выступленнях салдат. З 1918 г. ў Чырвонай Арміі. Вярнуўся на Брэстчыну ў 1921 г., актыўна ўключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. З 1936 г. сакратар Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ. Не раз быў арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, правёў у турмах 13 гадоў. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР З. Ф. Паплаўскі на гаспадарчай рабоце. У Вялікую Айчынную вайну з сакавіка 1943 г. ў тыле ворага, упаўнаважаны Брэсцкага абкома КП(б)Б у Паўднёвай зоне Брэсцкай вобл. па кіраўніцтву партызанскім рухам. З 1946 г. працаваў інструктарам Брэсцкага абкома КПБ. Памёр 11.6.1965 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. Яго імем названа вуліца ў Брэсце.

Помнік савецкім воінам. Пастаўлены ў 1948 г. У аснову планіроўкі гарнізонных могілак пакладзены прынцып восевай сіметрычнай кампазіцыі. Цэнтральную алею, якая пачынаецца ад галоўнага ўвахода, замыкае скульптурны помнік — фігура воіна-вызваліцеля (скульпт. Л. Кербель; бетон; вышыня помніка 9 м, скульптуры 2,5 м). Строгая вертыкаль скульптуры воіна з плашч-палаткай за плячыма і аўтаматам у руках, высокі пастамент надаюць помніку велічнасць і ўрачыстасць. Абапал яго на невялікіх стэлах — мемарыяльныя дошкі. Да помніка вядзе шырокая лесвіца.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Смирнов С. С. Герои Брестской крепости.— М., 1961; Яго ж. Брэсцкая крэпасць.— Мн., 1967.

*А. С. Барысавец, В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч, Т. А. Слесарук.*

**22. ГАСЦІНІЦА «БУГ»** (архіт.). Вул. Леніна, 2. Пры ўездзе ў горад з боку Прывакзальнай пл. Пабудавана ў 1958 г. з цэглы (арх. Г. Бенядзіктаў).

Чатырохпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Скругленай вуглавой часткай выходзіць на невялікую плошчу — транспартную развязку пры ўездзе на чыгуначны мост. На 1-м паверсе — парадны вестыбюль круглай формы з 6 калонамі па крузе. З вестыбюля шырокая трохмаршавая лесвіца вядзе на паверхі, дзе размяшчаюцца нумары на 200 месцаў. Архітэктурнае аздабленне будынка сціплае, з выкарыстаннем элементаў класічнай ордэрнай архітэктуры. Тры верхнія паверхі цэнтральнай закругленай часткі ўпрыгожаны пілястрамі карынфскага ордэра.

Будынак характэрны для савецкай архітэктуры 1950-х гадоў.

*Т. І. Чарняўская.*

**23. ГАСЦІНІЦА «ІНТУРЫСТ»** (архіт., маст.). Вул. Маскоўская, 7. Пабудавана ў 1975 г. (арх. Г. Бенядзіктаў, В. Астаповіч, А. Лукомская). Дзесяціпавярховы будынак разлічаны на 300 месцаў. Прасторавы эфект дасягаецца кантрасным спалучэннем вышыннага жылога корпуса-пласціны і



23. *Гасцініца «Інтурыст». Інтэр'ер рэстарана.*

нізкага гарызантальна выцягнутага блока харчавання. Шматпавярховы аб'ём пастаўлены тарцом да вуліцы, мае развіты ніжні паверх, у якім размешчана вестыбюльная група з прасторным холам. Жылая частка будынка зроблена з панельных канструкцый, навешаных на двухкансольныя рамы, вертыкалі якіх ствараюць асноўны рытм зашклёнай фасаднай плоскасці. У будынку калідорнай планіроўкі з двухбаковым размяшчэннем нумароў ёсць холы, ліфтавыя вестыбюлі. Кожны нумар (пакой з калідорам-пярэдняй) разлічаны на 1—2 чалавек. Інтэр'ер нумароў вызначаецца добрымі прапорцыямі, высокай якасцю аддзелачных работ і зручнай мэбляй. У дэкаратыўным афармленні залаў рэстарана выкарыстаны нацыянальныя традыцыі. У зале 1-га паверха драўляная абшыўка пілонаў пакрыта разным раслінным і геаметрычным арнаментам (мастак І. Сідараў). Уваходы з залы ў рабочыя памяшканні аформлены дэкаратыўнымі перагародкамі, у металічны каркас якіх на 1-м паверсе ўмацціраваны прамавугольныя кампазіцыі са стылізаванымі выявамі жывёл і птушак Беларусі (чаканка на медзі; мастак У. Ізергін). У вялікай зале 2-га паверха ў ажурную металічную перагародку асіметрычна ўкампанаваны прамавугольныя барэльефныя кампазіцыі розных памераў: «Паляванне ў Белавежскай пушчы», «Вяселле» (разьба па дрэве; мастак І. Хоміч). Манахромную плоскасць сцяны банкетнай залы ажыўляе пано на тэму княжацкага вясельнага балявання (маркетры; мастакі У. Ізергін, В. Сабалеўскі).

Будынак гасцініцы характэрны для савецкай архітэктуры 1970-х гадоў.

*А. М. Кулагін, Г. М. Ярмоленка.*

**24. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Леніна, 39. Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з цэглы. Скампанаваны з 2 аднолькавых двухкватэрных жылых секцый. Накрыты агульным мансардавым дахам. Уваходы вылучаны вынасным мезанінам на 2 калонках. З дваровага фасада ў кожнай секцыі выступае трохгранны двухпавярховы эркер з балконам. Планіроўка функцыянальна падзелена на жылую і гаспадарчую часткі. Гаспадарчая мае самастойны ўваход з тарцовага фасада. Мансардавы паверх ідэнтычнай планіроўкі.

**25. ЖЫЛЫ ДОМ. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АРЖАНАВАЙ** Галіне Аляксандраўне (архіт., гіст.). Вул. Пушкінская, 18.

Ж ы л ы д о м пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. На 1-м паверсе была аптэка, цяпер магазін.

Прамавугольны ў плане трохпавярховы будынак (3-і паверх надбудава-



23. *Гасцініца «Інтурыст». Інтэр'ер рэстарана. Кампазіцыя «Вяселле». Разьба па дрэве.*



23. *Гасцініца «Інтурыст». Інтэр'ер рэстарана. Фрагмент калоны. Разьба па дрэве.*

ны ў 1970-я гады) мае з двара кароткае крыло з міжпаверхавай лесвіцай. Вуглы сцен галоўнага фасада скругленыя, апрацаваны рустам. Першы паверх апрацаваны рустам і трактаваны як цокальны. Фасад завяршае высокі парапет з трохвугольным атыкам у цэнтры. Прамавугольныя аконныя праёмы верхніх паверхаў дэкарыраваны прафіляванымі ліштвамі з сандрыкамі. Сіметрыю фасаду надаюць раўнамерна размешчаныя 3 балконы з ажурнай чыгуннай агароджай. Планіроўка будынка сіметрычная адносна цэнтральнага вестыбюля.



24. *Жылы дом па вуліцы Леніна, 39.*

Мемарыяльная дошка ўстаноўлена ў 1964 г. на ўшанаванне памяці Г. А. Аржанавай, якая працавала ў гады акупацыі Брэста нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў аптэцы па заданню партыйнага падполля.

Г. А. Аржанава нарадзілася 5.4. 1922 г. ў с. Іванаўскае Валакаламскага р-на Маскоўскай вобл. У 1940 г. пасля заканчэння Маскоўскага фармацэўтычнага тэхнікума накіравана ў Брэст. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны ўключылася ў барацьбу супраць ворага. Была сакратаром падпольнай камсамольскай арганізацыі, у якую ўваходзіла каля 20 чалавек. З 1942 г. партызанская сувязная. Здабывала бланкі пашпартоў, наладжвала канспіратыўныя сустрэчы партызанскіх сувязных з падпольшчыкамі горада, удзельнічала ў арганізацыі ўцёкаў савецкіх ваеннапалонных з канцлагераў. У снежні 1943 г. па даносу правакатара фашысты арыштавалі патрыётку і пасля жорсткіх катаванняў павесілі. Г. А. Аржанава пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені.

*Літ.:* Боровский А. И. О них молчали сводки: [Брестское антифашистское подполье].— Мн., 1970; Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

*Г. І. Дулеба, А. М. Кулагін.*

**26. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ 17 ВЕРАСНЯ** (архіт.). Ансамбль гарадской забудовы склаўся ў канцы 19—1-й палавіне 20 ст., уключае жылыя дамы № 29, 31, 33, 35, 37. Будынкі маюць характэрную для таго часу блакіроўку, аб'яднаны ў самастойныя фрагменты. Галоўныя фасады выходзяць на «чырвоную лінію» забудовы. Уваходы з двара. Праезд паміж дамамі № 33 і 35.

Дом № 29. На скрыжаванні вуліц 17 Верасня і Дзяржынскага. Рэканструяваны ў 1980 г. Вуглавое размяшчэнне абумовіла форму плана ў выглядзе няправільнага прамавугольніка з закругленым вуглом. Плоскасныя атынкаваныя фасады двухпавярховага будынка дзеляцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі, завершаны развітым прафіляваным карнізам. Асіметрыю фасадам надае вуглавое размяшчэнне балконаў з ажурнай агароджай. У крапоўцы галоўнага фасада выкарыстаны невялікія бакавыя рызаліты. Бакавы фасад завершаны трохвугольным шчыпцом з вокнамі мансардавага паверха. Дом падзелены капітальнай унутранай сцяной на 2 палавіны з самастойнымі ўваходамі з вуліцы і з двара. Міжпаверхавая двухмаршавая лесвіца ў вуглавой частцы дома, пры дваровым уваходзе.



24. *Жылы дом па вуліцы Леніна, 39. План 1-га паверха.*



25. *Жылы дом па вуліцы Пушкінскай, 18.*

ЗДЕСЬ В ГОДЫ ВЕЛИКОЙ
ОТЕЧЕСТВЕННОЙ ВОЙНЫ ПО ЗАДАНИЮ
ПАРТИЙНОГО ПОДПОЛЬЯ РАБОТАЛА
В АПТЕКЕ ГАЛИНА АЛЕКСАНДРОВНА
АРЖАНОВА — СЕКРЕТАРЬ ПОДПОЛЬНОЙ
КОМСОМОЛЬСКОЙ ОРГАНИЗАЦИИ
СВЯЗНАЯ ПАРТИЗАНСКИХ ОТРЯДОВ
В ДЕКАБРЕ 1943 ГОДА ПОСЛЕ
ЗВЕРСКИХ ПЫТОК ГИТЛЕРОВЦЫ
ПОВЕСИЛИ ОТВАЖНУЮ ПАТРИОТКУ

25. *Мемарыяльная дошка Г. А. Аржанавай.*

Дом № 31. Аднапавярховы. Тарцовымі сценамі састыкаваны з дамамі № 29 і 33, што стварае адзіны фронт забудовы. Архітэктура без элементаў дэкору. Галоўны фасад з 4 прамавугольнымі вокнамі. Унутраная прастора падзелена капітальнымі сценамі на 3 кватэры.

Дом № 33. Часткай тарцовай сцяны прымыкае да дома № 31. Яго двухпавярховы аб'ём развіты ў глыбіню двара і блізкі па форме да квадрата. Галоўны фасад мае плоскаснае вырашэнне, рытмічна падзелены прамавугольнымі вокнамі. Асіметрыю надае бакавы балкон. Элементы архітэктурнага дэкору — часткова ўцалелыя сандрыкі і карнізы. Тарцовы фасад, расчлянёны лучковымі і прамавугольнымі вокнамі, выходзіць на дваровы праезд. Унутраныя сцены дзеляць дом на 2 кватэры з лесвічнай клеткай пры дваровым уваходзе.

Дом № 35. Двухпавярховы кампактны прамавугольны ў плане аб'ём



26. *Забудова вуліцы 17 Верасня. Фрагмент.*



26. *Забудова вуліцы 17 Верасня. Фрагмент плана.*

з вальмавым дахам. Галоўны сіметрычны фасад вылучаны ў цэнтры балконам, вуглавымі лапаткамі, міжпаверхавым поясам, падаконнымі філёнгамі. Завершаны карнізам на дэнтыкулах. Дваровы фасад — з выступаючым аб'ёмам лесвічнай клеткі і зашклёнай галерэяй на 2-м паверсе.

Дом № 37. Аб'яднаны з домам № 35 у адзіны корпус. Двухпавярховы аб'ём з двухсхільным дахам мае ў цэнтры галоўнага фасада балкон. У пластычным афармленні выкарыстаны каneліраваныя руставаныя лапаткі, карніз нескладанага профілю. Глыбока ў двор выступае вузкае крыло-прыбудова, па фронце 2-га паверха праходзіць драўляная галерэя.

Фрагмент забудовы — узор архітэктурнага вырашэння невялікіх гарадскіх жылых дамоў, індывідуальная апрацоўка якіх стварае разнастайнасць і маляўнічасць агульнай горадабудаўнічай кампазіцыі.

*А. М. Кулагін.*

**27. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ КАРЛА МАРКСА** (архіт.). Вялася ў 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. Уцалелыя мураваныя будынкі (№ 43, 53, 55, 57, 60, 66, 70) ствараюць ансамбль. У забудове вуліцы вылучаюцца таксама дамы № 11 і 20.

Дом № 43. Трохпавярховы, прамавугольны ў плане. Цэнтральная і бакавыя часткі галоўнага фасада акцэнтаваны рызалітамі, фланкіраваны лапаткамі. Паверхі аддзелены карнізнымі паясамі. Сцяна галоўнага фасада на 1-м паверсе пакрыта рустам і прарэзана прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на 2-м — дэкарыравана балюстрадай у неглыбокіх нішах, над аконнымі праёмамі — сандрыкі і дэкаратыўныя ракавіны.

Дом № 53. Трохпавярховы, складаны ў плане будынак. Пры агульнай несіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі галоўны фасад мае сіметрычнае вырашэнне. У цэнтры яго праезная арка, над якой прамавугольны аконны праём, багата дэкарыраваны паўкалонамі карынфскага ордэра, пілястрамі з ляпным картушам паміж імі. У аздабленні сцяны 2-га паверха дэкаратыўныя балюстрады ў неглыбокіх нішах, балконы на кранштэйнах і з чыгуннай літай агароджай.

Дом № 55. Двухпавярховы, з асіметрычным складаным планам. Галоўны сіметрычны фасад фланкіраваны неглыбокімі рызалітамі з руставанымі лапаткамі і багата аздобленымі аконнымі праёмамі (ляпны картуш, карынфскія пілястры). Пад карнізам па ўсім фасадзе праходзіць дэкаратыўны пояс з сухарыкамі. Балконы з чыгуннай літай агароджай апіраюцца на кранштэйны.



27. *Вуліца Карла Маркса. Дамы № 53, 55.*



27. *Вуліца Карла Маркса. План 1-га паверха дома № 53.*



27. *Забудова вуліцы Карла Маркса. План дома № 60.*



27. *Забудова вуліцы Карла Маркса. Дом № 60.*

Дом № 57. Двухпавярховы, з несіметрычным планам. Дэкаратыўная аздоба галоўнага сіметрычнага фасада аднатыпная з аздобай дамоў № 53 і 55. У цэнтры галоўнага фасада рызаліт з паўцыркульнымі праёмамі, якія дэкарыраваны ліштвамі і ляпнымі сандрыкамі. Над аконнымі праёмамі — дэкаратыўная балюстрада.

Дом № 60. Двухпавярховы будынак мае складаную форму плана. Багатая дэкаратыўная аздоба сканцэнтравана на сіметрычна вырашаным галоўным фасадзе. Сцяна галоўнага фасада падзелена карнізным пояском. Пад карнізам — пояс сухарыкаў. Першы паверх пакрыты рустам, 2-і — багата дэкарыраваны іанічнымі пілястрамі, ляпнымі картушамі, дэкаратыўнымі ракавінамі. Цяпер корпус Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна.

Дом № 66. Будынак двухпавярховы са складаным планам і сіметрычным фасадам. Дэкаратыўная аздоба і пластыка галоўнага фасада вырашана ў тых жа формах, што і папярэдніх дамоў (неглыбокія рызаліты, міжпаверхавы карнізны паясок, руставаныя лапаткі і дэкаратыўныя сандрыкі). Над уваходам двухсхільны брыль на ажурных кранштэйнах (чыгуннае ліццё). Тарцовыя фасады завершаны трохвугольнымі франтонамі з паўцыркульнымі праёмамі ў тымпанах.

Дом № 70. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак з цэглы. Мае сіметрычны галоўны фасад. Цэнтральная частка вылучана руставанымі лапаткамі, паміж якімі галоўны ўваход. Над ім паўцыркульны аконны праём. Пластыку фасада ўзбагачаюць ступеньчатая і фігурная муроўкі, паяскі геаметрычнага арнаменту, руставаныя лапаткі.

Дом № 11. Двухпавярховы будынак з цэглы. У дэкаратыўнай аздобе шырока выкарыстана цэгла крывалінейнага абрысу (лякальная). Галоўны фасад фланкіраваны 2 рызалітамі, завершанымі атыкавымі сценкамі з пінаклямі. У кожным рызаліце на 2-м паверсе — балкон на масіўных кранштэйнах. У дэкаратыўнай аздобе фасада выкарыстаны фігурныя калоны, руставаныя лапаткі, фігурная і арнаментальная муроўкі.

Дом № 20. Аднапавярховы мураваны будынак. Пабудаваны як гарадскі асабняк. Вылучаецца з усёй забудовы вуліцы. Кампазіцыйны акцэнт дома — чатырохкалонны дарычны порцік з трохвугольным франтонам, у тымпане якога — лучковы аконны праём. На бакавых фасадах несапраўдныя порцікі з дарычнымі пілястрамі. Галоўны фасад фланкіраваны 2 паўкруглымі эркерамі, паміж якімі трохчвэртныя калоны дарычнага ордэра. Будынак завершаны карнізам з пояском сухарыкаў. Цяпер у ім размешчаны дзіцячы сад.

Забудова вул. К. Маркса ўключае дамы рознай архітэктурна-стылявой трактоўкі, характэрны помнік горадабудаўніцтва Брэста таго часу.

*А. Ю. Пятросава.*



27. *Забудова вуліцы Карла Маркса. План 1-га паверха дома № 11.*

**28. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЛЕВАНЕЎСКАГА** (архіт.). У жылым раёне, абмежаваным вуліцамі Леніна, Маскоўскай, паркам імя 1 Мая, забудаваным у 1921—39 гг. па прамавугольнай сістэме вуліц (праект арх. Ю. Лісецкага). У аснову планіроўкі і забудовы пакладзены комплексны метад з выкарыстаннем тыпавых дамоў 2 відаў: адна-, двух-, шматсекцыйных і асабняковых.

Аднасекцыйны жылы дом № 3. Пабудаваны ў 1928 г. з цэглы. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з невялікім прысядзібным участкам. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя грунтуецца на кантрасце пры-



27. *Забудова вуліцы Карла Маркса. Дом № 11.*



28. *Забудова вуліцы Леванеўскага. Дом № 3.*



28. *Забудова вуліцы Леванеўскага. План дома № 3.*

земістага паверха і высокага пластычнага даху. Бакавыя фасады і фігурны атык мезаніна, які выходзіць на галоўны фасад, дэкарыраваны лапаткамі, люкарнамі, сандрыкамі. На 1-м паверсе трохпакаёвая кватэра, у мансардзе — двухпакаёвая. Асобныя ўваходы ў кватэры размешчаны ў нішах галоўнага фасада. Нішы створаны 2 аркамі з вуглавой апорай, маюць крыжовыя скляпенні.

Асабняк. Дом № 5. У радзе аднатыпнай забудовы. Пабудаваны ў 1930-я гады з цэглы. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з высокім мансардавым дахам. Цэнтральны ўваход размешчаны ў глыбокай лоджыі з трохпралётнай аркадай на 2 калонках. Сіметрыя пластычнага даху з боку галоўнага (паўднёва-ўсходняга) фасада падкрэслена 3 люкарнамі. Вуглавыя нішы і шырокія лапаткі ў прасценках паміж прамавугольнымі вокнамі надаюць фасадам пластычнасць. У калідорнай планіроўцы будынка вызначаецца цэнтральны вестыбюль з лесвіцай на мансардавы паверх.

Будынкі № 9, 11 па вул. Леванеўскага аднатыпныя з дамамі № 3, 5. Яны ствараюць своеасаблівы ансамбль — характэрны прыклад тыпавой секцыйнай і асабняковай забудовы гэтага раёна. *В. М. Чарнатаў.*

**29. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ САВЕЦКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ** (архіт.). У канцы 19—1-й палавіне 20 ст. ўздоўж вуліцы склалася шчыльная сетка капітальнай жылой забудовы. Захаваўся толькі яе фрагмент — цагляныя дамы № 21, 23, 25, 27, 29, раздзеленыя дваровымі праездамі.

Дом № 21. Невялікі двухпавярховы блізкі ў плане да квадрата аб'ём з двухсхільным дахам. Галоўны фасад выходзіць на «чырвоную лінію» забудовы, мае плоскаснае вырашэнне, падзелены прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Уваходы ў дом з боку ўнутранага двара і бакавога фасада. Капітальная сцяна падзяляе ўнутраную прастору на 2 палавіны. Жылыя і гаспадарчыя пакоі аб'яднаны агульным калідорам. Міжпаверхавая лесвіца прыбудавана з двара.

Дом № 23. Прылягае да дома № 21, складае з ім адзін корпус. Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак развіты ў глыбіню двара, на вуліцу выходзіць вузкім тарцовым фасадам. Кампазіцыя мае асіметрычны характар. Прамавугольныя аконныя праёмы ўпрыгожаны пластычнымі ліштвамі. У пластыцы атынкаванага фасада выкарыстаны вуглавыя лапаткі, міжпаверхавы пояс. Уваходы ў будынак зроблены з двара і з бакавога фасада. На бакавым шчыце — вокны мансардавага паверха. Цэнтральны калідор і міжпаверхавая лесвіца дзеляць дом на 2 палавіны, у якіх трох- і двухпакаёвыя кватэры з сумежнымі пакоямі.

Дом № 25. Двухпавярховы прамавугольны ў плане аб'ём выходзіць



29. *Забудова вуліцы Савецкіх пагранічнікаў. Дамы № 21—27.*



28. *Забудова вуліцы Леванеўскага. Дом № 5. Фрагмент галоўнага фасада.*



28. *Забудова вуліцы Леванеўскага. План дома № 5.*



30. *Будынак казармы. План.*



30. *Будынак казармы.*

тарцовым фасадам на «чырвоную лінію» забудовы. Яго атынкаваная плоскасць падзелена прамавугольнымі аконнымі праёмамі, вуглавымі лапаткамі і міжпаверхавым поясам. Дом на 2 палавіны з 2 асобнымі ўваходамі — бакавым і з двара. Лесвіца на 2-і паверх — у прыбудове.

Дом № 27. Прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём накрыты пакатым дахам. Цэнтр кампазіцыі галоўнага фасада вылучаны лоджыяй, завершаны фігурным раскрапаваным атыкам. Манументальнасць цэнтральнай часткі падкрэслена спакойнай роўняддзю сцен бакавых крылаў. Сіметрыя галоўнага фасада парушана скразным праездам у форме лучковай аркі. Архітэктурны дэкор уключае канеліраваныя слупы і пілястры, нішы, руст. Пластыка-арнаментальны акцэнт стварае цэнтральны балкон з ажурнай металічнай агароджай. Вылучаюцца арачныя праёмы лоджый. Цэнтральнае месца ў плане будынка займае вялікі вестыбюль з трохмаршавай лесвіцай. Планіроўка калідорна-анфіладная.

Дом № 29. На скрыжаванні вуліц Савецкіх пагранічнікаў і Свярдлова. Трохпавярховы будынак (3-і паверх надбудаваны пазней) мае прамавугольны план. Галоўны фасад з руставаным 1-м паверхам вылучаны ў цэнтры ўваходным праёмам з філёнгавымі дзвярамі і пластычным парталам з руставанымі лапаткамі. Галоўная вось фасада на 2-м паверсе падкрэслена высокім арачным акном у прафіляванай ліштве з пілястрамі. Арачны праём фланкіраваны скругленымі балконамі з выпуклай кратамі агароджай. Пластычная выразнасць фасадаў дасягаецца выкарыстаннем ліштваў, балюстрад, сандрыкаў, карнізаў. Вуглавая частка дома вырашана ў выглядзе вузкай грані з балконам. Фасады завершаны антаблементамі.

Нягледзячы на розны стыль, дамы складаюць своеасаблівы ансамбль, характэрны для горадабудаўніцтва Брэста 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст.

*А. М. Кулагін.*

**30. КАЗАРМА** (архіт.). Вул. Леніна, 25. Пабудавана ў 1840-я гады з цэглы для гарнізона крэпасці. Цяпер жылы дом.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Мае нізкі цокаль, дваровыя прыбудовы-тамбуры. Плоскі галоўны фасад рытмічна расчляняюць 13 лучковых праёмаў. Архітэктурна-дэкаратыўная выразнасць дасягаецца арнаментальнай і лякальнай муроўкамі, клінападобнымі вокнамі, падаконнымі завяршальнымі карнізамі, вуглавымі лапаткамі, нішамі. Памяшканні (планіроўка часткова зменена) звязаны калідорамі, якія маюць самастойныя ўваходныя вестыбюлі.

Казарма — помнік пашыранай на той час «цаглянай архітэктуры».

*А. М. Кулагін.*

**31. КАФЕДРАЛЬНЫ КАСЦЁЛ** (архіт.). Вул. Леніна, 34. Цяпер у ім размешчаны абласны краязнаўчы музей. Пабудаваны ў 1856 г. з цэглы. Разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. У 1950—57 гг. адноўлены і перабудаваны. Базілікальнае збудаванне. Галоўны фасад раней завяршалі 2 бакавыя вежы з трохвугольным франтонам паміж імі (вежы не адноўлены). Касцёл — помнік архітэктуры позняга класіцызму.

*Т. І. Чарняўская.*

**32. КІНАТЭАТР «БЕЛАРУСЬ»** (архіт., маст.). Вул. Савецкая, 17. Пабудаваны ў 1977 г. (арх. Р. Шылай, інж. У. Самцоў, С. Мартынаў).

Трохпавярховы будынак кінатэатра ўваходзіць у ансамбль новай забудовы вул. Савецкай. У аснову яго аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі пакладзены ўцалелы васьмігранны будынак 19 ст., вакол якога ўзведзены сцены з высокімі зашклёнымі плоскасцямі (акрамя дваровай часткі, дзе зроблены надбудовы). На 1-м паверсе касавы вестыбюль свабодна пераходзіць у фае малой залы на 400 месцаў. Тут жа 2 лесвіцы, якія вядуць на 2-і паверх у фае вялікай залы на 900 месцаў. На 3-м паверсе — тэхнічныя памяшканні, кінапраекцыйны комплекс. Пры будаўніцтве кінатэатра выкарыстаны прагрэсіўныя канструкцыі і новыя матэрыялы — ажурныя жалезабетонныя рамы, веерападобныя бэлькі перакрыцця, ганчарныя трубкі. У фае — панельная сістэма ацяплення, у залах — канды-



31. *Будынак былога кафедральнага касцёла. План.*



31. *Будынак былога кафедральнага касцёла. Галоўны фасад.*




32. *Кінатэатр «Беларусь».*



32. *Кінатэатр «Беларусь». План.*

цыянеры. Для ўнутранай аддзелкі выкарыстаны граніт і мармур. У фае 2-га паверха, на тарцовай сцяне, якая абмяжоўвае прастору фае справа,— дэкаратыўная кампазіцыя «Беларусь» (мастак І. Крупскі; сграфіта). У цэнтры кампазіцыі — жаночая фігура ў акружэнні алегарычных выяў, якія адлюстроўваюць мінулае, сучаснае і будучае краю. Пано вытрымана ў блакітна-шэрай гаме. У 2 паўцыркульных нішах фае — каляровыя вітражы (маст. М. Клімаў, У. Нікалаеў).

Кінатэатр «Беларусь» — прыклад савецкай архітэктуры 1970-х гадоў.

*Т. І. Чарняўская, Г. М. Ярмоленка.*

**33. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст). На паўднёвай ускраіне горада, на 4-м км шашы Брэст — Ковель. Пахаваны 15 тыс. савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў, расстраляных і закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. у канцэнтрацыйным лагеры. У 1974 г. на магіле ўстаноўлены мемарыяльны знак (арх. В. Пак).



32. *Кінатэатр «Беларусь». Інтэр'ер. Дэкаратыўная кампазіцыя «Беларусь».*

**34. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На Плоскіх могілках. Пахаваны савецкія грамадзяне, закатаваныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**35. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Маскоўская, на Трышынскіх могілках. Пахаваны 24 жыхары г. Брэста, якія загінулі ў першы дзень Вялікай Айчыннай вайны — 22.6. 1941 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**36. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Маскоўская, на Трышынскіх могілках. Пахаваны савецкія грамадзяне, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**37. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Цагельная, на тэрыторыі былога цагельнага завода № 22. Пахаваны рабочыя і служачыя завода, якіх 22.6.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі за дапамогу савецкім воінам — абаронцам Брэста. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**38. МАГІЛА ЗАСІМА** Мікалая Арцёмавіча (гіст.). Вул. Маскоўская, на Трышынскіх могілках.

Беларускі паэт М. А. Засім нарадзіўся 19.11.1908 г. ў в. Шані Пружанскага р-на. Член КПСС з 1946 г. У 1-ю сусветную вайну разам з бацькамі эвакуіраваўся ў Саратаўскую губерню. У 1922 г. вярнуўся на радзіму, уступіў у КПЗБ. За падпольную рэвалюцыйную дзейнасць не раз быў арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР працаваў у Пружанскім часовым упраўленні, у 1940 г. выбраны старшынёй Шаняўскага сельсавета. У Вялікую Айчынную вайну змагаўся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у партызанскіх

атрадах, быў інструктарам Антыфашысцкага камітэта Брэсцкай вобл. У 1944—46 гг. загадчык аддзела Пружанскага райвыканкома. У 1948 г. скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП(б)Б. У 1948—57 гг. у рэдакцыі брэсцкай абласной газеты «Заря». Друкавацца пачаў з 1926 г. ў часопісах і газетах «Наша воля», «Наша праца», «Маланка», «Асва», «Беларускі летапіс» і інш. (псеўданімы Хлапец, Агонь, Ацот, Міз, М. Асот). У вайну друкаваўся ў падпольных газетах «Заря», «За Родину». Выдадзены зборнікі вершаў «Ад шчырага сэрца» (1947 г.), «Вершы» (1954 г.), «Выбранае» (1960 г.), «Вершы» (1973 г.). У сваіх творах усляўляў родны край, пісаў аб жыцці сялян Заходняй Беларусі, пра будні і гераізм партызанскай барацьбы з ворагам у Вялікую Айчынную вайну, мірную працу савецкіх людзей. На рускую мову вершы М. Засіма перакладалі А. Твардоўскі, М. Луконін. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Памёр 19.7.1957 г. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Калеснік У. А. Час і песні.— Мн., 1962; Засім М. А. Аўтабіяграфія.— У кн.: Пра час і пра сябе. Мн., 1966.
*В. Б. Караткевіч.*

**39. МАГІЛА ІШКОВЫХ** Міхаіла Купрыянавіча і Еўдакіі Міхайлаўны (гіст.). На захад ад былой в. Валынка, дзе да Вялікай Айчыннай вайны была 10-я пагранічная застава. Начальнік заставы М. К. Ішкоў і яго жонка загінулі 22.6.1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**40. МАГІЛА СТАРАЖЭНКІ** Аляксея Пятровіча (гіст.). Вул. Маскоўская, на Трышынскіх могілках.

Украінскі пісьменнік, музыкант, скульптар А. П. Старажэнка нарадзіўся 24.11.1805 г. ў в. Лысагоры на Чарнігаўшчыне. Пачаў пісаць на рускай мове, друкаваўся ў газеце «Северная пчела», часопісе «Библиотека для чтения». У 1863 г. выдадзены двухтомнік украінскіх апавяданняў. Многія з іх напісаны на аснове народных паданняў, легенд, этнаграфічнага і гістарычнага матэрыялу. Высмейваў бюракратызм, фармалізм, панства. Памёр 19.11.1874 г. на хутары Гарошыны пад Брэстам. У 1874 г. ўстаноўлены надмагільны камень.

**41. МАГІЛА СТАРЧАКОВА** Уладзіміра Васілевіча (гіст.). Вул. Маскоўская, на Трышынскіх могілках.

Мастак У. В. Старчакоў нарадзіўся 20.3.1911 г. ў с. Рочань Харкаўскай вобл. ў сям'і будаўніка. У 1930—36 гг. вучыўся ў Харкаўскім мастацкім інстытуце. Працаваў мастаком-пастаноўшчыкам у Харкаве, Яраслаўлі, Барысаглебску, Варонежы, з 1951 г.— у Брэсце, член Саюза мастакоў СССР. Удзельнік 6-й Усеўкраінскай выстаўкі ў Харкаве (1935 г.). З 1950 г.



33. *Помнік на месцы былога канцэнтрацыйнага лагера і магіле ахвяр фашызму.*

займаўся станковым і манументальна-дэкаратыўным жывапісам. Удзельнічаў у стварэнні экспазіцыі Музея Брэсцкай крэпасці-героя. У Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі яго дыярама «Белавежская пушча» (1957 г.). Аўтар палотнаў «Старыя гнёзды», «Сакавіцкае сонца», «Валуны», «Свяшчэнныя камяні», «Першая вясна», «Індустрыяльная сімфонія» і інш. (у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР і музеях Брэсцкай вобл.). Памёр У. В. Старчакоў 6.1.1968 г. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла з гарэльефам.

*Літ.:* Художники Советской Белоруссии.— Мн., 1976.
*В. Б. Караткевіч.*

**42. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАЗАНАВАЙ** Лідзіі Андрэеўне і **СЯМ'І ГРЫГАРУКА** Спірыдона Сяргеевіча (гіст.). Вул. К. Лібкнехта, 17. Са снежня 1943 г. да красавіка 1944 г. тут у сям'і Грыгарукоў жыла савецкая разведчыца Л. А. Базанава.

Л. А. Базанава нарадзілася ў маі 1919 г. ў пас. Рэдкіна Канакоўскага р-на Калінінскай вобл. Пасля заканчэння тэхнікума працавала на тэкстыльнай фабрыцы. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны добраахвотна ўступіла ў Чырвоную Армію, скончыла курсы радыстаў. У 1943 г. накіравана ў тыл ворага (Бабруйск, потым Брэст). Разведчыца наладзіла сувязь з падпольшчыкамі М. Кірылюком, І. Д. Філіпуком і А. Шыш, сістэматычна перадавала ў цэнтр звесткі аб дыслакацыі і перамяшчэнні вайсковых часцей праціўніка, размяшчэнні складоў, умацаванняў і інш. Арыштавана вясной 1944 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі, мужна трымалася на допытах, адхіліла прапанову супрацоўнічаць з варожай разведкай. У красавіку 1944 г. Л. А. Базанава, гаспадар дома С. С. Грыгарук, яго жонка Надзея Васілеўна і дачка Ніна расстраляны. У 1944 г. Л. А. Базанава пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені. Мемарыяльная дошка на доме С. С. Грыгарука ўстаноўлена ў 1964 г.

*Літ.:* Боровский А. И. О них молчали сводки: [Брест. антифашистское подполье].— Мн., 1970.
*Г. І. Дулеба.*

**43. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГУЛАВУ** Паўлу Мартынавічу (гіст.). Вул. Маякоўскага, 6. Устаноўлена ў 1974 г. на ўшанаванне памяці ганаровага грамадзяніна г. Брэста П. М. Гулава, які жыў у гэтым доме. Гл. артыкул № 21 «Гарнізонныя могілкі».

**44. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЖУЛІКАВУ** Пятру Георгіевічу (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала.

Былы сакратар парткома чыгуначнага вузла П. Г. Жулікаў з першых дзён акупацыі горада нямецка-фашысцкімі захопнікамі ўключыўся ў барацьбу з ворагам. Пад яго кіраўніцтвам створана падпольная арганізацыя, у жніўні 1941 г.— падпольны партыйны цэнтр, які аб'яднаў 7 арганізацый (125 камуністаў). Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных, перапраўлялі іх у партызанскія атрады. У снежні 1943 г. фашысты арыштавалі П. Г. Жулікава і яго сям'ю. Пасля катаванняў на допытах Пётр Георгіевіч памёр у турме. Жонку і яе маці гітлераўцы расстралялі. П. Г. Жулікаў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені. У 1964 г. на ўшанаванне яго памяці на будынку вакзала ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Смирнов С. С. Были великой войны.— М., 1966; Гречнева Л. Брестский вокзал.— Неман, 1977, № 6.
*М. А. Багушэвіч.*

**45. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАРБЫШАВУ** Дзмітрыю Міхайлавічу (гіст.). Вул. Карбышава, 26. Савецкі военачальнік, генерал-лейтэнант інжынерных войск (з 1940 г.), доктар ваенных навук (з 1941 г.), прафесар (з 1938 г.), Герой Савецкага Саюза Дз. М. Карбышаў у 1911—14 гг. жыў і працаваў у Брэсце.

Дз. М. Карбышаў нарадзіўся 26.10. 1880 г. ў Омску. Член КПСС з 1940 г. Удзельнік руска-японскай і 1-й сусветнай войнаў. Пасля заканчэння ў 1911 г. Мікалаеўскай інжынернай акадэміі — у Брэсцкай крэпасці. Кіраваў перабудовай 7-га форта, праектаваў і ўзначальваў будаўніцтва форта «Ліцер 1», работы па ўмацаванню Дабрынскай пазіцыі, удзельнічаў ва ўзвядзенні іншых аб'ектаў. З снежня 1917 г. ў Чырвонай гвардыі, потым у Чырвонай Арміі. Шмат сіл аддаваў рэарганізацыі інжынерных войск, ума-

цаванню граніц Савецкай дзяржавы, падрыхтоўцы ваенна-інжынерных кадраў. Вялікую Айчынную вайну сустрэў у раёне Гродна. З баямі прайшоў нялёгкі шлях адступлення. Пад Магілёвам цяжка кантужаны трапіў у палон. Фашысты спрабавалі прымусіць Дз. М. Карбышава здрадзіць Радзіме, але не скарылі яго волю. У лагерах смерці Асвенцім, Майданек, Заксенхаўзен, Маўтхаўзен і інш. вёў антыфашысцкую прапаганду сярод вязняў, быў для іх сімвалам стойкасці і вернасці патрыятычнаму абавязку. 18.2.1945 г. па-зверску закатаваны фашыстамі ў канцлагеры Маўтхаўзен. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 16.8.1946 г. У Брэсце і Маскве яго імем названы вуліцы. У 1964 г. ў Брэсце на доме, які пабудаваны на месцы, дзе была кватэра Дз. М. Карбышава, устаноўлена мемарыяльная дошка. У Омску, Маскве, Таліне і ў Аўстрыі, на тэрыторыі былога лагера Маўтхаўзен, пастаўлены помнікі, у Гродне і Ваўкавыску — мемарыяльныя дошкі.

*Літ.:* Решин Е. Г. Генерал Карбышев: Документальная повесть.— 3 изд.— М., 1980; Солдат, герой, учёный: Воспоминания о Д. М. Карбышеве.— М., 1961; Голубов С. Когда крепости не сдаются.— М., 1970.

**46. МЕСЦА БОЮ 1812 г.** (гіст.). На вул. Героўў абароны Брэсцкай крэпасці. 25.7.1812 г. перадавыя часці 3-й рускай арміі пад камандаваннем генерала А. Р. Шчарбатава нанеслі паражэнне буйным кавалерыйскім атрадам напалеонаўскай арміі і выбілі іх з горада. У памяць аб гэтай падзеі справа ад Паўночных варот Брэсцкай крэпасці ў 1962 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**47. МЕСЦА БОЮ 1941 г.** (гіст.). На вул. Дзяржынскага. Напярэдадні вайны будынак аблваенкамата, цяпер на гэтым месцы жылы дом. Тут 22.6. 1941 г. пад камандаваннем аблваенкома маёра М. Я. Стафеева вялі бой супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў салдаты і камандзіры Чырвонай Арміі, партыйныя, камсамольскія і савецкія работнікі горада. Фашысты не змаглі зламаць супраціўлення абаронцаў, і тады яны разбамбілі будынак. Многія ўдзельнікі бою загінулі. У 1964 г. на ўшанаванне іх памяці на доме № 7 устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

**48. МЕСЦА БОЮ ПАГРАНІЧНІКАЎ** (гіст.). На захад ад былой в. Валынка, дзе была 10-я погранзастава.

Раніцай 22 чэрвеня 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі абрушылі на заставу шквал артылерыйскага і мінамётнага агню. Пагранічнікі мужна абараняліся. У баі загінулі начальнік заставы М. К. Ішкоў і 19 пагранічнікаў. У 1968 г. на ўшанаванне іх памяці на месцы бою пастаўлены абеліск.




46. *Месца бою 1812 г. Мемарыяльны знак.*

**49. МЕСЦА, ДЗЕ ЗНАХОДЗІЛАСЯ ПАДПОЛЬНАЯ ДРУКАРНЯ ЦК КПЗБ** (гіст.). На рагу вуліц Маскоўскай і 17 Верасня, дзе цяпер пабудаваны жылы дом, у 1927—38 гг. працавала падпольная друкарня.

У 1924—29 гг. у выключна цяжкіх умовах КПЗБ наладзіла выпуск партыйнай літаратуры ў нелегальных друкарнях Вільнюса і Беластока. У Брэсце падпольная друкарня знаходзілася на кватэры члена КПЗБ Івана Раманавіча Валошкі.

І. Р. Валошка — сын беднага селяніна з в. Рачкі Жабінкаўскага р-на. У 1921 г. пераехаў у Брэст, уладкаваўся вартаўніком дома, на 2-м паверсе якога была гімназія. У 1923 г. ўступіў у КПЗБ. Яго кватэра стала месцам сходаў падпольшчыкаў і сховішчам нелегальнай літаратуры. Пазней тут абсталявалі друкарню, наладзілі выпуск падпольнай літаратуры на 5 мовах. У стварэнні друкарні і распаўсюджанні літаратуры актыўны ўдзел прымаў гаспадар кватэры. Друкарня дзейнічала да 1938 г. І. Р. Валошка захаваў яе да верасня 1939 г. і пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР перадаў палітаддзелу пагранічнага атрада. Памёр І. Р. Валошка ў г. Брэсце ў 1967 г.

У 1963 г. на доме № 42 па вул. Маскоўскай у памяць аб дзейнасці падпольнай друкарні ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Ракевич Н. Вдохновитель и организатор масс.— Коммунист Белоруссии, 1969, № 5; Слесарук Т. А., Барысавец А. С. Падпольная друкарня КПЗБ.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 1. *Т. А. Слесарук.*

**50. МЕСЦА ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ФІЛІПОВІЧА** Афанасія (гіст.).

Беларускі грамадскі, палітычны і царкоўны дзеяч А. Філіповіч нарадзіўся каля 1597 г. на Брэстчыне ў сям'і рамесніка. Атрымаў добрую на той час адукацыю. Быў настаўнікам пры шляхецкіх дварах. З 1620 г. пры двары магната К. Л. Сапегі, выхавацель Я. Ф. Лубы, якога ўрад Рэчы Паспалітай меў намер выдаць за прэтэндэнта на маскоўскі трон. Калі пераканаўся, што выхоўвае лжэцарэвіча, пастрыгся ў манахі (1627 г.). Жыў у віленскім Свята-Духаўскім і інш. манастырах. У 1633 г. прызначаны намеснікам ігумена ў Дубайскі манастыр (каля Пінска). У гэты час А. Філіповіч апынуўся ў гушчыні антыфеадальнай барацьбы. Выгнаны з Дубая Альбрэхтам Радзівілам, перайшоў у 1636 г. ў Купяціцкі манастыр. У 1637—38 гг. ездзіў у Маскву да цара Міхаіла Фёдаравіча, раскрыў яму тайну Я. Ф. Лубы, напісаў гісторыю свайго падарожжа ў Маскву. У 1640 г. брэсцкія братчыкі выбралі А. Філіповіча ігуменам Сімяонаўскага манастыра (Брэст). Вёў актыўную дзейнасць супраць уніятаў. У 1641 і 1643 гг. выступаў на дзяржаўных сеймах у Варшаве з выпадамі ў адрас караля. У 1643 г. сасланы ў Кіеў, неўзабаве вярнуўся ў Брэст. У 1644 г. арыштаваны. Вызвалены ў пачатку 1647 г. 1.7.1648 г. арыштаваны па даносу за дапамогу казакам Багдана Хмяльніцкага і распаўсюджванне агітацыйных лісткоў. 5.9.1648 г. расстраляны каля в. Гершоны Брэсцкага р-на.

Публіцыстыка А. Філіповіча аб'яднана ў адзіны твор — «Дыярыуш» («Дзённік», 1646 г.), які па задуме аўтара павінен быў даць грунтоўнае тлумачэнне сутнасці яго барацьбы і пакут. У «Дыярыушы» выкладзены патрабаванні рашучых змен ва ўнутранай і знешняй палітыцы караля і сейма.

А. Філіповіч быў мужным змагаром за сацыяльныя інтарэсы нізоў беларускага і ўкраінскага народаў, за саюз з рускім народам. У «Дыярыушы» змешчаны запісаны кіеўскай пяцілінейнай натацыяй адзін з найбольш ранніх нотных узораў беларускай музыкі — напеў гімнападобнага канта А. Філіповіча.

*Літ.:* Коршунов А. Ф. Афанасий Филиппович: Жизнь и творчество.— Мн., 1965. *В. Б. Караткевіч.*

**51. МЕСЦА ЖЫЦЦЯ РАШЭТНІКАВА** Фёдара Міхайлавіча (гіст.). У 1867—69 гг. у Брэсце жыў рускі пісьменнік-дэмакрат Ф. М. Рашэтнікаў (1841—71 гг.). Уражанні і назіранні з тутэйшага жыцця адлюстраваны ў яго нарысах «Ад Брэст-Літоўска да Пецярбурга», камедыі «Прагрэс у павятовым горадзе» і шэрагу апавяданняў.

**52. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Маскоўскай,

паміж валамі былога форта № 3. Тут у 1942—43 гг. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі каля 1000 савецкіх патрыётаў — вязняў брэсцкай турмы. На ўшанаванне іх памяці ў 1975 г. на корпусе № 1 электрамеханічнага завода (вул. Маскоўская, 202) устаноўлена мемарыяльная дошка.

*А. С. Барысавец.*

**53. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ БРЭСЦКАЙ ГРУПЫ РСДРП** (гіст.). Першы сацыял-дэмакратычны гурток узнік у Брэсце ў 2-й палавіне 1890-х гадоў. У 1897 г. паліцыя раскрыла тайнае таварыства рабочых і рамеснікаў, многія яго члены былі арыштаваны. У канцы 1905 г. аформілася Брэсцкая група РСДРП, якая мела сувязь з Паўночна-Заходнім камітэтам РСДРП. У снежні 1905 г. група выпусціла адозву «Да ўсіх грамадзян горада Брэста», у якой заклікала да ўзброенага паўстання. У 1-й палавіне 1906 г. брэсцкія бальшавікі арганізавалі шэраг забастовак працоўных горада і выступленняў сялян павета. Палітычную работу сярод салдат гарнізона вяла створаная пры групе РСДРП ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя. Пад яе кіраўніцтвам у лістападзе 1905 г. і ў ліпені 1906 г. адбыліся найбольш буйныя хваляванні салдат. У маі 1907 г. большасць членаў групы арыштавана. У памяць аб дзейнасці Брэсцкай групы РСДРП на доме № 42 па вул. К. Маркса ў 1977 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* История Коммунистической партии Советского Союза: В 6 т. Т. 1—2.— М., 1964—66; КП(б)Б у рэзалюцыях. Ч. 1 (1903—1921 гг.).— Мн., 1934; Кузняев А. А. На пути к Октябрю: Из истории партийного строительства в Белоруссии 1884—1917 гг.— Мн., 1970; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.—2 изд.— Мн., 1968; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955.

*Э. М. Савіцкі.*

**54. МЕСЦА СЛУЖБЫ ГРЫБАЕДАВА** Аляксандра Сяргеевіча (гіст.). У 1813—16 гг. у Брэсце служыў ад'ютантам камандзіра рэзервовага кавалерыйскага корпуса рускі пісьменнік і дыпламат А. С. Грыбаедаў (1795—1829 гг.). Тут ён блізка пазнаёміўся з жыццём беларусаў, іх побытам, вуснай народнай творчасцю, напісаў свае першыя творы «Пісьмо з Брэст-Літоўска да выдаўца» [«Вестника Европы»] і «Пра кавалерыйскія рэзервы» (1814 г.), камедыю «Маладыя муж і жонка» (1815 г.).

*Літ.:* Науменко В. Я. Брест. Историко-экономический очерк.— Мн., 1970.

**55. МУЖЧЫНСКАЯ ГІМНАЗІЯ** (архіт.). Вул. Міцкевіча, 28. Пабудавана ў 1903 г. з цэглы. Цяпер вучэбны корпус педагагічнага інстытута. Спачатку П-падобны ў плане двухпавярховы аб'ём. Пазней надбудаваны 3-і паверх. Галоўны фасад (на «чырвонай лініі» вул. Міцкевіча) мае трохчасткавую кампазіцыю, завяршаецца ў цэнтры і па краях трохвугольнымі франтонамі над рызалітамі. Рознавялікія бакавыя фасады ўтвараюць унутраны двор. Фасады дэкарыраваны цаглянай муроўкай арак, франтонаў, нішаў, машыкуляў. Другі паверх завяршае магутны карніз на кранштэйнах. Рытм фасадаў ствараецца чаргаваннем лучковых аконных праёмаў і лапатак у прасценках. Планіроўка калідорная. Лесвічныя вестыбюлі — у цэнтры бакавых крылаў. Галоўная лесвіца вынесена ў самастойны дваровы рызаліт.



**55.** *Будынак былой мужчынскай гімназіі.*

Будынак — помнік грамадзянскага будаўніцтва, у якім шырока выкарыстаны элементы «цаглянай архітэктуры», характэрнай для канца 19— пачатку 20 ст.

*В. М. Чарнатаў.*

**56. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ МІКРАРАЕНА УСХОД** (архіт.). Вул. Маскоўская, 269. Пабудаваны ў 1980 г. (арх. Г. Чысцякоў). Фарміруе добраўпарадкаваную плошчу з дэкаратыўнымі сценамі-падпорамі, лесвіцамі, газонамі, кветнікамі. Кубападобны аб'ём на калонах, над якім выступае прамавугольнае ў плане памяшканне глядзельнай залы. Галоўны фасад вырашаны лаканічна ў выглядзе расчляёнай пілонамі плоскасці з суцэльным зашкленнем. Усе фасады апрацаваны тэразітавай тынкоўкай, галоўны — вылучаны вітражом. Ва ўнутраным дворыку — фантан, газоны, дарожкі выкладзены бетоннымі плітамі. У Палацы 3 залы — глядзельная на 760 месцаў, спартыўная з балконам для гледачоў, лекцыйная на 350 месцаў. Уваход у апошнюю праз шырокі вестыбюль 1-га паверха і двухсветлавое



**56.** *Палац культуры ў мікрараёне Усход.*



57. *Помнік Вызвалення.*

фае 2-га. На 3-м паверсе мастацкая студыя, танцавальная зала, пакоі для гуртковай работы. На 1-м паверсе клубнай часткі памяшканні для адміністрацыі, бібліятэка. У дзіцячым сектары бібліятэка, зала для гульняў, пакоі для работы гурткоў. У падвале гардэроб, санвузлы, майстэрні, тэхнічныя службы. У інтэр'еры выкарыстаны чырвоны і зялёны граніт, белы мармур, наборны паркет. У фае глядзельнай залы і бары мастацкія пано.

Лаканічная архітэктура будынка, асаблівасці функцыянальнага вырашэння робяць яго адным з удалых гарадскіх грамадска-культурных збудаванняў пасляваеннага часу.

*А. М. Кулагін.*

**57. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст., маст.). На пл. Свабоды, у скверы. Узведзены ў 1965 г. ў гонар войск 1-га Беларускага фронту, якія вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.




58. *Помнік М. В. Гогалю.*

27.7.1944 г. ў ходзе наступальнай Люблінска-Брэсцкай аперацыі войскі 70-й арміі (генерал-лейтэнант В. С. Папоў) абышлі горад з поўдня і злучыліся з часцямі 28-й арміі (генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі). Адначасова на ўсходнія подступы да Брэста выйшлі войскі 61-й арміі (генерал-палкоўнік П. А. Папоў). Брэсцкая групоўка праціўніка апынулася ў кальцы. У ноч на 28.7.1944 г. савецкія войскі зламалі ўпартае супраціўленне ворага, авалодалі горадам і крэпасцю. За мужнасць і гераізм 18 злучэнням і 29 вайсковым часцям прысвоены ганаровыя найменні «Брэсцкіх», 28 воінам — званне Героя Савецкага Саюза.

Помнік (арх. А. Гарбачоў і М. Мілавідаў, скульпт. М. Альтшулер; бетон, граніт; вышыня 8,7 м) — высокая, расшыраная ўверсе стэла на нізкім стылабаце. У верхняй частцы яе рэльефныя выявы галавы салдата ў касцы і галавы дзяўчынкі. Стэла абліцавана чырвоным паліраваным гранітам, пліты стылабата пакрыты шэрай мармуровай крошкай. На помніку высечаны надпіс: «28 ліпеня 1944 г. доблесныя войскі 1-га Беларускага фронту штурмам авалодалі горадам і крэпасцю Брэст, завяршыўшы поўнае вызваленне беларускай зямлі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

*Літ.:* История Великой Отечественной войны Советского Союза 1941—1945. Т. 4.— М., 1962. *Г. І. Сухляк, І. М. Ялатамцава.*

**58. ПОМНІК ГОГАЛЮ** Мікалаю Васілевічу (гіст.). На бульвары М. В. Гогаля. Пастаўлены ў 1962 г. да 110-й гадавіны з дня смерці пісьменніка (скульпт. А. Шмакаў; бетон; вышыня бюста 1,1 м, пастамента 2 м).

**59. ПОМНІК КІЖАВАТАВУ** Андрэю Мітрафанавічу (гіст.). Недалёка ад Брэсцкай крэпасці.

Герой Савецкага Саюза Кіжаватаў А. М. нарадзіўся 20.8.1907 г. ў с. Селікса Пензенскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. У Чырвонай Арміі з 1929 г. Напярэдадні вайны быў начальнікам 9-й заставы 17-га Брэсцкага Чырванасцяжнага пагранічнага атрада, якая размяшчалася ў Цытадэлі Брэсцкай крэпасці. 22.6. 1941 г. лейтэнант А. М. Кіжаватаў і воіны яго заставы прынялі першы бой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Разам з лейтэнантамі А. А. Патапавым і А. А. Сапіным кіраваў участкам абароны каля Цярэспальскіх варот, удзельнічаў у смелых вылазках. Быў некалькі разоў паранены. 29 чэрвеня з невялікай групай пагранічнікаў астаўся прыкрываць групы прарыву і загінуў у баі.

На месцы былой казармы заставы пастаўлены памятны знак — гранітны камень з пяціканцовай зоркай на вяршыні і надпісам на мармуровай дошцы: «Тут, у былым будынку 9-й заставы 17-га Чырванасцяжнага пагранатрада, па-геройску змагаліся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў савецкія пагранічнікі пад камандаваннем начальніка заставы лейтэнанта А. М. Кіжаватава». 6.5.1965 г. А. М. Кіжаватаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Мінску, пагранічная застава, цеплаход Дунайскага параходства; с. Селікса перайменавана ў Кіжаватава. У 1965 г. на заставе пастаўлены помнік — бюст героя (скульпт. А. Шмакаў).




59. *Помнік А. М. Кіжаватаву.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. М. Ходцава.*

**60. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст., маст.). На пл. Леніна. Пастаўлены ў 1958 г. (скульпт. М. Ластачкін, арх. Г. Заборскі; бронза, граніт; вышыня пастамента 6 м, фігуры 3,18 м).

Бронзавая фігура У. І. Леніна ўстаноўлена на вертыкальным пастаменце са ступеньчатым стылабатам. Правадыр паказаны ў энергічным, стрыманым руху. Правая рука ўказальным жэстам выкінута наперад. Скульптар беражліва захаваў індывідуальныя рысы твару У. І. Леніна, адначасова даў абагульнены вобраз правадыра, падкрэсліўшы яго велізарную волю, мэтанакіраванасць, перакананасць у справядлівасці сваіх



60. *Помнік У. І. Леніну.*

ідэй. Строгасць і стрыманасць пластычных прыёмаў дапамагаюць глыбей раскрыць агульную задуму помніка. Пастамент абліцаваны шаравата-чырвонымі плітамі граніту, на ім высечаны надпіс: «У. І. Ленін».

Помнік размешчаны побач з адміністрацыйнымі будынкамі горада, добра звязаны з навакольнай архітэктурай, з'яўляецца мастацка-кампазіцыйным акцэнтам плошчы.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**61. ПОМНІК МІЦКЕВІЧУ** Адаму (гіст.). На бульвары А. Міцкевіча. Пастаўлены ў 1965 г. да 110-й гадавіны з дня смерці польскага паэта (скульпт. А. Шмакаў; бетон; вышыня бюста 1,1 м, пастамента 2 м).

**62. ПОМНІК НАГАНАВУ** Аляксею Фёдаравічу (гіст., маст.). На вул. Наганава, перад Домам піянераў і школьнікаў.

А. Ф. Наганаў нарадзіўся 25.2.1915 г. ў с. Красная Рэчка Старамайнскага р-на Ульянаўскай вобл. Член ВЛКСМ. З 1937 г. ў Чырвонай Арміі. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны служыў у вайсковай часці, дыслацыраванай у Брэсцкай крэпасці. 22.6.1941 г. лейтэнант А. Ф. Наганаў геройна абараняў Цярэспальскія вароты, загінуў у баі. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені. У экспазіцыі Музея Брэсцкай крэпасці-героя захоўваецца камсамольскі білет А. Ф. Наганава. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Мінску.

Помнік пастаўлены ў 1974 г. (граніт, бетон, цэгла; вышыня бюста 0,5 м, пастамента 2 м). Падораны гораду самадзейным скульптарам з Арменіі Мікаэлам Манукянам да 30-годдзя вызвалення Брэста ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўмацаванай на прамавугольным пастаменце глыбе граніту высечаны партрэт А. Ф. Наганава. Мужны твар увасабляе высакароднасць савецкага афіцэра. Бетонны пастамент абкружаны выкладзенай з цэглы стужкай з паўцыркульным завяршэннем, нагадвае скляпенне казэмата Брэсцкай крэпасці.

*Літ.:* Героическая оборона: Сборник воспоминаний об обороне Брестской крепости в июне — июле 1941 г.— 4 изд.— Мн., 1971. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**63. ПОМНІК ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст., маст.). На скрыжаванні вуліц Леніна і Маскоўскай, арыентаваны ў бок вул. Маскоўскай, якая вядзе да Брэсцкай крэпасці. Пастаўлены ў 1972 г. (скульпт. М. Альтшулер, арх. А. Гарбачоў і М. Мілавідаў) на ўшанаванне памяці пагранічнікаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

На стылабаце з рознымі ўзроўнямі паўкруглых паверхняў, аб'яднаных 2 лесвіцамі, устаноўлены ссунутыя адносна вертыкальнай восі 3 жалезабетонныя двухметровыя кубы. У тоўшчы сярэдняга — гарэльеф з выявай пагранічніка, які сціскае ў руцэ зброю. Суровы позірк воіна, энергічная мадэліроўка скул, падбародка, пальцаў рук ствараюць вобраз мужнага вартавога граніц. Гарэльеф нібы адухаўляе камень, надае ўсёй кампазіцыі ўнутраную сілу. На верхнім кубе надпіс «Вартавым граніц», каля паднpossible падножжа, на гранітнай пліце — «Героям пагранічнікам, якія загінулі ў баях за Радзіму ў 1941—1945 гадах». Кубы і лесвіцы абліцаваны ружавата-шэрым гранітам.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; П л а т о н о в В. В. Они первыми приняли удар.— М., 1969.

*А. С. Барысавец, Л. Г. Лапцэвіч, Т. А. Слесарук.*

**64. ПОМНІК ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). На захад ад гарадской ускраіны Валынка, на тэрыторыі былой 10-й пагранзаставы. На ўшанаванне памяці начальніка заставы малодшага лейтэнанта Міхаіла Купрыянавіча Ішкова і 19 пагранічнікаў, якія мужна змагаліся і загінулі ў чэрвені 1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**65. ПОМНІК САВЕЦКІМ ТАНКІСТАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне горада, каля дарогі Пугачова — Гершоны.

Адныя з першых прынялі на сябе ўдар нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну воіны 22-й танкавай дывізіі пад камандаваннем генерал-маёра В. П. Пуганава.




61. *Помнік А. Міцкевічу.*



62. *Помнік А. Ф. Наганаву.*



63. *Помнік пагранічнікам.*

Раніцай 22.6.1941 г. фашысты скіравалі моцны артылерыйскі агонь па месцы дыслакацыі дывізіі. У складаных умовах В. П. Пуганаў умела арганізаваў вывад танкаў з-пад абстрэлу. 22 і 23 чэрвеня дывізія вяла на граніцы цяжкія баі супраць адборных танкавых часцей праціўніка. Асаблівай мужнасцю вызначыўся батальён 44-га танкавага палка пад камандаваннем капітана М. І. Кудраўцава. 24 чэрвеня ў раёне в. Імянін Кобрынскага р-на В. П. Пуганаў па-геройску загінуў. У 1967 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых танкістаў устаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Сандалов Л. М. Пережитое.— М., 1961. *А. С. Барысавец.*

**66. ПРАМЫСЛОВЫ ВУЗЕЛ** (архіт.). Ва ўсходняй частцы горада. Тэрыторыя абмежавана вуліцамі Маскоўскай, Піянерскай і Я. Купалы. Арганічна ўваходзіць у агульны ансамбль забудовы раёна. Праект схемы генеральнага плана прамысловага вузла распрацаваны ў інстытуце «Белпрампраект». Уключае 3 прамысловыя зоны: паўднёвую з прадпрыемствамі электратэхнічнай прамысловасці (электрамеханічны завод, 1963—72 гг., арх. І. Боўт, Л. Афанасьева, М. Буйлава; электралямпавы завод, 1963—70 гг., арх. І. Боўт, С. Корчык, Л. Сагалаў), паўночную з прадпрыемствамі лёгкай прамысловасці (дывановы камбінат, 1961—65 гг., арх. І. Боўт, Н. Шпігельман, Л. Міцкевіч; панчошны камбінат, 1965—67 гг., арх. І. Боўт, Л. Кітаева, Ж. Сахарава), цэнтральную з гаспадарчым комплексам (аб'екты энергетычнага, складскога і інжынернага забеспячэння).

Найбольш цікавыя будынкі дывановага і панчошнага камбінатаў, электрамеханічнага і электралямпавага заводаў. У вырашэнні іх ужыты шэраг тэхнічных і архітэктурных навэдзенняў: у шмат- і аднапавярховых будынках выкарыстаны уніфікаваныя тыпавыя секцыі і канструкцыі, упершыню ў рэспубліцы — перакрыцце са зборных папярэдне напружаных жалезабетонных ферм. Нясучыя і агараджальныя канструкцыі зборныя.



66. *Дывановы камбінат.*

Узбуйненая сетка калон, адсутнасць капітальных перагародак даюць магчымасць лёгка змяняць унутраную планіроўку і размяшчэнне абсталявання. Каб папярэдзіць перагрэў цэхаў у летні перыяд, дахавае пакрыцце арашаецца вадой. Тэхнічны шум паглынае перфараваная падвесная столь з тонкіх алюмініевых лістоў.

Трохпавярховы будынак дывановага камбіната мае ў плане форму выцягнутага прамавугольніка. Падоўжаны аб'ём галоўнага фасада рытмічна чляніцца выступаючымі вертыкалямі лесвічных клетак. У архітэктуры будынка выкарыстаны прыём гарызантальнага чаргавання стужкавых паясоў зашклення і глухіх панелей. Тарцы лесвічных клетак дэкарыраваны накладнымі металічнымі рэльефамі. Унутраная прастора цэхаў падзяляецца шклянымі перагародкамі. Гладкія сцены, падвесная столь, каляровая бясшоўная падлога ствараюць выразны інтэр'ер.

Побач з дывановым пабудаваны панчошны камбінат. Будынак мае аналагічнае аб'ёмна-прасторавае вырашэнне. Галоўныя вытворчыя памяшканні электрамеханічнага і электралямпавага заводаў зблакіраваны ў адзін будынак. Адміністрацыйна-бытавыя, інжынерныя карпусы, сталовыя, канферэнц-залы вынесены на адну з цэнтральных магістралей горада — вул. Маскоўскую.

Брэсцкі прамысловы вузел — адзін з першых прамысловых комплексаў у СССР, дзе выкарыстана тэрытарыяльнае аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў пры максімальным каапераванні іх асноўных і дапаможных службаў, інжынерных і энергетычных аб'ектаў. Такая забудова забяспечвае значны эканамічны эфект, стварае магчымасці для паляпшэння ўмоў працы, паспяховага вырашэння горадабудаўнічых і архітэктурна-кампазіцыйных задач. *Л. І. Прыгунова.*



66. *Электрамеханічны завод.*

**67. РАДЗІМА ЭСЕН** Марыі Майсееўны (гіст.). Удзельніца рэвалюцыйнага руху ў Расіі М. М. Эсен нарадзілася 21.11.1872 г. У 1890-я гады жыла на Украіне, член Кіеўскага «Саюза барацьбы за вызваленне рабочага кла-

са». У 1899 г. арыштавана і саслана на пасяленне ў Якуцію. У 1902 г. ўцякла за мяжу. У Жэневе сустракалася з У. І. Леніным. У 1903 г. член Пецярбургскага камітэта РСДРП. У 1904 г. кааптавана ў ЦК РСДРП. У 1905 г. член Пецярбургскага, у 1906 г. Маскоўскага камітэтаў партыі. У 1907 г. ад партыйнай дзейнасці адышла. Удзельнічала ў падрыхтоўцы Лютаўскай рэвалюцыі. У 1920 г. ўступіла ў РКП(б). У 1921—25 гг. на партыйнай рабоце ў Грузіі. З 1925 г. ў Маскве, працавала ў Дзяржвыдзе, Гіспарце, Камакадэміі, Дзяржлітвыдзе. Памерла 4.2.1956 г. ў Маскве.

*Літ.:* Славные большевички.— М., 1958.
*В. В. Семянюк.*

**68. РЭЎКОМ** (гіст.). Вул. Пушкінская, 23. У жніўні 1920 г. тут знаходзіўся рэвалюцыйны камітэт — часовы надзвычайны орган Савецкай улады ў Брэсце і павеце. Цяпер у доме паліклініка.

1.8.1920 г. часці Чырвонай Арміі вызвалілі Брэст ад войск буржуазнай Польшчы. У горадзе была ўстаноўлена Савецкая ўлада і створаны рэўком. Яго першым старшынёю быў начальнік палітаддзела 57-й стралковай дывізіі А. І. Уграў, потым М. Мароз. 19.8.1920 г. ў выніку новага наступлення польскіх войск Чырвоная Армія пакінула горад, рэўком эвакуіраваўся і пазней быў расфарміраваны.

У 1967 г. на фасадзе будынка ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сборник документов и материалов.— Мн., 1957.
*Т. А. Слесарук.*

**69. СІМЯОНАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. К. Маркса, 84. Пабудавана ў 1865 г. з цэглы.

Будынак цэнтрычнай кампазіцыі. Квадратны ў плане аб'ём пастаўлены на высокі цокаль, абліцаваны ружовым гранітам. У аб'ёме дамінуюць 4 вуглавыя шатровыя вежы і цэнтральны васьміграпны барабан з шатровым завяршэннем, праёмы якога дэкарыраваны какошнікамі. Паўкруглая апсіда фланкіравана галоўкамі. Матыў какошніка выкарыстаны таксама ў афармленні галоўнага і тарцовых уваходаў, арачных аконных праёмаў. Па перыметры будынак абрамляе высокі карніз і філёнгавы парапет з трохвугольнымі франтонамі. Прастора інтэр'ера падзелена слупамі на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі цыліндрычнымі скляпеннямі, якія дэкарыраваны паліхромнымі арнаментам. Галерэя хораў злучаецца з нефам шырокім арачным праёмам.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.
*А. М. Кулагін.*

**70. ЧАСОВАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ** (гіст.). Вул. Савецкая, 53. Выконваючы вызваленчую місію, войскі Чырвонай Арміі 22.9.1939 г. ўвайшлі ў Брэст. З



68. *Будынак, у якім знаходзіўся рэўком.*

прадстаўнікоў Чырвонай Арміі і мясцовага насельніцтва ў горадзе было створана Часовае ўпраўленне, якое да ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР (лістапад 1939 г.) вырашала пытанні палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця, устанаўлення рэвалюцыйнага парадку. За кароткі тэрмін наладзіла работу камунальнай гаспадаркі, забеспячэнне насельніцтва горада прадуктамі, бясплатным медыцынскім абслугоўваннем. У 1954 г. на доме, дзе працавала Часовае ўпраўленне, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Рашевский Н. А. Брестская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1975; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966.

**71. ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ** (архіт., маст., гіст.). У паўночна-заходняй частцы горада. Ад вакзала разыходзяцца пуці ў Маскоўскім, Гомельскім, Кіеўскім, Варшаўскім і інш. напрамках.

Вакзал пабудаваны ў 1886 г. з цэглы ў псеўдарускім стылі (арх. В. Лорберг, Л. Нікалаі, Я. Гарбуноў). Быў адным з буйнейшых вакзалаў у Расіі. У Вялікую Айчынную вайну вакзал паўразбураны. У 1956 г. адноўлены ў старых параметрах са зменай планіроўкай (інжынер І. Пестракоў). У 1975 г. з маскоўскага напрамку да вакзала прыбудаваны новы павільён. Вызначаецца ўдалым вырашэннем складаных функцыянальна-тэхнічных задач (адначасовая пасадка пасажыраў і адпраўленне цягнікоў па ўсіх напрамках, зручнасць захавання і перамяшчэння багажу). Сувязь з горадам ажыццяўляецца па пуцеправоду. Аб'ёмная кампазіцыя падпарадкавана функцыянальнаму падзелу памяшканняў. Цэнтральнае становішча займае вестыбюль. Па перыметры да яго прылягаюць залы-чакальні, службовыя і дапаможныя памяшканні. На сцяне залы чакання новага павільёна мазаіка «Брэсцкая крэпасць-герой». Шматфігурная кампазіцыя складаецца з асобных сцэн: «Сустрэча з касманаўтамі», «Сустрэча з абаронцамі крэпасці», «Вяселле», «Шчаслівае юнацтва» і інш. Кампазіцыя разгорнута на фоне панарамы Брэсцкай крэпасці як апавяданне пра мірнае і шчаслівае жыццё жыхароў горада. Па абодва бакі яе — сімвалічныя выявы 2 воінаў пад сцягам і жанчыны-маці з дзіцем на руках. Мазаічная кампазіцыя ўвасабляе патрыятычную ідэю — імкненне савецкага народа да міру, яго гатоўнасць абараніць заваяваную перамогу.

Месца гераічнай абароны 1941 г. Вакзал 22—29 чэрвеня, у Вялікую Айчынную вайну, быў адным з вузлоў супраціўлення нямецка-фашысцкім захопнікам. Пасля першай бамбардзіроўкі і артылерыйскага абстрэлу горада тут былі створаны баявыя групы з вайскоўцаў, якія на той час знаходзіліся на станцыі Брэст-Цэнтральны, а таксама з работнікаў міліцыі, чыгуначнікаў. Абарону ўзначалілі начальнік лінейнага аддзялення міліцыі А. Я. Вараб'ёў, старшына звыштэрміновай службы



69. *Сімяонаўская царква. План.*



69. *Сімяонаўская царква.*



**71.** *Чыгуначны вакзал.*

П. П. Баснеў і артылерыст лейтэнант М. Шымчанка. Групы атрымалі са склада ваенізаванай аховы зброю, занялі падыходы да вакзала і адбілі некалькі атак праціўніка. Калі гітлераўцы пачалі абыходзіць абаронцаў, яны забарыкадзіраваліся ў падвалах будынка вакзала, вялі агонь па ворагу з акон. Становішча ўскладнялі пасажыры, якія з налётам варожай авіяцыі перайшлі ў падвалы. Абаронцы вывелі жанчын і дзяцей наверх, самі вырашылі змагацца да апошняга патрона. Пацярпеўшы няўдачу пры спробе ўварвацца ў падвалы, гітлераўцы затапілі іх. Многім абаронцам удалося выратавацца. Потым яны змагаліся супраць ворага ў радах Чырвонай Арміі і партызанскіх атрадах. У памяць аб абаронцах вакзала на яго будынку ў 1964 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 гг.): Сборник воспоминаний.— Мн., 1961; Смирнов С. С. Были великой войны.— М., 1966; Гречнева Л. Брестский вокзал.— Неман, 1977, № 6.

*Г. І. Дулеба, В. М. Чарнагаў.*

**72. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА БАЛЬШАВІКОЎ** (гіст.). Вул. Куйбышава, 47. У час акупацыі Брэста войскамі буржуазнай Польшчы ў 1919—20 гг. тут была явачная кватэра бальшавікоў.

8.3.1919 г. ЦК КП(б) Літвы і Беларусі прыняў рашэнне аб стварэнні ў тыле ворага камуністычнага падполля і партызанскіх атрадаў. У Брэсце падпольная арганізацыя бальшавікоў створана ў красавіку 1919 г. Яе ўзначаліў Якаў Барысавіч Быкін (у 1912 г. ў эміграцыі ў Швейцарыі не раз выконваў даручэнні У. І. Леніна). У арганізацыю ўваходзілі адзін з стваральнікаў у дні Кастрычніцкай рэвалюцыі Рагачоўскай бальшавіцкай ячэйкі М. П. Хаўкін (пасля ўстанаўлення Савецкай улады ў Брэсце ўзначальваў гарадскую міліцыю, адначасова быў камісарам Брэсцкай крэпасці), А. Іваноў (партыйная клічка Ваня) і інш. Падпольшчыкі наладзілі сувязь з ЦК Камуністычнай рабочай партыі Польшчы, вялі прапагандысцкую работу сярод насельніцтва горада і польскіх легіянераў, распаўсюджвалі пракламацыі і лістоўкі. У адной з іх пад назвай «Бальшавікі змагаюцца» ад 30.6.1919 г. быў змешчаны заклік да рабочых чыгункі і саматужнай прамысловасці аб'яднацца і разам павесці рашучую барацьбу супраць акупантаў, за ўстанаўленне Савецкай улады.

У 1976 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*А. С. Барысавец, Т. А. Слесарук.*




# БАРАНАВІЦКІ РАЁН

Пачапава
Зялёная
Карчова
Паланэчка
Ішкалдзь
Завоссе
Скробава
Моўчадзь
Гарадзішча
Вольна
Петкавічы
Мядзеневічы
Вял. Сяло
Калдычэва
Савічы
Арабаўшчына
Перхавічы
Гірмантаўцы
Люшнева
Цешаўля
Сталовічы
Лотвічы
Свіраны
Лебяжаны
Мал. Каўпеніца
Крошын
Забалацце
Падлясейкі
Палонка
Нов. Мыш
БАРАНАВІЧЫ
Русіно
Вял. Валахва
Малахоўцы
Вял. Лукі
Лясная
Падгорная
Уцёс
Мілавіды
Ямічна

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамесстваў

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

## II. БАРАНАВІЧЫ

Горад (з 1919 г.) абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. За 206 км на паўночны ўсход ад Брэста. Вузел чыгунак (лініі на Мінск, Брэст, Слуцк, Лунінец, Ліду, Ваўкавыск) і аўтамабільных дарог. Аэрапорт. 141 тыс. жыхароў (1982 г.).

Узнікненне Баранавіч звязана з будаўніцтвам чыгунак ў 2-й палавіне 19 ст. Невялікая (3-га класа) станцыя Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (здадзена ў эксплуатацыю ў лістападзе 1871 г.) стала цэнтрам, вакол якога пачалі сяліцца чыгуначныя служачыя і рабочыя. Да сярэдзіны 1880-х гадоў у пасёлку каля 1,5 тыс. жыхароў, 120 дамоў. Уладальніца мясцовага маёнтка Л. А. Развадоўская дамаглася ў 1884 г. надання пасёлку статуса мястэчка, якое атрымала назву Развадова.

У снежні 1884 г. пачаў дзейнічаць участак дарогі Вільня — Лунінец — Пінск. На землях дзяржаўнага маёнтка Каўпеніца і вёсак Свяцілавічы, Дубна і Каўпеніца вырас другі пасёлак. У 1886 г. з пачаткам руху на ўчастку чыгункі да Беластока ўзнікла станцыя Баранавічы-Палескія. У 1890-я гады пасёлкі зліліся і ўтварылі Баранавічы. Былі пабудаваны пакгаузы, млын, сухарны завод віленскага інтэндантства, прадуктовы пункт. На сталае кватараванне прыбылі 2-і і 3-і чыгуначныя батальёны, 5-я рота 4-га чыгуначнага батальёна, 2 батальёны пяхотнага палка. Паводле перапісу 1897 г., у Баранавічах 8718 жыхароў, 834 будынкі, 4 прадпрыемствы, двухкласныя школы (чыгуначная і дабрачыннага таварыства). Перспектывы развіцця ў сувязі са зручным размяшчэннем і адсутнасць сродкаў на добраўпарадкаванне вымусілі мясцовыя ўлады ў пачатку 20 ст. хадайнічаць перад царскім урадам аб пераводзе мястэчка ў разрад горада. Але гэтае пытанне не было вырашана.

Напярэдадні Рэвалюцыі 1905—07 гг. у Баранавічах дзейнічаў гурток РСДРП чыгуначнікаў, які падтрымліваў сувязь з Вільняй, Пецярбургам, Рыгай, Жэневай. У 1905 г. пад кіраўніцтвам групы РСДРП адбылося выступленне рабочых і салдат. Пры дапамозе войск царскія ўлады задушылі выступленне.

У пачатку 1-й сусветнай вайны ў Баранавічах знаходзілася Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага рускай арміяй. Вайна і нямецкая акупацыя, якая працягвалася з восені 1915 г., прынеслі вялікія разбурэнні. 5.1. 1919 г. Чырвоная Армія вызваліла Баранавічы. Тут была ўстаноўлена Савецкая ўлада. Паводле пастановы Прэзідыума ЦВК БССР ад 6.2.1919 г. «Аб утварэнні Баранавіцкага павета ў Мінскай губерні» Баранавічам нададзены статус горада. Вялікую работу па арганізацыі і ўмацаванню Савецкай улады ў горадзе і павеце праводзіў Баранавіцкі павятовы рэвалюцыйны камітэт.

У вайну, развязаную буржуазнай Польшчай супраць маладой Савецкай рэспублікі, горад неаднаразова быў арэнай ваенных дзеянняў. У сакавіку 1919 г.— ліпені 1920 г. і з верасня 1920 г. акупіраваны польскімі войскамі. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. Пад кіраўніцтвам КПЗБ працоўныя горада вялі ўпартую барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Баранавічы — цэнтр вобласці (1939—54 гг.).

У Вялікую Айчынную вайну Баранавічы акупіраваны з 27.6.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Гітлераўцы знішчылі каля 31 тыс. чалавек, 80 % прамысловых прадпрыемстваў, навучальныя і культурна-асветныя ўстановы, 2500 жылых дамоў. Насельніцтва горада і вобласці вяло рашучую барацьбу з ворагам. Яе ўзначальвалі падпольныя абком і гарком КП(б)Б, абком і гарком ЛКСМБ. Горад вызвалены 8.7.1944 г. ў выніку Баранавіцка-Слонімскай аперацыі. 28 вайсковым злучэнням і часцям, якія вызвалілі горад, нададзены ганаровыя найменні «Баранавіцкіх».

З 8.1.1954 г. Баранавічы ў Брэсцкай вобл., з 20.5.1954 г. цэнтр Навамышскага, з 8.4.1957 г.— Баранавіцкага р-наў. У 1959 г.— 58,1 тыс., у 1970 г.— 101,5 тыс. жыхароў.

Архітэктурна-планіровачная структура горада захоўвае пераважна прамавугольную схему, якая склалася ў канцы 19 ст. У 1967 г. ў інстытуце «Белдзяржпраект» распрацаваны генеральны план аднаўлення і далейшага развіцця горада. З улікам перспектыў будаўніцтва ў Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва ў 1977 г. зроблена карэкціроўка генплана. Паводле яго захоўваецца гістарычная прамавугольная сетка вуліц, добраўпарадкоўваюцца ўскраінныя раёны.

Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр горада — пл. Леніна на скрыжаванні галоўных магістралей — вуліц Леніна, Савецкай і Камсамольскай. Яе кампазіцыйны цэнтр — помнік У. І. Леніну. Дамінанта забудовы плошчы — 9-павярховы будынак гасцініцы «Гарызонт» (1979 г.). Асноўныя грамадскія і жылыя збудаванні ўзведзены ў цэнтральнай частцы горада ў 1940—70-я гады: гарком КПБ на пл. Леніна (1946 г.), Дом культуры будаўнікоў на вул. Камсамольскай (1956 г.), 136-кватэрны жылы дом (1960 г.), гарадскі Дом культуры на вул. Леніна (1962 г.), Дом спорту на вул. Дзімітрова (1966 г.), Дом Саветаў на вул. Савецкай (1970 г.), кінатэатр «Кастрычнік» на вул. Леніна (1975 г.) і інш. У цэнтральнай частцы горада ўстаноўлены бюст двойчы Героя Савецкага Саюза С. І. Грыцаўца (вул. Камсамольская), перад Домам культуры (вул. Леніна) — помнік Вызвалення. Ва ўрочышчы Гай, на месцы расстрэлу нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. 3 тыс. чэхаславацкіх грамадзян, створаны мемарыяльны комплекс.

У 1960—80-я гады пабудаваны новыя прамысловыя прадпрыемствы, жылыя раёны і мікрараёны. Вырас



II. *Плошча Леніна.*

мікрараён на вул. Кірава, дзе знаходзіцца баваўняны камбінат. Сучаснымі 5—9-павярховымі жылымі дамамі забудоўваюцца мікраёны Паўночны-1, Усходні-1, Паўднёвы-3. Добраўпарадкоўваецца парк імя 30-годдзя ВЛКСМ.

Атрымалі развіццё лёгкая прамысловасць (баваўняны камбінат, швейная, трыкатажная, абутковая фабрыкі, філіял мінскага вытворчага аб'яднання цацак «Мір»), машынабудаванне (заводы: аўтаагрэгатны, аўтаматычных ліній, станкапрылад, гандлёвага машынабудавання, санэлектразагатовак, рамонтна-механічны, камбінат сянажных вежаў), харчовая прамысловасць (мясакансервавы камбінат, віна-кансервавы, малочны, піваварны заводы, хлебазавод, камбінат хлебапрадуктаў і інш.). Дзейнічаюць камбінат жалезабетонных канструкцый, завод бытавой хіміі, 2 заводы жалезабетонных вырабаў, вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, фабрыкі — мастацкіх вырабаў, мэблевая і інш., метэастанцыя.

У горадзе ёсць тэхнікумы тэхналагічны і лёгкай прамысловасці, музычнае і медыцынскае вучылішчы, 4 прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 24 агульнаадукацыйныя школы, 50 дашкольных устаноў, 42 бібліятэкі, 11 стацыянарных кінаўстановак, 19 клубных устаноў, краязнаўчы музей, 15 медыцынскіх устаноў. Выдаецца аб'яднаная газета «Знамя коммунизма».

Зоны адпачынку за межамі горада: штучнае возера Баранавічы на р. Мышанка, возера Жлобін, турбаза «Лясное возера» на вадасховішчы Гаць, урочышча Гай.

*Літ.*: Торговля и промышленность Европейской России по районам. В. 11. Полесская полоса.— СПб., [1912]; Фон-Бер Ф. Э. Об образовании Барановичского уезда: (К вопросу об изменении границ уездов Минской губернии).— Мн., 1913; Бородина В. П. Промышленность Белорусского Полесья.— Мн., 1968; Рашевский Н. Брестская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1975.

*А. Ю. Пятросава, С. А. Шчарбакоў.*

**73. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. Пахаваны Л. П. Барадзінскі, Г. М. Герасімук, Т. І. Дземідовіч, А. М. Дзянішчык, А. А. Доўгер, К. М. Доўгер, Г. А. Ліцкевіч, І. А. Ліцкевіч, А. Ю. Шырко — члены падпольнай групы, якая дзейнічала ў жніўні 1943 г.— сакавіку 1944 г. пад кіраўніцтвам А. І. Крыштофіка. Падпольшчыкі рабілі дыверсіі, перапраўлялі людзей у партызанскія атрады, здабывалі і перадавалі партызанам звесткі аб праціўніку, боепрыпасы, медыкаменты, паперу. Акупанты высачылі патрыётаў і 11.3.1944 г. закатавалі іх.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**74. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. Пахаваны К. П. Бодак, Я. М. Карніенка, А. В. Ягораў — члены падпольнай групы, якая дзейнічала на Баранавіцкім чыгуначным вузле з чэрвеня 1943 г. Групу з 5 чалавек узначальваў К. П. Бодак. Падпольшчыкі выводзілі са строю паравозы і іншую тэхніку, збіралі і перадавалі партызанам звесткі аб руху варожых эшалонаў. У 1944 г. гітлераўцы арыштавалі і пасля зверскіх катаванняў 26.4.1944 г. павесілі патрыётаў.

У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.



77. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**75. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**76. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г.

**77. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. Пахаваны 295 воінаў. 294 з іх загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941, 1944 гг. У ліку пахаваных Героі Савецкага Саюза Іван Паўлавіч Лісін, Васіль Іванавіч Матронін, Аляксандр Георгіевіч Наканечнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

І. П. Лісін нарадзіўся 14.10. 1914 г. ў с. Мала-Нікольск Мурамцаўскага р-на Омскай вобл. З сялян. У 1930—35 гг. працаваў у калгасе на радзіме, з 1937 г.— лесарубам на Далёкім Усходзе. З жніўня 1941 г. ў Чырвонай Арміі. Ваяваў на Заходнім, Цэнтральным, Беларускім франтах. У кастрычніку 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра на тэрыторыі Лоеўскага р-на Гомельскай вобл. І. П. Лісін з групай воінаў пераправіўся цераз раку, захапіў плацдарм і ўтрымліваў яго да падыходу падмацавання. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Загінуў 7.7.1944 г. пры вызваленні г. Баранавічы. Яго імем названа вуліца ў Баранавічах. У 1963 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

В. І. Матронін нарадзіўся ў 1904 г. ў с. Папоўка Сенгілееўскага р-на Ульянаўскай вобл. З рабочых. Член КПСС з 1927 г. З 1919 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У 1927 г. скончыў ваеннае вучылішча ў Тбілісі, у 1937 г.— вышэйшую паграншколу. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Камандзір стралковай дывізіі палкоўнік В. І. Матронін вызначыўся ў 1944 г. ў баях за вызваленне г. Бельск і авалоданне плацдармам на р. Нараў (Польшча). Загінуў 2.11.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.10.1945 г. У 1963 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

А. Г. Наканечнікаў нарадзіўся 16.9.1915 г. ў г. п. Дзергачы Саратаўскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1940 г. З 1933 г. ў Чырвонай Арміі. Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі (1936—39 гг.). У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтральным, 1-м Беларускім франтах. Камандзір штурмавога авіяпалка гвардыі падпалкоўнік А. Г. Наканечнікаў асабіста зрабіў 81 баявы вылет, полк пад яго камандаваннем — 2028 вылетаў. За гераізм і адвагу, умелае камандаванне палком А. Г. Наканечнікаву 1.7. 1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Пасля вайны ў Савецкай Арміі. Памёр 10.11.1946 г. Яго імем названа вуліца ў Баранавічах.

У 1963 на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

**78. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. Пахаваны 21 воін, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**79. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). Вул. Куйбышава, 34. Пабудаваны ў 1924 г. з дрэва. Трохнефавая базіліка з пяціграннай апсідай. Галоўны фасад завершаны васьмігранай вежай-званіцай.

**80. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. Пахаваны польскія грамадзяне,



79. *Крыжаўзвіжанскі касцёл.*



79. *Крыжаўзвіжанскі касцёл. План.*

расстраляныя 13.7.1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. Колькасць ахвяр не ўстаноўлена. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**81. МАГІЛА ДАРАШЭВІЧА** Мікалая Фёдаравіча (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. М. Ф. Дарашэвіч — удзельнік Баранавіцкага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну. 3.6.1943 г. ён узарваў на ст. Баранавічы-Цэнтральныя варожы эшалон з гаручым. Загінуў пры выкананні гэтага задання. У 1974 г. на будынку станцыі ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск. Яго імем названа вуліца ў Баранавічах.

**82. МАГІЛА ЗВЕРАВА** Васіля Андрэевіча (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках.

Герой Савецкага Саюза В. А. Звераў нарадзіўся 20.7.1923 г. ў в. Вялікае Кушунава Скопінскага р-на Разанскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1953 г. З 1937 г. працаваў трактарыстам у калгасе на радзіме. У Чырвонай Арміі з чэрвеня 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з мая 1942 г.— радавы, малодшы сяржант, катэрыст пантонна-маставога батальёна. Удзельнік вызвалення Украіны, Беларусі, Польшчы, разгрому ворага ў Германіі. Фарсіраваў 36 рэк, у т. л. Днярпо ў раёне Кіева. У адной з баявых аперацый вясной 1945 г. пераплыў Одэр, захапіў катэр праціўніка і пераправіў на ім савецкіх дэсантнікаў на варожы бераг. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена ў 1945 г. Пасля вайны працаваў на мясакамбінаце ў г. Баранавічы. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг. Памёр 13.10.1971 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**83. МАГІЛА КАДАЧНІКАВА** Івана Пятровіча (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках.

Герой Савецкага Саюза І. П. Кадачнікаў нарадзіўся 19.6.1911 г. ў в. Вядзернікі Верашчагінскага р-на Пермскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1944 г. У 1935—41 гг. працаваў электразваршчыкам у Свярдлоўскай вобл. З чэрвеня 1941 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце са студзеня 1943 г.— гвардыі яфрэйтар, сапёр. Удзельнік баёў пад Сталінградам, Арлом, Чарнігавам, вызвалення Беларусі, Польшчы. Скончыў вайну ў Берліне. Гераічны подзвіг здзейсніў у верасні 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра на тэрыторыі Камарынскага р-на Палескай вобл. Трое сутак пад агнём праціўніка перапраўляў на правы бераг ракі артылерыю і пяхоту. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Пасля вайны працаваў электразваршчыкам на Баранавіцкім заводзе жалезабетонных канструкцый. Памёр 25.8. 1967 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**84. МАГІЛА КАЛОЛЫ** Праскоўі Лазараўны (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы П. Л. Калола нарадзілася 8.3.1895 г. ў в. Падкасоўе Навагрудскага р-на. З сялян. Член КПСС з 1952 г. З 1949 г. звеннявая льнаводчага звяна, з 1953 г. намеснік старшыні калгаса імя Леніна Навагрудскага р-на. У 1958—60 гг. звеннявая паляводчай брыгады гэтай гаспадаркі. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1949 г. Памерла 23.8.1976 г.

У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**85. МАГІЛА МАЛЕНА** Арсенія Антонавіча (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках.

Герой Савецкага Саюза А. А. Мален нарадзіўся 20.4.1921 г. ў с. Грачанае Валачыскага р-на Хмяльніцкай вобл. З сялян. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г.— гвардыі маёр, камандзір эскадрыллі. Вызначыўся ў баях на тэрыторыі Германіі. 17.2.1945 г. група самалётаў на чале з А. А. Маленам пад шквальным зенітным агнём праціўніка знішчыла 2 варожыя танкі, самаходную гармату, 10 аўтамашын з боепрыпасамі, 3 зенітныя батарэі ворага, 21.2. 1945 г.— каля 18 аўтамашын, 2 артылерыйскія батарэі праціўніка. За гады вайны А. А. Мален зрабіў 185 баявых вылетаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.2.1945 г. Памёр 3.2.1950 г.

У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**86. МАГІЛА ЦАРУКА** Уладзіміра Зянонавіча (гіст.). На вул. Загараднай, на могілках. У. З. Царук — дзеяч рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Баранавіцкай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну.

Нарадзіўся 20.12.1899 г. ў в. Вялікае Вобрына Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл. З сялян. Член КПСС з 1924 г. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці вёскі, працаваў сакратаром рэўкома. У Грамадзянскую вайну добраахвотнік Чырвонай Арміі, палітрук роты на Заходнім фронце. З 1920 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі. З 1924 г. сакратар Мірскага падпольнага райкома КПЗБ. У 1926 г. арыштаваны. 13 гадоў правёў у турмах буржуазнай Польшчы. Вызвалены Чырвонай Арміяй у 1939 г., актыўна ўдзельнічаў ва ўстанаўленні Савецкай улады ў Заходняй Беларусі, працаваў у партыйных і савецкіх органах. У Вялікую Айчынную вайну кіраўнік Стаўбцоўскага падпольнага міжрайпартцэнтра, сакратар, першы сакратар Стаўбцоўскага падпольнага райкома КП(б)Б, член Баранавіцкага падпольнага абкома КП(б)Б, памочнік упаўнаважанага ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху па Баранавіцкай вобл., камандзір Стаўбцоўскага партызанскага злучэння. За мужнасць і гераізм, асабістыя заслугі ў арганізацыі партызанскага руху ў Баранавіцкай вобласці У. З. Царуку 15.8.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Пасля вайны працаваў сакратаром Стаўбцоўскага райкома КП(б)Б, намеснікам старшыні Баранавіцкага аблвыканкома, старшынёй Баранавіцкага гарвыканкома. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—54 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1940—47 і 1955—57 гг. Памёр 27.1.1957 г.

Яго імем названа вуліца ў Баранавічах, калгас у Карэліцкім р-не Гродзенскай вобл., дзе ўстаноўлены бюст У. З. Царука. На радзіме мемарыяльны музей. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Навечно в сердце народном.—3 изд.— Мн., 1984; Аслёзов С. А. Если не мы, то кто же?: (О Герое Советского Союза В. З. Царюке).— М., 1979. *Г. І. Дулеба.*

**87. МАГІЛА ЧОРНАГА** Фёдара Васілевіча (гіст.). Вул. Загарадная, на могілках. Савецкі воін Ф. В. Чорны загінуў у баі супраць нямецка-фа-

шысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**88. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «УРОЧЫШЧА ГАЙ»** (гіст., маст.). На заходняй ускраіне горада, ва ўрочышчы Гай.

У чэрвені 1942 г. фашысты даставілі на ст. Баранавічы эшалон з чэхаславацкімі грамадзянамі. Невялікімі групамі гітлераўцы выводзілі людзей ва ўрочышча і расстрэльвалі. Забітых скідвалі ў 2 вялізныя равы.

У 1971—72 гг. на месцы гібелі 3 тыс. чэхаславацкіх грамадзян створаны мемарыяльны комплекс (арх. М. Мілавідаў, А. Макараў, А. Марэніч, скульпт. М. Альтшулер; бетон, медзь, бронза, мармур, бутавы камень). Дамінанта кампазіцыі комплексу — 2 пілоны (13 і 14 м), якія нагадваюць слупы агароджы канцлагера. Уверсе да іх прымацаваны бронзавы звон са спецыяльнай сістэмай падвескі, якая чуйна рэагуе на самы слабы подых ветру, унізе — блок з медных лістоў (2,7×2,6 м), з рэльефнай выявай мноства рук, узнятых і сціснутых у пратэсце, болі і адчаі. Пілоны пастаўлены на месцы, дзе ў час расстрэлу быў кулямёт. Ад галоўнага манумента пракладзены палосы пліт да 2 равоў-магіл, паміж якімі — бетонная пліта з надпісам-прысвячэннем. За магіламі «Сцяна загінуўшых» з 3 тыс. бутавых камянёў. Да яе прымацавана мармуровая дошка з выявамі цярновай галінкі і надпісам на рускай і чэшскай мовах: «Светлай памяці чэхаславацкіх братоў». У кампазіцыю помніка ўключаны адрэзак палявой дарогі, па якой ахвяр вялі да месца расстрэлу. Дарогу перагароджвае сімвалічны «Парог жыцця і смерці» — рассечаны бетонны брус. Фактура бетону стварае ўражанне слядоў, пакінутых людзьмі, што пераступілі парог быцця. Дакладная перадача абставін трагедыі, журботныя гукі звана робяць вялікае эмацыянальнае ўражанне.

Мемарыяльны комплекс — значны твор манументальнага мастацтва.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965.

*Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*



88. *Мемарыяльны комплекс «Урочышча Гай». Фрагмент галоўнага манумента.*

**89. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ РАБОЧЫХ І САЛДАТ 1905 г.** (гіст.). Ст. Баранавічы-Палескія.

7.12.1905 г. Маскоўскі Савет аб'явіў палітычную стачку, якая праз 2 дні перарасла ва ўзброенае паўстанне. Выступленне маскоўскага пралетарыяту падтрымалі працоўныя Беларусі. 8 снежня пад кіраўніцтвам групы РСДРП пачалася палітычная стачка баранавіцкіх чыгуначнікаў. 9 снежня рабочыя на чале з старшынёй камітэта Баранавіцкага аддзялення Усерасійскага чыгуначнага саюза інжы-

88. *Мемарыяльны комплекс «Урочышча Гай». Галоўны манумент.*

нерам М. М. Ляшко вывелі са строю апаратуру паштова-тэлеграфнай канторы. Спыніўся рух паяздоў. На мітынгах і дэманстрацыях з заклікам да ўзброенай барацьбы выступіў прадстаўнік Маскоўскага Савета. 11 снежня на пляцы сабраліся рабочыя дэпо, салдаты чыгуначнага батальёна, моладзь. Генерал Арцем'еў загадаў разагнаць удзельнікаў мітынгу. Рабочыя сарвалі з яго пагоны, паламалі шашку. Калі афіцэры, якія суправаджалі генерала, пачалі страляць і паранілі некалькі чалавек, узброеныя рабочыя адказалі агнём. З загадам задушыць выступленне ў Баранавічы 12 снежня прыбыў атрад палкоўніка Рэрберга, 13 снежня — карны атрад генерала Арлова. У горадзе ўвялі ваеннае становішча, пачаліся масавыя арышты. У Віленскую турму кінуты кіраўнікі і актыўныя ўдзельнікі выступлення К. Гайдамовіч, М. Мухін, А. Друкаў, І. Бачэўскі, С. Здасель, М. Ляпко і інш. Рух на чыгунцы быў адноўлены 16 снежня, але хваляванні рабочых і салдат працягваліся.

У 1966 г. на будынку вакзала ў памяць аб падзеях 1905 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Майзель Л. Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей.— Мн., 1934.

*М. І. Алексяюк, С. А. Шчарбакоў.*

**90. МЕСЦА ЗАГУБЫ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На вул. Горкага (былая Рынačная пл.). Тут 11.3. 1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты закатавалі падпольшчыкаў Л. П. Барадзінскага, Г. М. Герасімук, Т. І. Дземідовіча, А. М. Дзянішчыка, А. А. Доўгер, К. М. Доўгера, Г. А. Ліцкевіч, І. А. Ліцкевіча, Ю. А. Шырко. У 1966 г. на доме № 10 устаноўлена мемарыяльная дошка.

**91. МЕСЦА ЗАГУБЫ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Чыгуначная ст. Баранавічы-Цэнтральныя, тэрыторыя паравознага дэпо. Тут 26.4.1944 г. нямецка-фашысцкія акупанты пасля жорсткіх катаванняў павесілі падпольшчыкаў К. П. Бодака, Я. М. Карніенку і А. В. Ягорава. У 1964 г. на будынку клуба паравознага дэпо ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**92. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). Вул. Брэсцкая. У 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты стварылі на тэрыторыі турмы філіял Лясянскага лагера смерці. Тут у катаржных умовах знаходзілася да 20 тыс. чалавек. Фашысты сістэматычна ўчынялі масавыя расстрэлы, фізічныя пакаранні зняволеных. Зімой іх трымалі пад адкрытым небам, забаранялі раскладаць агонь. Ад холаду, голаду, хвароб, непасільнай працы штодня гінула шмат людзей. Тут загублена каля 31 тыс. ваеннапалонных і мірных жыхароў.



92. *Помнік на месцы загубы савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў.*

У 1964 г. на месцы загубы ахвяр фашызму пастаўлены помнік — каля бетоннай сцяны з жалезнымі кратамі на невысокім пастаменце скульптура жанчыны ў жалобе (скульпт. В. Ягадніцкі).

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965.

89. *Чыгуначны вакзал станцыі Баранавічы-Палескія. Месца выступлення рабочых і салдат у 1905 г.*



93. *Пакроўскі сабор. Фрагмент іканастаса. Разьба па дрэву.*



93. *Пакроўскі сабор. Агульны выгляд.*



93. *Пакроўскі сабор. План.*



93. *Пакроўскі сабор. Мазаіка «Маці боская з дзіцем».*

**93. ПАКРОЎСКІ САБОР** (архіт., маст.). Вул. Куйбышава. Пабудаваны ў 1924—31 гг. з цэглы ў стылі неакласіцызму.

Чатырохстоўпны квадратны ў плане асноўны аб'ём храма з 3 паўкруглымі апсідамі накрыты паўсферычным купалам з люкарнамі. Паўночны і паўднёвы фасады вылучаны чатырохкалоннымі порцікамі іанічнага ордэра. З захаду асноўны аб'ём злучаны тамбурам з трох'яруснай квадратнай у плане званіцай, завершанай шлемападобным купалам са шпілем. Ярусная будова званіцы падкрэслена архітэктурным дэкорам: вуглавымі адзіночнымі і спаранымі калонамі, паўкалонамі, лапаткамі, арачнымі праёмамі, прафіляванымі карнізамі. Вокны і нішы сабора абрамлены прафіляванымі ліштвамі з франтонамі. Звонку і ўнутры будынак дэкарыраваны мазаічнымі кампазіцыямі (захаваліся фрагментарна ці са значнымі стратамі смальты). Мазаікі выкананы ў 1902—11 гг. у пецярбургскай прыватнай майстэрні У. Фралова для сабора Аляксандра Неўскага ў Варшаве. Пазней прывезены ў Баранавічы.



93. *Пакроўскі сабор. Мазаіка «Спас з данатарам».*

Мазаіка «Маці боская з дзіцем», размешчаная ў консе апсіды — фрагмент вялікай кампазіцыі «Аб табе радуецца», выкананай па кардоне В. Васняцова. Выявы ў вішнёвым, сінім і светла-вохрыстым адзенні сілуэтна вылучаюцца на золаце німбаў. Трактоўка твараў аб'ёмная. Па кардонах М. Кошалева зроблены мазаікі «Спас з данатарам» (у тымпане франтона паўднёвага порціка) і «Дэісус» (у інтэр'еры над паўночным уваходам). У вобразе данатара паказаны архітэктар Л. Бенуа з мадэллю Варшаўскага сабора. У каляровай гаме першай мазаікі сінія таны пераважаюць над светлымі ружовымі, зялёнымі і вохрыстымі; другая мазаіка вырашана ў спалучэнні насычаных і глухіх колераў.

Па кардонах М. Бруні выкананы мазаікі «Маці боская з анёламі» (у інтэр'еры над паўднёвым уваходам) і фрагмент кампазіцыі «Сабор архістрація Міхаіла» (у тымпане франтона паўночнага порціка). На паўночным апорным слупе — выява Іосіфа Валоцкага, на паўднёвым — мітрапаліта Алексія (абедзве паводле кардонаў В. Думітрашкі). У інтэр'еры разны драўляны іканастас канца 19 — пачатку 20 ст. *Г. М. Яомоленка.*

**94. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст., маст.). На вул. Леніна, перад будынкам Дома культуры.

У пачатку ліпеня 1944 г. савецкія войскі пачалі наступленне ў раёне Баранавіч. Надаючы вялікае значэнне гэтаму ўчастку фронту, гітлераў-

ды ператварылі горад у моцны вузел абароны з развітай сістэмай траншэй, дзотаў, вялікай колькасцю мінных палёў і драцяных загарод. 6 ліпеня савецкія войскі акружылі баранавіцкую групоўку праціўніка і пасля 2 дзён жорсткіх баёў разграмілі яе. 8 ліпеня Баранавічы былі поўнасцю вызвалены.

У баях за горад удзельнічалі 15-я, 20-я, 69-я, 130-я, 193-я стралковыя, 37-я, 44-я, 50-я, 75-я гвардзейскія стралковыя дывізіі, 9-я гвардзейская кавалерыйская дывізія, 6-ы і 8-ы знішчальныя авіяцыйныя карпусы і іншыя часці і злучэнні 1-га Беларускага фронту. 28 з іх нададзены ганаровыя найменні «Баранавіцкіх». Імёны генерал-маёраў І. У. Санкоўскага, І. Л. Рагулі і Героя Савецкага Саюза малодшага лейтэнанта І. П. Лісіна ўвекавечаны ў назвах гарадскіх вуліц. Вызваленню горада актыўна садзейнічалі падпольшчыкі. Яны перадавалі савецкаму камандаванню звесткі аб дыслакацыі варожых часцей, зрывалі перавозку ваенных грузаў праціўніка, дэзарганізоўвалі работу транспарту.

У 1964 г. ў гонар 20-годдзя вызвалення Баранавіч ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пастаўлены помнік (арх. М. Мілавідаў, А. Марэніч, А. Макараў, скульпт. М. Альтшулер; граніт; памер стэлы 2,9×2,6 м). На невысокім прамавугольным стылабаце на 2 апорах пастаўлена стэла. На яе фасаднай плоскасці — выява ўмацаванага на штыку чырвонага сцяга з зоркай. Перад стэлай гарыць Вечны агонь. Каларыстычна помнік вырашаны на кантрастным супастаўленні чырвонага і шэрага граніту. Да помніка вядуць асфальтаваныя дарожкі. Навокал разбіты газоны, пасаджаны дэкаратыўныя кусты.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд. — М., 1974. *М. А. Багушэвіч, Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*



94. *Помнік Вызвалення.*

**95. ПОМНІК ГРЫЦАЎЦУ** Сяргею Іванавічу (гіст., маст.). На вул. Камсамольскай, каля ўваходу ў парк імя 30-годдзя ВЛКСМ.

Двойчы Герой Савецкага Саюза С. І. Грыцавец нарадзіўся 23.6.1909 г. ў в. Бараўцы Баранавіцкага р-на. З сялян. Член КПСС з 1931 г. У 1932 г. скончыў Арэнбургскае лётнае вучылішча. Удзельнічаў у нацыянальна-рэвалюцыйнай вайне ў Іспаніі (1936—39 гг.), збіў 30 варожых самалётаў. За мужнасць, адвагу і гераізм, паказаныя ў баях з фашыстамі, С. І. Грыцаўцу 22.2.1939 г. прысвоена званне Героя. Ваяваў з японскімі мілітарыстамі ў 1939 г. на р. Халхін-Гол. Збіў 12 самалётаў праціўніка. У адным з баёў камандзір авіяпалка выкінуўся з парашутам з падбітага самалёта і трапіў на варожую тэрыторыю. С. І. Грыцавец пасадзіў сваю машыну каля камандзіра, узяў яго на борт і пад агнём праціўніка ўзняўся ў паветра. За гэты подзвіг С. І. Грыцаўцу ў жніўні 1939 г. ў 2-і раз прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Загінуў 16.9.1939 г. пры выкананні службовых абавязкаў у в. Балбасава Аршанскага р-на. Імем С. І. Грыцаўца названы вуліцы ў Баранавічах, Ленінградзе, Маскве, Мінску, Оршы, яго імя прысвоена Харкаўскаму ваеннаму авіяцыйнаму вучылішчу.

Помнік пастаўлены ў 1949 г. (скульпт. З. Азгур, арх. У. Борман; бронза, чырвоны граніт; вышыня пастамента 3,4 м, бюста 1,15 м). На чатырохгранным пастаменце — пагрудны бронзавы бюст С. І. Грыцаўца. Мужны, энергічны твар, распраўленыя плечы падкрэсліваюць героіку вобраза. Світар з высокім каўняром і тужурка з 2 Зоркамі Героя Савецкага Саюза — дэталі, якія ўдакладняюць характарыстыку героя. Помнік пастаўлены ў цэнтры газона на восі цэнтральнай алеі. Нізкія пілоны ўваходу фланкіруюць строгую вертыкаль помніка.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Григорьев Г. Две звезды: Документальная повесть.— М., 1970. *Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*

**96. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). На вул. Камсамольскай, на тэрыторыі школы-інтэрната. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1971 г.

**97. ПОМНІК КРУПСКАЙ** Надзеі Канстанцінаўне (гіст.). На вул. Камуністычнай, на тэрыторыі сярэдняй школы № 16. Бюст Н. К. Крупскай устаноўлены ў 1972 г.

**98. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст., маст.). На пл. Леніна. Кампазіцыйны цэнтр плошчы. Пастаўлены ў 1960 г. (скульпт. М. Альтшулер, арх. М. Мілавідаў, С. Ожагаў, А. Марэніч; бронза, граніт; агульная вышыня 11,2 м, вышыня фігуры 4,6 м).

Скульптурную фігуру У. І. Леніна, пастаўленую на высокім пастаменце, і асіметрычна размешчаную выцягнутую па гарызанталі трыбуну аб'ядноўвае нізкі, развіты ў плане ступеньчаты стылабат. Фігура ў стрыманым руху. Твар у дакладных партрэтных і разам з тым абагульненых формах. Пры сціплых памерах і лаканічнай прарысоўцы дэталей помнік вызначаецца выразнасцю і манументальнасцю. *Л. Г. Лапцэвіч, У. С. Марозін.*

**99. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Камсамольскай, у парку культуры і адпачынку. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1962 г.

**100. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Пралетарскай, на тэрыторыі завода станкапрылад. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1976 г.

**101. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Фабрычнай, на тэрыторыі сярэдняй школы № 6.



95. *Помнік С. І. Грыцаўцу.*



98. *Помнік У. І. Леніну на плошчы Леніна.*

Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**102. ПОМНІК ПЕРАМОГІ** (гіст.). На вул. Фабрычнай, на тэрыторыі тэкстыльнага камбіната. У 1969 г. ў гонар 25-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў пастаўлена стэла.

**103. РАДЗІМА ТАЎЛАЯ** Валянціна Паўлавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі В. П. Таўлай (літаратурныя псеўданімы Янка Дванаццаты, Паўлюк Сірата, В. Тарскі, партыйныя мянушкі Васіль, Канстанцін, Якімчык) нарадзіўся 8.2.1914 г. З сям'і чыгуначніка. Дзіцячыя гады прайшлі на радзіме бацькі ў в. Рудаўка на Слонімшчыне. Вучыўся ў Слонімскай пастаўніцкай семінарыі, у 1927—29 гг. у Віленскай гімназіі. У гэты час напісана яго паэма «Непераможныя». У 1929 г. за ўдзел у вучнёўскіх хваляваннях выключаны з гімназіі, у жніўні 1929 г. за падпольную камсамольскую работу арыштаваны. У 1930 г. камуністычным падполлем накіраваны ў БССР. Працаваў у газеце «Звязда», вучыўся ў БДУ.

У 1932 г. адкліканы ЦК КПЗБ у Заходнюю Беларусь. З снежня 1932 г. член КПЗБ. Пекаторы час жыў у Варшаве. Член цэнтральнай рэдакцыі КПЗБ, потым супрацоўнік легальнага неафіцыйнага органа КПЗБ «Беларуская газета» (Вільня), прадстаўнік ЦК КПЗБ у Цэнтры нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Адзін з арганізатараў Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў (снежань 1933 г.). 4.1.1934 г. арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы, засуджаны на 8 гадоў турмы. У верасні 1939 г. вызвалены Чырвонай Арміяй з Гродзенскай турмы. Працаваў у лідскай раённай газеце «Уперад». У Вялікую Айчынную вайну сувязны атрада імя Р. І. Катоўскага партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага Баранавіцкага злучэння, разведчык спецгрупы «Буравеснік». У 1944—45 гг. адказны сакратар навагрудскай раённай газеты «Звязда», у 1945—47 гг. старшы навуковы супрацоўнік, намеснік дырэктара Літаратурнага музея Я. Купалы. Памёр 27.4.1947 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

В. Таўлай — паэт гераічнай тэмы. Друкаваўся з 1928 г. Яго паэзія вызначаецца высокай грамадзянскасцю, рэвалюцыйным гуманізмам, прасякнута духоўнай еднасцю з народам і яго лёсам (паэма «Таварыш», вершы «Ліст з турмы», «Таварышу маёй вясны» і інш.). У вершах, паэмах даў рэалістычную карціну мужнай барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за ўз'яднанне з БССР. Нарысы «Катоўцы», «Марыя Гурына» і інш. прысвечаны лёсу таварышаў па партызанскай барацьбе, іх мужнасці. Аўтар літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў «Янка Брыль», «Янка Купала і Заходняя Беларусь» (1945 г.), «Творчасць Янкі Купалы ў барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа ў адзінай Савецкай дзяржаве» (1946 г., апубл. 1949 г.). Перакладаў на беларускую мову творы А. Міцкевіча, І. Крылова і інш. Асобныя творы В. Таўлая перакладзены на рускую, украінскую, грузінскую і інш. мовы. Выдадзены кнігі: «Выбранае» (1947 г.), «Выбраныя творы» (1951 г.), «Вершы і паэмы» (1955 г.), «Творы» (1961 г.), «Выбраныя вершы і паэмы» (1967 г.).

*Літ.*: Арочка М. Валянцін Таўлай: Крытыка-біяграфічны нарыс.— Мн., 1969; Пра час і пра сябе: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў / Скл. Я. Казека.— Мн., 1966; У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗБ — актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.— Мн., 1958.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Амнявічы, Гарадзішчанскі пасялковы Савет**

**164. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 мясцовыя жыхары, закатаваныя ў 1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бараўцы, Павамышскі сельсавет**

**105. РАДЗІМА ГРЫЦАЎЦА** Сяргея Іванавіча — двойчы Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 95 «Помнік Грыцаўцу Сяргею Іванавічу».

**в. Белалессе, Цешаўлянскі сельсавет**

**106. КУРГАН** (археал.) За 1 км на паўночны захад ад вёскі, каля дарогі Белалессе — Цешаўля. Вышыня 1,5 м, дыяметр 2 м. Выявіў у 1951 г. У. С. Астапаў, абследавалі ў 1969 г. В. Р. Супрун, у 1980 г. Т. С. Бубенька.

**в. Бярозаўка, Ляснянскі сельсавет**

**107. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 628 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг., а таксама ваеннапалонныя, закатаваныя гітлераўцамі ў Ляснянскім лагеры смерці. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата. Гл. таксама арт. № 153 «Месца загубы савецкіх ваеннапалонных і мірных грамадзян. Брацкая магіла савецкіх воінаў і ахвяр фашызму».

**108. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**в. Вольна, цэнтр сельсавета**

**109. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, у пейзажным парку былой сядзібы. Пабудавана ў 1768 г. з цэглы.

Двухвежавая трохнефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай, абапал якой размешчаны сакрысціі. Фасады прарэзаны рознымі па форме і вышыні аконнымі праёмамі — паўцыркульнымі, лучковымі, круглымі. Двухсхільны дах закругляецца над апсідай, упрыгожаны фігурнай вежачкай на чацверыку. Архітэктурны дэкор сканцэнтраваны на галоўным заходнім фасадзе. Складаны ўвагнута-выпуклы антаблемент падзяляе яго на 2 ярусы. Сілуэт верхняга яруса ўтвараюць васьміграныя трох'ярусныя вежы са шлемападобнымі завяршэннямі і фігурны шчыт паміж імі. Вертыкальнасць агульнай кампазіцыі галоўнага фасада падкрэсліваюць пучкі пілястраў і ступеньчатыя контрфорсы, якія ўмацоўваюць сцены. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Архітэктурна-дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — галоўны алтар, вырашаны ў выглядзе каланады з крывалінейнымі антаблементамі, упрыгожаны скульптурнымі групамі анёлаў. На паўночнай сцяне апсіды выступае амбон з балдахінам. Над ім узвышаецца статуя Маісея. У аздобе інтэр'ера шырока выкарыстана тэхніка стука (фігуркі пуцці, кубкі, фестоны). У нартэксе на 2 калонках — хоры.

Царква — помнік архітэктуры «віленскага барока». *А. М. Кулагін.*



109. *Троіцкая царква. Фрагмент стукавага дэкору галоўнага фасада.*

**в. Вялікае Сяло, Гарадзішчанскі пасялковы Савет**

**110. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Маяк, каля балота. Абследавалі ў 1969 г. В. Р. Супрун, у 1980 Т. С. Бубенька. Памеры 90 × 80 м. Вышыня пляцоўкі над летнім меженным узроўнем вады ў безназоўным ручаі каля 6—7 м. Пляцоўка пашкоджана ў Вялікую Айчынную вайну і зарасла кустамі, ва ўсходняй частцы — кар'ер, валы не захаваліся. Культурны пласт не выяў-



109. *Троіцкая царква. План.*



109. *Троіцкая царква. Галоўны фасад.*

лены. Магчыма, на час небяспекі гарадзішча было сховішчам. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вялікая Валахва, Малахоўскі сельсавет**

**111. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікая Каўпеніца, Каўпеніцкі сельсавет**

**112. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 58 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікія Лукі, цэнтр сельсавета**

**113. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 38 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**114. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля школы. На ўшанаванне памяці 69 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**г. п. Гарадзішча**

**115. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. 17 Верасня, каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 262 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных Герой Савецкага Саюза Пётр Пятровіч Едуноў.

П. П. Едуноў нарадзіўся ў 1919 г. ў в. Золіна Клінскага р-на Маскоўскай вобл. Кандыдат у члены КПСС. З 1939 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г.— старшы сяржант, камандзір узвода аўтаматчыкаў. Удзельнік баёў на Заходнім, Сцяпным франтах, вызвалення Беларусі. Вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. 6.10.1943 г. 5 воінаў на чале з П. П. Едуновым пад артылерыйскім агнём праціўніка пераплылі на лодцы на правы бераг ракі, разведалі размяшчэнне агнявых кропак ворага і шляхі падыходу да іх. 12.10.1943 г. ў баі за вышыню двойчы паранены не пакінуў поля бою. Знішчыў кулямётны і гарматны разлікі, падбіў матацыкл і аўтамашыну, захапіў 4 палонных. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.12.1943 г. Загінуў 8.7.1944 г. пры вызваленні г. п. Гарадзішча.

У 1956 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптурныя фігуры 2 воінаў. На пастаменце 2 дошкі, на адной з іх імёны 40 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**116. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,8 км на захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Гарадок, на правым беразе р. Сэрвач. Выявіў у 1951 г. У. С. Астапаў, даследавалі ў 1957 г. А. Р. Мітрафанаў, у 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1970 М. М. Чарняўскі, у 1980 г. Т. С. Бубенька. Авальная пляцоўка памерам 28×50 м арыентавана з поўдня на поўнач з нязначным адхіленнем па падоўжнай восі на захад. Уезд з паўночнага боку. Найбольш стромкія схілы гарадзішча — з усходу, дзе пляцоўка ўзвышаецца на 6—7 м. З боку поля роў шырынёй 6—7 і глыбінёй 1,3—1,7 м. На захадзе пераходзіць у поплаў, над якім карэнны бераг узвышаецца на 5 м. Даўжыня ўмацаванага ўчастка каля 200 м, шырыня 130 м. Культурны пласт шэрага колеру таўшчынёй да 1,0 м. Каля паўночна-заходняга краю гарадзішча знойдзена некалькі неапрацаваных крамянёвых адшчэпаў і ножападобных пласцінак, што сведчыць пра наведанне гэтых мясцін чалавекам каменнага веку, а на гарадзішчы — гладкасценная і штрыхаваная кераміка, жалезныя прылады працы, шлакі, бронзавыя ўпрыгожанні.

На аснове знаходак, знешняга выгляду і памераў умацавання помнік можна аднесці да культуры штрыхаванай керамікі і да эпохі ранняга феадалізму. Знаходкі зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. М. Чарняўскі.*



116. *Гарадзішча.*

**117. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АРЦІМЕНЮ** Марку Аляксеевічу (гіст.). Вул. Гуцева, 2.

М. А. Арціменя нарадзіўся ў 1900 г. ў в. Стайкі Баранавіцкага р-на. Член КПСС з 1940 г. Удзельнік рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У 1940—41 гг. працаваў інструктарам Гарадзішчанскага райвыканкома Баранавіцкай вобл. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1940 г. У 1941 г. закатаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў турме г. Баранавічы. У 1969 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**118. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГУЦЕВУ** Ульяну Аляксеевічу (гіст.). Вул. Гуцева, 2. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці першага сакратара Гарадзішчанскага райкома КП(б)Б У. А. Гуцева, які загінуў у 1941 г. пры выкананні службовых абавязкаў.

**119. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗАРАГАЦКАМУ** Ілье Восіпавічу (гіст.). Вул. Гуцева, 1. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці сакратара Гарадзішчанскага райкома КП(б)Б І. В. Зарагацкага, які загінуў у 1941 г. пры выкананні баявога задання. Яго імем названа вуліца ў г. п. Гарадзішча.

**120. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Віжняўца, у скверы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1964 г.

120.А. Крестовоздв. ц. на месте 1784 г. Тип. проект №30 „Атлас" 18-

**в. Гаранавічы, Гарадзішчанскі пасялковы Савет**

**121. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гірмантаўцы, цэнтр сельсавета**

**122. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**123. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**в. Дамашэвічы, Сталовіцкі сельсавет**

**124. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Паха-

ваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Добры Бор, Падгорнаўскі сельсавет**

**125. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, справа ад дарогі Падгорная — Добры Бор, ва ўрочышчы Маргач. Займае паўночна-ўсходнюю частку лясістай грады, якая прымыкае да р. Гараднянкі і невялікага балота. Адкрыў у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў, абследавалі ў 1969 г. В. Р. Супрун, у 1980 г. Т. С. Бубенька. Пляцоўка авальнай формы памерам 71×80 м, выцягнутая з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад, у цэнтры крыху выпуклая. Па краі ўмацавана валам вышынёю 0,8 м (з паўднёвага боку вал прасочваецца слаба). Вышыня пляцоўкі над поплавам ракі каля 30 м. З захаду роў глыбінёю каля 0,7 м. Шырыня ўваходу каля 3 м. Пляцоўка зарасла лесам і моцна аплыла. Раскопкі не праводзіліся.

**126. СТАЯНКА** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на шырокім поплаве правабярэжжа р. Шчара, ва ўрочышчы Гарадок. Выявіў у 1951 г. А. Р. Мітрафанаў. У 1960 г. раскопкі вяла І. М. Цюрына. Плошча 5500 м². Вядома пад назвай Добры Бор-1. Ускрыта 984 м². Культурны пласт цёмна-шэрага колеру, таўшчынёй 0,5—0,8 м. Знойдзена 12 агнішчаў круглай і авальнай формы дыяметрам ад 1 да 2,3 м. Добра акрэсліваецца 5 ям. Тры з іх амаль прамавугольнай формы з арыентацыяй на поўдзень і паўднёвы ўсход, відаць, рэшткі паўзямлянкавага жылля. У ямах знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты керамікі. Дзве конусныя ямы, як мяркуюць, гаспадарчага прызначэння. Сабрана вялікая калекцыя керамікі (каля 2 тыс. абломкаў посуду), крамянёвых і каменных прылад працы (каля 900), наканечнікі стрэл пераважна трохвугольнай формы (2 тронкавыя), наканечнікі коп'яў з масіўных пласцінак з рэтушшу па краях, скрабкі разнастайнай формы, нажы з гарбатай спінкай і ўвагнутым лязом. Знойдзены таксама разцы, праколкі, нуклеусы, крамянёвыя цёслы і сякеры, свідраваныя сякеры і іх абломкі, шліфавальныя пліткі, адбойнікі. З керамікі выяўлены абломкі вастрадонных гаршкоў позняга неаліту з s-падобным профілем сценак. Арнамент — узоры з наколак, насечак і рысак. Амаль на ўсіх сасудах пад краем венчыка глыбокія ямкі або наколы. Сярод знаходак абломкі пласкадоннага керамічнага посуду бронзавага веку. Добра абпаленыя вырабы арнаментаваны нарэзкамі ў елачку і шнуравымі адбіткамі.

Паселішча Добры Бор-1 адносяць да 2-й палавіны 3—2-га тысячагоддзя





126. *Рэчы са стаянкі.*

да н. э., асноўную частку знаходак — да позняга этапа нёманскай культуры.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*М. М. Чарняўскі.*

**в. Дубава, Каўпеніцкі сельсавет**

**127. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Забалацце, Цешаўлянскі сельсавет**

**128. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 76 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**хутар Завоссе** (не існуе)

**129. РАДЗІМА МІЦКЕВІЧА** Адама (гіст.). Урочышча Завоссе (раней быў фальварак), за 4 км на поўнач ад в. Мядзеневічы. Тут 24.12.1798 г. нарадзіўся польскі паэт, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху Адам Міцкевіч. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што ён нарадзіўся ў Навагрудку ці ў в. Асаўцы. Аднак найбольш верагоднымі з'яўляюцца звесткі брата А. Міцкевіча — Аляксандра, які ў 1861 г. ў пісьме да маршалка Навагрудскага павета У. Р. Брахоцкага сцвярджаў, што А. Міцкевіч нарадзіўся ў Завоссі, дзе на той час гасцілі бацькі. У 1799 г. яны атрымалі ў спадчыну частку фальварка Завоссе і пражылі там да 1801 г.

Дзяцінства А. Міцкевіча прайшло ў Навагрудку, дзе яго бацька працаваў адвакатам. Скончыў дамініканскую школу (1815 г.), Віленскі універсітэт (1819 г.). У 1819—23 гг. настаўнічаў у Коўне. Адзін з арганізатараў тайных таварыстваў патрыятычнай моладзі («філаматы» і «філарэты»). У 1823 г. арыштаваны. З 1824 г. ў ссылцы. Жыў у Пецярбургу, Маскве, Адэсе. Пазнаёміўся і пасябраваў з К. Рылеевым, А. Бястужавым, А. Пушкіным, П. Вяземскім і інш. У 1829 г. выехаў за мяжу. З 1832 г. жыў у Парыжы, чытаў курс лекцый па славянскіх літаратурах у Калеж дэ Франс (1840—44 гг.). Быў адным з палітычных кіраўнікоў левага крыла польскай эміграцыі. У пачатку 1840-х гадоў знаходзіўся пад уплывам рэлігійна-містычных настрояў. У поглядах эвалюцыяніраваў ад шляхецкай рэвалюцыйнасці да рэвалюцыйнай дэмакратыі. У 1848 г. арганізаваў польскі легіён для падтрымкі руху карбанарыяў у Італіі. У 1849 г. рэдагаваў у Парыжы інтэрнацыянальную газету «La Tribune des peuples» («Трыбуна народаў»). Вызваленне Польшчы звязваў з нацыянальна-вызваленчай і сацыяльнай барацьбой іншых народаў Еўропы. Памёр 26.11.1855 г. ад халеры ў Канстанцінопалі, пахаваны ў Парыжы. У 1890 г. астанкі паэта перавезены ў Кракаў.

Першыя творы А. Міцкевіча напісаны ў час вучобы ў Віленскім універсітэце («Мешка, князь Навагрудка», 1817 г.; «Бульба», 1819 г.). Заснавальнік рэвалюцыйнага рамантызму ў польскай літаратуры (кн. «Паэзія», т. 1—2, 1822—23 гг.). Уплыў беларускіх казак і легенд асабліва адчувальны ў баладах і рамансах («Свіцязь», «Свіцязянка», «Рыбка»). У 2-й частцы паэмы «Дзяды» (1823 г.) намаляваны беларускі абрад памінання нябожчыкаў. Найбольш значныя творы рускага перыяду — «Крымскія санеты» (1826 г.), паэма «Конрад Валенрод» (1828 г.). У эміграцыі напісана 3-я частка паэмы «Дзяды» (1832 г.) пра мужнасць змагароў супраць царызму. Вяршыня творчасці А. Міцкевіча — паэма «Пан Тадэвуш» (1834 г.). У ёй рэалістычна паказана жыццё народа і шляхты, апаэтызаваны беларускія краявіды. Яшчэ пры жыцці А. Міцкевіч быў прызнаны найвялікшым польскім паэтам. Яго творчасць зрабіла ўплыў на развіццё ўсіх славянскіх літаратур, асабліва на беларускую. Пад яго непасрэдным уздзеяннем пачыналі літаратурную дзейнасць Я. Чачот, Я. Баршчэўскі, А. Рыпінскі, У. Сыра-



129. *Помнік на радзіме А. Міцкевіча.*



135. *Троіцкі касцёл.*

комля і інш. Дабратворны ўплыў паэта адчувальны ў творах В. Дуніна-Марцінкевіча, Я. Купалы, Я. Коласа і інш. Творы А. Міцкевіча перакладалі на беларускую мову В. Дунін-Марцінкевіч, Б. Тарашкевіч, Я. Купала, Я. Колас, перакладаюць М. Танк, У. Караткевіч і інш. У Навагрудку створаны літаратурна-мемарыяльны музей паэта, у яго гонар на Замкавай гары насыпаны мемарыяльны курган, у Брэсце ўстаноўлены бюст. У 1927 г. на месцы фальварка Завоссе пастаўлены абеліск (рэстаўрыраваны ў 1955 г.).

*Літ.:* Горский И. К. Адам Мицкевич.— М., 1955; Лойка А. А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура.— Мн., 1959; Стахеев Б. Ф. Мицкевич и прогрессивная русская общественность.— М., 1955.
*А. І. Мальдзіс.*

**в. Залессе, Вольнаўскі сельсавет**

**130. МАГІЛА ВЯЛЕНКІ** Мікалая Лявонавіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы М. Л. Вяленка нарадзіўся 24.4.1898 г. ў в. Залессе Баранавіцкага р-на ў сялянскай сям'і. У 1922—39 гг. працаваў парабкам у мясцовых памешчыкаў. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР рабочы (1939—44 гг.), брыгадзір паляводчай брыгады (1944—54 гг.) саўгаса «Вольна-Чэрніхава» Баранавіцкага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1949 г. Памёр 27.1.1975 г. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Земные звёзды.— Мн., 1978.

**в. Застарынне, Пачапаўскі сельсавет**

**131. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 17 партызан, якія загінулі 2.5.1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У ноч на 2.5.1943 г. партызаны атрада імя А. В. Суворава Першамайскай партызанскай брыгады правялі ўрачысты сход жыхароў в. Застарынне, прысвечаны святу 1 Мая. Пра гэта стала вядома нямецка-фашысцкім акупантам. Раніцай 2 мая ў вёску ўварваліся карнікі. Рота партызан пад камандаваннем І. С. Кірына заняла абарону, адбіла некалькі варожых атак. На дапамогу фашыстам падышло падмацаванне. У баі загінулі 17 партызан.

У 1944 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В едином строю: Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1970.
*М. А. Багушэвіч.*

**132. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны мірныя жыхары — ахвяры фашысцкага тэрору.

2.5.1943 г. 57-ы нямецкі карны батальён СС акружыў вёску і жорстка расправіўся з яе жыхарамі. Карнікі зганялі ў хаты па 15—20 чалавек, расстрэльвалі іх з аўтаматаў, а хаты падпальвалі. Загінулі 382 жыхары вёскі, сярод іх старыя, жанчыны, дзеці, спалена 96 дамоў.

У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965; Раманоўскі В. П. Саўдзельнікі ў злачынствах.— Мн., 1964.
*М. А. Багушэвіч.*

**в. Зорная, Навамышскі сельсавет**

**133. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Зялёная, Гарадзішчанскі пасялковы Савет**

**134. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 54 землякоў з калгаса «Ленінец», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1973 г. пастаўлены абеліск.



135. *Троіцкі касцёл. Алтар.*



135. *Троіцкі касцёл. План.*



135. *Троіцкі касцёл. Аксанаметрыя.*

**в. Ішкалдзь, Савіцкі сельсавет**

**135. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1472 г. з цэглы.

Складаецца з прамавугольнага асноўнага аб'ёму і пяціграннай алтарнай апсіды. З паўночна-ўсходняга боку — сакрысція і вежа з вінтавой лесвіцай. Галоўны заходні фасад завершаны шчытом фігурнага ступеньчатага абрысу. Асноўныя дэкаратыўныя элементы фасада — плоскія нішы (круглыя і з паўцыркульным завяршэннем). Над стральчатым парталам — вузкае акно. Такія ж вокны на паўднёвым фасадзе і апсідзе. Паўночная сцяна без акон. Бакавыя фасады і апсіда пазбаўлены дэкору. Сцены ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі. Першапачаткова былі неатынкаваныя, унізе аздоблены каляровым рамбічным узорам з цэглы-жалезняку. Атынкаваныя дэкаратыўныя нішы кантрастна вылучаліся на чырвоным цагляным фоне. Інтэр'ер галоўнага зальнага памяшкання падзелены 4 слупамі на 3 нефы, з якіх цэнтральны значна шырэйшы за бакавыя; бакавыя сцены з гранёнымі паўкалонамі. Травеі нефаў перакрыты нервюрнымі крыжовымі скляпеннямі, апсіда — зорчатымі. Дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера дапаўняюць дубовыя дзверы, упрыгожаныя каванымі кратамі.

Касцёл — помнік архітэктуры готыкі на Беларусі.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Квитницкая Е. Д. Малоизвестные зальные сооружения Белоруссии конца XV — начала XVI в.— Архитектурное наследство, 1967, в. 16; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Дооктябрьский период.— Мн., 1969. *М. С. Кацар, Т. І. Чарняўская.*

**в. Калдычэва, Мядзеневіцкі сельсавет**

**136. ЛАГЕР СМЕРЦІ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, за 1 км ад дарогі Баранавічы — Навагрудак.

Створаны ў 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі для масавай загубы савецкіх грамадзян. Адначасова ў лагеры ўтрымлівалася да 10 тыс. чалавек. Тэрыторыя яго была абгароджана некалькімі радамі калючага дроту, узмоцнена ахоўвалася. У бараках летняга тыпу размяшчалася толькі 30—40 % зняволеных, астатнія знаходзіліся пад адкрытым небам. Людзі гінулі ад голаду, непасільнай працы на торфараспрацоўках і іншых работах, іх расстрэльвалі, вешалі, катавалі ў спецыяльнай камеры. Нярэдка фашысты практыкавалі варварскую экзекуцыю пад здзеклівай назвай «танцаваць жабку». Вязняў выганялі на пляц, ставілі паўкругам ці карэ, «вінаватых» прымушалі скакаць перад імі з выцягнутымі наперад рукамі. Калі знясілены чалавек падаў, яго забівалі гумавымі дубінкамі або прыстрэльвалі. Перад адступленнем, у ноч на 30.6.1944 г., гітлераўцы расстралялі вязняў лагера і ўзарвалі асноўныя памяшканні. Усяго ў лагеры загінула больш за 22 тыс. савецкіх грамадзян.

У 1964 г. на яго месцы пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии, 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965.

**137. ПОМНІК ВЯЗНЯМ ЛАГЕРА СМЕРЦІ** (маст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. У памяць аб ахвярах Калдычэўскага лагера смерці ў 1964 г. пастаўлена стэла з рэльефам (скульпт. А. Курачкін; бетон, чыгун; вышыня стэлы 4 м). На вышыні $^{2}/_{3}$ ад асновы ў стэлу ўрэзаны чыгунны рэльеф — пагрудная выява вязня, які разрывае ланцугі. Перад стэлай манументальныя бетонныя чашы з жывымі кветкамі, што сімвалізуюць жыццё. Побач 2 каменныя блокі з надпісамі-прысвячэннямі савецкім грамадзянам, якія загінулі ад рук фашысц-

кіх катаў. Гл. таксама артыкул № 136 «Лагер смерці».

**в. Карчова, цэнтр сельсавета**

**138. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**139. ТУГАНАВІЦКІ ПАРК** (гіст., архіт.). На левым беразе р. Сэрвач, за 1 км ад вёскі. Створаны ў 2-й палавіне 18 ст. Акружаў дваровыя збудаванні маёнтка Туганавічы (назва ад імя ўладальніка князя Тугана). У 19 ст. маёнткам валодалі Верашчакі.

Пейзажны парк плошчай каля 5 га высаджаны на ўзгорыстай мясцовасці. Асноўныя элементы кампазіцыі — паляны з курцінамі і далёкімі перспектывамі навакольнага ландшафту. Уязная алея вяла да ансамбля сядзібных пабудоў (не зберагліся). На 2 узгорках размяшчаліся мураваныя альтанкі. У паўднёва-ўсходняй частцы парку 2 сажалкі. Пераважаюць ясень, клён, вярба, дуб, ліпа еўрапейская.

У Туганавічы, да свайго сябра па Навагрудскай дамініканскай школе М. Верашчакі, часта наязджаў Адам Міцкевіч. Паэт захапляўся паркам і яго наваколлем. Паводле сцвярджэння даследчыкаў апісанае ў паэме «Пан Тадэвуш» Сапліцова цалкам адпавядае тапаграфіі Туганавіцкай сядзібы і яе ваколіц. Адсюль і прататыпы герояў многіх твораў А. Міцкевіча. «Нідзе на зямлі няма весялейшага жыцця...,— успамінаў паэт. — Гэтулькі там радасці, любасці, чалавечага бясконцага шчасця... Такога жыцця шчодра спазнаў я паміж 1815 і 1820 гадамі, асабліва ў доме Верашчакаў...» Частымі гасцямі гаспадароў сядзібы былі Ян Чачот, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка.

У глыбокім яры недалёка ад парку ляжыць валун — «Камень філарэтаў», каля якога наладжвалі сходкі ўдзельнікі тайнага таварыства патрыятычнай моладзі. З Туганавічамі звязаны некаторыя падзеі нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг. Уладальнік маёнтка К. Туганоўскі падтрымліваў цесныя сувязі з К. Каліноўскім, памагаў яму. У парку была створана майстэрня па вырабу зброі, якая перапраўлялася ў «цэнтр» — в. Мілавіды.

*Літ.*: Антипов В. П. Паркі Белоруссии.— Мн., 1975; Мірачыцкі Л. П. Сцежкамі вялікага паэта.— Мн., 1957.
*Л. П. Мірачыцкі.*



136. *Помнік ахвярам Калдычэўскага лагера смерці.*

**в. Колбавічы, Падгорнаўскі сельсавет**

**140. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 11 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крошын, цэнтр сельсавета**

**141. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**142. КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). Пабудаваны ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане будынак. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам і дэкарыраваны нішамі. У інтэр'еры — люстра (чыгун, ліставая бронза; ручное каванне) работы беларускага паэта П. В. Багрыма. Люстра аднаярусная, з 2 абручоў, якія трымаюцца на 3 металічных жгутах з каронападобным завяршэннем. Лёгкасць і ажурнасць кованай люстры надаюць арабескі, якія нібы карункамі прыкрываюць па перыметры ўсе элементы канструкцыі.

**143. МАГІЛА БАГРЫМА** Паўлюка Восіпавіча (гіст.). На могілках. Беларускі паэт П. В. Багрым нарадзіўся ў 1813 г. (?) у в. Крошын. Вучыўся ў парафіяльнай школе пры мясцовым касцёле. Меў сувязь з сялянамі, якія былі настроены супраць прыгонніцтва і ў 1828 г. ўзнялі ў Крошыне бунт. Чытаў аднавяскоўцам «крамольныя» вершы, за што быў здадзены ў рэкруты. Пасля вяртання на радзіму працаваў кавалём. У Крошынскім касцёле зберагаецца металічная люстра, выкаваная П. В. Багрымам (гл. ў артыкуле № 142 «Касцёл»). Захаваўся адзін верш паэта «Зайграй, зайграй, хлопча малы». Ён крапае лірызмам, сілай пратэсту супраць прыгону, глыбінёй пачуццяў. Памёр каля 1891 г.



139. *Туганавіцкі парк. Фрагмент.*



139. *Туганавіцкі парк. Схема планіроўкі.*



139. *Туганавіцкі парк. Камень «філарэтаў».*

У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік. Названая на помніку дата нараджэння паэта (1811 г.) патрабуе ўдакладнення. У следчай справе П. В. Багрыма адзначана, што ён нарадзіўся ў 1813 г., сямейная легенда ўказвае на 1805 г.

*Літ.*: Александровіч С. Х. Па слядах паэтычнай легенды.— Мн., 1965; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969. *А. І. Мальдзіс.*

**144. МАГІЛА МАЦКОЎСКАГА** Абрама Аронавіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны работнік сельскай гаспадаркі БССР (з 1973 г.) А. А. Мацкоўскі нарадзіўся 20.7.1917 г. ў г. Клімавічы Магілёўскай вобл. З рабочых. У 1933—37 гг. працаваў машыністам на пладова-ягадным заводзе, мадэльшчыкам па дрэве на мэблевай фабрыцы ў Клімавічах. З 1937 г. ў Чырвонай Арміі. Член КПСС з 1944 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля дэмабілізацыі настаўнік Чэрніхаўскай сярэдняй школы (1947 г.), дырэктар Гарадзішчанскай электрастанцыі, з 1957 г. старшыня калгаса «Перамога» Баранавіцкага р-на. Пад яго кіраўніцтвам гаспадарка стала адной з перадавых у рэспубліцы, у 1967 г. калгас узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Званне Героя Сацыялістычнай Працы А. А. Мацкоўскаму прысвоена ў 1976 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1971—75 гг. Памёр 12.11.1978 г. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.*: Земные звёзды.— Мн., 1978. *Г. І. Дулеба.*

**145. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка клуба. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1970 г.

**в. Лебяжаны, Цешаўлянскі сельсавет**

**146. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 39 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Ліхасельцы, Вольнаўскі сельсавет**

**147. ДВОР З НЯЗВЯЗАНЫМІ ПАБУДОВАМІ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст.

Хата зрублена з бярвён «у лапу». Да вуліцы павернута тарцовым фасадам з 2 вокнамі. У падоўжнай сцяне з заходняга боку — акно. Кухня ў асобным памяшканні. Да яе прыбудаваны сенцы. Ад хаты да вуліцы 5—6 м. У двары паралельна з хатай, за 35 м ад вуліцы — хлеў. Уваход у яго — з заходняга боку.



142. *Люстра работы П. Багрыма ў касцёле в. Крывошын.*

Прынцып размяшчэння гаспадарчых будынкаў на адлегласці ад жылых дыктаваўся меркаваннямі процілажарнай бяспекі. Двор тыповы для Брэстчыны. *У. С. Гуркоў.*

**148. МАГІЛА КАЛОШЫ** Васіля Васілевіча (гіст.). На могілках. Сакратар былога Галынкаўскага сельсавета В. В. Калоша забіты ворагамі Савецкай улады ў 1948 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.



139. *Туганавіцкі парк. Фрагмент.*




143. *Помнік на магіле П. Багрыма.*

**в. Лотвічы, Палонкаўскі сельсавет**

**149. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 20 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Люшнева, Цешаўлянскі сельсавет**

**150. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 29 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 і 1944 гг. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**151. КУРГАН** (археал.) За 1,8 км ад вёскі, 360 м ад дарогі на в. Цешаўля. Вышыня 1,7 м, дыяметр 9 м. Адкрыў у 1951 г. У. С. Астапаў, абследавалі ў 1969 г. В. Р. Супрун, у 1970 г. М. М. Чарняўскі, у 1980 г. Т. С. Бубенька.

**в. Лясная, цэнтр сельсавета**

**152. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 60 савецкіх грамадзян, якіх у 1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**ст. Лясная**

**153. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ, БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля чыгуначнай ст. Лясная нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941—44 гг. расстрэльвалі савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў. Тут пахаваны 50 тыс. чалавек, закатаваных у Ляснянскім лагеры смерці, і 47 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях за вызваленне Баранавіцкага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У верасні 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты стварылі каля в. Лясная лагер смерці № 337. У ім пастаянна знаходзілася каля 55 тыс. чалавек. Вязні ўтрымліваліся ў бесчалавечных умовах, свядома разлічаных на масавую гібель людзей. Большасць з іх нават у вялікія маразы былі пад адкрытым небам. Штодня ад голаду, інфекцыйных і прастудных хвароб гінула па некалькі дзесяткаў зняволеных. Фашысты праводзілі масавыя расстрэлы, публічныя павешанні, спальвалі вязняў. У лагеры загублена каля 88,5 тыс. чалавек.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

*Літ.*: В памяти народной.— Мн., 1969; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии, 1941—1944.—[2 выд.].— Мн., 1965.

**154. РАДЗІМА ГАЛУБКА** Уладзіслава Іосіфавіча (гіст.). У. І. Галубок — беларускі савецкі пісьменнік, адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра, рэжысёр, акцёр, мастак, першы народны артыст БССР (1928 г.).



153. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і ахвяр фашызму.*

У. І. Галубок (сапраўднае прозвішча Голуб) нарадзіўся 15.5.1882 г. Скончыў царкоўнапрыходскую школу ў Мінску, 2 гады вучыўся ў Мінскім гарадскім вучылішчы. Пасля смерці бацькі працаваў грузчыкам, прыказчыкам, слесарам. Адначасова займаўся самаадукацыяй, браў урокі ў мастакоў. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1906 г. як паэт і празаік. Друкаваўся на старонках беларускіх перыядычных выданняў «Наша ніва» і «Лучынка». З 1917 г. вядомы як драматург. Напісаў каля 40 драм і камедый. Найбольш значныя «Пан Сурынта», «Суд», «Ганка», «Пісаравы імяніны», «Пінская мадонна», «Плытагоны». У 1917—20 гг. акцёр і рэжысёр Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. Тут пастаўлены яго п'есы «Апошняе спатканне» і «Пісаравы імяніны» (1917 г.), «Бязвінная кроў» (1918 г.), «Бязродны» (1919 г.). У 1920 г. стварыў тэатр (трупа Галубка, пазней Беларускі 3-і дзяржаўны тэатр), аснову рэпертуару якога складалі яго п'есы: «Суд» (1920 г.), «Душагубы» (1921 г.), «Пан Сурынта» і «Плытагоны» (1923 г.), «Ганка» (1924 г.), «Пінская мадонна» (1927 г.) і інш. Яны ставіліся і ў Беларускім дзяржаўным тэатры (цяпер імя Я. Купалы). Творча развіваў традыцыі беларускага народнага тэатра (батлейкі, народнай драмы), першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага. Шырока выкарыстоўваў песенна-музычную і харэаграфічную народную творчасць. Сам выконваў драматычныя і характарныя ролі, выступаў як тэатральны мастак і жывапісец-пейзажыст. Надаваў вялікае значэнне асветніцкай і агітацыйнай дзейнасці тэатра. Памёр у 1942 г.

*Літ.*: Атрошчанка А. Уладзіслаў Галубок.— Мн., 1969; Звонак А. Уладзіслаў Галубок.— У кн.: Слова пра майстроў сцэны. Мн., 1967; Нефёд В. И. Становление белорусского советского театра.— Мн., 1965; Адхіпуўшы заслону часу...: Успаміны пра Уладзіслава Галубка.— Мн., 1979; Карабанава Л. В. Драматургія Уладзіслава Галубка.— Мн., 1982.



157. *Помнік Б. Б. Вільчкоўскаму.*

**в. Малахоўцы, Малахоўскі сельсавет**

**155. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**156. РАДЗІМА КАБУШКІНА** Івана Канстанцінавіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 164 «Помнік Кабушкіну Івану Канстанцінавічу».

**в. Малая Сваротва, Моўчадскі сельсавет**

**157. ПОМНІК ВІЛЬЧКОЎСКАМУ** Багуславу Багданавічу (гіст.). На плошчы. Пастаўлены ў 1966 г. па ўшанаванне памяці старшыні калгаса «Іскра» Героя Сацыялістычнай Працы Б. Б. Вільчкоўскага (скульпт. В. Ягадніцкі; чыгун, бетон; вышыня бюста 1,3 м, пастамента 5 м). Бюст пастаўлены на пастаменце з двухступеньчатым стылабатам. Гл. таксама артыкул № 196 «Магіла Вільчкоўскага Багуслава Багданавіча».

**158. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Б. Б. Вільчкоўскага. На ўшанаванне памяці 48 землякоў, якія загінулі ў барацьбе за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Мілавіды, цэнтр сельсавета**

**159. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 79 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**160. МЕСЦА БІТВЫ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПАЎСТАННЯ 1863—64 гг.** (гіст., архіт.). На Брэсцкай шашы, за 1,5 км ад вёскі.

У сярэдзіне мая 1863 г. пад Мілавідамі, паблізу стратэгічна важнай дарогі Брэст — Бабруйск сканцэнтравалася некалькі паўстанцкіх атрадаў: Слонімскі — Ф. Юндзіла, Ваўкавыскі — Г. Стравінскага (Млотака), Гродзенскі — А. А. Лянкевіча (Ляндэра), Навагрудскі — В. Міладоўскага, Пружанскі — Ф. Улодака, усяго каля 800 чалавек. Камандаванне аб'яднанымі сіламі ўзяў на сябе А. Лянкевіч. Паўстанцы ўстанавілі кантроль над значным раёнам, знаёмілі сялян з мэтамі паўстання, выступалі за надзяленне іх зямлёй і спыненне феадальных павіннасцей. 20 мая мілавідскі лагер інспектаваў К. Каліноўскі. Царскія ўлады кінулі супраць паўстанцаў войскі. Першай падышла калона са Слоніма (3 роты пяхоты і 4 гарматы), якая 22 мая атакавала лагер. Бой працягваўся некалькі гадзін. Слабаўзброеныя паўстанцы адбілі ўсе атакі, нанеслі карнікам значныя страты (паводле афіцыйнага данясення, 50 забітых і параненых). Аслабелыя і дэмаралізаваныя царскія войскі мусілі адступіць на зыходныя пазіцыі. Неўзабаве на дапамогу ім падаспела калона з Нясвіжа (2 роты). Назаўтра наступленне ўзнавілася. Але паўстанцы на той час пакінулі лагер.



160. *Мемарыяльная капліца на месцы Мілавідскай бітвы.*

Мілавідская бітва была адной з буйнейшых на Беларусі ў час паўстання 1863—64 гг. На месцы яе ў 1930—33 гг. пабудавана мемарыяльная капліца. Вытрымана ў архітэктурных формах неакласіцызму. Ідэйна-мастацкі змест увасоблены ў цэнтрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. На квадратным у плане цокалі ўстаноўлены 4 калоны, якія нясуць пліту антаблемента. Завяршае капліцу сферычны гранёны купал з ажурным крыжам. У дэкоры збудавання выкарыстаны толькі архітэктурныя заломы. Унутраная прастора абмежавана міжкалоннымі арачнымі прасценкамі. У філёнгах цокаля і пастамента — памятныя надпісы. Заняты помнікам прамавугольны ўчастак тэрыторыі адзначаны гранёнымі нізкімі слупкамі і зялёнымі насаджэннямі.

*Літ.*: Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.= Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг.— М., 1965; Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии.— М., 1963.

*Г. В. Кісялёў, А. М. Кулагін.*

**161. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). На ўскраіне вёскі, на шашы Івацэвічы — Слуцк. Пабудавана па «ўзорнаму» праекту 1843 г. з цэглы. Выкарыстоўваецца як рамонтна-дарожная ўстанова.



161. *Паштовая станцыя. Схема планіроўкі.*

Тры мураваныя будынкі ствараюць сіметрычную франтальную кампазіцыю. Цэнтральны звернуты да шашы галоўным фасадам, службовыя — тарцамі. Прамавугольныя ў плане будынкі накрыты вальмавымі дахамі. Цэнтр кампазіцыі падкрэслены рызалітам галоўнага ўваходу, завершанага прафіляваным карнізам з сухарыкамі і трохвугольным франтонам. У цэнтральным будынку былі жылыя памяшканні для праезджых, кухня, кватэра наглядчыка, у бакавых — карэтная і пуня.

Станцыя — характэрны помнік дарожнага будаўніцтва з элементамі класіцызму.

*Літ.*: Сардаров А. С. История и архитектура дорог Белоруссии.— Мн., 1978.

*А. С. Сардараў.*



161. *Паштовая станцыя. План.*



161. *Паштовая станцыя.*



164. *Помнік І. К. Кабушкіну. Фрагмент.*

**162. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1977 г.

**163. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**пас. Мірны,**
**цэнтр Малахоўскага сельсавета**

**164. ПОМНІК КАБУШКІНУ** Івану Канстанцінавічу (гіст., маст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка, перад будынкам сельскага Савета.

Герой Савецкага Саюза І. К. Кабушкін нарадзіўся 15.2.1915 г. ў в. Малахоўцы Баранавіцкага р-на. З сялян. З 1935 г. ў Чырвонай Арміі. Скончыў курсы малодшых лейтэнантаў. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны трапіў у акружэнне. З восені 1941 г. ў Мінску. Арганізаваная ім група патрыётаў збірала зброю, распаўсюджвала лістоўкі, праводзіла дыверсіі, толькі ў кастрычніку — лістападзе 1941 г. знішчыла 8 нямецкіх аўтамашын, 16 гітлераўцаў. У канцы 1941 г. І. К. Кабушкін (падпольныя клічкі Ж а н, Б а б у ш к і н, С а ш к а, Н а з а р а ў) наладзіў сувязь з Мінскім падпольным гаркомам КП(б)Б. Выконваў адказныя даручэнні гаркома і камандавання партызанскіх атрадаў. З мая 1942 г. ўзначальваў аператыўную групу гаркома. Удзельнічаў у арганізацыі друкавання і распаўсюджання газеты «Звязда», зводак Саўінфармбюро, лістовак. 4.2.1943 г. гітлераўцы арыштавалі І. К. Кабушкіна і закатавалі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Баранавічах. На будынку 1-га вагоннага дэпо ў Казані, дзе працаваў І. К. Кабушкін, устаноўлена мемарыяльная дошка.

Помнік пастаўлены ў 1974 г. (скульптар І. Міско, арх. Л. Левін; алюміній, ліццё; агульная вышыня 5,17 м). У канцы прадаўгаватага стылабата з алюмініевых пліт узвышаецца прамавугольная высокая стэла, завершаная ссунутым улева паралелепіпедам. У ім на фоне глыбокіх граней пяцівугольнай зоркі — скульптурны партрэт героя (выява галавы), адметны дакладнасцю партрэтнай характарыстыкі, пластычнай выразнасцю ў мадэліроўцы твару. На стэле 2 пліты з памятнымі надпісамі.

*Літ.*: Дорога в бессмертие.— Мн., 1967; Люди легенд. В. 4.— М., 1971.

*М. К. Кошалеў, М. М. Яніцкая.*



168. *Помнік землякам.*

**в. Міцкевічы, Моўчадскі сельсавет**

**165. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**в. Моўчадзь, цэнтр сельсавета**

**166. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, злева ад дарогі на Слонім. 1 насып. Вышыня 1,7 м, дыяметр 8—9 м. Адкрыў у 1951 г. У. А. Астапаў, абследавалі ў 1969 г. В. Р. Супрун, у 1970 г. М. М. Чарняўскі, у 1980 г. Т. С. Бубенька.

**167. ПОМНІК ГРЫЦАЎЦУ** Сяргею Іванавічу (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната. Скульптура двойчы Героя Савецкага Саюза С. І. Грыцаўца ўстаноўлена ў 1975 г. Гл. артыкул № 95 «Помнік Грыцаўцу Сяргею Іванавічу».

**168. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 108 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Нагорная, Гірмантаўскі сельсавет**

**169. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 27 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. ўстаноўлены абеліск.

**в. Новая Мыш, цэнтр сельсавета**

**170. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку. Пахаваны 28 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам у руках.

**171. ПРААБРАЖЭНСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1825 г. з цэглы. Абгароджаны паркана́м з трохарачнай мураванай брамай. Прамавугольны ў плане аб'ём з трохграннай алтарнай часткай накрыты агульным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Галоўны фасад — васьмікалонны порцік, характэрны для позняга класіцызму. Стральчатыя вокны з простымі ліштвамі, як і контрфорсы, якія ўмацоўваюць прасценкі бакавых фасадаў,— вынік уплыву псеўдаготыкі. Шырокі неф касцёла, дзе вылучаны самастойныя аб'ёмы сакрысцій, перакрыты цыліндрычным драўляным скляпеннем. На хорах, што абапіраюцца на 2 калоны пры ўваходзе, стаіць сціпла дэкарыраваны раслін-

ным арнаментам арган. У канцы 19 — пачатку 20 ст. ў касцёле ўстаноўлены 3 драўляныя разныя алтары і амбон. Алтары выкананы ў 17 ст. (перабудаваны і ўпрыгожаны скульптурамі ў 18—19 ст.), амбон — у 1745 г. (перанесены з касцёла бенедыкцінак у Нясвіжы). Галоўны алтар — двух'ярусны, на высокім цокалі. Чатыры калоны першага яруса (па 2 абапал алтарнай карціны «Праабражэнне») нясуць раскрапаваны прафіляваны антаблемент з накладной разьбой. У нішах паміж калонамі — драўляная скульптура. У другім ярусе (вакол алтарнай карціны «Святая сям'я») — скульптурная група анёлаў у дынамічных паставах. Вянчае алтар таксама скульптурная група анёлаў. Бакавыя алтары па кампазіцыі аналагічныя цэнтральнаму, але меншыя памерамі. Матывы разьбы: вінаградная лаза з гронкамі, разеткі, ракавіны, пальметкі, акант, стылізаванае лісце, галоўкі анёлаў і фантастычныя рыбы. Сярод скульптур 18 ст. найбольш цікавыя «Святы Станіслаў» і «Маці боская з дзіцем», устаноўленыя на кранштэйнах абапал цэнтральнага алтара. Амбон у стылі ракако, дэкарыраваны скульптурамі 4 евангелістаў у экспрэсіўных ракурсах, херувімамі, маскаронамі, паляўнічымі атрыбутамі, а таксама картушамі і медальёнамі. Вянчае амбон скульптурная група анёлаў у палёце.

*А. М. Кулагін, Г. М. Ярмоленка.*

**в. Пагулянка, Моўчадскі сельсавет**

**172. РАДЗІМА ВІЛЬЧКОЎСКАГА** Багуслава Багданавіча — Героя Сацыялістычнай Працы (гіст.). Гл. артыкул № 196 «Магіла Вільчкоўскага Багуслава Багданавіча».

**в. Падгорная, цэнтр сельсавета**

**173. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 96 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1963 г. пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Паланэчка, Савіцкі сельсавет**

**174. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**171.** *Праабражэнскі касцёл. Арган.*



**171.** *Праабражэнскі касцёл. План.*



**171.** *Праабражэнскі касцёл.*




171. *Праабражэнскі касцёл. Фрагмент амбона.*

**175. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на р. Змейка. Пабудаваны ў 1819 г. з цэглы (рэканструяваны ў 1895 г.). Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак сціпла дэкарыраваны на галоўным (усходнім) фасадзе разеткамі, карнізамі, ліштвамі лучковых праёмаў. Кола турбіны — каля бакавога (паўночнага) фасада. Збожжа загружаецца з узроўню пад'язной дарогі на 2-м паверсе. Мука паступае ў цокальны паверх, да якога таксама ёсць пад'езд. Млын — характэрны прыклад прамысловага будаўніцтва.

**176. ПАЛАЦ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на левым беразе р. Змейка. Пабудаваны ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з цэглы. Часткова рэканструяваны ў пачатку 20 ст. Разбураны ў 1943 г. Пасля вайны адноўлены. Цяпер у ім размяшчаецца школа-інтэрнат.

Уваходзіў у палацава-паркавы ансамбль. Парк меў пейзажна-рэгулярную сістэму планіроўкі, сажалкі, малыя архітэктурныя формы. У ансамбль уваходзілі таксама капліца-пахавальня, аранжарэя, касцёл, млын. Парк — з боку галоўнага фасада палаца. Цэнтральная алея супадала з планіровачнай воссю ансамбля і завяршалася капліцай. Сістэма сажалак жывілася рэчкай, якая абмяжоўвала тэрыторыю парку з паўднёвага захаду.

Палац сіметрычна-восевай трохчасткавай кампазіцыі. Яе цэнтр — двухпавярховы, блізкі да квадрата аб'ём, да якога бакавыя крылы-галерэі далучаюць аднапавярховыя флігелі. Усе 3 корпусы — цэнтрычнага характару, накрыты пакатымі вальмавымі дахамі. Дэкаратыўны акцэнт — у цэнтральнай частцы галоўнага фасада, дзе пастаўлены гермы, якія «нясуць» масіўны антаблемент. Вокны акаймоўваюць плоскія ліштвы з сандрыкамі, кранштэйнамі, разеткамі. Першапачатковая кампазіцыя памяшканняў і інтэр'ераў значна зменена. Замест парадпай лесвіцы ў цэнтральным корпусе зроблены бакавыя лесвічныя маршы. У 19 ст. ў палацы былі бібліятэка, архіў, нумізматычная калекцыя, збор твораў мастацтва. Палац — прыклад характэрнай пабудовы буйнога сядзібна-паркавага ансамбля, у якім выявіліся рысы архітэктуры позняга класіцызму.

*Літ.:* Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии: Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *А. М. Кулагін.*

**177. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 71 аднавяскоўца, якія загінулі ў баях за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**178. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева. Бюст героя Грамадзянскай вайны В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1968 г.

**179. ЮР'ЕЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі, непадалёку ад палаца Радзівілаў. Пабудаваны ў 1899 г. з дрэва (арх. К. Вайцяхоўскі).

Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём з пяціграннай апсідай. З усходу за асноўны аб'ём сіметрычна выступаюць аднасхільныя дахі 2 нізкіх сакрысцій, якія прылягаюць да алтарнай апсіды. З захаду на галоўным фасадзе — 2 вежы, завершаныя глухімі чацверыкамі з высокімі пірамідальнымі шатрамі. Паміж вежамі — франтон з люнетам. Галоўны ўваход афармлены дэкаратыўным ганкам з двухсхільным навесам на 2 калонках. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Франтон, чацверыкі, карнізы і вокны аздоблены накладнымі дэкаратыўнымі дэталямі геаметрычнай формы. Бакавыя сцены прарэзаны высокімі стральчатымі вокнамі і ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі. Да галоўнага ўвахода вядзе нізкая лесвіца. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае з плоскай падшыўной столлю. У заходняй частцы 6 ка-



175. *Вадзяны млын.*



175. *Вадзяны млын. План.*

лонак падтрымліваюць хоры з арганам, зробленым віленскім майстрам Ф. Астрамескім (1897 г.).

Аднаярусны алтар — узор народнага мастацтва разьбы па дрэву. На яго нізкім прафіляваным цокалі пышныя віцці аканту, якія абрамляюць алтарныя карціны.

Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі, адметны цікавым дэкаратыўным афармленнем інтэр'ера.

*Т. І. Чарняўская, М. М. Яніцкая.*

**в. Палонка, цэнтр сельсавета**

**180. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 52 воіны і партызаны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**181. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 жыхароў вёскі, расстраляных у 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**182. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Да квадратнага ў плане зруба прылягаюць: з усходу — пяцісценная апсіда з 2 рызніцамі, з захаду — бабінец і трох'ярусная званіца з шатровым пакрыццем. У цэнтры галоўнага зруба на васьміграннным светлавым барабане — невысокі шацёр з галоўкай. Такія ж галоўкі на 4 вуглах зруба.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Пастарынне, Навамышскі сельсавет**

**183. МАГІЛА ТУРКАТАВА** Уладзіміра Ігнатавіча, **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Маёр Чырвонай Арміі У. І. Туркатаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. На ўшанаванне яго памяці і 25 жыхароў в. Пастарынне, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пачапава, цэнтр сельсавета**

**184. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя Р. І. Катоўскага А. Зубараў і П. Зубчанка, якія загінулі ў 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**185. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 84 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.



**176.** *Палац. Фрагмент дэкору галоўнага фасада.*



**176.** *Палац. План 1-га паверха.*

**176.** *Палац. Агульны выгляд.*



179. *Юр'еўскі касцёл. Агульны выгляд.*



179. *Юр'еўскі касцёл. План.*

**в. Перхавічы, цэнтр сельсавета**

**186. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 69 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Петкавічы, Савіцкі сельсавет**

**187. МАГІЛА ВАРАНКОВІЧА** Івана Вікенцьевіча (гіст.). На могілках. Партызан І. В. Варанковіч загінуў 20.3.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**188. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса імя В. Я. Чарнышова. На ўшанаванне памяці 25 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены абеліск.

**в. Прыазёрная, Навамышскі сельсавет**

**189. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна ў ліпені 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам у руках.

**в. Пурпевічы, Пачапаўскі сельсавет**

**190. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**190а.** Гарадзішча. За 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Сваротва, справа ад дарогі на в. Ампявічы, у хваёвым лесе. Мясцовая назва Замак. Адкрыў у 1969 г. В. Р. Супрун, абследавала ў 1980 г. Т. С. Бубенька. Пляцоўка авальнай формы, памерам 45—33 м, узвышаецца над поймай ракі на 15—18 м, выцягнута з усходу на захад (у заходняй частцы паніжэнне на 0,5 м). Умацавана валам вышынёю 2 м у паўночнай частцы і 4,5 м у



182. *Царква.*



182. *Царква. План.*

паўднёвай і паўднёва-заходняй. Зарасла кустамі і рэдкім хвойнікам. Раскопкі не праводзіліся.

**190б.** Курганны могільнік. За 1 км на поўдзень ад вёскі, справа ад дарогі на в. Душкаўцы, на левым беразе р. Сваротва, на ўзлессі. Мясцовыя назвы Капцы, Бугры. 11 круглых у плане насыпаў вышынёю 1,3—3,5 м, дыяметрам 3—10 м, на асобных асталіся сляды ям, на адным — траншэя. Зарос кустамі і рэдкім хвойнікам. Выявіў у 1969 г. В. Р. Супрун, абследавала ў 1980 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся. *Т. С. Бубенька.*

**в. Родкавічы, Савіцкі сельсавет**

**191. МАГІЛА СТАШЫНСКАГА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Старшыня былога Галынкаўскага сельсавета І. І. Сташынскі забіты 15.9. 1948 г. ворагамі Савецкай улады. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Русіно, Вялікалуцкі сельсавет**

**192. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Непадалёку ад школы. Пахаваны 41 воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 і 1944 гг. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Савічы, цэнтр сельсавета**

**193. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У скверы, насупраць адміністрацыйнага будынка саўгаса «Савіцкі». Пастаўлены ў 1973 г. на ўшанаванне памяці 65 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (скульпт. І. Хоміч, Г. Пясецкі; бетон; вышыня стэлы 2 м, барэльефа 1,5 м). На прадаўгаватай гарызантальнай сцяне-стэле з фактурнай апрацоўкай паверхні асіметрычна прымацавана падобная формай на асноўную стэла з барэльефамі. Таніраваныя пад алюміній паплечныя выявы партызана, салдата і жанчыны сімвалізуюць непераможнасць народа. Справа на помніку 2 гранітныя дошкі. На адной высечаны імёны загінуўшых, на другой — словы: «Вечная слава мужным патрыётам, якія аддалі жыццё за нашу Радзіму. 1941—1945». *В. В. Церашчатава.*

**в. Свіраны, Перхавіцкі сельсавет**

**194. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 63 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Скрабава, Карчоўскі сельсавет**

**195. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 32 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.




193. *Помнік землякам.*

**в. Соргавічы, Моўчадскі сельсавет**

**196. МАГІЛА ВІЛЬЧКОЎСКАГА** Багуслава Багданавіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Б. Б. Вільчкоўскі нарадзіўся 17.3. 1928 г. ў в. Пагулянка Баранавіцкага р-на. Член КПСС з 1959 г. У Вялікую Айчынную вайну 14-гадовым падлеткам пайшоў у партызаны, змагаўся супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1959—64 гг. старшыня калгаса «Іскра» Баранавіцкага р-на. Пад яго кіраўніцтвам адсталая гаспадарка стала адной з перадавых. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1963 г. Загінуў 27.11.1964 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 22.3.1966 г. Яго імем названы калгас, які ён узначальваў, вуліца ў Баранавічах. На цэнтральнай сядзібе калгаса ў в. Малая Сваротва пастаўлены помнік. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Сцяганосцы новага, перадавога.— Мн., 1967.



198. *Касцёл Іаана Хрысціцеля. План.*



198. *Касцёл Іаана Хрысціцеля.*



198. *Касцёл Іаана Хрысціцеля. Фрагмент інтэр'ера.*

**в. Сталовічы, цэнтр сельсавета**

**197. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. На 2 мемарыяльных плітах каля абеліска імёны 68 аднавяскоўцаў, якія ў Вялікую Айчынную вайну аддалі сваё жыццё за Радзіму.

**198. КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ** (архіт., маст.). Сярод жылой забудовы вёскі.

У 1639 г. па загаду камандора мальтыйцаў З. К. Радзівіла пабудавана мураваная Ларэтанская капліца. У 1740 г. тут пачалося будаўніцтва мураванага касцёла па праекту арх. І. Фантана III. Капліца была ўключана ў агульны аб'ём збудавання як прэсбітэрый. У 1743 г. архітэктар І. К. Глаўбіц дапрацаваў праект і закончыў будаўніцтва касцёла. Пачаў дзейнічаць у 1746 г. У 1863 г. перабудаваны ў праваслаўную Успенскую царкву.

Трохнефавая базіліка з больш нізкімі прэсбітэрыем і сакрысціямі. Галоўны фасад складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з 2 вежамі па баках, падзелены раскрапаванымі антаблементамі на 3 ярусы. Яго асноўны дэкаратыўны матыў — спаістыя пілястры. Уваход падкрэслены 4 паўкалонамі. Бакавыя фасады раскрапаваны пілястрамі. Высокія аконныя праёмы з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі аздоблены ляпнымі абрамленнямі. Двума радамі слупоў інтэр'ер падзелены на 3 нефы. Цэнтральны перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі на падпружных арках, завершаны трох'ярусным алтаром і злучаны з Ларэтанскай капліцай. Бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі і заканчваюцца двух'яруснымі алтарамі. Пры ўваходзе ў касцёл невялікі тамбур. Хоры падтрымліваюць 2 калоны.

Дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера (арх. І. К. Глаўбіц) выканана ў тэхніцы стука. Першы ярус галоўнага алтара аформлены спаранымі калонамі карынфскага ордэра і развітым антаблементам, у другім — вертыкальны рытм калон паўтараюць пілястры з раскрапаванымі карнізамі. Трэці ярус завяршае кампазіцыю алтара глорыяй. У цэнтры алтара над дзвярамі барочны картуш з рэльефнай выявай адсечанай галавы Іаана Хрысціцеля.

Касцёл — помнік архітэктуры «віленскага барока».

*Літ.:* Lorentz St. Jan Krzysztof Glaubitz, architekt wileński XVIII w.: Materiały do biografii i twórczości.— Warszawa, 1937. *Т. І. Чарняўская, М. М. Яніцкая.*

**в. Старая Мыш,**
**Цешаўлянскі сельсавет**

**199. РЭШТКІ КАРАЛЕЎСКАГА ЎМАЦАВАННЯ** (гіст.). На поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Мышанка. Дата пабудовы невядома. Ёсць звесткі, што кароль Польшчы і вялікі князь Літоўскі Жыгімонт II Аўгуст у 1568 г. перадаў навакольныя землі магнату Яну Хадкевічу, які пабудаваў тут замак. Каралеў-



199. *Рэшткі каралеўскага ўмацавання.*



199. *Рэшткі каралеўскага ўмацавання. План.*

скае ўмацаванне каля Старой Мышы адзначана на карце Вялікага княства Літоўскага 16 ст. Разбурана ў 1654 г. ў час руска-польскай вайны.

Амаль правільная чатырохвугольная пляцоўка (50×50 м) абкружана валам вышынёю 2 м і ровам шырынёю каля 20 м пры глыбіні 7—8 м. З боку поля пляцоўка мае паглыбленні, з паўднёвага захаду — невялікі перакоп вала, з поўдня — прыкметы засыпанага калодзежа.

*Літ.*: Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowianskich. T. 6.— Warszawa, 1885. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Стрэлава, Мілавідскі сельсавет**

**200. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на ўсходняй мяжы каталіцкіх могілак. У вялікай курганнай групе каля 46 круглых у плане насыпаў вышынёй да 1,5 м, дыяметрам 6—10 м. Большасць курганоў добра захавалася. У заходняй частцы насыпы пашкоджаны больш познімі пахаваннямі. Курганы вядомы пад назвай Турэцкія могілкі. Выявіў у 1969 г. В. Р. Супрун, абследавалі ў 1970 г. М. М. Чарняўскі, у 1980 г. Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Тартакі, Ляснянскі сельсавет**

**201. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**202. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 59 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1941 і 1944 гг., а таксама ваеннапалонныя, закатаваныя гітлераўцамі ў Ляснянскім лагеры смерці. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Уласы, Крошынскі сельсавет**

**203. ВЕТРАНЫ МЛЫН** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва ў в. Ястрамбель. У 1935 г. перавезены ва Уласы.

Высокі, квадратны ў плане двух'ярусны каркасны аб'ём вертыкальна абшыты дошкамі і накрыты двухсхільным дахам. Мае 4 шырокія крылы. Корпус млына насаджаны на стрыжань, умацаваны на крыжавіне з адкосамі, і злучаецца з ім на 2 узроўнях. Гэта забяспечвае ўстойлівасць і неабходны паварот корпуса млына. На першы ярус вядзе лесвіца з пляцоўкай пры ўваходзе. На другім ярусе знаходзяцца жорны, зубчастая перадача да цэнтральнага каменя, барабан для падняцця мяшкоў са збожжам. Мука ссыпаецца ў спецыяльны прыёмнік на першым ярусе, дзе ёсць адсекі для мяшкоў са збожжам і мукой.

Млын — прыклад народнай вытворчай архітэктуры. *С. Г. Багласаў.*

**в. Уцёс, цэнтр сельсавета**

**204. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 32 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са схіленым сцягам.

**205. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Курган насыпаны ў 1970 г. на ўшанаванне памяці 112 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана — абеліск.

**206. МАГІЛА КУЗЬМІНОЙ** Лізаветы Сцяпанаўны (гіст.). На могілках. Л. С. Кузьміна нарадзілася ў 1907 г. ў в. Уцёс Баранавіцкага р-на. З сялян. Пасля Вялікай Айчыннай вайны актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці, арганізацыі мясцовага калгаса, у барацьбе з бандытызмам. Забіта ворагамі Савецкай улады ў снежні 1950 г. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цешаўля, цэнтр сельсавета**

**207. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка птушкафабрыкі «Першамайская». Пахаваны 27 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Рыгор Анатолевіч Чакмянёў.

Р. А. Чакмянёў нарадзіўся ў 1916 г. ў с. Янкуль Курсаўскага р-на Стаўрапольскага краю. Член КПСС з 1936 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Удзельнік баёў за вызваленне Украіны і Беларусі, старшы лейтэнант, камандзір узвода. 6—8.7.1944 г. ўзвод на чале з Р. А. Чакмянёвым перарэзаў чыгунку Баранавічы — Вільнюс, фарсіраваў р. Мышанка, захапіў абарончы пункт праціўніка — в. Цешаўля, адбіў 2 контратакі, знішчыў шмат тэхнікі і жывой сілы ворага. Калі скончыліся снарады і патроны, 6 воінаў пад камандаваннем Р. А. Чакмянёва з гранатамі кінуліся на ворага. Загінуў у баі 8.7.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.9.1944 г.

У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**208. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 64 землякоў з саўгаса «Цешаўля», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены абеліск.



**200.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Чэрніхава, Вольнаўскі сельсавет**

**209. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Яжона, Падгорнаўскі сельсавет**

**210. МАГІЛА ІЯСЯЛЕВІЧА** Віктара Іванавіча (гіст.). У заходняй частцы вёскі. Савецкі лётчык В. І. Іясялевіч загінуў у чэрвені 1941 г. ў паветраным баі з нямецка-фашысцкімі за-



**203.** *Ветраны млын.*



213. *Сядзібны дом. Бакавы фасад.*



213. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*

хопнікамі. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**211. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). Сярод жыхароў вёскі з даўніх часоў пашырана ручное пляценне вырабаў з лазы і каранёў дрэў. Цяпер народныя ўмельцы працуюць надомнікамі ад Баранавіцкай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Кошыкі, кашпо, жаночыя сумкі, сухарніцы, цукерніцы, газетніцы, падносы, латочкі для садавіны і агародніны і інш. вырабы адметныя багаццем фантазіі, лёгкасцю ажурных малюнкаў.

**в. Ямічна, Мілавідскі сельсавет**

**212. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 58 савецкіх грамадзян, закатаваных у 1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ястрамбель, Малахоўскі сельсавет**

**213. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана на мяжы 19—20 стагоддзяў. Цяпер тут размяшчаецца школа-інтэрнат. Комплекс уключае мураваны дом, стайню і іншыя гаспадарчыя будынкі. Вакол іх невялікі пейзажны парк з сажалкай.

Дом асіметрычнай ступеньчатай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з вертыкальнай дамінантай у выглядзе чатырох'яруснай шатровай вежы. Цэнтр кампазіцыі — двухпавярховы корпус, да якога прылягаюць разнастайныя аб'ёмы з самастойнымі дахамі. Галоўны фасад вылучаны неглыбокім рызалітам з балконам на 2 масіўных слупах. Да параднага ўвахода вядзе двухбаковы пандус з балюстрадай. З дваровага фасада будынак агінае тэраса. Фасады аздоблены рустам, карнізамі з сухарыкамі; прамавугольныя і паўцыркульныя аконныя праёмы дэкарыраваны пілястрамі, замковымі камянямі, разеткамі. Планіроўка сядзібнага дома




213. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — свіран; 3 — стайня.*

заснавана на кампаноўцы рознавялікіх памяшканняў вакол вестыбюля і калідора з тарцовай лесвіцай. У некаторых памяшканнях захавалася керамічная і паркетная падлога. Будынак мае скляпеністы падвал.

Сядзіба — помнік сядзібна-паркавай архітэктуры, у якім яскрава выявіўся эклектычны кірунак, характэрны для архітэктуры таго часу.

*А. М. Кулагін.*

**в. Ятвезь, Падлясейскі сельсавет**

**214. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 45 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

# БРЭСЦКІ РАЁН

Астрамечава
Лышчыцы
Покры
Чарнаўчыцы
Казловічы
Вялікія Матыкалы
Клейнікі
Чэрні
Тэльмы 1-я
БРЭСТ
Мухавец
Вялікія Радванічы
Гершоны
Страдзеч
Знаменка
Медна
Дубіца
Ляплёўка
Дамачава
Прыбарава
Камароўка
Тамашоўка

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу




7 Зак. 2447



215. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Астрамечава, Лышчыцкі сельсавет**

**215. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 119 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вёсак Астрамечава, Кашылава, Малыя Сухарэвічы, Рудавец. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**216. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Брэсцкай, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 61 земляка (вёскі Астрамечава, Кашылава, Рудавец, Уладычыцы, Цюпрыкі), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Буякі, Тэльмінскі сельсавет**

**217. РАДЗІМА ПАПЛАЎСКАГА** Захара Філімонавіча, дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі (гіст.). Гл. артыкул № 21 «Гарнізонныя могілкі».

**в. Ваўкі, Мухавецкі сельсавет**

**218. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 300 м на ўсход ад вёскі. У лесе пахаваны воін, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г.



220. *Царква Ушэсця. Фрагмент бакавога фасада.*

**в. Вельямовічы, Лышчыцкі сельсавет**

**219. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці яе жыхароў (51 чалавек), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**220. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1899 г. з цэглы. Асноўны прамавугольны аб'ём завершаны чатырохсхільным дахам з 5 галоўкамі, да яго далучаюцца паўцыліндрычная апсіда, бабінец і трох'ярусная шатровая званіца. Фасады царквы багата дэкарыраваны. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Вістычы, Чарнаўчыцкі сельсавет**

**221. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На невялікім узгорку ў цэнтры вёскі, каля дарогі Чарнаўчыцы — Матыкалы. Пабудавана ў 1678 г. з цэглы як касцёл цыстэрцыянцаў. З 19 ст. вядома як Крыжаўзвіжанская царква.

Будынак — трохнефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай у завяршэнні цэнтральнага нефа. Сцены бакавых нефаў падоўжаны сакрысціямі, каля ўваходу — 2 бакоўкі, што выступаюць за сцены бакавых нефаў. Галоўны ўсходні фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Вось сіметрыі падкрэсліваецца арачным парталам увахода, аконным праёмам над ім, нішай з лучковым завяршэннем і люкарнай у тымпане франтона. Магутныя парныя паўкалоны таскананскага ордэра абапал партала прадаўжаюцца паўкалонамі верхняга яруса, завершанага атыкавым франтонам. Бакавыя фасады раскрапаваны спаранымі пілястрамі. Сцены цэнтральнага нефа прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, бакавых — паўцыркульнымі са спаранымі лапаткамі ў прасценках.

Інтэр'ер падзелены 2 радамі слупоў складанага сячэння, якія ўтвараюць манументальную аркаду, завершаную антаблементам. Галоўны і бакавыя нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Сцены расчлянёны спаранымі пілястрамі. Над галоўным уваходам размешчаны хоры, якія падтрымлівае лучковая арка. На хоры вядзе вінтавая лесвіца ў тоўшчы сцяны.

Царква — помнік архітэктуры барока. *Ю. Ф. Берднікаў.*



220. *Царква Ушэсця. План.*

**в. Вычулкі, Тэльмінскі сельсавет**

**222. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 45 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск з надпісам, які ўшаноўвае таксама памяць землякоў, загінуўшых у вайну.

**в. Вялікія Матыкалы, цэнтр Матыкальскага сельсавета**

**223. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**в. Вялікія Радванічы, цэнтр Радваніцкага сельсавета**

**224. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 16 воінаў і 5 партызан-разведчыкаў атрада імя М. М. Чарнака партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**225. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 35 савецкіх грамадзян, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў кастрычніку 1943 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялюнь, Чэрнінскі сельсавет**

**226. РАДЗІМА МАЙСЕЕВА** Івана Цімафеевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. Ц. Майсееў нарадзіўся 16.8.1910 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. З 1932 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнічаў у вызваленні Украіны, Румыніі, Чэхаславакіі. 6.11.1944 г. батальён капітана І. Ц. Майсеева ў час баёў за вызваленне Венгрыі фарсіраваў р. Ціса, выбіў ворага з траншэй і прасунуўся ўперад на 18 км, захапіў у палон 180 нямецкіх салдат і афіцэраў. 24.3.1945 г. за гераізм і мужнасць І. Ц. Майсееву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Памёр 12.2.1976 г. Пахаваны ў г. Марыінск Кемераўскай вобл.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Гершоны, цэнтр сельсавета**

**227. КРАПАСНЫ ФОРТ № 5** (гіст., архіт.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. Пабудаваны ў 1878—88 гг. на поўдзень ад Брэсцкай крэпасці.

Будаўніцтва форта было выклікана неабходнасцю ўдасканаліць умацаванні Брэсцкай крэпасці адпаведна зменам, якія адбыліся ў ваеннай тэхніцы. У 1862 г. рускі фартыфікатар генерал-ад'ютант Э. І. Татлебен распрацаваў агульны план паляпшэння ўмацаванняў крэпасці, які прадугледжваў стварэнне асобных

Тип. проект № 32 на 350 чел.
„Атлас" 18.3.9



221. *Крыжаўзвіжанская царква. Выгляд з боку апсіды.*



221. *Крыжаўзвіжанская царква. Скляпенні цэнтральнага нефа.*



221. *Крыжаўзвіжанская царква. План.*

крапасных фортаў. У 1876 г. камісія пад старшынствам генерал-лейтэнанта інжынерных войск М. М. Абручова вызначыла пункты іх узвядзення. З 1878 г. на адлегласці 3,5—4 км ад галоўных умацаванняў крэпасці і з такімі ж інтэрваламі пачалося будаўніцтва 9 фортаў. Найбольш захаваўся форт № 5. Пяцівугольны ў плане, аднавалавы, цагляны. Пад валам з цэнтральным траверсам размешчаны казармы з анфіладнай сістэмай памяшканняў і скляпеністым перакрыццем. Роў з эскарпамі (2 двайныя і 2 адзінарныя) запаўняўся вадой. У 1903 г. пачаліся работы па ўдасканаленню фортаў. Цагляныя скляпенні казематаў былі ўмацаваны бетонным перакрыццем таўшчынёю 1,8—2 м. Па ўсёй лініі адхону зроблены спецыяльныя нішы для 2—3 стралкоў, участкі адхону паміж нішамі служылі траверсамі, ахоўвалі стралкоў ад флангавага агню. У 1913—14 гг. форт часткова перабудаваны. Пад валамі і сховішчамі для пяхоты зроблены склады для амуніцыі. Таўшчыня сцен сховішчаў 5—6 м. Памяшканні пад пярэднімі валамі мелі выхад у двор форта.

Форт № 5 — прыклад буйнога фартыфікацыйнага збудавання, дае ўяўленне аб характары і маштабах крапаснога будаўніцтва 19 ст.

*А. С. Барысавец.*

**228. МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны экіпаж савецкага самалёта (3 чалавекі), якія загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у маі 1944 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**229. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АДАМЧУКУ** Аляксею Данілавічу (гіст.). Вул. Цэнтральная, 82. Устаноўлена ў 1967 г. на доме, у якім жыў савецкі патрыёт А. Д. Адамчук, закатаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў лютым 1943 г.

**230. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АНДРАЮКУ** Івану Мікітавічу (гіст.). Вул. Цэнтральная, 91. Устаноўлена ў 1967 г. на доме, у якім жыў савецкі патрыёт І. М. Андраюк, закатаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1943 г.

**231. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КЛАЧКО** Кірылу Харытонавічу (гіст.). Вул. Цэнтральная, 48. Устаноўлена ў 1976 г. на доме, дзе жыў савецкі патрыёт, удзельнік антыфашысцкай барацьбы К. Х. Клачко, які працаваў у той час на лесапільні ў Брэсце. У сакавіку 1944 г. арыштаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі і закатаваны.

**232. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). На будынку школы. Тут да Вялікай Айчыннай вайны размяшчалася 11-я пагранічная застава. 22.6.1941 г. воіны-пагранічнікі праявілі мужнасць і гераізм у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне іх памяці ў 1968 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**233. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СТРАЧУКАМ** (гіст.). Вул. Цэнтральная, 87. Устаноўлена ў 1967 г. на доме, у якім жылі савецкія патрыёты Аляксей Васілевіч Страчук, яго жонка Хрысціна Паўлаўна, сын Уладзімір. Загінулі ў 1943 г. ў фашысцкіх засценках.



234. *Царква.*



234. *Царква. План.*

**234. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Асноўны квадратны ў плане аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з галоўкай. Да яго далучаны пяцісценная апсіда і праз вузкі пераход — двух'ярусная шатровая званіца.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**г. п. Дамачава, цэнтр пасялковага Савета**

**235. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Камуністычная. Пахаваны 77 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях за выхад да Заходняга Буга.

У ходзе Люблінска-Брэсцкай аперацыі войскі левага крыла 1-га Беларускага фронту нанеслі ўдар па ворагу з раёна г. Ковеля, 18.7.1944 г. прарвалі абарону праціўніка. 20 ліпеня вызвалілі г. п. Дамачава і на ўчастку Дамачава — чыгуначная станцыя Уладава выйшлі да Заходняга Буга і фарсіравалі яго.

У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск і скульптура воіна з аўтаматам у руках.

**236. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне гарадскога пасёлка. Пахаваны 3800 жыхароў г. п. Дамачава і былога Дамачаўскага р-на, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну.

У канцы 1941 г. акупанты стварылі ў гарадскім пасёлку гета для яўрэйскіх грамадзян. Тэрыторыя лагера была абнесена калючым дротам, ахоўвалася. 18.9.1942 г. акупанты за 0,5 км на поўдзень ад гарадскога пасёлка расстралялі групамі па 45—50 чалавек больш за 2700 вязняў гета. Маленькіх дзяцей кідалі ў ямы жывымі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



240. *Помнік А. А. Новікаву.*

**237. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У скверы. Скульптура У. І. Леніна пастаўлена ў 1953 г.

**238. СВЯТАЛУЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Трохзрубны храм, у ім дамінуе высокая шатровая званіца. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Дружба, Чарнаўчыцкі сельсавет**

**239. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**239а.** Селішча-1. Размешчана за 0,2 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі Дружба — Нясвіла, над ручаём. Памеры 150×80 м. Выявіла ў 1966 г. І. П. Русанава, абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**239б.** Селішча-2. На поўнач ад Селішча-1, за ручаём. Памеры 140×35—40 м. Адкрыла і даследавала І. П. Русанава ў 1966 г. У раскопе плошчай 360 м² выяўлены культурны пласт магутнасцю 0,3—0,5 м. Выяўлены драўляныя, наземныя, злёгку паглыбленыя ў зямлю жылыя дамы, якія былі размешчаны групамі на адлегласці 5—10 м адзін ад аднаго. Знойдзены рэшткі ганчарных гаршкоў з моцна адагнутым венчыкам, упрыгожаных лінейным і хвалістым арнаментам, жалезныя нажы і цвікі, крэсіва, шкляныя пацеркі. У 1980 г. селішча абследавала Т. М. Каробушкіна. Культурны пласт захаваўся толькі ў паўднёвай частцы. Сабрана ганчарная кераміка, рэшткі ляпных сасудаў паморскай культуры, глянцаваная кераміка добрага абпалу. Помнік 9—10 ст. У ніжніх пластах трапляюцца рэшткі керамікі паморскай культуры 4—2 ст. да н. э.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Русанова И. П. Славянские древности VI — IX вв. между Днепром и Западным Бугом.— М., 1973.

*Т. М. Каробушкіна.*

**чыг. ст. Дубіца, Дамачаўскі пасялковы Савет**

**240. ПОМНІК НОВІКАВУ** Аляксею Аляксандравічу (гіст.). Непадалёку ад чыгуначнай станцыі.

А. А. Новікаў нарадзіўся 2.2.1920 г. ў в. Гразнуха Алапаеўскага р-на Свярдлоўскай вобл. У 1938 г. скончыў Пермскі педагагічны тэхнікум, працаваў настаўнікам. З 1940 г. ў пагранвойсках. 22.6.1941 г., калі нямецка-фашысцкія захопнікі пад прыкрыццём артылерыйскага і мінамётнага агню пачалі фарсіраваць Заходні Буг, малодшы сяржант А. А. Новікаў знаходзіўся ў нарадзе. Пачуўшы страляніну, ён са сваім напарнікам устанавіў кулямёт каля дуба і пад агнём праціўніка ўтрымліваў пераправу на працягу ўсяго дня і ночы. Пагранічнік патапіў 3 варожыя лодкі. Толькі раніцай наступнага дня гітлераўцы пераправіліся цераз раку. Цяжка паранены і непрытомны воін быў захоплены ў палон і памёр ад страты крыві. Сяляне в. Яблечна (ПНР) пахавалі героя. Пасля вайны астанкі адважнага пагранічніка перанесены ў брацкую магілу каля г. Бяла-Падляска. У 1965 г. малодшы сяржант А. А. Новікаў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені.

У 1968 г. яго імем названа адна з застаў Заходняй пагранічнай акругі. У 1969 г. на месцы бою ўстаноўлена стэла.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *Т. М. Ходцава.*

**241. ПОМНІК ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). За 800 м на захад ад станцыі, на беразе Заходняга Буга, ва ўрочышчы Дубовы Гай. На ўшанаванне памяці савецкіх пагранічнікаў, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 22.6.1941 г., у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дубок,**
**Дамачаўскі пасялковы Савет**

**242. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з дрэва.

Будынак складаецца з асноўнага прамавугольнага аб'ёму з трохграннай алтарнай часткай і двух'яруснага бабінца, накрытых агульным двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром і галоўкай. З заходняга боку да бабінца праз невялікі тамбур далучана квадратная ў плане трох'ярусная званіца, накрытая шатровым дахам. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны невялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Апсіда асветлена цэнтральным паўцыркульным акном.

Царква — помнік народнага дойлідства Беларускага Палесся.

*С. Ф. Самбук.*

**в. Жыравецкая Камяніца,**
**Мухавецкі сельсавет**

**243. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя М. М. Чарнака



242. *Ільінская царква. План.*

партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна — У. М. Шабуня і Т. Я. Шчарбакова, якіх у сакавіку 1944 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**244. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 74 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 415-й стралковай дывізіі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**245. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 49 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**246. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На галоўнай вуліцы. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Яе аб'ёмная кампазіцыя складаецца з цэнтральнага прамавугольнага зруба пад двухсхільным дахам, да якога прылягаюць прытвор і апсіда. Помнік народнага дойлідства.

**в. Заказанка, Гершонскі сельсавет**

**247. СТАЯНКА** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у даліне р. Заходні Буг. На пясчаных узгорках, ва ўрочышчах Гарадзішча і Міжазер'е. Выявіў у 1898 г. і даследаваў М. Ф. Беляшэўскі. Сярод знаходак каля 200 крамянёвых прылад працы: разнастайныя накапечнікі стрэл, скрабкі розных тыпаў, вастрыі, нажы, пілкі, шліхтаваныя свідраваныя сякеры і сякеры-кліны з розных парод каменю, абломкі глінянага ляпнога посуду. Стаянка адносіцца да мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н. э.), перыядаў ранняга і позняга неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н. э.), ранняй і сярэдняй бронзы (2—1-е тысячагоддзі да н. э.).

*Літ.:* Беляшевский Н. Ф. Дюнные стоянки неолитической эпохи на берегах р. Западного Буга в среднем его течении.— У кн.: Труды одиннадцатого Археологического съезда в Киеве. 1899. М., 1901, т. 1. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Збірагі, Чэрнінскі сельсавет**

**248. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1956 г. пастаўлены абеліск.

**249. ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1610 г. з дрэва. Неаднаразова абнаўлялася.

Прамавугольны ў плане асноўны зруб мае трохсхільны дах з вальмай над галоўным заходнім фасадам. З усходу да асноўнага зруба прылягае алтарны з бакавымі прыбудовамі, накрыты таксама трохсхільным дахам з вальмай з усходняга боку. Над асноўным аб'ёмам, на месцы злучэння зрубаў, гранёная галоўка. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і прарэзаны высока размешчанымі прамавугольнымі вокнамі. Унутры асноўнае памяшканне зальнае, перакрыцце бэлечнае з плоскай падшыўной столлю. У заходняй частцы на 2 драўляных калонках узвышаюцца хоры. Каля ўвахода ў царкву стаіць каркасная квадратная ў плане званіца, накрытая шатровым гонтавым дахам. Званіца вертыкальна ашалявана, у верхняй частцы — скразныя арачныя праёмы.

Ансамбль вызначаецца цэласнасцю кампазіцыі, суразмерным маштабам і мастацкай выразнасцю архітэктурнага вырашэння. *С. Ф. Самбук.*



242. *Ільінская царква.*

**в. Збунін, Знаменскі сельсавет**

**250. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля павароту дарогі на воз. Белае. Пахаваны 15 савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1970 г. на магіле ўстаноўлена стэла.

**251. СТАЯНКА** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, на пясчаным узгорку, каля р. Заходні Буг. Выявіў і даследаваў у 1898 г. М. Ф. Беляшэўскі. Даўжыня стаянкі ўздоўж берага ракі каля 300 м. Культурны пласт часткова выходзіць на паверхню. Знойдзены рэшткі вогнішчаў, абкладзеных камянямі, ракавіны, вуголле, шмат апрацаваных крамянёў, аблом-



249. *Царква Параскевы Пятніцы і званіца.*



249. *Царква Параскевы Пятніцы і званіца. План.*

кі глінянага ляпного посуду, крамянёвыя наканечнікі стрэл, нажы, вастрыі, скрабкі, скоблі, адбойнікі з пясчаніку і кварцыту, гліняныя праслiцы, рэчы з бронзы. Адносіцца да позняга неаліту і бронзавага веку (3—2-е тысячагоддзі да н. э.).

*Літ.*: Беляшевский Н. Ф. Дюнные стоянки неолитической эпохи на берегах р. Западного Буга в среднем его течении.— У кн.: Труды одиннадцатого Археологического съезда в Киеве. 1899. М., 1901, т. 1; Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. В. 1.— Мн., 1968. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Знаменка, цэнтр сельсавета**

**252. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У паўночнай частцы вёскі. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**253. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі. Пры ахове дзяржаўнай граніцы 22.6.1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў геройчна змагаліся і загінулі 16 пагранічнікаў. На ўшанаванне іх памяці ў 1968 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**254. МЕСЦА БОЮ ПАГРАНІЧНІКАЎ** (гіст.). За 3,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. Тут знаходзілася пагранічная застава. 22.6.1941 г. з 3 гадзін 30 мін да 22 гадзін байцы заставы вялі няроўны бой супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. астанкі 14 пагранічнікаў, якія загінулі ў гэтым баі, былі перанесены ў брацкую магілу ў в. Знаменка. У 1968 г. на месцы бою пастаўлены абеліск.

**в. Казловічы, Клейнікаўскі сельсавет**

**255. ПОМНІК ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 13 пагранічнікаў і начальніка заставы лейтэнанта М. І. Авілава, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 22.6.1941 г., у 1965 г. ўстаноўлена стэла.

**в. Казловічы, Чарнаўчыцкі сельсавет**

**256. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 93 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік. Абапал скульптуры воіна на чатырохгранным пастаменце знаходзяцца 2 пліты з мармуровымі дошкамі і надпісамі «Людзі! Памятайце, якой цаной заваявана шчасце!» і «Аднавяскоўцам, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, ад жыхароў вёсак Вялікія Сухарэвічы, Смуга, Вулька, Малая Курніца, Нясвела, Чарнакі, Дружба, Казловічы». *А. С. Барысавец.*

**в. Камароўка, Тамашоўскі сельсавет**

**257. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля дарогі на Брэст. Пахаваны жыхары вёскі, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**258. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля клуба. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1970 г.

**259. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**260. РАДЗІМА КЛІМУКА** Пятра Ільіча, лётчыка-касманаўта СССР, двойчы Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 19 «Бюст Клімука Пятра Ільіча».

**в. Кашылава, Лышчыцкі сельсавет**

**261. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 1,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Задняя Рыска. Сярод разаранага поля — 7 абкладзеных камянямі насыпаў. Вышыня 0,2—0,3 м, дыяметр 4—5 м. Частка насыпаў відавочна, знішчана. Адкрыла і абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Клейнікі, цэнтр сельсавета**

**262. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 77 землякоў — жыхароў вёсак Казловічы, Клейнікі, Костычы, Неплі, Пескі, Рэчыца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Ліпінкі,**
**Дамачаўскі пасялковы Савет**

**263. МАГІЛА ЗАВІДАВА** Аляксандра Абрамавіча (гіст.). Непадалёку ад вёскі, на месцы былой пагранзаставы.

А. А. Завідаў нарадзіўся ў 1924 г. ў в. Забалоты Таржокскага р-на Калінінскай вобл. Пасля сканчэння сярэдняй школы працаваў мулярам у Петразаводску. З 1942 г. служыў у пагранвойсках. 23.1.1945 г., калі ўзброеная банда з 15 чалавек перасекла граніцу і імкліва прасоўвалася па савецкай тэрыторыі, яфрэйтар А. А. Завідаў першы дагнаў ворагаў і, уступіўшы ў адзінаборства, затрымаў іх да падыходу асноўнай групы праследавання. У 2 няроўных сутычках пагранічнік знішчыў некалькі бандытаў, але сам быў смяротна паранены. Яфрэйтар А. А. Завідаў у 1968 г. пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай Вайны 1-й ступені.

На магіле ў 1951 г. пастаўлены абеліск, на месцы гібелі — мемарыяльная дошка. Яго імем названы адна з застаў на заходняй граніцы, вуліцы ў г. Высокае, г. п. Дамачава Брэсцкай вобл. *Т. М. Ходцава.*



256. *Помнік землякам.*

**в. Лышчыцы, цэнтр сельсавета**

**264. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км ад вёскі, каля лесу. У 1942—44 гг. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 756 мірных жыхароў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**265. РАДЗІМА ЛЫШЧЫНСКАГА** Казіміра (гіст.).

Беларускі мысліцель, атэіст і матэрыяліст К. Лышчынскі нарадзіўся 4.3.1634 г. ў сям'і служылага шляхціца. Вучыўся ў езуіцкім калегіуме ў Брэсце, Кракаўскім ун-це, працаваў выкладчыкам. Сумненні ў існаванні бога ў юнака ўзніклі яшчэ ў час вучобы. Атэістычныя погляды з цягам часу сталі больш глыбокімі, і ён парваў з езуітамі. Лышчынскі вярнуўся ў родныя мясціны і выкладаў філасофію ў Брэсцкім калегіуме. У сакавіку 1682 г. на брэсцкім сейміку выбраны падсудкам земскага суда. Свае погляды на рэлігію, навакольны свет і тагачасныя парадкі выклаў у трактаце «Аб неіснаванні бога» (захаваліся фрагменты). Лічыў адзінай сапраўднай рэальнасцю матэрыяльную прыроду, а бога — фантастычным стварэннем чалавечага розуму, адмаўляў бессмяротнасць душы, сцвярджаў, што ў прыродзе ўсе змены адбываюцца не з боскай ласкі, а па законах развіцця матэрыі. К. Лышчынскі падышоў да патрабавання знішчэння прыгонніцтва і ўсталявання грамадства, заснаванага на грамадзянскіх свабодах. У 1687 г. па даносу браслаўскага стольніка, які выкраў частку трактата (15 сшыткаў), К. Лышчынскі быў зняволены. Больш за год цягнулася следства. 28.2.1689 г. сеймавы суд прыгаварыў абезгаловіць і спаліць атэіста на кастры. 30.3.1689 г. на плошчы Старога Мяста ў Варшаве адбылося пакаранне.

*Літ.*: Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избранные произведения XVI — начала XIX в.— Мн., 1962; История философии в СССР, Т. 1.— М., 1968; Идеи материализма и диалектики в Белоруссии: (дооктябрьский период).— Мн., 1980.

*С. Ф. Цярохін.*

**в. Ляплёўка,**
**Дамачаўскі пасялковы Савет**

**266. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 400 м на захад ад вёскі, каля дарогі Брэст — Тамашоўка.

23.9.1942 г. гітлераўцы вывезлі з Дамачаўскага дзіцячага дома за межы пасёлка 55 дзяцей, выхавальніцу П. Грахольскую і расстралялі іх. Удалося выратавацца толькі дзевяцігадовай Тасі Шахметавай. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Зводы, цэнтр сельсавета**

**267. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у грабовым лесе.

19 насыпаў сферычнай формы вышынёй 0,25—0,5 м, дыяметрам 3—5,5 м. Большасць курганоў абкладзена вялікімі валунамі. Абследавалі ў 1978 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1980 г. Т. М. Каробушкіна. У 1981 г. Каробушкіна даследавала 5 курганоў, 4 з іх былі выкладзены пад дзёрнам невялікімі камянямі і знадворку абкладзены валунамі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У 2 курганах двайныя пахаванні. Нябожчыкі ляжалі галавой на захад. У 2 курганах каля ног знойдзены пабітыя гаршкі з рыфленнем, зробленыя на ручным ганчарным крузе. Выяўлены свінцовыя паўтараабаротныя скроневыя кольцы (па 4 у пахаванні), бронзавае плоскае скроневае кольца дыяметрам 1 см (у дзіцячым пахаванні). Могільнік датуецца 11 ст. Верагодна, належаў дрыгавічам.




267. *Курганны могільнік. Схема плана.*

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Т. М. Каробушкіна.*

**268. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 43 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**269. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Сядзібны дом пабудаваны ў 1875 г. з цэглы (рэканструяваны ў 1971 г.). У 1890 г. паводле праекта В. Кроненберга дом акружаны пейзажным паркам плошчай каля 7 га. Цяпер у былой сядзібе размешчана школа-інтэрнат.

Пабудовы сядзібнага ансамбля — дом, карэтная, свіран — размешчаны па баках цэнтральнай алеі. Галоўны фасад дома адкрываецца ў бок уезду. Перад ім — вадаём. Г-падобны ў плане двухпавярховы дом фланкіраваны рознавялікімі рызалітамі, завершанымі дахам з выступам-скатам на фігурных кранштэйнах, і вылучаны ў цэнтры балконамі. Разнастайныя акон-



269. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



269. *Сядзіба.*



269. *Сядзіба. Гаспадарчая пабудова.*

ныя праёмы дэкарыраваны сандрыкамі. Цэнтральны ўваход вылучаны балконам на 4 канеліраваных пілонах. Дадатковыя ўваходы зроблены ў паўднёва-ўсходнім рызаліце і дваровым пяцігранным эркеры з вінтавой лесвіцай.

У аснову планіроўкі дома накладзены анфіладны прынцып узаемасувязі памяшканняў. Цэнтральнае месца належыць вестыбюлю з трохмаршавай лесвіцай, зале, гасцінным. У бакавым крыле знаходзілася кухня і сталовая. Другі паверх меў калідорную планіроўку, тут размяшчаліся жылыя пакоі. Аздоба інтэр'ера не захавалася.

Службовыя цагляныя пабудовы вырашаны ў простых формах. Аднапавярховая карэтная — прамавугольны ў плане аб'ём пад двухсхільным дахам з рытмічным чаргаваннем аконных праёмаў. Двухпавярховы свіран мае галерэю па фронту галоўнага фасада і рытм праёмаў з лапаткамі ў прасценках.

У архітэктуры сядзібы адчуваецца пошук будаўнікамі 19 ст. новых выразных сродкаў праз асваенне стыляў мінулага.

*Літ.:* Loza S. Architekci i budowniczowie w Polsce.— Warszawa, 1954.

*А. М. Кулагін.*

**в. Малыя Радванічы, Радваніцкі сельсавет**

**270. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**271. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Тут 27.10.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 35 членаў сем'яў ваеннаслужачых Чырвонай Арміі. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**272. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі. Тут у лістападзе 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі партызанскага разведчыка І. А. Гаўрылюка і членаў яго сям'і, а таксама сям'ю савецкага патрыёта П. Белавежа (усяго 7 чалавек). У 1965 г. на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Сухарэвічы, Лышчыцкі сельсавет**

**273. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1955 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Шчытнікі, Лышчыцкі сельсавет**

**274. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Кірганы. Да 1970 г. тут налічвалася больш за 10 курганоў, абкладзеных буйнымі камянямі. У 1970 г. камяні выкарысталі як будаўнічы матэрыял, курганы часткова зраўнялі. Засталіся 4 курганы. Вышыня 0,5—0,6 м, дыяметр — 6—7 м. Абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся. *Т. М. Каробушкіна.*



271. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**275. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У парку, на тэрыторыі колішняй сядзібы. Пабудавана ў 1742 г. з цэглы.

Прамавугольны выцягнуты па падоўжнай восі храм накрыты вальмавым дахам. Галоўны (усходні) фасад мае двух'ярусную кампазіцыю з гарызантальнымі і вертыкальнымі чляненнямі і ўвенчваецца франтонам з пінаклямі па баках. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе прамавугольнага ў плане тамбура з лучковым праёмам. Яго кампазіцыя нагадвае вырашэнне галоўнага фасада — франтон з фланкіруючымі слупамі. Сцены бакавых фасадаў расчлянёны пілястрамі і прарэзаны невысокімі лучковымі вокнамі. Інтэр'ер пазбаўлены пластычнага дэкору, за выключэннем 2 пілястраў абапал увахода і 2 лучковых ніш на алтарнай сцяне.

Архітэктура будынка мае рысы стылю барока. *С. Ф. Самбук.*

**в. Медна, Знаменскі сельсавет**

**276. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г.

На подступах да Заходняга Буга вораг аказаў моцнае супраціўленне. Вёску Медна гітлераўцы ператварылі ў апорны пункт, які прыкрываў Брэст з поўдня. Авалодаць вузлом абароны фашыстаў было даручана стралковаму палку 1-га Беларускага фронту. У полк прыбыў конны раз'езд партызан Брэсцкага злучэння, які даставіў звесткі пра абарону ворага і прапанаваў правесці воінаў ў тыл праціўніка. 21.7.1944 г. пасля кароткага артналёту падраздзяленні палка пачалі атаку. У гэты час батальён палка з групай партызан нанёс удар з тылу. У напружаным баі в. Медна была вызвалена, абарона ворага прарвана. Раніцай 22 ліпеня часці палка з ходу фарсіравалі Заходні Буг.

У 1951 на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].—3 изд.— Мн., 1977. *М. К. Кошалеў.*

**277. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны мірныя жыхары — ахвяры фашысцкага тэрору. 25.2.1943 г. фашысцкі карны атрад увараўся ў вёску. Фашысты сагналі ў хлеў 126 чалавек рознага ўзросту і расстралялі, вёску (212 двароў) спалілі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**278. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў канцы

18 ст. з дрэва. Адназрубны будынак з цыбулепадобнай галоўкай у цэнтры даху. Да асноўнага аб'ёму прылягаюць 2 прыбудовы — бакавы алтар і аднаярусная званіца. Помнік народнага дойлідства.

**в. Міхалін, Радваніцкі сельсавет**

**279. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Ва ўрочышчы Дуброва. Пахавана сям'я партызана Грудніка (5 чалавек), якая была расстраляна 2.10.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**280. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Ва ўрочышчы Дуброва. Пахаваны 13 мірных жыхароў, якіх 2.10.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Мухавец, цэнтр сельсавета**

**281. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км ад пасёлка, ва ўрочышчы Плянта. Пахаваны 8 чалавек — члены сем'яў ваеннаслужачых і мясцовыя жыхары, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**282. ПОМНІК БАГДАНЧУКУ** Сяргею Яўхімавічу (гіст., маст.). У скверы.

Актыўны дзеяч рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі С. Я. Багданчук (партыйны псеўданім Жэнька) нарадзіўся ў 1911 г. ў в. Касцяні Слонімскага р-на Гродзенскай вобл. ў сям'і чыгуначніка. З 16 гадоў звязаў сваё жыццё з вызваленчым рухам у Заходняй Беларусі. У 1927 г. выбраны сакратаром Слонімскага падпольнага акруговага камітэта КСМЗБ, з 1928 г. член КПЗБ. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні падпольных камсамольскіх арганізацый. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Па рашэнню ЦК КПЗБ накіраваны на вучобу ў СССР. Пасля сканчэння ў 1932 г. Камуністычнага універсітэта нацыянальных меншасцей Захаду імя Ю. Мархлеўскага ў Маскве вярнуўся ў Заходнюю Беларусь. З ліпеня 1932 г. сакратар Брэсцкага падпольнага акруговага камітэта КПЗБ. 4.4.1933 г. быў схоплены паліцыяй у в. Радванічы і пасля жорсткіх катаванняў забіты.

У 1970 г. па ініцыятыве і на сродкі камсамольцаў Брэсцкага р-на С. Я. Багданчуку пастаўлены помнік (скульпт. П. Данелія; бетон, мармуровая крошка; вышыня пастамента 2,8 м, бюста 0,7 м). Бюст устаноўлены на пастаменце прызматычнай формы, на якім высечаны надпіс-прысвячэнне. Да двухступеньчатага стылабата прымыкае гарызантальна пакладзены бетонны брус. Каля падножжа помніка — клумбы і дэкаратыўныя кусты.

*Літ.:* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966; Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все: Памятники и памятные места революционной и национально-освободительной борьбы трудящихся Западной Белоруссии.— Мн., 1979. *А. С. Барысавец, М. М. Казлоўская, Л. Г. Лапцэвіч.*



282. *Помнік С. Я. Багданчуку.*

**283. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры пасёлка. Пастаўлены ў 1976 г. на ўшанаванне памяці 164 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну (скульпт. Ю. Рычкоў, арх. Ю. Ціханаў; бетон з мармуровай крошкай; вышыня пастамента 1 м, скульптуры 8,6 м).

Помнік — архітэктурна-скульптурная кампазіцыя, ідэйна-мастацкім і пластычным цэнтрам якой з'яўляюцца гарэльефы 2 воінаў у рост. Яны нібы вырываюцца з каменнай глыбы, якая ўстаноўлена на пастаменце. Адзін з воінаў бясстрашна кідаецца ў атаку з аўтаматам у руках, другі, скошаны куляй, падае са сцягам у правай руцэ. Драматычны парыў, увасоблены ў пластычных вобразах гарэльефаў, падкрэслены абагульненай мадэліроўкай формы — сколатымі плоскасцямі, што ўтвараюць неспакойны рытм, кантрастамі святлаценю. Помнік завяршаецца прамавугольным блокам, на адной з граней якога, нібы на сцягу, высечаны серп і молат. Злева ад скульптуры — гарызантальная стэла з імёнамі загінуўшых і прысвячэннем. Яе замыкае масіўны блок з лічбамі: 1941—1945. Усю кампазіцыю аб'ядноўвае трохступеньчаты стылабат і выкладзеная квадратнымі плітамі пляцоўка. *Л. Г. Лапцэвіч.*



275. *Пакроўская царква. План.*



275. *Пакроўская царква.*




283. *Помнік землякам.*

**в. Неплі, Клейнікаўскі сельсавет**

**284. МЕСЦА ГІБЕЛІ ПАГРАНІЧНІКАЎ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. Тут 22.6.1941 г. пры ахове дзяржаўнай граніцы СССР загінулі начальнік заставы М. І. Авілаў і 13 пагранічнікаў. У 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Орхава, Тамашоўскі сельсавет**

**285. ПОМНІК ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Аляксандраўка. На ўшанаванне памяці пагранічнікаў, якія 22.6.1941 г. праявілі мужнасць і гераізм у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Падлессе Радваніцкае, Мухавецкі сельсавет**

**286. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсход ад вёскі, каля лесу. Пахаваны 52 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Покры, Чарнаўчыцкі сельсавет**

**287. ГАРАДЗІШЧА, МОГІЛЬНІКІ** (археал.). Размешчаны за 2 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Лясная, на астраўку паміж яе рэчышчам і старыцай.



287. *Гарадзішча.*

**287а.** Гарадзішча. Выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Глыбокая ўпадзіна дзеліць яго на 2 часткі: паўднёва-заходнюю, амаль авальную ў плане, і паўднёва-ўсходнюю — доўгую, вузкую. Даўжыня гарадзішча 250 м, шырыня ў паўднёва-заходняй часцы 65 м, у паўднёва-ўсходняй — 35 м. Вышыня над узроўнем поплава ракі на паўднёвым усходзе — 3,5 м. Калісьці гарадзішча было абнесена ровам, сляды якога захаваліся і цяпер. Даследавалі І. А. Іофэ (1955 г.), І. В. Біруля (1959 г.), Ю. У. Кухарэнка (1966 г.), Т. М. Каробушкіна (1980 г.). У культурным пласце магутнасцю 0,4—1,2 м знойдзена шмат фрагментаў ганчарнага посуду. Датуецца 10—14 ст.

**287б.** Курганны могільнік. Знаходзіцца ў паўночна-заходняй частцы астраўка. 2 насыпы з камнем пакрыццём. Вышыня 0,5 м, дыяметр 3—4 м. Адзін з курганоў раскапаў І. В. Біруля ў 1959 г. Выяўлены пахаванні з абрадам трупаспалення. Датуецца 11—13 ст.

**287в.** Грунтавы могільнік. Размешчаны ў паўднёва-ўсходняй частцы гарадзішча, каля курганнага могільніка. Даследавалі І. А. Іофэ (1955 г.), Ю. У. Кухарэнка (1966 г.), Т. М. Каробушкіна (1981 г.). Знойдзены 11 пахаванняў з абрадам трупапалажэння. Амаль у цэнтры раскопу стаяў гліняны гаршчок, зроблены на ганчарным крузе. Вакол яго было 5 пахаванняў. Нябожчыкі ляжалі ў вузкіх прамавугольных ямах галовамі на захад. Глыбіня ям 0,6—0,7 м ад узроўню сучаснай паверхні. Поўнасцю раскапана пахаванне № 3. У ім нябожчык ляжаў на спіне. Каля яго ног быў чэрап другога дарослага чалавека. Тут знойдзены 4 жалезныя цвікі. Могільнік датуецца 11—12 ст. Аналагічных пахавальных абрадаў не выяўлена. Этнічная прыналежнасць помніка не ўстаноўлена.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Древньоруське городище Покри.— У кн.: Слов'яно-руські старожитності. Київ, 1969.

*В. Б. Караткевіч.*

**288. МАГІЛА ТРОМЗЫ** Дзмітрыя Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Сакратар Чарнаўчыцкага райкома КПЗБ Дз. М. Тромза загінуў у верасні 1939 г. пры вызваленні Заходняй Беларусі. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**289. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На поўнач ад вёскі. Пабудавана ў 1739 г. з дрэва, часткова перабудавана ў 19 ст.

Крыжападобны ў плане будынак з пяціграннай апсідай накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі двухсхільнымі дахамі, якія ўтвараюць франтоны на галоўным і бакавым фасадах. Сяродкрыжжа завершана фігурнай вежачкай. Да апсіды прылягаюць 2 маленькія рызніцы. З захаду да царквы прыбудавана двух'ярусная званіца



289. *Пакроўская царква. План.*



289. *Пакроўская царква.*

(васьмярык на чацверыку), накрытая васьміграпным шатровым дахам. Сцены будынка вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вуглы апрацаваны драўлянымі разнымі накладкамі. Асноўнае зальнае памяшканне з бэлечнай столлю аддзелена ад алтара разным іканастасам. Хоры ў верхняй частцы бабінца апіраюцца на 2 калонкі.

Царква — узор драўлянай пабудовы цэнтрычнай кампазіцыі, у архітэктуры якой адзначаюцца асобныя рысы барока. *С. Ф. Самбук.*

**в. Прыбарава, Тамашоўскі сельсавет**

**290. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 18 пагранічнікаў, якія загінулі 22.6.1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле ўстаноўлена стэла.

**291. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана сям'я Карпюкоў (5 чалавек), расстраляная нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**292. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызан, які загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**293. ПОМНІК ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі. На ўшанаванне памяці 2 пагранічнікаў, якія 22.6.1941 г. знішчылі на гэтым месцы 13 нямецка-фашысцкіх акупантаў і самі загінулі, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**294. СТАЯНКІ** (археал.).

**294а.** С т а я н к а  П р ы б а р а в а - 1. За 3 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Гарынец, на невялікім пясчаным узгорку сярод даліны Заходняга Буга. Выявіў М. Ф. Беляшэўскі ў 1898 г. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, нажы, вастры, большай часткай мікралітычныя, а таксама абломкі гліпянага посуду. Стаянка адносіцца да неаліту і, магчыма, больш ранняга часу (5—3-е тысячагоддзі да н. э.).

**294б.** С т а я н к а  П р ы б а р а в а - 2. За 3 км на поўнач ад вёскі на пясчаных узгорках, сярод поплаўных балот, ва ўрочышчах Крынічка, Падзамікны, Плошча. Выявіў і даследаваў у 1898 г. М. Ф. Беляшэўскі. Знойдзены нешматлікія крамянёвыя прылады працы і абломкі посуду эпохі неаліту і бронзавага веку (3—2-е тысячагоддзі да н. э.).

*Літ.:* Б е л я ш е в с к и й  Н. Ф. Дюнные стоянки неолитической эпохи на берегах р. Западного Буга в среднем его течении.— У кн.: Труды одиннадцатого Археологического съезда в Киеве. 1899. М., 1901, т. 1. *У. Ф. Ісаенка.*




**294.** *Рэчы са стаянкі: 1, 2 — гліняны посуд; 3 — наканечнікі стрэл.*

**в. Прылукі, Гершонскі сельсавет**

**295. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 6 пагранічнікаў, якія загінулі 22.6.1941 г. пры ахове дзяржаўнай граніц СССР, і 7 мірных жыхароў вёскі, што былі закатаваны і кінуты ў калодзеж нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў лютым 1942 г. У 1975 г. на магіле з левага боку пастаўлена стэла з каскай наверсе, з правага — сімвалічны бетонны зруб калодзежа.

**296. СТАЯНКА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, на пясчаным узгорку на правым беразе р. Заходні Буг. Выявіў і даследаваў у 1898 г. М. Ф. Беляшэўскі. Даўжыня помніка каля 300 м. Культурны пласт месцамі выходзіць на паверхню. Знойдзена больш за 100 крамянёвых прылад: трохвугольныя з выемкай на аснове, тронкавыя, трапецападобныя наканечнікі стрэл, пілка, нажы, вастры. Сабраны абломкі посуду неалітычнай эпохі, 2 гаршкі тшцінецкай культуры (знойдзены ў разбураных пахаваннях перыяду сярэдняй бронзы). Стаянка належыць да эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н. э.), неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н. э.), сярэдняй бронзы (1600—1200 г. да н. э.).

*Літ.:* Б е л я ш е в с к и й  Н. Ф. Дюнные стоянки неолитической эпохи на берегах р. Западного Буга в среднем его течении.— У кн.: Труды одиннадцатого Археологического съезда в Киеве. 1899. М., 1901, т. 1. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Рагозна, Знаменскі сельсавет**

**297. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 лётчыкаў, якія загінулі ў баі, 44 партызаны і жыхары в. Рагозна, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Скокі, Матыкальскі сельсавет**

**298. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 50 воінаў, якія загінулі ў лютым 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**299. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 16 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**300. СЯДЗІБА НЯМЦЭВІЧАЎ** (гіст., архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 18 ст. (цяпер размешчана школа-інтэрнат).

Тут 16.2.1757 г. (паводле некаторых крыніц 1758 г.) нарадзіўся польскі пісьменнік і публіцыст Юльян Урсын Нямцэвіч. У 1777 г. скончыў Варшаўскі кадэцкі корпус. Быў ад'ютантам Т. Касцюшкі ў час паўстання 1794 г. У бітве з царскімі войскамі пад Мацяёвіцамі паранены, трапіў у палон і зняволены на 2 гады ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Пасля вызвалення ў 1796 г. выехаў з Т. Касцюшкам у



**300.** *Сядзіба Нямцэвічаў. Схема планіроўкі.*



**300.** *Алея ў парку сядзібы Нямцэвічаў.*



300. *Сядзібны дом Нямцэвічаў. Галоўны фасад.*



300. *Сядзібны дом Нямцэвічаў. План 1-га паверха.*

ЗША, дзе зблізіўся з Дж. Вашынгтонам. У 1802 г. вярнуўся на радзіму. З 1827 г. старшыня Варшаўскага таварыства сяброў навук. Удзельнік паўстання 1830—31 гг. Пасля паражэння паўстання жыў у Парыжы. Памёр 21.5.1841 г.

Ю. У. Нямцэвіч выступаў за развіццё асветы, правядзенне буржуазна-дэмакратычных рэформ. У палітычнай камедыі «Вяртанне пасла» (1790 г.) заклікаў да вызвалення сялян ад прыгону. Пісаў сатыры на феадальныя парадкі, байкі, раманы, аповесці, паэмы, трагедыі і інш. Аўтар раманаў «Два паны Сяцехі» (1815 г.), «Ян з Тэнчына» (1825 г.), паэтычнай нізкі «Гістарычныя песні» (1816 г.). Добра ведаў Беларусь, цікавіўся яе гістарычнымі помнікамі. Свае ўражанні аб ёй выказаў у «Гістарычных падарожжах па польскіх землях, якія адбыліся ад 1811 да 1828 гг.».

Планіроўка сядзібна-паркавага ансамбля мае сіметрычна-восевую кампазіцыю, у цэнтры якой — двухпавярховы палац. Аднапавярховыя бакавыя флігелі (не захаваліся) стваралі перад галоўным фасадам дома курданёр, які замыкаўся з супрацьлеглага боку агароджай з варотамі. За палацам — парк рэгулярнага тыпу планіроўкі з цэнтральнай алеяй, якая выходзіць да ручая. Драўляны касцёл-пахавальня не захаваўся. Палац — прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак з бакавымі прыбудовамі. Мае характэрную для архітэктуры барока аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Асноўны аб'ём будынка накрыты высокім дахам з заломам. Цэнтральныя ўваходы ў дом з галоўнага і паркавага фасадаў акцэнтаваны вынаснымі балконамі на слупах. Плоскасна трактаваныя фасады дома маюць рэгулярны рытм прамавугольных акон і згрупаваныя ў цэнтры лапаткі. Цэнтральнае месца ў планіроўцы дома займае вестыбюль і вялікая зала з выхадам у парк. Планіроўка на ўсіх паверхах была анфіладная.

Сядзібна-паркавы ансамбль — тыповы ўзор архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

*Літ.*: Czartoryski A. Żywot J. U. Niemcewicza.— Paryż, 1860.

*А. М. Кулагін, А. І. Мальдзіс.*

**в. Страдзеч, Гершонскі сельсавет**

**301. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 73 воіны 160-й стралковай Чырванасцяжнай дывізіі (пазней прысвоена найменне «Брэсцкая»), якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Міхаіл Яфімавіч Аляксандраў.

М. Я. Аляксандраў нарадзіўся 14.9.1919 г. ў в. Галееўка Пачынкаўскага р-на Смаленскай вобл. ў сялянскай сям'і. На фронце з мая 1942 г. Вызначыўся пры фарсіраванні Заходняга Буга. 22.7.1944 г. яфрэйтар М. Я. Аляксандраў адзін з першых пераправіўся цераз Заходні Буг, захапіў плацдарм, кулямётным агнём адбіў некалькі атак праціўніка і ўтрымаў плацдарм. Загінуў 15.8.1944 г. пры вызваленні Польшчы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.*: Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. А. Слесарук.*

**302. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 86 савецкіх грамадзян, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі восенню 1943 г. Вёска (280 двароў) была спалена. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**303. МАГІЛА МАРКІНА** Мікалая Пятровіча (гіст.). На могілках. Малодшы сяржант М. П. Маркін загінуў у баі 22.7.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**304. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). Да Вялікай Айчыннай вайны на захад ад вёскі размяшчалася 13-я пагранзастава. 22. 6.1941 г. тут гераічна абаранялі дзяржаўную граніцу СССР воіны-пагранічнікі на чале з начальнікам заставы лейтэнантам П. М. Шчогалевым. У 1968 г. на ўшанаванне іх памяці на адміністрацыйным будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**305. МЕСЦА ГІБЕЛІ ПАГРАНІЧНІКАЎ** (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі. 22.6.1941 г. пры ахове дзяржаўнай граніцы СССР тут загінулі 16 воінаўпагранічнікаў на чале з начальнікам заставы лейтэнантам П. М. Шчогалевым. У 1974 г. пастаўлена стэла.

**306. МЕСЦА ПОДЗВІГУ АЛЯКСАНДРАВА** Міхаіла Яфімавіча (гіст.). За 3,5 км на захад ад вёскі. Тут 22—23.7. 1944 г. здзейсніў подзвіг яфрэйтар

М. Я. Аляксандраў. У час наступлення савецкіх войск ён адзін з першых пераправіўся цераз Заходні Буг, захапіў плацдарм і забяспечыў пераправу байцоў, за што яму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. У 1974 г. пастаўлены абеліск.

**307. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 27 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1960 г. ўстаноўлены скульптура воіна і 2 стэлы.

**308. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Суботын, на пясчаным узгорку. Выявіў і даследаваў у 1898 г. М. Ф. Беляшэўскі. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, нажы, вастрыі, абломкі глінянага ляпнога посуду. Помнік эпохі позняга неаліту і перыяду сярэдняй бронзы.

**в. Сычы, Лышчыцкі сельсавет**

**309. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На ўскраіне вёскі ў пейзажным парку (захаваўся часткова). Пабудаваны на мяжы 19—20 ст. з дрэва. Аднапавярховы будынак з мансардавым паверхам мае асіметрычную кампазіцыю, накрыты вальмавым дахам з паўвальмамі на тарцах. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана двухпавярховым рызалітам, завершаным трохвугольным франтонам. На дваровым фасадзе на 2-м паверсе рызаліта балкон. Унутраная планіроўка анфіладнага тыпу. У цэнтральнай частцы на 1-м паверсе 2 парадныя залы.

Помнік сядзібнай драўлянай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**310. ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Уяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём, да якога далучаецца трох'ярусная квадратная ў плане званіца, накрытая невысокім шатровым дахам.

**в. Тамашоўка, цэнтр сельсавета**

**311. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАГРАНІЧНІКАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

Пахаваны 22 пагранічнікі, якія загінулі ў баі 22.6.1941 г. пры абароне дзяржаўнай граніцы СССР,— лейтэнант В. В. Кірухін, малодшы сяржант А. В. Філатаў і 20 радавых. У першы дзень вайны на світанні батальён гітлераўцаў пад прыкрыццём артылерыйскага агню пачаў пераправу цераз Заходні Буг у раёне в. Уладава. У пачатку бою загінуў начальнік 5-й рэзервовай заставы лейтэнант Кірухін. Пасля шэрагу беспаспяховых атак фашысты стварылі дымавую заслону і зноў рынуліся на пазіцыі пагранічнікаў. Сакратар камсамольскай арганізацыі А. В. Філатаў з ручнога кулямёта паліваў агнём варожыя ланцугі. Калі ён загінуў, яго месца заняў радавы Ф. М. Ермакоў. Бой ішоў 11 гадзін.

За мужнасць і адвагу 6 пагранічнікаў, удзельнікаў гэтага бою, былі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга і 2 — ордэнам Чырвонай Зоркі.

У 1969 г. на магіле ўстаноўлена стэла (скульпт. І. Хоміч і В. Андрушчанка). *Т. М. Ходцава.*



311. *Помнік на брацкай магіле савецкіх пагранічнікаў.*

**312. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля шашы Брэст — Уладава (за 2 км ад павароту на в. Тамашоўка). Пахавана 2200 мірных жыхароў.

Летам 1942 г. ў Тамашоўцы нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі гета. На тэрыторыі каля 1,5 км² знаходзілася больш за 2 тыс. чалавек. У канцы ліпеня 1942 г. фашысты пачалі масавае знішчэнне вязняў гета. Іх вывозілі за вёску. Адных атручвалі ў душагубках, другіх расстрэльвалі каля загадзя выкапаных ям.

У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**313. МАГІЛА БАЛБЕРАВА** (гіст.). На могілках. Пагранічнік Балбераў расстраляны ў 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**314. МОГІЛКІ САЛДАТ 1-й СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1262 магілах (у т. л. 12 брацкіх) пахаваны 1346 салдат рускай арміі і арміі кайзераўскай Германіі, якія загінулі ў баях у 1915—16 гг. Могілкі ўпарадкаваны на сродкі Міжнароднага Чырвонага Крыжа ў 1919 г.

**в. Харсы, Тамашоўскі сельсавет**

**315. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 19 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялі-



309. *Сядзібны дом. План.*



309. *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*



319. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

кую Айчынную вайну, у 1957 г. ўстаноўлена стэла.

**в. Харытоны, Чэрнінскі сельсавет**

**316. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Ш в е д с к і я м а г і л ы. За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на могілках. 7 круглых, пакрытых дзірваном пясчаных насыпаў. Вышыня 0,6—0,8, дыяметр 5—7 м. Адкрыла і абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Церабунь,**
**Клейнікаўскі сельсавет**

**317. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). На захад ад вёскі да Вялікай Айчыннай вайны размяшчалася 6-я пагранічная застава. 22.6.1941 г. воіны-пагранічнікі праявілі мужнасць і гераізм у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на ўшанаванне іх памяці на будынку былой заставы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**318. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Краіна Саветаў». На ўшанаванне памяці 51 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. ўстаноўлена стэла.

**в. Чарнаўчыцы, цэнтр сельсавета**

**319. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 416 воінаў і партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных Герой Савецкага Саюза Васіль Іванавіч Загароднеў.

В. І. З а г а р о д н е ў нарадзіўся 29.12.1919 г. ў в. Лох Новабураскага р-на Саратаўскай вобл. Член КПСС з 1943 г. На фронце з 1942 г. Падраздзяленне гвардыі капітана В. І. Загароднева атрымала загад пераправіцца цераз Заходні Буг і перарэзаць шашу каля в. Зачэпкі (ПНР). Нягледзячы на бесперапынныя атакі ворага, гвардзейцы ўтрымлівалі занятыя пазіцыі да падыходу асноўных сіл. У гэтай аперацыі 29.7.1944 г. В. І. Загароднеў загінуў. 24.3.1945 г. яму прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Яго імем названы вуліцы ў Брэсце і Саратаве.

У 1945 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата з вінтоўкай у руцэ.

Побач пахаваны старшыня калгаса «Іскра» І. А. Крупскі (1885—1949 гг.), якога забілі ворагі Савецкай улады.

*Літ.*: В памяти народной.— Мн., 1969.

*А. С. Барысавец.*

**320. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 23.6.1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі групу мірных жыхароў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**321. ТРОІЦКІ КАСЦЕЛ** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі. Галоўным заходнім фасадам выходзіць на шашу Брэст — Камянец. Пабудаваны ў 1583 г. (па іншых звестках у 1585 г.) з каменю. На паўночным захадзе ад касцёла на высокім цокалі стаіць трох'ярусная званіца з шатровым дахам.

Будынак — аднанефавы бяскупальны храм з трансептам. Неф, трансепт і аднолькавая з ім па вышыні паўкруглая апсіда накрыты высокім дахам, які ўступам пераходзіць у паўшатровае завяршэнне апсіды. Да крылаў трансепта і бакоў апсіды прылягаюць больш нізкія прыбудовы з аднасхільнымі дахамі, якія ствараюць паступовае нарошчванне аб'ёмаў і надаюць кампазіцыі мастацкую выразнасць. З паўднёвага боку да апсіды прымыкае цыліндрычная вежа з самастойным шатровым пакрыццем і вінтавой лесвіцай унутры. Да галоўнага фасада прыбудаваны ўваходны тамбур. У дэкаратыўным вырашэнні галоўнага (заходняга) фасада — асобныя элементы рэнесансу: плоскія прамавугольныя і круглыя нішы, прафіляваны карніз, вертыкальныя цягі. Атынкаваныя масіўныя сцены бакавых фасадаў (таўшчыня сцен 1,3 м) умацаваны контрфорсамі, прарэзаны



321. *Троіцкі касцёл. План.*



321. *Троіцкі касцёл. Разрэз.*



321. *Званіца Троіцкага касцёла.*



321. *Троіцкі касцёл. Бакавы фасад.*

вузкімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Цыліндрычнае скляпенне на распалубках аздоблена ляпнымі нервюрамі геаметрычнага малюнка — матыў архітэктуры рэнесансу. Сцены апрацаваны пілястрамі. У інтэр'еры 3 барочныя драўляныя паліхромныя



321. *Фрагмент скляпення Троіцкага касцёла.*

скульптуры 18 ст.: 1 у алтары, 2 у нішах галоўнага фасада. На паверхні скульптур захаваліся сляды афарбоўкі залаціста-карычневых і чырвоных таноў.

Касцёл — унікальны помнік беларускай архітэктуры з элементамі готыкі і рэнесансу, мае выразныя рысы абарончага дойлідства сярэднявечча.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Дооктябрьский период.— Мн., 1969.

*Л. Г. Лапцэвіч, У. А. Чантурыя.*

**322. ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля шашы Брэст — Камянец. Пабудавана да 1733 г. з дрэва, перабудоўвалася ў 19 ст.

Будынак крыжападобны ў плане. Да галоўнага, выцягнутага ў папярочным напрамку зруба з захаду прылягае прамавугольны зруб бабінца, з усходу — пяцігранная апсіда з 2 бакоўкамі. Дах паўтарае крыжовы план збудавання. Перасячэнне грабянёў даху завершана двух'яруснай вежачкай. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны брусамі і прарэзаны спаранымі прамавугольнымі вокнамі. Вуглы бабінца апрацаваны драўляным рустам. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае з падшыўной столлю. У верхняй частцы бабінца размешчаны хоры. Асноўнае памяшканне ад алтара аддзяляе разны іканастас канца 19 ст.

Царква — помнік архітэктуры пераходнага тыпу ад трохзрубнай восевай кампазіцыі да крыжова-цэнтрычнай, якая склалася пад уплывам традыцый народнага дойлідства і стылю барока.

*С. Ф. Самбук.*

**в. Чэрні, цэнтр сельсавета**

**323. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 263 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёсак Бярозаўка, Збірагі, Малыя Косічы, Чэрні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**324. МАГІЛА САВАНЕЎСКАГА** Аляксандра Паўлавіча (гіст.). На могілках.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі А. П. Саванеўскі нарадзіўся 13.3.1904 г. ў в. Дзяменічы Брэсцкага р-на. Член КПЗБ з 1923 г. 20.2.1927 г. арганізаваў у в. Булькова Брэсцкага р-на дэманстрацыю. Арыштаваны 29.8.1927 г. Пінскім акруговым судом прыгавораны за прыналежнасць да КПЗБ на 4 гады зняволення. Знаходзячыся ў кобрынскай турме, арганізаваў мітынг палітвязняў, за што тэрмін пакарання быў павялічаны яшчэ на год. Пасля вызвалення з турмы з канца лістапада 1931 г. да 13.12. 1932 г. А. П. Саванеўскі (псеўданім



322. *Царква Параскевы Пятніцы. План.*



322. *Царква Параскевы Пятніцы. Агульны выгляд.*



326. *Званіца Міхайлаўскай царквы.*

К о л ь к а) быў сакратаром Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ. 7.12.1932 г. за рэвалюцыйную дзейнасць зноў быў зняволены на 4 гады і пазбаўлены правоў на 5 гадоў. 3.1.1936 г. па амністыі выйшаў з турмы. Памёр у 1941 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. В. Семянюк.*

**в. Чэрск,**
**Дамачаўскі пасялковы Савет**

**325. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 51 воін, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**326. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудавана да 1701 г. з дрэва.

Першапачаткова будынак царквы складаўся з квадратнага ў плане асноўнага і пяціграннага алтарнага зрубаў, накрытых агульным вальмавым дахам. Вяршыні вальмаў і гранёнага пакрыцця апсіды завершаны з бакоў фігурнымі барочнымі вежачкамі. У 19 ст. да царквы з захаду прыбудаваны квадратны ў плане бабінец. Унутры асноўны зруб мае скляпеністае корабавае перакрыцце, астатнія — бэлечнае з падшыўной столлю. У інтэр'еры — разны іканастас і творы іканапісу 17—18 ст.



326. *Разрэз званіцы Міхайлаўскай царквы.*



326. *Міхайлаўская царква. План.*

Асобна ад царквы стаіць трох'ярусная званіца. Першы і трэці ярусы — чацверыкі, другі — неразвіты прамежкавы ярус, дзве бакавыя грані якога захоўваюць характар прычолкаў, а дзве другія на ўсходнім і заходнім фасадах маюць вертыкальныя плоскасці, афармленыя арачнымі праёмамі.

Царква — помнік архітэктуры, які адлюстроўвае характэрныя рысы палескай школы драўлянага дойлідства.

*С. Ф. Самбук.*





327. *Праабражэнская царква. Падоўжны разрэз і план.*



327. *Праабражэнская царква. Выгляд з боку апсіды.*




328. *Стаянка каменнага веку. План.*



330. *Прачысценская царква. План.*



330. *Прачысценская царква і званіца.*

**в. Шумакі, Клейнікаўскі сельсавет**

**327. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На захад ад вёскі, на левым беразе р. Лясная. Пабудавана ў 1609 г. з цэглы.

Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём і паўцыркульная апсіда накрыты агульным двухсхільным дахам, які пераходзіць над апсідай у трохграннае пакрыцце. Пасярэдзіне даху — невялікі васьміграння барабан з купалам. З захаду да асноўнага аб'ёму прылягае больш нізкі прамавугольны ў плане бабінец, накрыты двухсхільным дахам. Раней над бабінцам узвышалася званіца. Пакрыцці ўсіх аб'ёмаў зменены. Сцены завершаны прафіляваным карнізам з валікам па перыметры пабудовы. Аконныя праёмы разнастайных форм: круглыя, са стральчатым і лучковым завяршэннямі. Акно па апсідзе мае каляровы вітраж у выглядзе крыжа. Унутры асноўнае зальнае памяшканне перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. У інтэр'еры — разныя царскія вароты, выкананыя ў стылі барока, і помнікі іканапісу 18 ст.

Царква — прыклад мураванага храма, на мастацкае аблічча якога зрабіла ўплыў архітэктура готыкі і рэнесансу.

*А. Я. Міцянін*

**328. СТАЯНКА** (археал.). За 2,5—3 км на паўночны захад ад вёскі, на паверхні марэннага пагорка — карэннага берага Заходняга Буга, ва ўрочышчы Калоднае. Адкрыў і даследаваў у 1920 г. З. Шміт. Даўжыня ўздоўж берага ракі больш як 300 м. Сярод знаходак шмат прылад працы, зробленых з крамянёвых пласцін. Помнік адносіцца да мезаліту. Матэрыялы зберагаюцца ў археалагічным музеі ў Варшаве.

*Літ.*: Szmit Z. Badania osadnictwa epoki kamiennej na Podlasiu.— У кн.: Wiadomości Archeologiczne. Warszawa, 1929, t. 10.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Шэбрын, Тэльмінскі сельсавет**

**329. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Мухавец, у лесе. 12 паўсферычных пясчаных насыпаў вышынёй 0,6—1,2 м, дыяметрам 4—6 м. Вядомы з канца 19 ст. Два курганы даследавала ў 1982 г. Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены перапаленыя рэшткі дрэва, кальцыніраваныя косці чалавека, рэшткі ляпнога гліпянага посуду. Датуецца 8—10 ст.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**330. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На галоўнай вуліцы, за 2 км ад шашы Брэст — Мінск. Пабудавана ў 1793 г. з цэглы.

Невялікі прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Алтарная частка ўтворана двух'яруснымі рызніцамі. У архітэктуры выкарыстаны плоскія лапаткі, лучковыя вокны, плоскія прамавугольныя нішы. Побач з царквой размешчана квадратная ў плане мураваная званіца, накрытая вальмавым дахам.

Царква — прыклад мясцовай трактоўкі архітэктурных форм барока.

*С. Ф. Самбук.*




# БЯРОЗАЎСКІ РАЁН

Сялец
Нарутавічы
Осаўцы
БЯРОЗА
Сакалова
Першамайская
Старыя Пескі
Малеч
Угляны
Стрыгінь
Белаазерск
Здзітава
Падкраічы
Раваціцы
Сігневічы
Здзітава
Спорава
Горск
Высокае
Вялікае Міжлессе
Боркі

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні савецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчынай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## 111. БЯРОЗА

Горад (да 1940 г. Бяроза-Картузская, Картуз-Бяроза), цэнтр раёна. Размешчана на р. Ясельда, на раўніннай мясцовасці з невялікім паніжэннем у бок р. Крэчат. За 102 км на паўночны ўсход ад Брэста, на шашы Брэст — Мінск, за 6 км ад чыгуначнай станцыі Бяроза-Картузская на лініі Брэст — Мінск.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1477 г. як вёска Сялецкай воласці Слонімскага, з 1521 г.— Кобрынскага паветаў Вялікага княства Літоўскага. Належала феадалам Гамшэям, Вештартовічам, Гастоўскім, Рудзінскім, з канца 16 ст.— Сапегам. З 1629 г. мястэчка. У 1648—89 гг. тут пабудаваны кляштар ордэна картэзіянцаў, які валодаў значным зямельным надзелам, 800 сялянскімі дварамі і з'яўляўся асноўным горадабудаўнічым ядром Бярозы. У Паўночную вайну 1700—21 гг. шведскія войскі на чале з Карлам XII авалодалі Бярозай і разбурылі яе. З 1795 г. (пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай) Бяроза ў складзе Расіі — мястэчка Пружанскага павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў.



111. *Плошча Леніна.*

Уз'яднанне з Расіяй садзейнічала развіццю гандлю і прамысловасці. У 1-й палавіне 19 ст. тут штогод адбывалася 8 кірмашоў, налічвалася 36 дробных гандлёвых крам, працавалі 2 гарбарныя і суконная мануфактуры з 12 рабочымі (1833 г.). Гарбарныя прадпрыемствы выраблялі да 2500 скур у год, суконная мануфактура — каля 10 тыс. аршынаў сукна (1830 г.). У 1833 г. ў Бярозе больш за 200 драўляных дамоў, 1,2 тыс. жыхароў.

Хуткі рост мястэчка пачаўся з 1870-х гадоў у сувязі з будаўніцтвам Маскоўска-Брэсцкай чыгункі і адкрыццём у 1871 г. руху на ўчастку Смаленск — Брэст. Паводле перапісу 1897 г. ў Бярозе было 6226 жыхароў, 5 цагляных і 1070 драўляных будынкаў (у т. л. 630 жылых), мужчынскае і жаночае народныя вучылішчы, фельчарскі пункт, аптэка. У прамысловасці пераважалі дробныя прадпрыемствы рамеснага тыпу. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны іх было 19 з 65 рабочымі, самыя значныя: гарбарны завод (у 1914 г.— 7 рабочых), 2 лесапільныя (14 рабочых) і завод па ачыстцы мелу (8 рабочых).

З 1915 г. Бяроза акупіравана нямецкімі войскамі, з 1919 г. да ліпеня 1920 г. і з жніўня 1920 г.— войскамі буржуазнай Польшчы. У ліпені 1920 г. ўстаноўлена Савецкая ўлада. З 1921 г.— у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка Пружанскага павета Палескага ваяводства. Тут дзейнічаў падпольны райком КПЗБ. У 1934 г. ўрад буржуазнай Польшчы

111. *Забудова вуліцы Савецкай.*

стварыў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер.

З 1939 г. Бяроза ў складзе БССР, 5 тыс. жыхароў. З 1940 г. цэнтр раёна.

У Вялікую Айчынную вайну з 23.6.1941 г. да 16.7.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (снежань 1943 г.— 12.7.1944 г.), ЛКСМБ (1.9.1943 г.— 12.7.1944 г.), з студзеня 1944 г. выдавалася падпольная газета «Пламя». У 1959 г. ў Бярозе 5,6 тыс. жыхароў.

У канцы 1950-х гадоў распрацаваны першы пасляваенны генеральны план забудовы горада. У 1974 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва распрацаваны новы генеральны план, паводле якога архітэктурна-планіровачная структура горада ўдасканальваецца з улікам гістарычна складзенай магістральна-вулічнай сеткі з 2 узаемна перпендыкулярнымі восямі — вуліцамі Леніна і 17 Верасня. Сялібная зона развіваецца ў існуючых гарадскіх межах. Ажыццяўляецца добраўпарадкаванне вуліц горада, замена драўлянай аднапавярховай забудовы сучаснай шматпавярховай. Галоўныя магістралі (вуліцы Леніна і Савецкая) забудаваны 3—5-павярховымі дамамі. Грамадска-адміністрацыйны цэнтр горада — пл. Леніна — фарміруюць будынкі гарвыканкома, універмага і рэстарана. Перад будынкам гарвыканкома пастаўлены помнік У. І. Леніну. У цэнтральнай частцы горада разбіты сквер, у якім на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан пастаўлены помнік і запалены Вечны агонь.

Прамысловыя прадпрыемствы: заводы жалезабетонных вырабаў і маторарамонтны, вытворчае металаапрацоўчае аб'яднанне, камбінаты сельскі домабудаўнічы, будаўнічых матэрыялаў, Новабярозаўскі вапнавы завод (в. Самойлавічы), масласырзавод, мясакансервавы камбінат, хлебазавод, завод «Ветсанутыль» (вытворчасць касцявой мукі, кармавых тлушчаў і інш.), вытворчы ўчастак Пінскага вінзавода. Працуюць камбінат бытавога абслугоўвання, аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі.

У горадзе сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў, 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат, Дом піянераў і школьнікаў, 7 дашкольных устаноў, 2 бібліятэкі, гісторыка-рэвалюцыйны музей, бальніца і паліклініка. Выдаецца раённая газета «Маяк коммунизма».

Захаваліся помнікі архітэктуры — кляштар картэзіянцаў (17 ст.) і Петрапаўлаўская царква (18 ст.). Пастаўлены абеліск вязням Бяроза-Картузскага канцэнтрацыйнага лагера, помнік савецкім лётчыкам.

Зона адпачынку знаходзіцца на беразе р. Ясельда.

*Літ.:* Селеня Е. В., Сикорин Н. Д. Береза.— Мн., 1977; Rewieńska W. Bereza Kartuska, wybrane rozdziały z antropogeografji miasteczka.— Wilno, 1934.

*А. А. Міцянін, Э. М. Савіцкі, М. Дз. Сікорын.*

**331. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У Камсамольскім скверы, насупраць Дома культуры. Пахаваны 368 воінаў і партызан. Сярод іх — воіны, якія загінулі ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны, і воіны 20-га стралковага корпуса 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні г. Бярозы ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1953 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна на высокім пастаменце. На 21 мармуровай пліце высечаны імёны пахаваных. Перад помнікам запалены Вечны агонь.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974.

*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**332. БЯРОЗА-КАРТУЗСКІ КАНЦЭНТРАЦЫЙНЫ ЛАГЕР** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада.

Створаны ўрадам буржуазнай Польшчы 17.6.1934 г. для ізаляцыі камуністаў, камсамольцаў і левых элементаў. Размяшчаўся ў колішніх ваенных казармах. Сюды знявольвалі без суда і следства, на падставе даносаў мясцовай адміністрацыі, часта на неабмежаваны тэрмін. У лагеры пакутавалі тысячы ўдзельнікаў рэвалюцый-



332. *Помнік вязням Бяроза-Картузскага канцэнтрацыйнага лагера.*



331. *Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан.*



333. *Кляштар картэзіянцаў. Гравюра 18 ст.*



333. *Кляштар картэзіянцаў. Будынак шпіталя.*

нага руху ў Заходняй Беларусі, Заходняй Украіне, Польшчы. Сістэма жорсткага катаржнага рэжыму, строгая ізаляцыя ад знешняга свету была разлічана на тое, каб фізічна і маральна зламіць вязняў. Але з першых дзён існавання канцэнтрацыйнага лагера ў ім дзейнічала законспіраваная камуністычная арганізацыя. Працоўныя Польшчы, Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны, СССР, прагрэсіўныя сілы ўсяго свету рашуча пратэставалі супраць існавання канцлагера, вялі барацьбу ў абарону вязняў, памагалі сем'ям зняволеных. Канцлагер ліквідаваны ў верасні 1939 г. ў выніку вызвалення Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй. Па няпоўных звестках за 5 гадоў праз лагер прайшло больш за 10 тыс. вязняў.



333. *Кляштар картэзіянцаў. План.*

У 1962 г. на тэрыторыі колішняга канцлагера пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Гаврилюк А. Песни из Березы.— М., 1954; Они не стали на колени: Сборник воспоминаний и документов о концлагере Береза Картузская.— Мн., 1966; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966. *У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч*

**333. КЛЯШТАР КАРТЭЗІЯНЦАЎ** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне горада. Пабудаваны ў 1648—89 гг. У будаўніцтве прымалі ўдзел італьянскія архітэктары. У час Паўночнай вайны 1700—21 гг. і Барскай канфедэрацыі (у 1772 г.) разбураны. У 1831 г. закрыты за ўдзел манахаў у паўстанні 1830—1831 гг. У 1866 г. часткова разабраны, цэгла выкарыстана для будаўніцтва казарм. Захаваліся рэшткі паўднёвай і заходняй частак кляштара. Звесткі аб планіроўцы і забудове кляштарнага ансамбля даюць архіўныя чарцяжы 1-й палавіны 19 ст.

Комплекс уключаў мураваны будынак касцёла, аднатыпныя групы жылых карпусоў, бібліятэку, трапезную, шпіталь, аптэку, гаспадарчыя пабудовы і разам з прылеглым да яго садам з вадаёмам быў абнесены крапаснай мураванай сцяной з вежамі і каплічкай. Галоўным уваходам у кляштар служыла магутная брама з байніцамі. Яна вяла ў двор, які ўтваралі карпусы келляў радавых манахаў, дапаможных і гаспадарчых службаў і які быў прызначаны для гаспадарчых



333. *Кляштар картэзіянцаў. Званіца.*



333. *Кляштар картэзіянцаў. Брама.*

патрэб і абслугоўвання наведвальнікаў. Другі, замкнёны прамавугольны двор, утваралі калідоры-галерэі, якія злучалі двухпавярховыя карпусы келляў манахаў-самотнікаў з касцёлам. Келлі выдзяляліся ў самастойныя жылыя ячэйкі з маленькімі ўнутранымі дворыкамі.

Касцёл — трохнефавы аб'ём з 3 апсідамі і гранёным барбаканам над купалам пры ўваходзе. Галоўны фасад касцёла меў барочны дэкор — пілястры, франтоны, нішы. Бакавыя фасады па свайму вырашэнню блізкія да архітэктуры карпусоў келляў: вокны ў больш простых ліштвах, сцены ўпрыгожаны невысокімі пілястрамі. Унутры будынак касцёла падзелены на 2 часткі — для радавых манахаў і прыхаджан і для манахаў-самотнікаў. Сілуэт ансамбля фарміравала высокая васьмігранная шмат'ярусная вежа-званіца з фігурным купалам. Яна стаяла ўнутры прамавугольнага двара, прымыкала да сярэдняй апсіды касцёла і з'ўлялася абаронцай вежай з магутнымі сценамі і вузкімі вокнамі-байніцамі. Ярусы, прыстасаваныя для гармат, звязвала вінтавая лесвіца ў тоўшчы сцяны. Паверхня сцен вежы дэкарыравана простымі неглыбокімі нішамі.

Кляштар — буйны архітэктурны комплекс з элементамі абарончага характару, у якім увасоблены кампазіцыйна-дэкаратыўныя прынцыпы сталага барока.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Архитектура Белоруссии: Архитектура XIV—XVIII вв.— У кн.: Всеобщая история архитектуры. М., 1968, т. 6; Селеня Е. В., Сикорин Н. Д. Берёза: Историко-экономический очерк.— Мн., 1977.

*У. А. Чантурыя.*

**334. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны савецкія грамадзяне, загубленыя гітлераўцамі ў Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі колішняга картэзіянскага кляштара. У Бярозаўскім р-не нямецка-фашысцкія акупанты ператварылі тэрыторыю колішняга картэзіянскага кляштара ў адно з месцаў масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян. Усяго тут было загублена больш за 4,5 тыс. чалавек. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**335. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 96 жыхароў вёсак Алёхнавічы, Лукамер, Міхнавічы, Сасноўка Бярозаўскага р-на, якіх у 1942 г. расстралялі гітлераўцы каля колішняга картэзіянскага кляштара. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**336. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 73 жыхары в. Осаўцы Бярозаўскага р-на (у т. л. 14 членаў сямей арганізатараў першага ў раёне калгаса), якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі каля колішняга картэзіянскага кляштара. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**337. МАГІЛА НЯДЗЕЛЬСКАГА** Юзэфа Андрэевіча (гіст.). На могілках.

Ю. А. Нядзельскі нарадзіўся 5.5.1899 г. ў г. Лодзь. Член Кампартыі Польшчы. Працаваў рабочым, потым — прафсаюзны лідэр на фабрыцы Клеймана ў Лодзі. З студзеня 1938 г. вязень Бяроза-Картузскага канцлагера. Памёр у лагеры 1.4.1938 г. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**338. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АЛЬШЭЎСКАМУ** Анатолю Адамавічу (гіст.). Вул. Альшэўскага, 55. Устаноўлена ў 1967 г. на доме, дзе ён нарадзіўся.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыст А. А. Альшэўскі (партыйны псеўданім Юрка Пружанскі) нарадзіўся 4.7.1904 г. Член КПСС з 1919 г. Скончыў рэальнае вучылішча ў Арзамасе, куды сям'я Альшэўскіх эвакуіравалася ў час 1-й сусветнай вайны. Удзельнічаў у стварэнні камсамольскай арганізацыі ў Арзамасе. У 1919 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, змагаўся за ўстанаўленне Савецкай улады на Палессі, на Паўднёвым фронце супраць войск Дзянікіна. У 1920 г. вучыўся ў Камуністычным універсітэце імя Я. М. Свярдлова. Працаваў у рэдакцыях газет у Туле, Разані і Ніжнім Ноўгарадзе. З пачатку 1925 г. на падпольнай камсамольскай рабоце ў Заходняй Беларусі. На II канферэнцыі КСМЗБ (1925 г.) выбраны сакратаром ЦК КСМЗБ. З'яўляўся членам ЦК КСМ Польшчы. На III канферэнцыі (1926 г.) і I з'ездзе (1928 г.) КПЗБ выбраны членам ЦК КПЗБ. Удзельнічаў у рабоце IV канферэнцыі КПП. Працаваў рэдактарам цэнтральных органаў ЦК КПЗБ «Бальшавік» і «Чырвоны сцяг». У студзені 1927 г. арыштаваны ў Варшаве. У студзені 1928 г. ў выніку абмену палітзняволенымі паміж Савецкім Саюзам і Польшчай вярнуўся ў СССР. У 1928—33 гг. працаваў у рэдакцыі Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ пры ЦК КП(б)Б у Мінску, у 1933—37 гг. — на прафсаюзнай рабоце. Памёр у 1937 г. Яго імем названа вуліца ў Бярозе.

*Літ.:* Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все: Памятники и памятные места революционной и национально-освободительной борьбы трудящихся Западной Белоруссии.— Мн., 1979; Калеснік У. А. Пасланец Прametэя.— Маладосць, 1979, № 5.

*М. М. Казлоўская.*

**339. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 69, на будынку гісторыка-рэвалюцыйнага музея. Устаноўлена ў 1965 г.

У ходзе 2-га этапа Беларускай аперацыі 20-я, 48-я, 152-я стралковыя дывізіі 28-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі) 1-га Беларускага фронту 16.7.1944 г. вызвалілі Бярозу ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На часова акупіраванай тэрыторыі раёна дзейнічалі партызанскія брыгады «Савецкая Беларусь», імя Ф. Э. Дзяржынскага, імя П. К. Панамарэнкі.

Партызанская брыгада «Савецкая Беларусь» створана ў жніўні 1943 г. Камандзір М. У. Бабкоў, камісар П. І. Масалоў. Брыгада паўгода блакіравала дарогу Драгічын — Бяроза. У красавіку 1944 г. ўдзельнічала ў баях супраць карнікаў (Здзітаўская абарона). У час карных аперацый гітлераўцаў у зоне дзейнасці партызан ратавалася мірнае насельніцтва Бярозаўскага і Антопальскага р-наў. У чэрвені 1944 г. брыгада зрабіла баявы рэйд з Бярозаўскага ў Кобрынскі р-н, авалодала чыгуначным участкам Кобрын — Гарадзец і падарвала больш за 300 рэек. 12—17.7.1944 г. бры-

гада (863 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

Брыгада імя Ф. Э. Дзяржынскага створана ў снежні 1943 г. Камандзір В. М. Манахаў, камісар П. Р. Кавалёў. У красавіку 1944 г. партызаны вялі баі супраць карнікаў (Здзітаўская абарона). У ноч на 20.6.1944 г. ўдзельнічалі ў аперацыі «Рэйкавая вайна» на чыгуначным участку Бяроза — Івацэвічы. 12.7.1944 г. брыгада (1040 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

Брыгада імя П. К. Панамарэнкі створана ў чэрвені 1943 г. Камандзіры І. П. Урбановіч, М. У. Сенькін, камісары С. П. Пацяруха, К. Дз. Талочка, М. Е. Крыштафовіч. Асноўныя баявыя дзеянні партызаны праводзілі на чыгуначных участках Брэст — Баранавічы, Ваўкавыск — Слонім, на шашэйных дарогах Косава — Слонім, Косава — Ружаны, Ружаны — Пружаны; яны знішчалі баявую тэхніку і жывую сілу ворага, ахоўвалі насельніцтва ад вывазу ў Германію. 11.7.1944 г. брыгада (1537 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Ковальский П. М. В Брестских лесах: Записки партизана.— Мн., 1970. *М. К. Кошалеў.*

**340. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Савецкай. Пабудавана ў 1772 г. з цэглы. Перабудавана напярэдадні 1-й сусветнай вайны.

Будынак падоўжаны ў плане, з павелічэннем шырыні памяшканняў ад увахода да алтара. На галоўным фасадзе выступае двух'ярусная званіца з высокім шатровым верхам. Двухсхільны дах у цэнтральнай частцы асноўнага аб'ёму прарэзвае глухі васьміграны барабан з галоўкай. Сцены будынка чляняцца лапаткамі і прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. А. Міцянін.*

**341. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна пастаўлена ў 1961 г.

**342. ПОМНІК САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада, каля шашы Брэст — Баранавічы.

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны ў раёне Бярозы разгарэліся жорсткія паветраныя баі. Лётчыкі 97-га, 121-га, 125-га, 130-га, 162-га, 207-га і 212-га бамбардзіровачных авіяцыйных палкоў нанеслі значныя страты наземным войскам праціўніка. 24—25.6.1941 г. ў паветраных баях яны збілі больш як 10 знішчальнікаў. У 1974 г. ў гонар савецкіх лётчыкаў пастаўлены помнік — самалёт на пастаменце.

*Літ.:* Селеня Е. В. В суровом небе фронтовом.— Мн., 1980. *М. Дз. Сікорын.*

**343. РАДЗІМА ГОРЫНА** Паўла Восіпавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, дзяржаўны дзеяч БССР, акадэмік АН БССР (1931 г.), доктар гістарычных навук (1934 г.) П. В. Горын (Каляда) нарадзіўся ў студзені 1900 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. У лютым — снежні 1919 г. на палітрабоце ў Чырвонай Арміі, удзельнік Грамадзянскай вайны. Скончыў Камуністычны універсітэт імя Я. М. Свярдлова (1921 г.) і Інстытут чырвонай прафесуры (1925 г.). У 1927—30 гг. прававдзейны член, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі Камуністычнай акадэміі, вучоны сакратар Таварыства гісторыкаў-марксістаў. У 1927—30 гг. намеснік рэдактара часопіса «Пролетарская революция», адначасова ў 1926—28 гг. член рэдкалегіі часопіса «Историк-марксист», старшыня Таварыства палітэмігрантаў Заходняй Беларусі. У 1931—36 гг. прэзідэнт АН БССР, з 1936 г. загадчык кафедры гісторыі СССР Маскоўскага універсітэта. Даследчык гісторыі Саветаў і Кастрычніцкай рэвалюцыі, рэдактар перакла-



342. *Помнік савецкім лётчыкам.*



340. *Петрапаўлаўская царква. План.*



340. *Петрапаўлаўская царква.*

даў твораў У. І. Леніна на беларускую мову. Аўтар прац «Пралетарыят у 1917 г. ў барацьбе за ўладу» (1927 г.), «Табліцы па гісторыі ВКП(б) і рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Сінхраналогія падзей з 1898 г. па 1917 г.» (з М. Тамаркіным, 3 выд., 1929 г.), «М. М. Пакроўскі — бальшавік-гісторык» (1933 г.), «Нарысы па гісторыі Саветаў рабочых дэпутатаў у 1905 годзе» (1934 г.). У 1932—36 гг. член ЦК КП(б)Б і кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б. У 1931—36 гг. член ЦВК і Прэзідыума ЦВК БССР.

Памёр 5.2.1939 г. Яго імем названа вуліца ў Бярозе.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979.

**344. ПОМНІК ЧКАЛАВУ** Валерыю Паўлавічу (гіст.). Перад будынкам вакзала. Помнік вядомаму савецкаму лётчыку Герою Савецкага Саюза В. П. Чкалаву ўстаноўлены ў 1957 г.

**в. Агароднікі, Сакалоўскі сельсавет**

**345. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1976 г. ў гонар партызанскага атрада Ю. А. Бярэнчыка (пазней у складзе партызанскай брыгады імя Я. М. Свярдлова), які ў кастрычніку 1942 г. разграміў у вёсцы апорны пункт праціўніка.

**346. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У мемарыяльным парку. На ўшанаванне памяці 91 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бармуты, Сігневіцкі сельсавет**

**347. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны савецкія грамадзяне, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**348. МАГІЛА ВЯЧОРКІ** Марціна Якаўлевіча (гіст.). У цэнтры вёскі.

М. Я. Вячорка нарадзіўся ў 1911 г. ў в. Бармуты ў сялянскай сям'і. Рана стаў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы, узначаліў камсамольцаў роднай і суседніх вёсак, з'яўляўся сакратаром падпольнай ячэйкі КСМЗБ. Ён распаўсюджваў нелегальную літаратуру, вёў палітычную работу сярод юнакоў, якіх прызывалі ў польскае войска. Напярэдадні 1 Мая 1932 г. М. Я. Вячорку арыштавалі і адвезлі ў Картуз-Бярозу, дзе ён быў па-зверску закатаваны. Каб схаваць сляды злачынства, было інсцэніравана самагубства: яго труп павесілі на дрэве каля дарогі ва ўрочышчы Вілы. Пахаванне камсамольца вылілася ў рэвалюцыйную маніфестацыю.

У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Сяленя Я. В. Чырвоныя сцягі над магілай.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1977, № 3; Ворткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все: Памятники и памятные места революционной и национально-освободительной борьбы трудящихся Западной Белоруссии.— Мн., 1979. *В. Б. Караткевіч.*

## IV. БЕЛААЗЕРСК

Горад (з 1970 г.), за 27 км на паўднёвы ўсход ад Бярозы, 131 км ад Брэста, 19 км ад чыгуначнай станцыі Бронная Гара на лініі Брэст — Мінск.

Узнік у 1958 г. як пасёлак у сувязі з будаўніцтвам Бярозаўскай ДРЭС. З 12.1.1960 г.— рабочы пасёлак Бярозаўскі, 25.6.1960 г. перайменаваны ў Белаазерск.

Генплан горада распрацаваны ў 1975 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Мае выразную прамавугольную сістэму планіроўкі. Цэнтральную частку горада фарміруюць вул. Леніна і пр. Міру, забудаваныя 3—5- і 9-паверховымі жылымі дамамі і грамадскімі будынкамі (Дом гандлю, Дом культуры, камбінат бытавога абслугоўвання і інш.). Працуюць Бярозаўская ДРЭС, энергамеханічны завод, хлебазавод. Ёсць сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча электратэхнікаў, 3 сярэднія, музычная школы, філіял Бярозаўскай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы, 4 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, бальніца. На брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан пастаўлены помнік.

Зона адпачынку — воз. Белае і прылеглы лясны масіў. *А. Ю. Пятросава.*

**349. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У парку Энергетыкаў. Пахаваны 49 воінаў і партызан, у т. л. 16 лётчыкаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Савецкія лётчыкі бамбардзіровачных авіяцыйных палкоў 130-га скарасного, 207-га і 212-га далёкага дзеяння 22.6.1941 г. нанеслі ўдары па нямецка-фашысцкіх захопніках у раёне Бяла-Падляскі. У наступныя дні яны вялі інтэнсіўную бамбардзіроўку часцей праціўніка, якія рухаліся па шашы Брэст — Масква на ўчастку Кобрын — Бяроза — Івацэвічы, бамбілі пераправу цераз р. Ясельда. У жорсткіх паветраных баях гераічна загінулі многія савецкія экіпажы. У 1973—74 гг. астанкі лётчыкаў, воінаў і партызан перазахаваны ў Белаазерску.

У 1976 г. на брацкай магіле пастаўлена 8-метровая стэла і запалены Вечны агонь. *М. Дз. Сікорын.*

**350. БЯРОЗАЎСКАЯ ДРЭС** імя 50-годдзя БССР (гіст., архіт.). Пабудавана ў 1958—67 гг. Магутнасць 920 тыс. кВт. Першы прамысловы ток дала ў 1961 г. Праз Адзіную беларускую энергасістэму з 1963 г. звязана з ПНР, з 1965 г.— з Адзінай электраэнергетычнай сістэмай Еўрапейскай часткі СССР, праз энергасістэму ПНР — з міжнароднай энергасістэмай «Мір» (электраэнергетычная сістэма краін — членаў СЭУ). У 1968 г. электрастанцыі прысвоена імя 50-годдзя БССР, у 1971 г. ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Асноўныя збудаванні комплексу — галоўны і аб'яднаны дапаможны карпусы электрастанцыі, аб'екты паліўнай гаспадаркі, тэхнічнага водазабеспячэння і электрычнай часткі. Галоўны корпус — трохпралётнае прамавугольнае збудаванне з бункерна-дэаэратарнай этажэркай паміж машыннай залай і кацельняй. 30- і 36-метровыя крайнія пралёты перакрыты па фермах, падоўжны крок калон 6 м. Найбольшая вышыня будынка каля 40 м. Усе канструкцыі са зборнага жалезабетону. Вышыня дымавых труб 180 і



IV. *Забудова вуліцы Леніна.*



349. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

100 м. Абсталяванне скампанавана па блочнаму прынцыпу: у кожным з 6 блокаў — 2 праматочныя катлыагрэгаты, турбіна, турбагенератар, павышальны трансфарматар, водасілкавальная ўстаноўка і дапаможнае абсталяванне.

Адна з першых блочных электрастанцый у рэспубліцы, узор прамысловай архітэктуры 1960-х гадоў.

*У. В. Алісейчык.*

**в. Боркі, цэнтр сельсавета**

**351. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 64 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск, на ім — пліты з імёнамі загінуўшых.

**пасёлак Бронная Гара, Сакалоўскі сельсавет**

**352. МЕСЦА МАСАВАЙ ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). За 400 м на паўночны захад ад пасёлка, ва ўрочышчы Бронная Гара.

У маі — чэрвені 1942 г. па загаду гітлераўцаў ва ўрочышчы было выкапана 8 ям даўжынёй 45—60 м, шырынёй 6—6,5 м, глыбінёй 4 м, пляцоўка была абнесена калючым дротам. З Брэста, Бярозы, Гарадца, Драгічына, Івацава, Кобрына, Пінска па чыгуначнай ветцы, якая праходзіла праз пляцоўку з ямамі-магіламі, дастаўлялі эшалоны з вязнямі, нараўжна з жанчынамі, дзецьмі, старымі. Іх прымушалі распранацца, па драцяных калідорах гналі да ям, загадвалі класціся радамі і расстрэльвалі з аўтаматаў. Да канца лістапада 1942 г. гітлераўцы загубілі тут больш за 50 тыс. чалавек. Каб замесці сляды сваіх злачынстваў, у сакавіку 1944 г. яны прыгналі сюды 100 вязняў, якія 2 тыдні раскопвалі і палілі трупы, а потым самі былі расстраляны і спалены.

У 1978 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашысцкага тэрору пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии, 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965. *М. Дз. Сікорын.*

**чыгуначная станцыя Бяроза-Картузская, Першамайскі сельсавет**

**353. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАМСАМОЛЬЦАМ - ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку вакзала.

У гады Вялікай Айчыннай вайны ў в. Блудзень (з 1964 г. в. Першамайская) з чэрвеня 1941 г. да ліпеня 1944 г. дзейнічала камсамольскае падполле (кіруючае ядро — С. П. Руціч, У. К. Саўчук, В. М. Галенка). Летам 1943 г. арганізацыя налічвала 21 чалавек. Падпольшчыкі здабывалі і перадавалі партызанам зброю, боепрыпасы, медыкаменты, звесткі аб дыслакацыі варожых часцей, размяшчэнні ваенных аб'ектаў, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, праводзілі дыверсіі на чыгуначнай станцыі Бяроза-Картузская. Толькі за 1943 г. яны вывелі са строю 15 паравозаў, падпалілі дэпо. Многія патрыёты загінулі ў барацьбе з ворагам, сярод іх В. С., М. С. і С. С. Барушкі, М. С. Жуковіч, М. А. і С. А. Колас, М. Р. Неліповіч, А. І. Ніпарка, В. І. Пейгановіч, М. А. Пейгановіч, А. В. Радкевіч, У. К. Саўчук, М. К. Хвядчэня.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Рутич С. П. Навеки юные.— Мн., 1974. *Г. І. Дулеба.*




351. *Помнік землякам.*



350. *Бярозаўская ДРЭС імя 50-годдзя БССР.*



355. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

в. Вайцяшын, Пескаўскі сельсавет

**354. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Горск, Малецкі сельсавет

**355. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км ад вёскі, на 84-м км шашы Брэст — Мінск. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 23.6.1941 г.

На другі дзень вайны 2 палкі 205-й матарызаванай дывізіі 4-й арміі Заходняга фронту блакіравалі непадалёку ад вёскі шашу Брэст — Мінск і 6 гадзін стрымлівалі наступленне праціўніка. У канцы дня, пасля 4 беспаспяховых атак, гітлераўцы абышлі заслон з флангаў. Узнікла пагроза акружэння. На змярканні палкі, пакінуўшы для прыкрыцця падраздзяленне мотастралкоў пад камандаваннем малодшага лейтэнанта М. І. Новікава, адышлі і занялі абарону на р. Ясельда. Дзве гадзіны трымаліся байцы групы прыкрыцця і загінулі ў няроўным баі.

У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск. На надмагільнай пліце высечаны імёны М. І. Новікава і старшага сяржанта М. М. Буднікава, імёны астатніх невядомы.

*Літ.:* Сандалов Л. М. Пережитое.— М., 1961. *М. Дз. Сікорын.*

в. Зарэчча, Бярозаўскі сельсавет

**356. СТАЯНКІ** (археал.).



356. *Крамянёвыя прылады працы са стаянак Зарэчча.*

**356 а.** Стаянка-1. За 1 км на паўночны захад ад вёскі. Разбурана кар'ерам амаль па ўсёй даўжыні (200 м).

**356 б.** Стаянка-2. На захад ад вёскі, на марэнным узгорку на левым беразе р. Ясельда, каля могілак. Выявіў у 1965 г. і даследаваў у 1965 г., 1968 г. і 1970 г. У. Ф. Ісаенка. Даўжыня каля 300 м. На месцы стаянкі выяўлены 2 культурныя гарызонты, у якіх знойдзены абломкі ранненеалітычнага посуду, больш за 300 прылад працы з крэменю, тронкавыя наканечнікі стрэл, грубыя вуглавыя разцы з пласцінак, некалькі бакавых разцоў, бакавыя і канцавыя скрабкі розных памераў, скоблі, нажы з рэтушшу, з больш рэдкіх знаходак — ромбавы наканечнік, трохгранная піка, праколка мезінскага тыпу, мікрапласцінка з прытупленым краем. Адносіцца да мезаліту і нёманскай культуры неаліту.

**356 в.** Стаянка-3. За 0,5—1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на схіле марэннага ўзгорка — карэннага берага р. Ясельда. Даўжыня 280 м. Культурны пласт захаваўся часткова. Выявіў і даследаваў у 1968 г. і 1977 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзена больш за тысячу апрацаваных крамянёвых прылад працы.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Мезолит Припятского Полесья.— Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР, 1977, № 149. *У. Ф. Ісаенка.*

в. Здзітава, цэнтр сельсавета

**357. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «ЗДЗІТАЎСКАЯ АБАРОНА»** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну непадалёку ад вёскі базіраваліся Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б, штаб Брэсцкага партызанскага злучэння, партызанскія фарміраванні. Партызаны наносілі ўдары па чыгуначных камунікацыях, асабліва на лініях Брэст — Баранавічы, Брэст — Лунінец — галоўных у гэтым раёне магістралях забеспячэння нямецка-фашысцкіх войск. Каб засцерагчы свае тылы, у пачатку красавіка 1944 г. гітлераўцы сцягнулі ў гэты раён атрады войск СС, 10 артылерыйскіх і мі-



357. *Мемарыяльны комплекс «Здзітаўская абарона».*




358, 388. *План размяшчэння стаянак Здзітава і Спорава.*

намётных батарэй, танкі, бронемашыны, бамбардзіроўшчыкі. З красавіка карнікі пачалі наступаць на пазіцыі партызан з некалькіх напрамкаў. Партызаны і 10 тыс. мірных жыхароў, якія знаходзіліся пад іх аховай, апынуліся ў акружэнні. Партызанскія брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага (камандзір В. М. Манахаў, камісар П. Р. Кавалёў), «Савецкая Беларусь» (камандзір М. У. Бабкоў, камісар П. І. Масалоў), 345-ы атрад (камандзір С. А. Яроцкі, камісар В. М. Яроцкі) і атрад імя С. М. Будзённага (камандзір К. Е. Мерзлякоў, камісар П. К. Каламійцаў), які падышоў на дапамогу абаронцам, пад моцным артылерыйскім агнём і бамбардзіроўкай 7 дзён паспяхова адбівалі атакі карнікаў. У партызан канчаліся боепрыпасы. Па загаду камандавання яны занялі другую лінію абароны. Гітлераўцы фарсіравалі р. Дарагабуж, увайшлі ў вёскі Здзітава і Спорава, але другую лінію абароны штурмаваць не адважыліся.

У 1975 г. да 30-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі пабудаваны мемарыяльны комплекс «Здзітаўская абарона» (скульпт. В. Дз. Кліменка, арх. В. А. Пак; бетон). Кампазіцыйны цэнтр архітэктурна-скульптурнага ансамбля — велічная фігура партызана (вышыня 6 м) у дынамічным развароце, з узнятымі ў пераможным урачыстым жэсце рукамі (у правай руцэ аўтамат). Пластычнае вырашэнне вызначаецца манументальнасцю формы і выразнасцю сілуэта. У скульптуры ўвасоблены абагулены вобраз народа-пераможцы. За галоўным манументам устаноўлена дугападобная ў плане сцяна-стэла (вышыня з аднаго боку 2,4 м, з другога — 1,6 м) з барэльефамі, якія адлюстроўваюць эпізоды абароны, аб'яднаныя ў адзіную цэласную кампазіцыю. Справа ад скульптуры — трохгранны блок з лаўровым вянком і імёнамі загінуўшых. З боку шашы Бяроза — Драгічын і ад цэнтральнай вуліцы вёскі да мемарыялу вядуць 2 надыходы, выкладзеныя бетоннымі плітамі. Пры ўваходзе на цэнтральную алею комплексу пастаўлена стэла з плітамі, на якіх выбіты тэкст, прысвечаны падзеям абароны.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Сялення Я. В. У старажытным Здзітаве.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1976, № 1.

*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч, В. В. Церашчатава.*

**358. СТАЯНКІ** (археал.).

**358 а.** Стаянка-1 (Горбаў-1). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на паўднёвым беразе воз. Чорнае. Даўжыня ўздоўж берага каля 300 м. Выявіў у 1910 г. Е. Р. Раманаў, даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі вогнішчаў, абломкі ляпнога посуду, сярод некалькіх соцень крамянёвых прылад — сякеры і матыкі. Стаянка датуецца эпохамі неаліту і бронзавага веку, адносіцца да нёманскай, шнуравой керамікі і тшцінецкай культур.

**358 б.** Стаянка-2 (Горбаў-2). За 1 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Дарагабуж. Даўжыня ўздоўж берага 120 м. Выявіў і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзена больш за 300 апрацаваных крамянёў. Адносіцца да неаліту.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Первобытные памятники Полесья.— М., 1962.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Зубачы, Сялецкі сельсавет**

**359. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Буслаўка.

13.7.1944 г. часці 152-й стралковай дывізіі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту выйшлі да р. Ясельда ў раёне вёсак Зубачы, Сашыца, Сялец і Ясевічы. Пры фарсіраванні ракі разгарэўся ўпарты бой. Гітлераўцы, якія акапаліся на яе правым беразе, загадзя прыстралялі адкрытую балоцістую пойму. Воіны дывізіі пад агнём праціўніка пераправіліся на правы бераг ракі і 15.7.1944 г. выбілі гітлераўцаў з пазіцый. У выніку часці дывізіі вызвалілі шэраг населеных пунктаў Бярозаўскага р-на, г. Пружаны (17.7.1944 г.) і ў складзе войск правага крыла фронту выйшлі да р. Буг на поўнач ад Брэста.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, якія загінулі ў гэтых баях, насыпаны 15-метровы Курган. На яго вяршыні ўстаноўлены 10-метровы штык-абеліск, абліцаваны нержавеючай сталлю. Каля падножжа Кургана ўстаноўлена пліта з памятным надпісам.

*Я. В. Сялення.*

**в. Кашалёва, Боркаўскі сельсавет**

**360. МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны адзін з першых старшынь Боркаўскага сельсавета Я. А. Качаржынскі, забіты 22.3.1945 г., і савецкія актывісты — бацька і дачка М. Д. і Н. М. Строкі, забітыя 29.7.1945 г. ворагамі Савецкай улады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.




360. *Помнік на магіле савецкіх актывістаў.*

**в. Малеч, цэнтр сельсавета**

**361. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ САЎГАСА ІМЯ 60-ГОДДЗЯ КПБ** (архіт.). За 20 км на захад ад Бярозы, 89 км ад Брэста, 16 км ад чыгуначнай станцыі Бяроза-Картузская.

На тэрыторыі саўгаса размешчана 11 вёсак і 59 хутароў. Перспектыўным для развіцця вызначаны цэнтр саўгаса в. Малеч (каля 2 тыс. чалавек) і в. Лукамер (каля 800 чалавек). У 1969—71 гг. інстытут «Белдзіпрасельбуд» распрацаваў праект планіроўкі і забудовы саўгаса (арх. Н. М. Нядзелька, інж. В. М. Хандогін). Забудова цэнтральнай сядзібы вядзецца на паўночны ўсход ад в. Малеч. Архітэктурна-кампазіцыйны цэнтр — плошча, размешчаная на зліцці 2 галоўных вуліц. Тут узведзены грамадскія будынкі: Палац культуры з залай на 600 месцаў, гандлёвы цэнтр са сталовай, магазінамі, камбінатам бытавога абслугоўвання, гасцініцай. Пабудаваны бальніца, школа. Жылая забудова 2—5-павярховыя дамы. Дамы — выцягнутыя прамавугольныя ў плане аб'ёмы з плоскімі дахамі, гладкія сцены прарэзаны прамавугольнымі



361. *Забудова цэнтральнай сядзібы саўгаса імя 60-годдзя КПБ.*

вокнамі і вертыкальна расчлянёны лоджыямі. Будуюцца чатырохкватэрныя дамы, кожная кватэра на 2 узроўнях, якія злучаны ўнутранай лесвіцай. На 1-м паверсе размешчаны кухня, гасцінная, ванная, кладоўка, на 2-м — 3 спальні і санітарны вузел. Дамы маюць цэнтральнае ацяпленне, водазабеспячэнне, газіфікаваны. У аддзелцы выкарыстаны сучасныя матэрыялы — дэкаратыўная тынкоўка, абліцовачная кераміка, што ставарае гарманічнае колеравае вырашэнне фасадаў.

Цэнтральная сядзіба саўгаса — прыклад сучаснай планіроўкі і забудовы сельскіх пасёлкаў. *Б. М. Назаранка.*

**362. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сельсавета. На ўшанаванне памяці 565 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Лясковічы,**
**Боркаўскі сельсавет**

**363. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, у лесе, на могілках. Пахаваны 8 партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мормажава,**
**Бярозаўскі сельсавет**

**364. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 7 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна ў Вялікую Айчынную вайну, і 9 мірных жыхароў — ахвяр фашысцкага тэрору.

У час акупацыі праз вёску ажыццяўлялася сувязь падпольшчыкаў Бярозы з атрадамі партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі. Адсюль партызаны атрадаў імя Г. М. Дзімітрова і імя М. Ф. Гастэлы выходзілі на дыверсійныя аперацыі. Гітлераўцы схапілі членаў сямей партызан з в. Мормажава і расстралялі. У 1966 г. на магіле насыпаны курган. *М. Дз. Сікорын.*

**365. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 16 воінаў і партызан, у т. л. партызаны брыгады імя П. К. Панамарэнкі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Нівы, Белаазерскі сельсавет**

**366. МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 савецкіх актывістаў, забітых 30.3. 1946 г. ворагамі Савецкай улады. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новыя Пескі,**
**цэнтр Пескаўскага сельсавета**

**367. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І САВЕЦКАГА АКТЫВІСТА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 42 воіны і партызаны, у т. л. партызаны брыгад «Савецкая Беларусь», імя Ф. Э. Дзяржынскага і імя Я. М. Свярдлова, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля вёсак Спорава і Новыя Пескі ў Вялікую Айчынную вайну. Пахаваны таксама адзін з арганізатараў калгаса «Новае жыццё» А. А. Бярынчык, забіты ў 1949 г. ворагамі Савецкай улады.

У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**368. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЛУШЧУ** Сцяпану Міхайлавічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці земляка — члена КПЗБ з 1924 г., удзельніка рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі С. М. Лушча, які быў па-зверску забіты 25.5.1933 г. польскай дэфензівай.

**в. Осаўцы, Нарутавіцкі сельсавет**

**369. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны савецкія разведчыкі яфрэйтар І. К. Колчан і П. У. Маменка, якія загінулі 12.7.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**370. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Увосень 1942 г. ў вёску ўварваліся карнікі. Яны схапілі 73 мірных жыхароў, у т. л. членаў 14 сямей савецкіх актывістаў — арганізатараў калгаса ў вёсцы, адвезлі ў Бярозу і расстралялі на тэрыто-



365. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



372. *Помнік землякам.*

рыі колішняга картэзіянскага кляштара.

У 1963 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашысцкага тэрору пастаўлены абеліск.

**в. Падкраічы, Малецкі сельсавет**

**371. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 100 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг., у т. л. воіны 205-й матарызаванай дывізіі 4-й арміі Заходняга фронту. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**372. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 114 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызана і 2 стэлы, на якіх выбіты імёны загінуўшых. Перад помнікам запалены Вечны агонь.

**в. Паўлавічы, Малецкі сельсавет**

**373. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 6 савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Першамайская, цэнтр сельсавета**

**374. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 66 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля вёсак Жычын і Першамайская. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са схіленым сцягам.

**375. МАГІЛА ЯСІНСКАГА** Васіля Герасімавіча (гіст.). На могілках.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі В. Г. Ясінскі нарадзіўся 14.1.1901 г. ў в. Першамайская (да 1964 г. в. Блудзень). З сялян. Член КПЗБ з 1924 г. Працаваў рабочым на чыгуначнай станцыі Бяроза-Картузская, служыў у польскай арміі. У 1927 г. за рэвалюцыйную дзейнасць арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі і зняволены на 2 гады. У 1933 г. зноў арыштаваны і засуджаны на 8 гадоў турэмнага зняволення. У 1936 г. вызвалены па амністыі. У 1932—33 гг. і ў 1936—39 гг. сакратар Бярозаўскага падпольнага райкома КПЗБ. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. В. Г. Ясінскі — начальнік народнай міліцыі, потым на савецкай рабоце ў Бярозаўскім р-не. З чэрвеня 1941 г. ў Чырвонай Арміі, у 1946—63 гг. старшыня Першамайскага сельсавета, загадчык аддзела Бярозаўскага райвыканкома, на адміністрацыйна-гаспадарчай рабоце. Памёр 8.2.1972 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск. У вёсцы на доме, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*М. Б. Багеўнік.*

**376. РАДЗІМА ДРУЖЧЫЦА** Васіля Данілавіча (гіст.).

Беларускі савецкі гісторык, прафесар (з 1927 г.) В. Д. Дружчыц нарадзіўся 8.2.1886 г. З сялян. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Юр'еўскага універсітэта (г. Тарту) у 1911 г. Працаваў настаўнікам у Літве і на Беларусі. З 1922 г. выкладчык БДУ, з 1933 г. супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, прафесар гісторыі ў Літаратурным інстытуце імя Герцэна ў Маскве. Памёр 20.12.1937 г. Даследаваў гісторыю Беларусі эпохі феадалізму, пераважна магдэбургскае права ў гарадах Беларусі, гісторыю беларускага кнігадрукавання. Аўтар прац «Палажэнне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасля Люблінскай уніі» (Працы БДУ, 1925, № 6—7), «Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарскіх местах з майдэборскім правам» (Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 3), «Места Мінск у канцы XV і пачатку XVI ст.» (Працы БДУ, 1926, № 12), «Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры» (Гістарычна-археалагічны зборнік, 1927, № 1).

**в. Равяцічы, Сігневіцкі сельсавет**

**377. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Па-



374. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



**377.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

хаваны воіны, партызаны і мірныя жыхары, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сакалова, цэнтр сельсавета**

**378. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 жыхароў вёскі, загубленых гітлераўцамі ў 1941—42 гг. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**379. ЦАРКВА МАЦІ БОСКАЙ** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва. Адназрубны аб'ём накрыты двухсхільным вальмавым дахам з васьмігранпай шатровай галоўкай над галоўным фасадам і макаўкай над алтаром. Царква — помнік народнага дойлідства.

**в. Сашыца, Сялецкі сельсавет**

**380. МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 60 партызан і мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**381. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СКРОБАТУ** Макару Міхайлавічу (гіст.). У цэнтры вёскі на доме, дзе ён жыў. Устаноўлена ў 1976 г. на ўшанаванне памяці ўдзельніка рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, члена КПЗБ з 1924 г., сакратара Сашыцкага падпольнага падрайкома КПЗБ М. М. Скробата.

**382. ПОМНІК ЗДАНОВІЧУ** Лявону Раманавічу (гіст.).

Л. Р. Здановіч нарадзіўся ў 1903 г. Член КПЗБ з 1924 г. Першы старшыня Сашыцкага сельсавета (з 1939 г.). У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1942 г. адзін з кіраўнікоў Бярозаўскага падпольнага камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі, у лістападзе 1942 г.— ліпені 1944 г. ў атрадзе імя Г. М. Дзімітрова партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі. Загінуў у 1945 г. ў барацьбе з ворагамі Савецкай улады.

У 1978 г. на месцы дома, у якім жыў Л. Р. Здановіч, пастаўлена стэла.

**383. ПОМНІК ХВЯДЧЭНЮ** Івану Міхайлавічу і **СКРОБАТУ** Макару Міхайлавічу (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на магіле І. М. Хвядчэні.

Удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі І. М. Хвядчэня нарадзіўся 8.12.1901 г. ў в. Сашыца. Член КПЗБ з 1924 г. У Грамадзянскую вайну скончыў курсы чырвоных камандзіраў. Удзельнічаў у баях супраць войск Дзянікіна, ліквідацыі Кранштацкага антысавецкага мяцяжу, быў цяжка паранены. У 1921 г. вярнуўся на радзіму і ўключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. У 1925 г. схоплены польскімі буржуазнымі ўладамі і асуджаны на 4 гады турэмнага зняволення. Пасля выхаду з турмы працаваў сакратаром Сашыцкага падпольнага падрайкома КПЗБ. Па-зверску забіты польскай дэфензівай 11.5.1933 г. Сям'ю І. М. Хвядчэні расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты ў Вялікую Айчынную вайну. У Бярозе яго імем названа вуліца.

Удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі М. М. Скробат нарадзіўся 25.1.1904 г. ў в. Сашыца. Член КПЗБ з 1924 г. У снежні 1925 г. за рэвалюцыйную дзейнасць арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, у лютым 1928 г. зноў арыштаваны і засуджаны на 4 гады турэмнага зняволення, у



**383.** *Помнік І. М. Хвядчэню і М. М. Скробату.*

жніўні 1928 г. вызвалены па амністыі. У маі 1934 г. прыгавораны да 6 гадоў турмы, у студзені 1936 г. амніціраваны, у верасні 1939 г. арыштаваны і кінуты ў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. У 1933—34 гг. і 1936—38 гг. сакратар Сашыцкага падпольнага падрайкома КПЗБ. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР працаваў загадчыкам аддзела Бярозаўскага райвыканкома (1940—41 гг.). У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. ў Чырвонай Арміі. У ліпені 1942 г. загінуў на фронце. У вёсцы на доме, дзе ён жыў, у 1976 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1977 г. на ўшанаванне памяці І. М. Хвядчэні і М. М. Скробата пастаўлены абеліск і 2 стэлы з барэльефамі. *А. С. Барысавец, М. Б. Батвіннік.*



**384.** *Пакроўская царква. Выгляд з боку апсіды.*



**384.** *Пакроўская царква. План.*

**в. Сігневічы, цэнтр сельсавета**

**384. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана з цэглы ў 1795 г. як касцёл, пасля рэстаўрацыі ў 1848 г. вядома як Пакроўская царква.

Двухвежавы будынак з аднанефавым асноўным аб'ёмам са слаба развітым трансептам і паўцыркульнай апсідай. Бакоўкі трансепта аб'яднаны з сакрысціямі ў невысокіх бакавых прыбудовах. Кампазіцыя галоўнага заходняга фасада трохчасткавая, двух'ярусная. Цэнтральная частка завершана атыкавым франтонам, бакавыя — масіўнымі вежамі з шатровымі дахамі. Плоскасці фасадаў раскрапаваны пілястрамі і прарэзаны прамавугольнымі вокнамі. Унутры асноўнае зальнае памяшканне злучана арачнымі праёмамі з апсідай і бакоўкамі трансепта. Над бабінцам размешчаны хоры. Бакавыя сцены раскрапаваны пілястрамі, якія ўверсе злучаны паўцыркульнымі і лучковымі аркамі. Перакрыцце бэлечнае, з падшыўной столлю.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі барока.

*Літ.:* Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 10.— Warszawa, 1889. *У. В. Алісейчык.*

**385. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 46 аднавяскоўцаў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Спорава, Здзітаўскі сельсавет**

**386. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 партызан брыгады «Савецкая Беларусь», якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**387. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ БРЭСЦКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б** (гіст.).

У Вялікую Айчынную вайну недалёка ад вёскі, у лясах, у раёне воз. Спораўскае знаходзілася галоўная база Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б, які дзейнічаў з красавіка 1943 г. да вызвалення Брэсцкай вобл. ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. Сакратары абкома С. І. Сікорскі, І. І. Баброў (загінуў 1.11.1943 г.), члены абкома (з 24.6. 1943 г.) В. Ф. Каліберsucceed, С. П. Пацяруха, А. І. Федасюк (да 30.3.1944 г.). Друкаваны орган падпольнага абкома — газета «Заря» (рэдактар В. Ф. Каліберaў, выходзіла з мая 1943 г.).

У 1960 г. ў гонар Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск.

*М. Б. Батвіннік.*

**388. СТАЯНКІ** (археал.).

**388а.** Стаянка-1. На захад ад вёскі, на пясчаных пагорках паўночнага берага воз. Спораўскае. Даўжыня каля 100 м. Выявіў і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — некалькі дзесяткаў крамянёвых прылад працы. Адносіцца да эпохі неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.).



386. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

**388б.** Стаянка-2. За 2,5—3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на паўночна-заходнім беразе воз. Спораўскае, каля фермы. Даўжыня каля 150 м, культурны пласт каля 0,5 м. Выявіў і даследаваў у 1963 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі вогнішчаў, косці жывёл, абломкі ляпных гаршкоў, больш за 60 крамянёвых прылад працы. Стаянка адносіцца да нёманскай культуры.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. План размяшчэння стаянак гл. ў артыкуле № 358 «Стаянкі».

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Первобытные памятники Полесья.— М., 1962.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Старыя Пескі, Пескаўскі сельсавет**

**389. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У двары школы. Пахаваны 15 мірных жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**390. ПОМНІК У ГОНАР БЯРОЗАЎСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б і ЛКСМБ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Партызанскай і Міру.

У Вялікую Айчынную вайну каля вёскі ў лесе базіраваліся Бярозаўскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, рэдакцыя друкаванага органа падпольнага райкома КП(б)Б — газеты «Пламя», партызанскія атрады імя С. М. Будзённага, імя М. І. Калініна, імя В. П. Чкалава, 345-ы і 347-ы Брэсцкага партызанскага злучэння.

Бярозаўскі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з снежня 1943 г. да ліпеня 1944 г. Сакратары С. А. Яроцкі (да 10.6.1944 г.), В. М. Яроцкі (з 10.6.1944 г.). Падпольны райком КП(б)Б узначальваў камуністычнае падполле, партызанскі рух у раёне, праводзіў палітычную работу сярод насельніцтва. З студзеня 1944 г. выдаваў газету «Пламя», рэдактары А. С. Фацік, П. І. Братанаў.

Бярозаўскі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з верасня 1943 г. да ліпеня 1944 г. Сакратары П. К. Каламійцаў, Ф. І. Савін (да 22.11. 1943 г.), С. А. Мядзведзь (Мядзведзеў, з 22.11.1943 г.).

Партызанскі атрад імя С. М. Будзённага створаны ў красавіку 1943 г., дзейнічаў асобна. Камандзіры А. Р. Жураўлёў, К. Е. Мерлякоў, камісары П. Р. Кавалёў, І. Я. Адаменка, П. К. Каламійцаў. 1.8.1944 г. атрад (209 партызан) злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

Партызанскі атрад імя М. І. Калініна створаны ў маі 1943 г. У снежні 1943 г. ўвайшоў у склад партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага. Камандзіры П. М. Кавальскі, Ф. К. Ляпічаў, камісар Ф. А. Бяляеў. 12.7. 1944 г. ў складзе брыгады злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

Партызанскі атрад імя В. П. Чкалава створаны ў кастрычніку 1941 г. З лістапада 1943 г. ў складзе партызанскай брыгады імя Я. М. Свярдлова. Камандзіры Гарбун (загінуў), П. Ф. Дружынін, Ю. А. Бярэнчык (загінуў), В. Т. Філінаў (загінуў), Ф. М. Какшараў, П. Л. Губараў, камісары Ю. А. Бярэнчык, П. Ф. Дружынін, Р. А. Дудко, І. Дз. Сазонаў, А. І. Сямёнаў. 16.7.1944 г. ў складзе брыгады злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

Партызанскі атрад 345-ы створаны ў маі 1942 г. ў Магілёўскай вобл., дзейнічаў у складзе Клічаўскага аператыўнага цэнтра, у 3-й Бярэзінскай партызанскай брыгадзе, з мая 1943 г. дзейнічаў асобна, з жніўня 1943 г. ў Бярэзінскай ваенна-аператыўнай групе. У кастрычніку — снежні 1943 г. зрабіў рэйд у Бярозаўскі р-н і ў студзені 1944 г. ўключаны ў Брэсцкае партызанскае злучэнне. Камандзіры С. А. Яроцкі, В. М. Буры, камісары К. А. Баранаў, В. М. Яроцкі. 12.7. 1944 г. атрад (264 партызаны) злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.



388. *Крамянёвыя прылады са стаянкі-2.*



392. *Уязная брама сядзібы.*




392. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — стайня; 3, 4 — брамы; 5 — бровар.*

Партызанскі атрад 347-ы створаны ў маі 1944 г., дзейнічаў асобна. Камандзір А. Дз. Арбузаў, камісар А. Я. Царыкаў. 12.7.1944 г. атрад (112 партызан) злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.



392. *Сядзібны дом.*

Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунках, зрывалі варожыя перавозкі, знішчалі баявую тэхніку і жывую сілу, грамілі апорныя пункты і гарнізоны праціўніка, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. Пры атрадах імя М. І. Калініна, 345-м і 347-м былі сямейныя лагеры, працавалі «лясныя» школы.

У 1975 г. ў гонар падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і партызан пастаўлена стэла.

*Літ.:* Залескі А. І. Дарогамі партызанскай Беларусі.— Мн., 1974; Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Ковальский Н. М. В Брестских лесах: Записки партизана.— Мн., 1970.

*Г. І. Дулеба.*

**391. РАДЗІМА ЛЮБАРСКАГА** Сцяпана Іванавіча (гіст.).

Генерал-лейтэнант (з 1944 г.) С. І. Любарскі (Сырыська Сцяпан Францавіч) нарадзіўся 27.12.1896 г. З сялян. Член КПСС з 1919 г. З 1911 г. працаваў на фабрыцы ў Беластоку. З 1915 г. ў арміі. У 1918 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію, удзельнічаў у баях супраць войск Дутава і Калчака, супраць басмачоў у Туркестане. У 1932 г. скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе, у 1938 г. Акадэмію Генеральнага штаба, працаваў на кафедры гэтай акадэміі. Удзельнічаў у баях супраць японскіх імперыялістаў каля р. Халхін-Гол, вызваленні Заходняй Украіны ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім, 2-м Беларускім, 4-м і 1-м Украінскіх франтах: намеснік начальніка аператыўнага аддзела штаба фронту, намеснік начальніка, начальнік штаба арміі. Загінуў 16.4.1945 г. пры фарсіраванні р. Нейсэ ў Германіі. Пахаваны ў Львове. Яго імем названа вуліца ў Бярозе.

У 1980 г. ў цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці С. І. Любарскага пастаўлена стэла. *М. Б. Батвіннік.*

**392. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночным беразе воз. Чорнае.

Свабодна спланаваны ансамбль уключае мураваны сядзібны дом на пакатым узгорку, 2 брамы, бровар, іншыя гаспадарчыя пабудовы. Перад домам — пейзажны парк і возера. У канцы 18 ст. пры палацы (не збярогся) пабудавана стайня, якая ў 1-й палавіне 19 ст. перароблена пад сядзібны дом. Цяпер размешчана медыцынская ўстанова.



392. *Сядзібны дом. План.*



393. *Троіцкая царква.*



393. *Троіцкая царква. План.*

Дом прамавугольны ў плане, аднапавярховы, накрыты вальмавым дахам. Асноўны архітэктурна-кампазіцыйны акцэнт будынка — чатырохкалонны порцік у цэнтры галоўнага паўднёвага фасада. Плоскасці сцен рытмічна расчляпёны вялікімі прамавугольнымі вокнамі з простымі драўлянымі ліштвамі. Унутраная планіроўка дома заснавана на калідорнай сістэме. У заходнім тарцы будынка невялікая зала. Акрамя жылых пакояў, у доме былі кухня, сталовая, капліца і шэраг службовых памяшканняў. Два памяшканні маюць крыжовыя скляпенні. Пачатковая аздоба інтэр'ераў не захавалася. Дзве мураваныя брамы (уезд з вёскі і непасрэдна ў сядзібу) вырашаны ў псеўдагатычным стылі, фланкіраваны вежамі, маюць стральчатыя арачныя праёмы з зубчастымі завяршэннямі. Сцены ўпрыгожаны рэльефнымі паяскамі, гіркамі, крыжамі, гербамі, геаметрычным арнаментам.

Сядзіба — помнік сядзібна-паркавай архітэктуры, у якім рысы класіцызму спалучаюцца з элементамі готыкі.

*А. М. Кулагін.*

**393. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1827 г. з дрэва.

Аднаразрубная, накрыта двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. На галоўным фасадзе дах зрэзаны чацверыковай вежай-званіцай з васьмігранным шатром. У цэнтры асноўнага аб'ё-



396. *Царква Іаана Багаслова. Фрагмент іканастаса.*

му цыбулепадобная макаўка на васьміграннай аснове.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму.

**в. Стрыгінь, цэнтр сельсавета**

**394. МАГІЛА ПЯТРОВА** Антона Васілевіча (гіст.). На могілках. Намеснік камандзіра эскадрыллі 96-га бамбардзіровачнага авіяпалка А. В. Пятроў загінуў 24.6.1941 г. ў паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**395. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст С. М. Кірава пастаўлены ў 1967 г.

**396. ЦАРКВА ІААНА БАГАСЛОВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1817 г. з дрэва. Адназрубная, з трохграннай апсідай і невялікім тамбурам. Асноўны аб'ём завяршае чатырохгранная вежачка з макаўкай. Побач з царквой — званіца на 2 слупах, накрытая вальмавым дахам. Царква — помнік народнага дойлідства.



396. *Царква Іаана Багаслова. План.*

**в. Сялец, цэнтр сельсавета**

**397. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 127 воінаў, у т. л. воіны 174-га стралковага палка, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні Бярозаўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**398. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Трохнефавая базіліка сіметрычна-восевай кампазіцыі. У сілуэце будынка дамінуе трох'ярусная шатровая вежа. У архітэктуры выкарыстаны гатычныя формы — стральчатыя вокны і нішы, контрфорсы. Касцёл — помнік архітэктуры неаготыкі.

**399. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На будынку клуба.

За 5—6 км на поўнач і паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гута Міхалін у Вялікую Айчынную вайну дыслацыраваўся партызанскі атрад імя М. Ф. Гастэлы (камандзіры Р. Кандрацьеў, А. Дз. Масквін, М. А. Чэкан, камісар Ц. І. Саўчанка) брыгады імя П. К. Панамарэнкі. Ва ўрочышчах Цёмны Груд і Стублы размяшчаліся сямейныя лагеры.

У 1975 г. ў гонар партызан устаноўлена мемарыяльная дошка.



397. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**400. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 1870 г. з цэглы.

Кампазіцыя плана падоўжна-восевая, чатырохчасткавая: тамбур, бабінец, асноўнае памяшканне з бакавымі парталамі і пяціграннная апсіда з бакавымі прыбудовамі. У сілуэце царквы дамінуюць шатровая званіца і асноўны аб'ём, завершаны чатырохсхільным дахам з цыбулепадобнай галоўкай на васьмерыковым барабане. Асаблівасцю архітэктуры з'яўляецца



396. *Царква Іаана Багаслова са званіцай.*



398. *Касцёл.*



398. *Касцёл. План.*

спалучэнне разнастайных форм дэкору — пілястраў, прафіляваных карнізаў, разных аконных ліштваў, кілепадобных арак парталаў.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Ціхны, Першамайскі сельсавет**

**401. РАДЗІМА ВАЛАСЕВІЧА** Івана Іванавіча (гіст.).



402. *Мікалаеўская царква. План.*



400. *Успенская царква. Бакавы фасад.*

по типовому проекту № 25 на 700 чел.



400. *Успенская царква. План.*

Герой Савецкага Саюза І. І. Валасевіч нарадзіўся 18.8.1909 г. З сялян. Член КПСС з 1929 г. З 1931 г. ў Чырвонай Арміі. У 1932 г. скончыў школу пілотаў імя А. Ф. Мяснікова. Служыў на Чарнаморскім і Балтыйскім флотах — марскі лётчык. Камісар авіяэскадрыллі І. І. Валасевіч вызначыўся ў савецка-фінляндскую вайну 1939—40 гг. Зрабіў 69 баявых вылетаў, збіў адзін самалёт, знішчыў 7 зенітна-ку-



402. *Мікалаеўская царква са званіцай.*

лямётных кропак працаўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.4.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на фронце, ваяваў пад Ленінградам. Збіў некалькі варожых самалётаў. 29.9.1941 г. загінуў у баі.

У 1975 г. на доме, дзе нарадзіўся І. І. Валасевіч, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Чарнякава, Боркаўскі сельсавет**

402. **МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1825 г. з дрэва як касцёл. У 1864 г. ашалявана і накрыта гонтай. У 1868 г. зроблены іканастас і прыбудаваны тамбур. З гэтага часу вядома як Мікалаеўская царква.

Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму прылягае бабінец, з усходу — пяцігранная апсіда з прыбудоўкай. Усе часткі аб'яднаны двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. Дах утварае навісі ў месцах злучэння зрубаў і па баках бабінца. У цэнтры даху — васьмігранны барабан з галоўкай. Галоўны фасад завершаны трохвугольным франтонам з шырокім сцёкам. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. У верхняй частцы бабінца размешчаны хоры. З захаду каля царквы стаіць двух'ярусная каркасная званіца (чацвярык на чацверыку). Сцены ніжняга яруса вертыкальна ашаляваны, завершаны гонтавым сцёкам. Верхні ярус складаецца з дашчанага парапета і калонак, якія падтрымліваюць пакаты шатровы дах.

Царква — помнік традыцыйнага драўлянага дойлідства. *М. С. Кацар.*



**403.** *Помнік на вайсковых могілках.*

**в. Шылін, Углянскі сельсавет**

**403. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі. У 18 брацкіх магілах пахаваны 8 афіцэраў, 177 сяржантаў і салдат 20-й стралковай дывізіі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Бярозаўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Магілы размешчаны ўздоўж алеі, устаноўлены надмагільныя пліты. У 1966 г. ў цэнтры могілак пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Сяленя Я. В. Пад ціхай Ясельдай.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 3. *М. А. Багушэвіч.*




# ГАНЦАВІЦКІ РАЁН




Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## V. ГАНЦАВІЧЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Цна, за 250 км на паўночны ўсход ад Брэста. Чыгуначная станцыя на лініі Лунінец — Баранавічы.

У 2-й палавіне 19 ст. невялікая вёска Слуцкага павета Мінскай губерні, уладанне мясцовага памешчыка графа С. Чапскага. У 1857 г. налічвалася 250, паводле перапісу 1897 г.— 633 жыхары. Будаўніцтва Палескіх чыгунак садзейнічала ўзнікненню лесаперапрацоўчых прадпрыемстваў (пільні, смалакурні), што абумовіла перарастанне невялікай вёскі ў мястэчка. У канцы 19 — пачатку 20 ст. працавала гута прамыслоўцаў В. Краеўскага і І. Столя, дзе выраблялася аконнае, люстранае і высокагатунковае бемскае шкло. У 1909 г. са станцыі Ганцавічы было адпраўлена 45 273 пуды шкляных вырабаў. У 1909 г. ў мястэчку 157 двароў і 1026 жыхароў. У час Рэвалюцыі 1905—07 гг. Лідская арганізацыя РСДРП пасылала ў Ганцавічы сваіх агітатараў і нелегальную літаратуру.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1918 г. Ганцавічы акупіраваны нямецкімі, у 1919—20 гг.— польскімі войскамі. З 1921 г. Ганцавічы ў складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка Лунінецкага павета Палескага ваяводства. У сакавіку — красавіку 1933 г. адбылася забастоўка грузчыкаў лесу. Барацьбу працоўных за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ўзначальвала мясцовая група КПЗБ. У 1935 г.— 2300 жыхароў.

З 1939 г. Ганцавічы ў складзе БССР, з 1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Пінскай вобл.

У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 7.7.1944 г. Ганцавічы акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна з канца 1942 г. да 7.7.1944 г. дзейнічаў Ганцавіцкі падпольны райком КП(б)Б, з мая 1943 г. да 7.7.1944 г.— падпольны райком ЛКСМБ.

З 1954 г. Ганцавічы — цэнтр раёна ў Брэсцкай вобл. У 1959 г.— 3,5 тыс. жыхароў. У 1962—66 гг. уваходзілі ў Ляхавіцкі р-н. З 1966 г. зноў цэнтр раёна. З 1973 г. горад.

У 1975 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва створаны генплан Ганцавіч, у якім удакладнена схема планіроўкі 1967 г. У 1978 г. ў Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва распрацаваны праект дэталёвай планіроўкі цэнтральнай часткі горада.

Горад падзелены чыгункай на 2 планіровачныя раёны — заходні (раён асноўнага капітальнага будаўніцтва) і ўсходні. На скрыжаванні галоўнай вул. Кастрычніцкай — восевай магістралі заходняга планіровачнага раёна — і вул. Гагарына склалася цэнтральная плошча горада. Яе фарміруюць 3—5-павярховыя жылыя дамы і грамадскія будынкі: Дом Саветаў, Дом культуры, Дом быту, Дом сувязі, кінатэатр, гасцініца, рэстаран. Па вул. Мантажнікаў сфарміраваўся сучасны жылы мікрараён з 4—5-павярховымі дамамі.




V. *Забудова вуліцы Кастрычніцкай. Фрагменты.*

Прамысловасць сканцэнтравана ў паўднёвай частцы заходняга планіровачнага раёна. Тут знаходзяцца заводы буйнапанельнага домабудавання і дрэваапрацоўчы, сельскі будаўнічы камбінат. Ва ўсходняй частцы пабудаваны эксперыментальны кансервава-агароднінасушыльны камбінат. У горадзе працуюць хлебазавод, маслазавод, прамкамбінат. Ёсць раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, леспрамгас, лясгас, метэастанцыя.

У Ганцавічах 3 сярэднія, 2 вячэрнія школы з вочнай і завочнай формамі навучання, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі меліярацыйных работ, Дом культуры, Дом піянераў і школьнікаў, кінатэатр, 5 бібліятэк, 6 дзіцячых дашкольных устаноў, бальніца. Выдаецца газета «Савецкае Палессе».

Устаноўлены помнікі: У. І. Леніну, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, работнікам леспрамгаса, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; насыпаны Курган Славы ва



V. *Цэнтральная плошча.*



404. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

урочышчы Горкі. Зона адпачынку размешчана на захад ад Ганцавіч у хваёвым бары на р. Цна і ва ўрочышчы Горкі на паўднёвай ускраіне горада.

*Літ.:* Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Памятная книжка Минской губернии на 1906 год.— Мн., 1905; Rouba N. Przewodnik po Litwie i Białejrusi.— 3 wyd.— Wilno, s. a.; Kalendarz ziem wschodnich na rok 1936.— Warszawa, 1935.

*У. В. Алісейчык, В. Б. Караткевіч.*

**404. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На цэнтральнай плошчы. Пахаваны 88 воінаў і 99 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг.

Сярод пахаваных — экіпаж савецкага бамбардзіроўшчыка 39-га скарасного бамбардзіровачнага авіяпалка Заходняга фронту, які загінуў на 3-і дзень вайны ў паветраным баі над в. Люсіна. У брацкай магіле сярод пахаваных партызан — 39 з брыгад імя П. К. Панамарэнкі, імя У. І. Леніна, 12-й кавалерыйскай імя І. В. Сталіна, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Агарэвіцкага, Любашаўскага, Малькавіцкага, Нацкага і Чудзінскага сельсаветаў. Сярод пахаваных воінаў — 38 воінаў 19-й механізаванай брыгады 1-га механізаванага корпуса 1-га Беларускага фронту, якая ў ліпені 1944 г. наступала ў напрамку Ганцавіч.

У 1956 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў і пліта з імёнамі загінуўшых.

*В. Б. Караткевіч.*

**405. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне горада, ва ўрочышчы Горкі. Насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 8 тыс. жыхароў раёна, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі, і 855 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана пастаўлены 14-метровы абеліск.

**406. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны мірныя жыхары, расстраляныя ў 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1964 г. устаноўлена надмагілле.

**407. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Чыгуначная, у скверы леспрамгаса. На ўшанаванне памяці 11 работнікаў леспрамгаса, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**408. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры горада, у парку. Скульптурная фігура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**в. Агарэвічы, цэнтр сельсавета**

**409. КУРГАН** (археал.). За 3 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Юліна. Вышыня 1,5 м, дыяметр 12 м, паўсферычнай формы, мае кальцавую канаўку, запоўненую попелам і вуголлем. Абследаваў у 1981 г. М. Ф. Гурын. Раней было 15 насыпаў. Выявіў у 1951 г. Б. В. Міралюбаў, раскопвалі ў 1955 г. Б. В. Міралюбаў і Ю. У. Кухарэнка (3 курганы). Курган датуецца 11 ст., належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся ў Пінску.

**410. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. устаноўлена стэла з гарэльефнай выявай салдата (скульпт. Я. А. Шушкоў).

**411. СЯДЗІБА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Плошча каля 6 га. Пабудавана ў



405. *Курган Славы.*



409. *Курган.*

2-й палавіне 19 ст., у 1911 г. дабудоўвалася. Цяпер тут дзіцячая ўстанова.

Комплекс уключае драўляны дом, мураваныя стайню і гумно. Вакол іх парк з пладовым садам і сажалкамі. Планіроўка ансамбля ўпарадкавана прамавугольнай сеткай алей, адна з якіх вядзе ад узорнай двухпілоннай брамы да ганка параднага ўвахода жылога дома.

Сядзібны дом аднапавярховы, Г-падобны ў плане, з паўратондавай прыбудовай, накрыты двухсхільным дахам, закругленым з усходняга і паўвальмавым з заходняга бакоў і дэкарыраваным разнымі дахавымі вокнамі. Чатырохслуповы ганак завершаны двухсхільным дахам з трохвугольным франтонам. Фасады рытмічна падзелены прамавугольнымі аконнымі праёмамі і дэкарыраваны разнастайнай шалёўкай з вылучэннем фрыза і цокаля. Планіроўка сядзібнага дома заснавана на анфіладнай кампаноўцы рознавялікіх памяшканняў вакол 2 вестыбюляў. У некаторых памяшканнях захаваліся рэшткі роспісу сцен і сафітаў.

Гаспадарчыя пабудовы — прамавугольныя ў плане аднапавярховыя



411. *Сядзібны дом.*

аб'ёмы пад двухсхільнымі дахамі. Іх архітэктурная аздоба (пабеленыя лапаткі, ліштвы, карнізы) кантрастна вылучаюцца на чырвоным фоне муроўкі.

Сядзіба — помнік традыцыйнай сядзібна-паркавай архітэктуры Беларусі.
*А. М. Кулагін.*



411. *Сядзібны дом. План.*




411. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — гумно; 3 — стайня.*




410. *Помнік савецкім воінам і партызанам.*

**в. Боркі, Любашаўскі сельсавет**

**412. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 43 аднавяскоўцаў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 12.12.1942 г., у 1967 г. насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск.

**в. Будча, Чудзінскі сельсавет**

**413. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 62 аднавяскоўцаў — воінаў Чырвонай Арміі, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1960 г. пастаўлены абеліск, у 1962 г.— скульптура воіна.

**414. ЮР'ЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1896 г. з дрэва. Пяцізрубная, крыжападобная ў плане, мае цэнтрычна-восевую кампазіцыю. Да цэнтральнага квадратнага ў плане зруба, завершанага васьміграннымі барабанам з высокім шатром, далучаюцца 4 прамавугольныя аднолькавыя па памерах аб'ёмы бабінцаў і апсіды, накрытыя двухсхільнымі дахамі. Перад 3 уваходамі —



411. *Куток парку.*

ганкі з навісямі. Сцены гарызантальна ашаляваны дошкамі і аздоблены дэкорам (разныя дошкі франтона, паяскі, накладныя элементы). У інтэр'еры асноўнае памяшканне злучана з іншымі шырокімі праёмамі з касымі зрэзамі ў верхніх вуглах.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. А. Міцянін.*

**в. Востраў, Нацкі сельсавет**

**415. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Парыжская камуна». На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Вялікія Круговічы, Агарэвіцкі сельсавет**

**416. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**417. ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва. Двухзрубная пабудова з трохграннай апсідай і бакавымі прыбудоўкамі. У прасторавай кампазіцыі дамінуе высокі васьміграпны барабан са шлемападобным завяршэннем. У дэкаратыўнай аздобе выкарыстаны разныя дэталі, ліштвы арачных аконных праёмаў. Перад царквой пастаўлена званіца. Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**418. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 75 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ганцавічы, Любашаўскі сельсавет**

**419. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка праўлення калгаса «Рассвет». На ўшанаванне памяці 35 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і партызанкі.

**в. Дзяніскавічы, цэнтр сельсавета**

**420. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны партызаны брыгад імя У. І. Леніна, імя П. К. Панамарэнкі, 12-й кавалерыйскай імя І. В. Сталіна, якія загінулі ў лютым 1944 г. пры разгроме варожага гарнізона ў вёсцы. Партызаны спалілі лесазавод, дэпо з рамонтнымі майстэрнямі, 4 паравозы для вузкакалейкі. Пахаваны таксама воіны 19-й механізаванай брыгады 1-га механізаванага корпуса 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1957 г. на магіле 15 воінаў і партызан пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Непокоренная Белоруссия: Воспоминания и статьи о всенародном партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг.).— М., 1963. *В. Б. Караткевіч.*

**421. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**421а.** Могільнік-1 (мясцовыя назвы Капцы, Шведскія магілы). За 4 км ад вёскі, справа ад дарогі на в. Нач. Больш за 20 насыпаў вышынёй 1,2—2 м, дыяметрам 8—16 м. Круглыя ў плане курганы паўсферычнай формы, зарослыя лесам. Выявіў у 1952 г. Б. В. Міралюбаў, абследаваў у 1965 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. Па знешніх адзнаках і падабенству з суседнім Ясянецкім могільнікам можа быць вызначаны як пахаванні дрыгавічоў 11—13 стагоддзяў.

**421б.** Могільнік-2. За 5 км ад вёскі, справа ад дарогі на в. Вялікія Круговічы, ва ўрочышчы Смалярня. 28 курганоў вышынёй 0,8—3 м, дыяметрам 7—16 м. Круглыя ў плане курганы паўсферычнай формы. Абследавалі ў 1965 г. П. Ф. Лысенка, у 1981 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.



414. *Юр'еўская царква.*



414. *Юр'еўская царква. План.*

421в. Могільнік-3 (мясцовая назва Шведскія капцы). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, 1,5 км на поўдзень ад дарогі Вялікія Круговічы — Будча, ва ўрочышчы Варацец. 22 насыпы вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 7—15 м. Курганы паўсферычнай формы. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка, М. Ф. Гурын.*

422. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры, у скверы. На ўшанаванне памяці 150 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск.

**в. Дубнякі, Агарэвіцкі сельсавет**

423. **МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Партызан загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Прозвішча невядома. На магіле пастаўлены абеліск.

**в. Задуб'е, Малькавіцкі сельсавет**

424. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 61 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і закатаваны гітлераўцамі ў час нямецка-фашысцкай акупацыі, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Красынічы, Агарэвіцкі сельсавет**

425. **БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 7 км ад вёскі, ва ўрочышчы Чмелішча. Пахаваны партызаны брыгады імя У. І. Леніна В. П. Засімовіч і У. М. Уласовіч, якія загінулі тут у 1943 г. у няроўным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. ўстаноўлена надмагілле.

**в. Кукава, Агарэвіцкі сельсавет**

426. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 14 савецкіх актывістаў — жыхароў в. Перадзелы, расстраляных гітлераўцамі 10.8.1941 г., і жыхароў в. Кукава (больш за 50 чалавек) — воінаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены помнік (скульпт. М. Ц. Палякоў; бетон; вышыня скульптуры 3,5 м, пастамента 1,7 м). На насыпным кургане — скульптурная кампазіцыя: салдат і партызан са зброяй у руках на чатырохгранным пастаменце, на фасаднай плоскасці якога — 2 пліты з імёнамі загінуўшых. Помнік абгароджаны жалезнымі ланцугамі на невысокіх слупах.
*В. Б. Караткевіч, В. В. Церашчатава.*

**в. Лінск, Малькавіцкі сельсавет**

427. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 17 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1960 г. пастаўлены абеліск.

**в. Любашава, цэнтр сельсавета**

428. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Люсіна, цэнтр сельсавета**

429. **МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЯКУБУ КОЛАСУ** (гіст.). У 1902—04 гг. у вёсцы жыў і працаваў настаўнікам Я. Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч), класік беларускай літаратуры, народны паэт БССР (1926 г.), акадэмік АН БССР (1928 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1944 г.).

Я. Колас прыехаў у Люсіна пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Яго глыбока ўразіла беспрасветнае жыццё палешукоў. Малады настаўнік клапаціўся, каб усе дзеці наведвалі школу, наладжваў лекцыі для сялян. У Люсіне Я. Колас пачаў пісаць першую частку трылогіі «На ростанях» — аўтабіяграфічную аповесць «У палескай глушы», дзе паказаў жыццё сялян гэтай вёскі (у аповесці — в. Цельшына).

У 1966 г. на будынку сярэдняй школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Мірачыцкі Л. П. З незабыўных дарог.— Мн., 1961; Народны настаўнік Якуб Колас: Зб. артыкулаў.— Мн., 1966.

430. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 99 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск.



426. *Помнік землякам.*

**в. Макава, Люсінскі сельсавет**

431. **БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны брыгады імя У. І. Леніна Пінскага партызанскага злучэння, якія загінулі 9 мая 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля чыгуначнай станцыі Люсіна. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



421. *Курганны могільнік-1.*

**432. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Круговічы, Агарэвіцкі сельсавет**

**433. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**433а.** Могільнік-1. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Машукоўшчына. 12 курганоў вышынёй 1—2,3 м, дыяметрам 8—18 м, паўсферычнай формы, здзірванелыя, добра захаваліся. Выявіў у 1929 г. С. Пшэворскі, абследавалі ў 1955 г. Ю. У. Кухарэнка і Б. В. Міралюбаў, у 1965 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**433б.** Могільнік-2 (мясцовая назва Шведскія капцы). За 2,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Баркі. 27 курганоў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 5—12 м, круглыя ў плане, паўсферычнай формы. Выявіў у 1929 г. С. Пшэворскі, даследавалі ў 1955 г. Ю. У. Кухарэнка і Б. В. Міралюбаў (імі раскапаны 3 курганы), абследавалі ў 1965 г. П. Ф. Лысенка, у 1970 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. М. Ф. Гурын. Знойдзены гліняны посуд, зроблены на ганчарным крузе, жалезныя абручы і дужка ад вядра. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Могільнік належаў славянскім плямёнам 11—13 стагоддзяў. Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся ў Пінску.

**433в.** Могільнік-3. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Бараціна. 18 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 6—12 м, паўсферычнай формы. Выявіў у 1929 г. С. Пшэворскі, абследаваў у 1981 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Przeworski St. Znalezisko Kruhowickie.— Swiatowit, 1929, t. 13.

*М. Ф. Гурын, П. Ф. Лысенка.*

**в. Малькавічы, цэнтр сельсавета**

**434. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км ад вёскі, па дарозе на в. Лінск, ва ўрочышчы Града. 5 насыпаў вышынёй да 0,5 м, дыяметрам 6—8 м, маюць кальцавыя канаўкі. Выявіў Ю. У. Кухарэнка ў 1960 г. У 1956 г. быў разараны адзін курган, у якім знойдзены літы сярэбраны і цёмна-фіялетавы шкляныя бранзалеты, бронзавае скроневае кольца з падвескамі і 2 гліняныя прасліцы. Помнік датуецца 10—13 стагоддзямі, належаў дрыгавічам.

Знаходкі зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

**435. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Капцы. За 8 км на ПдУ ад вёскі, у лесе. Тры насыпы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 7—12 м. Курганы круглыя ў плане, паўсферычнай формы. Выявіў і абследаваў у 1981 г. М. Ф. Гурын. Раскопкі не праводзіліся.

**436. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля чыгуначнай станцыі. Пахаваны савецкія актывісты Малькавіцкага сельсавета А. Ф. Дворак, А. Ф. Лянкевіч, М. Ф. Лянкевіч, А. Н. Мыслівец, М. К. Страх, Л. П. Якубук, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты 10.8.1941 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**437. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 38 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Нач, цэнтр сельсавета**

**438. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Праўда». На ўшанаванне памяці 125 жыхароў вёсак Гута, Лактышы, Мельнікі, Нач, Ясянец — воінаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Раздзялавічы, Хатыніцкі сельсавет**

**439. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 4 лётчыкі, якія загінулі ў паветраным баі з гітлераўцамі ў 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**440. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі на Выганаўскае возера. Пахаваны 2 воіны і 5 мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хатынічы, цэнтр сельсавета**

**441. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 18 воінаў Чырвонай Арміі і 3 партызаны, якія загінулі ў пачатку ліпеня 1944 г. пры вызваленні вёсак Раздзялавічы і Хатынічы ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Чудзін, цэнтр сельсавета**

**442. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. ўстаноўлена надмагілле.

**443. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на поўдзень ад вёскі, каля дарогі на в. Вялікія Чучавічы Лунінецкага р-на. Пахаваны 10 вясковых актывістаў, у т. л. старшыня калгаса Ф. А. Захарчэня, якіх на гэтым месцы ў 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле насыпаны курган, каля яго падножжа пастаўлены абеліск, на ім высечаны імёны загінуўшых.

**444. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ ГАНЦАВІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА** (гіст.).



*447. Юр'еўская царква. План.*



*447. Юр'еўская царква са званіцай.*

У навакольных лясах у Вялікую Айчынную вайну базіраваліся Ганцавіцкія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, партызанская брыгада імя У. І. Леніна.

Ганцавіцкі падпольны райком КП(б)Б створаны ў канцы 1942 г., дзейнічаў да 7.7.1944 г. Сакратары — М. М. Бандарэнка (да 17.2.1943 г., загінуў), М. С. Бяляй (з 16.7.1943 г.).

Ганцавіцкі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з мая 1943 г. да 7.7.1944 г. Сакратары Я. П. Узянюк, А. А. Замяціна (сакратар па прапагандзе).

Партызанская брыгада імя У. І. Леніна створана ў красавіку 1943 г. Камандзір В. А. Васільеў, камісар І. В. Зібараў. Народныя мсціўцы наносілі ўдары па чыгуначных камунікацыях праціўніка на ўчастках Баранавічы — Лунінец, Баранавічы — Івацэвічы, Пінск — Жыткавічы, праводзілі баявыя дзеянні па шашэйных і грунтавых дарогах. Толькі ў ноч на 6.8.1943 г. ў аперацыі «Рэйкавая вайна» на чыгуначным участку Баранавічы — Лунінец яны пашкодзілі больш за 1,9 тыс. рэек, у выніку рух быў спынены на 14 сутак. Усяго пусцілі пад адхон 110 чыгуначных эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, падарвалі больш за 7 тыс. рэек, 15 чыгуначных мастоў, знішчылі каля 45 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі, 26 гітлераўскіх гаспадарак, разграмілі варожыя гарнізоны ў вёсках Дзяніскавічы і Чудзін Ганцавіцкага р-на і інш. У студзені 1944 г. брыгада вяла баі з карнікамі каля в. Дзятлавічы, Малыя і Вялікія Чучавічы Лунінецкага р-на, Малькавічы Ганцавіцкага р-на. 7.7.1944 г. брыгада (1067 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі і разам з імі ўдзельнічала ў вызваленні Лунінецкага р-на.



*448. Рэчы з курганнага могільніка. Малюнак.*

У 1977 г. на будынку Чудзінскага сельсавета ў гонар падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і партызанскай брыгады ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Г. І. Дулеба.*

**445. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. ўстаноўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**446. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1962 г.

**447. ЮР'ЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1867 г. з дрэва. Аднazрубны аб'ём з трохграннай алтарнай часткай накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. На галоўным фасадзе трохвугольны франтон. Пры ўваходзе — невялікі тамбур з ганкам з 2 калонкамі. Побач з царквой драўляная званіца з шатровым дахам. Царква — помнік народнага дойлідства Палесся. *Т. В. Габрусь.*

**в. Ясянец, Нацкі сельсавет**

**448. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На поўдзень ад вёскі, у лесе, абапал дарогі на в. Вялікія Круговічы, на працягу 1,5—2 км уздоўж і ў асобных месцах збоку ад яе. Больш за 100 насыпаў размешчаны асобнымі групамі па 15—30 курганоў. У плане пераважна круглыя, паўсферычныя, трапляюцца блізкія да квадрата са зрэзанымі вугламі. Вышыня 0,8—1,5 м, асобных курганоў — 2,2—2,5 м, дыяметр 7—15 м. Зарослыя лесам і хмызняком, здзірванелыя. Некаторыя пашкоджаны. Выявіў і раскапаў 3 курганы Б. В. Міралюбаў у 1955 г., у 1961 г. П. Ф. Лысенка раскапаў яшчэ 9. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (трапляецца трупаспаленне) на спіне галавой на захад на попеле рытуальнага вогнішча або ў неглыбокіх ямах (0,2—0,6 м). У некаторых пахаваннях выяўлены сляды спарахнелага дрэва (магчыма, рэшткі дамавін), у 4 знойдзены пахавальны інвентар — гліняныя ганчарныя гаршкі, жалезныя і бронзавыя нажы, баявыя сякеры, спражкі і інш. Могільнік датуецца 11—13 стагоддзямі, належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся ў Пінску.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Лысенко П. Ф. Ясенецкий курганный могильник.— У кн.: Вопросы истории: (Тезисы докладов XII конференции молодых ученых Белорусской ССР).— Мн., 1969.

*П. Ф. Лысенка.*

БРЭСЦКАЯ ВОБЛ.
БРЭСТ
Драгічын



# ДРАГІЧЫНСКІ РАЁН

Маркавічы
Хомск
Бездзеж
Нямерж
Дзеткавічы
Завершa
Дзераўная
Аляксеевічы
Ласінцы
Вулька
Імянін
Равіны
Вавулічы
Антопаль
Брашэвічы
Гутава
ДРАГІЧЫН
Ліпнікі
Корсунь
Вулька-Радавецкая
Асіпавічы
Галоўчыцы
Валавель
Закозель
Папіна
Осаўцы
Белін
Зарэчка
Сварынь
Радастава



Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, валы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## VI. ДРАГІЧЫН

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны за 110 км на ўсход ад Брэста, за 7 км ад чыгуначнай станцыі Драгічын на лініі Брэст — Гомель, на аўтамагістралі Брэст — Пінск.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1452 г. як в. Давячоравічы, з 1623 г. мястэчка Вялікага княства Літоўскага. З 1795 г. ў складзе Расіі, мястэчка Кобрынскага павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1849 г.—167 жыхароў, 98 драўляных будынкаў, у 1897 г.— 2258 жыхароў, 280 дамоў (з іх 140 жылых), царкоўнапрыходская школа, 2 народныя вучылішчы, сельская лячэбніца. Прамысловыя прадпрыемствы напярэдадні 1-й сусветнай вайны: 2 маслабойні, завод па ачыстцы мелу, фабрыка саламяных брылёў, 7 мукамольняў, на якіх працавалі 36 рабочых. Самае вялікае прадпрыемства — фабрыка саламяных брылёў: у 1914 г.— 12 рабочых, выпушчана прадукцыі на 8 тыс. рублёў. У 1915—18 гг. Драгічын акупіраваны нямецкімі войскамі, у 1919—20 гг.— войскамі буржуазнай Польшчы. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, павятовы цэнтр Палескага ваяводства, каля 4 тыс. жыхароў. Тут у 1934 г. адбыўся працэс над 29 членамі КПЗБ. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР (1939 г.) Драгічын увайшоў у Пінскую вобл. З 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. да 17.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (26.6.1943 г.— 30.3.1944 г.) і ЛКСМБ (1.10.1943 г.— 30.3.1944 г.), у кастрычніку 1943 г.— сакавіку 1944 г. выдавалася падпольная газета «Красная заря». З 1954 г. Драгічын у Брэсцкай вобл., 3,5 тыс. жыхароў (1959 г.). З 1967 г. горад.

Планіровачная структура Драгічына традыцыйна фарміравалася ў напрамках асноўных пад'язных шляхоў. У 2-й палавіне 18 ст. забудова канцэнтравалася ўздоўж вуліц, якія адыходзілі ад гандлёвай плошчы — Пінскай, Хомскай, Перкавіцкай і Пірлуніцкай. Вакол рынку сяліліся гандляры і рамеснікі. Тут былі 43 двары, з якіх 14 непасрэдна фарміравалі забудову плошчы і называліся «рынкавымі». У цэнтры плошчы была пабудавана драўляная ратуша, якая традыцыйна аб'ядналася ў комплекс з аўстэрыяй, крамамі і складскімі будынкамі. Акрамя рамеснікаў і гандляроў, у горадзе сяліліся прыгонныя сяляне, таму яго забудова спалучала сельскі і гарадскі тыпы сядзіб, што было характэрна для невялікіх гарадоў і мястэчак Беларусі. У склад Драгічына ўваходзіла прадмесце Зарэчча.




VI. *Плошча Леніна.*

Тэрыторыя сучаснага горада падзелена аўтамагістраллю Брэст — Пінск на паўночны і паўднёвы планіровачныя раёны. Планіроўка квартальная. У 1971 г. ў Брэсцкім філіяле інстытута «Белдзяржпраект» распрацаваны генплан Драгічына. У цэнтры горада па вул. Леніна (участак аўтамагістралі) склалася цэнтральная плошча — пл. Леніна з будынкамі райвыканкома і райкома КПБ. Тут пастаўлены помнік У. І. Леніну. На вул. Леніна пабудаваны кінатэатр, Дом культуры, універмаг, рэстаран, камбінат грамадскага харчавання. Цэнтральныя вуліцы — Леніна, Савецкая, 17 Верасня, Вакзальная, В. Харужай — забудоўваюцца 2—5-павярховымі жылымі дамамі. Будуецца новы мікраёраён у паўночнай частцы горада.

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы — масласырзавод, трактарарамонтны і камбікормавы заводы. Працуюць раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», камбінат бытавога абслугоўвання.

У горадзе 2 сярэднія, завочная, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная



VI. *Забудова вуліцы Леніна. Фрагмент.*

школы, міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 5 дзіцячых дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 кінатэатры, раённыя цэнтральная і дзіцячая бібліятэкі, бальніца, паліклініка. Выдаецца раённая газета «Запаветы Леніна».

Ёсць парк імя Горкага, скверы. Зоны адпачынку — на р. Ясельда (за 20 км на поўнач) і на Дняпроўска-Бугскім канале (за 16 км на поўдзень).

*Літ.:* Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Т. 1.— Вильно, 1865; Белогорцев И. Д. Развитие западных городов Белоруссии: (Методический материал в помощь лектору).— Брест, 1971; Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 2.— СПб., 1863; Городское хозяйство Белорусской ССР: (Основные фонды по состоянию на 1 января 1966 г.).— Мн., 1967; Жучкевич В. А. Топонимика Белоруссии.— Мн., 1968. *У. В. Алісейчык, Э. М. Савіцкі.*

**449. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.



*449. Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



**VI.** *Ратуша. 1779 г. Рэканструкцыя.*

**450. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Леніна, у гарадскім скверы. Пахаваны 248 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**451. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У скверы каля чыгункі. Пахаваны больш за 3 тыс. мірных жыхароў. На гэтае месца ў 1942 г. гітлераўцы сагналі жыхароў з Драгічына, навакольных вёсак і іншых раёнаў і ўсіх расстралялі, у т. л. старых, жанчын і дзяцей. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**452. МАГІЛА ГУБАНКОВА** Івана Паўлавіча (гіст.). На заходняй ускраіне горада, каля чыгуначнага пераезда. Малодшы лейтэнант Чырвонай Арміі І. П. Губанкоў загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**453. МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Вызвалення, у скверы. Пахавана больш за 100 мірных жыхароў і партызан — вязняў гарадской турмы, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—42 гг. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**454. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 138, на будынку райвыканкома.

У сярэдзіне ліпеня 1944 г. войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту выйшлі на рубеж Свіслач — Пружаны. У гэты час у наступленне перайшлі войскі 61-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант П. А. Бялоў). Яны фарсіравалі р. Прыпяць і, авалодаўшы Пінскам, прадаўжалі наступаць у напрамку Драгічын — Кобрын — Брэст. 17.7.1944 г. Драгічын быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пры вызваленні горада вялікую дапамогу савецкім воінам аказалі партызаны. На тэрыторыі раёна дзейнічалі партызанскія брыгады «Савецкая Беларусь», імя Я. М. Свярдлова, імя В. М. Молатава.

Брыгада «Савецкая Беларусь», створаная ў жніўні 1943 г., дзейнічала на тэрыторыі Брэсцкай і Пінскай (Драгічынскі р-н) абласцей. Камандзір М. У. Бабкоў, камісар П. І. Масалаў. У ліпені 1944 г. партызаны перарэзалі шляхі адступлення нямецкім войскам, занялі абарону каля в. Жытлін Касаўскага (цяпер Івацэвіцкага) р-на. 12—17.7.1944 г. брыгада ў складзе 3 атрадаў (863 партызаны) злучылася з Чырвонай Арміяй.

Брыгада імя Я. М. Свярдлова дзейнічала на тэрыторыі Пінскай (Іванаўскі, Ганцавіцкі, Драгічынскі р-ны) і Брэсцкай абласцей. Створана ў лістападзе 1943 г. Камандзір І. П. Марынака, камісар Р. А. Дудко. У 1942—43 гг. партызаны разграмілі больш за 20 апорных пунктаў ворага, знішчылі шмат варожых аб'ектаў, мастоў, у т. л. масты на р. Ясельда, на чыгуначнай станцыі Драгічын. 16.7.1944 г. брыгада ў складзе 4 атрадаў (1001 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

Брыгада імя В. М. Молатава дзейнічала на тэрыторыі Пінскай вобл. (Жабчыцкі, Пінскі, Лагішынскі, Столінскі, Іванаўскі, Драгічынскі р-ны) і Валынскай вобл. УССР. Створана ў



**VI.** *Дом культуры.*

красавіку 1943 г. Камандзір М. І. Герасімаў, камісар Ф. С. Кунькоў. У лютым і сакавіку 1944 г. партызаны вялі баі з праціўнікам на Дняпроўска-Бугскім канале і Прыпяці, найбольш значныя — каля в. Белін і Зарэчка Драгічынскага р-на. Партызаны затрымалі нямецкія войскі, якія наступалі на рубяжах в. Глінна — в. Адрыжын Іванаўскага р-на. 30.3.1944 г. брыгада ў складзе 5 атрадаў (1311 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1965 г. ў гонар воінаў 61-й арміі і партызан брыгад «Савецкая Беларусь», імя Я. М. Свярдлова, імя В. М. Молатава ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Непокоренная Белоруссия: Воспоминания и статьи о всенародном партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг.).— М., 1963; Ковальский П. М. В Брестских лесах: Записки партизана.— Мн., 1970.

*М. К. Кошалеў.*

**455. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТАРАСЮКУ** Івану Паўлавічу і **ДАВІДОВІЧУ** Уладзіміру Іванавічу (гіст.). Вул. Леніна, 149. Тут у 1939 г. загінулі ўдзельнікі рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі — сакратар Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ І. П. Тарасюк і член КПЗБ У. І. Давідовіч.

У верасні 1939 г. І. П. Тарасюк і У. І. Давідовіч арганізавалі паўстанскі атрад, які дапамагаў Чырвонай Арміі вызваляць Заходнюю Беларусь. Раніцай 23 верасня паўстанцы даведаліся, што ў адным з будынкаў на ўскраіне Драгічына зроблена засада пілсудчыкаў, каб сустрэць агнём перадавыя часці Чырвонай Арміі, што ішлі з Пінска. Паўстанцы разграмілі пілсудчыкаў. У баі загінулі І. П. Тарасюк і У. І. Давідовіч.

У 1965 г. на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У школьным музеі баявой і рэвалюцыйнай славы зберагаюцца экспанаты, прысвечаныя І. П. Тарасюку. Яго імем названа вуліца ў Драгічыне. Гл. таксама артыкул № 508 «Магіла Тарасюка Івана Паўлавіча і Давідовіча Уладзіміра Іванавіча».

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*Т. А. Слесарук.*



456. *Помнік У. І. Леніну.*

**456. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, каля будынка райвыканкома. Скульптурная фігура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1952 г.

**в. Аляксеевічы,**
**Немяржанскі сельсавет**

**457. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У скверы. Курган насыпаны ў 1968 г. на ўшанаванне памяці 38 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана пастаўлена стэла з барэльефам воіна.

**г. п. Антопаль,**
**цэнтр пасялковага Савета**

**458. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Пахаваны 38 воінаў і партызан, у т. л. воіны 12-й гвардзейскай стралковай дывізіі 9-га корпуса, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях за вызваленне Антопаля. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**459. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ І ПАЎСТАНЦАЎ** (гіст.). На вул. Савецкай, насупраць сквера. Пахаваны чырвонаармейцы-танкісты Бараноўскі, Мукін, Талстапятаў, Яфімаў і паўстанцы Воласаў, Загрэба, браты Марушкі, якія загінулі ў верасні 1939 г. пры вызваленні Заходняй Беларусі.

Як толькі падраздзяленні Чырвонай Арміі наблізіліся да Антопаля, яго жыхары стварылі паўстанскі атрад для дапамогі вызваліцелям. У баі за пасёлак загінуў экіпаж танка і 5 паўстанцаў. У 1940 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. Л. Шаціла.*

**460. ВАСКРАСЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Савецкая. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва.

Прамавугольная ў плане аднazрубная пабудова, накрытая двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. На галоўным фасадзе чатырохкалонны порцік, над франтонам якога ўзвышаецца цыбулепадобная галоўка на васьмігранным барабане. Такая ж вежачка меншага памеру ўстаноўлена на вільчыку даху над алтарнай часткай. Фасады рытмічна прарэзаны вялікімі арачнымі вокнамі. У комплекс разам з царквой уваходзіць двух'ярусная званіца.

Царква мае рысы, традыцыйныя для драўлянага дойлідства, і некаторыя элементы класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**461. КРАМЫ** (архіт.). У цэнтры плошчы, якая прылягае да вул. Савецкай (адрэзак аўтамагістралі Брэст — Пінск). Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваюцца як гандлёвыя прадпрыемствы.

Аднапавярховы будынак у плане ўтварае замкнёны прамавугольнік з вялікім унутраным дваром (плошча каля 250 м²). У цэнтры процілеглых падоўжных бакоў зроблены праезды. Два рады калон дзеляць унутраную



461. *Крамы. Фрагмент фасада.*



461. *Крамы. Схема планіроўкі.*



461. *Крамы. Фрагмент плана.*



465. *Касцёл.*

прастору будынка на 3 пралёты. Інтэрвал паміж калонамі вызначае памеры гандлёвай секцыі. Кожная з іх перакрыта трохпралётным бочкападобным скляпеннем. Функцыянальна секцыя складаецца з гандлёвай залы, прылаўка і складскога памяшкання. Гандлёвыя залы арыентаваны на плошчу, а складскія памяшканні — ва ўнутраны гаспадарчы двор. Сцены будынка па ўсім перыметры прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі і завершаны прафіляваным карнізам з сухарыкамі.

Крамы — помнік грамадзянскай архітэктуры. У яго кампазіцыі і дэкаратыўных дэталях выкарыстаны элементы архітэктуры класіцызму.

*Т. І. Чарняўская.*

**462. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На поўнач ад пасёлка, ва ўрочышчы Хвойнікі. 2 насыпы вышынёй 1,5 і 2 м, дыяметрам 5 і 12 м. Выявіў у 1960 г. Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1970 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.



468. *Троіцкая царква. Брама-званіца.*



465. *Касцёл. План.*

**463. МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На вул. Савецкай, насупраць сквера. Пахаваны савецкія актывісты Н. І. Кульбаеў, Г. Ф. Ларын, А. М. Трафімаў, І. Ф. Шкроб, А. Шумілін, якія загублены ў 1945—50 гг. ворагамі Савецкай улады. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асіпавічы, Галоўчыцкі сельсавет**

**464. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля праўлення калгаса імя К. Маркса. На ўшанаванне памяці 98 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла, завершаная пагруднай скульптурай жанчыны-маці ў жалобе, побач — мемарыяльная сцяна з іменамі загінуўшых.

**в. Бездзеж, цэнтр сельсавета**

**465. КАСЦЁЛ** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудаваны да 1820 г. з цэглы.

Прамавугольны ў плане выцягнуты па падоўжнай восі будынак накрыты пакатым двухсхільным дахам з вальмай над алтаром. Галоўны фасад мае плоскаснае вырашэнне і завершаны трохвугольным франтонам з невялікай вежачкай. Галоўны ўваход афармлены парталам з паўкруглай люкарнай над ім. Сцены ўнутры і звонку апрацаваны плоскімі пілястрамі і завершаны развітым антаблементам. Інтэр'ер зальны, з плоскай бэлечнай столлю. Над уваходам крывалінейныя ў плане хоры на 2 калонах.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму.

*Т. В. Габрусь.*



468. *Троіцкая царква. План.*

**466. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ КАЛОНА** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на могілках. Пастаўлена ў канцы 18 ст. ў памяць аб Канстытуцыі 3 мая 1791 г. — асноўным законе Рэчы Паспалітай, прынятым на сейме ў Варшаве.

Канстытуцыя 1791 г. з'явілася вынікам барацьбы буржуазіі, якая нараджалася, з феадалізмам. Яна пашырала правы багатых мяшчан, абвяшчала «апеку права» і ўрада над феадальна-залежнымі сялянамі, скасоўвала унію Вялікага княства Літоўскага з Польшчай і аб'ядноўвала абедзве дзяржавы. Канстытуцыя ўводзіла спадчынную манархію, скасоўвала ў сейме «ліберум вета». Усе рашэнні павінны былі прымацца большасцю галасоў. З правам дарадчага голасу ў склад сейма ўводзіліся прадстаўнікі гарадоў. Канстытуцыя 1791 г. была прагрэсіўнай для свайго часу, стварала больш спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталістычных адносін. Канстытуцыя скасавана Гродзенскім сеймам 1793 г.

*Літ.:* Kaczmarczyk Z. Leśnodorski B. Historia państwa i prawa Polski od połowy XV w. do r. 1795.— Warszawa, 1957.

*В. Б. Караткевіч.*

**467. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 146 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**468. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 1784 г. з дрэва.

Будынак складаецца з 2 прамавугольных зрубаў — асноўнага і алтарнага. Двухсхільны дах мае 3 вальмы над алтаром і трохвугольны франтон з паўвальмай на галоўным заходнім фасадзе паміж 2 чацверыковымі вежамі з фігурнымі барочнымі завяршэннямі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, аконныя праёмы прамавугольныя. Пластыка будынка ўзбагачаецца дэкаратыўнай шалёўкай франтона, разнымі ліштвамі, калонкамі і балясінамі ганка. Інтэр'ер зальны, з 4 слупамі ў сярэдзіне. Перакрыцце бэлечнае, з плоскай падшыўной столлю. Рызніцы і ўваходны тамбур убудаваны ўнутры асноўнага аб'ёму. Над тамбурам размешчаны хоры. Па восі ўвахода размешчана двух'ярусная брама-званіца.

У архітэктурным вырашэнні царквы традыцыйныя прыёмы народнага драўлянага дойлідства спалучаюцца з элементамі архітэктуры барока.

*Т. В. Габрусь.*

**в. Белін, Асавецкі сельсавет**

**469. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Савецкая Беларусь». На ўшанаванне памяці 67 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Белінок, Вулькаўскі сельсавет**

**470. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на захад ад вёскі, недалёка ад хутара Клімчука, у лесе, 2 насыпы. Вышыня 2 і 1,5 м, дыяметр 10 і 15 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1970 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Брашэвічы, цэнтр сельсавета**

**471. КУРГАН** (археал.). На ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Брашаў Луг, у лесе. Памер кургана 18×15 м, вышыня 2,2 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1960 г. Ю. У. Кухарэнка. Раскопкі не праводзіліся.
**472. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У скверы, каля будынка сельсавета. Курган насыпаны ў 1975 г. на ўшанаванне памяці 144 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана пастаўлены абеліск, побач з ім — сцяна, на якой знаходзяцца пліты з імёнамі загінуўшых.
**473. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Складаецца з 3 аб'ёмаў: прытвора-званіцы, асноўнага аб'ёму і трохграннай апсіды. У прасторавай кампазіцыі дамінуюць шацёр званіцы і цыбулепадобная васьміграпная вежачка над асноўным аб'ёмам. У дэкоры выкарыстаны элементы старажытнарускага дойлідства: аркатура, закамары, вуглавыя калонкі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Вавулічы, Гутаўскі сельсавет**

**474. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1737 г. з дрэва, перабудавана пасля 1845 г.

Будынак складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага і пяціграннага алтарнага зрубаў, аб'яднаных агульным двухсхільным дахам, які мае 3 вальмы над апсідай і навісі ў месцы злучэння зрубаў. Над цэнтральнай часткай царквы — барабан на васьміграпным пастаменце, завершаны цыбулепадобным купалам. Да апсіды з усходу прыбудавана нізкая рызніца з аднасхільным дахам. Галоўны паўднёвы фасад завершаны франтонам з гонтавым прычолкам. Уваходны тамбур каркаснай канструкцыі далучаны да галоўнага фасада пазней. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны сцяжкамі. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. Над уваходам — хоры, якія апіраюцца на 2 слупы.

З паўднёва-ўсходняга боку асобна ад царквы пабудавана двух'ярусная зрубна-каркасная званіца. Аднолькавыя па памерах чацверыкі аддзелены прычолкам і накрыты шатровым гонтавым дахам.

Царква разам са званіцай складае архітэктурны ансамбль, у якім адлюстраваны тэндэнцыі развіцця мясцовага народнага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*



*474. Царква Раства Багародзіцы. План.*

*474. Царква Раства Багародзіцы. Выгляд з боку апсіды.*

**в. Валавель, Закозельскі сельсавет**

**475. ЮР'ЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1766 г. з дрэва.

Складаецца з прамавугольнага асноўнага і пяціграннага алтарнага зрубаў, аб'яднаных двухсхільным гонтавым дахам, які ўтварае трохвугольныя навісі ў месцы злучэння зрубаў. Галоўны заходні фасад мае крывалінейны франтон, па баках якога ўзвышаюцца 2 чатырохгранныя вежы, завершаныя шасціграннымі барабанамі з галоўкамі і шатрамі над імі. Дах над алтарным зрубам завершаны шасціграннай фігурнай галоўкай. Нізкія рызніцы прыбудаваны абапал апсіды. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з



*475. Юр'еўская царква. План.*



*475. Юр'еўская царква.*

нашчыльнікамі. Аконныя праёмы прамавугольныя, на галоўным фасадзе — паўкруглыя люкарны. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. Над уваходам трапецападобныя ў плане хоры. Перад царквой каркасная двух'ярусная званіца, накрытая шатровым гонтавым дахам.

Царква — прыклад творчай перапрацоўкі ў драўляным дойлідстве форм мураванага двухвежавага храма ў стылі барока. *Т. В. Габрусь.*

**в. Вулька-Антопальская, Антопальскі пасялковы Савет**

**476. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля чыгуначнага пераезда. На ўшанаванне памяці 4 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вулька-Радавецкая, Закозельскі сельсавет**

**477. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Насупраць будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1979 г.

**в. Галік, Галоўчыцкі сельсавет**

**478. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля Дняпроўска-Бугскага канала. 2.6.1942 г. в. Галік была спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Загінулі 28 чалавек, згарэлі 16 двароў. Вёска Ямнік, якая знаходзілася за 3 км на захад ад в. Галік, знішчана захопнікамі ў жніўні 1943 г. Загінулі 10 чалавек, спалены 32 двары.

На ўшанаванне памяці загінуўшых жыхароў гэтых вёсак у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Галоўчыцы, цэнтр сельсавета**

**479. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 77 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**480. ПОМНІК ЧКАЛАВУ** Валерыю Паўлавічу (гіст.). Насупраць будынка праўлення калгаса імя В. П. Чкалава.



*490. Пакроўская царква. Выгляд з боку апсіды.*



**477.** *Помнік У. І. Леніну.*

Бюст лётчыка Героя Савецкага Саюза В. П. Чкалава ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Гаравіца, Радастаўскі сельсавет**

**481. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,4 км на поўдзень ад моста праз Белаазерскі канал. Пахаваны 39 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**482. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, за 0,3 км на поўдзень ад моста праз Белаазерскі канал. Пахаваны 30 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Горыцы, Антопальскі пасялковы Савет**

**483. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля шашы Брэст — Пінск. На ўшанаванне памяці 23 жыхароў вёсак Горыцы і Першамайск, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



**490.** *Пакроўская царква. План.*

**в. Гошава, Хомскі сельсавет**

**484. МАГІЛА САХАШЧЫКА** Паўла Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, партызан Вялікай Айчыннай вайны П. Р. Сахашчык (1910—43 гг.) загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Губерня, Антопальскі пасялковы Савет**

**485. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «1 Мая». На ўшанаванне памяці 11 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гутава, цэнтр сельсавета**

**486. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Курган насыпаны ў 1966 г. на ўшанаванне памяці воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана пастаўлены абеліск.

**487. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 45 мірных жыхароў в. Гутава, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзераўная, Імянінскі сельсавет**

**488. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзеткавічы, цэнтр сельсавета**

**489. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 8 партызан, што вясной 1942 г. былі акружаны гітлераўцамі ў вёсцы і загінулі ў няроўным баі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**490. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1740 г. з дрэва.

Будынак складаецца з 2 прамавугольных у плане рознавялікіх зрубаў (асноўнага аб'ёму і апсіды), накрытых агульным гонтавым дахам. Над галоўным фасадам на вільчыку даху — васьмігранная вежачка з цыбулепадобнай галоўкай. Над апсідай двухсхільны дах пераходзіць у трохграннае пакрыццё з застрэшкамі ў месцах злучэння зрубаў. Прытвор прыбудаваны ў выглядзе невялікага аб'ёму з двухсхільным дахам. Апсіда мае сту-



490. *Пакроўская царква. Звон. 18 ст.*

пеньчатую кампазіцыю за кошт далучэння да яе тарца больш нізкага службовага памяшкання. Бакавыя фасады гарызантальна ашаляваны, расчлянёны лапаткамі і прамавугольнымі вокнамі, завершаны буйным карнізам. Унутраная прастора царквы перакрыта плоскай столлю, над уваходам выступаюць хоры.

Перад царквой стаіць брама-званіца. Яе цэнтрычны чатырохгранны аб'ём завершаны пакатым шатровым дахам. Першы ярус вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, другі — адкрыты, умацаваны каркаснымі стойкамі.

Царква — арыгінальны помнік архітэктуры, у якім увасоблены характэрныя рысы культавага драўлянага дойлідства Беларускага Палесся 18 ст.

*Т. В. Габрусь.*

**491. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (воін і дзяўчына).

**чыгуначная станцыя Драгічын**

**492. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны захад ад станцыі, на ўзгорку абапал дарогі з в. Пярковічы. З поўдня, захаду і поўначы ўзгорак акружае забалочаны луг. Могільнік адкрылі сяляне. У 1962 г. праведзены раскопкі.

На ўскрытым участку знойдзены 5 пахаванняў з рэшткамі перапаленых касцей нябожчыкаў. У 3 пахаваннях косці знаходзіліся ў невялікіх ямах, у астатніх — у урнах. У пахаванні № 1 рэшткі касцей знаходзіліся ў гліняным гаршку-урне, накрытай зверху 2 перавернутымі міскамі. У пахаванні № 4 гліняная урна з рэшткамі касцей зверху накрыта міскай, а паверх яе — вялікай гліняпай пасудзінай (клёшам). Увесь посуд — ляпны. Могільнік належыць плямёнам паморскай культуры, што засялялі гэтую тэрыторыю ў 4—2 стагоддзях да н. э.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Никитина В. Б. Памятники поморской культуры в Белоруссии и на Украине.— Советская археология, 1965, № 1.

*В. Б. Каратневіч.*

**в. Жабер, Хомскі сельсавет**

**493. РЭШТКІ ЗАМКА** (гіст.). За 3 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Ясельда.

Абарончы замак князёў Вішнявецкіх пабудаваны ў пачатку 17 ст. (паводле іншых звестак у 16 ст). На той час гэта было першакласнае ўмацаванне з бастыёнамі галандскага тыпу па вуглах, у плане блізкае да чатырохвугольніка. Пляцоўка замка плошчай больш за 1,5 га была абнесена высокім земляным валам і дубовым частаколам. З захаду замак прыкрываўся Ясельдай з балоцістым правым берагам, з поўначы, усходу і поўдня — ровам з вадой (шырыня да 20 м, глыбіня 5 м). Ва ўмацаванні можна было трапіць толькі па мосце, які мог разбірацца ў час небяспекі.

У час Паўночнай вайны 1700—21 гг. войска караля Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага, прыхільніка шведскага караля Карла XII, 13.5. 1706 г. акружыла замак, яго абаронцам прапанавалі здацца. Гарнізон (700 чалавек, 40 гармат) па ультыматум адказаў гарматнымі залпамі. На дапамогу войску Ляшчынскага прыйшло падмацаванне на чале са шведскім генералам Майерфельдам, які таксама не дабіўся поспеху. Тады Карл XII сам прыбыў сюды з войскам. Шведы аблажылі крэпасць шчыльным кальцом, з Пінска падцягнулі цяжкую артылерыю, з дапамогай якой спадзяваліся разбурыць бастыёны і зламаць супраціўленне гарнізона, аднак гэта не спатрэбілася. Падкуплены камендант замка немец Ботман адчыніў вароты і здаў яго без бою. Карл XII загадаў



492. *Гліняны посуд з пахавання № 4.*





492. *Бескурганны могільнік. План і разрэз пахавання № 4.*



493. *Рэшткі замка. Схема планіроўкі ўмацаванняў.*




**495.** *Помнік Г. М. Дзімітрову.*

зруйнаваць замак, а гарматы закляпаць і затапіць у абводным рове. Адна з іх зберагаецца цяпер у Музеі Войска Польскага ў Варшаве.

У час археалагічнага абследавання замкавага двара выяўлены кераміка 17—18 стагоддзяў, кавалкі цэглы і чарапіцы, паліванай і непаліванай кафлі, манета 1660 г.; захаваліся фундаменты.



**500.** *Помнік землякам.*

*Літ.:* Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 2.— СПб., 1863; Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978. *М. А. Ткачоў.*

**в. Заверша, Бездзежскі сельсавет**

**494. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Г. М. Дзімітрова. Курган насыпаны ў 1970 г. на ўшанаванне памяці 131 аднавяскоўца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана пастаўлены абеліск.

**495. ПОМНІК ДЗІМІТРОВУ** Георгію Міхайлавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Г. М. Дзімітрова. Бюст дзеяча балгарскага і міжнароднага рабочага руху Г. М. Дзімітрова пастаўлены ў 1970 г.

**496. РАДЗІМА ЮСКАЎЦА** Майсея Калінікавіча (гіст.).

Беларускі савецкі эпізаатолаг, мікрабіёлаг і імунолаг, акадэмік АН БССР (1950 г.), акадэмік Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР (1957—61 гг.) М. К. Юскавец нарадзіўся 4.8. 1898 г. ў сялянскай сям'і. У Грамадзянскую вайну ў партызанскім атрадзе, Чырвонай Арміі на Заходнім, Уральскім, Усходнім і Туркестанскім франтах. У 1925 г. скончыў Маскоўскі ветэрынарны інстытут. У 1928—35 гг. працаваў у гэтым інстытуце, з 1931 г. намеснік дырэктара па завочным навучанні і адначасова намеснік дырэктара Дзяржаўнай ветэрынарна-бактэрыялагічнай лабараторыі. Член КПСС з 1929 г. У 1935—41 гг. кіраўнік лабараторыі па вывучэнні туберкулёзу, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Усесаюзнага інстытута эксперыментальнай ветэрынарыі. Доктар ветэрынарных навук (1941 г.), прафесар (1943 г.). У 1942—43 гг. начальнік лячэбна-эпізаатычнага аддзела Галоўнага ваеннага ветэрынарнага ўпраўлення, у 1943—52 гг. загадчык кафедры эпізааталогіі ветэрынарнага факультэта Маскоўскага хіміка-тэхналагічнага інстытута мясной прамысловасці і загадчык дыягнастычнай лабараторыі Дзяржаўнага навукова-кантрольнага інстытута ветэрынарных прэпаратаў Міністэрства сельскай гаспадаркі СССР. У 1952—56 гг. загадчык лабараторыі бруцэлёзу і туберкулёзу Усесаюзнага інстытута эксперыментальнай ветэрынарыі, адначасова (у 1950—56 гг.) загадчык лабараторыі туберкулёзу і бруцэлёзу НДІ жывёлагадоўлі АН БССР. У 1957—61 гг. акадэмік-сакратар аддзялення жывёлагадоўлі і ветэрынарыі Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР, адначасова (у 1957—59 гг.) дырэктар Беларускага ветэрынарнага НДІ. Заслужаны дзеяч навукі БССР (1958 г.). У 1961—69 гг. загадчык аддзела мікрабіялогіі і імуналогіі гэтага інстытута. Распрацоўваў пытанні ліквідацыі бруцэлёзу сельскагаспадарчых жывёл, укараніў паскораны метад аздараўлення гаспадарак пры туберкулёзе буйной рагатай жывёлы, метад вырабу вакцыны з штаму бруцэл № 19. М. К. Юскавец памёр 23.4.1969 г. Пахаваны ў Мінску на могілках па Маскоўскай шашы. *А. Г. Шчарбатаў.*

**в Закляценне, Бездзежскі сельсавет**

**497. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны партызаны А. Гушчэня, Л. Маёраў і А. Паўлюкоў, якія геранчна загінулі 21.6.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**501.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом, 2 — бровар, 3 — капліца-пахавальня.*



**501.** *Капліца-пахавальня. Разрэз.*

**в. Закозель, цэнтр сельсавета**

**498. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 17 мірных жыхароў вёсак Вулька, Каралін і Папіна, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі. Сярод іх былі старыя, дзеці, жанчыны. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**499. МЕСЦА БАЯВЫХ ДЗЕЯННЯЎ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На тэрыторыі Закозельскага спіртзавода. Тут на працягу 1942—43 гг. партызанскія атрады імя А. В. Суворава і М. Ц. Шыша Пінскага партызанскага злучэння тройчы знішчалі варожыя гарнізоны. У 1974 г. ў памяць аб баявых дзеяннях партызанскіх атрадаў на будынку спіртзавода ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**500. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Закозельскі». На ўшанаванне памяці 83 жыхароў вёсак Валавель, Гурка, Закозель, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах, у партызанскай барацьбе, а таксама былі закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе, побач — 2 мемарыяльныя сцяны з імёнамі загінуўшых.



501. *Капліца-пахавальня.*



501. *Капліца-пахавальня. План.*

**501. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Сфарміравалася на працягу 19 ст.

Пабудовы ансамбля — сядзібны дом, бровар, капліца-пахавальня — размешчаны ў парку пейзажнага тыпу з сістэмай вадаёмаў. Большасць паркавых курцін заснавана на эфекце адлюстравання маляўнічых груп дрэў у вадаёмах. Уцалела галоўная ўязная алея і авальны партэр перад домам. Сядзібны дом (не захаваўся) быў вырашаны ў стылі класіцызму.

Будынак бровара двухпавярховы, прамавугольны ў плане, мае па фронту галоўнага фасада каланаду тасканскага ордэра, карнізы і сандрыкі над прамавугольнымі аконнымі праёмамі, што надае утылітарнай пабудове рэпрэзентатыўны характар. Шэраг пазнейшых прыбудоў парушыў пачатковы выгляд будынка.

Капліца-пахавальня, пабудаваная ў стылі несапраўднай готыкі, размешчана на ўзгорку паўднёва-заходняй ускраіны парку. Цэнтрычны квадратны ў плане будынак завершаны шпілем і пінаклямі па вуглах. Сцены звонку ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі, аздоблены скульптурай, арнаментаванай лепкай і шчытамі з геральдыкай. Праёмы стральчатыя. У інтэр'еры скляпенні дэкарыраваны ляпнымі нервюрамі.

У архітэктуры сядзібна-паркавага ансамбля спалучаны рысы класіцызму і псеўдаготыкі. *А. М. Кулагін.*

**в. Заплессе, Драгічынскі сельсавет**

**502. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі. На гэтым месцы 25.6.1941 г. савецкія воіны геранчна стрымлівалі наступленне гітлераўскіх войск на Пінск. У 1977 г. тут пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам і звязкай гранат.

**в. Зарэчка, Папінскі сельсавет**

**503. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**504. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На паўночным беразе Дняпроўска-Бугскага канала, за 0,5 км на ўсход ад моста.

У пачатку лютага 1944 г. камандаванню Брэсцкага партызанскага злучэння стала вядома, што гітлераўцы



501. *Капліца-пахавальня. Фрагмент скляпенняў.*

рыхтуюць буйную карную экспедыцыю з мэтай разгрому партызан, якія дыслацыраваліся ў раёне Сварынскіх лясоў і кантралявалі вялікую зону паміж Дняпроўска-Бугскім каналам і р.



501. *Капліца-пахавальня. Каваныя краты акон.*



502. *Помнік савецкім воінам.*

Прыпяць. 21 лютага супраць партызан былі накіраваны рэгулярныя часці нямецкай арміі, знятыя з фронту. Яны з баямі выйшлі да канала і імкнуліся з ходу фарсіраваць яго. Аднак працаўнік напаткаў моцнае супраціўленне партызан, якія на паўднёвым беразе канала стварылі 50-кіламетровую лінію абароны з акопамі, дзотамі, траншэямі, бліндажамі і заваламі. Скарыстоўваючы выгадныя рубяжы і манеўруючы, партызаны каля 40 дзён паспяхова адбівалі атакі ворага, наносячы яму вялікія страты.

Асабліва цяжкія баі вяліся ў раёне вёсак Белін і Зарэчка. Партызаны атрымлівалі боепрыпасы і ўзбраенне з Вялікай зямлі. У канцы сакавіка 1944 г. фашысты накіравалі ў гэты раён новыя буйныя сілы, у т. л. шмат танкаў і артылерыі. 29 сакавіка ворагу ўдалося фарсіраваць канал і пачаць наступленне ўглыб абароны. Сілы былі няроўныя. У ноч на 30 сакавіка партызаны арганізавана адступілі за Прыпяць, дзе злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі, якія падышлі на дапамогу. Яны не толькі пазбеглі разгрому, але вывелі з сабой і выратавалі ад знішчэння тысячы мірных жыхароў.

У баях за Дняпроўска-Бугскі канал пад камандаваннем П. М. Кавальскага ўдзельнічала 14 партызанскіх атрадаў Брэсцкага і Пінскага злучэнняў агульнай колькасцю каля 6 тыс. чалавек. Выключную стойкасць і гераізм праявілі партызаны брыгад імя В. М. Молатава (камандзір М. І. Герасімаў, камісар Ф. С. Кунькоў), 150-й імя Ф. М. Языковіча (камандзір В. А. Вялігін, камісар С. М. Падута), Пінскай (камандзір І. Г. Шубітыдзе, камісар А. З. Пратасеня). У гісторыю Вялікай Айчыннай вайны гэта бітва ўвайшла пад назвай «Дняпроўска-Бугская абарона».

У 1966 г. ў гонар подзвігу беларускіх партызан пастаўлены помнік — скульптура партызана з вінтоўкай у руцэ.

*Літ.:* Буг в огне; [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Непокоренная Белоруссия: Воспоминания и статьи о всенародном партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг.).— М., 1963; Шубитидзе И. Г. Полесские были.— Мн., 1974; В памяти народной.— Мн., 1969.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Зёлава, Імянінскі сельсавет**

**505. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1842 г. з дрэва.

Крыжападобны ў плане будынак складаецца з 5 зрубаў. Двух'ярусны цэнтральны зруб завершаны масіўным купалам з галоўкай і фланкіраваны па вуглах 4 квадратнымі ў плане вежамі з галоўкамі. З усходу і захаду да яго прылягаюць зрубы алтара і бабінца, з поўдня і поўначы — больш нізкія бакавыя прыбудовы. Асноўны зруб завершаны карнізам на мадульёнах. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, у ніжняй частцы — гарызантальная панель абшыўкі. Прамавугольныя аконныя праёмы размешчаны ў 2 ярусы. У інтэр'еры цэнтральны зруб злучаны шырокімі праёмамі з бабінцам і апсідай. Перакрыццё бэлечнае, з пласкай падшыўной столлю, якая разам з хорамі падтрымліваецца калонамі карынфскага ордэра. Іканастас завяршае скульптурная група «Распяцце з перадстаячымі» (дрэва, разьба, ляўкас, тапіроўка).

Па восі ўвахода ў царкву асобна пабудавана трох'ярусная каркасная званіца-брама, якая складаецца з 2 чацверыкоў (ніжнія ярусы) і васьмерыка (верхні ярус) і накрыта купалам. Ніжнія ярусы гарызантальна ашаляваны дошкамі, верхні — скразны.

У архітэктуры помніка ўвасоблены формы і прыёмы класіцызму.

*Т. В. Габрусь.*

**в. Імянін, цэнтр сельсавета**

**506. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 пар-



505. *Троіцкая царква і званіца.*



505. *Троіцкая царква. План.*

тызан, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**507. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 савецкія воіны, якія загінулі ў 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**508. МАГІЛА ТАРАСЮКА** Івана Паўлавіча і **ДАВІДОВІЧА** Уладзіміра Іванавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны ўдзельнікі рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі — сакратар Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ І. П. Тарасюк і член ячэйкі КПЗБ в. Імянін У. І. Давідовіч (1909—39 гг.).

І. П. Тарасюк (партыйны псеўданім Т а р а с е в і ч) нарадзіўся 9.6.1902 г. ў г. Ерэван у сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1923 г. У Грамадзянскую вайну ў атрадзе ЧОН. З 1921 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі, ствараў ячэйкі КПЗБ. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1923 г. арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы. З-пад арышту ўцёк у СССР, дзе скончыў ваенна-палітычныя курсы (1928 г.) і Ленінградскі камуністычны універсітэт (1931 г.). Быў на палітычнай рабоце ў Чырвонай Арміі, на партыйнай рабоце ў Чыце. З 1932 г. зноў на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі, сакратар Віленскага акруговага камітэта КПЗБ. З канца 1932 г. да 1936 г. быў зняволены. Пасля выхаду з турмы выбраны сакратаром Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ. У верасні 1939 г. стварыў і ўзначаліў паўстанскі атрад, які дапамагаў Чырвонай Арміі вызваляць Заходнюю Беларусь (у раёне Драгічына, Антопаля, Кобрына). Загінуў у Драгічыне ў баі супраць пілсудчыкаў. Яго імем названа вуліца ў Драгічыне. Гл. таксама артыкул № 455 «Мемарыяльная дошка Тарасюку Івану Паўлавічу і Давідовічу Уладзіміру Іванавічу».

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*Т. А. Слесарик.*

**509. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 246 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Какорыца, Бездзежскі сельсавет**

**510. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка васьмігадовай школы. На ўшанаванне памяці 19 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены абеліск.



**511а.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-1.*

**511. СТАЯНКІ** (археал.).

**511а.** С т а я н к а-1. Знаходзіцца за 2 км на поўнач ад вёскі, на паўднёвым беразе воз. Спораўскае. Выявіў і даследаваў у 1963 г. і 1968 г. У. Ф. Ісаенка. Даўжыня стаянкі каля 200 м, культурны пласт 0,4 м. Выяўлены рэшткі вогнішчаў, некалькі соцень апрацаваных крамянёў, у т. л. 70 прылад працы. Стаянка адносіцца да нёманскай культуры, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**511б.** С т а я н к а-2. Знаходзіцца на поўдзень ад вытоку р. Ясельда з воз. Спораўскае, на пагорку вышынёй 3—4 м. Даследаваў у 1963 г. і 1968 г. У. Ф. Ісаенка. Даўжыня 120 м. Зной-



**505.** *Троіцкая царква. Фрагмент бакавога фасада.*



**512.** *Помнік землякам.*



516. *Успенская царква.*

дзены крамянёвыя прылады працы, абломкі глінянага посуду, рэшткі вогнішчаў. Адносіцца да ранняга перыяду нёманскай культуры, датуецца 4-м тысячагоддзем да н. э.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Корсунь, Галоўчыцкі сельсавет**

**512. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля шашы Брэст — Пінск. На ўшанаванне памяці 65 жыхароў вёсак Корсунь, Пігановічы, Толкава, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (воін і партызанка).

**в. Ласінцы, Вулькаўскі сельсавет**

**513. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**514. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў 1-й палавіне 19 ст. з дрэва. Аднаакрубная пабудова, накрытая высокім двухсхільным дахам з макаўкай над алтаром. У архітэктуры царквы адлюстраваны характэрныя прыёмы народнага дойлідства.

**в. Ліпнікі, Драгічынскі сельсавет**

**515. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць клуба. На ўшанаванне памяці 36 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



526. *Міхайлаўская царква. Выгляд з боку апсіды.*



516. *Успенская царква. План.*

**516. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля шашы Пінск — Брэст. Пабудавана ў 1792 г. з дрэва. У 1930-я гады да царквы прыбудавана званіца.

Царква складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага зруба і пяцісценнай апсіды, накрытых гонтавым дахам з хвалямі над трохвугольнымі і алтарнага зрубаў. На сярэдзіне вільнавісямі ў месцы злучэння асноўнага чыка даху барабан на васьмерыку, завершаны галоўкай. Рызніцы, прыбудаваныя абапал алтара, маюць стромкае пакрыццё. Галоўны аб'ём падзелены 6 слупамі на 3 нефы, у паўднёвай частцы — хоры на 2 слупах.

Царква — прыклад драўлянай культавай пабудовы з выразнай аб'ёмнапрасторавай кампазіцыяй і лаканічнымі архітэктурна-дэкаратыўнымі сродкамі. *Т. В. Габрусь.*

**в. Людвінова, Папінскі сельсавет**

**517. МЕСЦА ЖЫЦЦЯ АЖЭШКІ** Элізы (гіст.). Тут у 1858—64 гг. жыла вядомая польская пісьменніца Э. Ажэшка (дзявочае прозвішча Паўлоўская; 1841—1910 гг.).

У 1857 г. Э. Паўлоўская, вярнуўшыся з Варшаўскага пансіёна, пасябравала ў Гродне з уладальнікам маёнтка Людвінова Пятром Ажэшкам, у пачатку 1858 г. выйшла за яго замуж, пазней пераехала да мужа ў Людвінова. Тут яна бліжэй пазнаёмілася з жыццём прыгонных беларускіх сялян, дапамагала ім у час голаду і хвароб. У 1862 г. арганізавала сялянскую школу, у якой навучалася 20 хлопчыкаў. У доме Ажэшкаў збіралася прагрэсіўна настроеная шляхта. Малодшы брат П. Ажэшкі Фларыян (выхаванец Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі) пазнаёміў яе з поглядамі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў, з нелегальнай літаратурай.



526. *Міхайлаўская царква. План.*

9.11.1862 г. ў Людвінове збіралася навакольная шляхта, каб вырашыць пытанне аб удзеле ў паўстанні. У час паўстання 1863—64 гг. Э. Ажэшка перадавала ў паўстанскі атрад Рамуальда Траўгута звесткі пра дыслакацыю царскіх войск, прыносіла прадукты харчавання. У Людвінове лячыўся паранены Р. Траўгут (жыў у в. Востраў). У ліпені 1863 г. Э. Ажэшка дапамагла яму перабрацца ў Польшчу, дзе ён узначаліў штаб паўстання. За ўдзел у паўстанні Пятро і Фларыян Ажэшкі былі арыштаваны і сасланы, а Людвінова секвестравана. У 1864 г. Э. Ажэшка пераехала ў Мількаўшчыну (Гродзеншчына), пазней жыла пераважна ў Гродне.

Э. Ажэшка называла Людвінова універсітэтам свайго жыцця. Тут яна пачала літаратурную дзейнасць, пісала «празаічныя строфы», перакладала Байрана (рукапісы спаліла). Людвіноўскія ўражанні пакладзены ў аснову апавядання «Малюнак з галодных гадоў» (1866 г.), аповесці «Пан Граба» (1870 г.) і іншых твораў. Імем Э. Ажэшкі названа вуліца ў в. Людвінова.

*Літ.:* Гапава В. І. Эліза Ажэшка: Жыццё і творчасць.— Мн., 1969; Jankowski E. Eliza Orzeszkowa.— 2 wyd.— Warszawa, 1966. *А. І. Мальдзіс.*

**в. Ляхавічы, Папінскі сельсавет**

**518. ЦАРКВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з тамбура са званіцай, бабінца, залы, апсіды з прыдзеламі. Будынак мае 2 вертыкальныя дамінанты: трох'ярусную шатровую званіцу ' васьмігранны светлавы барабан з шатром над галоўным аб'ёмам. Фасады апрацаваны гарызантальнай шалёўкай, прарэзаны прамавугольнымі вокнамі ў ліштвах.

Царква — прыклад драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Маліпаўка, Асавецкі сельсавет**

**519. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ (гіст.).** За 2 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Маркавічы, Немяржанскі сельсавет**

**520. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Маркавічы». На ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Новая Папіна, Папінскі сельсавет**

**521. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У скверы каля Дома культуры. Пахаваны члены сям'і партызана М. І. Боцеха, закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. пастаўлена надмагілле.

**522. МАГІЛА ЖУКОЎ** Яна і Стэфаніі (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны ўдзельнікі нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг. Я. і С. Жукі. У канцы 19 ст. пастаўлены 2 надмагіллі і мармуровы крыж.

**523. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці землякоў — партызан і воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Нямержа, цэнтр сельсавета**

**524. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка сельсавета. На ўшанаванне памяці 36 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Осаўцы, цэнтр сельсавета**

**525. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У скверы насупраць школы. Курган насыпаны ў 1965 г. на ўшанаванне памяці воінаў, партызан і мірных жыхароў (усяго 41 чалавек), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На Кургане пастаўлены абеліск.

**526. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1780 г. з дрэва.

Будынак складаецца з 3 прамавугольных у плане зрубаў аднолькавай вышыні, над франтонам накрытых агульным дахам з хвалямі ў месцы іх злучэння. Вільчык даху над франтонам прарэзаны барабанам з галоўкай. Па баках алтарнага зруба невялікія сіметрычныя прыбудовы рызніц. Двух'ярусная чацверыковая брамазвaніца каркаснай канструкцыі з гонтавым шатровым дахам стаіць асобна.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**в. Падлессе, Антопальскі пасялковы Савет**

**527. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**в. Папіна, цэнтр сельсавета**

**528. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1810 г. з дрэва.

Царква двухзрубная. Прамавугольны асноўны і пяцігранны алтарны зрубы накрыты агульным вальмавым дахам, у цэнтры якога цыбулепадобная галоўка на чацверыку. З поўдня да алтара прыбудавана нізкая рызніца, пры галоўным уваходзе — тамбур з двухсхільным дахам. Перад царквой — двух'ярусная каркасная чацверыковая званіца.

Царква — помнік драўлянага народнага дойлідства Палесся. *Т. В. Габрусь.*

**в. Першамайск,**
**Антопальскі пасялковы Савет**

**529. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі. Тут у 1941—44 гг. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі больш за 4 тыс. мірных жыхароў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пірковічы,**
**Драгічынскі сельсавет**

**530. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У скверы. Курган насыпаны ў 1968 г. на ўшанаванне памяці 21 воіна-аднавяскоўца, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана пастаўлены помнік — стэла, завершаная паплечнай скульптурнай выявай воіна.



528. *Званіца Праабражэнскай царквы.*



528. *Праабражэнская царква. План.*



530. *Курган памяці.*

**531. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 19 ст. Цяпер тут размешчана санаторна-лясная школа.

У аснову планіроўкі ансамбля пакладзена падоўжна-восевая кампазіцыя з сядзібным домам у цэнтры рэгулярна-пейзажнага парку. Галоўная алея злучае сядзібны дом і царкву, арыентаваныя адзін да аднаго галоўнымі фасадамі. Пейзажная частка




531. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом, 2 — царква.*




531. *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*



531. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



531. *Царква. План.*

парку разбіта за сядзібным домам вакол штучнага вадаёма. Гаспадарчыя пабудовы не захаваліся.

Сядзібны дом — прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак з мансардай і неглыбокім рызалітам з пілястрамі. Мансардавы паверх, які прарэзвае вальмавы дах, узвышаецца над цэнтральнай часткай і на галоўным фасадзе вырашаны фігурным трохступеньчатым атыкам з рамбічнымі вокнамі. Абодва паверхі маюць калідорную планіроўку з 2 тарцовымі двухмаршавымі лесвіцамі. Цэнтральную частку будынка займалі парадныя залы, вылучаныя на дваровым фасадзе трохгранным эркерам. Аздоба інтэр'ера не захавалася.

Царква — аднанефавы прамавугольны ў плане мураваны аб'ём з двухсхільным дахам. Вырашана ў буйных манументальных формах позняга класіцызму. Сцены з высокімі аконнымі праёмамі раскрапаваны масіўнымі спаранымі пілястрамі. Галоўны ўваход вылучаны порцікам з франтонам на здвоеных паўкалонах. Інтэр'ер залыны, сцены ўнутры раскрапаваны шырокімі пілястрамі. У паўднёвай частцы інтэр'ера хоры, якія падтрымліваюцца масіўнымі слупамі.

У архітэктуры сядзібна-паркавага ансамбля выявіліся рысы позняга класіцызму. *А. М. Кулагін.*

**в. Равіны, Драгічынскі сельсавет**

**532. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Радастава, цэнтр сельсавета**

**533. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1862 г. з дрэва.

Будынак трохзрубны. Асноўны квадратны ў плане зруб накрыты чатырохсхільным дахам з 4 галоўкамі на вуглах і большай у сярэдзіне, больш нізкія алтарны зруб і бабінец — двухсхільнымі. Пры ўваходзе прыбудавана трох'ярусная шатровая званіца. Будынак гарызантальна ашаляваны і багата аздоблены разьбой.

Архітэктура царквы мае рысы псеўдарускага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Сварынь, Радастаўскі сельсавет**

**534. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 52 воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**535. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА БРЭСЦКАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ І ШПІТАЛЯ** (гіст.).

У час нямецка-фашысцкай акупацыі в. Сварынь была адным з партызанскіх цэнтраў, вакол якога групавалася больш за 10 атрадаў. Тут у 1943—44 гг. размяшчаліся штаб Брэсцкага партызанскага злучэння і партызанскі шпіталь. Паблізу вёскі знаходзіўся партызанскі аэрадром. У 1967 г. ў гонар партызан Брэсцкага злучэння ў скверы насупраць школы пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Шубитидзе Н. Г. Полесские были.— Мн., 1974.

*В. Л. Шаціла.*

**в. Свеклічы, Антопальскі пасялковы Савет**

**536. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі каля клуба. На ўшанаванне памяці 11 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Сіманавічы, Вулькаўскі сельсавет**

**537. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У скверы. Курган насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 128 савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана пастаўлены абеліск.

**в. Сорацні, Гутаўскі сельсавет**

**538. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 144 мірных жыхароў в. Сорацні, якія былі расстраляны гітлераўцамі 15.9.1943 г., у 1975 г. пастаўлены абеліск.



533. *Пакроўская царква. План.*



533. *Пакроўская царква. Бакавы фасад.* по типовому проекту № 21 на 250 чел.

**в. Старамлыны, Хомскі сельсавет**

**539. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад в. Старамлыны, на правым беразе р. Ясельда, каля моста, на могілках.

Гарадзішча займае прыбярэжны здзірванелы ўзгорак. Авальнай формы (50×60 м), вышыня да 4 м. З паўднёвага захаду да ўзгорка прылягае крыху ніжэйшая пляцоўка, якая праз 20—30 м пераходзіць у кар'ер. Вядома з канца 19 ст. Даследавалі ў пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1970 г. П. Ф. Лысенка. У абрыве кар'ера прасочваецца культурны пласт інтэнсіўна-чорнага колеру. Выяўлены рэшткі ганчарнай керамікі 11—13 стагоддзяў, арнаментаванай рыфленнем і хвалістай лініяй. Знойдзена жыллё паўзямлянкавага тыпу і ямы гаспадарчага прызначэння. Гарадзішча адносіцца да паселішчаў 11—13 стагоддзяў.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. По Гродненскому Полесью: (Из записной книжки археолога).— Записки Северо-Западного отдела Русского географического общества. Вильна, 1911, кн. 2. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Субаты, Брашэвіцкі сельсавет**

**540. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1797 г. з цэглы.

Будынак — прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты двухсхільным дахам з вальмай над трохграннай апсідай. Вільчык даху завершаны 2 васьміграннымі драўлянымі барабанамі з галоўкамі. Сцены будынка з вялікімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі раскрапаваны ў прасценках пілястрамі. Фрыз антаблемента раскрапаваны выступамі адпаведна пілястрам. Пластыка галоўнага фасада, завершанага драўляным шчытом з дыяганальнай шалёўкай, узбагачана паўцыркульнымі нішамі з конхамі. Асноўны аб'ём перакрыты драўлянай столлю на бэльках з невялікімі падугамі. Над уваходам — трапецападобныя ў плане хоры.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Татарнавічы, Антопальскі пасялковы Савет**

**541. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі на Антопаль. На ўшанаванне памяці 6 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Усходы, Немяржанскі сельсавет**

**542. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 25 мірных жыхароў, расстраляных 23.8.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хомск, цэнтр сельсавета**

**543. КУРГАН** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на полі, каля балота. Вышыня да 1,7 м, дыяметр 7 м. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1970 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**544. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны мірныя жыхары в. Хомск, загубленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Хомскага сельсавета дзейнічала партызанская брыгада імя Я. М. Свярдлова. Яе атрады не раз нападалі на паліцэйскі гарнізон у Хомску і разграмілі яго. Усе спробы гітлераўцаў зноў размясціць у вёсцы гарнізон былі сарваны партызанамі. Летам 1943 г. акупанты спалілі в. Хомск, а жыхароў расстралялі.

У 1965 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. *В. Л. Шаціла.*

**545. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Белаазерск — Драгічын.



540. *Царква Раства Багародзіцы. План.*



540. *Царква Раства Багародзіцы.*



548. *Святадухаўскі касцёл. Фрагмент франтона і наверша.*

Пахаваны 2 тыс. мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**546. МАГІЛА МАКАРЭВІЧА** Яўгена Георгіевіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля дарогі Хомск — Белаазерск.

Камандзір атрада Брэсцкага партызанскага злучэння Я. Г. Макарэвіч нарадзіўся 12.12.1921 г. ў г. Запарожжа. У пачатку 1941 г. пасля заканчэння Астраханскага стралкова-кулямётнага вучылішча быў накіраваны ў г. Гомель. У першыя дні вайны трапіў у палон, уцёк. Арганізаваў партызанскую групу, потым атрад, гераічна змагаўся з акупантамі. Байцы атрада, якім ён камандаваў, ахоўвалі 4 сямейныя лагеры, грамілі варожыя гарнізоны ў Брашэвічах, Вавулічах, Бездзежы, Хомску, узрывалі чыгуначныя масты на перагоне Драгічын — Антопаль, на вузкакалейцы Целяханы — Іванава. Падрыўнікі атрада пусцілі пад адхон некалькі эшалонаў праціўніка. Я. Г. Макарэвіч загінуў летам 1943 г. У ліпені 1943 г. яго імя было прысвоена атраду.



548. *Святадухаўскі касцёл. План.*

У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Залескі А. І. Дарогамі партызанскай Беларусі.— Мн., 1974; Шубітидзе И. Г. Полесские были.— Мн., 1974.

*В. Л. Шаціла.*

**547. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя С. М. Кірава. Бюст савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Язвіны, Асавецкі сельсавет**

**548. СВЯТАДУХАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На паўночны ўсход ад вёскі, на ўзлессі. Пабудаваны ў 1750 г. з цэглы.

Асноўны квадратны ў плане аб'ём невялікім уступам пераходзіць у паўкруглую апсіду, арыентаваную на ўсход. Уся пабудова накрыта стромкім двухсхільным дахам, паўкруглым над алтарнай часткай. Сцяна галоўнага фасада завершана франтонам маляўнічага ўвагнута-выпуклага абрысу. Вось сіметрыі пабудовы падкрэслена праёмам увахода. Пры перабудове касцёла ў праваслаўны храм у сярэдзіне вільчыка даху была зроблена цыбулепадобная галоўка на высокім васьмерыковым барабане. Пластыку архітэктуры ўзбагачаюць скругленыя вуглы будынка, лапаткі і нішы з ракавінамі на галоўным фасадзе. Галоўнае памяшканне перакрыта цыліндрычным скляпеннем, апсіда — конхай. Будынак асветлены 4 лучковымі аконнымі праёмамі і круглай люнетай у апсідзе.

Касцёл — помнік архітэктуры барока.

*Т. В. Габрусь.*

**в. Ялач, Асавецкі сельсавет**

**549. КУРГАН** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на лузе. Вышыня 2,2 м, дыяметр 18 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1970 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

# ЖАБІНКАЎСКІ РАЁН




Падлессе
Арэпічы
Агароднікі
Сцяпанкі
Крыўляны
Хмелева
Мацiевiчы
Вялікія Якаўчыцы
ЖАБІНКА
Пятровічы
Ленінскі
Азяты
Старое Сяло

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Культавая архітэктура

## VII. ЖАБІНКА

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны ў сутоку рэк Мухавец і Жабінка. За 30 км на ўсход ад Брэста. Чыгуначны вузел з напрамкамі на Мінск, Брэст, Гомель.

Жабінка адносіцца да пасяленняў, што ўзніклі ў апошняй чвэрці 19 ст. ў сувязі з будаўніцтвам чыгункі Масква — Брэст, якая ў 1871 г. прайшла праз Кобрынскі павет. Была пабудавана чыгуначная станцыя Жабінка, пры ёй узнік пасёлак, які значна вырас пасля 1882 г., калі ад Жабінкі да Пінска быў пракладзены ўчастак Палескіх чыгунак. У канцы 19 ст. Жабінка мела каля 30 двароў, некалькі крам, гасцініцу і пошту. У пачатку 20 ст. тут створаны першыя прамысловыя прадпрыемствы — суконная майстэрня і пільня.



VII. *Будынак райвыканкома.*

У час 1-й сусветнай вайны Жабінка ў 1915—18 гг. акупіравана нямецкімі войскамі, у 1919—20 гг.— войскамі буржуазнай Польшчы. Савецкая ўлада дзейнічала ў ліпені — жніўні 1920 г. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. Жабінка адышла да буржуазнай Польшчы і ўваходзіла ў Кобрынскі павет Палескага ваяводства. Працоўныя змагаліся за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Барацьбу ўзначальвала мясцовая група КПЗБ. У 1933 г. баставалі рабочыя лесапільнага завода. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР пачаліся карэнныя сацыялістычныя пераўтварэнні. З 1940 г. цэнтр раёна, з 1970 г. горад.

У Вялікую Айчынную вайну Жабінка з 23.6.1941 г. да 18.7.1944 г. была акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя міжрайком КП(б)Б Брэсцкага і Жабінкаўскага р-наў, Жабінкаўскі райком ЛКСМБ.

Сучасны горад развіваецца ў паўднёва-ўсходнім напрамку ўздоўж чыгункі, якая падзяляе гарадскую тэрыторыю на 2 часткі: паўднёвую — жылую і паўночную — прамысловую.

Будынкі адміністрацыйна-грамадскіх і культурна-асветных устаноў сканцэнтраваны на вул. Кірава — галоўнай вуліцы горада. Тут размешчаны будынкі райкома КПБ, райвыканкома, Дом культуры, кінатэатр, будынак вузла сувязі, універмаг, камбінат бытавога абслугоўвання, рэстаран і інш.

Капітальная забудова — у асноўным на вуліцах Кірава і Свабоды. Тут узведзены 3—5-павярховыя жылыя дамы. Да вул. Кірава прымыкае новы мікрараён, які забудоўваецца сучаснымі добраўпарадкаванымі жылымі дамамі. У цэнтральнай частцы горада на вул. Шашэйнай устаноўлены помнік У. І. Леніну. На вул. Кірава пастаўлены помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан Вялікай Айчыннай вайны.



VII. *Помнік У. І. Леніну.*

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы горада: цукровы, камбікормавы, асфальтабітумны заводы. Працуюць раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», будаўнічыя арганізацыі.

У горадзе 2 сярэднія, рабочай моладзі, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, спецшкола-інтэрнат, 4 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, 4 бібліятэкі, бальніца, паліклініка. Выдаецца раённая газета «Сельская праўда». Зона адпачынку размешчана каля р. Мухавец.

*Літ.:* Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и сёла Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*



VII. *Будынак сярэдняй школы № 1.*

**550. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Кірава, у цэнтры горада. Пахаваны 249 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. на тэрыторыі раёна. Сярод пахаваных — воіны 20-й стралковай дывізіі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі 18.7.1944 г. пры вызваленні Жабінкі. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна на пастаменце, перад якой запалены Вечны агонь.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *М. А. Багушэвіч.*

**551. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 360 мірных жыхароў — старых, жанчын, дзя-



550. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

цей, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 27.9.1942 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

552. **МАГІЛА ДЗМІТРУКА** Аляксея Данілавіча (гіст.). На могілках. Партызан А. Д. Дзмітрук загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі акупантамі 23.8. 1942. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

553. **МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АНУФРЫЮКУ** Сяргею Сямёнавічу і **ДЗМІТРУКУ** Аляксею Данілавічу (гіст.). Вул. Наганава, 27.

С. С. Ануфрыюк — член КПЗБ, у 1941 г. супрацоўнік Жабінкаўскага райаддзела міліцыі. Расстраляны гітлераўцамі ў 1942 г.

А. Д. Дзмітрук — член КПЗБ, у 1941 г. начальнік Жабінкаўскага райаддзела міліцыі, у Вялікую Айчынную вайну — партызан атрада імя М. М. Чарнака. Загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 23.8.1942 г.

У 1967 г. на ўшанаванне памяці С. С. Ануфрыюка і А. Д. Дзмітрука на будынку аддзела ўнутраных спраў Жабінкаўскага райвыканкома ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Імем А. Д. Дзмітрука названа вуліца ў Жабінцы. *М. М. Казлоўская.*

554. **МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Кірава, 61. Устаноўлена ў 1955 г. на ўшанаванне памяці партызан І. В. Ватульчанкі, А. Кудзіева, А. К. Кулава, М. А. Пеліна, закатаваных у 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

555. **ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Камсамольская. Пабудавана ў 1885 г. з дрэва.

Вялікі прамавугольны ў плане асноўны зруб накрыты чатырохсхільным дахам з гранёнай вежачкай у цэнтры. Да яго прылягаюць з усходу пяцігранная апсіда з прамавугольнымі рызніцамі па баках, з захаду — вузкі бабінец, завершаны двух'ярусная вежай-званіцай з купалам. Уваходы з трох бакоў праз невялікія прытворы, афармленыя ў выглядзе порцікаў з трохвугольнымі франтонамі. У аздобе фасадаў шырока выкарыстаны элементы класіцыстычнага дэкору: разныя прафіляваныя карнізы з кранштэйнамі і метопамі, капітэлі, клінчаты руст у абрамленні акон.

Архітэктура царквы мае выразныя рысы неакласіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

556. **ПОМНІК АКТЫВІСТАМ** (гіст.). На вул. Кірава. На ўшанаванне памяці савецкіх актывістаў М. Дзяркача, М. і У. Пракапчукоў, Б. Ячніка, расстраляных 20.5.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1954 г. на месцы расстрэлу пастаўлена стэла.



551. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

557. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы саўгаса «Жабінкаўскі». На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



555. *Пакроўская царква. План.*



555. *Пакроўская царква. Бакавы фасад.*



558. *Помнік У. І. Леніну.*

558. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка цукровага завода. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1976 г.

**в. Агароднікі, Якаўчыцкі сельсавет**

559. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 6 савецкіх лётчыкаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле лётчыкаў і на ўшанаванне памяці 42 загінуўшых воінаў-землякоў пастаўлены абеліск.

**в. Азяты, цэнтр сельсавета**

560. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 жыхароў вёскі, расстраляных гітлераўцамі ў сакавіку 1944 г. ў час карнай аперацыі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

561. **МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Да асноўнага аб'ёму, квадратнага ў плане, далучаны чатырохсценная апсіда і праз пераходны зруб трох'ярусная званіца, накрытая васьміграннымі шатром. У цэнтры асноўнага аб'ёму — купал на васьмігранным светлавым барабане. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

562. **РАДЗІМА КРАЧКОЎСКАГА** Юльяна Фаміча (гіст.).

Беларускі і рускі этнограф, педагог і гісторык Ю. Ф. Крачкоўскі нарадзіўся 25.7.1840 г. ў сялянскай сям'і. Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю і Пецярбургскую духоўную акадэмію. Адмовіўся ад духоўнага сапу і стаў выкладчыкам рускай мовы. Каля 30 гадоў працаваў у Маладзечанскай і Полацкай настаўніцкіх семінарыях, інспектарам народных вучылішчаў Тульскай і Віленскай губерняў, дырэктарам Туркестанскай настаўніцкай семінарыі. У 1888—1902 гг. быў старшынёй Віленскай камісіі для разбору і выдання старажытных актаў.

Першы артыкул Ю. Ф. Крачкоўскага (апісанне вясельнай абраднасці беларусаў) з'явіўся ў 1868 г. Асноўныя этнаграфічныя працы: «Нарысы быту заходнерускага селяніна» (1869 г.), «Быт заходнерускага селяніна» (1874 г.). У сваіх працах ён знаёміў чытачоў з багаццем і разнастайнасцю побыту беларусаў, іх вусна-паэтычнай творчасцю. Беларускія фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы дасылаў беларускаму і рускаму этнографу і фалькларысту П. В. Шэйну. Ю. Ф. Крачкоўскі памёр 25.7.1903 г.

*Літ.:* Голуб В. Юлиан Фомич Крачковский: Биографический очерк.— Вильна, 1904; Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.— Мн., 1964.

*В. К. Бандарчык.*

**в. Арэпічы, Сцяпанкаўскі сельсавет**

563. **МАГІЛА РАЦЮКА** Фёдара Яўціхіевіча (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі, у лесе. Старшы лейтэнант Ф. Я. Рацюк загінуў у ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

564. **ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1761 г. з дрэва. Двух'ярусная званіца прыбудавана ў сярэдзіне 19 ст.

Асноўны зруб у плане мае форму выцягнутага прамавугольніка, да якога прыбудавана двух'ярусная званіца. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя грунтуецца на кантрасце нізкага падоўжанага зруба і высокай званіцы. Гладкая бэлька карніза, якую падтрымліваюць кранштэйны, злучае зруб з 1-м ярусам званіцы. У цэнтры даху ўзвышаецца макаўка пад невялічкім шатром.

Царква — прыклад традыцыйных аднаэрубных культавых збудаванняў.

*Т. І. Чарняўская.*



564. *Пакроўская царква. План.*




560. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Бусні, Ленінскі сельсавет**

565. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 49 жыхароў вёскі, расстраляных у 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вежкі, Якаўчыцкі сельсавет**

566. **ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева. Бюст героя Грамадзянскай вайны В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1976 г.



564. *Пакроўская царква.*

**в. Вялікія Сяхновічы, Крыўлянскі сельсавет**

**567. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана да 1727 г. з дрэва, перабудавана ў 1860-я гады.

Будынак — прамавугольны зруб з арыгінальнай алтарнай часткай: у ніжнім ярусе прамавугольная (унутры па баках 2 рызніцы), у верхнім — трохгранная. З захаду да аспоўнага аб'ёму прылягае аднолькавы з ім па вышыні квадратны бабінец, завершаны высокім чацверыком званіцы, накрытым шатром з галоўкай. Дах двухсхільны, над алтарнай часткай, дзе размешчана невысокая фігурная галоўка,— трохсхільны. Сцены вертыкальна ашаляваны. Аконныя праёмы з лучковым завяршэннем, маюць вітражы з геаметрычным малюнкам пераплётаў. Інтэр'ер падзелены 4 калонамі на 3 нефы. У заходняй частцы хоры ў выглядзе арачнай галерэі апіраюцца на 4 круглыя ў плане калонкі.

Царква — прыклад драўлянага народнага дойлідства. *Т. І. Чарняўская.*



567. *Мікалаеўская царква. План.*



567. *Мікалаеўская царква. Выгляд з боку апсіды.*

**в. Вялікія Якаўчыцы, цэнтр Якаўчыцкага сельсавета**

**568. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Прамень». На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, а таксама расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вярхі, Сцяпанкаўскі сельсавет**

**569. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 13 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Глыбокае, Крыўлянскі сельсавет**

**570. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі. На ўшанаванне памяці 38 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзяменічы, Хмелеўскі сельсавет**

**571. РАДЗІМА ГЕРМАНОВІЧА** Маркіяна Якаўлевіча (гіст.).

Савецкі ваенны дзеяч, герой Грамадзянскай вайны, камкор М. Я. Германовіч нарадзіўся 10.11.1895 г. Член КПСС з 1918 г. У Чырвонай Арміі з красавіка 1918 г. У Грамадзянскую вайну быў камандзірам палка, брыгады, дывізіі, удзельнічаў у разгроме англа-амерыканскіх інтэрвентаў на Поўначы, арміі Урангеля, бандаў Махно. Пасля вайны камандзір дывізіі, корпуса. З 1926 г. памочнік камандуючага войскамі Беларускай, Сярэднеазіяцкай і Маскоўскай ваенных акруг. У 1933—37 гг. начальнік Акадэміі механізацыі і матарызацыі РСЧА. З сакавіка 1937 г. намеснік камандуючага войскамі Ленінградскай ваеннай акругі. У 1925—27 гг. член ЦВК БССР, у 1927—28 гг. кандыдат у члены ЦВК БССР. Узнагароджаны 2 ордэнамі Чырвонага Сцяга. М. Я. Германовіч памёр 20.9.1937 г. Яго імем названа вуліца ў Жабінцы.

**в. Драмлёва** (не існуе), **Сцяпанкаўскі сельсавет**

**572. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Драмлёва знаходзілася за 1 км на ўсход ад в. Сцяпанкі. На досвітку 11.9.1942 г. ў вёску ўварваліся гітлераўцы. Карнікі сагналі вяскоўцаў у хлеў і сталі рабаваць вёску. Потым акупанты расстралялі жыхароў і падпалілі вёску. Усяго было забіта і спалена 286 чалавек, знішчаны 43 двары. Вёска не адрадзілася.

У памяць аб загінуўшых людзях і спаленай вёсцы ў 1967 г. насыпаны курган, на вяршыні якога ўстаноўлены гранітны валун. Вёска Драмлёва ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944 гг.— [2 выд.].— Мн., 1965.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Жыцін, Сцяпанкаўскі сельсавет**

**573. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, па дарозе на в. Лясоты. Пахаваны 40 савецкіх грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі. 29.10.1942 г. атрад гітлераўцаў уварваўся ў вёску. Фашысты схапілі і расстралялі сем'і ваеннаслужачых і савецкіх актывістаў, абрабавалі іх ха-



572. *Помнік на месцы спаленай нямецка-фашысцкімі акупантамі в. Драмлёва.*



574. *Мікітаўская царква. Выгляд з боку апсіды.*



574. *Званіца Мікітаўскай царквы.*

ты. Сярод забітых — 12 жанчын і 21 дзіця. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944 гг.— [2 выд.].— Мн., 1965.

**в. Здзітава, Жабінкаўскі гарсавет**

**574. МІКІТАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі, на правым беразе р. Мухавец. Пабудавана з дрэва. Звесткі аб царкве вядомы з пачатку 16 ст. Капітальна перабудавана ў 1787 г.



575. *План умацаванняў замка.*



574. *Мікітаўская царква. План.*

Будынак складаецца з трох частак — асноўнага зруба, бабінца і апсіды, накрытых высокім вальмавым дахам з галоўкай. Прамавугольны зруб бабінца з хорамі прылягае да асноўнага з захаду. Рызніцы прыбудаваны да апсіды і накрыты аднасхільнымі дахамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны сцяжкамі і прарэзаны высока размешчанымі прамавугольнымі вокнамі. Каркасны тамбур прыбудаваны пазней (19 ст.).

Двух'ярусная званіца (чацвярык на чацверыку), накрытая шатром, стаіць асобна з паўднёва-ўсходняга боку ад царквы.

Царква вызначаецца манументальнасцю аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, дасканалымі прапорцыямі і багаццем традыцыйных дэкаратыўна-выяўленчых сродкаў. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Крыўляны, цэнтр сельсавета**

**575. РЭШТКІ ЗАМКА** (гіст.). Недалёка ад вёскі, на правым беразе безыменнай балоцістай рэчкі. У 17 ст. тут знаходзіўся замак князёў Чартарыйскіх. Захаваліся рэшткі замчышча і земляныя ўмацаванні вонкавай лініі абароны — валы, бастыёны, равы. Замчышча, квадратнае ў плане, займае 10 га. З паўночнага ўсходу і поўдня замак надзейна прыкрывала бастыённая сістэма. Магутныя валы шырынёю 7—8 і вышынёю 4 м над пляцоўкай дзядзінца агінаюць абарончы роў. Захаваліся сляды колішняга ўезда. Балоцісты поплаў і рэчка прыкрывалі замак з захаду, таму штучныя ўмацаванні тут значна слабейшыя. У заходнім кутку дзядзінца знаходзіцца невялікі вадаём, абнесены высокім земляным валам і злучаны спецыяльным ровам з рэчкаю. На замчышчы знойдзены абломкі паліванай кафлі і керамікі.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— У кн.: Труды девятого археологического съезда в Вильне 1893. М., 1895. *М. А. Ткачоў.*

**пас. Ленінскі, цэнтр сельсавета**

**576. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Справа ад шашы Брэст — Масква. На ўшанаванне памяці 62 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мацiевічы, Крыўлянскі сельсавет**

**577. ПОМНІК КУЙБЫШАВУ** Валяр'яну Уладзіміравічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. У. Куйбышава. Бюст выдатнага савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча В. У. Куйбышава ўстаноўлены ў 1967 г.

**578. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1720 г. з дрэва, часткова перабудавана ў 1860-я гады, тады ўзведзена і званіца.

Будынак складаецца з прамавугольнага асноўнага зруба і невялікага квадратнага ў плане бабінца аднолькавай з ім вышыні. Над бабінцам — чацвярык званіцы, аддзелены ад яго шырокім гонтавым сцёкам і завершаны шатром з галоўкай. Асноўны зруб накрыты двухсхільным дахам. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны сцяжкамі. Аконныя праёмы з паўцыркульным завяршэннем размешчаны высока. Зальны інтэр'ер у заходняй частцы падзелены 4 слупамі.

Перад царквой захавалася асобная драўляная двух'ярусная каркасная званіца (чацвярык на чацверыку), першы ярус якой вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, другі — адкрыты.

Для помніка характэрны цэласнасць архітэктурнага аблічча, дасканаласць прапорцый і мастацкая выразнасць форм. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Мышчыцы, Ленінскі сельсавет**

**579. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, побач з могілкамі. 12 насыпаў вышынёй 0,3—0,7 м, дыяметрам 8—14 м. Выявіў у 1968 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1970 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Падлессе, Хмелеўскі сельсавет**

**580. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 11 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Палявая Рэчыца, Сцяпанкаўскі сельсавет**

**581. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля шашы Высокае — Пружаны, за 100 м ад вёскі.

24.6.1941 г. сем чырвонаармейцаў на чале з камандзірам уступілі ў няроўны бой з гітлераўцамі. Яны ўстанавілі на ўскраіне лесу гармату і адкрылі агонь па праціўніку. У жорсткім баі былі знішчаны 2 варожыя танкі і 2 аўтамашыны. Мужныя воіны загінулі. Пазней побач з імі былі пахаваны 3 савецкія воіны і партызан А. В. Шульган, якія загінулі ў баях за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

У 1969 г. на брацкай магіле пастаўлена стэла. *М. А. Багушэвіч.*

**в. Пятровічы, цэнтр сельсавета**

**582. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У лесе, за 0,3 км на поўнач ад вёскі. Пахавана больш за 30 мірных грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў верасні 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ракітніца, Пятровіцкі сельсавет**

**583. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У калгасным садзе. На ўшанаванне памяці 82 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск.

**584. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 чалавек з сем'яў ваеннаслужачых Чырвонай Арміі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў верасні 1941 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старое Сяло, Азяцкі сельсавет**

**585. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Партызаны Старасельскага атрада (з чэрвеня 1943 г. імя М. М. Чарнака) М. Ануфрыюк і В. Курылаў загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 23.3.1942 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**586. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Раслаўка, абапал лясной дарогі ў в. Антанова. 22 курганы (2 з іх — за мастком па скрыжаванні лясных дарог). Курганы круглыя ў плане, насыпаны з пяску, дыяметрам 8—10 м, вышынёй 1—1,5 м. Могільнік вядомы з 19 ст. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— У кн.: Труды девятого археологического съезда в Вильне 1893. М., 1895. *М. А. Ткачоў.*

**587. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**587а.** Могільнік-1. За 7 км на захад ад вёскі, у лесе. 3 насыпы вышынёй 0,3, 0,7 і 0,8 м, дыяметрам 7,9 і 14 м. Курганы задзернаваны, моцна аплылі і пашкоджаны ямамі скарбашукальнікаў. Абследавала ў 1980 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**587б.** Могільнік-2. За 10 км на поўдзень ад вёскі, 6 паўсферычных насыпаў, якія задзернаваны і зараслі соснамі. Вышыня курганоў 0,4—0,5 м, дыяметр 10—13 м. Абследавала ў 1980 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся. *Н. М. Дубіцкая.*

**588. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, у лясным урочышчы Заброддзе. Пахаваны 67 партызан Старасельскага партызанскага атрада (з чэрвеня 1943 г. атрад імя М. М. Чарнака, з ліпеня 1943 г. ў брыгадзе імя І. В. Сталіна Брэсцкага партызанскага злучэння).

Старасельскі атрад створаны ў чэрвені 1941 г. На дзень арганізацыі ў ім было 60 партызан. У пачатку сакавіка 1944 г. ў атрадзе 420 чалавек. Камандзіры атрада — С. С. Шыканаў, Л. Т. Бізяеў, І. Ф. Хоміч, камісары — Л. П. Зяленін, А. І. Аршыпаў.

Атрад правёў дзесяткі баявых аперацый. Партызаны рабілі дыверсіі на камунікацыях ворага, знішчалі яго жывую сілу і тэхніку. У кастрычніку 1943 г. яны правялі 27 баявых аперацый, пусцілі пад адхон 13 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка. Народныя мсціўцы разграмілі фашысцкія гарнізоны ў вёсках Азяты, Антанова, Вялікарыта, Макраны, Навасёлкі, Ракітніца, Ратна, Старое Сяло, Чарняны і інш. Атрад імя М. М. Чарнака 22.3.1944 г. выйшаў у савецкі тыл, злучыўся з 1293-м стралковым палком 160-й стралковай дывізіі і разам з воінамі змагаўся з ворагам у Любяшоўскім р-не Валынскай і Дзівінскім р-не Брэсцкай абласцей. 15 мая атрад вярнуўся ў варожы тыл. У другі раз злучыўся з Чырвонай Арміяй 21.7.1944 г.



578. *Царква. План.*



578. *Царква.*



588. *Помнік на партызанскіх могілках.*




589. *Помнік на магіле М. М. Чарнака і чатырох партызан.*

У 1969 г. на партызанскіх магілках пастаўлены помнік у выглядзе будана, побач — стэла, на якой устаноўлена мемарыяльная дошка з імёнамі загінуўшых партызан.

*Літ.:* Боровский А. И. О них молчали сводки: [Брестское антифашистское подполье].— Мн., 1970; Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.
*Г. І. Дулеба.*

**589. ПОМНІК НА БРАЦКАЙ МАГІЛЕ ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). У вясковым скверы. Пахаваны 5 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — Міхаіл Мікітавіч Чарнак, адзін з арганізатараў партызанскага руху ў Жабінкаўскім р-не ў Вялікую Айчынную вайну.

М. М. Чарнак нарадзіўся 1.11.1911 г. ў в. Старое Сяло Жабінкаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Член КПЗБ. Перад вайной працаваў старшынёй Старасельскага сельсавета. Адзін з стваральнікаў у 1941 г. Старасельскага партызанскага атрада і да 2.5.1943 г. намеснік камандзіра па разведцы. Вызначаўся арганізатарскімі здольнасцямі, храбрасцю і знаходлівасцю. Партызаны пад яго камандаваннем правялі шэраг баявых аперацый. Ён асабіста ўдзельнічаў у разгроме 4 варожых гарнізонаў, знішчыў да 40 гітлераўцаў. Аднойчы пад выглядам селяніна-возчыка М. М. Чарнак пранік на фашысцкі зброевы склад у Брэсце і вывез у партызанскі атрад 6 станковых кулямётаў, 10 скрынак гранат і патронаў. Імя М. М. Чарнака стала легендарным, наводзіла жах на фашыстаў. Яны абяцалі за яго галаву вялікую ўзнагароду. 2.5.1943 г. М. М. Чарнак загінуў у баі. Старасельскаму партызанскаму атраду было прысвоена імя М. М. Чарнака. Яго імем названа вуліца ў г. Жабінка.



592. *Міхайлаўская царква. Бакавы фасад.*

У 1975 г. на магіле М. М. Чарнака і 4 партызан пастаўлены помнік (скульпт. Г. Пясецкі, арх. В. Пак; бетон; вышыня бюста 2,1 м, пастамента 3,5 м).

Помнік уяўляе сабой архітэктурна-скульптурны ансамбль, які складаецца з бюста М. М. Чарнака, устаноўленага на чатырохгранным пастаменце з невялікім ступеньчатым выступам на фасаднай частцы, і кальца, што зліваецца з пастаментам, крыху прыўзнятым над зямлёй (0,2 м) і пастаўленым на 2 невялікія падстаўкі. У цэнтры кальцо разарвана і ўтварае праход да надмагілля. Пастамент і кальцо абліцаваны гранітным карычнева-чырвоным друзам. Перад уваходам — стэла з выявай ордэна Айчыннай вайны. Справа ад помніка — другая стэла з памятным надпісам. Бюст і архітэктурныя элементы (пастамент, кальцо і стэлы) прасторава і пластычна звязаны паміж сабой. Вобраз М. М. Чарнака вырашаны ў рэалістычнай манеры.

*Літ.:* Боровский А. И. О них молчали сводки: [Брестское антифашистское подполье].— Мн., 1970; Буг в огне: [Зб. успамінаў].—3 изд.— Мн., 1977.
*Г. І. Дулеба, В. В. Церашчатава.*

**в. Сцяброва, Жабінкаўскі гарсавет**

**590. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 72 мірныя жыхары, расстраляныя



592. *Міхайлаўская царква. Папярочны разрэз і план.*

нямецка-фашысцкімі захопнікамі 27.10.1942 г. Гітлераўцы пад выглядам праверкі дакументаў сагналі ў цэнтр Сцяброва яе жыхароў і насельніцтва навакольных вёсак. 8 чалавек яны прымусілі капаць яму. Адвячоркам фашысты прыгналі да ямы мірных жыхароў і расстралялі.

У 1967 г. на магіле ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944 гг.— [2 выд.].— Мн., 1965.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Сцяпанкі, цэнтр сельсавета**

591. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 286 жыхароў в. Драмлёва, загубленых гітлераўцамі 11.9.1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 572 «Месца спаленай вёскі».

592. **МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана да 1780 г. з дрэва. У пачатку 20 ст. да ўвахода прыбудавана трох'ярусная званіца, ніжні ярус якой з'яўляецца бабінцам.

Будынак — трохнефавая базіліка. Цэнтральны неф, які пераходзіць у алтарную частку, накрыты двухсхільным дахам, бакавыя — аднасхільнымі. На галоўным паўднёвым фасадзе бакавыя нефы завершаны 2 чацверыковымі вежамі з купаламі. Такі ж купал узвышаецца на даху цэнтральнага нефа. Васьмігранная вежа званіцы завершана шатром з галоўкай і аздоблена дэкаратыўнымі элементамі. Інтэр'ер падзелены на 3 нефы 4 калонкамі, на 2 з якіх апіраюцца хоры ў паўднёвай частцы будынка. Памяшканне асвятляецца невялікімі прамавугольнымі вокнамі ўверсе цэнтральнага нефа, а з бакоў — вялікімі лучковымі вокнамі з каляровым шклом і геаметрычным малюнкам пераплётаў.

Царква з'яўляецца інтэрпрэтацыяй мураванага базілікальнага двухвежавага храма ў драўляным дойлідстве.

*Т. І. Чарняўская.*



594. *Праабражэнская царква. План.*



594. *Праабражэнская царква. Выгляд з боку апсіды.*

**в. Хадасы, Ленінскі сельсавет**

593. **КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Падоўжанай формы (40×15 м), вышыня 2 м. Насып добра захаваўся, задзернаваны. Выявіў у 1968 г. В. Р. Супрун. Абследавала ў 1980 г. Н. М. Дубіцкая. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Хмелева, цэнтр сельсавета**

594. **ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1725 г. з дрэва. У 19 ст. часткова перабудавана (перароблены тамбур, зменены верх і інш.). Тады ж побач з храмам пастаўлена драўляная каркасная двух'ярусная званіца (1-ы ярус ашаляваны, 2-і — адкрыты ў выглядзе арак).

Царква ў плане крыжовая з пяціграннай апсідай і 2 рызніцамі на ўсход. Да галоўнага заходняга фасада, які ўтварае бабінец, прыбудаваны тамбур з шырокай лесвіцай. Аб'ём царквы цэнтрычны, кампактны, што дасягаецца аднолькава кароткімі крыламі трансепта і асобнымі дахамі — трохсхільнымі над крыламі трансепта, двухсхільным над бабінцам і пяцісхільным над алтаром. У дэкоры выкарыстаны класіцыстычныя дэталі — масіўныя руставаныя лапаткі па вуглах і на галоўным фасадзе. Над сяродкрыжжам — фігурная шмат'ярусная галоўка. У інтэр'еры вылучаецца асноўная зальная прастора, якая 2 калонкамі аддзелена ад трансептаў. Перакрыцце плоскае, бэлечнае.

Царква — прыклад крыжовага драўлянага храма, у якім рысы барока спалучаюцца з элементамі класіцызму.

*Т. І. Чарняўская.*

**в. Чыжэўшчына, Ленінскі сельсавет**

595. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 9 жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 30.9.1943 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

596. **УЛАДЗІМІРСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1894 г. з цэглы, на мес-



592. *Міхайлаўская царква. Іканастас.*



594. *Праабражэнская царква. Бакавы фасад.*



596. *Уладзімірская царква.*

цы колішняга манастыра (існаваў з 16 ст., згарэў у 1882 г.).

Царква ў плане крыжападобная, з масіўным купалам на светлавым барабане і крыху меншым над бабінцам. Усходняя частка завершана



596. *Уладзімірская царква. План.*

пяціграннай апсідай. Шматлікія дэкаратыўныя элементы галоўнага і бакавых фасадаў нагадваюць формы старажытнарускага дойлідства (аркатурны пояс, какошнікі, своеасаблівыя калонкі). У інтэр'еры храма выразна вылучаецца падкупальная прастора, 4 слупы, размешчаныя ў цэнтры, з'яўляюцца асновай для надпружных арак, што падтрымліваюць купал на ветразях.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *Т. І. Чарняўская.*

**в. Шпіталі, Сцяпанкаўскі сельсавет**

**597. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР СТВАРЭННЯ КАЛГАСА** (гіст.). На будынку праўлення калгаса «Усход». Вясной 1940 г. жыхары вёсак Шпіталі і Сцяпанкі арганізавалі першы ў Брэсцкай вобласці калгас. У гонар гэтай падзеі ў 1978 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Шчэглікі, Ленінскі сельсавет**

**598. МАГІЛА ФІЛІПУКА** Івана Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках.

І. Дз. Філіпук — член КПЗБ, удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, падпольшчык і партызанскі сувязны ў Вялікую Айчынную вайну. Нарадзіўся ў 1908 г. ў сялянскай сям'і. Семнаццацігадовым юнаком уключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. Вёў агітацыйную і арганізацыйную работу, наладжваў тайныя сходы, распаўсюджваў лістоўкі. Вясною 1928 г. арыштаваны і засуджаны на 4 гады зняволення. Пасля выхаду з турмы быў сакратаром Жабінкаўскага падпольнага райкома КПЗБ. У студзені 1932 г. зноў засуджаны на 6 гадоў пазбаўлення волі. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. працаваў загадчыкам зямельнага аддзела Жабінкаўскага райвыканкома. У Вялікую Айчынную вайну па заданню партызанскага камандавання наладзіў і падтрымліваў сувязь з савецкай разведчыцай Л. А. Базанавай, якая дзейнічала ў Брэсце. У красавіку 1944 г. быў арыштаваны гітлераўцамі і забіты пры спробе ўцячы.

У 1967 г. на магіле І. Дз. Філіпука пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

# ІВАНАЎСКІ РАЁН







- Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы
- Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы
- Цэнтры рамёстваў
- Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)
- Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)
- Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)
- Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва
- Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі
- Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду
- Культавая архітэктура

## VIII. ІВАНАВА

Горад, цэнтр раёна. Размешчана на р. Самараўка (басейн Прыпяці), за 132 км на ўсход ад Брэста. Чыгуначная станцыя Янаў-Палескі на лініі Брэст — Пінск. Аўтобусная станцыя.

Вырас з вёскі Янава, якой у 15 ст. быў нададзены статус мястэчка (колішняя ўласнасць Шуйскіх, потым Ажэшкаў). Да канца 18 ст. ў Вялікім княстве Літоўскім, з 1795 г. ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка Кобрынскага павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1897 г. ў Іванаве 3041 жыхар, 724 дамы (у т. л. 9 мураваных), 2035 гаспадарчых пабудоў, народнае вучылішча, царкоўнапрыходская школа, суканвальная фабрыка, гарбарны і цагельны заводы, маслабойня, 5 млыноў. У 1914 г. было 11 дробных прамысловых прадпрыемстваў. Галоўны занятак насельніцтва — земляробства, дробны гандаль і часткова возніцтва.

У 1915—18 гг. акупіравана германскімі, у 1919—20 гг.— польскімі войскамі. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў 1920 г. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. ўвайшло ў склад буржуазнай Польшчы, у Пінскі павет Палескага ваяводства. Налічвала 3 тыс. жыхароў. З 1939 г. Іванава ў складзе БССР, з 1940 г.— гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Пінскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну (з чэрвеня 1941 г. да 16.7.1944 г.) акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (канец 1942 г.— 30.3.1944 г.), выдавалася падпольная газета «Партизан Полесья». З 8.1.1954 г. цэнтр раёна Брэсцкай вобл. (у 1962—65 гг. ў Драгічынскім р-не), з 1971 г. горад. У 1974 г. ў Мінскім філіяле Беларускага дзяржаўнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва распрацаваны генеральны план горада. Сучасны горад захоўвае гістарычна складзеную квартальную планіроўку. Цэнтральны жылы раён з капітальнымі жылымі і адміністрацыйнымі будынкамі размешчаны ў паўночнай частцы горада. Развіццё горада прадугледжана ў паўночным напрамку. Ажыццяўляецца рэканструкцыя галоўных вуліц — Савецкай, Леніна, Карла Маркса.

Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр — пл. Кастрычніка, дзе пастаўлены помнік У. І. Леніну. Тут знаходзяцца будынкі райкома КПБ і райвыканкома, Дом культуры, кінатэатр, школа і інш. У скверы — помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан. На паўночнай ускраіне па вул. Пушкіна знаходзяцца могілкі ахвяр фашызму.

За гады Савецкай улады пабудаваны завод па вытворчасці масла і сухога абястлушчанага малака, кансервавы завод, цэх Пінскага хлебазавода, завод жалезабетонных вырабаў. Працуюць міжраённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання, птушкаплемрэпрадуктарная гаспадарка, 6 будаўнічых арганізацый. Цяпер прамысловая зона фарміруецца ва ўсходняй частцы горада. У Іванаве 3 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 4 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, 2 масавыя бібліятэкі, кінатэатр, бальніца. Выдаецца раённая газета «Чырвоная звязда».

Зона адпачынку — гарадскі парк.

*Літ.:* Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и сёла Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959.

*М. У. Варакcін, А. А. Міцянін.*

**599. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На пл. Кастрычніка, у скверы. Пахаваны 28 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. на тэрыторыі Іванаўскага р-на ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — камандзір партызанскага атрада імя М. І. Кутузава А. Н. Гаманішын і партызанскі разведчык І. Лінскі. У брацкую магілу ў 1946 г. перанесены астанкі воінаў і партызан, што былі пахаваны ў вёсках Ляскавічы, Магільна, Рудск, Снітава.



**599.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. На адной з мемарыяльных пліт ушанавана памяць 28 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**600. БРАЦКАЯ МАГІЛА СУПРАЦОЎНІКАЎ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Савецкая, каля сярэдняй школы № 3. Пахаваны 8 супрацоўнікаў раённага аддзела міліцыі, якія загінулі ў барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады ў 1944—50 гг. У 1980 г. на магіле пастаўлены помнік: пліта з выявай пяцікантовай зоркі ў кальцы, ад прамянёў якой узнімаюцца вертыкальныя гранёныя пілоны.

**601. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Пл. Кастрычніка, 2, на будынку райвыканкома.

Горад вызвалены ў ходзе Беларускай наступальнай аперацыі 1944 г. Войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту да сярэдзіны ліпеня 1944 г. выйшлі на лінію Пружаны — Слонім — Пінск. Часці 12-й гвардзейскай стралковай дывізіі ў складзе 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі 12 ліпеня фарсіравалі ў раёне г. Пінск р. Піну і 16.7.1944 г. авалодалі г. Іванава.



**VIII.** *Плошча Кастрычніка.*



603. *Помнік на могілках ваеннапалонных, партызан і ахвяр фашызму.*

У час Вялікай Айчыннай вайны на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Іванаўскага р-на дзейнічалі партызанскія брыгады: 99-я імя Дз. Ц. Гуляева, імя В. М. Молатава, імя Я. М. Свярдлова.

99-я партызанская брыгада імя Дз. Ц. Гуляева створана ў студзені 1943 г. ў Мінскай вобл., у снежні 1943 г.— студзені 1944 г. перадыслацыравана ў Пінскую вобл. Імя Гуляева прысвоена ў верасні 1943 г. Камандзіры І. М. Кулікоўскі (студзень — люты 1943 г.), А. Ц. Чайкоўскі (люты — верасень 1943 г.), У. К. Якавенка (верасень 1943 — ліпень 1944 гг.), камісары А. Ц. Чайкоўскі (студзень — люты 1943 г., верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.), М. К. Панцялеенка (сакавік — верасень 1943 г.). Партызаны ўдзельнічалі ў абарончых баях на р. Ясельда ў час наступлення гітлераўцаў на народных мсціўцаў у красавіку 1944 г. На Агінскім канале пабудавалі пераправу і ўтрымлівалі яе да падыходу часцей Чырвонай Арміі. Разам з савецкімі войскамі вызвалялі г. п. Целяханы, вёскі Азарычы, Краглевічы. 10.7.1944 г. брыгада (415 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння яднала атрады імя К. Я. Варашылава, імя М. Ц. Грабко, імя М. М. Воранава.

Партызанская брыгада імя В. М. Молатава створана ў красавіку 1943 г. Камандзір М. І. Герасімаў, камісар Ф. С. Кунькоў. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгунцы Брэст — Пінск, Лунінец — Баранавічы, Ковель — Брэст, на Дняпроўска-Бугскім канале. Удзельнічалі ў разгроме варожага гарнізона на чыгуначнай станцыі Сінкевічы Лунінецкага р-на, знішчылі мост на р. Лань, разграмілі гарнізон на чыгуначнай станцыі Вулька Іванаўскага р-на. У лютым — сакавіку 1944 г. вялі баі супраць ворага на Дняпроўска-Бугскім канале і Прыпяці. 30.3.1944 г. брыгада (1260 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння яднала атрады імя М. Ц. Шыша, імя С. Г. Лазо, імя А. В. Суворава, імя М. І. Калініна, імя П. П. Паталаха.

Партызанская брыгада імя Я. М. Свярдлова створана ў лістападзе 1943 г. Камандзір — І. П. Марыняка, камісар — Р. А. Дудко. Партызаны брыгады разграмілі больш за 20 апорных пунктаў ворага, валасных управаў, маёнткаў. Разам з Чырвонай Арміяй удзельнічалі ў вызваленні вёсак Моталь і Асаўніца Іванаўскага р-на. 16.7.1944 г. брыгада (981 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй. На дзень злучэння яднала атрады імя В. П. Чкалава, імя Я. Г. Макарэвіча, імя А. А. Жданава, імя В. Н. Бажэнкі.

У 1965 г. ў гонар савецкіх воінаў, якія вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызан, што дзейнічалі на тэрыторыі раёна ў час нямецка-фашысцкай акупацыі, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *М. В. Кірэйчын.*

**602. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Першамайская, 5. Устаноўлена ў 1968 г. на ўшанаванне памяці супрацоўнікаў міліцыі А. Я. Антаненкі, Р. Р. Дакукіна, Л. Я. Дзеркача, В. Я. Кужалінава, І. М. Навахацкага, Ф. Р. Сацуты, А. І. Тарабыкіна, І. А. Татарчука, якія загінулі ў 1944—52 гг. у барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады.

**603. МОГІЛКІ ВАЕННАПАЛОННЫХ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Пушкіна. Пахавана больш за 1000 савецкіх ваеннапалонных, партызан, мірных грамадзян, закатаваных і расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. 8 брацкіх магіл знаходзяцца абапал цэнтральнай дарожкі, якую замыкае пастаўлены ў 1968 г. абеліск.

**604. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Камсамольскай і Маладагвардзейскай. Пастаўлены ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 78 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**605. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Кастрычніка. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**606. РАДЗІМА КОЛЬЧАКА** Мікалая Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. М. Кольчак нарадзіўся 29.6.1905 г. ў сям'і служачага. Член КПСС з 1944 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны, ліквідацыі Кранштацкага антысавецкага мяцяжу ў 1921 г., басмацтва ў Сярэдняй Азіі. У 1921—25 гг. працаваў на будаўніцтве Волхаўскай ДРЭС. Скончыў ваенную пяхотную школу ў Ленінградзе (1928 г.), быў камандзірам узвода, роты. З студзеня 1937 г. выкладчык курсаў «Выстрал», з 1942 г. начальнік снайперскай школы. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 22.7.1944 г., камандзір 249-га стралковага палка 184-й стралковай Духаўшчынскай Чырванасцяжнай дывізіі 45-га стралковага корпуса 5-й арміі 3-га Беларускага фронту. Вызначыўся 15—17.8. 1944 г. ў баях за выхад на граніцу з Усходняй Прусіяй. Полк пад камандаваннем палкоўніка М. М. Кольчака прарваў моцную абарону праціўніка, адбіў 10 варожых контратак, вызваліў 10 населеных пунктаў. У час баёў знішчана 11 танкаў, 13 аўта- і бронемашын, 12 кулямётаў, 2 артылерыйскія батарэі, шмат іншай тэхнікі ворага і больш за 500 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г. Памёр 14.2.1969 г. *Г. І. Дулеба.*

**607. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры горада. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Уяўляе сабой развітую прасторавую кампазіцыю з шатровай званіцай і цыбулепадобным купалам. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Агова, Ляскавіцкі сельсавет**

**608. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля шашы Брэст — Пінск. На ўшанаванне памяці 92 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



607. *Царква. Бакавы фасад.*



611. *Помнік землякам.*



616. *Помнік землякам.*

**609. ЦЭНТР МАСТАЦКІХ РАМЕСТВАЎ** (гіст.). З 19 ст. мясцовыя майстры распісвалі куфры, шафы, сталы, столі. Промысел зарадзіўся ў 1920-я гады, дасягнуў росквіту ў канцы 1940 — пачатку 1950-х гадоў. Масава выраблялі куфры, у якіх хавалі адзенне, пасаг для нявесты. Куфры мелі прамавугольную форму, пукатае вечка, памеры 60×110×80 см, аздоблены рознакаляровай размалёўкай. Контуры малюнка наносілі праз пераводную паперу, а потым запаўнялі яркімі, чыстага колеру фарбамі без паўтаноў. Характэрны спалучэнні лакальных, добра згарманізаваных колераў — ружовага і блакітнага, смарагдавага і жоўтага, малінавага і фіялетавага, чырвонага і жоўтага, змешчаных на цёмна-зялёным фоне сярод светла-зялёных лістоў. Лепшыя майстры вёскі распісвалі куфры без папярэдняй абводкі контуру.

За гады Савецкай улады ў сувязі з ростам дабрабыту сялян змяніўся іх побыт. Дамы калгаснікаў цяпер абсталёўваюцца сучаснай фабрычнай мэбляю. Попыт на куфры знік. З 1970-х гадоў агоўскія майстры цалкам перайшлі на роспіс сувенірных скрынак і плоскага шкла, якое выкарыстоўваецца як пано (рамяство ўзнікла ў 1920-я гады). Характэрная прыкмета агоўскіх размалёвак па шкле — чорны контур, свабодны асіметрычны малюнак і выкарыстанне чыстых колераў без паўтаноў. Пераважаюць сюжэтныя і раслінныя кампазіцыі. Тонкія чорныя лініі акаймоўваюць розныя па колеру фарбы, раздзяляюць пялёсткі кветак, пазначаюць прожылкі лістоў, надаючы малюнкам плоскасны графічны характар. У 1978 г. ў вёсцы створаны філіял Брэсцкай фабрыкі сувеніраў.

*Літ.:* Говар В. Палескія ўзоры.— Маладосць, 1972, № 2. *М. М. Яніцкая.*

**в. Адрыжын, цэнтр сельсавета**

**610. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ СЕЛЬСАВЕТА** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці супрацоўнікаў Адрыжынскага сельсавета І. А. Карчагіна, К. З. Клімовіча, Р. Ц. Клімовіча, М. І. Ляшчука, У. С. Разько, М. Е. Талатыннікa, С. М. Хахлачова, якія загінулі ў 1944—47 гг. ад рук ворагаў Савецкай улады.

**611. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 151 аднавяскоўца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ападышча, Адрыжынскі сельсавет**

**612. МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны савецкія актывісты і члены іх сем'яў (8 чалавек), забітыя ў 1945 і 1951 гг. ворагамі Савецкай улады. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



620. *Помнік землякам.*

**в. Бродніца, цэнтр сельсавета**

**613. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў 1865 г. з дрэва. Квадратны ў плане асноўны аб'ём, да якога далучаны пяцісценная апсіда і чатырохсценны прытвор з шатровай званіцай. Царква — прыклад драўлянага дойлідства з элементамі архітэктуры позняга класіцызму.

**614. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўскраіне вёскі, насупраць сельсавета. На ўшанаванне памяці 35 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Варацэвічы, Сітаўскі сельсавет**

**615. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**616. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 52 аднавяскоўцаў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**617. РАДЗІМА ОРДЫ** Напалеона (гіст.).

Беларускі і польскі мастак-графік і кампазітар Н. Орда нарадзіўся 11.2.1807 г. ў сям'і інжынера-фартыфікатара. Да 1823 г. вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, потым у Віленскім універсітэце. Быў членам тайнага студэнцкага таварыства «Зарано». Удзельнічаў у паўстанні 1830—31 гг., пасля яго паражэння быў у эміграцыі. Жыў у Аўстрыі, Швейцарыі, Італіі. З кан-

ца 1830-х гадоў вучыўся ў мастацкай студыі ў Парыжы. Зблізіўся з А. Міцкевічам і Ф. Шапэнам, напісаў некалькі музычных твораў, у асноўным паланезаў. У 1856 г. Н. Орда вярнуўся на радзіму, жыў у Пінску, потым пераехаў на Валынь. Працаваў пераважна як рысавальшчык і акварэліст. Сярод яго работ — архітэктурныя пейзажы «Валожынскі палац», «Дзятлаўская сядзіба», «Лагойскі парк», «Ружанскі палац», «Завоссе», «Крыжоўка», «Мір», «Крэва», «Белая вежа», «Бялынічы», «Замак Паскевічаў у Гомелі», «Мінск. Саборная плошча», «Навагрудак», «Асвея», «Гродна», «Сарыя. Віцебская губерня» (усе 1850—70 гг.) і інш. Лепшыя з іх авеяны рамантыкай і паэзіяй. У 1873—83 гг. па акварэлях Н. Орды мастак А. Місуровіч зрабіў каляровыя літаграфіі, якія былі выдадзены ў майстэрні М. Фаянса ў Варшаве (260 лістоў у 7 серыях). Арыгіналы мастака зберагаюцца ў нацыянальным музеі г. Кракава і бібліятэцы АН УССР імя Стафаніка ў Львове. Н. Орда памёр 26.4.1883 г. ў Варшаве.

*Літ.:* Дробаў Л. М. Напалеон Орда — мастак і збіральнік.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 3; яго ж. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Вартыцк, Псышчаўскі сельсавет**

**618. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гарбаха, цэнтр сельсавета**

**619. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 35 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены помнік (аўтар І. К. Мельнічук) — прамянепадобная стэла з пяціканцовай зоркай на вяршыні, барэльефнымі выявамі ордэна Айчыннай вайны і лаўровай галінкай на пярэдняй плоскасці.

**в. Глінна, Залядынскі сельсавет**

**620. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.



**625.** *Мікалаеўская царква. План.*



**622.** *Царква Параскевы Пятніцы. План.*

**в. Гнеўчыцы, Крытышынскі сельсавет**

**621. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 45 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**622. ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1802 г. з дрэва.

Будынак — выцягнуты прамавугольны зруб з трохгранным алтарным прырубам, накрыты двухсхільным дахам з вальмамі і галоўкай над алтаром. Над паўднёвай часткай размешчана званіца, чацвярык якой прадаўжае франтон галоўнага фасада і завершаны галоўкай. Сцены бакавых фасадаў, прарэзаныя лучковымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, умацаваны руставанымі лапаткамі і ўвянчаны развітым карнізам з сухарыкамі. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. Над уваходам хоры. Па баках алтара зроблены крывалінейныя ў плане памяшканні каркаснай канструкцыі.

Царква — помнік архітэктуры, у якім спалучаюцца традыцыі народнага дойлідства з элементамі класіцызму. *Т. В. Габрусь.*



**622.** *Царква Параскевы Пятніцы.*

**в. Дастоева, цэнтр сельсавета**

**623. ПАМЯТНАЕ МЕСЦА ДАСТАЕЎСКАГА** Фёдара Міхайлавіча. У 1506 г.



**625.** *Мікалаеўская царква.*



630. *Помнік у гонар падпольнага сельскага Савета.*

продкі выдатнага рускага пісьменніка Ф. М. Дастаеўскага (1821—81 г.) атрымалі грамату на права валодання гэтай вёскай. У 1971 г. імя Ф. М. Дастаеўскага прысвоена мясцовай школе, у якой арганізаваны школьны музей пісьменніка.

**624. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у парку. На ўшанаванне памяці 143 жыхароў вёсак Вулька, Дастоева, Заруддзе, Застружжа, Красіеўка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дружылавічы, цэнтр сельсавета**

**625. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1777 г. з дрэва.

Спачатку будынак складаўся з прамавугольных у плане асноўнага зруба і апсіды, накрытых агульным двухсхільным дахам з вальмай над апсідай. Абапал апсіды — нізкія рызніцы. У 2-й палавіне 19 ст. з захаду была далучана трох'ярусная чацверыковая званіца, у пачатку 20 ст. да асноўнага зруба прыбудавалі бакавыя памяшканні, у выніку чаго план набыў форму крыжа. Над званіцай і ў сярэдзіне даху васьміграпныя барабаны з галоўкамі. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі, у прыбудовах крыжападобнымі аконнымі праёмамі. Асноўны аб'ём і апсіда маюць бэлечнае перакрыцце, прыбудовы — паўцыліндрычныя скляпенні. Над уваходам хоры на 2 слупках.

Царква — прыклад традыцыйнага народнага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**в. Загута, Крытышынскі сельсавет**

**626. МЕСЦА ГІБЕЛІ КУЖАЛІНАВА** Васіля Іванавіча (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Тут 13.12.1942 г. загінуў сувязны партызанскага атрада імя С. Г. Лазо брыгады імя В. М. Молатава В. І. Кужалінаў. На ўшанаванне яго памяці ў 1977 г. пастаўлены абеліск.

**в. Залядынне, цэнтр сельсавета**

**627. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны партызаны С. І. Гучаеў, У. С. Дзялун, К. Х. Кандраценка, П. К. Касцянецкі, Я. Ф. Новікаў, Ц. В. Труханаў, якія загінулі 26.3. 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Застружжа, Дастоеўскі сельсавет**

**628. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**629. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Ва ўсходняй частцы вёскі, на скрыжаванні вуліц. Тут 3.11.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі сем'і камуністаў, дэпутатаў сельсавета і актывістаў — 97 чалавек. Сярод іх — дэпутат Пінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных Хрысціна Сцяпанаўна Бурак.

У 1968 г. на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск.

**в. Калена, Махроўскі сельсавет**

**630. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ ПАДПОЛЬНАГА СЕЛЬСАВЕТА** (гіст.). З мая 1943 г. да сакавіка 1944 г. ва ўмовах нямецка-фашысцкай акупацыі ў вёсцы дзейнічаў сельскі Савет дэпутатаў працоўных. Старшыня выканкома — М. К. Каначук, члены — Ф. І. Крацік і Г. С. Корац. Сельсавет сваёй дзейнасцю ахопліваў вёскі Баландзічы, Вулька, Краснае, Махро, Хамічава (БССР), Дольск, Нігавішчы, Омыт (УССР).

У 1975 г. на паўднёва-заходняй ускраіне вёскі ў гонар дзейнасці падпольнага сельсавета пастаўлена стэла.

**в. Канатоп, Рудскі сельсавет**

**631. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя І. В. Сталіна — Т. І. Бажко і М. С. Пастушэнка, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Крытышын, цэнтр сельсавета**

**632. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя С. Г. Лазо брыгады імя В. М. Молатава В. С. Мельнічук, Я. П. Мельнічук і партызанскі сувязны В. І. Кужалінаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1942 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.



635. *Помнік землякам.*

**633. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана сям'я сувязнога партызанскага атрада імя С. Г. Лазо брыгады імя В. М. Молатава С. В. Галякевіча — жонка і 3 дзяцей, забітыя гітлераўцамі 4.3.1943 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**634. МАГІЛА БАБІЧ** Маланні Андрэеўны (гіст.). На могілках. Пахавана настаўніца М. А. Бабіч, расстраляная



640. *Прачысценская царква. Званіца.*

гітлераўцамі ў 1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**635. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 97 аднавяскоўцаў — савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лучкі, Псышчаўскі сельсавет**

**636. БРАЦКАЯ МАГІЛА БАРСКАГА** Мікалая Паўлавіча і **РАМАНАВА** Івана Мікітавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны сакратар Іванаўскага падпольнага райкома ЛКСМБ М. П. Барскі (1920—43 гг.) і член гэтага райкома І. М. Раманаў (1921—43 гг.).

Партызаны атрада імя С. Г. Лазо брыгады імя В. М. Молатава М. П. Барскі і І. М. Раманаў у час выканання баявога задання былі акружаны гітлераўцамі каля в. Дружылавічы. Загінулі ў баі 20.8.1943 г. На магіле ў 1963 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лядавічы, Опальскі сельсавет**

**637. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 мірныя жыхары, расстраляныя гітлераўцамі ў 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**638. МАГІЛА ПЛАКСУНОВА** Сцяпана Лазаравіча (гіст.). На могілках. Партызан С. Л. Плаксуноў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 12.6.1944. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ляскавічы, цэнтр сельсавета**

**639. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 115 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскай барацьбе, расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**640. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана да 1783 г. з дрэва.

Будынак складаецца з амаль квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму і



**640.** *Прачысценская царква. Выгляд з боку апсіды.*



**640.** *Прачысценская царква. Звон.*

пяціграннай апсіды. Зрубы аб'яднаны агульным дахам, які ўтварае трохвугольныя павісі ў месцы іх злучэння. Галоўны паўночны фасад завершаны трохвугольным франтонам з паўцыркульным акном у цэнтры. Вільчык пасярэдзіне прарэзаны глухім васьміграннным барабанам з галоўкай. Па баках апсіды сіметрычна размешчаны 2 нізкія прыбудовы. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны брусамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер зальны, перакрыццё бэлечнае, з падшыўной столлю. Дзве калоны каля ўвахода падтрымліваюць хоры.

Перад уваходам у царкву двух'ярусная званіца-брама. Ярусы падзелены прычолкам. Ніжні ярус ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, верхні — скразны, накрыты чатырохсхільным дахам з галоўкай у цэнтры.

Царква — помнік манументальнага драўлянага дойлідства Палесся.
*Т. В. Габрусь.*

**641. СЯЛЯНСКІ ДВОР З НЯЗВЯЗАНЫМІ ПАБУДОВАМІ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1920 г. з дрэва, у 1968 г. часткова перабудаваны (хлеў аднесены ў глыб двара).



**640.** *Прачысценская царква. План.*

Будынак у плане ўяўляе сабой ускладнены варыянт традыцыйнай трохкамернай пабудовы (хата+сенцы+камора). Ускладненне ідзе за кошт вылучэння кухні з жылога памяшкання і пабудовы ў сенцах варыўні. Кухня аддзелена ад хаты капітальнай сцяной. Да вуліцы будынак стаіць тарцовым фасадам. Традыцыйнымі для сялянскай хаты гэтай мясцовасці з'яўляюцца стварэнне ўвахода ў падоўжнай сцяне з паўднёвага боку і ўваход у камору непасрэдна з сенцаў. Лакальная асаблівасць тая, што вокны прарэзаны ў 3 сценах.

Помнік адлюстроўвае пашыраны па ўсёй Беларусі тып двара з нязвязанымі пабудовамі. *У. С. Гуркоў.*

**в. Махро, цэнтр сельсавета**

**642. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**643. МАГІЛА САМУЙЛІК** Вольгі Іванаўны, **ПОМНІК САВЕЦКІМ ПАТРЫЁТАМ** (гіст.). На могілках. Савецкая актывістка В. І. Самуйлік загублена гітлераўцамі ў 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск. Надпіс на абеліску ўшаноўвае памяць В. І. Самуйлік, а таксама 9 іншых савецкіх патрыётаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

**644. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1792 г. з дрэва.

Будынак складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і пяціграннай алтарнай апсіды. У кампазіцыі дамінуе галоўны фасад, які вырашаны ў выглядзе шырокай плоскасці, далучанай да асноўнага аб'ёму. Фасад падзелены цягамі карніза на 2 ярусы і завершаны 3 вежачкамі (бакавыя — квадратныя ў плане, цэнтральная — васьмігранная), сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. У асноўны зруб убудаваны памяшканні рызніцы і дзякоўскай. Перакрыццё бэлечнае, з плоскай столлю.

Двух'ярусная чацверыковая званіца каркаснай канструкцыі стаіць асобна.

Царква — прыклад перапрацоўкі ў драўляным дойлідстве муравана архітэктуры стылю барока. *Т. В. Габрусь.*

**645. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 105 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Моладава, цэнтр сельсавета**

**646. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скве-



644. *Петрапаўлаўская царква. Галоўны фасад і званіца.*



644. *Петрапаўлаўская царква. План.*

ры. Пахаваны 14 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата з вянком.

**647. КАПЛІЦА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1905—08 гг. (арх. Т. Растварoўскі) з цэглы, уваходзіла ў былы сядзібна-палацавы ансамбль (не захаваўся).

Будынак — ратонда дыяметрам 8 м з трыма порцікамі дарычнага ордэра, якія выступаюць на руставанай паверхні сцен, і прамавугольнай у плане алтарнай апсідай. Уваходны порцік — чатырохкалонны, 2 бакавыя, што абрамляюць паўцыркульныя аконныя праёмы,— двухкалонныя. Будынак накрыты сферычным купалам, апсіда — двухсхільным дахам. Тымпаны франтонаў аздоблены ляпным раслінным арнаментам. Фрыз ратонды і партал увахода дэкарыраваны гірляндамі. Развіты карніз на мадульёнах аздоблены паяском сухарыкаў. Інтэр'ер асвятляецца 3 вокнамі з паўцыркульнымі імпастамі.

Капліца — помнік архітэктуры малых форм у стылі неакласіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**648. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН** (гіст.).

9.12.1905 г. каля 200 сялян вёскі з'явіліся да памешчыка Скірмунта і патрабавалі вярнуць захопленыя ў час рэформы 1861 г. пашы, зямлю і каля 30 дзесяцін лесу, павысіць падзённую плату. Пасля таго, як памешчык адмовіўся задаволіць іх патрабаванні, сяляне разграмілі кватэры аканома і галоўнага вінакура, спынілі работу ў маёнтку. 9, 10 і 12 снежня, нягледзячы на тое, што ў вёску прыбыў эскадрон драгунаў на чале з павятовым спраўнікам, сяляне нападалі на маёнтак. У сутычцы адзін селянін быў забіты і некалькі паранена.

*Літ.:* Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Ш а б у н я К. И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг.— Мн., 1962. *Э. М. Савіцкі.*

**649. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці 142 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**650. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Трохзрубны храм з трох'яруснай шатровай званіцай і пяціграннай апсідай. Помнік народнага дойлідства.

**в. Моталь, цэнтр сельсавета**

**651. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны і партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**652. МАГІЛА КОЛЧЫНА** Міхаіла Васілевіча (гіст.). На могілках. Памочнік камісара партызанскага атрада імя Я. Г. Макарэвіча брыгады імя Я. М. Свярдлова М. В. Колчын загінуў у 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**653. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). На будынку дзіцячай бібліятэкі. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці загадчыка клуба С. А. Мацукевіча, работніка выканкома сельскага Савета А. А. Леановіча, старшыні выканкома сельскага Савета С. С. Міховіча, якія загінулі ў 1947—50 гг. ад рук ворагаў Савецкай улады.

**654. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ КАМСАМОЛЬЦАЎ - ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). У чэрвені 1941 г. на тэрыторыі Мотальскага сельсавета была створана падпольная камсамольская арганізацыя. Налічвала больш за



647. *Капліца.*



647. *Капліца. План.*



647. *Капліца. Фрагмент порціка.*

60 членаў. Камітэт: Іван Міхайлавіч Калілец (сакратар), А. К. Данілевіч, Г. А. Мінюк, С. С. Мінюк, В. Г. Міронава, М. Я. Прадун, Ц. І. Хоміч. Падпольшчыкі залучалі ў арганізацыю новых патрыётаў, праводзілі ў вёсках палітычную работу з сялянамі, збіралі зброю і боепрыпасы. У канцы жніўня 1941 г. яны разграмілі Мотальскую гміну, у маі 1942 г. сарвалі адпраўку моладзі на катаржныя работы ў Германію. За гэта Іван Мікітавіч Калілец, Р. Я. Калілец, А. С. Міховіч, С. С. Міховіч былі арыштаваны. 18.7.1942 г. гітлераўцы расстралялі члена камітэта В. Г. Міронаву. Восенню 1942 г.— зімой 1943 г. былі расстраляны камсамольцы Р. А. Данілевіч, Іван Дзяркач, Якаў Заяленчыц, Сазон Кракун, Карп Ксёнда, Г. П. Кузюр, Рыгор Маліч, Захар Міховіч, Пётр Міховіч, Міхаіл Райкевіч, Ц. І. Хоміч, Харытон Шыкалай. Астатнія маладыя патрыёты стварылі ядро партызанскага атрада імя Я. Г. Макарэвіча брыгады імя Я. М. Свярдлова.

У памяць аб дзейнасці падпольшчыкаў на будынку дзіцячай бібліятэкі ў 1975 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Т. Р. Чуракова.*

**655. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка дзіцячай бібліятэкі. На ўшанаванне памяці 2185 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск. Абапал абеліска ўстаноўлены 2 пліты з імёнамі загінуўшых.

**656. СТАЯНКІ** (археал.).

**656а.** С т а я н к а - 1. За 2,5 км на поўнач ад вёскі, на схіле пясчанага ўзвышша правага берага р. Ясельда. Даўжыня 150 м. Выявіў і даследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі агнішчаў, больш за 400 апрацаваных крамянёў, 100 прылад працы, абломкі гліняных лепных гаршкоў. Стаянка адносіцца да нёманскай культуры (4—3-е тысячагоддзі да н. э.).

**656б.** С т а я н к а - 2. За 3 км на поўнач ад вёскі, на паўднёвым схіле невысокага марэннага ўзвышша паміж воз. Джыдзінне і р. Ясельда. Даўжыня больш за 200 м. Выявіў і даследаваў у 1971 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод 600 знойдзеных апрацаваных крамянёў, характэрных для макралітычнай культуры, ёсць пласцінiстыя наканечнікі, разцы, сякеры, скрэблы і інш. Адносіцца да 9—5-га тысячагоддзяў да н. э.

**656в.** С т а я н к а - 3. За 4 км на паўночны захад ад вёскі, на пясчаным узгорку на паўночны ўсход ад воз. Джыдзінне. Даўжыня стаянкі 100 м. Выявіў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Адносіцца да эпохі неаліту.

**656г.** С т а я н к а - 4. За 3,5 км на паўночны захад ад вёскі, на пясчаным узвышшы паўднёва-ўсходняга берага воз. Джыдзінне. Даўжыня больш за 150 м, вышыня над поплавам 2—3 м. Выявіў і даследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены абломкі лейкападобных кубкаў нёманскай культуры і гаршкоў ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* И с а е н к о В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. В. 1.— Мн., 1968; е г о ж. Мезолит и неолит Припятского Полесья.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1966. *У. Ф. Ісаенка.*

**657. ЦЭНТР МАСТАЦКІХ РАМЁСТВАЎ** (гіст., маст.).

Народнае ткацкае рамяство — выраб так званых «мотальскіх ручнікоў» — развіваецца з 18 ст. Вырабы мясцовых ткачых — традыцыйныя тканыя ручнікі даўжынёй 210—240 см, шырынёй 30—33 см. Выконваюцца тэхнікай «перабор» у 4 ніты і 4 панажы, снуюць у 8 або 10 пасмаў. Ручнік складаецца з трох частак: сярэдніка і 2 багата аздобленых канцоў. Кампазіцыі сярэдніка бываюць 2 відаў: у адных на аснове праходзяць 2—3 каляровыя палоскі (у сучасных 4 — чырвоная, блакітная або сіняя, зялёная і чорная), у другіх — па ўтку даюцца шматкаляровыя палоскі, якія перасякаюцца з каляровымі палоскамі асновы. У выніку адны ручнікі аздоблены папярочнымі палоскамі, другія маюць клятчасты выгляд. Увесь ручнік тчэцца «ў елачку» з чаргаваннем па сярэдніку палос суравой і адбеленай ільняной пражы. Канцы аздабляюцца геаметрычным ці раслінным арнаментам шырынёй да 20—25 см. Арнаменты маюць назвы: «зубы», «кветкі», «ліст», «сякач», «жучкі». Традыцыйныя мотальскія ручнікі заканчваюцца шчыльнымі карункамі, якія плятуць уручную з пражы асновы тэхнікай «набыр». Шырыня карункаў 10—13 см.




656. *Стаянкі Моталь. План.*

У гады Савецкай улады мотальскія ручнікі экспанаваліся на шматлікіх міжнародных выстаўках і кірмашах у Бельгіі, Францыі, СФРЮ, Фінляндыі, Турцыі. Экспартуюцца ў ПНР, Італію, Францыю, Бельгію. У 1977 г. ў Мотале створаны ткацкі цэх Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

Гарбарна-кравецкае рамяство пашырана сярод жыхароў в. Моталь з даўніх часоў. З нефарбаванай адбеленай аўчыны шылі доўгія неадрэзныя па таліі кажухі, якія аздаблялі скуранымі раменьчыкамі, вышыўкай, арнаментальнай афарбоўкай асобных дэталей (крыса, падол, рукавы). Рамяство захавалася да нашых дзён. З пачатку 1970-х гадоў асобныя майстры вёскі працуюць па заказах Мастацкага фонду БССР — выраблююць аўчыны, фарбуюць у руда-чырвоны колер і шыюць кароткія, адрэзныя па таліі кажухі. *М. М. Яніцкая.*

**в. Опаль, цэнтр сельсавета**

**658. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 141 земляка — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. насыпаны Курган. На яго вяршыні пастаўлены абеліск.

**659. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі.



656. *Крамянёвыя прылады працы са стаянак Моталь.*



661. *Крамянёвыя прылады працы са стаянак Опаль.*

Пахаваны 18 мірных савецкіх грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**660. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН** (гіст.).

Пад уплывам рэвалюцыйнага руху і прапагандысцкай дзейнасці бальшавікоў 22.11.1905 г. больш за 200 сялян вёсак Опаль і Лядавічы з'явіліся ў маёнтак І. К. Яленскага і ў пісьмовай форме патрабавалі вярнуць захопленыя ў час рэформы 1861 г. сенажаці, 600 дзесяцін зямлі, скасаваць адпрацоўкі за пашу, вадапой, праезд па памешчыцкай зямлі да сваіх палосак, павялічыць падзённую аплату з 20 капеек да 1 рубля ў дзень і інш. Сяляне патрабавалі таксама кампенсацыі страт у суме 120 тыс. рублёў за незаконнае карыстанне памешчыкам іх угоддзямі, пагражаючы ў выпадку нявыплаты разграміць маёнтак.

24 лістапада на сходзе ў прысутнасці чыноў павятовай паліцыі сяляне пацвердзілі свае патрабаванні і заявілі: «Нашы браты паклалі свае галовы ў Японіі, а мы пакладзем тут, але свайго даб'ёмся». Улады накіравалі ў маёнтак роту 194-га пяхотнага Мсціслаўскага палка. Нягледзячы на гэта, 28 лістапада не выйшлі на работу ўсе батракі, спыніўся вінакурны завод. Праца была адноўлена толькі з дапамогай салдат, якія прыгналі сялян з навакольных вёсак. 9 снежня тысячны натоўп зрабіў спробу абяззброіць салдат, але гэта не ўдалося. 17 снежня раніцай каля 700 сялян акружылі маёнтак і завод і па сігналу кінуліся на прыступ. Па загаду камандзіра роты салдаты сталі страляць, забілі 4 і цяжка паранілі 10 чалавек, з іх 2 неўзабаве памерлі. Ноччу сяляне намерваліся паўтарыць напад, іх спыніла толькі прыбыццё ў Опаль драгунаў і паўроты пяхоты.

*Літ.:* Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг: Документы и материалы.— Мн., 1955; Шабуня К. И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг.— Мн., 1962. *Э. М. Савіцкі.*



662. *Царква Параскевы Пятніцы.*

**661. СТАЯНКІ І КРАМЯНЁВАЯ МАЙСТЭРНЯ** (археал.).

**661а.** Стаянка-1. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе правага берага р. Ясельда. Даўжыня стаянкі каля 400 м, вышыня над поплавам ракі 2—3 м. Выявіў і даследаваў у 1971 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзена 800 вырабаў з крэменю, у т. л. 160 пласціністых наканечнікаў стрэл, разцоў, скрэблаў, нажоў. Стаянка належыць да свідэрскай культуры і датуецца 9—5-м тысячагоддзямі да н. э. У заходняй частцы знойдзены таксама абломкі неалітычных гаршкоў, зерняцёрка, абломкі ляпной керамікі, а таксама рэшткі могільніка з трупаспаленнем ранняга жалезнага веку.

**661б.** Стаянка-2 і крамянёвая майстэрня. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на паўночным схіле і ў верхняй частцы лагчыны, якая ўтварылася на паверхні марэннага ўзвышша. Даўжыня стаянкі да 400 м, вышыня над поймай ракі 4—6 м. Выявіў і даследаваў у 1963 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі агнішчаў, абкладзеных камянямі, і згрувашчанні буйных крамянёвых адшчэпаў і нуклеусаў. Сабрана 1400 апрацаваных крамянёў, сярод іх макраліты — буйныя трапецападобныя і авальныя сякеры, трохгранныя пікі, свідэрскія і тыпу Лінгбі наканечнікі, грубыя разцы, скрэблы, скоблі і інш. Стаянка і майстэрня адносяцца да макралітычнай культуры (7—5-е тысячагоддзі да н. э.).

**661в.** Стаянка-3. За 1 км на ўсход ад вёскі, на заходнім краі лагчыны. Даўжыня каля 150 м. Выявіў у 1963 г. У. Ф. Ісаенка.

Адносіцца да нёманскай культуры неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.).

Матэрыялы зберагаюцца ў Дзяржаўным музеі БССР і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Мезолит и неолит Припятского Полесья.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1966; яго ж. Неолит Припятского Полесья, Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*



662. *Царква Параскевы Пятніцы. План.*

**662. ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 18 ст. з дрэва.

Будынак — трохнефавая базіліка (у плане — прамавугольнік са зрэзанымі з усходняга боку вугламі). Галоўны заходні фасад падзелены на 2 ярусы на ўзроўні карнізаў бакавых нефаў і завершаны трохвугольным франтонам. Раней галоўны фасад меў васьмікалонны порцік, які быў потым закрыты шалёўкай. Усе сцены царквы вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны сцяжнымі брусамі. Галоўны неф накрыты двухсхільным дахам і завершаны над апсідай цыбулепадобнай гранёнай галоўкай са шпілем. Бакавыя нефы маюць аднасхільныя дахі. Сцены бакавых нефаў прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, цэнтральнага — паўцыркульнымі, размешчанымі пад дахам.

Інтэр'ер падзелены 4 слупамі на 3 нефы. Перакрыцце бэлечнае, з падшыўной плоскай столлю. 2 слупы каля ўвахода падтрымліваюць хоры. На ўзроўні столі бакавых нефаў уздоўж сцен галоўнага нефа і алтара зроблена звязаная з хорамі вузкая галерэя, якая мае адзіную з хорамі разную балюстраду.

Царква — прыклад выкарыстання форм мураванай архітэктуры барока ў драўляным дойлідстве.

*С. Г. Багласаў, Т. І. Чарняўская.*

**в. Оўзічы, Гарбахскі сельсавет**

**663. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На будынку фельчарска-акушэрскага пункта.

31.1.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі 60 жыхароў вёскі — жанчын, дзяцей, старых. У 1972 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Перарубь, Рудскі сельсавет**

**664. МАГІЛА ПАЛІЎКІ** Івана Андрэевіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы І. А. Паліўка нарадзіўся 27.1.1926 г. ў в. Перарубь у сялянскай сям'і. Заслужаны меліяратар БССР (1964 г.). Чл. КПСС з 1967 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны з 1944 г., сапёр. У 1950 г. скончыў курсы экскаватаршчыкаў, у 1951 г.— машыніст экскаватара Дняпроўска-Бугскага тэхучастка ў Пінску, у 1952—74 гг.— старшы машыніст

экскаватара Іванаўскага будаўніча-мантажнага ўпраўлення меліярацыі трэста «Пінскводбудмеханізацыя». Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1966 г. за поспехі ў вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1970—74 гг. Чл. ЦК КПБ у 1971—75 гг. І. А. Паліўка памёр 18.8.1975 г.

*Літ.:* Земные звёзды.— Мн., 1978; Матусевич А. Сын Полесья.— Сельское хозяйство Белоруссии, 1966, № 13; Дуброўскі І. Прызванне як запавет...: Нарыс.— Маладосць, 1976, № 9; Шнитова Н. Заслуженный мелиоратор республики.— Сельский механизатор, 1973, № 10.
*А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Полкацічы, Дастоеўскі сельсавет**

**665. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 55 жыхароў вёсак калгаса «Савецкі», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**в. Псышчава, цэнтр сельсавета**

**666. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 33 жыхары вёскі, закатаваныя гітлераўцамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**667. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «За мір». На ўшанаванне памяці 263 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Рагадашч, Крытышынскі сельсавет**

**668. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 3 насыпы. Вышыня да 1,5 м, дыяметр 7,5—10 м. Вядомы з канца 19 ст. Даследаваў у 1960 г. Ю. У. Кухарэнка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рудск, цэнтр сельсавета**

**669. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 84 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Рылавічы, Брадніцкі сельсавет**

**670. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.).

З часоў сярэднявечча вёска вядома як цэнтр бондарнага рамяства. Вясковыя бондары выраблялі бочкі для польскага каралеўскага двара. Рамяство захавалася да нашага часу. Майстры па заказу Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў робяць з ліпы 5- і 10-літровыя барылкі і кубёлкі, адметныя цыліндрычнымі формамі, чысцінёй апрацоўкі дрэва.

*Літ.:* Ждановіч В. Чырвоныя васількі: Рэпартаж.— Маладосць, 1969, № 10.
*М. М. Яніцкая.*



678. *Царква Аляксандра Неўскага. План.*

**в. Сачыўкі, Стрэльненскі сельсавет**

**671. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць школы. На ўшанаванне памяці 120 жыхароў вёсак калгаса «Дружба», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Святаполка, Псышчаўскі сельсавет**

**672. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЕТЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі ў 1944 г. ў паветраным баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Снітава, цэнтр сельсавета**

**673. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Мошкі. 1.12.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі 39 мірных жыхароў, у т. л. 18 дзяцей і 11 жанчын. У 1974 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых на магіле пастаўлены абеліск.



678. *Царква Аляксандра Неўскага.*

**674. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 88 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**675. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з дрэва.

Прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым двухсхільным дахам з вальмай над алтаром і трохвугольным франтонам на галоўным фасадзе. У сярэдзіне вільчыка — гранёная галоўка. Пры ўваходзе — тамбур.



675. *Успенская царква. План.*



675. *Успенская царква і званіца.*



678. *Царква Аляксандра Неўскага. Царскія вароты. Разьба па дрэве.*

Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, на франтоне дэкаратыўная шалёўка «ў елачку». Пастаўленая асобна двух'ярусная званіца накрыта чатырохсхільным дахам, гарызантальна ашалявана.

Царква — помнік архітэктуры, у якім традыцыі народнага дойлідства спалучаюцца з элементамі класіцызму.
*Т. В. Габрусь.*

**в. Страмец, Залядынскі сельсавет**

**676. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,25 км на паўднёвы захад ад вёскі. У 3 магілах пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Стрэльна, цэнтр сельсавета**

**677. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля 8-гадовай школы. На ўшанаванне памяці 107 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**678. ЦАРКВА АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (архіт.). Пабудавана ў 1800 г. з дрэва, перароблена ў 1930-я гады.

Царква аднazрубная, з трохграннай алтарнай часткай, накрыта двухсхільным дахам з вальмай над алтаром і трохвугольным франтонам на галоўным фасадзе. Вільчык фасада прарэзаны чацверыковай вежай, завершанай шпілем. Сцены гарызантальна ашаляваны. Вокны прамавугольныя і з паўцыркульнымі імпастамі. У інтэр'еры захаваліся размалёўка столі і разны іканастас.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі архітэктуры стыляў класіцызму і ампір.
*Т. В. Габрусь.*

**в. Тышкавічы, Мотальскі сельсавет**

**679. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 57 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**680. СТАЯНКІ** (археал.).

**680а.** Стаянка-1. За 1 км на ўсход ад вёскі, на ўсходнім беразе воз. Мульнае. Даўжыня 250 м, вышыня над узроўнем вады 4 м. Культурны пласт часткова разбураны. Выявіў у 1962 г. і даследаваў у 1971 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — наканечнікі стрэл, пласцінападобныя нажы, абломкі глінянага посуду нёманскай культуры.

**680б.** Стаянка-2. За 1 км ад вёскі, на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Мульнае. Даўжыня больш за 200 м. Выявіў у 1962 г. і даследаваў у 1971 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і абломкі гаршкоў. Адносіцца да неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. В. 1, 3.— Мн., 1968—76; яго ж. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Франопаль, Рудскі сельсавет**

**681. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якіх загубілі ворагі Савецкай улады ў 1945 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.




682. *Двор аднараднага пагоннага тыпу на адной сядзібе. Пачатак 20 ст. План: 1 — сенцы (а — варыўня, б — жорны); 2 — кухня (а — запечак, б — печ, в — стол, г — лава); 3 — хата (а — грубка, б — ложкі, в — услон, г — стол, д — куфар, е — лава, ж — покуць); 4 — камора; 5 — хлеў.*

**в. Шчакоцк, Ляскавіцкі сельсавет**

**682. ДВАРЫ АДНАРАДНАГА ПАГОННАГА ТЫПУ НА АДНОЙ СЯДЗІБЕ** (архіт.). Сядзіба ў цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст.

Складаецца з 2 двароў: першы — каля вуліцы, арыентаваны да яе тарцовым фасадам, другі — за 40 м ад яе, у глыбіні сядзібы. Абодва двары — аднараднага пагоннага тыпу: усе жылыя і гаспадарчыя пабудовы на кожным двары пастаўлены ў адзін рад пад агульным дахам. Жылы будынак на першым двары — варыянт традыцыйнай трохкамернай пабудовы (хата + + сенцы + камора), ускладнены тым, што кухня вылучана з жылога памяшкання, а ў сенцах знаходзіцца варыўня (мясцовая асаблівасць). Інтэр'ер хаты традыцыйны. Печ пастаўлена ў левым куце кухні насупраць увахода і вусцем павернута да падоўжанай сцяны. Вокны ў хаце прарэзаны з трох бакоў. Другі двор падобны на першы і мае тыя ж планіровачныя і канструкцыйныя асаблівасці.

Помнік адлюстроўвае пашыраны на паўднёвым Захадзе Беларусі тып пагоннага двара. *У. С. Гуркоў.*

**в. Юхнавічы, Бродніцкі сельсавет**

**683. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 24 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1961 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Яечкавічы, Бродніцкі сельсавет**

**684. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 37 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.




# ІВАЦЭВІЦКІ РАЁН

Быцень
Грыўда
Даманава
Бусяж
Дабромысль
Мілейкі
Падстарынь
Магіліцы
Волька
Верашкі
Кушняры
Любішчыцы
Квасевічы
Косава
Стайкі
ІВАЦЭВІЧЫ
Бялавічы
Міхнавічы
Гошчава
Яглевічы
Няхачава
Козікі
Выганашчы
Бабровічы
Жытлін
Корачын
Святая Воля
Аброва
Целяханы
Горталь
Амяльная
Коланск
Рэчкі

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

## IX. ІВАЦЭВІЧЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на правым беразе р. Грыўда, за 136 км на паўночны ўсход ад Брэста. Чыгуначная і аўтобусная станцыі на лініі Брэст — Мінск.

Івацэвічы ў пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаюцца ў 1519 г. Належалі Юндзілам. З 1654 г. вядомы як маёнтак. З 2-й палавіны 16 ст. ў Слонімскім павеце Навагрудскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. У канцы 18 ст. ў маёнтку Івацэвічы пабудаваны бровар і смалакурня. З 1795 г. ў складзе Расіі. З пракладкай чыгункі Масква — Брэст (1871 г.) побач з маёнткам Івацэвічы ўзнікла невялікае пасяленне, якое з развіццём лесараспрацовак расло. У канцы 19 ст. тут былі бровар, цагельня (200 рабочых на пачатак 20 ст.), сукнавальня, вадзяны млын.

У 1-ю сусветную вайну Івацэвічы былі акупіраваны германскімі войскамі (1915—18 гг.), у 1919—20 гг.— войскамі буржуазнай Польшчы. Савецкая ўлада існавала ў ліпені — жніўні 1920 г. У 1921—39 гг. Івацэвічы ў складзе буржуазнай Польшчы — мястэчка ў Косаўскім павеце Палескага ваяводства. У 1935 г. каля 1500 жыхароў. Дзейнічала падпольная ячэйка КСМЗБ. Летам 1929 г. баставалі рабочыя лесапільнага завода. З 1939 г. Івацэвічы ў складзе БССР, з 1940 г. ў Косаўскім р-не Брэсцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з 24.6.1941 г. да 12.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З 1947 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У 1959 г. 5,2 тыс. жыхароў. У 1962—1965 гг. у Бярозаўскім р-не. З 1966 г. горад.

Сучасная забудова Івацэвіч ажыццяўляецца паводле генеральнага плана, распрацаванага ў інстытуце «Белдзяржпраект» у 1968 г. Горад развіваецца ў паўночна-заходнім напрамку. Чыгунка падзяляе яго на 2 зоны: паўночную — жылую і паўднёвую — прамысловую. Жылая квартальная забудова сфарміравалася ўздоўж шашы паміж р. Грыўда і чыгункай. На скрыжаванні галоўнай восевай магістралі — вул. Леніна з вул. Камсамольскай склаўся адміністрацыйна-грамадскі цэнтр з будынкамі Дома Саветаў, гандлёвага цэнтра, гасцініцы і інш. На вуліцах Леніна, Чарткова, Клютко, Камсамольскай размешчаны кінатэатр, універмаг, рэстаран, 2—5-павярховыя жылыя дамы.

Прамысловасць горада звязана галоўным чынам з перапрацоўкай драўніны і сельскагаспадарчай сыравіны. Дзейнічаюць вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, завод жалезабетонных вырабаў, спіртзавод, ільнозавод, маслазавод, хлебакамбінат, леспрамгас, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі. Ёсць метэастанцыя.

Працуюць 2 сярэднія, рабочай моладзі, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, 5 дзіцячых дашкольных устаноў, кінатэатр, Дом культуры, 3 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Кастрычнік». У горадзе 2 скверы — на вуліцах Камсамольскай і Савецкай. Помнікі У. І. Леніну, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.

Зона адпачынку — на р. Грыўда.

*Літ.:* Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии: Краткий экономический очерк.— Мн., 1967; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и сёла Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959.

*У. В. Алісейчык, М. У. Варaксін.*

**685. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. 60 год Кастрычніка, на могілках. Пахаваны 102 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**686. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Пахаваны 60 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных воіны 20-га стралковага корпуса 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 12.7.1944 г. пры вызваленні Івацэвіч, адзін з арганізатараў



686. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

і кіраўнікоў партызанскага руху на тэрыторыі Брэсцкай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну Канстанцін Дзям'янавіч Талочка.

К. Дз. Талочка нарадзіўся ў 1903 г. ў в. Падстарынь Івацэвіцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. Удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. За рэвалюцыйную дзейнасць неаднаразова быў арыштаваны. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР (1939 г.) старшыня Івацэвіцкага пасялковага Савета. З ліпеня 1941 г. ў партызанах: камандзір групы, з верасня 1943 г. камісар партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі Брэсцкага партызанскага злучэння. 1.11.1943 г. загінуў у баі супраць гітлераўцаў у в. Бялавічы Івацэвіцкага р-на. Яго імем названа вуліца ў Івацэвічах.

У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. *Г. І. Дулеба.*

**687. ПОМНІК КЛЮТКО** Віктару Сцяпанавічу (гіст.). На скрыжаванні вуліц Савецкай і Клютко, каля сквера. Тут у маі 1942 г. гітлераўцы павесілі сакратара Яглевіцкай падпольнай камсамольскай арганізацыі партызанскага сувязнога В. С. Клютко. Пахаваны ў в. Яглевічы Івацэвіцкага р-на. Гл. артыкул № 771 «Магіла Клютко Віктара Сцяпанавіча».

У 1966 г. на месцы загубы пастаўлена стэла.

**688. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Клютко. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1961 г.

**в. Аброва, цэнтр сельсавета**

**689. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі.





IX. *Забудова вуліцы Леніна. Фрагменты.*



688. *Помнік У. І. Леніну.*

Пабудавана ў 1860 г. з дрэва. Складаецца з асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму з трохграннай алтарнай часткай і шатровай вежы-званіцы, злучаных нізкім пераходам. Дахі асноўнага аб'ёму і тамбура двухсхільныя, з вальмамі над алтаром. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Асноўнае зальнае памяшканне завершана корабавым скляпеннем.

Царква — помнік архітэктуры, у якім выкарыстаны традыцыі народнага драўлянага дойлідства.

*А. Я. Міцянін.*

**в. Альба, Верашкоўскі сельсавет**

**690. ЮР'ЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, побач з могілкамі. Пабудавана ў 1790 г. з дрэва, званіца прыбудавана ў пачатку 20 ст.

Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём і пяціграпны алтарны зруб накрыты агульным двухсхільным гонтавым дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Дах над алтаром завяршаецца галоўкай на шасціграпным барабане. З заходняга боку да асноўнага аб'ёму прылягае зрубная чацверыковая вежа-званіца, убудаваная ў яго на палавіну сваёй шырыні. Званіца завершана шатровым дахам з галоўкай. Аконныя праёмы арачныя. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Асноўны зальны аб'ём мае скляпеністае перакрыцце. Хоры раскрыты ў прастору галоўнага памяшкання складаным па



689. *Міхайлаўская царква. План.*

канфігурацыі праёмам. Алтарная частка аддзелена разным іканастасам.

Царква — пераходны тып храма ад двухзрубнага да трохзрубнага, у якім адлюстраваліся тэндэнцыі выкарыстання ў драўляным дойлідстве форм манументальнай мураванай архітэктуры.

*С. Ф. Самбук.*

**в. Альшаніца, Верашкоўскі сельсавет**

**691. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**691а.** Могільнік-1. На паўднёвай ускраіне вёскі. 3 курганы вышынёй 1,2—2 м, дыяметрам 6—9 м. Выявіў у 1960 г. Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1970 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**691б.** Могільнік-2. За 0,7 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. 9 курганоў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 7—8 м. Выявіў у 1960 г. Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1970 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Амяльная, Коланскі сельсавет**

**692. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. насыпаны Курган.

**в. Бабровічы, Выганашчанскі сельсавет**

**693. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля клуба. У верасні 1942 г. атрад гітлераўцаў уварваўся ў вёску. Фашысты спалілі жывымі 676 жыхароў і ўсе пабудовы. У 1953 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ўстаноўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**694. СТАЯНКА** (археал.). На паўночна-ўсходнім беразе воз. Бабровіцкае (у старажытнасці Вядскае), на марэнным узгорку. Акружана з усіх бакоў балотамі. Даўжыня каля 300 м. Частка стаянкі моцна пашкоджана. Выявіў у 1963 г. і даследаваў у 1971 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі



690. *Юр'еўская царква. План.*



689. *Міхайлаўская царква.*

6 вогнішчаў, абкладзеных камянямі. Вакол іх сабрана больш за 100 крамянёвых прылад працы і 600 апрацаваных крамянёў, у т. л. лістападобныя наканечнікі стрэл, свярдзёлкі і сярэдзінныя праколкі, зробленыя з пласцінак, нажы з пласцінак з бакавой рэтушшу і паглыбленнямі, звужаныя на канцы, папярочна рэтушаваныя разцы, масіўныя канцавыя скрабкі, скоблі, якія адносяцца да свідэрскай культуры. Трапляюцца таксама тыповыя для макралітычнай культуры масіўныя грубыя разцы, прылады, якімі секлі, міндалепадобныя сякеры або разакі, вастрыі яніславіцкага тыпу. Датуецца 10—6-м тысячагоддзямі да н. э.



690. *Юр'еўская царква. Галоўны фасад.*



696. *Успенская царква.*



696. *Успенская царква. Фрагмент галоўнага фасада.*

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Бусяж, цэнтр сельсавета**

**695. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 4 жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**696. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Размешчана ў паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1779 г. з цэглы.

Складаецца з прамавугольных у плане галоўнага аб'ёму, накрытага двухсхільным дахам, з атыкамі ў тарцах і прыбудаванай да яго з поўначы апсіды. Галоўны (паўднёвы) фасад падзелены развітым антаблементам на 2 ярусы. Над парталам галоўнага ўвахода — лучковае акно, абапал яко-



696. *Успенская царква. План.*

га 2 глыбокія нішы са сферычнымі конхамі. Верхні ярус завершаны гранёнай вежачкай. Сцены бакавых фасадаў расчлянёны слаістымі пілястрамі і прарэзаны аконнымі праёмамі з лучковым завяршэннем. Інтэр'ер зальны. Над уваходам невялікія хоры, абрамленыя аркай.

Царква — помнік архітэктуры барока. *С. Ф. Самбук.*

**в. Быцень, цэнтр сельсавета**

**697. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 63 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 г. і 10.7. 1944 г. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**698. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**699. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 17 ст. з цэглы як капліца базыльянскага кляштара.

Кампактны прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты вальмавым дахам з васьміграннымі барабанам на васьмерыку. Галоўны (заходні) фасад падзелены лапаткамі на 3 роўныя часткі. У цэнтры над уваходам размешчана акно з паўцыркульным завяршэннем, па баках — 2 плоскія прамавугольныя нішы. Сцены бакавых фасадаў раскрапаваны лапаткамі і прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, ссунутымі ў бок алтара. Інтэр'ер расчлянёны масіўнымі слупамі на 3 нефы. Цэнтральны неф значна шырэйшы за бакавыя, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі.

У царкве ўвасоблены рысы архітэктуры рэнесансу і ранняга барока. *С. Ф. Самбук.*



699. *Успенская царква. План.*

**в. Бялавічы, Косаўскі гарадскі Савет**

**700. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА СА ЗВАНІЦАЙ** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 18 ст. з дрэва на месцы пастаўленай у 1630 г. царквы, мураваная званіца — у 1885 г.

Царква — аднаразрубны прамавугольны ў плане аб'ём з двухгранным алтарным завяршэннем, накрыты двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Франтон галоўнага (заходняга) фасада завяршае невысокая квадратная ў плане вежачка з васьміграным купалком і галоўкай. З боку ўвахода да асноўнага зруба прылягае аднолькавы з ім па вышыні каркасны тамбур. Звонку будынак вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны сцяжкамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Інтэр'ер зальны з бэлечным перакрыццем. Бакавыя сцены раскрапаваны вузкімі пілястрамі з маленькімі капітэлямі. У заходняй частцы над уваходам размешчаны хоры.

Перад царквой стаіць мураваная трох'ярусная чацверыковая званіца-брама, накрытая шатровым дахам. Ніжні ярус прарэзаны арачным праёмам і ўмацаваны контрфорсамі. Яго сцены, складзеныя з бутавага каменю, кантрастуюць з атынкаванымі плоскасцямі верхніх ярусаў. У архітэктурным афармленні званіцы выкарыстаны класіцыстычныя элементы: лапаткі, руст, філёнгі і лучковыя праёмы.

У архітэктуры помніка спалучаюцца рысы традыцыйнага народнага дойлідства і асобныя элементы барока і класіцызму. *С. Ф. Самбук.*

**701. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**701а.** Могільнік-1. За 0,3 км на паўночны захад ад царквы. 4 авальныя ў плане паўсферычныя па форме насыпы вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 6—8 м. Выявіла і абследавала ў 1980 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся.

**701б.** Могільнік-2. На паўднёва-ўсходняй ускраіне могілак. 4 насыпы, блізкія па памерах да курганоў могільніка-1. Вядомы з канца 19 ст., абследавала ў 1980 г. В. С. Вяргей. Раскопкі не праводзіліся. *В. С. Вяргей.*

**702. ПОМНІК БАБРОВУ** Івану Іванавічу, **ТАЛОЧКУ** Канстанціну Дзям'янавічу **І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці аднаго з кіраўнікоў партызанскага руху ў Брэсцкай вобл., сакратара Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б І. І. Баброва, камісара партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі К. Дз. Талочкі, якія 1.11.1943 г. загінулі ў Бялавічах ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, а таксама 91 жыхара

вёсак Бялавічы і Заполле, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Верашкі, цэнтр сельсавета**

**703. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ ПАРТЫЗАН І САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст., маст.). За 13 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Гута-Міхалін. Пахаваны 140 партызан і савецкіх воінаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскай барацьбы ў Брэсцкай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну І. П. Урбановіч, юны партызан брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага М. В. Гойшык (гл. таксама артыкул № 748 «Помнік Гойшыку Мікалаю Васілевічу»).

З восені 1941 г. ў Гута-Міхалінскіх лясах дзейнічала каля 10 партызанскіх груп, якія восенню 1942 г. аб'ядналіся ў партызанскія атрады. З лета 1943 г. ва ўрочышчы базіравалася партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі, створаная ў чэрвені 1943 г. Камандзіры І. П. Урбановіч (чэрвень — ліпень 1943 г.), М. У. Сенькін (ліпень 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары С. П. Папяруха (чэрвень — ліпень 1943 г.), К. Дз. Талочка (верасень — лістапад 1943 г., загінуў), М. Е. Крыштафовіч (лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г.). Праз Гута-Міхалінскія лясы праходзілі савецкія разведчыкі і рэйдавыя фарміраванні беларускіх партызан. Тут у лістападзе 1943 г. адбыліся жорсткія баі з гітлераўцамі.

У 1948 г. ў цэнтры могілак пастаўлены помнік (скульптары А. і І. Сурскія; бетон; вышыня 12 м). Шырокая лесвіца вядзе да 7-метровага пастамента, на ім скульптурная група: стары партызан з узнятым угару аўтаматам і воін Чырвонай Арміі. Абедзве фігуры пададзены ў імклівым руху, які падкрэслены жэстам узнятых рук. На пастаменце — барэльефная выява ордэна Айчыннай Вайны і надпіс «1941—1945». На 4 плітах высечаны імёны загінуўшых. Пляцоўка вакол помніка выкладзена бетоннымі плітамі. Амаль на кожнай магіле пастаўлены абеліск.

Помнік сімвалізуе ідэю адзінства савецкага народа ў грозны час барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *Л. Г. Лапцэвіч, У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**704. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Волька, цэнтр сельсавета**

**705. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, з правага боку дарогі на Дабромысль. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**706. ПОМНІК БАЯВОЙ СЛАВЫ** (гіст.). Каля будынка сельсавета. 9.7.1944 г. недалёка ад вёскі з часцямі Чырвонай Арміі злучыўся 36-ы атрад (камандзір П. А. Кудраўцаў, камісар Ц. М. Кавецкі) 8-й брыгады Брэсцкага партызанскага злучэння. 12.7.1944 г. атрад удзельнічаў у вызваленні г. Івацэвічы. У 1975 г. ў гонар гэтых падзей пастаўлена стэла.

**в. Выганашчы, цэнтр сельсавета**

**707. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Курган насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. На вяршыні Кургана пастаўлены абеліск.

**в. Вяда (не існуе), Выганашчанскі сельсавет**

**708. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Вяда знаходзілася за 4 км на паўночны захад ад в. Бабровічы, на беразе воз. Бабровіцкае. Першыя звесткі пра яе адносяцца да 1433 г. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў вёсцы было 217 жыхароў, 87 двароў.

Увосень 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі праводзілі ў партызанскай зоне карную аперацыю «Балотная ліхаманка — Паўднёвы Захад». Яны палілі і руйнавалі вёскі, знішчалі мірнае насельніцтва. 15.9.1942 г. атрад гітлераўцаў спаліў Вяду разам з жыхарамі. Вёска не адрадзілася.

На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1965 г. недалёка ад спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

*Літ.:* Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі...— Мн., 1975. *М. І. Алексяюк.*

**в. Вялікая Гаць, Святавольскі сельсавет**

**709. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 45 жыхароў вёскі, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гічыцы, Яглевіцкі сельсавет**

**710. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

У 1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 42 жыхароў і спалілі вёску (121 двор). У 1967 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашысцкага тэрору на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Горталь, цэнтр сельсавета**

**711. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 88 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гошчава, Стайкаўскі сельсавет**

**712. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Каля дарогі на г. Косава. Пабудавана ў 1838 г. з дрэва.

Складаецца з квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму з трохгранным ал-



703. *Помнік на брацкіх могілках партызан і савецкіх воінаў.*



700. *Ільінская царква. План.*



700. *Ільінская царква. Званіца-брама.*



712. *Крыжаўзвіжанская царква.*



712. *Крыжаўзвіжанская царква. План.*

тарным завяршэннем і вузкага прамавугольнага бабінца, да якога прылягае тамбур. Асноўны аб'ём накрыты пакатым двухсхільным дахам, які над алтаром мае 3 схілы і васьміграны барабан з купалам у цэнтры. Над бабінцам узвышаецца васьмігранная званіца і 2 чацверыковыя вежы па баках. Сцены гарызантальна ашаляваны дошкамі і аздоблены разьбой. Аконныя праёмы прамавугольныя, на галоўным (заходнім) фасадзе — паўцыркульныя. Уваход падкрэслены падвойнымі калонкамі ганка. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. У заходняй частцы размешчаны вузкія хоры на 4 калонках. Пад асноўным аб'ёмам — мураваная крыпта.

Царква — помнік архітэктуры, які вызначаецца своеасаблівай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй, выкарыстаннем прыёмаў народнага драўлянага дойлідства. *А. Я. Міцянін.*



712. *Крыжаўзвіжанская царква. Падоўжны разрэз.*

**713. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 65 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

### в. Грыўда, Бусяжскі сельсавет

**714. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 27 жыхароў в. Була, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

### в. Дабромысль, цэнтр сельсавета

**715. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

### в. Дабрынёва, Даманаўскі сельсавет

**716. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Грыўда, на пясках. Даўжыня каля 1 км, шырыня 200 м. Выявіў у 1963—64 гг. В. Р. Супрун, даследаваў у 1967 г. М. М. Чарняўскі. На непашкоджаных участках помніка выяўлены культурны пласт шэрага колеру. Сярод знаходак — разнастайныя нуклеусы, крамянёвыя прылады працы (мікраліты, пласціністыя стрэлы, канцавыя скрабкі, праколкі і інш.), а таксама абломкі арнаментаваных гліняных гаршкоў з расліннымі рэшткамі ў іх сценках. Стаянка адносіцца да мезаліту і ранняга этапа нёманскай культуры.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.*: Супрун В. Г. Памятники каменного века и эпохи бронзы в бассейне среднего течения р. Щары.— У кн.: Древности Белоруссии: Материалы конференции по археологии Белоруссии и смежных территорий (1966 г.). Мн., 1966. *М. М. Чарняўскі.*

### в. Даманава, цэнтр сельсавета

**717. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, каля чыгункі. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць гітле-




713. *Помнік землякам.*

раўцаў у 1942—43 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**718. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля чыгуначнай станцыі. Пахаваны 85 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**719. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 9 жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**720. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны савецкі воін, які загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Жытлін, цэнтр сельсавета**

**721. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы. Пахаваны 72 воіны і партызаны брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — адзін з арганізатараў партызанскага руху на Брэстчыне, камандзір партызанскага атрада брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага Аляксей Пятровіч Чаркоў.

Восенню 1941 г. антыфашысцкі камітэт Косаўскага р-на стварыў адну з першых баявых груп, якая ў красавіку 1942 г. вырасла ў партызанскі атрад № 112 (пазней імя В. М. Молатава). Камандзір лейтэнант А. П. Чаркоў. Да снежня 1943 г. атрад дзейнічаў асобна, потым у складзе брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага. У жніўні 1942 г. атрад разграміў фашысцкі гарнізон на чыгуначнай станцыі Святая Воля, дзе партызаны захапілі зброю, боепрыпасы, абмундзіраванне, медыкаменты, прадукты харчавання.

Камандаванню атрада стала вядома, што 11.10.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі маюць намер знішчыць жыхароў вёсак Вавулічы, Дробаты і інш. Для выратавання насельніцтва каля дарогі з в. Гутава ў лесе была зроблена засада. Як толькі калона фашыстаў параўнялася з засадай, партызаны адкрылі агонь. Завязаўся цяжкі бой. Партызаны захапілі гармату і павярнулі яе супраць ворага. Калона была разгромлена. У гэтым баі загінуў А. П. Чаркоў, камісар атрада М. Ф. Паршын, партызаны Гурвіч, Звераў, Мультан, Якаўлеў, Янушэвіч і інш. Яны пахаваны ў вёсцы. Імя А. П. Чаркова было прысвоена аднаму з атрадаў партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага.

У 1959 г. на брацкай магіле воінаў і партызан пастаўлены помнік — скульптура воіна. Імем А. П. Чаркова названа вуліца ў г. Івацэвічы.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *В. Б. Караткевіч.*

**722. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ Ф. Э. ДЗЯРЖЫНСКАГА** (гіст.). У цэнтры вёскі.

Брыгада імя Ф. Э. Дзяржынскага Брэсцкага партызанскага злучэння створана ў снежні 1943 г. Базіравалася ў в. Жытлін і навакольных лясах. Дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Бярозаўскага, Косаўскага і Целяханскага р-наў. Камандзір В. М. Манахаў, камісар П. Р. Кавалёў. Партызаны брыгады рабілі дыверсіі на камунікацыях ворага, знішчалі яго жывую сілу і тэхніку, вялі палітычную работу сярод насельніцтва. Пусцілі пад адхон 225 варожых эшалонаў, падарвалі больш за 4800 рэек. У красавіку 1944 г. брыгада ўдзельнічала ў аперацыі «Здзітаўская абарона». 12.7.1944 г. брыгада ў складзе 4 атрадаў (імя В. М. Молатава, імя М. Ф. Сільніцкага, імя А. П. Чаркова, імя М. І. Калініна; 1040 партызан) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1962 г. ў гонар брыгады пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Ковальский П. М. В Брестских лесах: Записки партизана.— Мн., 1970; Непокорённая Белоруссия: Воспоминания и статьи о всенародном партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг.).— М., 1963. *Г. І. Дулеба.*

**в. Заполле, Косаўскі гарадскі Савет**

**723. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 22 жыхары вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1943 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Зацішша (не існуе), Яглевіцкі сельсавет**

**724. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Зацішша знаходзілася за 0,5 км на поўдзень ад в. Серадава. У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 125 жыхароў і спалілі вёску (37 двароў). Вёска не адрадзілася. У 1967 г. на месцы былой вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Зыбайлы, Яглевіцкі сельсавет**

**725. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана больш за 200 жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 10.3. 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Квасевічы, Верашкоўскі сельсавет**

**726. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля канторы саўгаса «Зара». На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.



729. *Мемарыяльны комплекс на месцы базіравання Брэсцкіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба Брэсцкага партызанскага злучэння. Памятны знак.*

**в. Козікі, цэнтр сельсавета**

**727. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 27 жыхароў вёскі, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1944 г., і 26 аднавяскоўцаў — воінаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Корачын, Жытлінскі сельсавет**

**728. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля вёскі, ва ўрочышчы Боркі. 2 курганы вышынёй 1,5 і 1,8 м, дыяметрам 4 і 5 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1970 г. Г. В. Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

**729. МЕСЦА БАЗІРАВАННЯ БРЭСЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ АБКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, ШТАБА БРЭСЦ-**



729. *Мемарыяльны комплекс на месцы базіравання Брэсцкіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба Брэсцкага партызанскага злучэння. Хата, дзе размяшчаліся Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б і штаб злучэння.*



729. *Мемарыяльны комплекс на месцы базіравання Брэсцкіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба Брэсцкага партызанскага злучэння. Зямлянкі.*

**КАГА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ** (гіст.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, у лясным урочышчы Хаваншчына. Тут у 1943—44 гг. базіраваліся Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б, Брэсцкі падпольны абком ЛКСМБ, штаб Брэсцкага партызанскага злучэння, рэдакцыя і друкарня газеты «Заря» — органа Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.

Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б дзейнічаў з красавіка 1943 г. да вызвалення Брэстчыны (ліпень 1944 г.). З'яўляўся цэнтрам кіраўніцтва камуністычным падполлем і партызанскім рухам у вобласці. Сакратары С. І. Сікорскі, І. І. Бaброў (да 1.11.1943 г., загінуў); члены абкома В. Ф. Каліберaў, С. П. Пацяруха, А. І. Федасюк (да 30.3.1944 г.). Падпольны абком партыі праводзіў вялікую арганізатарскую і палітычную работу па мабілізацыі савецкіх людзей на барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Пад яго кіраўніцтвам дзейнічалі падпольныя 2 міжрайкомы, 10 райкомаў, Брэсцкі падпольны гарком КП(б)Б, 58 пярвічных партарганізацый. У партыйнай арганізацыі вобласці налічвалася 1258 камуністаў. Абком рэгулярна выпускаў баявыя лісткі, адозвы, зводкі Саўінфармбюро і інш., выдаваў газету «Заря» (пачатак мая 1943 г.— ліпень 1944 г., рэдактар В. Ф. Каліберaў).

Брэсцкі падпольны абком ЛКСМБ быў створаны пад кіраўніцтвам Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б. Дзейнічаў з красавіка 1943 г. да ліпеня 1944 г. Сакратары Ф. Дз. Рома, М. М. Лыжын. Брэсцкая абласная падпольная камсамольская арганізацыя налічвала 18 райкомаў (1944 г.), Брэсцкі гарком, 353 пярвічныя арганізацыі, каля 3,5 тыс. камсамольцаў.

Брэсцкае партызанскае злучэнне было створана паводле рашэння Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б у канцы красавіка 1943 г. Камандзір С. І. Сікорскі («Сяргей»), начальнік штаба П. В. Пранягін. У час злучэння з Чырвонай Арміяй (ліпень 1944 г.) Брэсцкае партызанскае злучэнне яднала 11 брыгад, 10 асобных дзейных атрадаў, больш за 12 тыс. узброеных партызан. Народныя мсціўцы наносілі ўдары па камунікацыях ворага, знішчылі больш як 60 тыс. гітлераўцаў, падарвалі больш за 26 тыс. рэек, 2126 чыгуначных эшалонаў, 644 масты на чыгунках і шашэйных дарогах, разграмілі 110 гарнізонаў і штабоў ворага, правялі многа іншых баявых аперацый.

У 1971 г. ва ўрочышчы Хаваншчына створаны мемарыяльны комплекс — 4 драўляныя хаты, 2 зямлянкі, калодзеж, «лясная школа» (некалькі самаробных сталоў, лавак і школьная дошка на каржакаватым ствале дрэва). Устаноўлены шчыт з тэкстам «Прысягі беларускага партызана» і вялікі валун з памятным надпісам.

*Літ.:* Непокорённая Белоруссия: Воспоминания и статьи о всенародном партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг.).— М., 1963; Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.— Мн., 1959; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Ромма Ф. Мужала молодость в боях.— Мн., 1974.

*Г. І. Дулеба.*



729. *Мемарыяльны комплекс на месцы базіравання Брэсцкіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба Брэсцкага партызанскага злучэння. Хата, дзе размяшчаліся рэдакцыя і друкарня газеты «Заря» — органа Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б.*

## Х. КОСАВА

Горад у Івацэвіцкім р-не, за 151 км па паўночны ўсход ад Брэста, за 13 км ад чыгуначнай станцыі Косава-Палескае на лініі Брэст — Баранавічы.

Косава ўзнікла на гандлёвым шляху (захавалася гарадзішча 10—12 стагоддзяў). У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1494 г. ў прывілеі вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Аляксандра, які падараваў яго маршалку І. Храптовічу. Належаў магнатам Сангушкам, з 1611 г. Сапегам, у 2-й палавіне 18 ст.— Пуслоўскім. З 1795 г. Косава ў складзе Расіі — мястэчка Слонім-



729. *Мемарыяльны комплекс на месцы базіравання Брэсцкіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба Брэсцкага партызанскага злучэння. Шпіталь.*



729. *Мемарыяльны комплекс на месцы базіравання Брэсцкіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба Брэсцкага партызанскага злучэння. Хата, дзе размяшчаўся Брэсцкі падпольны абком ЛКСМБ.*

скага павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. Уз'яднанне з Расіяй садзейнічала развіццю мястэчка. У 1-й палавіне 19 ст. былі адкрыты 2 суконныя мануфактуры. Найбольш буйная з іх (памешчыка Пуслоўскага) у 1845 г. налічвала 200 рабочых. На ёй была ўстаноўлена першая на Беларусі паравая машына. У сярэдзіне 19 ст. ў Косаве каля 750 жыхароў, 3 цагляныя і 101 драўляны будынкі, 2 крамы. Да канца стагоддзя насельніцтва павялічылася ў 4 разы і ў 1897 г. склала 3092 чалавекі. Мела 64 цагляныя і 807 драўляных будынкаў, з іх 643 жылыя. Дзейнічалі сельскае народнае вучылішча, прыёмны пакой для хворых, аптэка. На 4 паравых млынах працавалі 13 рабочых.



729. *Мемарыяльны комплекс на месцы базіравання Брэсцкіх падпольных абкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, штаба Брэсцкага партызанскага злучэння. «Лясная школа».*

З 1915 г. Косава акупіравана германскімі войскамі, у 1919—20 гг.— войскамі буржуазнай Польшчы. З 1921 г. ў складзе Польшчы, горад, цэнтр павета Палескага ваяводства. Сялянства Косаўшчыны пад кіраўніцтвам КПЗБ і Беларускай сялянска-рабочай грамады актыўна выступала супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. 3.2.1927 г. адбылася дэманстрацыя працоўных, арганізаваная Косаўскім падпольным райкомам КПЗБ, якую расстраляла паліцыя (гл. артыкул № 737 «Помнік у памяць дэманстрацыі 1927 года»).

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. Косава ўвайшло ў склад Брэсцкай вобл. У 1940—49 гг. цэнтр раёна. У гады Вялікай Айчыннай вайны з 25.6.1941 г. да 13.7.1944 г. Косава акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (чэрвень 1944 г.—12.7.1944 г.) і ЛКСМБ (1.9. 1943 г.—12.7.1944 г.). 2.8.1942 г. партызаны атрадаў імя К. Я. Варашылава, імя Г. М. Дзімітрова, імя М. А. Шчорса знішчылі гарнізон акупантаў і на працягу месяца ўтрымлівалі горад.

Цяпер Косава — горад раённага падпарадкавання. Планіровачная структура яго цэнтральнай часткі — прамавугольная сетка вуліц, якія ствараюць дробныя кварталы. Генеральны план Косава распрацаваны БелНДІдзіпрасельбудам у 1972 г. і прадугледжвае яго развіццё ў сучасных межах за кошт рэканструкцыі існуючай малапавярховай забудовы, а таксама шляхам будаўніцтва шматкватэрных і індывідуальных жылых дамоў на свабоднай тэрыторыі ва ўсходняй частцы горада. Грамадскі, культурны і гандлёвы цэнтр запраектаваны на перакрыжаванні галоўных вуліц — Леніна і 3 Лютага.

Прамысловая зона развіваецца на базе мэблевага вытворчага аб'яднання, размешчанага ў паўднёвай частцы горада, з пашырэннем у перспектыве ў паўднёва-ўсходнім напрамку. Працуюць камбінат бытавога абслугоўвання, хлебапякарня.

У горадзе сярэдняя, рабочай моладзі і музычная школы, 2 дашкольныя дзіцячыя ўстановы, Дом культуры, бібліятэка, бальніца. У гарадскім скверы на вул. 3 Лютага пастаўлены абеліск у гонар дэманстрацыі 3.2. 1927 г. Зберагліся помнік архітэктуры 19 ст.— Троіцкі касцёл, за 2 км ад горада ва ўрочышчы Мерачоўшчына — палац 19 ст.

Зона адпачынку — у парку ва ўрочышчы Мерачоўшчына.

*Літ.:* Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Kalendarz ziem wschodnich na rok 1936.— Warszawa, 1935.

*М. І. Алексяюк, Э. М. Савіцкі, С. Ф. Самбук.*

**730. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. 3 Лютага, у скверы. Пахаваны 68 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — партызаны атрадаў імя К. Я. Варашылава, імя Г. М. Дзімітрова і імя М. А. Шчорса, якія загінулі 2.8.1942 г. пры разгроме фашысцкага гарнізона ў Косаве (гл. артыкул № 736 «Помнік партызанскай славы»), і воіны, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада.

Развіваючы наступленне на Брэсцкім напрамку, войскі 1-га Беларускага фронту 13.7.1944 г. занялі адзін з апорных пунктаў нямецка-фашысцкіх войск — г. Косава. У вызваленні горада ўдзельнічалі 19-я механізаваная брыгада (камандзір палкоўнік У. В. Яршоў), 9-ы танкавы полк (камандзір капітан М. Н. Бартоўскі) і 75-ы самаходна-артылерыйскі полк (камандзір падпалкоўнік П. Я. Карпенка).

У 1960 г. на магіле воінаў і партызан пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Сообщения Советского Информбюро. Т. 7.— М., 1945. *Г. І. Дулеба.*

**731. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Ва ўрочышчы Мерачоўшчына, за 0,2 км на захад ад палаца.

У 1871—72 гг. невялікія раскопкі праводзіў Я. Завіша. Пасля Вялікай Айчыннай вайны гарадзішча даследавалі Ю. У. Кухарэнка, П. Ф. Лысенка, Л. Д. Побаль, П. А. Рапапорт. Гарадзішча авальнае ў плане (60×42 м), зарасло хвойнікам. Умацавана 2 валамі вышынёй больш за 2 м. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзены рэшткі вогнішчаў на брукаванай пляцоўцы і фрагменты ляпнога посуду. На паверхні гарадзішча трапляюцца абломкі сярэдневяковай керамікі, зробленай на ганчарным крузе, з хвалістым арнаментам. Паводле археалагічных матэрыялаў гарадзішча можна аднесці да жалезнага веку і раннефеадальнага перыяду (10—11 стагоддзі).

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

*Л. Д. Побаль.*

**732. ДОМ, У ЯКІМ АДБЫВАЛІСЯ ПАСЯДЖЭННІ АНТЫФАШЫСЦКАГА КАМІТЭТА** (гіст.). Вул. 3 Лютага, 71. У гэтым доме ў 1941—42 гг. у час акупацыі Беларусі нямецка-фашысцкімі захопнікамі адбываліся пасяджэнні Косаўскага падпольнага раённага антыфашысцкага камітэта, які ўзначальваў М. Ф. Трында.

У 1975 г. ў гонар падпольшчыкаў на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**733. МАГІЛА БЯЗЗУБАВА** (гіст.). На вул. 3 Лютага, у скверы. Маёр Бяззубаў загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**734. МАГІЛА ПАЛЕШЧУКА** Уладзіміра Іосіфавіча **І ТРЫНДЫ** Мікалая Фёдаравіча (гіст.). На вул. 3 Лютага, у скверы.

У. І. Палешчук — партызан Вялікай Айчыннай вайны. Загінуў у маі 1944 г. пры выкананні баявога задання.

М. Ф. Трында нарадзіўся 24.2.1904 г. ў Косаве. З рабочых. Член КПЗБ. Актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. За рэвалюцыйную дзейнасць неаднаразова быў арыштаваны польскімі буржуазнымі ўладамі, каля 8 гадоў правёў у турмах. У Вялікую Айчынную вайну адзін з арганізатараў і кіраўнікоў падпольнай і партызанскай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Косаўскага р-на. З 1941 г. ўзначальваў Косаўскі падпольны раённы антыфашысцкі камітэт. Загінуў у баі 11.5.1944 г. Імем М. Ф. Трынды названа вуліца ў Косаве.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**735. ПАЛАЦ** (архіт.). На заходняй ускраіне горада, ва ўрочышчы Мерачоўшчына. Быў акружаны паркам (не збярогся), які вызначаўся дасканалай планіроўкай і каштоўным дэндралагічным складам. Праекты палаца і парку распрацаваны арх. Ф. Яшчолдам у 1838 г. У будаўніцтве прымаў удзел арх. У. Маркові. У час Вялікай Айчыннай вайны палац моцна пашкоджаны.

Палац складаецца з цэнтральнага двухпавярховага корпуса, які з'яўляецца яго кампазіцыйным ядром, і 2 бакавых крылаў, злучаных з ім вузкімі галерэямі, прарэзанымі высокімі стральчатымі аркамі. Вуглы цэнтральнага корпуса фланкіраваны гранёнымі вежамі рознай вышыні, вуглы бакавых крылаў умацаваны вежападобнымі эскарпамі. Фасады рытмічна чляняцца стральчатымі аркамі, аконнымі праёмамі, перспектыўнымі нішамі, гранёнымі вежамі. Унутраная планіроўка сіметрычная, характэрная для палацавай архітэктуры класіцызму. У цэнтральным корпусе залы згрупаваны вакол вестыбюля. У бакавых карпусах размяшчаліся службовыя памяшканні.

Палац — прыклад спалучэння класіцыстычных прыёмаў у планіроўцы і кампазіцыі з элементамі неаготыкі ў архітэктурнай аздобе. *С. Ф. Самбук.*



**735.** *Палац.*




**737.** *Помнік у памяць дэманстрацыі 3.2.1927 г.*



**735.** *Палац. План.*

**736. ПОМНІК ПАРТЫЗАНСКАЙ СЛАВЫ** (гіст.). На вул. Чырвонаармейскай, у скверы.

На досвітку 2.8.1942 г. 480 партызан атрадаў імя К. Я. Варашылава, імя Г. М. Дзімітрова і імя М. А. Шчорса пад агульным камандаваннем П. В. Пранягіна атакавалі гарнізон у г. Косава, дзе было больш за 200 гітлераўцаў і паліцэйскіх. Бой працягваўся больш як 4 гадзіны. Да поўдня горад быў поўнасцю ачышчаны ад ворага. З турмы і гета народныя мсціўцы вызвалілі і вывелі ў лес некалькі сотняў савецкіх грамадзян. У падрыхтоўцы аперацыі вялікую дапамогу аказалі члены Косаўскай падпольнай раённай антыфашысцкай арганізацыі. У горадзе больш як месяц дзейнічала партызанская камендатура.

У 1955 г. ў гонар баявой аперацыі партызан пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967.
*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**737. ПОМНІК У ПАМЯЦЬ ДЭМАНСТРАЦЫІ 1927 ГОДА** (гіст.). На вул. 3 Лютага, у скверы.

3.2.1927 г. Косаўскі райком КПЗБ арганізаваў дэманстрацыю сялян у знак пратэсту супраць разгрому ўрадам буржуазнай Польшчы Беларускай сялянска-рабочай грамады, арышту яе кіраўнікоў і актывістаў. Дэманстрацыя, у якой прынялі ўдзел больш за 1500 чалавек, праводзілася пад лозунгамі: «Вызваліць рабоча-сялянскіх дэпутатаў, вызваліць усіх палітзняволеных!», «Няхай жыве Савецкая Беларусь!». З чырвонымі сцягамі, спяваючы «Інтэрнацыянал», сяляне прайшлі па вуліцах г. Косава. На рыначнай плошчы адбыўся мітынг. Спецыяльна прысланы атрад паліцыі адкрыў стральбу па дэманстрантах. Былі забіты С. Верабей, П. Гаўрус, М. Еўтух, І. Кучук, І. Ракевіч, М. Таптала і паранены 35 чалавек. Пахаванне забітых 4 лютага вылілася ў маніфестацыю пратэсту. Расстрэл сялян выклікаў шырокую хвалю абурэння працоўных Польшчы. ЦК КПЗБ звярнуўся з адозвай да ўсіх рабочых, сялян і салдат, у якой заклікаў да барацьбы з дыктатурай Пілсудскага. Гэтыя падзеі вядомы пад назвай «Косаўскі расстрэл 1927 г.».

У 1966 г. ў памяць дэманстрацыі пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1962; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966. *У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**738. РАДЗІМА КАСЦЮШКІ** Тадэвуша (гіст.). У былым фальварку Мерачоўшчына. Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве.

Нарадзіўся 4.2.1746 г. ў сям'і беларускага шляхціца. У афіцыйных дакументах прозвішча Касцюшкаў пісалася Касцюшкі-Сяхновіцкія (па назве



738. *Дом Касцюшкаў. З малюнка М. Кулешы «Мерачоўшчына». 2-я палавіна 19 ст.*

радавога маёнтка Сяхновічы, цяпер на тэрыторыі Жабінкаўскага р-на). Аднапавярховы драўляны дом Касцюшкаў у Вялікую Айчынную вайну згарэў, асталіся рэшткі падмурка.

Пачатковую адукацыю Т. Касцюшка атрымаў у калегіі піяраў у Любяшове (1756—59 гг.). У 1766 г. скончыў Варшаўскі кадэцкі корпус, у 1769—74 гг. вучыўся ў ваеннай акадэміі ў Парыжы. Значны ўплыў на фарміраванне яго светапогляду зрабілі творы французскіх матэрыялістаў. Пасля вяртання на радзіму працаваў хатнім настаўнікам. У 1776—83 гг. Т. Касцюшка добраахвотнікам удзельнічаў у вайне за незалежнасць у Паўночнай Амерыцы. Вызначыўся ў бітве пад Саратогай (1777 г.). Атрымаў чын брыгаднага генерала амерыканскай арміі. У 1784 г. вярнуўся на радзіму і займаўся гаспадаркай у Сяхновічах. З 1789 г. ў польскай арміі. Паказаў сябе здольным камандзірам у баях супраць рэакцыйнай Таргавіцкай канфедэрацыі (1792 г.). Пасля перамогі канфедэратаў выехаў за мяжу і стаў адным з кіраўнікоў польскай эміграцыі. У пачатку нацыянальна-вызваленчага паўстання (сакавік 1794 г.) Т. Касцюшка вярнуўся ў Польшчу, быў абвешчаны галоўнакамандуючым нацыянальнымі ўзброенымі сіламі і начальнікам паўстання. Пад яго кіраўніцтвам паўстанская армія 4.4. 1794 г. пад Рацлавіцамі разбіла царскія войскі (атрад генерала Тармасава). Т. Касцюшка імкнуўся схіліць да паўстання сялянскія масы і насельніцтва гарадоў, надаць яму агульнанародны дэмакратычны характар. Аднак з-за супраціўлення шляхты і ўласнай нерашучасці гэтай мэты яму дасягнуць не ўдалося. У час няўдалай бітвы каля Мацяёвіц 10.10.1794 г. Т. Касцюшка быў цяжка паранены і ўзяты ў палон царскімі войскамі. Па загаду Кацярыны II пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Пасля вызвалення Паўлам I (1796 г.) выехаў у ЗША, у 1798 г. зноў вярнуўся ў Еўропу. Захоўваючы вернасць дэмакратычным прынцыпам, не згадзіўся ўзначаліць польскія легіёны ў Францыі, якія контррэвалюцыйная французская Дырэкторыя збіралася выкарыстаць у сваіх мэтах. Пазней адмовіўся супрацоўнічаць з Напалеонам I (1806 г.) і з Аляксандрам I (1814—15 гг.).

Т. Касцюшка памёр 15.10.1817 г. ў Салюры (кантон Золатурн, Швейцарыя). Прах перавезены ў Кракаў і пахаваны на Вавелі. У Кракаве Т. Касцюшку пастаўлены помнік. Яго імем была названа 1-я дывізія Войска Польскага, сфарміраваная ў Савецкім Саюзе ў Вялікую Айчынную вайну (1943 г.).

*Літ.:* Островер Л. И. Тадеуш Костюшко.— М., 1961.— (Жизнь замечательных людей); Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Dihm J. Kościuszko nieznany.— Wrocław etc., 1969; Tadeusz Kościuszko w historii i tradycji.— Warszawa, 1968.

*М. І. Алексяюк.*

**739. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На вул. Леніна, у цэнтры горада. Пабудаваны ў 1878 г. з цэглы.



739. *Троіцкі касцёл. Галоўны фасад.*

Складаецца з аднанефавага прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і больш нізкай пяціграннай алтарнай апсіды з 2 сакрысціямі. Асноўны аб'ём завершаны вежай званіцы з вы-



739. *Троіцкі касцёл. План.*



739. *Троіцкі касцёл. Выгляд з боку апсіды.*

сокім шатровым пакрыццём. Галоўны (паўднёва-заходні) фасад аздоблены плоскімі нішамі разнастайных форм і акном-ружай у складаным прафіляваным стральчатым абрамленні. Партал увахода адзначаны вімпергам. Сцены бакавых фасадаў маюць вертыкальныя чляненні ў выглядзе ступеньчатых контрфорсаў. У будынку вузкія стральчатыя вокны з вітражамі. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі, якія аздоблены арнаментальнай размалёўкай. Над уваходам — хоры на 2 калонках.

Касцёл — помнік архітэктуры неагатычнага стылю. *С. Ф. Самбук.*

**в. Краглевічы, Целяханскі пасялковы Савет**

**740. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, каля шашы Целяханы — Пінск. У гонар воінаў 48-й гвардзейскай стралковай дывізіі і партызан атрада імя А. Ф. Баруцкага партызанскай брыгады імя В. У. Куйбышава, якія 11.7.1944 г. вызвалілі в. Краглевічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Красніца (не існуе), Выганашчанскі сельсавет**

**741. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Красніца знаходзілася за 3 км на захад ад в. Выганашчы. У час карнай аперацыі «Балотная ліхаманка — Паўднёвы Захад», якую з 12.9.1942 г. ў раёне Івацэвічы — воз. Бабровіцкае — Дабромысль праводзілі 8-ы і 10-ы палкі 1-й пяхотнай дывізіі СС супраць партызан, фашысты акружылі Красніцу, знішчылі 90 жыхароў і спалілі ўсе 16 двароў. Вёска не адрадзілася. У 1950 г. на яе месцы пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



745. *Царква Ганны.*

**в. Любішчыцы, цэнтр сельсавета**

**742. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**743. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 21 мірны жыхар, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі восенню 1942 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**744. СТАЯНКА** (археал.). Знаходзіцца на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Грыўда, ва ўрочышчы Сежня. Выявіў і абследаваў у 1967 г. У. Ф. Ісаенка. Памеры 50×150 м. Усходні край стаянкі зарос хвойнікам. Захаваўся культурны пласт таўшчынёй да 1 м. Сярод знаходак — расшчэпленыя неапрацаваныя крамяні і разнастайныя крамянёвыя прылады працы: лінзападобныя сякеры, скрабкі, разцы і праколкі. Знойдзены аднапляцовачныя нуклеусы, абломкі глінянага посуду, найбольш ад вастрадонных ляпных гаршкоў, для вырабу якіх дамешваліся жарства і часам раслінныя рэшткі. Пад венчыкам пасудзіны былі ўпрыгожаны глыбокімі ямкамі, сценкі — наколатым арнаментам. Паселішча адносіцца да нёманскай культуры (2-я палавіна 3-га тысячагоддзя да н. э., позні неаліт). Яго бліжэйшыя аналагі знаходзяцца на р. Шчара (Добры Бор Баранавіцкага р-на, Русакова Слонімскага р-на) і ў басейне верхняга цячэння Прыпяці (Камень Пінскага р-на).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**745. ЦАРКВА ГАННЫ** (архіт.). Каля шашы. Пабудавана ў 1845 г. з цэглы. Да квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму з 2 бакавымі прыбудовамі далучаны пяцігранная апсіда і драўляны тамбур. Асноўны аб'ём на 2-м ярусе пераходзіць у васьміграны са шчытамі, завершаны шатром і пяццю галоўкамі. Прамавугольныя аконныя праёмы ў прафіляваных ліштвах. Вуглы бакавых прыбудоў дэкарыраваны пілястрамі.



745. *Царква Ганны. План.*



748. *Помнік Мікалаю Гойшыку.*

Царква — узор выкарыстання ў архітэктуры стылізаваных форм старажытнарускага дойлідства.

**в. Магіліцы, Волькаўскі сельсавет**

**746. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Іскра». На ўшанаванне памяці 84 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**747. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У ліпені 1944 г. 36-ы партызанскі атрад 8-й брыгады Брэсцкага партызанскага злучэння на чале з камандзірам П. А. Кудраўцавым і камісарам Ц. М. Кавецкім знішчыў нямецка-фашысцкі гарнізон у в. Магіліцы. У 1975 г. ў гонар баявой аперацыі партызан пастаўлена стэла.

**в. Міхнавічы, Стайкаўскі сельсавет**

**748. ПОМНІК ГОЙШЫКУ** Мікалаю Васілевічу (гіст., маст.). На поўдзень ад вёскі, злева ад шашы Івацэвічы — Брэст.

М. В. Гойшык нарадзіўся 17.1.1927 г. ў в. Воля Івацэвіцкага р-на. У пачатку вайны партызанскі сувязны, з 1943 г. падрыўнік партызанскай брыгады імя Ф. Э. Дзяржынскага. У атрадзе ўступіў у камсамол. Пусціў пад адхон 7 варожых эшалонаў. 24.4.1944 г. М. В. Гойшык з 2 таварышамі пайшоў на чарговае баявое заданне з мэтай падарваць варожы эшалон на ўчастку чыгункі Івацэвічы — Брэст. Загадзя замініраваць рэйкі было немагчыма, таму што прагон узмоцнена ахоўвалі нямецкія патрулі. І тады М. В. Гойшык з мінай кінуўся пад эшалон з танкамі, гарматамі і жывой сілай ворага. Выбухам цягнік быў скінуты пад адхон. Адважны юнак загінуў. Пахаваны на партызанскіх могілках ва ўрочышчы Гута-Міхалін (за 13 км на поўдзень ад в. Верашкі). Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Імем М. В.

Гойшыка названа вуліца ў Івацэвічах. Яго імя прысвоена Яглевіцкай сярэдняй школе, піянерскім атрадам, дружынам у многіх школах Беларусі. У Івацэвічах ёсць пакой-музей М. В. Гойшыка (вул. Дзяржынскага, 18), у Мінску — помнік.

Непадалёку ад месца гібелі М. В. Гойшыка ў 1968 г. пастаўлены помнік (скульпт. М. Рыжанкоў, арх. В. Занковіч, Л. Левін; бетон; вышыня 2 м) — скульптура юнага партызана на шырокім стылабаце. Постаць юнака пададзена ў рашучым руху. Лаканічнымі пластычнымі сродкамі перадаецца ўнутраная сабранасць партызана, мэтанакіраванасць і гатоўнасць да самаахвярнасці. Фонам для скульптуры з'яўляецца 8-метровая стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.
*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч, Г. М. Ярмоленка.*

**в. Няхачава, Стайкаўскі сельсавет**

**749. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). На шашы Мінск — Брэст, якая праходзіць праз вёску. Пабудавана ў 1840-я гг. з цэглы.

Е-падобная ў плане кампазіцыя комплексу складаецца з 3 аднапавярховых карпусоў: цэнтральнага і 2 бакавых, аб'яднаных сценкамі з арачнымі праездамі, што вядуць ва ўнутраны двор. Цэнтральны, квадратны ў плане, і падоўжныя бакавыя карпусы накрыты вальмавымі дахамі. Галоўны паўднёвы фасад (арыентаваны на шашу) вылучаны ў цэнтры плоскім рызалітам, які завершаны ступеньчатым атыкам. Сцены будынкаў апрацаваны плоскім рустам. Аконныя праёмы (лучковыя ў цэнтральным корпусе і прамавугольныя ў бакавых) аздоблены паўцыркульнымі і лучковымі аркамі з клінчатым рустам. Унутраная планіроўка аб'ёмаў адпавядала іх функцыянальнаму прызначэнню: у цэнтральным знаходзіліся службовыя і жылыя памяшканні для падарожных, бакавыя карпусы выкарыстоўваліся для гаспадарчых патрэб і стайняў.

Будынак станцыі — помнік грамадзянскай архітэктуры позняга класіцызму. *Т. І. Чарняўская.*



749. *Паштовая станцыя. План.*

**в. Падстарынь, Кушняроўскі сельсавет**

**750. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВАСІЛЕВІЧУ** Івану Іванавічу (гіст.). На будынку Падстарынскай васьмігадовай школы.

Савецкі ваенны дзеяч, камдыў (з 1936 г.) І. І. Васілевіч нарадзіўся 18.6.1895 г. ў в. Падстарынь Івацэвіцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з мая 1917 г. У 1916 г. скончыў Чугуеўскае ваеннае вучылішча. У 1-ю сусветную вайну прапаршчык І. І. Васілевіч быў на Заходнім фронце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. праводзіў палітычную работу сярод салдат. Удзельнічаў у барацьбе за ўстанаўленне Савецкай улады ў Тульскай губерні, потым знаходзіўся на партыйнай рабоце на Беларусі. З канца 1918 г. ў Чырвонай Арміі: камісар палка, начальнік палітаддзела дывізіі, начальнік і ваенком Аб'яднанай беларускай ваеннай школы. Кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1930—32 гг. Член ЦВК БССР у 1929—32 гг. З 1932 г. камендант умацаванага раёна, з 1936 г. камандзір 26-га стралковага корпуса Асобай Далёкаўсходняй арміі. Узнагароджаны ордэнам Леніна, Чырвонага Сцяга і Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР.

І. І. Васілевіч памёр 25.8.1938 г. У 1975 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Г. І. Дулеба.*

**751. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГУЛЕВІЧУ** Аляксею Антонавічу (гіст.). Устаноўлена ў 1972 г. на будынку Падстарынскай васьмігадовай школы, дзе вучыўся камсамолец А. А. Гулевіч, які ў Вялікую Айчынную вайну быў партызанскім сувязным і загінуў у барацьбе за свабоду і незалежнасць Радзімы ў 1944 г.

**752. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 132 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.



749. *Паштовая станцыя.*




753. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Рудня, Быценскі сельсавет**

**753. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі. Пахавана каля 2 тыс. савецкіх грамадзян з в. Быцень, расстраляных у 1941—42 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Рэчкі, цэнтр сельсавета**

**754. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 101 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і партызана, побач — стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Сакоўцы, Мілейкаўскі сельсавет**

**755. РАДЗІМА ПЕСТРАКА** Піліпа Сямёнавіча (гіст.). Беларускі савецкі пісьменнік, удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, заслужаны дзеяч культуры БССР (1968 г.) П. С. Пестрак нарадзіўся 14.11.1903 г. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. У 1920—21 гг. вучыўся на эканамічным аддзяленні сацыяльна-гістарычнага факультэта Самарскага універсітэта. У 1921 г. вярнуўся на радзіму, якая была захоплена буржуазнай Польшчай. Працаваў грузчыкам на лесапільні, лесарубам, лесніком. У 1924—26 гг. служыў у польскай арміі. З 1927 г. сакратар Косаўскага райпнага, член Слонімскага акруговага камітэта КПЗБ, у 1933—34 гг. інструктар ЦК КПЗБ. За падпольную дзейнасць неаднаразова быў арыштаваны ўладамі буржуазнай Польшчы. Амаль 11 гадоў знаходзіўся ў турмах;




754. *Помнік землякам.*

вызвалены Чырвонай Арміяй у верасні 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну ў партызанах, у 1943—45 гг. начальнік Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР. У 1946—47 гг. у Інстытуце мовы, літаратуры і мастацтвазнаўства АН БССР, у 1947—49 гг. літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР.

П. Пестрак пачаў друкавацца ў 1926 г. Выдаў зборнікі вершаў «На варце» (1940 г.), «За сваю Айчыну» (1946 г.), «Падарожнае» (1962 г.), паэму «Слова пра Мінск» (1968 г.). Апублікаваў аповесць «Пачатак» (1948 г.), празаічныя зборнікі «Першыя ўсходы» (1951 г.), «Неспадзявана» (1957 г.), «Лясная песня» (1958 г.) «Сярод чаротаў» (1964 г.), «Апавяданні» (1970 г.). Аўтар раманаў «Сустрэнемся на барыкадах» (1951—54 гг.), «Серадзібор» (1961—63 гг., Літаратурная прэмія імя Я. Коласа 1964 г.). У 1969—71 гг. выдадзены «Збор твораў» (т. 1—4). Асноўныя матывы творчасці пісьменніка — жыццё і рэвалюцыйная барацьба працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, гераізм савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну, змены ў жыцці і свядомасці насельніцтва заходніх абласцей Беларусі пасля ўз'яднання з БССР. П. Пестрак вядомы і як перакладчык з польскай, украінскай, літоўскай і іншых моў.

Дэпутат Народнага сходу Заходняй Беларусі (г. Беласток, 1939 г.), член Паўнамоцнай камісіі Народнага сходу на сесіях Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР (1939 г.). Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1940—46 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1971—75 гг.

П. С. Пестрак памёр 22.8.1978 г. Пахаваны ў Мінску на могілках па Маскоўскай шашы. Яго імя прысвоена Івацэвіцкай раённай бібліятэцы.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі: Кароткі даведнік.— Мн., 1981; Хромчанка К. Р. Піліп Пестрак: Жыццё і творчасць.— Мн., 1960. *Г. І. Дулеба.*

**в. Святая Воля, цэнтр сельсавета**

**756. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км ад вёскі, справа ад дарогі на в. Доўгае. 9 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам да 10 м. Выявіў у 1968 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1970 г. В. Р. Выржыкоўскі. Раскопкі не праводзіліся.

**757. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля сельсавета. На ўшанаванне памяці 61 жыхара вёсак Доўгае, Малая Гаць, Святая Воля, Турная, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сенькавічы, Кушняроўскі сельсавет**

**758. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія капцы. На могілках. 11 насыпаў вышынёй 0,4—0,8 м, дыяметрам 4—6 м. Курганы здзірванелыя, на некаторых растуць дрэвы. Вядомы з канца 19 ст. У 1965 г. П. Ф. Лысенка раскапаў 4 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Нябожчыка хавалі ў падкурганнай яме глыбінёй 0,7—1,3 м, клалі галавой на захад, рукі — уздоўж тулава. Выяўлены плямы, насычаныя попелам і дробным вуголлем. Гэта, хутчэй за ўсё, рэшткі рытуальнага вогнішча. Пахавальны інвентар нешматлікі. Мяркуючы па абрадзе пахавання і інвентару, могільнік адносіцца да 11—13 стагоддзяў.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Стайкі, цэнтр сельсавета**

**759. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 57 жыхароў сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлены абеліск.

**в. Тупічыцы (не існуе), Выганашчанскі сельсавет**

**760. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Тупічыцы знаходзілася каля воз. Бабровіцкае, за 4 км на паўночны захад ад в. Бабровічы. Вядома з 1552 г. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны ў вёсцы было 143 жыхары, 43 двары. Нямецка-фашысцкія захопнікі ў час правядзення карнай аперацыі «Балотная ліхаманка — Паўднёвы Захад» 15.9.1942 г. спалілі в. Тупічыцы і загубілі ўсіх яе жыхароў.

Вёска не адрадзілася. У 1965 г. недалёка ад спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

*Літ.:* Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі...— Мн., 1975. *М. І. Алексяюк.*

**в. Хадакі, Жытлінскі сельсавет**

**761. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны жыхары вёскі А. Я. Калтун і А. М. Калтун, расстраляныя гітлераўцамі 14.3.1943 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хрышчонавічы, Верашкоўскі сельсавет**

**762. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

У 1942 г. ў в. Хрышчонавічы і яе наваколлі партызанскі атрад імя Г. М. Дзімітрова вёў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. ў памяць аб гэтых баях і мужнасці партызан пастаўлены абеліск.

**г. п. Целяханы, цэнтр пасялковага Савета**

**763. АГІНСКІ КАНАЛ** (гіст.). Пабудаваны ў 1767—83 гг. паміж рэкамі Ясельдай і Шчарай па ініцыятыве і па сродкі гетмана Вялікага княства Літоўскага магната М. К. Агінскага. Злучае басейны Дняпра і Нёмана ў адзіную водную сістэму. Праходзіць праз Выганаўскае і Вулькаўскае азёры. Даўжыня 54 км. Пасля адкрыцця суднаходства па канале перавозілі галоўным чынам збожжа і лес, а таксама сыравіну на вотчынныя мануфактуры ў Целяханы, што спрыяла эканамічнаму развіццю мястэчка — аднаго з уладанняў Агінскага. Канал меў 10 шлюзаў. З прычыны няўдала



764. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў і партызан.*

спраектаванай трасы ў засуху зніжаўся ўзровень вады, пагаршаліся ўмовы навігацыі.

У час 1-й сусветнай вайны ўздоўж канала праходзіла лінія фронту, усе гідратэхнічныя збудаванні былі разбураны. Адноўлены ў 1920-я гады. Да 1941 г. канал выкарыстоўваўся для сплаву лесу і пасажырскай сувязі паміж Пінскам і Целяханамі. Другі раз шлюзы разбураны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Цяпер канал страціў былое гаспадарчае значэнне.

*Літ.:* Рашевский Н. Брестская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1975; Kalendarz ziem wschodnich na rok 1936.— Warszawa, 1935. *М. І. Алексяюк.*

**764. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Ленінскай, у скверы. У 10 брацкіх магілах пахаваны 41 воін і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — партызаны 99-й брыгады імя Дз. Ц. Гуляева і воіны 138-га гвардзейскага стралковага палка 48-й гвардзейскай стралковай дывізіі, якія 16.7.1944 г. вызвалілі Целяханы ад ворага.

У 1952 г. на могілках пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.



765. *Курган Памяці.*

**765. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). На заходняй ускраіне пасёлка. Курган насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе, а таксама загублены нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну.

**766. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст.). Вул. Савецкая, 37. Устаноўлена ў 1967 г. на доме, у якім у 1939—40 гг. жыла В. З. Харужая — дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну, публіцыст, Герой Савецкага Саюза.

**767. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ ХАРУЖАЙ** Веры Захараўны (гіст.). Парк культуры і адпачынку. Тут у 1939—40 гг. перад насельніцтвам выступала В. З. Харужая — інструктар Целяханскага райкома КП(б)Б. На ўшанаванне яе памяці на будынку народнага тэатра, які знаходзіцца ў парку, у 1967 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

**768. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ленінскай. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1951 г.

**769. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У парку. У студзені 1944 г. партызаны брыгад 8-й (створана ў снежні 1943 г., камандзір С. Г. Жунін, камісар В. А. Пятроў), імя Ф. Э. Дзяржынскага (створана ў снежні 1943 г., камандзір В. М. Манахаў, камісар П. Р. Кавалёў) Брэсцкага партызанскага злучэння і імя В. У. Куйбышава (створана ў лістападзе 1943 г., камандзір У. М. Антаповіч, камісар Ф. С. Міхалковіч) Пінскага партызанскага злучэння разграмілі нямецка-фашысцкі гарнізон у Целяханах.

У 1949 г. ў гонар подзвігу партызан пастаўлены абеліск.

**в. Яглевічы, цэнтр сельсавета**

**770. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 г. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**771. МАГІЛА КЛЮТКО** Віктара Сцяпанавіча (гіст.). На могілках.



768. *Помнік У. І. Леніну.*

В. С. Клютко нарадзіўся ў 1924 г. ў в. Яглевічы Івацэвіцкага р-на. З сялян. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну сакратар Яглевіцкай падпольнай камсамольскай арганізацыі (1941—42 гг.), партызанскі сувязны. Збіраў зброю і боепрыпасы, дастаўляў іх партызанам, удзельнічаў у дыверсіях. У маі 1942 г. арыштаваны гітлераўцамі і пасля жорсткіх катаванняў павешаны ў Івацэвічах.

У 1950 г. на магіле В. С. Клютко пастаўлены абеліск. Яго імем названа вуліца ў Івацэвічах.



769. *Помнік партызанам.*



772. *Юр'еўская царква.*



772. *Юр'еўская царква. План.*

**772. ЮР'ЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1760 г. з дрэва.

Трохзрубная пабудова. Да квадратнага ў плане асноўнага аб'ёму прылягаюць з усходу пяцігранная апсіда, з захаду — бабінец. Асноўны аб'ём накрыты стромкім двухсхільным гонтавым дахам, да якога прымыкае шатровае пакрыццё апсіды, завершанае шасцігранным барабанам з галоўкай. Сцены зрубаў прарэзаны вялікімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і гарызантальна ашаляваны дошкамі. Верхняя і ніжняя часткі сцен дэкарыраваны паясамі вертыкальнай шалёўкі. Галоўны фасад утварае прыземістая званіца, падзеленая карнізам на 2 ярусы і завершаная двухсхільным пакрыццём. У інтэр'еры цэнтральны аб'ём звязаны з алтарным зрубам і бабінцам вялікімі праёмамі. Хоры — на 2-м ярусе бабінца.

Царква — помнік драўлянага народнага дойлідства. *С. Ф. Самбук.*




# КАМЯНЕЦКІ РАЁН

Камянюкі
Амельянец
Каленкавічы
Доўбізна
Вярховічы
Дзмітравічы
Пагранічная
Дварцы
Навіцкавічы
Абяроўшчына
Войская
Мартынюкі
Мікалаева
КАМЯНЕЦ
Нов. Расна
Свішчова
Рэчыца
Высокае
Ратайчыцы
Агароднікі
Пелішча
Відамля
Воўчын
Ставы
Турна Вял.

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

## ХІ. КАМЯНЕЦ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны за 39 км на поўнач ад Брэста, на беразе р. Лясная, прытоку Заходняга Буга. На шашы Брэст — Камянюкі, за 28 км ад чыгуначнай станцыі Жабінка на лініі Баранавічы — Брэст.



**XI.** *Выгляд горада ў 13 ст. Рэканструкцыя Я. Куліка.*

Паводле летапісу, Камянец атрымаў сваю назву ад каменістай зямлі. Як паказалі археалагічныя даследаванні, тут у 10—11 стагоддзях узнікла невялікае пасяленне, на месцы якога па загаду валынскага князя Уладзіміра Васількавіча (Філосафа) у 1276 г. «градаруб» Алекса разам з тутэйшымі жыхарамі заклаў умацаванае паселішча. Асновай яго абароны, апрача вала з драўлянымі ўмацаваннямі, быў 30-метровы мураваны стоўп (Камянецкая вежа, «Белая вежа»). У 1289 г. Камянец захапіў, а потым дашчэнту разбурыў драгічынскі князь Юрый Львовіч, пляменнік Уладзіміра Васількавіча.

З 1366 г. Камянец у Вялікім княстве Літоўскім. Быў ва ўдзеле князя Кейстута, потым (з 1392 г.) князя Вітаўта. Добра ўмацаваны, размешчаны на вялікім гандлёвым тракце з Брэста ў Гродна і з Кракава ў Вільню, ён стаў даволі буйным гандлёвым цэнтрам. На Камянец тройчы нападалі крыжакі. У 1375 г. яны зрабілі набег на яго ваколіцы і захапілі шмат палонных, жывёлы, у т. л. коней, а ў 1378 г. дашчэнту яго спалілі. На працягу амаль стагоддзя Камянец служыў апорным пунктам ва ўзброеных сутычках паміж Літоўскай дзяржавай і Польшчай.

У 1383 г. князь Януш Мазавецкі, выкарыстаўшы міжусобную барацьбу вялікага князя Ягайлы з Вітаўтам, захапіў Камянец. Але праз год Ягайла пасля тыднёвай асады ўзяў яго штурмам. Памірыўшыся з Ягайлам (1384 г.), Вітаўт далучыў Камянец да сваіх зямель. Адсюль, а таксама з Брэста і Гродна Вітаўт рабіў наезды на ўладанні Ягайлы. Гэта прывяло да таго, што ў 1390 г. войска Ягайлы захапіла Камянец, дзе адбыліся мірныя перагаворы паміж князямі. Тут жа ў 1409 г. Ягайла прымаў пасла папы рымскага. У 1413 г. Камянец стаў цэнтрам павета спачатку ў складзе Трокскага, з 1520 г.— Падляшскага, з 1566 г.— Берасцейскага (Брэсцкага) ваяводстваў. Паводле рэестра вайсковых падаткаў Вялікага княства Літоўскага, Камянец і Брэст у час войнаў выстаўлялі аднолькавы вайсковы кантынгент: па 50 коней і 50 коп літоўскіх грошай. Да 1506 г. Камянец атрымаў магдэбургскае права і валодаў ім да 1776 г. У пісьмовых крыніцах 16 ст. ёсць звесткі пра герб горада.

З 1596 г., калі сталіца Рэчы Паспалітай была перанесена з Кракава ў Варшаву і новы гандлёва-адміністрацыйны шлях паміж Варшавай і Вільняй абмінуў Камянец, горад паступова траціў сваё палітычнае і эканамічнае значэнне. Адной з прычын яго эканамічнага заняпаду былі частыя войны. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. горад быў разбураны. У канцы



**XI.** *Плошча Леніна.*

18 ст. ў Камянцы яшчэ стаяў драўляны замак, якім валодаў кухмістр вялікалітоўскі — вядомы палітык і дыпламат М. Вяльгорскі. У 18 ст. тут дзейнічала тэкстыльная мануфактура Радзівілаў.

З 1795 г., пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай, Камянец у складзе Расіі, у Брэсцкім павеце Гродзенскай губерніі. З гэтага часу і да 1940 г. называўся Камянец-Літоўскі. У сярэдзіне 19 ст. тут было 597 двароў, каля 2900 жыхароў, піваварня, праводзіліся 3 кірмашы на год. У 1897 г. было 3569 жыхароў, 1186 будынкаў (з іх 678 жылых), сельская лячэбніца, царкоўнапрыходская школа. У 1914 г. працавала 7 дробных прадпрыемстваў.

У 1921—39 гг. Камянец у складзе буржуазнай Польшчы — мястэчка ў Брэсцкім павеце Палескага ваяводства. У ім дзейнічаў падпольны райком КПЗБ. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна ў Брэсцкай вобл. З 23.6.1941 г. да 22.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б (14.6—12.7.1944 г.) і ЛКСМБ (4.3—12.7.1944 г.), антыфашысцкі камітэт (май 1942 г.— ліпень 1944 г.). З 24.6. 1983 г. горад.

Першы пасляваенны генеральны план г. Камянец распрацаваны Брэсцкімі абласнымі праектнымі майстэрнямі ў 1963 г. У 1975 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва створаны новы генплан, па якім Камянец развіваецца ў 3 напрамках: на поўдзень па шашы Камянец — Брэст, на ўсход і на захад. У паўднёвай частцы горада сфарміраваўся мікраараён, забудаваны пяціпавярховымі жылымі дамамі. Тэрыторыя Камянца аўтамагістраллю Брэст — Камянюкі дзеліцца на ўсходнюю і заходнюю часткі. Асновай яго планіровачнай структуры з'яўляецца радыяльная сістэма вуліц, якія сыходзяцца да грамадска-адміністрацыйнага цэнтра — пл. Леніна.

Грамадскі цэнтр Камянца сфарміраваўся на скрыжаванні вуліц Брэсцкай і Савецкай. Архітэктурнае аблічча плошчы ствараюць будынкі райкома, райвыканкома, універмага, трохпавяр-



**XI.** *Забудова вуліцы Брэсцкай. Фрагмент.*

ховыя жылыя дамы. Галоўная магістраль горада — вул. Брэсцкая. Асноўныя вуліцы — Пагранічная і 8 Сакавіка — забудоўваюцца шматпавярховымі дамамі. 2 помнікі У. І. Леніну, помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Зберагліся помнікі архітэктуры — Камянецкая вежа («Белая вежа», 13 ст.) і Сімяонаўская царква (пачатак 20 ст.).

Прамысловая зона знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы горада. У Камянцы працуюць вытворчы харчовы завод Брэсцкага аблспажыўсаюза, камбінат кааператыўнай прамысловасці, раённае вытворчае аб'яднанне «Сельгасхімія», сырзавод, камбінат бытавога абслугоўвання, лясніцтва.

У горадзе Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца, 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, 2 дзіцячыя дашкольныя ўстановы. У Камянецкай вежы — філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. Выдаецца раённая газета «Ленінец».

На паўднёвы захад ад Камянца на беразе р. Лясная размешчаны парк культуры і адпачынку імя 50-годдзя Савецкай улады (18 га).

*Літ.:* Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Т. 1.— Мн., 1936; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись.— М., 1962; Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст.— Мн., 1978; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 3.— Warszawa, 1882.

*А. А. Міцянін, М. А. Ткачоў.*



773. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**773. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Піўненкі, у скверы. Пахаваны 1369 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. Сярод іх — воіны 50-й гвардзейскай стралковай дывізіі і 58-га процітанкавага дывізіёна, што загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г., Герой Савецкага Саюза Фёдар Паўлавіч Хахракоў.

Ф. П. Хахракоў нарадзіўся 1.3.1925 г. ў с. Югаўскае Кунгурскага р-на Пермскай вобл. ў сялянскай сям'і. У 1944 г. скончыў артылерыйскае вучылішча. На фронце з 1944 г. 21.7.1944 г. ўзвод на чале з малодшым лейтэнантам Ф. П. Хахраковым у баі каля в. Відамля Камянецкага р-на падбіў 3 варожыя танкі і 6 аўтамашын. Калі гітлераўцы акружылі воінаў, ён асабіста забяспечыў адыход параненых. Загінуў у баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.9.1944 г. Імем Ф. П. Хахракова названа вуліца ў г. Камянец.

У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*М. М. Казлоўская.*

**774. КАМЯНЕЦКАЯ ВЕЖА,** Камянецкі стоўп, «Белая вежа» (гіст., архіт.). На высокім узгорку на левым беразе р. Лясная. Паводле звестак Іпацьеўскага летапісу, пабудавана паміж 1271 і 1289 гг. дойлідам Алексам. Гістарычны лёс вежы цесна звязаны з Камянцом. У 1276 г. князь Уладзімір Васількавіч вырашыў залажыць на р. Лясная «град», як фарпост на заходніх межах. Быў пабудаваны «столп камен высотою 17 сажен... подобен удивлению всем зрящим нъ». Вежа знаходзілася ўнутры кальцавога вала і дамінавала над драўлянымі ўмацаваннямі. З боку р. Лясная да ўмацавання падступала балоцістая нізіна, з 3 бакоў яго акружаў роў. Рэшткі землянога вала і драўлянага замка канчаткова зніклі ў 1903 г. ў час правядзення рэстаўрацыйных і земляных работ. Паводле праекта арх. В. Суслава вакол вежы быў зняты трохметровы пласт зямлі, у выніку чаго першы ярус, які раней памылкова лічыўся склепам, зноў апынуўся на паверхні. Аднак пры земляных работах бясследна зніклі старажытны вал і роў. Тады разабралі і скляпенні над 1-м і 2-м ярусамі, а замест іх паклалі драўляныя бэлькі. Цэгла для рэстаўрацыі зубцоў і сцяны (каля 10 тыс. штук) была заказана селяніну Матыкальскай воласці С. Дранюку. Для правядзення земляных і цагляных работ запрасілі з Гродна вопытнага майстра А. Арцішэўскага. Вакол вежы быў насыпаны і абкладзены камянямі кальцавы вал. У такім выглядзе помнік дайшоў да нашых дзён. У пачатку 1950-х гадоў вежу ўпершыню пабялілі, а падлогу забрукавалі.

Вышыня 5-яруснай вежы 29,4 м, таўшчыня сцен 2,5 м, вонкавы дыяметр 13,6 м. Яна стаіць на магутным падмурку з каменю. Вышыня падмурка каля 2,3 м, дыяметр 16 м. Вежа змуравана з брусчатых цаглін цёмна-чырвонага і жаўтаватага колеру (26,5×13,5×8 см) з характэрнымі падоўжнымі палосамі ў ніжняй частцы. Муроўка «балтыйская» — 2 «лажкі» паслядоўна чаргуюцца з адным «тычком». Звонку на сценах захавалася вялікая колькасць прамавугольных гнёздаў ад «пальцаў» рыштаванняў. Апрача таго, унутры захаваліся гнёзды і ад драўляных бэлек — перакрыццяў 5 ярусаў. Перакрыцці 2-га і 3-га ярусаў былі падвойнымі. Да 1903 г. над 1-м і 2-м ярусамі знаходзіліся скляпенні, цэгла і раствор якіх пры-



**774.** *Камянецкая вежа.*

кметна адрозніваліся ад цэглы і раствору ў муры сцен. Сцены вежы прарэзаны байніцамі, паміж якімі на вонкавай паверхні сцяны размешчаны 4 плоскія нішы з паўцыркульным завяршэннем. Над 5-м ярусам захаваліся рэшткі цаглянага купальнага скляпення з патоўшчанымі рэбрамі, якія заканчваюцца ўнізе невялікімі кранштэйнамі з вузкім паяском. Гэта скляпенне (мяркуючы па цэгле і раствору) пабудавана адначасова з вежай.

З 5-га яруса пачынаецца цагляная лесвіца-ход, што вядзе наверх да баявой пляцоўкі. Лесвіца праходзіць праз тоўшчу сцяны і асвятляецца 2 вузкімі акенцамі. Пляцоўка акружана 14 зубцамі, якія маюць скразную адтуліну, роўную па форме і велічыні лажку цагліны. У 2 зубцах зроблены вузкія акнападобныя праёмы. Завяршэнне вежы акружана зубчастай стужкай парэбрыка.



**774.** *Камянецкая вежа. Схема плана.*

Помніку характэрны лаканічныя раманскія і раннегатычныя формы: стральчатыя вокны і праёмы, нервюрныя скляпенні на «гірках», паўцыркульныя плоскія нішы і байніцы. Велічны, манументальны аб'ём звужаецца ўверсе і не мае ні вертыкальных, ні гарызантальных чляненняў.

Камянецкая вежа — унікальны помнік абарончага дойлідства канца 13 ст. Яна адносіцца да тыпу так званых «валынскіх вежаў» і мае шмат агульнага з вежамі тыпу данжон, пашыранымі ў 12—13 стагоддзях у краінах Заходняй Еўропы. З 1960 г. будынак выкарыстоўваецца як філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея.

*Літ.:* А в е н а р и у с Н. П. Башня вел. кн. Владимира Васильевича в м. Каменце-Литовском.— Труды Общества Исследователей Волыни, 1902, т. 1; Б а л а б у ш е в и ч В. Каменецкий столб.— Литовские Епархиальные Ведомости за 1881 год.— Вильна, 1881, № 24—25; Всеобщая история архитектуры. Т. 3. — Л.; М., 1966; Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись.— М., 1962; Р а п п о п о р т П. А. Военное зодчество западно-русских земель X—XIV вв.— Л., 1967.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 140); я г о ж. Волынские башни.— У кн.: Крепостные сооружения Древней Руси. М., 1952.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 31); Т к а ч о ў М. А. Замкі Беларусі (XIII — XVII ст.).— Мн., 1977.

*М. А. Ткачоў.*

**775. МАГІЛА ДЗМІТРУК** Праскоўі Фёдараўны (гіст.). На вул. 8 Сакавіка.

Удзельніца рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі П. Ф. Дзмітрук нарадзілася 15.10.1899 г. ў в. Лескі Камянецкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1924 г. Батрачыла, працавала на торфараспрацоўках у Арэхава-Зуеве. З 1916 г. ў Маскве, прымала актыўны ўдзел у забастоўках і дэманстрацыях маскоўскага пралетарыяту. У 1920 г. вярнулася ў родную вёску, праводзіла агітацыйную работу сярод сялян. У 1926—33 гг. сакратар Гродзенскага акругкома, працавала ў Беластоцкім, Баранавіцкім, Пінскім, Брэсцкім, Вільнюскім і Кракаўскім акругкомах КПЗБ. Дэлегат I з'езда КПЗБ (1928 г.) ад Пінскай акруговай партарганізацыі. Выконваючы заданні ЦК КПЗБ, больш як 20 разоў пераходзіла савецка-польскую граніцу. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1933 г. была арыштавана польскімі буржуазнымі ўладамі і прыгаворана да 10 гадоў турэмнага зняволення. У верасні 1939 г. П. Ф. Дзмітрук вярнулася на радзіму, была выбрана дэпутатам Народнага сходу. Да Вялікай Айчыннай вайны і пасля да 1955 г. ўзначальвала аддзел сацыяльнага забеспячэння Камянецкага райвыканкома.



**774.** *Камянецкая вежа. Разрэз.*

Памерла 22.12.1978 г. У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла. Імем П. Ф. Дзмітрук названа вуліца ў Камянцы.

*М. М. Казлоўская.*

**776. МАГІЛА ПІЎНЕНКІ** Пятра Якаўлевіча (гіст.). У скверы. Гвардыі палкоўнік П. Я. Піўненка загінуў 24.7. 1944 г. пры вызваленні г. Камянец ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск. Імем П. Я. Піўненкі названа вуліца ў Камянцы.

**777. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, АКТЫВІСТАЎ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад г. Камянец, ва ўрочышчы Прускаўскі лес. Пахаваны 17 воінаў і каля 100 актывістаў і мірных жыхароў Камянецкага р-на, расстраляных у 1941—42 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Сярод іх — старшыня Прускаўскага сельсавета і арганізатар антыфашысцкага руху Я. Р. Пякарскі; загадчык раённага аддзела народнай асветы, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР І. Ю. Кур'яновіч; старшыня калгаса імя К. Я. Варашылава К. В. Смалюк; брыгадзір калгаса Р. А. Садоўскі; старшыня Камянецкага пасялковага Савета У. М. Філіповіч; сувязныя партызан В. П. Нікіцюк, Л. А. Карагода і інш. Імем Я. Р. Пякарскага названа вуліца ў Камянцы, імем К. В. Смалюка — вуліца ў в. Рэчыца. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**778. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Брэсцкай, перад будынкам райвыканкома. Скульптурная фігура У. І. Леніна пастаўлена ў 1960 г.



777. *Помнік на магіле савецкіх воінаў, актывістаў і мірных жыхароў.*

**779. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Піўненкі, у скверы. Бюст У. І. Леніна пастаўлены ў 1956 г.

**780. РАДЗІМА КАРПОВІЧА** Міхала (гіст.).

Асветнік, публіцыст і палітычны дзеяч М. Карповіч нарадзіўся 4.10. 1744 г. Прафесар Кракаўскай і Віленскай акадэмій. Прапагандаваў ідэі французскіх асветнікаў і матэрыялістаў. Па сваіх поглядах быў радыкальным дэмакратам, прапанаваў адкрыць касы дапамогі сялянам з мэтай развіцця іх гаспадаркі. Адзін з першых на Беларусі і ў Літве выступіў з крытыкай прыгоннага права. Змагаўся за ажыццяўленне прынцыпаў Канстытуцыі 3.5.1791 г., якая павінна была садзейнічаць палітычнаму і эканамічнаму ўмацаванню Польшчы. Прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1794 г., якім кіраваў Т. Касцюшка, быў яго памочнікам і ўваходзіў у склад Літоўскага паўстанскага ўрада, з'яўляўся арганізатарам народных школ на Беларусі і Літве. М. Карповіч вядомы як аўтар 2 тамоў «Казанняў» (1776—78 гг.), у якіх палымяна выступаў супраць жорсткага абыходжання феадалаў з сялянамі, адстойваў роўныя правы «хлопаў» з феадаламі і шляхтай, сцвярджаў, што менавіта «хлопы» стварылі першыя ў свеце цывілізацыі і што «ўладары» выраслі з тых самых «хлопаў» і «на шкоду ім». Памёр 5.11.1803 г.

*Літ.:* Konopczyński W. Polscy pisarze polityczni XVIII wieku. T. 1.— Warszawa, 1966; Leśnodorski B. Polscy jakobini.— Warszawa, 1960. *М. М. Яніцкая.*

**781. СІМЯОНАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Гогаля, у цэнтры горада. Пабудавана ў 1912—14 гг. з цэглы.

Квадратны ў плане аб'ём, да якога па падоўжнай восі далучаюцца апсіда, невялікі прытвор і званіца. Цэнтральная частка храма пастаўлена на высокі цокаль і завершана 5 купаламі. Пяціглаўе цэнтральнага аб'ёму дапаўняецца высокай шатровай званіцай. Ярусная кампазіцыя нарастае ад апсіды да званіцы. Форма паўцыркульнай аркі выкарыстана ў дэкоры бакавых фасадаў, аконных праёмаў, карнізаў. Уваход — арачны партал, над якім зроблена ніша такой самай формы з размалёўкай. У дэкоры фасадаў выкарыстаны какошнікі, сухарыкі, броўкі, закамары і інш. Ва ўнутранай прасторы храма пануе светлавы паўсферычны купал, акруглая ў плане апсіда з конхай мае трох'ярусны іканастас — асноўны дэкаратыўны элемент аздобы інтэр'ера.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

*А. М. Камарова, А. М. Кулагін.*

**в. Агароднікі, цэнтр сельсавета**

**782. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 77 воінаў і 4 партызаны, якія загінулі 26—28.7.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

На брацкай магіле ў 1960 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам. Помнік ушаноўвае таксама памяць 43 землякоў, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**783. ПАСЕЛІШЧА КУСІЧЫ** (археал.). На ўскраіне вёскі, на левым беразе р. Пульва (прыток Заходняга Буга). Выявіла і часткова даследавала ў 1963 г. В. Б. Караткевіч.

Таўшчыня культурнага пласта да 0,4 м. На ўскрытым участку (50 м²) знойдзены рэшткі жылля няправільнай прамавугольнай формы, выцягнутай з паўднёвага захаду на паўночны ўсход (даўжыня 4,5 м, шырыня каля 4 м). Ад сцен асталіся камяні-валуны, якія ў культурным пласце залягаюць на глыбіні 0,4—0,5 м. Відаць, імі былі абкладзены сцены жылля знадворку. Падлога земляная. Каля паўднёва-заходняй сцяны знаходзіўся ачаг, дру-



781. *Сімяонаўская царква. План.*



778. *Помнік У. І. Леніну.*



781. *Сімяонаўская царква. Галоўны фасад.*



784. *Крыжаўзвіжанская царква. Бакавы фасад.*

гі, крыху меншы,— з паўднёвага боку. Абодва ачагі складзены з камянёў у круглых ямах дыяметрам каля 0,5 м. Уваход у жыллё (мяркуючы па размяшчэнню камянёў) быў з усходу. У культурным пласце і першым ачагу знойдзены абломкі ляпного посуду. Па знойдзенай кераміцы паселішча датуецца 4—2 стагоддзямі да н. э., належала плямёнам паморскай культуры.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Никитина В. Б. Вновь открытые памятники поморской культуры.— Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии АН СССР, 1964, в. 102. *В. Б. Караткевіч.*



784. *Крыжаўзвіжанская царква. План.*

**в. Амельянец, Каленкавіцкі сельсавет**

**784. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва. Раней знаходзілася ў манастыры каля воз. Белае (перавезена ў вёску ў 1925 г.).

Царква ў плане ўяўляе сабой крыж. Да галоўнага аб'ёму з усходу прылягае пяцігранная апсіда, з захаду — званіца. Сцены храма, рубленыя з астаткам, за выключэннем паўночнага фасада, ашаляваны прафіляванымі дошкамі. Галоўны фасад мае двухсхільную навісь, якая апіраецца на фігурныя кранштэйны, утвораныя вынасам вянкоў зруба 1-га яруса званіцы, увянчанай цыбулепадобнай макаўкай. Над асноўным аб'ёмам царквы ўзвышаецца васьмерыковы светлавы барабан з шатровым дахам і вуглавыя чацверыковыя вежачкі, завершаныя галоўкамі. Алтар аддзелены ад асноўнага аб'ёму двух'ярусным іканастасам.

Архітэктура царквы склалася пад уплывам старажытнарускага дойлідства. *У. К. Філатаў.*

**в. Баранкі, Відамлянскі сельсавет**

**785. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Лясная. З поўдня і ўсходу акружана ровам глыбінёй да 2 м, шырынёй каля 5 м і валам вышынёй каля 1,5 м. З боку ракі да гарадзішча падступае балоцісты бераг. Памеры пляцоўкі 115×140 м, таўшчыня культурнага пласта 0,6 м. Абследаваў у 1970 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Баршчэва, Ратайчыцкі сельсавет**

**786. АНУФРЫЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1840 г. з бутавага каменю.

Да прамавугольнага ў плане сіметрычнага аб'ёму прымыкаюць апсіда і бабінец. Бакавыя фасады члянюцца на роўныя плоскасці 2 руставанымі пілястрамі. Прамавугольныя вокны абрамлены ліштвамі з замковымі камянямі ўверсе. Пілястры і ліштвы атынкаваны, што добра вылучае іх на фоне бутавых сцен. Храм увянчаны васьмерыковым двух'ярусным барабанам з цыбулепадобнай макаўкай. Унутраная прастора падзелена драўлянымі слупамі на 3 нефы.

Квадратная двух'ярусная надбрамная званіца таксама складзена з бутавага каменю, накрыта шатровым дахам, увянчаным драўлянай цыбулепадобнай макаўкай.

Царква — помнік мураванай архітэктуры з элементамі класіцызму. *У. К. Філатаў.*

**в. Бушмічы, Вярховіцкі сельсавет**

**787. РАДЗІМА СТЭЛЬМАХА** Уладзіміра Мацвеевіча (гіст.). Беларускі савецкі тэатральны дзеяч, пісьменнік, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1961 г.) У. М. Стэльмах нарадзіўся 15.12.1907 г. ў сям'і селяніна-бедняка. Пасля скanчэння студыі пры Беларускім тэатры імя Я. Коласа (БДТ-2, 1931 г.) — акцёр Беларускага дзяржаўнага цэнтральнага тэатра рабочай моладзі, з 1937 г.— Беларускага тэатра юнага гледача імя Н. К. Крупскай. Член КПСС з 1939 г. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны знаходзіўся ў



786. *Ануфрыеўская царква.*



786. *Ануфрыеўская царква. План.*

Чырвонай Арміі, удзельнічаў у баях пад Смаленскам. У 1942 г. загадчык ваеннага аддзела, аддзела прапаганды і агітацыі Рудаўскага райкома ВКП(б) Тамбоўскай вобл. У 1943—45 гг. дырэктар тэатра імя Я. Коласа, у 1945—47 гг.— Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, у 1947—51 гг.— Беларускага тэатра імя Я. Купалы. У 1951—55 гг. начальнік аддзела тэатраў Міністэрства культуры БССР. У 1954 г. скончыў Дзяржаўны інстытут тэатральнага мастацтва імя А. В. Луначарскага ў Маскве. У 1955—66 гг. дырэктар Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача, у 1966—71 гг. намеснік старшыні прэзідыума Беларускага тэатральнага аб'яднання.

Літаратурнай дзейнасцю займаўся з 1930 г. Аўтар п'ес «Шляхі» (1930 г.), «Фантан» (1932 г.), «Тры крыжыкі» (1932 г.), «Канец маскараду» (з Ю. Рудзько, пастаўлена ў 1938 г.). Выступаў з артыкуламі пра беларускі тэатр. Выдаў манаграфію «Народны артыст СССР Г. П. Глебаў» (1954 г.), кнігі «Шляхі беларускага тэатра» (па ўкраінскай мове, 1964 г.), «Крапаючы чуткія струны душы» (1966 г.), «Тэатр і час» (1973 г.), напісаў артыкул «Старонкі жыцця» ў кнізе «Вытокі песні» (1973 г.).

У. М. Стэльмах памёр 27.1.1974 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

*Дз. У. Стэльмах.*

**в. Ваўковічы, Расненскі сельсавет**

**788. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 144 воіны, якія загінулі 24—27.7.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са схіленым сцягам.

**в. Войская, цэнтр сельсавета**

**789. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 0,4 км на паўднёвы ўсход ад хутара Прыходы, справа ад дарогі на в. Лісоўчыцы. Пасля раскопак захаваліся 13 пясчаных насыпаў вышынёй 0,2—0,6 м, дыяметрам 3—6 м, абкладзеных вялікімі валунамі. Выявіў і даследаваў у 1959 г. І. В. Біруля (раскапаў 31 курган), даследавала ў 1980—81 гг. Т. М. Каробушкіна (8 курганоў). У 2 насыпах пахавальны абрад трупаспаленне, у 28 — трупапалажэнне, 9 насыпаў без пахаванняў. Пахаванні адзіночныя на гарызонце ці ў прамавугольных ямах, нябожчыкі арыентаваны галавой на захад (17) ці на ўсход (11). У 19 курганах выяўлены выкладзеныя валунамі вымасткі. Знойдзены ганчарны посуд з высокім, злёгку адагнутым венчыкам, хвалістым арнаментам і рыфленнем (адзін гаршчок чорнаглянцаваны), маленькі трубчасты замок, нажы, шмат каваных цвікоў, праслíцы з ружовага сланцу, пацеркі (бронзавыя зярнёныя, пасярэбраныя шкляныя, з ружовага сланцу, 3 белыя гліняныя), вітыя пярсцёнкі, металічнае трохпацеркавае і 7 бронзавых спіральных S-падобных скроневых кольцаў. Курганы з пахавальным абрадам трупаспалення датуюцца 11 ст., усе астатнія — 12 ст. Могільнік, верагодна, належаў дрыгавічам. Доказам з'яўляецца тыповы для дрыгавічоў камплект рэчаў (гаршкі, трохпацеркавыя скроневыя кольцы, зярнёныя металічныя пацеркі і інш.). Захаваліся яцвяжскія традыцыі ў пахавальным абрадзе (каменныя вымасткі, абкладка з валуноў вакол насыпаў).

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Б и р у л я И. В. Каменные курганы правобережья Западного Буга.— У кн.: Древности Белоруссии. Мн., 1966; С е д о в В. В. Курганы ятвягов.— Советская археология, 1964, № 4.

*Т. М. Каробушкіна.*

**790. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 77 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з дзіцем на руках.

**791. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана паміж 1751—75 гг. з дрэва.

Прамавугольны зруб са зрэзанымі ў алтарнай частцы вугламі, да якога з паўночнага ўсходу прылягае аднольквы з ім па вышыні бабінец. Галоўны фасад завершаны франтонам, схілы якога адпавядаюць схілам асноўнага даху. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі і ўмацаваны



**791.** *Царква Раства Багародзіцы. Званіца-брама.*



**791.** *Царква Раства Багародзіцы. План.*



**791.** *Царква Раства Багародзіцы. Выгляд з боку апсіды.*



**791.** *Царква Раства Багародзіцы. Царскія вароты.*



794. *Троіцкі касцёл. Разрэз.*



794. *Троіцкі касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*

сцяжкамі. Вуглы аздоблены разнымі накладкамі. Дах у сярэдзіне прарэзаны гранёнай вежачкай з галоўкай. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. У алтарнай частцы зруба ўбудаваны 2 рызніцы з балконамі. У аб'ёме бабінца — хоры. Захаваліся багата аздобленыя царскія вароты.

Перад царквой стаіць двух'ярусная званіца-брама — чацвярык на чацверыку. Першы ярус мураваны, з 3 лучковымі арачнымі праёмамі, другі — драўляны, завершаны шатровым дахам з галоўкай.

У архітэктуры царквы спалучаны элементы народнага дойлідства і барока.

*У. К. Філатаў.*

**в. Воўчын, цэнтр сельсавета**

**792. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі 22.6. 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 27—31.7.1944 г. пры вызваленні раёна ад гітлераўскіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**793. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 395 жыхароў вёсак Воўчын і Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на, расстраляных у 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**794. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1733 г. з цэглы для князя Станіслава Панятоўскага. Васьміграниая ратонда, увянчаная васьмісхільным дахам са скразной вежачкай і галоўкай. Грані будынка прарэзаны паўцыркульнымі і авальнымі аконнымі праёмамі, якія абрамлены ляпнымі гірляндамі. Фасады расчлянёны спаранымі пілястрамі карынфскага ордэра, апаясаны антаблементам і ўвянчаны лучковымі франтонамі. На франтонах устаноўлены 4 скульптуры евангелістаў. Галоўны (заходні) уваход у храм пазначаны маленькім арачным тамбурам.

Інтэр'ер касцёла мае цэнтрычную кампазіцыю, якая складаецца з 4- і 3-павярховых хораў і залы. Хоры ўнутры авальнай формы выступаюць у залу трохграннымі аб'ёмамі. Столь плоская. Сцены расчлянёны шырокім антаблементам на 2 няроўныя ярусы — першы, больш высокі, раскрапаваны пілястрамі карынфскага ордэра на высокім цокалі, другі — тонкімі лапаткамі і аздоблены ляпнымі дэталямі, картушамі і галоўкамі пуцці.

Касцёл — помнік муравапай архітэктуры стылю позняга барока з элементамі ракако.

*Літ.:* Arciszewski W. Wołczyn dawniej i dziś.— Rocznik ziem wschodnich na rok 1938.— Warszawa, 1939.

*С. Г. Багласаў, М. С. Кацар.*



794. *Троіцкі касцёл.*



794. *Троіцкі касцёл. План.*

## XII. ВЫСОКАЕ

Горад, размешчаны на р. Пульва, за 40 км на паўночны захад ад Брэста. Да верасня 1939 г.— Высока-Літоўск. Цяпер гэтая назва захавалася толькі за чыгуначнай станцыяй (3 км ад горада) на лініі Брэст — Беласток.

• Костел. 18в. барокко - с 2 дер. башнями в Высоком



Упершыню ў гістарычных дакументах упамінаецца ў 14 ст. пад назвай Высокі Горад. У 1494 г. атрымаў магдэбургскае права і герб (на эліпсападобным шчыце — гарадская брама з 3 прыступкамі і 2 дрэвамі абапал). Адносіўся да вялікакняжацкіх, потым прыватных уладанняў. Належаў Ёдкавічам, вялікаму князю, потым феадалам Хлявіцкім, Войнам, з 1647 г. Сапегам. Апошнія пабудавалі замак, умацавалі яго насыпнымі валамі і сістэмай вадаёмаў, пасадзілі парк. Замак быў значна разбураны ў час руска-польскай вайны 1654—67 гг. і Паўночнай вайны 1700—21 гг., потым адноўлены (захаваліся земляныя валы і брама). Пазней горад перайшоў да Патоцкіх. У 1671 г. атрымаў грамату на «вечны» кірмаш; у 1785 г. адкрыты шпіталь на 20 чалавек. У 16—18 стагоддзях высокаўскія майстры выраблялі шырока вядомыя дываны і палатно. З 1795 г. Высокае ў складзе Расіі — мястэчка Брэсцкага павета Слонімскай, потым Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У канцы 19 ст. тут пабудаваны Высокаўскі палац.

У 1897 г. ў мястэчку 3434 жыхары, 370 дамоў, працавалі канатная фабрыка, гарбарны і свечачны заводы, 2 маслабойні, 3 школы. На вялікія кірмашы прыязджалі купцы з многіх мясцін купляць коней, буйную рагатую жывёлу і свіней. У 1914 г. было 3800 жыхароў, 12 дробных прадпрыемстваў (32 рабочыя).

У 1915—18 гг. Высокае акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі, у 1919—20 гг.— буржуазнай Польшчы. У жніўні 1920 г. ўстаноўлена Савецкая ўлада, у канцы жніўня Высокае зноў захоплена белапалякамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г., горад адышоў да буржуазнай Польшчы, уваходзіў у Брэсцкі павет Палескага ваяводства. У верасні 1939 г. вызвалены Чырвонай Арміяй і разам з заходнімі абласцямі Беларусі ўз'яднаны з БССР; налічваў 6,1 тыс. жыхароў. З 23.6.1941 г. да 28.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі; дзейнічаў падпольны райком ЛКСМБ (снежань 1943 г.— 10.7. 1944 г.). У 1940—62 гг.— цэнтр раёна. У 1959 г. было 2,6 тыс. жыхароў. У сувязі з узбуйненнем раёнаў у 1962 г. далучаны да Камянецкага р-на.

Галоўная кампазіцыйная вось горада — вул. Леніна. Старажытны раён знаходзіцца на правабярэжжы р. Пульва. Асноўная жылая забудова і адміністрацыйна-гандлёвая частка сфарміраваліся на левым беразе ракі ў 19—20 стагоддзях. У гэтым раёне галоўная вуліца пераходзіць у цэнтральную прамавугольную плошчу са скверам, разбітым на месцы колішніх гандлёвых радоў. Будынкі на плошчы ў асноўным узведзены па тыпавых праектах. Уздоўж вуліц, якія радыяльна разыходзяцца ад плошчы, размешчана забудова пераважна сядзібнага тыпу.



XII. *Забудова вуліцы Савецкай. Фрагмент.*

За пасляваенныя гады ў Высокім пабудаваны шэраг шматпавярховых будынкаў, на паўднёва-ўсходняй ускраіне вырас пасёлак з цагляных добраўпарадкаваных дамоў. Горад добра азеляпёны. У 1977 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва распрацаваны генеральны план, паводле якога жылая забудова развіваецца ў паўночна-ўсходнім напрамку.

Працуюць завод жалезабетонных вырабаў, сырзавод (філіял Брэсцкага малочнага завода), Камянецкае раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, кансервавы цэх вытворчага аб'яднання «Брэсткансервавінпром», цэх Брэсцкага камбіната камплектуючых электратэхнічных вырабаў, вытворчы ўчастак Камянецкага камбіната бытавога абслугоўвання, метэастанцыя, лясніцтва, сярэдняя школа, школа-інтэрнат, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 2 дашкольныя установы, кінатэатр, Дом культуры, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, бальніца.

*Літ.:* Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1975. Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Marczak M. Przewodnik po Polesiu.— Brześć nad Bugiem,



XII. *Дом культуры.*



795. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



797. *Сядзіба. Галоўны фасад палаца.*

1935; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 14.— Warszawa, 1895.— (На вокл.: 1897).

*А. С. Барысавец, А. М. Кулагін.*

**795. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры горада, у скверы. Пахаваны 31 воін і 2 партызаны, якія загінулі ў баях за вызваленне горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Развіваючы наступленне, воіны 152-й стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік А. Ц. Кузін) і 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр М. М. Данілаў) 28-й арміі 1-га Беларускага фронту прарвалі моцную абарону праціўніка і раніцай 28.7.1944 г. вызвалілі г. Высокае ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1955 г. на магіле воінаў і партызан пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

**796. ВАРВАРЫНСКАЯ КАПЛІЦА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне горада, на ўзвышаным правым беразе р. Пульва. Пабудавана ў 1772 г. з цэглы.

Невялікі васьмігранны аб'ём накрыты шатровым дахам, які завершаны скразной фігурнай вежачкай (чыгуннае ліццё). Грані аб'ёму раскрапаваны пляскімі лучковымі нішамі, лапаткамі, гарызантальнымі цягамі цокаля і карніза. Унутры сцены аздоблены ляпным раслінным арнаментам, рэльефнымі выявамі воінскіх даспехаў. Над уваходам размешчаны амбон з ажурнай разной агароджай.

Капліца — тып цэнтрычнага храма ў стылі барока.



796. *Варварынская капліца.*



796. *Варварынская капліца. План.*

**797. СЯДЗІБА** (архіт.). У паўднёва-заходняй частцы горада, на правым беразе р. Пульва.

Фарміраванне сядзібы пачалося ў 1678—80 гг., калі яе ўладальнікам быў М. Сапега. У гэты час закладзены замак і парк з вадаёмам, акружаныя валамі і равамі. Стары замак згарэў у 1784 г. (захаваліся падвалы, уязная брама і склады); у 1816 г. непадалёку ад яго пабудаваны новы палац, парк пашыраны за межы вала. У 1895 г. парк перапланаваны арх. В. Кроненбергам.

Ансамбль сядзібы складаюць мураваныя палац і 2 Г-падобныя ў плане флігелі, якія ўтвараюць прамавугольны парадны двор, а таксама службовы корпус з паўзамкнёным дваром з паўночна-ўсходняга боку ад палаца. Пейзажны парк з вадаёмам займае тэрыторыю больш за 50 га. У ім растуць хвоі (веймутава, чорная), лістоўніцы (еўрапейская, даурская), каш-



797. *Сядзібны палац. План.*




797. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2, 3 — флігелі; 4 — службовы корпус; 5 — жылы дом.*

тап (васьмітычынкавы вяргінскі), граб, туя заходняя, ясень звычайны ніцы, вольха, бяроза, дуб пірамідальны. У парку жылы дом.

Будынак палаца мае сіметрычную кампазіцыю з двухпавярховай цэнтральнай часткай і аднапавярховымі крыламі. Цэнтральная частка, накрытая двухсхільным дахам, на галоўным паўднёвым фасадзе вылучана чатырохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам, на процілеглым дваровым — завершана ступеньчатым атыкам. Класіцыстычныя элементы дэкору выкананы з дрэва і атынкаваны. У цэнтральнай частцы палаца размешчаны вестыбюль і парадная зала з выхадам на тэрасу. Планіроўка крылаў будынка калідорная. Абапал калідора — жылыя памяшканні. У інтэр'ерах захаваліся рэшткі колішняй аздобы — ляпныя арнаментальныя плафоны і прафіляваныя карнізы, мазаічная падлога. Цяпер у будынку палаца размешчана школа-інтэрнат.

Сядзіба — помнік сядзібна-паркавай архітэктуры ў стылі класіцызму.

*Літ.:* Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 14.— Warszawa, 1895.— (На вокл.: 1897).

*А. М. Кулагін.*

**798. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры горада. Пабудавана ў 1869 г. з цэглы. Прасторавая кампазіцыя складаецца з прамавугольных у плане прытвора, асноўнага аб'ёму, апсіды і шатровай званіцы. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Вялікая Турна,**
**Відамлянскі сельсавет**

**799. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля васьмігадовай школы. Пахаваны 10 воінаў 3-га матастралковага батальёна 35-й механізаванай брыгады, якія загінулі 23.7. 1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на могілках пастаўлена стэла.

**чыгуначная станцыя Вярба,**
**Агародніцкі сельсавет**

**800. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўднёвы захад ад чыгуначнай станцыі Вярба, за 0,3 км справа ад шашы Брэст — Высокае, у хваёвым лесе. 4 насыпы вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 8—10 м. Курганы маюць сферычную форму, задзірванелыя, на асобных растуць хвоі. Абследавалі ў 1978 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вярховічы, цэнтр сельсавета**

**801. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 158 воінаў, якія загінулі 20—28.7.1944 г. пры вызваленні вёсак сельсавета ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам у руках.



798. *Царква. Фрагмент бакавога фасада.*

**802. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1933 г. з дрэва.

Да асноўнага зруба далучаюцца шматгранная апсіда і 2 прамавугольныя ў плане бакавыя прытворы. Дамінанта кампазіцыі — стройная вежа, завершаная шатром, якая выступае



797. *Сядзіба. Службовы корпус.*




800. *Курганны могільнік. План.*


802. *Мікалаеўская царква. Бакавы фасад.*


802. *Мікалаеўская царква. Канструкцыя скляпенняў у апсідзе.*


802. *Мікалаеўская царква. План.*


804. *Петрапаўлаўская царква. Званіца. Фрагмент.*

на галоўным фасадзе. Уваход выдзелены чатырохкалонным порцікам. Двухсхільны дах цэнтральнай часткі ўвянчаны вежачкай-ліхтаром. Над апсідай дах паўканічны. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Аконныя праёмы лучковыя. У асноўным аб'ёме столь плоская, у апсідзе — складкаватая. Над уваходам хоры.

Царква — помнік архітэктуры з рысамі неаготыкі.

**803. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана з дрэва ў пачатку 20 ст. Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму прыбудаваны чатырохгранная апсіда і двух'ярусная шатровая званіца. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным гонтавым дахам, апсіда — вальмавым. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Помнік народнага дойлідства.

**в. Гарадзішча, Дзмітравіцкі сельсавет**

**804. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 18 ст. з дрэва. Трох'ярусная званіца прыбудавана ў пачатку 19 ст. Царква двухзрубная з пяціграннай апсідай. Накрыта гонтавым дахам з галоўкай у цэнтры вільчыка. Сцены будынка вертыкальна ашаляваныя, аконныя праёмы прамавугольныя. У інтэр'еры хоры на 2 драўляных слупах. Помнік драўлянага народнага дойлідства.


804. *Петрапаўлаўская царква. План.*

**в. Грымяча, Воўчынскі сельсавет**

**805. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на ўзгорку ў выгіне р. Пульва. Сфарміравалася да сярэдзіны 19 ст. Выкарыстоўваецца як летні піянерскі лагер.

Ансамбль сядзібы складаецца з мураванага палаца, невялікага пейзажнага парку і гаспадарчых пабудоў з бутавага каменю. Перад палацам з паўночнага боку разбіты партэр рэгулярнай планіроўкі.

Прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак палаца накрыты двухсхільным дахам, мае жылы мансардавы паверх. Галоўны паўночны фасад у цэнтры вылучаецца чатырохкалонным порцікам і фланкіраваны рызалітамі, завершанымі атыкамі. Процілеглы дваровы фасад адпаведна раскрапаваны цэнтральным і бакавымі рызалітамі. Сцены аздоблены пілястрамі і філёнгамі, прафіляванымі ліштвамі акон і карнізамі.

Унутраная планіроўка вырашана па сіметрычна-анфіладнай схеме. Цэнтральная частка занята вестыбюлем і парадным залай з выхадам на тэрасу. У заходнім рызаліце знаходзіліся



805. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — палац, 2 — гаспадарчыя пабудовы.*



805. *Сядзібны палац. Лесвіца на мансардавы паверх.*

службовыя памяшканні і кухня, ва ўсходнім — жылыя пакоі. Захаваліся кафляныя печы і ажурная вінтавая лесвіца (чыгуннае ліццё), якая вядзе на мансардавы паверх.

Сядзіба — помнік мураванай архітэктуры позняга класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**хутар Гуркі,**
**Ратайчыцкі сельсавет**

**806. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км ад вёскі, злева ад дарогі Відамля — Высокае, на ўскрайку бярозавага гаю. 163 насыпы. Курганы паўсферычныя, вышыня 0,4—1,7 м, дыяметр 6—14 м, каля падножжаў абкладзены валунамі. Адлегласць паміж курганамі 2—6 м. Паверхня насыпаў задзірванелая, на некаторых растуць бярозы і дубы. Упершыню ў навуковай літаратуры могільнік упамінаецца Ф. В. Пакроўскім у 1895 г. 14 курганоў у 1960 г. раскапаў І. В. Біруля. У 9 з даследаваных курганоў пахаванняў і пахавальнага інвентару не выяўлена, у астатніх на ўзроўні дзённай паверхні выяўлены косці нябожчыкаў, пакладзеных на спіну галавой на ўсход або захад, рукі ўздоўж тулава. Знойдзена некалькі фрагментаў гліняных рыфленых пасудзін з адагнутым краем, зробленых на ганчарным крузе, жалезны нож і 5 чатырохгранных цвікоў. Помнік абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Могільнік адносіцца да 11—13 стагоддзяў. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Седов В. В. Курганы ятвягов.— Советская археология, 1964, № 4. *Т. М. Каробушкіна.*

**в. Дашэвічы,**
**Дзмітравіцкі сельсавет**

**807. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. 29 круглых у плане насыпаў вышынёй 0,6—4 м, дыяметрам 5—16 м. Адзін курган прамавугольны, шырынёй 16 м, даўжынёй 23 м, вышынёй 4 м. Выявіў у 1968 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1970 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.



805. *Сядзібны палац. Атык і карніз кафлянай печы.*



805. *Сядзібны палац. Фрагмент кафлянай печы.*



805. *Сядзібны палац. План.*



805. *Сядзібны палац. Фрагмент галоўнага фасада.*



806. *Курганны могільнік.*

**в. Дзмітравічы, цэнтр сельсавета**

**808. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці 103 жыхароў вёсак Бялёва, Гарадзішча, Гарошкаўка, Дзмітравічы, Макавішчы, Мшанкі, Падомша, Панасюкі, Стаўповіскі, Унучкі, Чвіркі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**809. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1786 г. з дрэва.

Царква прамавугольная ў плане. Зруб стаіць на бутавым падмурку. Галоўны фасад завершаны франтонам з 2 рамбічнымі акенцамі ў цэнтры. Вільчык даху праразае васьмерыковы барабан, увянчаны галоўкай. Побач з галоўным уваходам у царкву знаходзіцца чацверыковая каркасная званіца. Царква — помнік народнага дойлідства. *У. К. Філатаў.*

**в. Доўбізна, Вярховіцкі сельсавет**

**810. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 98 воінаў, якія загінулі 22—28.7. 1944 г. ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**811. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля клуба. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1958 г.

**в. Камянюкі, цэнтр сельсавета**

**812. МАГІЛА КУЛЯМЁТЧЫКАЎ** (гіст., маст.). Перад будынкам музея Белавежскай пушчы. Пахаваны савецкія воіны Ж. Байсямбекаў і А. Махмудаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

23.6.1941 г. кулямётны разлік 333-га стралковага палка 49-й стралковай дывізіі ўступіў у няроўны бой з ротай гітлераўцаў. Кулямётчыкі Жакен Байсямбекаў, Ілья Ганчароў і Акцюбакбар Махмудаў адкрылі агонь па нямецкіх машынах, што ішлі па лясной дарозе. Адна машына загарэлася і перагарадзіла шлях астатнім. Гітлераўцы выскачылі з машын і пачалі адстрэльвацца. Бой быў зацяжны. Ж. Байсямбекаў і А. Махмудаў загінулі. Паранены І. Ганчароў працягваў бой, пакуль не выйшаў са строю кулямёт. На другі дзень мясцовыя жыхары знайшлі цяжкапараненага І. Ганчарова, схавалі прабіты кулямі кулямёт. Пасля вайны яго ўстанавілі на магіле Ж. Байсямбекава і А. Махмудава.

У 1975 г. пастаўлены помнік кулямётчыкам (скульпт. В. Занковіч; сілумін, бетон; вышыня скульптуры 2,5 м, пастамента 0,8 м). Ён уяўляе сабой скульптурную кампазіцыю — агаленую паясную фігуру воіна, які напружана прыпаў да кулямёта, пастаўленага на невысокім прамавугольным п'едэстале. Пляцоўка вакол помніка выкладзена бетоннымі плітамі.

*Літ.:* Смирнов С. С. Брестская крепость.— М., 1970.

*М. М. Казлоўская, Л. Г. Лапцэвіч.*



809. *Праабражэнская царква.*



809. *Праабражэнская царква. План.*

**в. Клепачы, Навіцкавіцкі сельсавет**

**813. МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 12 актывістаў, расстраляных у жніўні 1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. Сярод расстраляных намеснік старшыні райвыканкома, былы сакратар Камянецкага падпольнага раённага камітэта КПЗБ К. К. Кузько, дэпутат сельсавета К. К. Кунц, сакратар сельсавета Ф. І. Кунц, участковы міліцыянер П. І. Матуска, інспектар райфа П. С. Мацюхевіч і яго сын — камсамолец, трактарыст П. П. Мацюхевіч, старшыня сельсавета Е. І. Ніжнік. Імем К. К. Кузько названа вуліца ў Камянцы. У 1975 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Коладна, Агародніцкі сельсавет**

**814. СТАЯНКІ** (археал.). У наваколлі вёскі, каля р. Ляхная, на эрадзіраванай тэрасе марэннага ўзгорка вышынёй 14—15 м. Выявіў у 1926 г. З. Шміт.

**814а.** Стаянка-1. На заходняй ускраіне вёскі, недалёка ад вусця р. Ляхная. Цягнецца амаль на 300 м. Культурны пласт у некаторых месцах пашкоджаны. Знойдзена больш за 500 апрацаваных крамянёў і каля 50 крамянёвых прылад: пласціністыя наканечнікі, канцавыя скрабкі, масіўныя пласціны з бакавымі паглыбленнямі і такія ж клінападобныя разцы, шматлікія нуклеусы, пласціны і інш. Частка прылад мае макралітычны выгляд.

**814б.** Стаянка-2. За 0,1—0,2 км ад в. Шумакі, на правым беразе р. Ляхная, на схіле марэннага ўзгорка. Знойдзена больш за 100 апрацаваных крамянёў: ножападобныя пласціны, разнастайныя скрабкі, грубыя разцы, падобныя да рэчаў са стаянкі-1. Стаянкі адносяцца да эпохі мезаліту.

Матэрыялы зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Крынкі, Воўчынскі сельсавет**

**815. ПОМНІК ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі. У гонар подзвігу пагранічнікаў І. Р. Сяргеева і У. І. Чугрэева,

якія 22.6.1941 г. ўступілі ў няроўны бой супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і знішчылі больш за 30 гітлераўцаў, у 1964 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кусцічы, Ратайчыцкі сельсавет**

**816. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад шашы Відомля — Высокае. 42 насыпы. Вышыня курганоў 0,3—1,4 м, дыяметр 2,6—10 м, у ніжняй частцы абкладзены камянямі. Выявіў у 1937 г. К. Салевіч, даследавалі ў 1960 г. У. В. Біруля, у 1981 г. Т. М. Каробушкіна. У 9 даследаваных курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне, у трох нябожчыкі ляжалі галавой на захад. Пахавальны інвентар: гаршчок з рыфленнем, зроблены на ганчарным крузе, у паўтара абарота скроневае кольца з сярэбранага дроту, рэшткі ганчарнага посуду з лінейным арнаментам. У астатніх 6 насыпах шкілеты не захаваліся, знойдзены жалезныя рэчы, драўлянае вуголле, рэшткі ганчарнага посуду з рыфленнем. Датуецца 11—12 стагоддзямі. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Т. М. Каробушкіна.*



812. *Помнік на магіле кулямётчыкаў.*

**в. Лескі, Рэчыцкі сельсавет**

**817. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны мірныя жыхары — ахвяры фашысцкага тэрору. 4.5.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 216 жыхароў в. Лескі і спалілі вёску — 54 двары. У 1960 г. па ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на магіле пастаўлены абеліск.

**818. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ В. П. ЧКАЛАВА** (гіст.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі ў лесе знаходзяцца зямлянкі, у якіх у 1943 г. размяшчаўся штаб партызанскага атрада імя В. П. Чкалава брыгады «Савецкая Беларусь». Атрад створаны ў сакавіку 1943 г. па ініцыятыве Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі. Камандзіры П. І. Масалаў, С. З. Астроўскі, Я. К. Калеснікаў; камісары Х. Камуратаў, А. І. Жылякоў, Я. Г. Беражняк. Да чэрвеня 1943 г. атрад дзейнічаў асобна, у чэрвені — жніўні — у складзе брыгады імя П. К. Панамарэнкі, у жніўні 1943 г. ўвайшоў у партызанскую брыгаду «Савецкая Беларусь». Дзейнічаў на тэрыторыі Жабінкаўскага і іншых раёнаў. Пры атрадзе быў сямейны лагер.

У 1955 г. каля зямлянак устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Лісоўчыцы, Войскі сельсавет**

**819. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**819а.** Могільнік-1. За 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля хутара, злева ад дарогі ў в. Кашчэнікі. 10 насыпаных курганоў сферычнай формы абкладзены вялікімі валунамі. Насыпы вышынёй 0,3—0,5 м, дыяметрам 4—6 м. Абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна, якая ў 1981 г. даследавала 2 курганы. У адным пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад, рукі ўздоўж тулава, з частковым трупаспаленнем. Выяўлены жалезны прадмет, які нагадвае наканечнік стралы, абломкі глінянага посуду (у насыпе). У другім кургане — трупапалажэнне галавой на захад. Знойдзена 6 каваных цвікоў. Курганы датуюцца 11 ст. Верагодна, належалі дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**819б.** Могільнік-2. За 1,1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Пяцічна Гара. 4 насыпы вышынёй 0,2—0,3 м, дыяметрам 4—5 м. Раней курганы былі абкладзены валунамі, іх форма парушана. Раскопкі не праводзіліся.

*Т. М. Каробушкіна.*



821. *Царква Іаана Хрысціцеля. План.*

**820. МАГІЛА КАЛГАСНЫХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны арганізатары калгаса «Новае жыццё» Я. М. Андрасюк, Р. А. Андрасюк, С. А. Грыгарук, Я. С. Заяц, Д. А. Несцярук, І. Хоміч, І. М. Якаўлеў, Ф. С. Ярашук, якіх расстралялі 10.9.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**821. ЦАРКВА ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Цэласны аб'ём з васьмерыковай званіцай над бабінцам і трохграннай алтарнай часткай. Двухсхільны гонтавы дах з вальмамі над апсідай увянчаны галоўкай. Званіца накрыта высокім шатром. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі, па вуглах і ў верхняй частцы — разнымі. У інтэр'еры асноўнага аб'ёму з боку



821. *Царква Іаана Хрысціцеля. Выгляд з боку апсіды.*




824. *Помнік землякам.*

бабінца на ўсю вышыню залы хоры, якія падтрымліваюць 2 слупы. Столь плоская.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

**в. Любашкі, Дзмітравіцкі сельсавет**

**822. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы, за 0,2 км злева ад дарогі ў Ганцавічы. 19 курганоў, абкладзеных каля асновы невялікімі камянямі (ёсць насыпы, скрозь абкладзеныя камянямі). Вышыня 0,2—1,2 м, дыяметр 5—8 м. Мясцовая назва Шведскія магілы. Вядомы з 1895 г. У 1962 г. І. В. Біруля даследаваў 2 курганы. Могільнік абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупапалажэнне без інвентару. Датуецца 11—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— У кн.: Труды 9 Археологического съезда в Вильне 1893. М., 1895, т. 1; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

*Т. М. Каробушкіна.*



827. *Царква.*

**в. Мартынюкі, Камянецкі сельсавет**

**823. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1960 г.

**в. Мікалаева, Камянецкі сельсавет**

**824. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. На ўшанаванне памяці 69 жыхароў Камянецкага сельсавета, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1979 г. пастаўлены абеліск, за ім сцяна з імёнамі загінуўшых.

**825. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**826. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля васьмігадовай школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**827. ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва. Асноўны аб'ём, увянчаны 5 галоўкамі, злучаны з двух'яруснай шатровай званіцай. Апсіда знаходзіцца ў межах асноўнага аб'ёму. Галоўны ўваход храма выдзелены ганкам. Помнік адметны багаццем дэкору: разныя карнізы, арнаментальныя франтоны, ліштвы акон. Помнік драўлянага дойлідства псеўдарускага стылю.

**в. Навасёлкі, Воўчынскі сельсавет**

**828. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 100 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў 1941 г. і ў ліпені — жніўні 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам у руках.

**в. Новая Расна, Расненскі сельсавет**

**829. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ КАЛГАСА «САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ»** (архіт.). За 33 км на захад



827. *Царква. План.*



828. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

ад Камянца, 2,5 км ад чыгуначнай станцыі Высока-Літоўск.

Праект забудовы распрацаваны Беларускім дзяржаўным інстытутам праектавання сельскага будаўніцтва (1968 г., арх. А. Балыка, В. Емяльянаў). У адпаведнасці з генпланам новае будаўніцтва праводзіцца на захад ад сучаснай індывідуальнай забудовы. Тут фарміруецца грамадска-гандлёвая плошча, у цэнтры якой размешчаны Палац культуры (пабудаваны ў 1970 г., арх. Л. Маскалевіч, інж. С. Майсеева, В. Самашук). У мастацкім афармленні інтэр'ера палаца значнае месца займаюць рэльефная кампазіцыя з шамоту на ўсю сцяну фае (калектыў мастакоў пад кіраўніцтвам А. Кішчанкі), габелены, азеляненне.

Жылая зона абапал плошчы забудоўваецца двухпавярховымі жылымі дамамі секцыйнага тыпу, а таксама блакіраванымі дамамі з кватэрамі на 2 узроўнях. У аснову праекта пакладзены групавы прынцып планіроўкі, пры якім у склад жылых груп уваходзіць па 24—28 кватэр. Гаспадарчыя пабудовы вылучаны ў асобныя блокі і размешчаны ў асноўным на ўтрыманне дробнай свойскай жывёлы.

У пасёлку пабудаваны эксперыментальны аднапавярховы чатырохкватэрны жылы дом для адзінокіх ветэранаў працы. Кожная кватэра мае самастойны ўваход і складаецца з жылога пакоя, пярэдняй з гардэробам, кухні. Дэкаратыўныя элементы, зробленыя з дрэва, надаюць будынку

выразнасць і своеасаблівасць. Тут знайшлі адлюстраванне традыцыі народнага дойлідства ў сучаснай трактоўцы.

Архітэктурна-планіровачнае вырашэнне забудовы сядзібы ў 1970 г. адзначана на ВДНГ СССР дыпломам 2-й ступені. *А. Я. Балыка.*

**830. КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы, перабудаваны ў 19 ст. Цэласны аднанефавы аб'ём з паўцыркульнай алтарнай часткай. Перад уваходам, вырашаным у выглядзе партала, выступае магутны чатырохкалонны порцік дарычнага ордэра. Па перыметры будынка праходзіць прафіляваны карніз. Сцены атынкаваны і прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Помнік архітэктуры класіцызму.

**в. Пагранічная, Расненскі сельсавет**

**831. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 27 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**832. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1962 г.

**в. Падбур'е, Каленкавіцкі сельсавет**

**833. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 179 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам у руках.

**в. Panіквы, Воўчынскі сельсавет**

**834. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Будынак мае падоўжна-восевую кампазіцыю. Складаецца з прамавугольных у плане зрубаў бабінца, асноўнага аб'ёму, апсіды, трох'ярусnай




829. *Палац культуры.*



829. *Дом для ветэранаў працы.*



829. *Палац культуры. Фрагмент керамічнага пано.*

чацверыковай званіцы (прыбудавапа пазней). Асноўны аб'ём у цэнтры ўвянчаны цыбулепадобнай галоўкай па гранёным барабане. Спалучэнне гарызантальнай і вертыкальнай шалёўкі — асноўны прыём дэкаратыўнай аздобы будынка. Мастацкая выразнасць дасягнута супадпарадкаваннем рознавялікіх аб'ёмаў, аб'яднаных у развітую ярусную кампазіцыю. Уваход у царкву праз невялікі бабінец. Унутры над уваходам хоры. Асноўная прастора храма асветлена высокімі лучковымі вокнамі. Апсіда аддзелена драўляным іканастасам.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Пашукі, Навіцкавіцкі сельсавет**

**835. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва. Да асноўнага, выцягнутага ў плане аб'ёму, завершанага чатырохсхільным дахам з невялікім купалам на васьмігранным барабане, з усходу прымыкае трохгранная апсіда, з захаду — двух'ярусная званіца з шатровым пакрыццем. Галоўны ўваход вылучаны ганкам з трохвугольным франтонам. Помнік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю.

**в. Пелішча, цэнтр сельсавета**

**836. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 9 танкістаў 19-й механізаванай брыгады 30-га гвардзейскага танкавага палка 28-й арміі, якія загінулі 21.7.1944 г. ў час прарыву варожай абароны каля вёсак Пелішча і Жыцін. У 1974 г. каля магілы на пастаменце ўстаноўлены танк.



830. *Касцёл. План.*



834. *Успенская царква. Выгляд з боку апсіды.*



835. *Прачысценская царква. План.*

**837. КАСЦЁЛ СЭРЦА ІСУСА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1-й палавіне 20 ст. з цэглы. Прамавугольныя ў плане рознавялікія асноўны аб'ём, апсіда, сакрысціі і вежа-званіца аб'яднаны ў ярусную прасторавую кампазіцыю. Званіца завершана фігурнай вежачкай. Архітэктура фасадаў вырашана плоскасна з выкарыстаннем рытму арачных акон і шырокіх лапатак. Помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

**838. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 62 жыхароў вёсак Беразнякі, Індычы, Падбрадзяны, Пелішча, Пруска-Валгінова, Седруж, Сосны, Стралі, Шчэрбава, Якубовічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Пескі, Агародніцкі сельсавет**

**839. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Паміж вёскамі Пескі і Плянта, у лесе, на правым беразе ручая Люта. 6 курганоў вышынёй 0,5—1,1 м, дыяметрам 3,5—7,5 м. Выявіў у 1968 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1970 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Плянта, Агародніцкі сельсавет**

**840. КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Прыдаткі. Да 1965 г. было каля 10 курганоў. У 1965 г. пры будаўніцтве аб'езду на шашы Брэст — Высокае насыпы зруйнаваны, цяпер на іх месцы кар'еры. Захаваўся адзін курган вышынёй 0,7, дыяметрам 8 м. Мясцовая назва Шведская магіла. Абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.



834. *Успенская царква. План.*



835. *Прачысценская царква.*

**в. Пруска-Валгінова, Камянецкі сельсавет**

**841. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі. У гонар воінаў 50-й гвардзейскай стралковай дывізіі (камандзір генерал-маёр А. С. Уладычанскі), якія ў ліпені 1944 г. прымалі ўдзел у вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Радасць, Камянецкі сельсавет**

**842. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Лясная. Захаваліся 3 курганы дыяметрам ад 7 да 14 м, вышынёй ад 0,5 да 1,5 м. Курганы вядомы з канца 19 ст. Даследавалі ў 1962 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1969 г. І. П. Русанава, у 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Ва ўсіх курганах на гарызонце пад насыпам і ў насыпе ёсць прыкметы вогнішчаў. У рэштках аднаго з вогнішчаў сярод вугалля, попелу і дробных перапаленых касцей чалавека выяўлены прамавугольнік з абгарэлых бярвенняў (2,6×3 м.). Знойдзены чарапкі грубага ляпнога і вялікая колькасць абломкаў ганчарнага посуду, прамавугольная жалезная спражка. Могільнік адносіцца да 8—10 стагоддзяў і належыць да групы так званых «парных» курганоў, якія прыпісваюцца валынянам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР ў Маскве і Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Русанова И. П. Раскопки курганов на Волыни.— У кн.: Археологические открытия 1969 года. М., 1970.

*Т. М. Каробушкіна.*



836. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Ражкоўка, Дзмітравіцкі сельсавет**

**843. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 21 партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у час рэйду 1-й Украінскай партызанскай дывізіі імя С. А. Каўпака (камандзір П. П. Вяршыгара) у сакавіку 1944 г. Партызаны знянацку ўварваліся ў в. Ражкоўка, дзе знаходзіліся часці дывізіі «Герман Герынг», і ў ходзе жорсткага бою выбілі праціўніка. Гітлераўцы акружылі іх, некалькі разоў спрабавалі зноў заняць вёску. Ноччу ўдалым манеўрам партызаны выйшлі з акружэння і працягвалі баявыя дзеянні на Палессі.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Брайко П., Калиненко О. Внимание, Ковпак! — 2 изд.— М., 1975.

**844. ХАТА** (архіт.). На галоўнай вуліцы, у цэнтры вёскі. Пабудавана (паводле надпісу на сцяне) у 1880 г.

Хата паўднёвым тарцовым фасадам арыентавана да вуліцы. Пастаўлена на падрубе з брусоў (таўшчыня 15 см) і зрублена ў вугал з астаткам. Двухкамерная пабудова (хата+сенцы), да якой прымыкае хлеў з асобным уваходам. Двухсхільны кроквенны дах накрыты дранкай. Шчыт зашыты дошкамі «ў разбежку». Першапачаткова ў хаце была курная печ (у пачатку 20 ст. заменена печчу з комінам). Квадратнае ў плане жыллёвае памяшканне захавала традыцыйную кампазіцыю інтэр'ера: справа ад увахода печ, па дыяганалі ад яе — покуць, дзе злучаюцца 2 лавы, нерухома прымацаваныя да тарцовай і падоўжнай сцен хаты. У плоскай столі, якую падтрымлівае сярэдняя падоўжаная бэлька, насупраць печы зроблена круглая адтуліна для лучніка (дыяметр 26 см). Падлога земляная. Сенцы, плошчаю амаль роўныя хаце, выкарыстоўваліся таксама пад камору. Вокны прамавугольныя, размешчаны ў падоўжных сценах, тарцовая сцяна глухая.

Хата — тып пашыранага ў эпохі феадалізму і капіталізму двухкамернага жылля, адлюстроўвае характэрныя рысы заходнепалескага жыллёвага сялянскага будаўніцтва 19 ст.

*Ю. А. Якімовіч.*

**в. Ратайчыцы, цэнтр сельсавета**

**845. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, справа ад дарогі на в. Млыны. У 1929 г. ў час рамонту дарогі мясцовыя жыхары выпадкова знайшлі пахаванне па абраду трупаспалення (у вялікім гліняным сасудзе знаходзіліся перапаленыя косці чалавека і пацеркі з чырвонага каменю). У 1962 г. Ю. У. Кухарэнка на плошчы 76 м² даследаваў 2 пахаванні ў прамавугольных ямах. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзена бронзавае скроневае трохпацеркавае кольца. Помнік абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Адносіцца да ранняга жалезнага веку (паморская культура) і да эпохі Кіеўскай Русі (11—12 стагоддзі).

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961; его ж. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

*Т. М. Каробушкіна.*

**846. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на схіле левага берага р. П'яўка. Усходняя частка могільніка пашкоджана кар'ерам. Захавалася 8 пясчаных задзірванелых насыпаў паўсферычнай формы вышынёй 0,2—0,7 м, дыяметрам 4—8 м. Некаторыя насыпы захавалі каменную муроўку. Вядомы з канца 19 ст. Даследавалі ў 1959—60 гг. І. В. Біруля (раскапаў 29 курганоў), у 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены ганчарныя пасудзіны, дужка ад вядра, цвікі, шыферныя праслíцы, упрыгожанні з бронзы і серабра, шкляныя з пазалотай пацеркі, ракавіна — кауры. Датуецца 11—13 стагоддзямі, належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— У кн.: Труды 9 Археологического съезда в Вильне 1893. М., 1895, т. 1; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Бируля И. В. Курганы у дер. Ратайчицы.— У кн.: Древние славяне и их соседи. М., 1970.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 176).

*Т. М. Каробушкіна.*



844. *Хата. План.*




840. *Курган. План.*




842. *Курганны могільнік. План.*

**в. Рэчыца, цэнтр сельсавета**

**847. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.).



844. *Хата.*



847. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і землякам.*

У цэнтры вёскі. Пахаваны 7 танкістаў, якія загінулі 22.6.1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Асноўнай кампазіцыйнай часткай помніка з'яўляецца бюст С. А. Дубовіка, вакол яго 5 мемарыяльных дошак.

Мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці Сямёна Андрэевіча Дубовіка (партыйныя псеўданімы Андрэй, Балюк) — дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з стваральнікаў КПЗБ.

С. А. Дубовік нарадзіўся 4.2.1888 г. ў в. Нароўшчына Рэчыцкага сельсавета. Член КПСС з 1912 г. У 1909 г. ў пошуках работы выехаў у ЗША. Там прымаў удзел у рабочым руху. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1911 г. высланы з ЗША, вярнуўся ў Расію і працаваў у Сібіры. Удзельнічаў у выступленні рабочых на залатых капальнях на р. Лена (1912 г.). Двойчы (у 1914 і 1917 гг.) быў арыштаваны і сасланы ў Екацярынбург. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 працаваў у Петраградзе, Маскве. У Грамадзянскую вайну — начальнік аддзела забеспячэння 2-й Украінскай брыгады, камісар палка. З 1921 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля на Брэстчыне. Дэлегат II з'езда Кампартыі Польшчы (19.9—2.10. 1923 г.). На I канферэнцыі КПЗБ (1923 г.) выбраны ў склад ЦК КПЗБ. У 1923—24 гг. сакратар Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ. У ліпені 1924 г. арыштаваны і засуджаны на 4 гады турэмнага зняволення. Пасля выхаду з турмы працаваў у апараце ЦК КПЗБ. З 1930 г. ў СССР на адміністрацыйна-гаспадарчай рабоце. Памёр у 1937 г. Імем С. А. Дубовіка названа вуліца ў Камянцы. Бюст пастаўлены ў 1978 г.



848. *Курганны могільнік.*

Мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці 168 жыхароў Рэчыцкага сельсавета, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Мемарыяльная дошка на ўшанаванне памяці пахаваных тут танкістаў.

Мемарыяльная дошка ў гонар першага ў раёне калгаса імя К. Я. Варашылава, арганізаванага ў в. Крыўляны Рэчыцкага сельсавета пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. За высокія вытворчыя паказчыкі калгас у сакавіку 1941 г. быў удзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве. Старшыня калгаса К. В. Смалюк і брыгадзір Р. А. Садоўскі былі расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў верасні 1942 г. Пахаваны каля г. п. Камянец у Прускаўскім лесе.

Мемарыяльная дошка ў гонар Камянецкага падпольнага райкома КПЗБ, які некаторы час знаходзіўся на тэрыторыі Рэчыцкага сельсавета. Былы сакратар падпольнага райкома КПЗБ К. К. Кузько ў жніўні 1941 г. расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

*Літ.:* Полуян В. А. Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927—1939 гг.).— Мн., 1978.
*Т. А. Слесарук, М. М. Казлоўская.*

**в. Свішчова, Ратайчыцкі сельсавет**

**848. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на паўночны ўсход ад вёскі, абапал дарогі Камянец — Высокае. Выявіў у 1937 г. К. Салевіч. У 1959 г. І. В. Біруля раскапаў 14 насыпаў, у 1961 г. В. В. Сядоў — 7. Не даследавана 20 насыпаў.

Курганы па вонкавым выглядзе адрозніваюцца толькі памерамі. Вышыня 0,2—1,6 м, дыяметр 4—8 м. Раскопкі выявілі 2 тыпы пахавальных насыпаў: з каменным пакрыццем і без яго, дзе курганы толькі каля падножжа абкладзены валунамі. Нябожчыкі



850. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

на мацерыку, у попельным пласце або вышэй яго, а ў некаторых выпадках — у прамавугольнай магільнай яме галавой на захад, зрэдку на ўсход і поўнач. Пахаванні адзіночныя (апроч аднаго). Пры раскопках знойдзены гліняныя кругавыя гаршкі, зробленыя на ганчарным крузе, жалезныя нажы, дужка і абручы ад драўляных вёдзер, тачыльныя брускі, упрыгожанні — шкляныя залачоныя, пасярэбраныя, медныя зярнёныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкі, S-падобныя скроневыя кольцы. Абследавала ў 1980 г. Т. М.



852. *Помнік І. П. Бяляеву.*

Каробушкіна. Помнік адносіцца да 11—13 стагоддзяў. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і ў Інстытуце археалогіі АН СССР (Масква).

*Літ.:* Бируля И. В. Каменные курганы правобережья Западного Буга.— У кн.: Древности Белоруссии: Материалы конференции по археологии Белоруссии и смежных территорий (1966). Мн., 1966; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

*Т. М. Каробушкіна.*

**849. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1969 г.

**в. Ставы, Воўчынскі сельсавет**

**850. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны пагранічнікі М. Г. Бахмецьеў, І. П. Бяляеў, М. А. Зуйкоў, В. Ф. Іваноў, В. Ф. Іўлеў, С. І. Машусцін, якія загінулі 22.6.1941 г., і 97 воінаў, што загінулі ў баях ці памерлі ад ран 21—28.7.1944 г. ў час вызвалення тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**851. МЕСЦА ДЭМАНСТРАЦЫІ СЯЛЯН 1927 г.** (гіст.) 1.5.1927 г. адбылася першамайская дэманстрацыя, арганізаваная мясцовай арганізацыяй КПЗБ. Каля 800 сялян з навакольных вёсак з чырвонымі сцягамі прайшлі па вёсцы, адбыўся мітынг з антыўрадавымі прамовамі. Пры спробе паліцэйскіх арыштаваць аднаго з сялян, дэманстранты закідалі іх камянямі. Паліцэйскія пачалі страляць. 1 селянін быў забіты, 2 паранены, 26 найбольш актыўных удзельнікаў дэманстрацыі арыштаваны і аддадзены пад суд.

*Літ.:* Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962.

**852. ПОМНІК БЯЛЯЕВУ** Івану Пятровічу (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі.

У першы дзень Вялікай Айчыннай вайны 22.6.1941 г. група воінаў на чале з намеснікам палітрука І. П. Бяляевым утрымлівала абарону ў раёне пагранічнай заставы, што знаходзілася на паўночны захад ад Брэста. Сілы былі няроўныя. Пагранічнікі вымушаны былі адысці. І. П. Бяляеў, прыкрываючы адыход групы, агнём ручнога кулямёта адбіваў атакі ворага. Знясілены і паранены, ён дабраўся да хутара, але быў схоплены гітлераўцамі і расстраляны.

У 1967 г. на месцы бою пастаўлены помнік — бюст І. П. Бяляева. Яго імем названа адна з пагранічных застаў.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

**853. ПОМНІК САВЕЦКІМ ПАГРАНІЧНІКАМ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі.



**855.** *Міхайлаўская царква. План.*

22.6.1941 г. група пагранічнікаў на чале з старшым лейтэнантам І. Г. Ціханавым трымала абарону ў раёне пагранзаставы. Больш як 4 гадзіны вялі пагранічнікі жорсткі, няроўны бой, стрымліваючы пераправу нямецка-фашысцкіх войск цераз Заходні Буг. У гэтым баі смерцю храбрых загінулі М. Г. Бахмецьеў, М. А. Зуйкоў, В. Ф. Іваноў, В. Ф. Іўлеў, С. І. Машусцін. Пахаваны ў брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Ставы.

На ўшанаванне іх памяці ў 1967 г. на месцы бою пастаўлена стэла.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

**854. ПОМНІК СВЯРДЛОВУ** Якаву Міхайлавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Я. М. Свярдлова. Бюст Я. М. Свярдлова ўстаноўлены ў 1973 г.

**в. Такары, Агародніцкі сельсавет**

**855. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1816 г. з дрэва. Будынак аднazрубны з двух'яруснай званіцай на галоўным фасадзе, прамавугольнай у плане алтарнай часткай і 2 невялікімі рызніцамі з заходняга боку. Дах двухсхільны, гонтавы. Званіца (чацвярык на чацверыку) завершана васьміграннымсветлавым барабанам з макаўкай. Сцены царквы вертыкальна ашаляваныя. Прыклад традыцыйнага тыпу культавай пабудовы са званіцай.

**в. Трасцяніца, Ратайчыцкі сельсавет**

**856. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, на ўзгорку, справа ад дарогі на в. Ратайчыцы. Большая частка могільніка занята сучаснымі могілкамі. Могільнік адкрыў у 1937 г. К. Салевіч, даследавала ў 1962 г. В. Б. Караткевіч. Выяўлены 2 пахаванні і 22 ямы, запоўненыя попелам, камянямі і шлакамі.

У адным пахаванні на глыбіні 0,85 м выяўлена своеасаблівая каменная скрынка, сценкі якой зроблены з невялікіх валуноў у адзін ярус. Яна мела форму няправільнага прамавугольніка, выцягнута з захаду на ўсход (даўжыня 2 м, шырыня з захаду 0,95 м, з усходу 0,4 м). Рэшткі перапаленых касцей 2 нябожчыкаў знойдзены ў гліняным гаршку, што стаяў унутры скрынкі з заходняга боку.



**855.** *Міхайлаўская царква.*

Гаршок быў накрыты гліняпай накрыўкай. З усходняга боку знаходзіліся 4 гліняныя пасудзіны: вялікая чорная глянцаваная ваза і міска, у якой ляжалі кубак і збан.

У другім пахаванні рэшткі перапаленых касцей нябожчыка ляжалі невялікай кучкай, у чыстым пяску на глыбіні 0,55 м. Каля касцей і пад імі знойдзены абломкі вялікай гліняпай пасудзіны. На касцях знаходзіліся жалезная раннелатэнская фібула і драцяны пярсцёнак. Уся кераміка ляпная. Могільнік належаў плямёнам паморскай культуры, што засялялі гэтую тэрыторыю ў 4—2 стагоддзях да н. э.





**856.** *Бескурганны могільнік. Пахаванне № 1. План і разрэз.*



856. *Бескурганны могільнік. Гліняны посуд з раскопак пахавання № 1.*



856. *Бескурганны могільнік. Жалезная фібула і пярсцёнак з раскопак пахавання № 2.*

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Дзяржаўным музеі БССР.

*Літ.:* Никитина В. Б. Памятники поморской культуры в Белоруссии и на Украине.— Советская археология, 1965, № 1; яе ж. Помнікі паморскай культуры на тэрыторыі БССР.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1964. № 2.

*В. Б. Караткевіч.*

**857. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,8 км ад вёскі, справа ад шашы Відамля — Высокае. Пахаваны 22 воіны 50-й гвардзейскай дывізіі, якія загінулі 23—31.7.1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні тэрыторыі раёна. Тут пахаваны таксама 2 партызаны. На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



859. *Праабражэнская царква.*

**858. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**858а.** Могільнік-1. За 0,7 км на паўночны захад ад вёскі, на сучасных могілках. Курганы цягнуцца ланцугом уздоўж могілак з поўдня на поўнач. 63 насыпы, усе абкладзены вялікімі валунамі. Вышыня 0,4—2 м, дыяметр 4,2—12 м. Добра захаваліся, пакрыты дзёрнам. На асобных курганах сучасныя пахаванні. Вядомы з канца 19 ст. Даследаваў у 1962 г. І. В. Біруля (раскапаў 7 курганоў), абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены гаршкі, спражкі, меч, упрыгожанні, нажы і іншыя рэчы. Помнік датуецца 11—13 стагоддзямі. Належаў усходнім славянам, верагодна, дрыгавічам.

**858б.** Могільнік-2. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, справа ад павароту ў вёску шашы Відамля — Высокае. Захаваліся 4 насыпы. Вышыня 0,4—0,6 м, дыяметр 5—6 м. Вядомы з канца 19 ст. Даследаваў у 1960 г. І. В. Біруля (раскапаў 2 курганы), абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены гаршкі, спражкі, нажы і інш. Помнік датуецца 11—13 стагоддзямі. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— У кн.: Труды 9 Археологического съезда в Вильне 1893.— М., 1895; Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

*Т. М. Каробушкіна.*

**859. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва. Трохзрубная пабудова з прамавугольным у плане асноўным аб'ёмам, пяціграннай апсідай і шатровай званіцай (васьмярык). Цэнтральны аб'ём накрыты двухсхільным дахам і ўвянчаны галоўкай на васьміграннам барабане. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Помнік народнага дойлідства.

**в. Хацінава, Ратайчыцкі сельсавет**

**860. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, справа ад шашы Відамля — Высокае. 31 курган. Адкрыў у 1937 г. К. Салевіч, даследавалі 14 курганоў у 1960 г. І. В. Біруля, у 1980 г. і 1982 г. Т. М. Каробушкіна. Насыпы круглыя ў плане, вышынёй 0,3—1 м, дыяметрам 2—6 м, здзірванелыя, каля падножжа абкладзены валунамі. Пахаванні адзіночныя. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, у адным — трупаспаленне (адзін курган не меў пахавання і пахавальнага інвентару). Нябожчыкі ляжалі ў прамавугольных ямах галавой на захад. Пахавальны інвентар: гліняныя пасудзіны з адагнутым краем, зробленыя на ганчарным крузе, бронзавая прамавугольная і жалезная круглая спражкі, віты бронзавы пярсцёнак, жалезны нож; у жаночых пахаваннях — спіральныя ў паўтара абарота сярэбраныя скроневыя кольцы, біканічнае шыфернае прасліца. Курганы могуць быць аднесены да 11—13 стагоддзяў. Належалі дрыгавічам.



859. *Праабражэнская царква. План.*



860. *Курганны могільнік. План.*

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

*Т. М. Каробушкіна.*

**в. Хлевішча, Вярховіцкі сельсавет**

**861. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 99 воінаў, якія загінулі ў баях у ліпені — жніўні 1944 г. ў ваколіцах вёскі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам.

**в. Шастакова, Ратайчыцкі сельсавет**

**862. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля былога хутара. 8 насыпаў вышынёй 0,2—0,5 м, дыяметрам 3—6 м. Курганы абкладзены камянямі. Вылучаецца адзін насып вышынёй 0,6 м, дыяметрам 6 м, уся

паверхня якога абкладзена камянямі. Выявіў у 1936 г. К. Салевіч. 4 курганы раскапаў у 1959 г. І. В. Біруля. Пад дзёрнам выяўлена шчыльная брукоўка з камянёў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў дамавінах. Знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі і бронзавая шпілька. Абследавала ў 1980 г. Т. М. Каробушкіна. Належаў дрыгавічам. Датуецца 11—13 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

**863. МЕСЦА ЖЫЦЦЯ ГАФМЕЙСТАРА** Апалінара Паўлавіча (гіст.). Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў 1840—60-я гады.

А. П. Гафмейстар нарадзіўся ў Брэсце ў 1825 г. У 1830-я гады яго бацькі пераехалі ў маёнтак Шастакова. У 1846 г. за спробу ўзняць паўстанне на Беларусі (так званая «справа Рэра») А. П. Гафмейстар арыштаваны і пасля акта грамадзянскага пакарання ў Вільні (1848 г.) адпраўлены ў арыштанцкія роты ў Орск. У канцы 1850-х гадоў вярнуўся на радзіму, займаўся гаспадаркай у Шастакове, адкрыў школу для сялян. У час паўстання 1863—64 гг. быў паўстанскім цывільным начальнікам Брэсцкага ваяводства. У 1864 г. арыштаваны і сасланы на катаргу. Памёр у 1890 г.

*Літ.:* Dubiecki M. Apolin Hofmejster, naczelnik województwa brzesko-litewskiego w powstaniu styczniowem.— Ateneum Wileńskie, 1923, № 2. *Г. В. Кісялёў.*

**864. РАДЗІМА ТРАЎГУТА** Рамуальда Людвікавіча (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве Р. Л. Траўгут нарадзіўся 4.1. 1826 г. ў маёнтку Шастакова. Бацька яго, збяднелы шляхціц, арандаваў зямлю ў генерала Альберга. Скончыў Свіслацкую гімназію. У 1844 г. паступіў на ваенную службу. У Крымскую вайну 1853—56 гг. удзельнічаў у абароне Севастопаля. У 1862 г. ў чыне падпалкоўніка пайшоў у адстаўку і пасяліўся ў маёнтку Вострау Кобрынскага павета. У красавіку 1863 г., калі на Беларусі пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне супраць царызму, Р. Л. Траўгут узначаліў Кобрынскі паўстанскі атрад, вызначыўся як таленавіты камандзір. У маі яго атрад правёў 3 баі з карнікамі каля в. Горкі. У чэрвені 1863 г. разам з Брэсцкім атрадам Я. Ваньковіча зрабіў рэйд на паўночную Валынь. 11 чэрвеня паўстанцы атрада пад кіраўніцтвам Р. Л. Траўгута ў баі пад Столінам нанеслі карнікам значныя страты. Царскія ўлады падцягнулі войскі, і Р. Л. Траўгут пасля некалькіх сутычак з імі распусціў моцна парадзелы ў бітвах атрад. У ліпені 1863 г. з дапамогай Э. Ажэшкі ён выехаў у Варшаву. У жніўні 1863 г. паўстанскі ўрад прысвоіў яму званне генерала і прызначыў сваім прадстаўніком за мяжой, потым у Варшаве. З кастрычніка 1863 г. Р. Л. Траўгут узначальваў варшаўскі ўрад, фактычна быў кіраўніком паўстання. Ён шмат зрабіў, каб ажывіць паўстанскі рух, пашырыць яго сацыяльную базу. 30.4.1864 г. Р. Л. Траўгут арыштаваны і паводле прыгавору ваеннага суда 5.8.1864 г. павешаны ў Варшаўскай цытадэлі.

Імем Р. Л. Траўгута ў 2-ю сусветную вайну называлася дывізія Войска Польскага.

*Літ.:* Миллер И. С. Ромуальд Траугут.— У кн.: За нашу и вашу свободу: Герои 1863 года. М., 1964.— (Жизнь замечательных людей); Dubiecki M. Romuald Traugutt i jego dyktatura podczas powstania styczniowego (1863—1864).— 5 wyd.— Poznań, 1924. *Г. В. Кісялёў.*

**в. Шчэрбава,**
**Пелішчанскі сельсавет**

**865. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 33 жыхароў вёсак Бярэзнікі, Індычы, Пелішча, Падбрадзяны, Седруж, Стралі, Шчэрбава, расстраляных у Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1965 г. пастаўлены абеліск.




# КОБРЫНСКІ РАЁН

Лука
Дзевяткі
Тэўлі
Запруды
Шаматоўка
Бяроза
Страгава
Яромічы
Бярозна
Дзямідаўшчына
Астромічы
Імянін
Батчы
Бухавічы
Турная
Грушава
Камень
КОБРЫН
Залессе
Гарадзец
Патрыкі
Магдалін
Кісялёўцы
Хідры
Балоты
Аніскавічы
Дубіны
Вялікія Корчыцы
Верхалессе
Хабовічы
Добрае
Навасёлкі
Бельск
Павіцце
Дзівін
Воса
Лелікава

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XIII. КОБРЫН

Горад абласнога падпарадкавання (з 1963 г.), цэнтр раёна. Размешчаны на раўнінных берагах суднаходнай р. Мухавец у сутоку яе з Дняпроўска-Бугскім каналам, за 52 км на ўсход ад Брэста. Чыгуначная станцыя на лініі Брэст — Гомель, вузел аўтамабільных дарог на Брэст, Мінск, Пінск, Ковель, Маларыту, рачная прыстань.

Як сведчыць паданне, горад быў заснаваны ў 11—12 стагоддзях нашчадкам кіеўскага князя Ізяслава на месцы рыбацкага пасялення на востраве, утвораным р. Кобрынка пры ўпадзенні яе ў Мухавец. Упершыню Кобрын упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1287 г. У той час яго землі ўваходзілі ва Уладзіміра-Валынскае княства. З 1-й палавіны 14 ст. Кобрын у складзе Вялікага княства Літоўскага, у 1404—1519 гг.— цэнтр Кобрынскага княства, якое ўзнікла ў выніку падзелу ўладанняў князя Фёдара Ратненскага (сына вялікага князя літоўскага Альгерда) паміж яго сынамі Сангушкам і Раманам. Кобрын перадаваўся «для кармлення» ў пажыццёвае карыстанне польскім каралевам Боне, Ганне Ягелонцы і Канстанцыі Аўстрыячцы. У 1589 г. атрымаў магдэбургскае права і герб — шчыт з выявай маці боскай і святой Ганны. У 16—18 стагоддзях быў цэнтрам Кобрынскай эканоміі. З сярэдзіны 17 да пачатку 18 ст. горад разбуралі войны, спусташалі эпідэміі і пажары. У сярэдзіне 17 ст. ў Кобрыне каля 1700 жыхароў, каля 500 дамоў. Даведзены да заняпаду, горад у 1766 г. быў пазбаўлены гарадскога самакіравання.

З 1795 г. Кобрын у складзе Расійскай імперыі, павятовы горад Слонімскай, потым Літоўскай губерняў. У 1790-я г. ў горадзе больш за 2 тыс. жыхароў, больш як 300 дамоў. З 1801 г. Кобрын — павятовы горад Гродзенскай губерні.

У Айчынную вайну 1812 г. 15 ліпеня рускія войскі атрымалі перамогу над атрадам напалеонаўскай арміі. У 1912 г. ў горадзе адкрыты помнік Перамогі 1812 г. У 1813 г. ў Кобрыне стаяў Іркуцкі гусарскі полк, у якім служыў малады карнет А. С. Грыбаедаў. У час вайны 1812 г. ў Кобрыне згарэла 548 дамоў з 630.

У 1846 г. завершана будаўніцтва шашы Масква — Варшава, якая прайшла праз Кобрын. У пачатку 1880-х гадоў па яго паўночнай ускраіне пралягла чыгунка. Паводле перапісу 1897 г., у горадзе 10 355 жыхароў, каля 30 дробных прамысловых прадпрыемстваў (157 рабочых). У час Рэвалюцыі 1905—07 гг. тут праходзілі дэманстрацыі і забастоўкі. У 1905 г. дзейнічаў Кобрынскі камітэт Усерасійскага саюза чыгуначнікаў. У 1914 г. ў горадзе 25 дробных прамысловых прадпрыемстваў з 72 рабочымі. У 1915 г. Кобрын акупіраваны нямецкімі, у 1919 г.— польскімі войскамі. Пасля яго вызвалення Чырвонай Арміяй у канцы ліпеня 1920 г. створаны Кобрынскі павятовы рэўком, які дзейнічаў да сярэдзіны верасня. Паводле Рыжскага мірнага дагавора горад адышоў да Польшчы як цэнтр павета Палескага ваяводства (1921—39 гг.). Эканамічны крызіс і хранічнае беспрацоўе выклікалі масавую эміграцыю жыхароў за мяжу. Працоўныя Кобрына і павета вялі барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Узначальваў выступленні працоўных раённы камітэт КПЗБ.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР (1939 г.) Кобрын у складзе Брэсцкай вобл., з 15.1.1940 г. цэнтр р-на. 23.6.1941 г. горад быў акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Барацьбой супраць акупантаў кіравалі падпольныя райкомы КП(б)Б (лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г.) і ЛКСМБ (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.). Фашысты знішчылі ў Кобрыне 6900 мірных жыхароў. 20.7.1944 г. горад вызвалены ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

Планіроўка і забудова Кобрына маюць шматвяковую гісторыю. Там, дзе р. Кобрынка ўпадае ў р. Мухавец, у старажытнасці было закладзена першае ўмацаванне, на якім пазней былі пабудаваны Верхні і Ніжні замкі. Дакладная дата збудавання замкаў невядома. Як сведчаць матэрыялы рэвізіі 1597 г., у гэты час яны занепалі. Верхні замак быў абнесены каменнымі сценамі са шмат'яруснымі драўлянымі вежамі, Ніжні — ровам і валам. Замкі злучаліся пад'ёмным мостам. Захаваліся рэшткі замкавага рова. На паверхні зямлі знойдзены рэшткі керамікі, якія адносяцца да 12—13 стагоддзяў. Непадалёку ад замкаў, на колішнім пасадзе, на глыбіні 1,5—2 м выяўлены рэшткі старадаўняй вуліцы з бярвенняў.

На захад ад замкаў каля 1497 г. апошні кобрынскі князь пабудаваў Спаскі манастыр (захаваўся адзін будынак). Горад забудоўваўся з усходу на захад паралельна Мухаўцу. Шырокая пойма ракі раздзяляла яго на 2 часткі. Паводле даных рэвізіі 1563 г., на левым беразе было 5 вуліц, рыначная плошча і ратуша (не захавалася), на правым — 2 вуліцы.

У канцы 18 ст. і ў 19 ст. цэнтр горада забудоўваўся цаглянымі двухпавярховымі жылымі дамамі, ніжнія паверхі якіх адводзіліся пад крамы і майстэрні. У гэты час Кобрын быў ажыўленым гандлёвым цэнтрам з некалькімі кірмашамі ў год. Значную частку рыначнай плошчы займалі аднапавярховыя крамы (захаваліся часткова). Захаваліся помнікі архітэктуры: Мікалаеўская царква, Спаскі манастыр, паштовая станцыя і інш.

У Вялікую Айчынную вайну Кобрын страціў каля 30 % жылога фонду. У першыя пасляваенныя гады вуліцы забудоўваліся аднапавярховымі, пераважна драўлянымі дамамі-катэджамі.

Сучасны Кобрын падзяляецца р. Мухавец на паўднёвы і паўночны планіровачныя раёны. Грамадскі цэнтр — пл. Леніна, ансамбль якой фарміруюць будынкі гаркома КПБ, Дома Саветаў,



XIII. *Плошча У. І. Леніна.*



XIII. *Гасцініца «Беларусь».*

гасцініцы, жылыя дамы. Тут знаходзіцца ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава. На плошчы пастаўлены помнік У. І. Леніну, у скверы — А. В. Сувораву, па вул. Першамайскай у скверы імя Пуганава — помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў. На вул. Леніна ў скверы пастаўлены помнік Вызвалення, на ўсходняй ускраіне горада — помнік героям «Рэйкавай вайны». Рэканструкцыя цэнтральнай часткі горада пачалася ў 1950-я г. Шматпавярховыя дамы пабудаваны па вуліцах Савецкай, Леніна, Суворава, Пушкіна і інш.

У 1980 г. ў Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва завершана распрацоўка генеральнага плана Кобрына, паводле якога далейшае развіццё горада прадугледжана ў паўднёвым і заходнім напрамках. Забудова новых мікрараёнаў ажыццяўляецца ўздоўж вуліц Савецкай і Дзяржынскага.

У Кобрыне сфарміраваліся 3 прамысловыя раёны: паўночны (у паўночным раёне), усходні (па вул. Першамайскай), заходні (па вул. Савецкай). Працуюць: інструментальнае вытворчае аб'яднанне, аўтарамонтны завод, швейная і прадзільна-ткацкая фабрыкі, тэкстыльнае вытворчае аб'яднанне, ільнозавод, масласырзавод, кансервавы завод, хлебазавод, аб'яднанне па птушкагадоўлі, цэх безалкагольных напіткаў, камбінат будаўнічых матэрыялаў, 2 заводы жалезабетонных вырабаў, мэблевы цэх Касаўскага мэблевага вытворчага аб'яднання, 14 будаўнічых арганізацый, раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія» і інш.

У Кобрыне 8 агульнаадукацыйных і спецыяльных школ, прафесійна-тэхнічнае вучылішча будаўнікоў, 13 дашкольных дзіцячых устаноў, 6 бібліятэк, кінатэатр, 6 кінаўстановак, Дом культуры, Дом піянераў і школьнікаў, бальніца, 2 клубы, філіял Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобл., ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава. Выдаецца газета «Камуністычная праца».

Зона адпачынку — парк імя А. В. Суворава і пойма р. Мухавец.

*Літ.:* Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 2.— СПб., 1863; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и сёла Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись.— М., 1962; Рашевский Н. А. Брестская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1975; Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 году Королевским ревизором Дмитрием Сапегою, с присовокуплением актов Браславского земского суда, относящихся к Кобринской архимандрии.— Вильна, 1876; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846.

*А. М. Мартынаў, А. А. Міняйла.*

**866. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. ўстаноўлена надмагілле, у 1979 г.— пліта з імёнамі загінуўшых.

**867. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Па вул. Першамайскай, у скверы імя В. П. Пуганава. Пахаваны 174 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Устаноўлены надмагіллі генерал-маёру Віктару Паўлавічу Пуганаву і Герою Савецкага Саюза лётчыку старшаму лейтэнанту Арсену Іванавічу Марозаву.

22-я танкавая дывізія на чале з В. П. Пуганавым трымала абарону за 12—15 км на паўночны захад ад Кобрына. Да яе далучыліся воіны 6-й і 42-й стралковых дывізій. 23.6.1941 г. ў 8 гадзін раніцы батальён фашыстаў падышоў да абарончага рубяжа. Танкісты нанеслі праціўніку раптоўны ўдар з тылу і флангаў і поўнасцю знішчылі батальён. У 16 гадзін генерал-маёр В. П. Пуганаў аддаў загад змяніць пазіцыі і праз кобрынскі аэрадром выйсці на Маскоўскую шашу (Кобрын ужо быў захоплены гітлераўцамі). З аэрадрома танкі пачалі рухацца па палявой дарозе, дзе сутыкнуліся з фашысцкімі танкамі. Пачаўся жорсткі бой. Каля 30 варожых самалётаў бамбілі пазіцыі савецкіх войск. У гэтым баі геraічна загінуў В. П. Пуганаў. Яго імем названы сквер і вуліца ў Кобрыне.

А. І. Марозаў нарадзіўся 23.1.1922 г. ў в. Слабодка Калінінскага р-на Калінінскай вобл. ў сялянскай сям'і. У 1938 г. скончыў прафтэхвучылішча, у 1940 г.— Батайскую ваенную школу пілотаў. На фронце з 1941 г. Намеснік камандзіра эскадрыллі старшы лейтэнант А. І. Марозаў вызначыўся ў Беларускай аперацыі 1944 г. Зрабіў 271 баявы вылет, удзельнічаў у 33 паветраных баях, асабіста збіў 13 варожых самалётаў, 9 — у групавых баях. Знішчыў 4 самалёты на аэрадромах, 3 чыгуначныя вагоны з боепрыпасамі і 18 аўтамашын з грузамі. Загінуў 24.7.1944 г. ў час разведкі варожых сіл у раёне Кобрына. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.2.1945 г. Яго імем названы сквер і вуліца ў Кобрыне, калгас на радзіме, у г. Калініне ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*А. М. Мартынаў.*

**868. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада, каля шашы Брэст — Мінск. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**869. ГАРАДСКІ ПАРК ІМЯ А. В. СУВОРАВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне горада. Заснаваны ў 1768 г. пры сядзібе, якая з 1795 г. належала А. В. Сувораву (уваходзіла ў маёнтак Кобрынскі Ключ), у 1808 г. перайшла да маёра Гельвіга, а з сярэдзіны 19 ст.— да Аляксандра Міцкевіча, брата польскага паэта Адама Міцкевіча. У 18 ст. плошча парку не перавышала 3—4 га. Парк быў абкружаны валам і ровам, у цэнтры размяшчаўся пладовы сад і сажалка. З 1948 г. парк носіць імя А. В. Суворава. У той час тэрыторыя яго складала 7,5 га, цяпер — 42 га.

Парк мае рэгулярную сістэму планіроўкі. Кампазіцыйная вось — цэнтральная алея (працяг вул. Сувора-



XIII. *Забудова вуліцы Пушкіна.*



868. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ва), завершаная невялікай сажалкай, над якой раней стаяў драўляны домік А. В. Суворава (разабраны ў 1894 г.). На яго месцы ў 1950 г. устаноўлены бюст палкаводца (скульпт. І. М. Рукавішнікаў, бронза; адліўка паводле арыгінала 1904 г.). Створаны вялікі штучны вадаём з абводным каналам.

У парку да 70 парод дрэў і дэкаратыўных кустоў: ліпа, клён, дуб, ясень, таполя, акацыя і інш. Яго ўпрыгожваюць серабрыстая елка, воцатнае дрэва, пірамідальная і кусцістая туі, лімоннік, явар, сібірская абляпіха, а таксама шмат ружаў і бэзу.

*Літ.:* Помарнацкий А. В. Портреты А. В. Суворова: Очерки иконографии.— Л., 1963. *А. М. Мартынаў.*

**870. ДНЯПРОЎСКА-БУГСКІ КАНАЛ** (гіст.). Праходзіць па Кобрынскім, Драгічынскім, Іванаўскім і Пінскім р-нах. Злучае прыток Прыпяці Піну з прытокам Буга Мухаўцом. Агульная даўжыня канала 196 км. Штучная частка шляху складае 110 км (ад Кобрына да в. Дубае на Піне). Вытокам канала ўмоўна лічыцца водападзельная лінія каля в. Селішча (у вусці Белаазерскага канала), дзе цячэнне мае 2 напрамкі — на захад і ўсход. Канал складаецца з 2 частак: адна належыць да Буга (даўжыня 52 км), другая — да Прыпяці (даўжыня 58 км). Праходзіць па плоскай забалочанай раўніне, прарэзанай старымі рэчышчамі і сеткай асушальных канаў.

Нашы продкі па Прыпяці, Піне, Валоцы, Мухаўцу з Дняпра дасягалі Буга. На гэтым зручным водным шляху была адна перашкода — палоса забалочанай поймы, якую даводзілася пераадольваць волакам.

Першы праект канала выкананы каралеўскім картографам Ф. Ф. Чакі ў 1766 г. Будаўніцтва пачалося ў 1775 г. пры каралі Станіславе Аўгусце Панятоўскім (таму канал называўся Каралеўскім) і скончана ў 1783 г. Былі выпрастаны звілістыя рэчышчы Піны і Мухаўца. Канал выкарыстоўваўся для сплаву лесу і праходу невялікіх суднаў. У 1837—48 гг. выкананы работы, якія дазволілі праводзіць праз канал баржы з большай асадкай. Неабходны ўзровень вады падтрымліваўся 7 драўлянымі водазаборнымі плацінамі. У 1940 г. канал быў рэканструяваны, выпрастана частка яго трасы на ўсход ад Кобрына. У Вялікую Айчынную вайну гідратэхнічныя збудаванні былі разбураны. У 1945—46 гг. канал адноўлены. Адначасова праведзена яго рэканструкцыя, што дазволіла скараціць агульную даўжыню і зменшыць колькасць шлюзаў з 22 да 10. Пазней драўляныя вароты гідравузлоў заменены металічнымі, устаноўлена светлавая сігналізацыя. Цяпер па канале перавозяць мінеральную сыравіну і лесаматэрыялы.

Дняпроўска-Бугскі канал — частка Дняпроўска-Бугскага воднага шляху, які звязвае басейны Дняпра і Віслы, помнік гідратэхнічнага будаўніцтва на Беларусі.

У Кобрыне па вул. Першамайскай на гідравузле № 7 у гонар 200-годдзя з пачатку будаўніцтва канала ў 1975 г. пастаўлены абеліск. *М. І. Алексяюк.*

**871. ЗАБУДОВА ПЛОШЧЫ СВАБОДЫ** (архіт.). На месцы былой рыначнай плошчы — старажытнага цэнтра горада. У плане плошча — падоўжаны прамавугольнік, у цэнтры якога былі размешчаны крамы і гасціны двор, а па перыметры — жылыя і грамадскія будынкі, узведзеныя ў канцы 18 — пачатку 19 ст. Першапачатковы ансамбль плошчы зменены: у 1920-я гады перабудаваны крамы, у 1960-я гады ў цэнтры пастаўлены будынак швейнай фабрыкі. Жылыя дамы (вул. Леніна, 15, 17, 19, 29; у 1970-я гг. перабудаваны) размешчаны на чырвонай лініі забудовы і выходзяць на плошчу тарцовымі фасадамі, якія трактаваліся як галоўныя. Першапачатковы выгляд і планіроўку захавалі жылыя дамы № 7, 9, 12 і 13 на паўднёвым баку плошчы. З грамадскіх пабудоў уцалеў будынак аптэкі.



869. *Гарадскі парк імя А. В. Суворава. Схема планіроўкі.*



869. *Гарадскі парк імя А. В. Суворава. Бюст А. В. Суворава.*



871. *Дом № 29 па вуліцы Леніна.*

Будынак гандлёвых радоў. У цэнтры плошчы. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы на месцы драўляных крам 17 ст. Перабудаваны ў 20 ст. Аднапавярховы, П-падобны ў плане, з вялікім гаспадарчым дваром. Пластыку фасадаў падкрэсліваюць неглыбокія нішы і 2 рызаліты з трохвугольнымі франтонамі (у заходняй і ўсходняй частках, дзе знаходзіліся ўезды ў гаспадарчы двор). Вуглы ўмацаваны контрфорсамі. Захаваліся паўночны, усходні і часткова заходні бакі гандлёвых радоў.

Жылы дом. Пл. Свабоды, 7. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы, перабудаваны ў 20 ст. Цяпер тут гандлёвая ўстанова. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак, тарцовым фасадам выходзіць на плошчу, завершаны атыкам, мае прамавугольныя вокны.

Жылы дом. Пл. Свабоды, 9. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы, перабудоўваўся ў 20 ст. Трохпавярховы прамавугольны ў плане будынак, галоўным тарцовым фасадам выходзіць на плошчу. Фасад дэкарыраваны карнізным паяском і завершаны атыкам.

Будынак аптэкі. Пл. Свабоды, 6. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. Перабудаваны ў 20 ст. У 1950-я гады надбудаваны 3-і паверх, зменена ўнутраная планіроўка. Першапачаткова будынак уяўляў сабой двухпавярховы аб'ём, у плане выцягнутай трапецападобнай формы, галоўным тарцовым фасадам выходзіць на плошчу. Плоскасць фасада рытмічна прарэзана прамавугольнымі аконнымі праёмамі і дэкарыравана 4 пілястрамі. Будынак пастаўлены на высокі цокаль. Галоўны ўваход (з боку галоўнага фасада) акцэнтаваны высокім ганкам з лесвіцай па абодвух баках.

Рэгулярная планіроўка плошчы, архітэктура жылых і грамадскіх будынкаў спалучае рысы класіцызму з элементамі барока.

*А. Ю. Пятросава, Т. І. Чарняўская.*

**872. КАСЦЁЛ** (архіт.). На вул. Першамайскай. Пабудаваны ў 1843 г. з цэглы. Трохнефавы двухвежавы храм. Прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад вылучаюць 2 аднаярусныя чацверыковыя вежы. На бакавых фасадах — пілястры з аркатурным поясам. Помнік архітэктуры класіцызму.

**873. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне горада, справа ад шашы Кобрын — Пінск. Пахавана больш як 200 мірных жыхароў горада, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941—43 гг. Сярод пахаваных — былы член КПЗБ падпольшчык К. І. Пракапук. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**874. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 6. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці членаў КПЗБ і КСМЗБ (усяго 21 чалавек), якія нарадзіліся на Кобрыншчыне і загінулі ў 1923—39 гг. у барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне Заходняй Беларусі і ўз'яднанне яе з БССР.

**875. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. 17 Верасня, 11. У першыя пасляваенныя гады ў барацьбе з ворагамі Савецкай улады загінулі 6 супрацоўнікаў Кобрынскага раённага аддзялення міліцыі: В. П. Аляксандрын, У. І. Крываль, А. А. Прудчыкаў, П. М. Сегянюк, А. М. Серадовіч, М. С. Слабада. У 1972 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых устаноўлена мемарыяльная дошка.



871. *Жылыя дамы № 15, 17, 19 па вуліцы Леніна.*



871. *Дом № 7 на плошчы Свабоды. План 1-га паверха.*



871. *Дом № 9 на плошчы Свабоды. План 1-га паверха.*



871. *Будынак аптэкі. План 1-га паверха.*



871. *Забудова плошчы Свабоды. Гандлёвыя рады.*

**876. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТАНКІСТАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 147. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці танкістаў 22-й танкавай дывізіі пад камандаваннем генерал-маёра В. П. Пуганава, якія 23.6.1941 г. вялі баі на Кобрыншчыне супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**877. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РЭЎКОМА** (гіст.). Пл. Камсамольцаў, 14. Устаноўлена ў 1959 г. на доме, у якім з 31 ліпеня да 13 верасня 1920 г. знаходзіўся Кобрынскі павятовы рэвалюцыйны камітэт — першы орган Савецкай улады ў горадзе і павеце.

31.7.1920 г., на другі дзень пасля вызвалення ад белапольскіх акупантаў, у горадзе быў створаны рэвалюцыйны камітэт, да якога перайшла ўся ўлада ў Кобрынскім павеце (старшыня П. Я. Харашылаў, сакратар У. К. Карліцкі, члены Е. Бартэнбаум і Кулеў). Камітэт наладжваў паштовую сувязь і чыгуначны рух, вёў падрыхтоўку да выбараў у Саветы. Для падтрымання рэвалюцыйнага парадку была арганізавана міліцыя на чале з Ф. І. Федасюком і павятовае аддзяленне губернскай ЧК у складзе Д. Ляўчука, Г. Панцеля і Ф. І. Федасюка. 13.9.1920 г. ў сувязі з наступленнем войск буржуазнай Польшчы рэўком пераехаў у Драгічын, потым у Гомель, дзе 17.10.1920 г. расфарміраваны.




871. *Будынак аптэкі на плошчы Свабоды.*



877. *Будынак, у якім знаходзіцца райком.*

*Літ.:* Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сборник документов и материалов.— Мн., 1957. *А. М. Мартынаў.*

**878. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯЎ ЧЫГУНАЧНІКАЎ У 1905 г.** (гіст.).

Чыгуначнікі Кобрына прымалі актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. Узначальваў барацьбу Кобрынскі камітэт Усерасійскага саюза чыгуначнікаў. Як даносіў у Віленскую судовую палату пракурор Гродзенскага акруговага суда, камітэт ставіў перад сабой «не толькі эканамічныя, але і палітычныя мэты, накіроўваў сваю дзейнасць да звяржэння існуючага ў Расіі дзяржаўнага і грамадскага ладу». Першую буйную забастоўку чыгуначнікі арганізавалі ў пачатку лістапада 1905 г. 9 снежня ў падтрымку маскоўскага пралетарыяту кобрынскія чыгуначнікі абвясцілі забастоўку, дабіліся зняцця начальніка станцыі і іншых службовых асоб і ўзялі станцыю пад свой кантроль.

У памяць аб рэвалюцыйнай барацьбе кобрынскіх чыгуначнікаў на будынку чыгуначнага вакзала ў 1976 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955. *Э. М. Савіцкі.*

**879. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне горада ў 1942—44 гг. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі больш за 4,5 тыс. мірных жыхароў. У 1975 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены абеліск.

**880. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На правым беразе р. Мухавец. Пабудавана да 1750 г. з дрэва, часткова перабудавана ў 1860-я гады.

Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём з пяцігранная апсідай накрыты вальмавым дахам і завершаны купалам на васьмерыковым светлавым барабане, які пастаўлены на чацверык. Галоўны заходні фасад вылучаны нішай з 2 калонкамі. Сцены вертыкальна апаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і прарэзаны высока размешчанымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Чатыры слупы ў інтэр'еры пры дапамозе ветразяў падтрымліваюць барабан купала. У 4 вуглах асноўнага аб'ёму ўбудаваны невялікія дапаможныя памяшканні.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму.

**881. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). Вул. Савецкая, 106. Пабудавана ў 1846 г. ў сувязі з пракладкай шашы. Першапачаткова складалася з 3 аб'яднаных праезнымі аркамі карпусоў: галоўнага і 2 бакавых, якія ўтваралі ўнутраны гаспадарчы двор. У 1882 г. будынак быў прыстасаваны пад ваенны шпіталь. У 1954 г. бакавыя карпусы светлавымі калідорамі злучаны з галоўным. У будынку размяшчаецца міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат.

Станцыя — помнік грамадзянскай архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Сардаров А. С. История и архитектура дорог Белоруссии.— Мн., 1978.

**882. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Першамайская, на могілках. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Кампазіцыя будынка складаецца з двух'ярусная шатровай званіцы, асноўнага аб'ёму і прамавугольнай у плане апсіды. Квадратная ў плане цэнтральная частка завершана цыбулепадобнай галоўкай. Помнік культавага драўлянага дойлідства.



880. *Мікалаеўская царква.*



881. *Паштовая станцыя. Выгляд на галоўны фасад.*



883. *Помнік Вызвалення.*

**883. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). У скверы імя Марозава.

Развіваючы наступленне на Брэсцкім напрамку ў ліпені 1944 г., воіны 212-й стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік У. Г. Кучынеў), 12-й гвардзейскай стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік Д. К. Малькоў), 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі пры падтрымцы 271-й бамбардзіровачнай дывізіі 16-й паветранай арміі пачалі баі за Кобрын. Фарсіраваўшы р. Мухавец, яны ўварваліся ў горад з поўдня і ўсходу, завязалі жорсткія вулічныя баі. Пасля 4-гадзіннага бою 20.7.1944 г. праціўнік быў выбіты з горада. 12 вайсковым часцям, якія вызвалялі горад, прысвоена найменне «Кобрынскіх».

У 1965 г. ў гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *М. М. Казлоўская.*

**884. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, перад будынкам гаркома КПБ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1961 г.

**885. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Пралетарская, на тэрыторыі інструментальнага завода. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1966 г.

**886. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**887. ПОМНІК ПЕРАМОГІ 1812 г.** (гіст., маст.). На вул. Леніна.

12.6.1812 г. Расія падверглася нашэсцю французскай арміі. 15.7.1812 г. часці 3-й рускай арміі пад камандаваннем генерала А. П. Тармасава пад Кобрынам уступілі ў бой з саксонскім корпусам генерала Ж. Рэнье. Чатырохтысячны атрад саксонцаў склаў зброю. Былі ўзяты ў палон 2382 салдаты і 76 афіцэраў на чале з генералам Кленгелем. У дзень 100-годдзя з дня перамогі ў Кобрыне быў закладзены помнік (арх. Д. Маркаў).

На пастаменце з гранітных валуноў, які нагадвае скалу, устаноўлены бронзавы арол з распасцёртымі крыламі і лаўровым вянком у кіпцюрах, абапал — марціры з пірамідкамі ядраў. На фасаднай і бакавых гранях пастамента — 3 мармуровыя дошкі. На пераднім дошцы (шэра-зялёнага колеру) надпіс: «Рускім воінам, якія атрымалі першую перамогу над войскамі Напалеона ў межах Расіі 15 ліпеня 1812 г.», на бакавых (белага колеру) пералічаны палкі, часці рускай арміі, што ўдзельнічалі ў Кобрынскай бітве, і фундатары помніка. У час 1-й сусветнай вайны былі зняты і згублены арол і бакавыя дошкі. Помнік адноўлены ў 1951 г. (скульпт. М. Керзін).

*Літ.:* Бескровный Л. Г. Отечественная война 1812 года.— М., 1968; Война



884. *Помнік У. І. Леніну.*



887. *Помнік у гонар перамогі 1812 г.*



888. *Помнік А. В. Суворавы.*



890. *Спаскі манастыр. Галоўны фасад жылога корпуса.*

русского народа с Наполеоном 1812 г.— СПб., 1910; Мартынаў А. М. Помнікі Кобрыншчыны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 4.
*А. М. Мартынаў.*

**888. ПОМНІК СУВОРАВУ** Аляксандру Васілевічу (гіст., маст.). У скверы на скрыжаванні вуліц Савецкай і Пушкіна. Адкрыты ў 1963 г. (скульпт. В. Чабатароў; бетон, чыгун; вышыня пастамента 2,25 м, фігуры 2,6 м).

Фігура А. В. Суворава ўстаноўлена на высокім чатырохгранным пастаменце ў цэнтры трохвугольнай пляцоўкі. Правай рукой палкаводзец апіраецца на шпагу, левай парывістым рухам указвае на далячынь. Дынамічны і вытанчаны сілуэт А. В. Суворава кантрастуе з масіўнай формай пастамента. Скульптура выканана ў рэалістычнай манеры і перадае аблічча генералісімуса: натхнёны твар, ударлівая фігура ў мундзіры з ордэнскай стужкай цераз плячо і высокія боты са шпорамі. На пастаменце надпіс: «А. Суvotaраў. 1730—1800».

*Літ.:* Помарнацкий А. В. Портреты А. В. Суворова: Очерки иконографии.— Л., 1963.
*І. М. Ялатамцава.*

**889. САБОР АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (архіт.). На вул. Леніна. Пабудаваны ў 1868 г. з цэглы ў гонар рускіх воінаў Айчыннай вайны 1812 г. (устаноўлена мемарыяльная дошка). Крыжова-купальны храм з васьміграннным барабанам. Сцены галоўнага фасада і трансепта завершаны трохвугольнымі франтонамі. Помнік архітэктуры позняга класіцызму.

**890. СПАСКІ МАНАСТЫР** (архіт.). Вул. 17 Верасня, на левым беразе р. Мухавец. Заснаваны ў 1497 г. пры драўлянай царкве Спаса. У пачатку 16 ст. манастыр меў мураваныя жылы і службовыя карпусы (на працягу 17—18 стагоддзяў неаднаразова перабудоўваліся), капліцу. Захаваўся жылы корпус (цяпер выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак).

Жылы корпус — двухпавярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак, накрыты ламаным дахам. Падоўжныя фасады раскрапаваны 2 рызалітамі — у цэнтры галоўнага ўсходняга фасада і на паўночна-заходнім вуглу. Цэнтральны рызаліт адзначаны атыкавым франтонам з лучковым завяршэннем і насычаны лепнымі дэкаратыўнымі элементамі. Сцены аздоблены пілястрамі, фігурнымі філёнгамі вакол прамавугольных аконных праёмаў, завершаны развітым карнізам. Перакрыцце над паверхамі бэлечнае, над падвалам — цыліндрычныя скляпенні. Унутраная планіроўка будынка значна зменена. Першапачаткова цэнтральную частку займала манастырская царква. На 1-м паверсе ў паўночна-заходнім вуглу была трапезная. У астатняй частцы будынка знаходзіліся службовыя і жылыя памяшканні.

Манастыр — помнік архітэктуры барока.

На будынку ўстаноўлены 2 мемарыяльныя дошкі: у гонар перамогі рускіх войск над напалеонаўскімі і на ўшанаванне памяці супрацоўнікаў міліцыі (гл. артыкул № 875 «Мемарыяльная дошка супрацоўнікам міліцыі»).
*Т. І. Чарняўская.*

**891. СЯДЗІБНЫ ДОМ СУВОРАВА** Аляксандра Васілевіча (гіст., архіт.). Вул. Суворава, 16. Тут жыў вялікі рускі палкаводзец генералісімус А. В. Суvorаў.

Упершыню А. В. Суvorаў пасяліўся тут у 1797 г., калі трапіў у няміласць да Паўла І. Адсюль яго ў тым жа годзе саслалі ў с. Капчанскае Ноўгарадскай губерні. У пачатку 1800 г. цяжкахворы А. В. Суvorаў па дарозе са Швейцарыі другі раз наведаў Кобрын, прабыў тут 2 месяцы. Пасля яго смерці маёнтак Кобрынскі Ключ распрададзены нашчадкамі. У пачатку 1860-х гадоў у гэтым доме жыў Р. Траўгут — адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 гг. у Беларусі, Польшчы і Літве.



889. *Сабор Аляксандра Неўскага.*



889. *Сабор Аляксандра Неўскага. План.*



890. *Спаскі манастыр. Дваровы фасад жылога корпуса.*



890. *Спаскі манастыр. План 1-га паверха жылога корпуса.*

Драўляны дом пабудаваны ў апошнім дзесяцігоддзі 18 ст., разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. У 1948 г. дом адноўлены, у 1980 г. праведзены рэстаўрацыйныя работы. Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане, з высокім вальмавым дахам. Пры будаўніцтве выкарыстана канструкцыйная схема з сярэдняй падоўжна-пясучай цаглянай сцяной. Фасады дома сіметрычныя. Цэнтральныя часткі галоўнага і дваровага фасадаў вылучаны ганкамі з 2 парамі калонак. Сцены звонку атынкаваныя. Вокны прамавугольныя. Планіроўка дома анфіладная.

У 1946 г. прынята пастанова аб рэстаўрацыі дома і стварэнні ў ім ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава. Адкрыты для наведвальнікаў 1.5.1948 г. Перад домам у 1948 г. ўстаноўлены бронзавы бюст А. В. Суворава (скульпт. П. Кюферле), абапал ганка — 2 гарматы, адлітыя ў 1812 г.

*Літ.:* Петрушевский А. Генералиссимус князь Суворов.—2 изд.— СПб, 1900; Помарнацкий А. В. Портреты А. В. Суворова: Очерки иконографии.— Л., 1963.

*У. В. Алісейчык, А. М. Мартынаў.*



891. *Сядзібны дом А. В. Суворава. План.*

**892. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Савецкая, 6. Тут у 1920-я гады знаходзілася явачная кватэра арганізацыі КПЗБ.

Партыйная арганізацыя ў Кобрыне дзейнічала ўжо ў 1921 г. Яна налічвала 20 чалавек і вяла работу ў горадзе і навакольных вёсках. Кіравалі арганізацыяй Г. Панцель (у жніўні 1923 г. закатаваны ў беластоцкай турме), Г. Г. Смольскі, І. Бірман, Г. Гагазінскі. У 1923 г. створаны Кобрынскі райком КПЗБ (сакратар Г. Г. Смольскі). У розны час у склад райкома ўваходзілі В. З. Глушчук (сакратар у 1927 г.), В. С. Селівонік, І. С. Какала (сакратар у 1935—37 гг.), А. Кавальчук, С. З. Глушчук, А. Р. Федасюк, А. Т. Сачук, П. С. Сідарук і інш. Дзейнічалі таксама Кобрынскі гарком КПЗБ (у 1937 г. сакратар Ш. Камянецкі) і райком КСМЗБ (у 1931 г. сакратар Р. Глек). Пад кіраўніцтвам КПЗБ 1 Мая 1925 г. ў Кобрыне адбылася трохтысячная дэманстрацыя працоўных. Восенню 1929 г. ў Кобрынскім павеце арганізавана прайшла 12-дзённая забастоўка 600 батракоў з 7 маёнткаў. Амаль ва ўсіх вёсках і маёнтках камуністы стварылі забастовачныя камітэты, а таксама агульны забастовачны камітэт, у які ўваходзілі камуністы, камсамольцы і беспартыйныя. Памешчыкі вымушаны былі павысіць плату батракам на 40—60 %. Вопыт Кобрынскай партарганізацыі па кіраўніцтву забастоўкай абагулены ЦК КПЗБ у падпольным «Бюлетэні ЦК КПЗБ» у снежні 1929 г.



892. *Дом, у якім знаходзілася явачная кватэра КПЗБ.*

25.2.1931 г. працоўныя Заходняй Беларусі адзначалі Міжнародны дзень барацьбы з голадам і беспрацоўем. Каля 1500 чалавек пад кіраўніцтвам Кобрынскага райкома КПЗБ сабраліся ў цэнтры горада і са сцягам і транспарантамі рушылі да магістрата. На бок працоўных перайшло некалькі салдат з мясцовага гарнізона. Паліцыя адкрыла агонь. Былі параненыя, больш за 120 удзельнікаў выступлення арыштаваны, жорстка збіты і пасаджаны ў казематы кобрынскай турмы. Кіраўнікі дэманстрацыі С. Жук,



891. *Сядзібны дом А. В. Суворава. Галоўны фасад.*



893. *Пакроўская царква.*



893. *Пакроўская царква. Інтэр'ер. Фрагмент пакрыцця асноўнага зруба.*



893. *Пакроўская царква. План.*

І. Літвянюк, І. С. Какала былі асуджаны. Палітычная дэманстрацыя 25.2.1931 г. ў Кобрыне была адной з найбольш масавых у Заходняй Беларусі.

На доме ў 1959 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 2 (1929—1939 гг.).— Мн., 1972; Воткович Г. Б., Короткевич В. Б. Пусть помнят все: Памятники и памятные места революционной и национально-освободительной борьбы трудящихся Западной Белоруссии.— Мн., 1979; Годы испытаний и мужества.— Мн., 1973; Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962; Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966.

*Г. Б. Ватковіч.*



894. *Помнік землякам.*

**в. Акцябр, Гарадзецкі сельсавет**

**893. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Будынак складаецца з цэнтральнага зруба, пяціграннай апсіды, пераходнай часткі і двух'яруснай шатровай званіцы. Над пакатым чатырохсхільным дахам зруба ўзвышаецца васьміграины светлавы барабан, накрыты шатром з галоўкай. У інтэр'еры падкупальная прастора вылучаецца ступеньчатым злучэннем васьміграннага светлавога барабана і пакрыцця асноўнага зруба.

Царква — прыклад традыцыйнага чатырохчасткавага драўлянага храма.

**894. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 129 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены стэла і скульптура воіна з дзяўчынкай.

**в. Арол (не існуе), Гарадзецкі сельсавет**

**895. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Арол знаходзілася за 1 км на поўдзень ад в. Ліпнікі, на паўднёвым беразе Дняпроўска-Бугскага канала. У Вялікую Айчынную вайну 22.12.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты ўварваліся ў вёску, загубілі 18 жыхароў і спалілі яе (12 двароў). У 1974 г. на месцы колішняй в. Арол пастаўлена стэла.

**в. Астромічы, цэнтр сельсавета**

**896. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля гандлёвага цэнтра. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Балоты, Кісялевіцкі сельсавет**

**897. ПАРАСКЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў 1882 г. з дрэва.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя ўключае трох'ярусную званіцу, квадратны ў плане цэнтральны аб'ём з цыбулепадобнай галоўкай і чатырохгранную апсіду з бакавымі прыбудовамі. Цэнтральны і 2 бакавыя ўваходы выраўшаны ганкамі з двухсхільнымі дахамі на 2 калонках. У дэкаратыўнай аздобе — разныя карнізы,



896. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



899. *Помнік ахвярам фашызму.*

ліштвы, гарызантальная і вертыкальная шалёўка.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму.

**в. Барысаўка, Восаўскі сельсавет**

**898. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,8 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе.

Раніцай 23.9.1942 г. фашысцкія карнікі акружылі вёску і бліжэйшыя хутары. Жыхароў выгналі з хат і расстралялі ў лесе (загінула 206 чалавек), а вёску спалілі (225 двароў). У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура маці ў жалобе.

**899. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, побач са школай. На ўшанаванне памяці 206 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 23.9.1942 г., у 1965 г. пастаўлены абеліск.



901. *Помнік землякам.*

**в. Бельск, Навасёлкаўскі сельсавет**

**900. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны каля 20 воінаў і партызан.

У сакавіку 1944 г. ў напрамку в. Орвялі наступленне воіны 1293-га палка 160-й стралковай дывізіі. Камандаванне дывізіі наставіла задачу партызанскаму атраду імя М. М. Чарнака брыгады імя І. В. Сталіна ўтрымаць пераправу цераз Нізаўскі канал да падыходу асноўных часцей. Першая атака праціўніка на захопу пераправы была адбіта. Вораг страціў каля 250 салдат і афіцэраў. Атрымаўшы падмацаванне, фашысты зноў ішлі ў атаку, і кожны раз партызаны адкідвалі іх. На працягу 2 дзён (24 і 25 сакавіка) атрад утрымліваў пераправу да падыходу часцей 160-й стралковай дывізіі.

У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В едином строю: Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1970.

*М. М. Казлоўская.*

**901. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 9 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1979 г. пастаўлены помнік — скульптура маці з дзіцем.

**в. Боркі, Астроміцкі сельсавет**

**902. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

У 1943 г. гітлераўцы расстралялі 18 жыхароў, вёску спалілі (70 двароў). На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1974 г. пастаўлены помнік — 5 жалезабетонных брусоў адзін на адным.

**903. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Перамога». На ўшанаванне памяці 37 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бухавічы, цэнтр сельсавета**

**904. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пабудавана ў 1674 г. з цэглы як касцёл дамініканцаў. У 19 ст. касцёл перароблены пад царкву. У 1889 г. прыбудавана трох'ярусная званіца (верхні ярус — драўляны шатровы васьмярык), абноўлены дах і надбудавана вежа над алтарнай часткай. Трохчасткавая кампазіцыя царквы ўключае званіцу, прамавугольны ў плане асноўны аб'ём пад вальмавым дахам і прамавугольную ў плане апсіду з рызніцай. Канструкцыя даху кроквенная. Вуглы паўднёва-ўсходняй часткі асноўнага аб'ёму царквы і апсіды ўмацаваны контрфорсамі. Уваход фланкіруюць 2 пілоны з паўкруглымі нішамі. Асноўнае зальнае памяшканне раздзелена на 2 часткі драўляным, упрыгожаным разьбой іканастасам (2-я палавіна 19 ст.).



904. *Пакроўская царква. План.*



902. *Помнік ахвярам фашызму.*



904. *Пакроўская царква.*



906. *Крыжаўзвіжанская царква.*



906. *Крыжаўзвіжанская царква. Выгляд з боку апсіды.*

Царква — помнік мясцовага мураванага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*

**в. Быкі, Астроміцкі сельсавет**

**905. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 24 жыхары



908. *План старой часткі вёскі.*



906. *Крыжаўзвіжанская царква. План.*

вёскі, якіх 23.2.1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бяроза, Бухавіцкі сельсавет**

**906. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1864 г. з дрэва.

Трохзрубны храм з пяцісценнай апсідай і двух'яруснай вежай-званіцай над бабінцам, злучаным з асноўным аб'ёмам вузкім пераходам. Па баках цэнтральнага аб'ёму прыбудаваны 2 невялікія аб'ёмы, дэкарыраваныя 4 калонкамі. Галоўны ўваход вылучаны пяцікалонным порцікам. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Вялікая квадратная ў плане зала перакрыта шатром, які апіраецца на 4 слупы.

Царква — помнік народнага дойлідства з элементамі архітэктуры класіцызму.

**907. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У двары школы. На ўшанаванне памяці 46 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бярозна, Астроміцкі сельсавет**

**908. ПЛАНІРОЎКА І ЗАБУДОВА ВЁСКІ** (архіт.). Вёска размешчана на роўнай бязлеснай мясцовасці. Упершыню ўпамінаецца ў 1563 г. Дзеліцца на старую (паўднёвую) частку і новую (паўночную), якая забудавана ў 1940-я гады.

Працягласць старой часткі вёскі 0,7 км. Асноўны тып сядзібнай забудовы — аднарадны пагон. Зямельныя ўчасткі вузкія і доўгія (шырыня 15—20 м, даўжыня да 100 м). Жылыя дамы выходзяць тарцамі на вуліцу і аддзелены ад яе невялікімі кветнікамі. У глыбіні ўчастка стаяць хлеў і адрына пад адным дахам. Адметная асаблівасць планіроўкі вёскі — выразнае запіраванне сядзібных участкаў з праходамі паміж сядзібамі (выкарыстоўваюцца ў гаспадарчых мэтах).

З дамоў (канец 19 — пачатак 20 ст.), што захаваліся, вылучаецца трохкамерная хата (хата+сенцы+камора) з калодзежам і далучанымі да яе гаспадарчымі пабудовамі.

Старая частка вёскі — узор традыцыйнага пасялення з лінейнай планіроўкай у адну вуліцу і двухбаковай забудовай.

*Літ.:* Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 году Королевским ревизором Дмитрием Сапегою, с присовокуплением актов Браславского земского суда, относящихся к Кобринской архимандрии.— Вильна, 1876. *У. В. Алісейчык.*

**в. Верхалессе, Навасёлкаўскі сельсавет**

**909. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва. Мае традыцыйную трохчасткавую аб'ёмную кампазіцыю, якая складаецца з шатровай званіцы, асноўнага аб'ёму, завершанага цыбулепадобнай галоўкай, і прамавугольнай апсіды. У архітэктуры будынка выкарыстаны трохвугольныя франтоны, вертыкальная і гарызантальная шалёўка. Прыклад пашыранага ў драўляным дойлідстве Беларусі культавага збудавання.

**910. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці 58 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (партызан і партызанка).

**в. Вялікія Корчыцы, Хідрынскі сельсавет**

**911. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў канцы 18 ст. з дрэва. Царква двухзрубная, складаецца з прамавугольных у плане асноўнага і алтарнага зрубаў, накрытых агульным гонтавым дахам. Алтарная частка ўвянчана галоўкай. Помнік народнага дойлідства.

**912. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Сцяг перамогі». На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гарадзец, цэнтр сельсавета**

**913. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 20 воінаў 12-й гвардзейскай стралко-



910. *Помнік землякам.*

вай дывізіі 61-й арміі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На ўшанаванне памяці воінаў і 78 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1958 г. пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**914. ВАЗНЯСЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на ўзгорку. Пабудавана ў 1799 г. з дрэва ў в. Акцябр (у 1876 г. перавезена ў в. Гарадзец).

Царква двухзрубная з прамавугольным у плане галоўным і пяцігранным алтарным зрубамі, стаіць на бутавым падмурку. Дах двухсхільны, абмежаваны на галоўным фасадзе шчытом, над сярэдзінай узвышаецца шлемападобная галоўка. Плоскасці вертыкальна ашаляваных сцен расчляняюць прамавугольныя аконныя праёмы, дэкарыраваныя лёгкімі сандрыкамі на фігурных кранштэйнах. Інтэр'ер зальны. У бабінцы размешчаны нізкія хоры. Верхняя частка сцен аздоблена палосай арнаментальнай размалёўкі.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі стылю барока.

**915. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1977 г.

**в. Гірск, Кісялевіцкі сельсавет**

**916. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 5 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 32 партызаны асобна дзеючага атрада імя Р. І. Катоўскага, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Глінянка, Тэвельскі сельсавет**

**917. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 27 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Грушава, Гарадзецкі сельсавет**

**918. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. На ўшанаванне памяці воінаў і 96 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзевяткі, Тэвельскі сельсавет**

**919. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 37 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзівін, цэнтр сельсавета**

**920. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 74 воіны 212-й стралковай дывізіі 9-га гвардзейскага корпуса 61-й арміі і 2 партызаны, якія загінулі 21.7.1944 г. ў баях пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**921. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На тэрыторыі завода металавырабаў. Пахаваны 1450 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**922. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 3,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Біндзюга на ўсходнім беразе воз. Любань, на пясчаным узвышшы (3 м над узроўнем вады ў возеры). Плошча каля 0,5 га. Выявіў у 1981 г. М. У. Бычкоў. У агаленнях выяўлены культурны пласт магутнасцю 0,1—0,2 м, у ім знойдзены крамянёвыя прылады працы (наканечнік стралы трохвугольнай формы, 2 скоблі, 2 скрабкі, 3 пласціны, нуклеус) і фрагменты ляпной керамікі бронзавага веку.

Матэрыялы зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**923. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Тып храма з трохчасткавай аб'ёмнай кампазіцыяй, традыцыйны для драўлянага культавага дойлідства Беларусі. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**924. СТАЯНКА** (археал.). За 5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на пясчаных узгорках каля воз. Любань, ва ўрочышчы Града (Дзівінскія пяскі). Выявілі ў 1938 г. Данілевіч і Абухоўскі, абследаваў у 1963—64 гг. У. Ф. Ісаенка. На стаянцы знойдзены наканечнікі стрэл, крамянёвыя прылады працы, мікраліты. Стаянка адносіцца да мезаліту і неаліту.

Матэрыялы зберагаюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (Пінск).

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Первобытные памятники Полесья.— М., 1962; Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. В. 1.— Мн., 1968.

**925. ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудавана ў 1740 г. з дрэва. Перабудоўвалася ў 19 ст. З боку ад



914. *Вазнясенская царква.*



914. *Вазнясенская царква. План.*



915. *Помнік Ф. Э. Дзяржынскаму.*




924. *Стаянка. План.*



925. *Царква Параскевы Пятніцы са званіцай.*



925. *Царква Параскевы Пятніцы. План.*

царквы размешчана драўляная званіца (2-я палавіна 19 ст.) — васьмярык на чацверыку над гонтавым шатровым дахам.

Царква двухзрубная, складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і пяціграннай апсіды з 2 прыбудоўкамі. Агульны паўвальмавы дах плаўна агінае будынак, навісаючы над бакавымі прыбудовамі апсіды. Над асноўным аб'ёмам з боку галоўнага паўночна-заходняга фасада ўзвышаюцца 2 квадратныя ў плане вежы, увянчаныя трох'яруснымі гранёнымі галоўкамі. Шчыт даху адступае за вежы ўглыбіню і мае кілепадобны абрыс. Паўвальмавы схіл на галоўным фасадзе стварае залом, ніжняя частка якога навісае над галерэяй, раней звязанай з хорамі. Сцены вертыкальна ашаляваныя. Вокны прамавугольныя, размешчаны ў верхняй частцы сцен, аздоблены вітражамі ў выглядзе крыжа. Інтэр'ер зальны. Два чатырохгранныя слупы каля ўвахода падтрымліваюць хоры.

Царква — помнік архітэктуры, які спалучае будаўнічыя прыёмы мясцовага драўлянага дойлідства з элементамі барока. *У. В. Алісейчык.*

**в. Дзямідаўшчына, Гарадзецкі сельсавет**

**926. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск. Мемарыяльная дошка ўшаноўвае памяць землякоў, што аддалі жыццё ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Дубіны, Аніскавіцкі сельсавет**

**927. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Жухаўцы, Астроміцкі сельсавет**

**928. ПОМНІК АРЛОВУ** Івану Іванавічу (гіст.). На абочыне шашы Масква — Брэст, каля моста цераз р. Мухавец.

І. І. Арлоў — адзін з арганізатараў партызанскага руху на Кобрыншчыне — нарадзіўся ў Кастрамской вобл. Апынуўшыся на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі, стварыў падпольную групу, якая пачала дзейнічаць у студзені 1942 г. У красавіку 1942 г. яна разам з іншымі групамі аб'ядналася ў партызанскі атрад імя В. І. Чапаева, камандзірам якога стаў І. І. Арлоў. 27.4. 1943 г. пры спробе знішчыць мост цераз р. Мухавец І. І. Арлоў загінуў. Яго імя было прысвоена аднаму з атрадаў партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева.

У 1974 г. на ўшанаванне памяці адважнага партызана пастаўлены помнік. *М. М. Казлоўская.*



928. *Помнік І. І. Арлову.*

**в. Закросніца, Залескі сельсавет**

**929. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ І АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Устаноўлена ў 1973 г. на доме А. Е. Лакішыка. Тут у сакавіку 1944 г. ў баі супраць гітлераўцаў загінулі партызаны атрада імя А. В. Суворава І. В. Марозаў і К. Калагаў, а таксама 2 піянеры, якія былі разам з партызанамі.



930. *Помнік на брацкай магіле партызан.*



933. *Помнік на брацкай магіле савецкіх ваеннапалонных.*

**в. Залессе, цэнтр сельсавета**

**930. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 6 партызан атрада імя А. В. Суворава, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата. Мемарыяльная дошка ўшаноўвае памяць 28 аднавяскоўцаў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**931. КУРГАН «ДАЙНІЦА»** (археал.). За 3,3 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, за 0,35 км ад скрыжавання лясных дарог. Вышыня 0,5 м, дыяметр 8 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1970 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**932. ПОМНІК СУВОРАВУ** Аляксандру Васілевічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст А. В. Суворава ўстаноўлены ў 1980 г.

**в. Запруды, Астроміцкі сельсавет**

**933. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Каля лясніцтва. Пахаваны 30 ваеннапалонных, закатаваных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**934. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На тэрыторыі школы. Мае прамавугольную форму (144×110 м), падвойную сістэму валоў і роў. Глыбіня рова да 2,5 м, шырыня 7—8 м. Вышыня ўнутранага вала 1,9—2 м, знешняга — 1,5 м. Абследаваў у 1970 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Засімы, Бухавіцкі сельсавет**

**935. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі 17.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 26 партызан атрада імя В. І. Чапаева (камандзір І. І. Арлоў), што загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1942—43 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**936. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 250 м на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Дахлоўка. Вядомы з 19 ст. Абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1970 г. М. А. Ткачоў, у 1981 г. М. У. Бычкоў. Могільнік з 29 насыпаў у адзін рад цягнецца ўздоўж берага. Курганы авальныя ў плане (вышыня 1—1,5 м, дыяметр 12—15 м, самага вялікага адпаведна — 1,7 м і 20 м). Насыпы пясчаныя, некаторыя зараслі хмызняком. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

**937. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км ад вёскі. 7 насыпаў. Вышыня 0,5—1 м, дыяметр 8—12 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1970 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ілаўск, Астроміцкі сельсавет**

**938. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвы захад ад вёскі, злева ад дарогі, за 600 м ад павароту на вёску. 2 насыпы. Вышыня 1,1 м, дыяметр 15 м. Адкрыў і абследаваў у 1970 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Імянін, Бухавіцкі сельсавет**

**939. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУРЫНУ** Барысу Мікалаевічу (гіст.). 22.6.1941 г. камандзір 123-га авіяцыйнага знішчальнага палка маёр Б. М. Сурын правёў 4 паветраныя баі і знішчыў 3 самалёты праціўніка. Загінуў у няроўным баі. У 1974 г. на доме, дзе жыў напярэдадні вайны Б. М. Сурын, устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Казішча, Бухавіцкі сельсавет**

**940. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г., і партызан брыгады імя В. І. Чапаева М. Усікаў, што загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



942. *Царква. План.*



936. *Курганны могільнік.*

**941. МАГІЛА ПЕТРУКОВІЧА** Івана Арсеньевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада імя В. І. Чапаева І. А. Петруковіч загінуў 13.6.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Леніна. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**942. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля могілак. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва. Да выцягнутага прамавугольнага аб'ёму далучаецца пяцісценная апсіда і шатровая званіца. Асноўны аб'ём увянчаны купалам на васьмігранным светлавым барабане. Галоўны ўваход выраншаны трохкалонным порцікам з трохвугольным франтонам. Помнік архітэктуры з рысамі позняга класіцызму.



942. *Царква. Галоўны фасад.*



943. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

в. Каменка, Бухавіцкі сельсавет

**943. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У верасні 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 152 мірных жыхароў вёскі і спалілі 48 двароў. У 1979 г. на магіле пастаўлена скульптурная кампазіцыя: маці ў жалобе і воін з дзіцем.

в. Камень, Гарадзецкі сельсавет

**944. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.

в. Кісялёўцы, цэнтр сельсавета

**945. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км ад вёскі, ва ўрочышчы Ямішча. 8 насыпаў. Вышыня курганоў 0,5—1 м, дыяметр 10—20 м. Выявіў у 1960 г. М. А. Салей, абследаваў у 1970 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

в. Лелікава, Дзівінскі сельсавет

**946. ДЗМІТРЫЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва. У 19 ст. пабудаваны двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку) і тамбур. Адназрубны аб'ём царквы выцягнуты па падоўжнай восі. На фасадзе — высока размешчаныя прамавугольныя вокны і глыбокія лапаткі. Будынак накрыты вальмавым дахам, які ўвянчаны масіўным васьмерыковым барабанам з галоўкай. Тамбур і званіцу абрамляюць філёнгі і разныя накладкі на вуглах. Помнік драўлянага дойлідства.

**947. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 39 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

в. Лука, Астроміцкі сельсавет

**948. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На будынку клуба. На ўшанаванне памяці 30 мірных жыхароў, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1974 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

в. Лушчыкі, Астроміцкі сельсавет

**949. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 6 воінаў-аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 23 мясцовых жыхароў, расстраляных акупантамі, у 1957 г. пастаўлены абеліск.

в. Магдалін, Кісялевіцкі сельсавет

**950. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

в. Мазуры, Гарадзецкі сельсавет

**951. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАПЛАЎСКАМУ** Піліпу Ніканавічу (гіст.). На будынку сельмага. У гэтай вёсцы ў 1913 г. нарадзіўся П. Н. Паплаўскі — адзін з арганізатараў партызанскага руху на Кобрыншчыне ў Вялікую Айчынную вайну, камандзір атрада імя С. М. Кірава Брэсцкага партызанскага злучэння. Загінуў у баі ў 1943 г. У 1975 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

в. Малы Рудзец, Гарадзецкі сельсавет

**952. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

в. Мухаўлокі, Астроміцкі сельсавет

**953. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 12 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

в. Навасёлкі, Астроміцкі сельсавет

**954. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. У 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 67 жыхароў вёскі і спалілі яе (32 двары). На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1974 г. пастаўлены помнік.



946. *Дзмітрыеўская царква са званіцай.*



946. *Дзмітрыеўская царква. План.*

**в. Навасёлкі, цэнтр сельсавета**

**955. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**956. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў 19 ст. па традыцыйнай для драўлянага дойлідства планіровачнай схеме: прытвор-званіца, асноўны прамавугольны зруб і пяціграннікавая апсіда. У кампазіцыі дамінуюць цыбулепадобныя галоўкі над шатровай званіцай і асноўным аб'ёмам. У архітэктурнай аздобе царквы — разныя фрызы, карнізы, фігурныя ліштвы, вертыкальная і гарызантальная шалёўка. Помнік народнага драўлянага дойлідства.

**957. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 22 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**958. ПОМНІК УДЗЕЛЬНІКАМ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН** (гіст.). У скверы.

У перыяд эканамічнага крызісу 1929—33 гг. становішча працоўных Заходняй Беларусі рэзка пагоршылася. Жорсткі сацыяльны і нацыянальны прыгнёт узмацніў барацьбу заходнебеларускіх рабочых і сялян супраць буржуазна-памешчыцкага ладу. У 1933 г. адно з буйнейшых сялянскіх выступленняў адбылося ў Кобрынскім павеце.

25.7.1933 г. ў в. Ляплёўка секвестратар і 3 паліцэйскія спаганялі падаткі. За нядоімку гвалтоўна забіралі збожжа, жывёлу, рэчы хатняга ўжытку. Абураныя сяляне збілі секвестратара і паліцэйскіх. У сутычцы быў смяротна паранены селянін Л. Баганскі. Ноччу ў Ляплёўку прыбыў карны атрад. Паліцэйскія жорстка расправіліся з яе жыхарамі. Вестка аб расправе паліцыі з сялянамі разнеслася па ўсім павеце. Кожную хвіліну магло выбухнуць стыхійнае выступленне сялян. Брэсцкі акруговы камітэт КПЗБ тэрмінова правёў пашыранае пасяджэнне і, улічваючы неспрыяльныя ўмовы, прызнаў выступленне заўчасным. Каб пазбегнуць кровапраліцця і немінучага паражэння, было вырашана арганізаваць 4.8.1933 г. масавы паход у маёнтак памешчыкаў Малачэўскіх (в. Булькова) і прымусіць іх выплаціць запазычанасць сезонным рабочым, забяспечыць хлебам галадаючыя сем'і. З жнівня жыхары вёсак Маліпаўка, Малыя Радванічы, Новы Двор, Падлессе, Паўлопаль, Ракітніца, Франапаль, Ямна і іншых рушылі да месца збору — у в. Вялікія Радванічы. Па дарозе разграмілі некалькі сядзіб асаднікаў, атакавалі паліцэйскі ўчасток у Навасёлках. На дапамогу паліцэйскім з Брэста прыбылі атрады паліцыі і салдаты.

Буржуазна-памешчыцкі ўрад Польшчы аб'явіў Кобрынскі павет на асадным становішчы. У вёсках лютавалі карнікі, праводзіліся масавыя арышты. Улады арыштавалі арганізатараў выступлення і хацелі аддаць ваеннапалявому суду. КПЗБ і Кампартыя Польшчы разгарнулі шырокую кампанію ў абарону арыштаваных. Масавыя мітынгі, маніфестацыі і дэманстрацыі працоўных вымусілі буржуазны ўрад замяніць для 8 чалавек пакаранне смерцю пажыццёвай катаргай, сакратара Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ Р. Каплан прысудзілі да 15 гадоў, 30 чалавек да розных тэрмінаў турэмнага зняволення.

У памяць аб гэтых падзеях у 1967 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Арэхва М. С. Рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі ў гады белапольскай акупацыі.— Мн., 1958; Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962; У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗБ — актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.— Мн., 1958. *Г. І. Дулеба.*

**в. Павіцце, цэнтр сельсавета**

**959. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**960. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**961. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Адносіцца да тыпу трохзрубных храмаў.

Асноўны аб'ём царквы ўвянчаны пяцігалоўем. Цэнтральны купал пастаўлены на васьміграпны светлавы барабан. Дамінанта кампазіцыі — трох'ярусная вежа-званіца з шатром і галоўкай. Галоўны ўваход афармлены шатром на калонках. У дэкаратыўным аздабленні храма выкарыстаны разныя паяскі, арнамент на барабанах і фрызах, разныя карнізы, гарызантальная і вертыкальная шалёўка.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*



961. *Прачысценская царква.*



961. *Прачысценская царква. Іканастас.*



961. *Прачысценская царква. План.*

**в. Паляцічы, Батчынскі сельсавет**

**962. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 33 чырвонаармейцы, якія загінулі ў баі супраць польскіх інтэрвентаў у 1920 г. Невялікі атрад чырвонаармейцаў вырашыў знішчыць бранепоезд, што прыкрываў адступленне польскіх войск. Байцы былі ўзброены вінтоўкамі і мелі абмежаваны запас патронаў. Пры спробе ўзарваць чыгуначны мост каля в. Паляцічы завязаўся бой, у якім чырвонаармейцы загінулі. Калі Заходняя Беларусь знаходзілася пад уладай буржуазнай Польшчы, ля магілы чырвонаармейцаў моладзь навакольных вёсак наладжвала мітынгі ў дні рэвалюцыйных свят.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск. *А. М. Мартынаў.*

**963. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Каля шашы Кобрын — Батчы, пры павароце на в. Паляцічы.

У чэрвені 1915 г. войскі Германіі і Аўстра-Венгрыі перайшлі ў наступленне на рускім фронце. У час баёў у жніўні 1915 г. ў раёне в. Паляцічы загінула 126 салдат рускай арміі. У 1916 г. на іх магілах устаноўлены надмагіллі.

У ліпені 1920 г. воіны Чырвонай Арміі вялі баі за вызваленне тэрыторыі Кобрыншчыны ад польскіх інтэрвентаў. Каля в. Паляцічы загінула 67 чырвонаармейцаў. У 1920 г. ўстаноўлена надмагілле. *М. М. Казлоўская.*

**964. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У вёсцы Паляцічы ў 1922 г. была створана падпольная камуністычная арганізацыя. Падпольныя ячэйкі дзейнічалі ў вёсках Батчы, Варатынічы, Ілаўск, Корчыцы, Тэўлі і іншых вёсках Кобрынскага павета.

У 1925 г. жыхары Паляцічаў удзельнічалі ў першамайскай дэманстрацыі ў Кобрыне, 25.2.1931 г.— у дэманстрацыі ў гонар Міжнароднага дня беспрацоўных, 8.11.1931 г.— у дэманстрацыі ў в. Літвінка і інш. У 1935—37 гг. у Паляцічах знаходзіўся Кобрынскі райком КПЗБ. Жыхары вёскі І. Какала, Г. Смольскі, Р. Глек у розны час былі сакратарамі Кобрынскіх райкомаў КПЗБ і КСМЗБ.

У 1973 г. на доме жыхара вёскі В. Е. Кастылюка ў памяць аб дзейнасці Паляціцкай ячэйкі КПЗБ устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Борьба трудящихся Западной Белоруссии за социальное и национальное освобождение и воссоединение с БССР: Документы и материалы. Т. 2 (1929—1939 гг.).— Мн., 1972; У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗБ — актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.— Мн., 1958. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Патрыкі, Хідрынскі сельсавет**

**965. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 34 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**в. Пескі, Хідрынскі сельсавет**

**966. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля шашы Брэст — Мінск. Пахаваны 6 воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны.

**967. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТУРУ** Сямёну Кандратавічу (гіст.). На будынку васьмігадовай школы.

Ураджэнец вёскі С. К. Тур — удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі, камандзір аднаго з партызанскіх атрадаў на Жытоміршчыне ў Вялікую Айчынную вайну. Загінуў у 1943 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Яго імя прысвоена Пескаўскай школе. У 1974 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**968. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 160 воінаў, партызан і мірных жыхароў з вёсак калгаса «XXI з'езд КПСС», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Плянта, Астроміцкі сельсавет**

**969. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.



966. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



**969.** *Помнік на брацкай магіле партызан.*

Пахаваны партызаны брыгады імя В. І. Чапаева І. А. Грабянчук, які загінуў 3.8.1943 г., і В. П. Вайцюк, што загінуў 18.7.1943 г.

У 1965 г. на магіле ўстаноўлена стэла. Абапал яе на мармуровых плітах імёны 44 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

**в. Рэчыца, Бухавіцкі сельсавет**

**970. МЕСЦЫ ДЫСЛАКАЦЫІ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ В. І. ЧАПАЕВА І ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.).

У ваколлі вёскі базіравалася партызанская брыгада імя В. І. Чапаева. Створана ў студзені 1944 г. паводле загада штаба Брэсцкага партызанскага злучэння. Камандзіры К. С. Гапасюк (студзень — май 1944 г.), Ф. М. Баранаў (май — ліпень 1944 г.), камісары М. П. Леановіч (студзень — ліпень 1944 г.), М. С. Карпічэнка. Партызаны брыгады праводзілі дыверсіі на чыгуначным участку Брэст — Мінск, падарвалі 7 мастоў, знішчылі 22 аўтамашыны, у аперацыі «Рэйкавая вайна» падарвалі 940 рэек, вялі баі супраць карных экспедыцый ворага. 19.7.1944 г. брыгада злучылася з Чырвонай Арміяй.



**972.** *Абеліск у гонар перамогі ў Айчыннай вайне 1812 г.*

На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі пахаваны ахвяры фашызму. У верасні 1942 г. карнікі акружылі вёску, а жыхароў — старых, жанчын і дзяцей (33 чалавекі) — загналі ў адрыну і спалілі. Была спалена і вёска (45 двароў).

На месцы загубы ахвяр фашызму ў 1965 г. пастаўлены абеліск. На ім прымацавана мемарыяльная дошка ў памяць аб дыслакацыі партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *М. М. Казлоўская.*

**в. Смалярня, Астроміцкі сельсавет**

**971. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стрыгава, Тэвельскі сельсавет**

**972. АБЕЛІСК ПЕРАМОГІ Ў 1812 г.** (гіст.). У скверы каля клуба. 31.7. 1812 г. каля вёсак Гарадзечна і Паддубнае адбыўся бой паміж рускімі войскамі і аўстра-саксонскімі карпусамі напалеонаўскай арміі. 13.8.1812 г. каля в. Стрыгава 38-ы егерскі полк рускай арміі адбіў масіраванае наступленне напалеонаўскай кавалерыі. Аўстра-саксонцы панеслі вялікія страты і вымушаны былі адступіць.

У 1962 г. ў гонар 150-годдзя перамогі пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Война русского народа с Наполеоном 1812 г.— СПб., 1910; Отечественная война и русское общество. 1812—1912. Т. 3.— М., 1912. *А. М. Мартынаў.*

**973. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 33 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Турная, Залескі сельсавет**

**974. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе.

Партызаны атрада імя А. В. Суворава ў 1943 г. ўзарвалі аўтамашыну з гітлераўцамі. Калі яны вярталіся з аперацыі, то былі акружаны карнікамі, загінулі ў баі. Мясцовыя жыхары пахавалі іх. Тут жа пахаваны партызаны атрада імя І. І. Арлова партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева, якія загінулі ў 1944 г. пасля ўзрыву варожага эшалона.




**973.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



**974.** *Помнік на брацкай магіле партызан.*



980. *Успенская царква.*



980. *Успенская царква. План.*

На брацкай магіле партызан у 1955 г. ўстаноўлены скульптура партызана (аўтар — былы партызан І. Дарафейкін) і паабапал 2 стэлы з імёнамі 42 землякоў — жыхароў вёсак Закросніца, Прылукі, Рачкі і Турная, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**975. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну ў в. Турная дзейнічалі падпольныя антыфашысцкі камітэт (з восені 1941 г. да красавіка 1944 г.) і камсамольская арганізацыя (з 12.8.1943 г. да сярэдзіны ліпеня 1944 г.). Антыфашысцкі камітэт узначальвалі Д. С. Барысюк і Ц. М. Краўчук. У яго склад уваходзілі таксама С. У. Краўчук, П. І. Курапаў і М. П. Лукашук. Падпольная камсамольская арганізацыя ў канцы 1943 г. налічвала 17 членаў. Сакратаром арганізацыі быў У. А. Юхімук.

Падпольшчыкі распаўсюджвалі антыфашысцкія лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, праводзілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка. Восенню 1943 г. камсамольцы-падпольшчыкі падарвалі 2 масты на дарогах Кобрын — Пінск і Кобрын — Івацэвічы, знішчылі і пашкодзілі больш за 2 км тэлефонна-тэлеграфнай лініі. Патрыёты збіралі разведданыя аб ворагу, здабывалі зброю, боепрыпасы, адзенне, прадукты харчавання для партызан брыгады імя В. І. Чапаева Брэсцкага партызанскага злучэння. У барацьбе супраць гітлераўцаў загінулі члены антыфашысцкага камітэта Д. С. Барысюк, Ц. М. Краўчук, С. У. Краўчук, М. П. Лукашук і камсамольцы-падпольшчыкі М. В. Здановіч, С. І. Здановіч, П. П. Казлюк, Я. Ф. Марчук, У. Ф Сахарук, У. А. Юхімук.

На ўшанаванне памяці падпольшчыкаў у 1975 г. ўстаноўлены скульптура воіна і 2 стэлы. *Г. І. Дулеба.*



989. *Міхайлаўская царква. Выгляд з боку апсіды.*

**в. Тэўлі, цэнтр сельсавета**

**976. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 51 воін 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**977. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 0,5 км ад вёскі, каля вясковых могілак.

У 1-ю сусветную вайну ў жніўні 1915 г. ў баях супраць войск кайзераўскай Германіі каля в. Тэўлі загінула каля 200 салдат рускай арміі. У 1916 г. на брацкіх і індывідуальных магілах устаноўлены надмагіллі.

У ліпені 1920 г. ў баях супраць польскіх інтэрвентаў каля вёскі загінулі 50 чырвонаармейцаў. Яны пахаваны ў 3 брацкіх магілах. У 1920 г. ўстаноўлены надмагіллі.



989. *Міхайлаўская царква. План.*

**978. ДЗМІТРЫЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Прамавугольны зруб пад двухсхільным дахам з невялікім прытворам. Помнік народнага драўлянага дойлідства.

**979. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 62 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**980. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі. Пабудавана ў 1872 г. з цэглы. Аднааб'ёмны храм з двух'ярусная званіцай над прытворам. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам з галоўкай. Паўцыркульныя вокны аздоблены ліштвамі. Па перыметры сцен праходзіць пояс з сухарыкамі. Галоўны і 2 бакавыя ўваходы абрамляюць дэкаратыўныя арачкі з франтонамі. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Хабовічы, Дзівінскі сельсавет**

**981. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Сярод вясковай забудовы. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Традыцыйны тып праваслаўнага храма з трохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй, якая ўключае шатровую званіцу, крыжападобны ў плане асноўны аб'ём і пяцігранную апсіду з бакавымі алтарамі. Над будынкам узвышаюцца 2 аднолькавыя светлавыя барабаны, завершаныя шатрамі з цыбулепадобнымі галоўкамі. У аздобе выкарыстаны разныя карнізы, фігурная шалёўка, вуглавыя лапаткі.

Царква — помнік народнага дойлідства.

**982. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 14 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хадынічы, Навасёлкаўскі сельсавет**

**983. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва. Мае двухчасткавую аб'ёмную кампазіцыю: да прамавугольнага асноўнага зруба далучана пяцісценная апсіда. Дах увянчаны невялікім купалам на барабане. Помнік народнага драўлянага дойлідства.

**в. Хідры, цэнтр сельсавета**

**984. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск, на якім высечаны імёны 37 аднавяскоўцаў, што аддалі жыццё за Радзіму.

**в. Худлін, Гарадзецкі сельсавет**

**985. ПОМНІК ШЫШУ** Мікалаю Цімафеевічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Тут у 1908 г. нарадзіўся адзін з арганізатараў партызанскага руху на Кобрыншчыне ў Вялікую Айчынную вайну М. Ц. Шыш. Член КПЗБ. Загінуў у 1942 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Імя М. Ц. Шыша было прысвоена аднаму з атрадаў партызанскай брыгады імя В. М. Молатава. У 1974 г. на ўшанаванне яго памяці пастаўлена стэла.

**в. Чаравачыцы, Батчынскі сельсавет**

**986. МЕСЦА ДЭМАНСТРАЦЫІ СЯЛЯН** (гіст.). Імя У. І. Леніна было сцягам працоўных Заходняй Беларусі ў барацьбе за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Пасля смерці правадыра штогод адзначаліся ленінскія дні, у час якіх праводзіліся дэманстрацыі, забастоўкі, мітынгі. 21.1. 1933 г. ў вёсцы адбылася дэманстрацыя. Яна была прымеркавана да гадавіны забойства паліцыяй 2 сялян у 1926 г. Каля 300 сялян з чырвонымі сцягамі, спяваючы «Інтэрнацыянал», «Смела, таварышы, у ногу», пайшлі да магілы забітых таварышаў. Там адбыўся мітынг, на якім яны ўшанавалі памяць У. І. Леніна, барацьбітоў за свабоду народа.

*Літ.:* Ватковіч Г. Б. Дні «Трох Л» у Заходняй Беларусі.— Полымя, 1971, № 10; яго ж. КПЗБ в борьбе за интернациональное единство трудящихся (1929—1933 гг.).— Мн., 1975. *Г. Б. Ватковіч.*

**987. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 56 жыхароў і спалілі в. Чаравачыцы (18 двароў). На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1975 г. пастаўлены помнік — 5 жалезабетонных брусоў адзін на адным.

**в. Шамятоўка, Астроміцкі сельсавет**

**988. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў — воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**в. Яромічы, Бухавіцкі сельсавет**

**989. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1784 г. з дрэва.

Царква двухзрубная, складаецца з прамавугольных у плане асноўнага аб'ёму і апсіды. Накрыта агульным гонтавым дахам, які пры пераходзе ад асноўнага аб'ёму да алтарнай часткі ўтварае трохвугольныя навісі. З усходу і поўдня да алтара прылягаюць прырубы з аднасхільным пакрыццем. Сцяна галоўнага (заходняга) фасада завершана шчытом. Дах каля франтона ўвянчаны васьмігранпай вежачкай. Вокны высокія, паўцыркульныя. Інтэр'ер зальны, абноўлены ў 19 ст. У бабінцы размешчаны хоры, якія падтрымліваюцца 2 слупамі.

Царква — помнік архітэктуры народнага дойлідства.

*У. В. Алісейчык.*




# ЛУНІНЕЦКІ РАЁН

Вялікія Чучавічы
Лугі
Велута
Бастынь
Багданаўка
Дзятлавічы
Чырвоная Воля
Вулька 2-я
Лунін
Палескі
Лобча
Радзігерава
Бродніца
Дварэц
Любачын
Язвінкі
ЛУНІНЕЦ
Лахва
Мікашэвічы
Кажан-Гарадок
Любань
Сінкевічы
Сітніца

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

## XIV. ЛУНІНЕЦ

Горад абласнога падпарадкавання (з 1963 г.), цэнтр раёна. Вузел чыгунак на Брэст, Гомель, Баранавічы, Сарны. Знаходзіцца за 240 км на ўсход ад Брэста.

Вядомы з 1540 г. як с. Лулінец полацкага ваяводы Станіслава Давойны ў Вялікім княстве Літоўскім. У 1588 г. меў 74 дамы, 484 жыхары, бровар і драўляную царкву. У 1662 г. Канстанцін Долмат, які валодаў Лунінцом, падараваў яго разам з прыгоннымі сялянамі Дзятлавіцкаму праваслаўнаму мужчынскаму манастыру. З 1793 г. Лунінец у складзе Расіі: у Пінскім павеце Мінскай губерні. Каля 1795 г. было 75 двароў, 624 жыхары. У 1842 г. перададзены ў казну, а жыхары пераведзены ў катэгорыю дзяржаўных сялян. Насельніцтва павялічылася нязначна (714 чалавек). Вырас Лунінец у сувязі з будаўніцтвам Палескіх чыгунак. Рух на ўчастках Вільня — Лунінец — Пінск адкрыты 30.12.1884 г., Лунінец — Роўна — 2.8.1885 г., Лунінец — Гомель — 15.2.1886 г. (пракладзены другі пуць на ўчастках Лунінец — Гомель — 1.5.1904 г., Лунінец — Пінск — 8.11.1907 г.). Паводле перапісу 1897 г., у Лунінцы 3167 жыхароў, 885 двароў (1908 г.). У 1890 г. заснаваны чыгуначныя рамонтныя майстэрні, у якіх у 1900 г. было 239 рабочых. Станцыя ператварылася ў буйны чыгуначны вузел, грузаабарот якога ў 1900 г. перавышаў 5,5 млн. пудоў (пераважна лесаматэрыялы). Працавалі 2 млыны. У 1860-я гады адкрыта народнае аднакласнае вучылішча, у 1890 г. на чыгуначнай станцыі — двухкласная царкоўнапрыходская школа з жаночым аддзяленнем і 2 дадатковымі класамі падрыхтоўкі хлопчыкаў у чыгуначныя вучылішчы. З лістапада 1911 г. да лютага 1912 г. ў Лунінцы жыў і працаваў беларускі паэт Я. Колас.

Рабочыя Лунінца прымалі актыўны ўдзел у Рэвалюцыі 1905—07 гг. У 1-ю сусветную вайну дзейнічала падпольная бальшавіцкая арганізацыя на чале з І. Е. Любімавым. Для агітацыйнай работы сярод салдат у 1916 г. ў Лунінец прыязджаў М. В. Фрунзе. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Лунінецкую арганізацыю РСДРП узначаліў бальшавік А. І. Таганаў. У сакавіку 1917 г. створаны Лунінецкі Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Спачатку Савет быў згодніцкім, да кастрычніка 1917 г. стаў бальшавіцкім, узяў пад кантроль чыгуначны вузел і перавозку войск цераз яго, арганізаваў рэвалюцыйны камітэт, які 28.10(10.11).1917 г. абвясціў у Лунінцы Савецкую ўладу. У лістападзе 1917 г. ў Лунінцы адбыўся І з'езд Саветаў Пінскага павета. З 18.2.1918 г. Лунінец акупіраваны кайзераўскімі войскамі, з канца 1918 г. тут дзейнічаў падпольны райком РКП(б), у ваколіцах супраць нямецкіх акупантаў і пятлюраўцаў праводзілі аперацыі партызанскія атрады, найбольшы з іх — паўстанскі камуністычны атрад А. М. Ільіна (каля 3 тыс. чалавек). Савецкая ўлада адноўлена ў студзені 1919 г. З лютага 1919 г. Лунінец стаў адным з важнейшых вузлоў абароны на Заходнім фронце ў час наступлення войск буржуазнай Польшчы. Яго абаранялі часці 17-й стралковай, з красавіка 1919 г.— 8-й стралковай дывізій. Тут жа дзейнічаў эвакуіраваны з Пінска павятовы выканком, а пасля ваенрэўком, працаваў Лунінецкі валасны ваенрэўком. 10.7.1919 г. Лунінец быў акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы; дзейнічала падпольная бальшавіцкая арганізацыя. У ліпені 1920 г. адноўлена Савецкая ўлада. 3.10.1920 г. польскія войскі зноў захапілі Лунінец. У складзе буржуазнай Польшчы Лунінец з лютага 1921 г. стаў горадам і цэнтрам Лунінецкага павета ў Палескім ваяводстве, налічваў 8267 жыхароў. Працаваў падпольны райком КПЗБ. Да 1925 г. ў павеце дзейнічалі партызанскія атрады, якія нападалі на маёнткі паноў, паліцэйскіх. Найбольш буйныя аперацыі былі



XIV. *Жылы дом па вуліцы Гагарына.*



XIV. *Будынак універмага.*



**XIV.** *Жылыя дамы па вуліцы Савецкай.*

праведзены ў маёнтку Добрае Дрэва (1922 г.) і на станцыі Парахонск (1924 г.). Некаторыя з партызан былі асуджаны і расстраляны ў Лунінцы, сярод іх — вядомы партызан Янка Глушка (расстраляны 21.7.1925 г.).

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Лунінец з снежня 1939 г. ў складзе Пінскай вобл. У 1939 г. 8,3 тыс. жыхароў, з 1940 цэнтр раёна. У Айчынную вайну горад з 10.7.1941 г. да 10.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (канец 1942 г.— 8.7.1944 г.) і ЛКСМБ (кастрычнік 1942 г.— 8.7.1944 г.), выдавалася газета «Авангард». 6 часцям і 1 злучэнню Чырвонай Арміі, якія вызвалілі горад, нададзены ганаровыя найменні «Лунінецкіх». У 1959 г. было 10,3 тыс. жыхароў, у 1970 г.— 14,3 тыс. жыхароў. За актыўны ўдзел камсамольцаў і моладзі ў меліярацыі зямель, павелічэнні вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі і вялікую работу па выхаванню моладзі 22.4.1974 г. Лунінецкая раённая камсамольская арганізацыя ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Сучасны горад размешчаны ўздоўж чыгункі. Забудова на ўскраінах пераважна аднапавярховая, у цэнтры — шматпавярховая мураваная. Сетка вуліц, блізкая да прамавугольнай, сфарміравалася ў канцы 19 ст. і працягвала развівацца ў паўночным і паўднёвым напрамках. Галоўнымі з'яўляюцца вуліцы Чырвоная (працяг шашы на Пінск), Гагарына і Савецкая. У цэнтральнай частцы горада 2 плошчы — імя Леніна і Прывакзальная. Генеральны план Лунінца (1973 г.) прадугледжвае замену аднапавярховай забудовы 5—9-павярховай. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр горада — пл. імя Леніна, дзе размешчаны будынак райкома КПБ і двухпавярховыя цагляныя жылыя дамы, устаноўлены помнік У. І. Леніну.

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: завод электрарухавікоў для сельскай гаспадаркі, рамонтна-механічны завод, лакаматыўнае дэпо, завод сухога абястлушчанага малака, дрэваапрацоўчы камбінат, хлебазавод. Працуюць раённыя аб'яднанні Дзяржкамсельгастэхнікі і «Сельгасхімія», вытворчае аб'яднанне «Лунінецлес», лясгас, будаўнічыя арганізацыі, 2 камбінаты бытавога абслугоўвання.



**991.** *Помнік на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан.*

У горадзе 5 сярэдніх (у т. л. школа-інтэрнат), музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, гарадское і сельскае прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 8 дашкольных дзіцячых устаноў, 2 Дамы культуры, Дом піянераў і школьнікаў, 7 бібліятэк, 4 кінаўстаноўкі, кінатэатр, гісторыка-краязнаўчы музей, 3 бальнічныя ўстановы. Выдаецца раённая газета «Ленінскі шлях».

Лунінец — радзіма Героя Савецкага Саюза генерал-палкоўніка А. В. Петрушэўскага і Героя Сацыялістычнай Працы А. Д. Паньковай.

Помнікі: У. І. Леніну, па брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, Курган Бессмяротнасці, помнік у гонар асваення космасу.

Месца адпачынку жыхароў — лесапарк са штучным возерам на ўсходняй ускраіне горада і сквер на вул. Савецкай.

*Літ.:* Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сборник документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1968—71; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5. Губернии Литовской и Белорусской областей.— СПб., 1886; Города и поселения в уездах, имеющих 2000 и более жителей.— СПб., 1905; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и сёла Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Историко-статистическое описание девяти уездов Минской губернии.— Мн., 1870.— (Труды Минского губернского статистического комитета; в. 1); Памятная книжка Минской губернии... 1870—1913 гг.— Мн., 1870—1912; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Список населённых мест Минской губернии / Сост. В. С. Ярмолович.— Мн., 1909.

*С. Г. Багласаў, Э. М. Савіцкі.*

**990. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Пахаваны: А. Е. Харытановіч (3.9. 1925—14.7.1944 гг.), партызан брыгады імя С. М. Кірава; І. В. Лімант, кіраўнік падпольнай камсамольскай дыверсійнай групы ў Лунінецкім чыгуначным дэпо, потым партызан атрада «За Радзіму» брыгады імя С. М. Кірава (загінуў 3.7.1944 г.). У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**991. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Савецкай. Абапал галоўнай алеі сквера ў 2 магілах пахаваны 39 воінаў 23-й і 55-й стралковых дывізій 89-га корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту і 4 партызаны з брыгады імя С. М. Кірава Пінскага партызанскага злучэння, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 9—10.7.1944 г. пры вызваленні Лунінца. У 1953 г. на магілах пастаўлены абеліскі і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**992. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы горада, на скрыжаванні вуліц Піянерскай і Гагарына. Пабудавана ў пачатку

20 ст. з цэглы. Асноўны кубічны аб'ём, да якога з усходу далучаецца алтарная група памяшканняў з паўкруглай апсідай, з захаду — шатровая званіца, увянчаны чатырохсхільным шатром з 5 галоўкамі. Неатынкаваныя фасады ўпрыгожаны багатым дэкорам (аркатурны фрыз, плоскія фігурныя і конхавыя нішы, трохвугольныя франтоны).

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**993. КУРГАН БЕССМЯРОТНАСЦІ** (гіст.). Вул. Боханава, на ўсходняй ускраіне горада па дарозе ў рабочы пасёлак Мікашэвічы. Насыпаны ў 1967 г. на брацкай магіле 4474 савецкіх воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць Радзімы, расстраляны або закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. На вяршыні Кургана пастаўлены абеліск.

**994. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На вул. Прамысловай. Пахаваны 4312 грамадзян, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў канцлагерах і гета ў 1941—43 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**995. МАГІЛА БАГДАНАВА** Пятра Мікалаевіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза П. М. Багданаў нарадзіўся ў 1924 г. ў в. Дзеванісы Палкінскага р-на Пскоўскай вобл.



992. *Крыжаўзвіжанская царква.*

Кандыдат у члены КПСС з 1945 г. У Вялікую Айчынную вайну з 21.1. 1942 г. на фронце. З 20.6.1944 г. на 1-м і 3-м Беларускіх франтах, з 20.4. 1945 г. на 1-м Украінскім фронце. Вызначыўся ў баях за Берлін. 23.4.1945 г. старшы сяржант П. М. Багданаў на чале групы байцоў батальёна 66-га стралковага палка 61-й Нікапальскай стралковай дывізіі першым пераправіўся цераз канал Цельтаў, замацаваўся на плацдарме і 2 гадзіны адбіваў варожыя атакі, чым забяспечыў пераправу сваіх падраздзяленняў. У гэтым баі знішчыў больш як 60 салдат і афіцэраў праціўніка. Усяго па баявым рахунку П. М. Багданава больш за 180 забітых і 93 узятых у палон салдат і афіцэраў ворага. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Трагічна загінуў 24.8.1945 г.

У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск. *М. М. Калінковіч.*

**996. МАГІЛА ДАВЫДАВА** Мікалая Сяргеевіча (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках.

Герой Савецкага Саюза М. С. Давыдаў нарадзіўся 2.11.1921 г. ў в. Вялікае Андосава Пільненскага р-на Горкаўскай вобл. Член КПСС з 1944 г. Пасля заканчэння сямігодкі працаваў токарам на заводзе ў Варашылаўградзе, вучыўся ў авіяшколе. З 1940 г. ў Чырвонай Арміі. З сакавіка 1943 г. на Паўднёвым, 4-м Украінскім і 3-м Беларускім франтах: намеснік камандзіра, камандзір эскадрыллі 75-га гвардзейскага штурмавога авіяпалка. Вызначыўся ў радах 1-й паветранай арміі пры вызваленні Віцебска, Оршы, Мінска і ліквідацыі мінскага «катла». Зрабіў 187 баявых вылетаў, знішчыў 8 танкаў, 6 артбатарэй, 1 паравоз, 17 вагонаў, 21 аўтамашыну, 200 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.4.1945 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, капітан. Загінуў у авіяцыйнай катастрофе 16.8. 1949 г.

У 1969 г. на магіле ўстаноўлены абеліск. На радзіме яго імя прысвоена школе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *І. М. Паўлюкавец.*

**997. МАГІЛА ЖАЧКІНА** Сяргея Аляксандравіча (гіст.). Вул. Савецкая, на



992. *Крыжаўзвіжанская царква. План.*



993. *Курган Бессмяротнасці.*

могілках. Сакратар Лунінецкага райкома КП(б)Б С. А. Жачкін забіты ворагамі Савецкай улады ў в. Цна 25.4. 1949 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**998. МАГІЛА ЖУКА** Аляксея Аляксандравіча (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках.

Былы старшыня Бастынскага сельсавета Лунінецкага р-на А. А. Жук у час нямецка-фашысцкай акупацыі быў адным з арганізатараў камсамольска-маладзёжнага падполля ў Лунінцы. Пры яго ўдзеле камсамольцы збіралі інфармацыю аб ворагу, вялі работу па разлажэнню паліцэйскіх гарнізонаў, праводзілі дыверсіі на чыгунцы і ў дэпо. З мая 1943 г. ў партызанах. Камандзір разведчыкаў у атрадзе «За Радзіму» партызанскай брыгады імя С. М. Кірава. У радзе населеных пунктаў раёна стварыў дыверсійныя падпольныя камсамольскія групы. З лістапада 1943 г. член Лунінецкага падпольнага райкома ЛКСМБ. Загінуў у баі 6.12.1943 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**999. МАГІЛА ЛОСЕВА** Івана Ільіча (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. Начальнік 4-й часці Лунінецкага райваенкамата І. І. Лосеў забіты вора-



992. *Крыжаўзвіжанская царква. Выгляд з боку апсіды.*

гамі Савецкай улады 25.11.1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1000. МАГІЛА ПЯЦЯРЫ** Івана Віктаравіча (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках.

Герой Савецкага Саюза І. В. Пяцяры нарадзіўся 26.3.1921 г. ў в. Енісейск Мінусінскага р-на Краснаярскага краю ў сям'і селяніна. Член КПСС з 1944 г. З жніўня 1940 г. ў Чырвонай Арміі. Лётчык-інструктар 12-й ваенна-авіяцыйнай школы пілотаў. З ліпеня 1942 г. на Сталінградскім фронце: лейтэнант, лётчык 61-га гвардзейскага начнога бамбардзіровачнага авіяпалка 8-й паветранай арміі, зрабіў 140 баявых вылетаў. З 1943 г. лётчык-штурмавік, намочнік камандзіра 136-га гвардзейскага штурмавога авіяпалка 1-й гвардзейскай штурмавой авіядывізіі на Паўднёвым і 4-м Украінскім франтах, прымаў удзел у вызваленні Данбаса і Крыма. З 1944 г. ў складзе той жа дывізіі ў 1-й паветранай арміі на 3-м Беларускім фронце. Вызначыўся ў баях за Беларусь і пры разгроме ўсходне-прускай групоўкі ворага, зрабіў 136 баявых вылетаў, асабіста знішчыў некалькі пераправаў, шмат танкаў, гармат, аўтамашын, сотні гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза капітану І. В. Пяцяры прысвоена 19.4.1945 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі. Загінуў 5.5.1949 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. М. Удальцоў.*

**1001. МАГІЛА ТРОШЫНА** Міхаіла Пятровіча (гіст.). Вул. Савецкая, на могілках. М. П. Трошын — начальнік Лунінецкага райаддзела міліцыі. Пасля вызвалення раёна ў 1944 г. ад нямецка-фашысцкіх акупантаў — актыўны ўдзельнік аднаўлення Савецкай улады і разбуранай гаспадаркі. Загінуў 24.11.1944 г. ў в. Вялікія Чучавічы ў час правядзення аперацыі супраць банды. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1002. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, на будынку райвыканкома.

У час Беларускай аперацыі 1944 г. наступленне на Лунінецкім напрамку вялі злучэнні 61-й арміі (камандуючы — генерал-лейтэнант П. А. Бялоў) ва ўзаемадзеянні з Дняпроўскай ваеннай флатыліяй (камандуючы капітан 1-га рангу В. В. Грыгор'еў). Пераправіўшыся з дапамогай 1-й (камандзір капітан 1-га рангу С. М. Лялько) і 2-й (камандзір капітан 2-га рангу У. М. Міцін) брыгад рачных караблёў флатыліі цераз р. Прыпяць, часці 23-й (камандзір палкоўнік І. В. Басцееў) і 55-й (камандзір палкоўнік К. М. Андрусенка) стралковых дывізій 89-га стралковага корпуса (камандзір генерал-маёр А. Я. Яноўскі) наступалі ўздоўж берага ракі на Пінск. 9.7.1944 г. яны пры садзейнічанні партызан пачалі баі за г. Лунінец — адзін з моцных апорных пунктаў абароны нямецка-фашысцкіх акупантаў на Брэсцкім напрамку. Нягледзячы на ўпартае супраціўленне праціўніка, 10 ліпеня горад быў вызвалены. Загадам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага ад 23.7.1944 г. 2-й брыгадзе рачных караблёў, 89-му, 107-му, 111-му і 117-му стралковым палкам, 239-му асобнаму лінейнаму батальёну сувязі, 73-му ваенна-будаўнічаму атраду, якія вызначыліся пры вызваленні Лунінца, былі нададзены ганаровыя найменні «Лунінецкіх».

Партызанская брыгада імя С. М. Кірава (камандзір Ф. І. Лісовіч, камісар Р. П. Швец) Пінскага злучэння, якая прымала ўдзел у вызваленні Лунінца, сфарміравана ў ліпені 1943 г., дзейнічала на тэрыторыі Лунінецкага і Ленінскага р-наў Пінскай вобл., прымала ўдзел у «рэйкавай вайне», разгроме варожых гарнізонаў і паліцэйскіх участкаў. 8.7.1944 г. злучылася з войскамі Чырвонай Арміі, налічвала 3 атрады (1088 партызан).

У 1964 г. ў гонар воінаў-вызваліцеляў і партызан установлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Непокорённая Белоруссия: Воспоминания и статьи о всенародном партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг.).— М., 1963; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Локтионов И. И. Пинская и Днепровская флотилии в Великой Отечественной войне.— М., 1958. *Г. І. Дулеба.*

**1003. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАНЦЯЛЕЕВУ** Сцяпану Васілевічу (гіст.). Вул. Панцялеева, 6.

С. В. Панцялееў — удзельнік вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь у верасні 1939 г. Член КПСС. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР працаваў пракурорам у Лунінецкім р-не. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны паводле рашэння ЦК КП(б)Б пакінуты на акупіраванай тэрыторыі раёна для стварэння камуністычнага падполля і арганізацыі партызанскага руху. У ліпені 1941 г. натрапіў на засаду ворага каля в. Гаўрыльчыцы (цяпер Салігорскі р-н), загінуў у баі.

У 1979 г. на ўшанаванне памяці С. В. Панцялеева на будынку Лунінецкай міжрайпракуратуры ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Адна з вуліц горада названа яго імем. *С. С. Кіткевіч.*

**1004. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Чырвонаармейская, 4.

Устаноўлена ў 1965 г. на будынку Лунінецкага раённага аддзела ўнутраных спраў на ўшанаванне памяці супрацоўнікаў міліцыі Васіля Пятровіча Грazноўскага, Аляксандра Сяргеевіча Грышчанкі, Васіля Майсеевіча Калаўра, Мікалая Мікалаевіча Пятрова, Міхаіла Пятровіча Трошына і Андрэя Васілевіча Шпонькі, якія загінулі ў барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады ў 1944—49 гг.

**1005. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПІНСКАГА ПАВЯТОВАГА РЭЎКОМА** (гіст.). Вул. Гагарына, 3. Устаноўлена ў 1979 г. на будынку, дзе размяшчаўся рэўком. Пасля захопу Пінска (5.3.1919 г.) войскамі буржуазнай Польшчы выканком Пінскага павятовага Савета эвакуіраваўся ў Лунінец, дзе 11 сакавіка быў пераўтвораны ў Пінскі павятовы рэўком. Рэўком з'яўляўся часовым надзвычайным вышэйшым органам Савецкай улады на тэрыторыі неакупіраванай часткі Пінскага павета. Дзейнічаў да 10.7.1919 г.

**1006. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ШТАБА ПАЛЕСКІХ ПАЎСТАНЦАЎ** (гіст.). Вул. Гагарына, 12. Устаноўлена ў 1978 г. на будынку, дзе размяшчаўся штаб (цяпер тут Лунінецкая вочна-завочная школа).

Пасля зрыву мірных перагавораў у Брэсце войскі кайзераўскай Германіі занялі большую частку Беларусі, устанавілі акупацыйны рэжым тэрору і насілля. Лунінец быў заняты імі 18.2. 1918 г. Пінскі (у які ўваходзіў і Лунінец) і іншыя паўднёвыя паветы Беларусі акупанты перадалі ў склад гетманскай Украіны. Супраць нямецкіх акупантаў і ўкраінскіх буржуазных нацыяналістаў на тэрыторыі паўднёва-заходняй Беларусі і паўночна-заходняй Украіны пад кіраўніцтвам бальшавікоў разгарнуўся партызанскі рух. У кастрычніку 1918 г. ў раёне Сарны — Лунінец дзейнічалі ўзброеныя паўстанскія атрады, якія кантралявалі Пінскі і Ровенскі паветы. У лістападзе 1918 г. сюды прыбыў прадстаўнік ЦК РКП(б) А. М. Ільін. Былі арганізаваны цэнтральны (Палескі) і валасныя рэўкомы. Партызанскія атрады аб'ядналіся ў паўстанскія палкі. Створаны Ваенны савет паўстанскіх камуністычных войск Беларусі і Заходняй Украіны на чале з А. М. Ільіным. Ён дамогся ад нямецкіх улад перадачы Лунінецкаму рэўкому (існавала дамоўленасць паміж рэўкомам і салдацкім камітэтам нямецкай дывізіі) артылерыйскіх складоў і іншай ваеннай маёмасці былой царскай арміі, што захоўвалася на складах у раёне Лунінца. 9.1.1919 г. паўстанцы і чырвонаармейцы 153-га палка 17-й стралковай дывізіі вызвалілі Лунінец, дзе размясціўся штаб палескіх паўстанцаў. На працягу студзеня 1919 г. паўстанцы вялі ўпартыя баі з петлюраўцамі, якіх падтрымлівала нямецкае камандаванне. У адказ на гэта паўстанцы спынілі пропуск нямецкіх эшалонаў праз Лунінец, што садзейнічала вызваленню Пінска ад петлюраўцаў (25.1.1919 г.).

*Літ.:* Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг. Сб. документов и материалов. Т. 1.— Мн., 1968. *В. М. Удальцоў.*



1011. *Помнік У. І. Леніну.*

**1007. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ФРУНЗЕ** Міхаілу Васілевічу (гіст.). Вул. Фрунзе, 8.

М. В. Фрунзе (1885—1925 гг.) — прафесіянальны рэвалюцыянер. Член КПСС з 1904 г. Пасля ўцёку летам 1915 г. з Сібіры, дзе ён адбываў пажыццёвую ссылку, у красавіку 1916 г. прыбыў на Заходні фронт. Тут у маі па пашпарце на імя М. А. Міхайлава ўладкаваўся вольнанаёмным у 57-ю артылерыйскую брыгаду (мястэчка Івянец). У чэрвені 1916 г. з дапамогай таварыша па падпольнай рабоце ў Іванава-Вазнясенску І. Е. Любімава перайшоў на службу ў камітэт Усерасійскага земскага саюза на Заходнім фронце, дзе працаваў статыстыкам, потым памочнікам раённага загадчыка і загадчыкам гаспадарчага аддзела пры 10-й арміі. Арганізаваў і ўзначаліў падпольную бальшавіцкую групу ў Мінску, якая мела аддзяленні ў 10-й і 3-й арміях. Выконваючы службовыя абавязкі, выязджаў у вайсковыя часці і гарнізоны, дзе праводзіў партыйную работу. Не раз прыязджаў у Лунінец (тут працавала да чэрвеня 1917 г. яго нявеста С. А. Папова), дапамагаў у рабоце мясцовай бальшавіцкай арганізацыі.

У 1979 г. на ўшанаванне памяці М. В. Фрунзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імем названа вуліца ў горадзе, яно прысвоена калгасу ў Лунінецкім р-не.

*Літ.:* Казеко И. И., М. В. Фрунзе: Революционная деятельность в Белоруссии.— Мн., 1983. *В. М. Удальцоў.*

**1008. МЕСЦА ПЕРШАГА З'ЕЗДА САВЕТАЎ ПІНСКАГА ПАВЕТА** (гіст.). Вул. Чырвоная, пажарная часць № 1. У ліпені 1917 г. ў Лунінцы, у памяшканні пажарнай часці, якое здавалася пад кінематограф, Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў адкрыў Народны дом, дзе чыталіся лекцыі, праводзіліся сходы і інш. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе Лунінецкі Савет у ноч на 28.10(10.11).1917 г. стварыў ВРК, у рукі якога перайшла ўся ўлада ў мястэчку і на станцыі. 11—12(24—25).11. 1917 г. ў памяшканні Народнага дома адбыўся I з'езд Саветаў Пінскага павета, яго старшынёй абраны А. І. Таганаў. З'езд абвясціў у павеце Савецкую ўладу, выбраў выканком павятовага Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, у склад якога ўвайшоў А. І. Таганаў. Пасля заканчэння з'езда каля Народнага дома адбыўся мітынг. Яго ўдзельнікі аднадушна падтрымалі рашэнні з'езда. Быў арганізаваны атрад Чырвонай Гвардыі.

У 1966 г. на будынку пажарнай часці № 1 (на месцы Народнага дома) у гонар I з'езда Саветаў Пінскага павета ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; В памяти народной.— Мн., 1969.

**1009. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ ЧЫГУНАЧНІКАЎ У 1905 г.** (гіст.). Чыгуначны вакзал. 12.10.1905 г. забаставалі і ўключыліся ва Усерасійскую кастрычніцкую палітычную стачку рабочыя чыгуначнага дэпо і тэлеграфісты Лунінца. Вакзал закрылі, рух паяздоў спыніўся. Быў выбраны мясцовы камітэт Усерасійскага чыгуначнага саюза, у які ўвайшлі інжынер Крыжаноўскі, тэхнік Данілаў, слесар Антоненка і інш. 27.10.1905 г. з Лунінца накіравана 70 узброеных дружыннікаў на дапамогу пралетарыям Пінска, якія рыхтаваліся да ўзброенага паўстання. У лістападзе на мітынгах рабочых бальшавікі агітавалі за ўзброенае паўстанне. У час Снежаньскага ўзброенага паўстання ў Маскве на Палескіх чыгунках спынены рух паяздоў (у Лунінцы — 8.12.1905 г.). Для задушэння забастоўкі на Палескіх чыгунках з Вільні быў накіраваны спецыяльны поезд з карным атрадам (узмоцнены батальён). Рабочыя Лунінецкага дэпо, каб не дапусціць карнікаў і не даць магчымасці аднавіць рух, зрабілі крушэнні на чыгунцы, вывелі са строю 16 паравозаў. Задушыўшы забастоўку ў Баранавічах, карнікі позна вечарам 17.12.1905 г. прыбылі ў Лунінец, дзе да 3 гадзін ночы 18 снежня дапамагалі мясцовым уладам праводзіць арышты і вобыскі. Хваляванні сярод працоўных Лунінца працягваліся і ў 1906 г.



1014. *Помнік у гонар асваення космасу.*

У 1966 г. на будынку вакзала ў памяць аб гэтых падзеях устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955. *М. І. Алексяюк.*

**1010. ПОМНІК ДАВЫДАВУ** Мікалаю Сяргеевічу (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад горада, каля шашы. Помнік — самалёт-знішчальнік МіГ-17 — устаноўлены ў 1981 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза М. С. Давыдава на месцы, дзе ён загінуў.

**1011. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, перад будынкам райкома КПБ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1959 г.

**1012. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1949 г.

**1013. ПОМНІК КАРЛУ МАРКСУ** (гіст.). На Прывакзальнай пл., у скверы. Стэла з умацаванай у верхняй частцы плітой з бюстам К. Маркса ўстаноўлена ў 1970 г.

**1014. ПОМНІК У ГОНАР АСВАЕННЯ КОСМАСУ** (гіст.). На Прывакзальнай пл. У 1964 г. ў гонар асваення космасу пастаўлены помнік — алегарычная скульптура жанчыны, якая ўвасабляе палёт.

**1015. РАДЗІМА ПАНЬКОВАЙ** Алены Данілаўны (гіст.).

Герой Сацыялістычнай Працы А. Д. Панькова нарадзілася 8.5.1914 г. Член КПСС з 1945 г. З 1935 г. электразвар-



1026. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

шчыца Гомельскага вагоннага дэпо. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена ў 1960 г. за выдатныя поспехі ў выкананні вытворчых заданняў. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1963 г. Памерла 8.11.1964 г.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Багданаўка, Лунінскі сельсавет**

**1016. МАГІЛА ГУЛЯЕВА** Уладзіміра Паўлавіча (гіст.). За 4 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дубавец. Камандзір дэсантнай групы разведчыкаў лейтэнант У. П. Гуляеў загінуў у чэрвені 1942 г. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1017. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля сядзібы калгаса «Гігант». На ўшанаванне памяці 83 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах і ў партызанах, у 1973 г. пастаўлены абеліск. Побач у 1975 г. пасаджаны парк Памяці (плошча 40×20 м), каля кожнага дрэва — мемарыяльная пліта (бетон, 20×25 см) з імем загінуўшага земляка.

**в. Баравікі, Чучавіцкі сельсавет**

**1018. МАГІЛА ЖЫБУРТА** Васіля Антонавіча (гіст.). На могілках.

Партызан атрада імя М. А. Шчорса 27-й партызанскай брыгады імя В. І. Чапаева В. А. Жыбурт нарадзіўся ў 1923 г. ў в. Куцаўшчына Капыльскага р-на. Працаваў трактарыстам у мясцовым калгасе. З 1942 г. ў партызанскім атрадзе імя М. А. Шчорса. Зімой 1943 г., калі брыгада вяла цяжкія баі з пераважнымі сіламі карнікаў, В. А. Жыбурт пры прарыве варожага заслона каля в. Морач Капыльскага р-на быў цяжка паранены. Перапраўлены партызанамі у в. Баравікі, памёр ад ран у пачатку лютага 1943 г.

У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. М. Удальцоў.*

**в. Бастынь, цэнтр сельсавета**

**1019. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 66 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні тэрыторыі Бастынскага сельсавета 8—10.7.1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**1020. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсход ад вёскі, каля чыгуначнага пераезда. Пахаваны 51 жыхар в. Бастынь, якіх расстралялі гітлераўцы ў ліпені 1942 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1021. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Шлях Леніна». Тут у ліпені 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі дэпутата Вярхоўнага Савета СССР М. С. Бушылу і мясцовых савецкіх актывістаў Л. З. Герасімовіча, К. М. Герасімовіча, А. К. Карпеца і А. Д. Цельпука. Пахаваны на мясцовых могілках. У 1965 г. на месцы расстрэлу пастаўлена стэла.

**в. Бродніца, Вулькаўскі сельсавет**

**1022. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 21 аднавяскоўца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Велута, Бастынскі сельсавет**

**1023. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны воіны 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі Іван Сцяпанавіч Назарэнка і Данііла Аляксеевіч Каваленка, якія памерлі ад ран, атрыманых у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі 8.7.1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск, на якім ушанавана таксама памяць 60 землякоў з калгаса «Зара», што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.



1028. *Пакроўская царква.*

**в. Вулька 1-я, Лунінскі сельсавет**

**1024. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 32 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Вулька 2-я, Вулькаўскі сельсавет**

**1025. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Світанне». На ўшанаванне памяці 46 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вялікія Чучавічы, Чучавіцкі сельсавет**

**1026. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля канторы леспрамгаса. Пахаваны 49 савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г.— ліпені 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**1027. МАГІЛА РАМАНЕНКІ** Настассі (гіст.). На могілках.

Партызанка атрада імя М. І. Кутузава партызанскай брыгады імя У. І. Леніна Н. Раманенка нарадзілася ў 1920 г. ў в. Салаўёва Ярцаўскага р-на Смаленскай вобл. Скончыла медтэхнікум, працавала фельчарам. У Вялікую Айчынную вайну Н. Раманенка ў партызанскім атрадзе. Была медсястрой, пазней актыўна ўдзельнічала ў дыверсіях на камунікацыях ворага. У сакавіку 1944 г. ў баі каля в. Велута была цяжка паранена і трапіла ў рукі гітлераўцаў, якія пасля катаванняў расстралялі яе. Імя Н. Раманенкі прысвоена піянерскай дружыне Вялікачучавіцкай сярэдняй школы.

У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1028. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1846—51 гг. з дрэва, у 1908 г. прыбудавана званіца.

Пабудова трохзрубная, складаецца з прамавугольнага бабінца, квадратнага ў плане цэнтральнага і пяціграннага алтарнага зрубаў. Цэнтральны чацвя-



1028. *Пакроўская царква. План.*



1033. *Помнік землякам.*

рык у другім ярусе пераходзіць у васьмярык з дапамогай ветразяў, якія відаць знадворку. Васьмярык накрыты пластычным чатырохсхільным дахам і завершаны дэкаратыўным пяцігалоўем. Дах накрыты гонтай. Будынак гарызантальна ашаляваны. Сцены прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі. Уваходы акцэнтаваны крытымі слупавымі ганкамі. Званіца, прыбудаваная да бабінца, трох'ярусная, ніжнія ярусы — чацверыкі, верхні — васьмярык, завершаны шатровым дахам. У інтэр'еры вылучаецца двухсветлавы завершаны купалам цэнтральны аб'ём, з якім злучаюцца больш нізкія бабінец і алтарнае памяшканне, адгароджанае разным вызалачаным іканастасам (19 ст.).

Царква — помнік архітэктуры, які характарызуе развіццё ў 19 ст. традыцыйных для Палесся ярусных кампазіцый.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии... В. 5. Мозырский уезд.— Мн., 1879. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Дварэц, цэнтр сельсавета**

**1029. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 85 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзятлавічы, цэнтр сельсавета**

**1030. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля чыгуначнага пераезда. Пахаваны 19 жыхароў вёскі, якіх расстралялі ў чэрвені 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1031. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на захад ад вёскі, каля дарогі Лунінец — Дзятлавічы. Пахаваны 4 жыхары вёскі, якіх расстралялі і спалілі ў 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1032. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на захад ад вёскі, за чыгункай Лунінец — Дзятлавічы. Пахаваны 89 жыхароў вёскі, якіх расстралялі ў кастрычніку 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1033. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Савецкай. На ўшанаванне памяці 111 савецкіх воінаў і партызан, якія жылі на тэрыторыі Дзятлавіцкага сельсавета і загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**1034. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночны ўсход ад вёскі, непадалёку ад р. Цна. Пабудавана ў 1823 г. з дрэва, часткова перабудавана ў 1871 г.

Кампазіцыя будынка развіта па падоўжнай восі: да галоўнага квадратнага ў плане аб'ёму далучаны з усходу група алтарных памяшканняў (апсіда і 2 рызніцы), з захаду — бабінец з 2 бакоўкамі. Асноўны зруб завершаны купалам з васьмерыковым светлавым барабанам, накрытым шатровым дахам. Чатыры чацверыковыя вежы са складанымі барочнымі купалкамі размешчаны па вуглах пабудовы і разам з цэнтральным купалам ўтвараюць завершаную цэнтрычную кампазіцыю. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены ліштвамі. Трохсветлавы асноўны аб'ём злучаецца шырокімі праёмамі з бабінцам і гранёным алтарным зрубам. На паўднёвым баку царквы размешчана двух'ярусная званіца зрубна-каркаснай канструкцыі (васьмярык на чацверыку), увянчаная шатровым дахам.

Царква — прыклад драўляных культавых пабудоў з рысамі архітэктуры барока і класіцызму. *Ю. А. Якімовіч.*



1034. *Праабражэнская царква. План.*



1034. *Праабражэнская царква. Фрагмент скляпення.*

**в. Кажан-Гарадок, Гарадоцкі сельсавет**

**1035. ГАРАДЗІШЧА** (археал.).

**1035а.** Гарадзішча-1. На ўсходняй ускраіне вёскі, з правага боку ад дарогі на Лахву, у лесе. Адкрыў і абследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын. Пляцоўка памерам 75×65 м на невялікім узвышшы, па краі ўмацавана валам вышынёй каля 3,5 м. Пляцоўка з усходу на захад паніжаецца да 2 м. Культурны пласт у месцах шурфоўкі дасягае 0,3 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1035б.** Гарадзішча-2. За 0,8 км ад вёскі, з правага боку ад дарогі на Лахву, у лесе. Адкрыў і абследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын. Пляцоўка памерам 75×55 м, па краі ўмацавана валам вышынёй каля 3 м. Культурны



1034. *Праабражэнская царква.*

пласт у шурфах каля 0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1035в.** Гарадзішча-3. За 2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Князевы Горы. Адкрыў у 1964 г. Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1980 г. Т. С. Скрыпчанка. Плошча каля 2 га. Амаль круглае ў плане, крыху выцягнутае. З паўночнага ўсходу, поўначы і паўночнага захаду ўмацавана валамі вышынёй 3,5 м. Культурны пласт дасягае 0,15 м, у ім знойдзена ляпная кераміка. Шмат рэшткаў ляпной керамікі сабрана на паверхні.




**1035а.** *Гарадзішча-1. План.*




**1035б.** *Гарадзішча-2. План.*

Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*М. Ф. Гурын, Т. С. Скрыпчанка.*

**1036. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўскраіне вёскі, каля могілак. Пахаваны 937 мірных жыхароў, якіх расстралялі ў 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1037. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЯНКЕВІЧУ** Пятру Антонавічу (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1967 г. для ўвекавечання памяці ўраджэнца вёскі партызана П. А. Янкевіча, які загінуў 18.3. 1944 г. ў час разгрому нямецка-фашысцкага гарнізона ў в. Сінкевічы. Адна з вуліц вёскі названа яго імем.

**1038. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). У цэнтры вёскі на ўзгорку, непадалёку ад дарогі Лунінец — Мікашэвічы. Пабудавана ў 1818 г. з дрэва, перабудавана ў 1876 г., у канцы 19 ст. з заходняга боку прыбудавана трох'ярусная шатровая званіца.

Будынак крыжападобны ў плане. Да цэнтральнага васьміграннага аб'ёму з 4 бакоў прымыкаюць прамавугольныя ў плане зрубы алтара, бабінца і бакавых прыбудоў. Цэнтральны зруб мае двух'яруснае завяршэнне (васьмярык на чацверыку) з гранёнай галоўкай на барабане. Астатнія зрубы завершаны аднаяруснымі чацверыковымі вярхамі. Сцены гарызантальна ашаляваны, умацаваны лапаткамі і прарэзаны прамавугольнымі і лучковымі аконнымі праёмамі.

У інтэр'еры дамінуе трохсветлавое цэнтральнае памяшканне, з якім непасрэдна злучаюцца астатнія. Цэнтральны чацвярык падтрымліваецца 4 слупамі. Пераходы паміж ярусамі зрубаў зроблены пры дапамозе ветразяў. Значнае месца ў інтэр'еры займае разны арнаментальны скульптурны дэкор, выкананы народным майстрам-разьбяром І. Астапчыкам. Мастацкую каштоўнасць мае двух'ярусны пазалочаны іканастас, выкананы ў тэхніцы накладной разьбы. Цэнтральны алтар зроблены ў выглядзе двух'яруснага порціка.

Царква — помнік архітэктуры з рысамі мясцовай школы дойлідства, якая склалася пад уплывам стылю барока.

*А. К. Лявонава, Ю. А. Якімовіч.*




**1035в.** *Гарадзішча-3. План.*



**1038.** *Мікалаеўская царква. Фрагмент алтара.*



**1038.** *Мікалаеўская царква. Фрагмент інтэр'ера. Скульптура «Апостал Пётр».*



1038. *Мікалаеўская царква. План.*



1038. *Мікалаеўская царква. Бакавы фасад.*

**1039. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 161 савецкага воіна і партызана — ураджэнцаў сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Лахаўка, Лахвенскі сельсавет**

**1040. МАГІЛА МАКСІМОВІЧА** Васіля Іванавіча (гіст.). На могілках. Супрацоўнік міліцыі В. І. Максімовіч расстраляны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лахва, цэнтр сельсавета**

**1041. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Першамайскай, у скверы. Пахаваны 4 савецкія воіны і 11 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г.— ліпені 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**1042. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 100 м на паўднёвы ўсход ад канторы рыбгаса «Лахва». Пахаваны 197 мірных жыхароў — ахвяр фашызму і 283 савецкія ваеннапалонныя, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1043. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,4 км на ўсход ад канторы рыбгаса «Лахва». Пахаваны 1946 савецкіх грамадзян, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942 г. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1044. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На беразе р. Смердзь. Пабудавана ў 1880-я гады на месцы колішняга манастыра (17 ст.). Мураваная. Квадратны ў плане асноўны аб'ём з паўцыркульнай апсідай і 2 бакоўкамі злучаны з масіўнай шатровай званіцай. У багатай апрацоўцы фасадаў выкарыстаны высокія карнізы, падвоеныя паяскі, какошнікі, перспектыўныя парталы і іншыя элементы аздобы. Асноўны аб'ём завяршаецца вальмавым дахам з традыцыйным пяцігалоўем.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**1045. СЕЛІШЧА, КУРГАН** (археал.).

**1045а.** С е л і ш ч а. За 2 км ад вёскі, за балотам у лесе (урочышча Рыбуня) у напрамку да р. Прыпяць. Адкрыў і абследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын. Плошча каля 2 га. На незадзерваваных участках выяўлены дзесяткі фрагментаў ляпнога посуду са значным дабаўленнем жарствы. Трапляюцца кавалкі шлаку — адходы старажытнай металургіі жалеза. Месцамі культурны пласт таўшчынёй каля 0,2 м.



1039. *Помнік землякам.*



1044. *Прачысценская царква. План.*



1044. *Прачысценская царква.*




**1045а.** *Селішча. План.*

Селішча адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1045б.** Курган. За 0,3 км на паўночны захад ад будынка выканкома сельсавета, на сядзібе калгасніцы В. Дукарэц (раней тут быў курганны могільнік). Адкрыла і абследавала ў 1980 г. Т. С. Скрыпчанка. Насып круглай формы, дыяметрам каля 8 м, вышынёй каля 2 м. Курган злёгку аплыў, у цэнтры крыху пашкоджаны ямай шукальнікаў скарбаў. Раскопкі не праводзіліся.

*М. Ф. Гурын, Т. С. Скрыпчанка.*

**в. Лугі, Чучавіцкі сельсавет**

**1046. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы.

20.2.1943 г. ў час карнай аперацыі супраць партызан, гітлераўцы акружылі вёску, спалілі 106 двароў, расстралялі і спалілі жывымі 137 старых, жанчын і дзяцей. На ўшанаванне іх памяці, а таксама 31 аднавяскоўца, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах і ў партызанскай барацьбе, у 1979 г. пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Лунін, цэнтр сельсавета**

**1047. БАРЫСАГЛЕБСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі. Пабудавана ў 1824 г. з дрэва. Вылучаецца арыгінальным кампазіцыйным вырашэннем — спалучэннем прамавугольнага зруба званіцы з васьмігранным зрубам храма.

Помнік архітэктуры з рысамі класіцызму.

**1048. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Шлях да камунізма». Пахаваны 21 воін 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі і 3 партызаны з брыгады імя С. М. Кірава, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 12—13.7. 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Любань, Лахвенскі сельсавет**

**1049. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Залескай, каля Дома культуры. Пахаваны 6 савецкіх воінаў і партызан з брыгады імя С. М. Кірава, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні Лунінецкага р-на ў 1944 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск, якім ушанавана таксама памяць 101 земляка з калгаса «Новае Палессе», што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе.

**1050. МАГІЛА АНТАНОВІЧА** Івана Раманавіча (гіст.). На могілках. Старшыня Лахвенскага сельсавета І. Р. Антановіч у 1942 г. забіты нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1051. МАГІЛА ШЭЎЧЫКА** Івана Ігнатавіча (гіст.). На могілках. Намеснік старшыні мясцовага сельсавета І. І. Шэўчык у 1948 г. забіты ворагамі Савецкай улады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1052. МАГІЛА ШЭЎЧЫКА** Міхаіла Іванавіча (гіст.). На могілках. Старшыня мясцовага сельсавета М. І. Шэўчык у 1949 г. забіты ворагамі Савецкай улады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Любачын, Дварэцкі сельсавет**

**1053. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 108 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Чучавічы, Чучавіцкі сельсавет**

**1054. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 54 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мелясніца, Лунінскі сельсавет**

**1055. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

Раніцай 1.10.1943 г. атрад нямецка-фашысцкіх карнікаў загубіў 114 жыхароў вёскі і спаліў 74 двары. У 1964 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана у мемарыяльным комплексе Хатынь.

**рабочы пасёлак Мікашэвічы**

**1056. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Ленінскай, у скверы. Пахаваны 32 савецкія воіны, у т. л. воіны 23-й стралковай дывізіі 61-й арміі, якія загінулі ў баі 9.7.1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.




**1057.** *Помнік У. І. Леніну.*

**1057. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ленінскай, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1959 г.

**в. Мокрава, Сінкевіцкі сельсавет**

**1058. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі, каля чыгуначнага пераезда. Пахаваны 27 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**пас. Палескі, Лунінскі сельсавет**

**1059. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля цэнтральнай сядзібы Палескай доследна-меліярацыйнай станцыі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1978 г.

**в. Радзігерава, цэнтр сельсавета**

**1060. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Запаветы Ільіча». На ўшанаванне памяці 86 землякоў з гэтага калгаса, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ракітна, Дварэцкі сельсавет**

**1061. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 83 жыхары вёскі, расстра-



1059. *Помнік У. І. Леніну.*

ляныя 7.12.1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1966 г. на месцы расстрэлу і пахавання пастаўлены помнік — стэла з барэльефнай выявай старога, жанчыны і дзіцяці.

**в. Сінкевічы, цэнтр сельсавета**

**1062. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Пахаваны 27 савецкіх воінаў і 11 партызан атрада імя І. В. Сталіна брыгады імя С. М. Кірава, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Лунінецкім р-не ў 1942 г.— ліпені 1944 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1063. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Татарская магіла. За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе ва ўрочышчы Патаўсты Востраў. Адкрыў і абследаваў у 1980 г. М. Ф. Гурын. Паўсферычнай формы, дыяметр 15 м, вышыня 0,8 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1064. МАГІЛА КУЛАКЕВІЧА** Мікалая Апанасавіча (гіст.). На могілках. Член Сінкевіцкай падпольнай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі М. А. Кулакевіч (1924—44 гг.) загінуў у Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1065. МАГІЛА ПЯТРОВА** Дзмітрыя Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Член Сінкевіцкай падпольнай камсамольска-маладзёжнай арганізацыі Дз. М. Пятроў (1920—44 гг.) загінуў у Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1066. МЕСЦА БОЮ ПАРТЫЗАН** (гіст.). Чыгуначная станцыя Сінкевічы.

Напярэдадні 25-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі пінскія партызаны распрацавалі план знішчэння варожага гарнізона на чыгуначнай станцыі Сінкевічы і чыгуначнага моста цераз р. Лань. Вёска і станцыя былі ўмацаваны дзотамі і акопамі з хадамі зносін. Падыходы да іх прыкрываліся замініраванай агароджай з калючага дроту. На досвітку 30.10.1942 г. партызаны атрада «Пятровіча» (камандзір А. П. Савіцкі) і атрада імя М. Ц. Шыша (камандзір М. І. Герасімаў) напалі на варожы гарнізон. У ходзе бою, які працягваўся каля гадзіны, гарнізон быў поўнасцю разгромлены, знішчаны 74 гітлераўцы, разбураны станцыйнае абсталяванне, паліцэйскі ўчастак, камендатура. Партызаны ўзарвалі 70-метровы чыгуначны мост цераз р. Лань, спалілі маслабойню, пільню, эшалон з боепрыпасамі, 6 мастоў, з іх 2 чыгуначныя. У выніку рух на чыгуначным участку Лунінец — Калінкавічы быў спынены на 3 тыдні.

У 1963 г. на будынку станцыі ў памяць аб гэтым баі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1.— Мн., 1967.

*У. У. Бянько.*

**1067. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, на вул. Камсамольскай. На ўшанаванне памяці 100 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1978 г. ўстаноўлены помнік — на пастаменце камень з рэльефнай выявай галавы жанчыны.




1061. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*




1068. *Помнік камсамольцам-падпольшчыкам.*

**1068. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Завулак Ланьскі, у скверы. У перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі ў вёсцы з лета 1941 г. дзейнічала падпольная камсамольска-маладзёжная арганізацыя, у якую ўваходзіла 20 чалавек. Камсамольцы збіралі зброю, вялі разведку, рабілі дыверсіі на шашэйных дарогах і чыгунцы. Імі падарвана і пушчана пад адхон некалькі эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, знішчана больш за 20 нямецкіх афіцэраў. У лютым 1944 г. гітлераўцы высачылі падпольшчыкаў. Камсамольцы С. Буневіч, В. Губіч, У. М. Яроцкі і іншыя былі схоплены акупантамі і закатаваны. Астатнія падпольшчыкі прадаўжалі барацьбу з ворагам у партызанах, потым у Чырвонай Арміі.

На ўшанаванне памяці падпольшчыкаў у 1968 г. пастаўлена стэла.

*В. Л. Шаціла.*

**в. Сітніцкі Двор, Сінкевіцкі сельсавет**

**1069. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км ад вёскі, на ўзлеску каля дарогі Сінкевічы — Леніна. Пахаваны 380 жыхароў вёскі, якіх загубілі 12.11.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты.

8.11.1942 г. ў вёску ўварваўся атрад карнікаў. Партызаны атрада Пятровіча (пазней імя С. М. Кірава), лагер якіх знаходзіўся непадалёку ад вёскі, сустрэлі карнікаў агнём. Пад націскам ворага партызаны адступілі. У час бою частка жыхароў вёскі ўцякла ў лес. 12 лістапада карнікі расстралялі 100 сем'яў (380 чалавек), некаторых, у т. л. і дзяцей, гітлераўцы кідалі ў яму жывымі; спалілі 57 двароў.

У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**1070. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Пахаваны 21 партызан з брыгады імя С. М. Кірава Пінскага злучэння, якія загінулі ў 1942—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Цна, Гарадоцкі сельсавет**

**1071. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. 17 Верасня. На ўшанаванне памяці 55 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чарабасава, Радзігераўскі сельсавет**

**1072. МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, за 0,1 км ад чыгуначнага пераезда. Пахаваны члены падпольнай камсамольскай групы Р. Кужбар і былы ваеннаслужачы Чырвонай Арміі (прозвішча невядома), які, апынуўшыся ў тыле ворага, стаў падпольшчыкам, а таксама родныя Р. Кужбара (усяго 12 чалавек), расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г.



**1075.** *Праабражэнская царква. Выгляд з боку апсіды.*

Чарабасаўская камсамольская падпольная група — частка Сінкевіцкай камсамольска-маладзёжнай падпольнай арганізацыі. Дзейнічала з чэрвеня 1941 г. да ліпеня 1942 г. (сакратар групы А. П. Дунец). Падпольшчыкі збіралі зброю, боепрыпасы, вялі палітычную работу сярод насельніцтва па арганізацыі партызанскага атрада. Летам 1942 г. падпольшчыкі пайшлі ў партызаны.

У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Чырвоная Воля, Вулькаўскі сельсавет**

**1073. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 78 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Язвінкі, Дварэцкі сельсавет**

**1074. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 75 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1075. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1910 г. з дрэва. Трохзрубны храм з двух'яруснай званіцай над прытворам. Чатырохсценная апсіда мае невялікую шатровую прыбудову. Цэнтральны зруб і апсіда накрыты паўвальмавымі дахамі, званіца — высокім шатром. На даху цэнтральнага зруба — невялікая галоўка. Сцены будынка вертыкальна і гарызантальна ашаляваныя. Дэкор помніка ўключае разны аркатурны фрыз, паяскі карнізаў, накладныя разныя дэталі.

Царква — помнік народнага дойлідства з элементамі стылю «мадэрн».




# ЛЯХАВІЦКІ РАЁН

Навасёлкі
Святычы
Зарытава
Падлессе
Жарабковічы
Федзюкі
Конькі
Зубелевічы
ЛЯХАВІЧЫ
Нача
Русінавічы
Альхоўцы
Малое Гарадзішча
Ганчары
Завінне
Мінічы
Тальмінавічы
Савейкі
Галаўнінцы
Куршынавічы
Востраў
Крывошын
Ліпск
Заліпенне
Залужжа
Тухавічы
Навасёлкі
Свяціца

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Земляныя валы

## XV. ЛЯХАВІЧЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Ведзьма, левым прытоку р. Шчара. За 225 км на паўночны ўсход ад Брэста. Чыгуначная станцыя на лініі Баранавічы — Лунінец.



XV. *Вуліца Леніна.*

Упершыню Ляхавічы ўпамінаюцца ў дакументах 15 ст. Адносіліся да дзяржаўных уладанняў Вялікага княства Літоўскага. Мелі ў гэты час драўляныя ўмацаванні. У 1572 г. Жыгімонт II Аўгуст аддаў іх ва ўладанне магнату Вялікага княства Літоўскага Яну Хадкевічу. Пры ім пабудаваны бастыённы замак, вядомы пад назвай «Ляхавіцкая фартэцыя», які вытрымаў 8 аблог і быў адным з самых магутных умацаванняў не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Толькі зімою 1595—96 гг. яго 4 разы беспаспяхова штурмавалі казацкія загоны С. Налівайкі. Паводле гравюры 17 ст., Ляхавіцкі замак знаходзіўся на левым беразе р. Ведзьма, меў у плане форму чатырохвугольніка з вялікімі бастыёнамі і бруствер амі. Ён быў акружаны ровам шырынёй да 15 м, які напаўняўся вадой, для чаго на рацэ мелася плаціна. Уваход у замак быў праз мураваную абарончую браму з вежай, у верхняй частцы якой знаходзіўся гадзіннік. У глыбіні двара, насупраць брамы, стаяў П-падобны двухпавярховы мураваны палац. Злева і справа ўздоўж курцін размяшчаліся розныя гаспадарчыя службы. У 1658 г. на ўзбраенні замка было 30 гармат розных сістэм, шмат ручной агнястрэльнай зброі. У 1621 г. гаспадаром замка стаў Павел Ян Сапега, які з 1656 г. быў вялікім літоўскім гетманам. У час руска-польскай вайны 1654—67 гг. замак у 1660 г. вытрымаў шасцімесячную асаду. Горад 4 разы гарэў і быў зруйнаваны. Поўнаму спусташэнню падвергліся Ляхавічы ў Паўночную вайну 1700—21 гг., быў разбураны і замак. Нейкі час горад належаў віленскаму біскупу І. Масальскаму, у 1775 г. з прычыны вялікага абарончага значэння вернуты дзяржаве. Уваходзіў у Навагрудскі, з 1791 г.— Случарэцкі паветы. У 1793 г. горад перайшоў да магната С. Касакоўскага, упамінаецца як цэнтр графства. З гэтага ж года ў складзе Расіі, з 1795 г.— валасны цэнтр Слуцкага павета. У 1-й палавіне 19 ст. рэшткі замка прададзены гандлярам, якія разабралі яго муроўку і мураваныя пабудовы. Захаваліся сляды валоў і 15-метровыя аплыўшыя равы.



XV. *Жылыя дамы па вуліцы Леніна.*

Будаўніцтва лініі Палескіх чыгунак Сарны — Вільня дало штуршок эканамічнаму развіццю горада. Паводле перапісу 1897 г., у ім налічвалася 5016 жыхароў. У гэты час тут былі школа, бальніца, ганчарныя майстэрні, 30 крам, бровар. Штогод праводзіліся 3 вялікія кірмашы. У 1900 г. была пошта і 91 дробнае прамысловае прадпрыемства. У час Рэвалюцыі 1905—07 гг. адбываліся дэманстрацыі працоўных.

З 1915 г. Ляхавічы ў прыфрантавой палосе. 18.2.1918 г. акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. Пасля выгнання нямецкіх інтэрвентаў у снежні таго ж года створаны рэўком (старшыня — Я. М. Шклянік). 17.4. 1919 г. Ляхавічы захоплены войскамі буржуазнай Польшчы. У ліпені 1920 г. была адноўлена Савецкая ўлада, але неўзабаве Ляхавічы зноў акупіравалі польскія войскі.

Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г., Ляхавічы адышлі да буржуазнай Польшчы і да верасня 1939 г. ўваходзілі ў Баранавіцкі павет Навагрудскага ваяводства. Тут дзейнічаў падпольны райком КПЗБ. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Ляхавічы ўвайшлі ў склад Баранавіцкай вобл. З 15.1.1940 г. цэнтр раёна. У 1939 г. 5,1 тыс. чалавек.

У Вялікую Айчынную вайну Ляхавічы з 26.6.1941 г. да 6.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (верасень 1943 г.— ліпень 1944 г.) і ЛКСМБ (кастрычнік 1943 г.— ліпень 1944 г.), выдавалася газета «Савецкі патрыёт». 6.7.1944 г. войскі 1-га Беларускага фронту вызвалілі горад. З 8.1.1954 г. ў Брэсцкай вобл.

У 1972 г. ў Мінскім філіяле цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва распрацаваны генеральны план Ляхавіч, у 1973 г.— праект дэталёвай планіроўкі і забудовы цэнтральнай часткі горада. У аснову архітэктурна-прасторавай кампазіцыі пакладзены прынцып раскрыцця горада да ракі. На галоўнай вул. Леніна (частка шашы Баранавічы — Русінавічы) знаходзяцца будынкі саўгаса-тэхнікума, камбіната бытавога абслугоўвання, універмага. Да вул. Леніна прымыкаюць



XV. *Забудова вуліцы Леніна.*

пл. Перамогі і пл. Леніна — адміністрацыйна-грамадскі цэнтр Ляхавіч. Аблічча пл. Леніна фарміруюць Дом Саветаў, Дом сувязі і банк, Дом культуры. На вул. 17 Верасня пабудаваны рэстаран і кафэ, гасцініца, магазін. Цэнтр развіваецца ўздоўж вул. Леніна да поймы р. Ведзьма, дзе запраектаваны гарадскі парк.

Прамысловасць сканцэнтравана на паўднёвы ўсход ад асноўнай жылой тэрыторыі, у раёне чыгуначнай станцыі. У Ляхавічах працуюць заводы кансервавы і жалезабетонных вырабаў, эксперыментальны завод металічнай тары, філіял Баранавіцкага маслазавода, раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, лясгас, 6 будаўнічых арганізацый.

За апошнія гады значна павялічыўся жылы фонд, створана сетка навучальных, культурных і лячэбна-прафілактычных устаноў. У Ляхавічах 2 сярэднія, 1 вячэрняя, спартыўная і музычная школы, міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат, 2 бібліятэкі, кінатэатр, Дом піянераў і школьнікаў, 2 дашкольныя дзіцячыя ўстановы, бальніца. Выдаецца раённая газета «Будаўнік камунізму».

Зона адпачынку склалася каля рэк Ведзьма і Шчара.

*Літ.:* Грыцкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI — XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов).— Мн., 1975; Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII — XVIII стст.— Мн., 1978; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Gloger Z. Geografia historyczna ziem dawnej Polski.— Warszawa, 1900. *У. В. Алісейчык, М. А. Ткачоў, С. Ф. Цярохін.*

**1076. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На вул. Леніна. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



XV. *Ляхавіцкі замак. Рэканструкцыя паводле гравюры 17 ст.*

**1077. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На пл. Перамогі, у цэнтры горада. Пахаваны 244 воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў баях у 1941—44 гг. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі і 19-й механізаванай брыгады, што загінулі пры вызваленні Ляхавіч ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У пачатку ліпеня 1944 г. 54-я гвардзейская стралковая дывізія і 19-я механізаваная брыгада пад камандаваннем генерал-маёра М. М. Данілава і палкоўніка У. В. Яршова падышлі да Ляхавіч — моцнага пункта абароны праціўніка на Баранавіцкім напрамку. Гітлераўцы аказалі жорсткае супраціўленне. Падраздзяленні савецкіх войск абышлі ворага з флангаў, прарвалі яго абарону і ўварваліся ў горад, які пасля цяжкіх баёў 6 ліпеня быў поўнасцю вызвалены.

З лютага да ліпеня 1944 г. на тэрыторыі Ляхавіцкага р-на супраць гітлераўцаў змагалася 19-я партызанская брыгада імя В. М. Молатава (гл. артыкул № 1124 «Помнік у гонар 19-й партызанскай брыгады імя В. М. Молатава»).

У 1955 г. на магіле пастаўлены 2 помнікі — скульптурная група (2 воіны) і стэла. Да стэлы прымацаваны 5 мемарыяльных дошак, адна з якіх прысвечана 19-й партызанскай брыгадзе імя В. М. Молатава, на астатніх высечаны імёны пахаваных.

*Літ.:* Сообщения Советского Информбюро. Т. 7.— М., 1945. *М. А. Багушэвіч. Г. І. Дулеба.*

**1078. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. 17 Верасня, 7. На ўшанаванне памяці 5 супрацоўнікаў міліцыі, якія загінулі пры выкананні службовых абавязкаў, у 1957 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1079. РАДЗІМА ЕЎЛАШОЎСКАГА ФЁДАРА** (гіст.).

Беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік Ф. Еўлашоўскі нарадзіўся 7.2. 1546 г. ў небагатай шляхецкай сям'і. Першапачатковую адукацыю атрымаў дома. Шырокія веды па матэматыцы, справаводству, юрыспрудэнцыі і філасофіі таленавіты юнак набыў шляхам самаадукацыі. Карыстаўся вялікай павагай сучаснікаў, яго выбіралі на розныя грамадскія пасады, даручалі весці судовыя справы. У 1579 г. навагрудская шляхта накіравала Еўлашоўскага ў якасці павятовага пасла на Варшаўскі вальны сейм, дзе ён удзельнічаў у выпрацоўцы 3-й рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага. На сейме ў в. Цырын (Карэліцкі р-н) у 1592 г. абраны падсудкам (адвакатам) земскага суда ў Навагрудку, дзе працаваў да канца свайго жыцця.



1076. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

У поглядах на грамадска-палітычнае жыццё прытрымліваўся памяркоўнага лібералізму.

У гісторыю беларускай літаратуры Еўлашоўскі ўвайшоў як аўтар «Дзённіка», напісанага па багатых асабістых уражаннях, звязаных з яго дзейнасцю юрыста, а таксама жыццёвых назіраннях. «Дзённік» Фёдара Еўлашоўскага (апублікаваны ў 1886 г.) — самы ранні твор беларускай мемуарнай літаратуры, дае багаты матэрыял для характарыстыкі побыту, культуры, светапогляду беларускага шляхецкага саслоўя ў 16 ст.

Памёр Ф. Еўлашоўскі ў 1604 г.

*Літ.:* Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры / Скл. А. Ф. Коршунаў.— Мн., 1959; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1.— Мн., 1968. *М. М. Яніцкая.*

**в. Адахаўшчына, Федзюкоўскі сельсавет**

**1080. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. ў баях за вызваленне тэрыторыі Ляхавіцкага р-на ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Альхоўцы, цэнтр сельсавета**

**1081. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 жыхароў вёскі, расстраляных 6.7. 1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вадзяціна, Альхоўскі сельсавет**

**1082. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахава-



1084. *Помнік на брацкай магіле чырвонаармейцаў.*

ны гвардыі лейтэнант М. І. Цацын і невядомы воін, якія загінулі ў баях у 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вostраў, цэнтр сельсавета**

**1083. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1088. *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — службовыя флігелі; 3 — лядоўня; 4 — аранжарэя; 5 — стайні; 6 — дом аканома; 7 — свіран; 8 — бровар; 9 — гумно; 10 — псярня; 11 — майстэрня.*

**1084. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 6 чырвонаармейцаў 9-га пяхотнага палка, якія загінулі 25.3.1919 г. ў баі супраць польскіх інтэрвентаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гайнінец, Куршынавіцкі сельсавет**

**1085. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На будынку клуба.

У 1943—44 гг. у лесе каля в. Гайнінец базіраваўся партызанскі атрад імя С. Г. Лазо, які быў створаны ў красавіку 1943 г. Камандзіры атрада А. Ф. Астапаў, В. М. Каравы, камісар А. А. Адамаў. Спачатку знаходзіўся ў 27-й брыгадзе імя В. І. Чапаева партызанскага злучэння Слуцкай зоны. У верасні 1943 г. па распараджэнню Беларускага штаба партызанскага руху перабазіраваўся ў Ляхавіцкі р-н, дзе да студзеня 1944 г. дзейнічаў асобна, потым — у складзе 19-й партызанскай брыгады імя В. М. Молатава Баранавіцкага злучэння. Партызаны атрада імя С. Г. Лазо наносілі нямецка-фашысцкім акупантам удары на ўчастках чыгунак Баранавічы — Лунінец, Баранавічы — Слуцк, на шашэйных і грунтавых дарогах. З верасня 1943 г. да 10.7.1944 г. яны правялі больш за 90 баявых аперацый. 29.5.1944 г. на ўчастку чыгунак Баранавічы — Лунінец пусцілі пад адхон паравоз і 15 вагонаў з жывой сілай праціўніка, разбурылі 150 м чыгуначнага палатна, знішчылі семафор. Рух паяздоў быў спынены на 36 гадзін. Партызаны правялі шэраг адкрытых і засадных баёў, зрывалі мерапрыемствы акупацыйных улад, ратавалі мірнае насельніцтва ад загубы і вывазу на катаржныя работы ў Германію. 10.7.1944 г. атрад (172 партызаны) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

Мемарыяльная дошка ў гонар партызан атрада імя С. Г. Лазо ўстаноўлена ў 1960 г. *Г. І. Дулеба.*



1088. *Сядзібны дом.*



1088. *Сядзіба. Капліца. Бакавы фасад.*

**в. Гарадзішча, Ганчароўскі сельсавет**

**1086. ЗЕМЛЯНОЕ ЎМАЦАВАННЕ** (археал.). Мясцовая назва Горад. На левым беразе р. Свідроўка — прытока р. Шчара, за 0,25 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, каля моста.

Круглая ў плане пляцоўка дыяметрам 30 м з усіх бакоў абнесена валам і ровам. Вышыня вала 4 м, глыбіня рова 2 м. З паўночнага боку вал не захаваўся. Культурны пласт на пляцоўцы прасочваецца вельмі слаба. Больш выразны ён на вяршыні і ў разрэзах вала (вуголле і рэшткі ганчарнай керамікі). Выявіў у 1969 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1970 г. М. М. Чарняўскі. Адносіцца да позняга сярэднявечча.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. М. Чарняўскі.*

**в. Грушаўка, Нацкі сельсавет**

**1087. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пахаваны 40 воінаў, якія загі-



1088. *Сядзібны дом. План.*


1088. *Сядзіба. Капліца. План.*


1088. *Сядзіба. Стайня.*

нулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1088. СЯДЗІБА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Сфарміравалася ў 19 — пачатку 20 ст. Тэрыторыя сядзібы каля 14 га. Ансамбль уключае жылы дом, 2 бакавыя флігелі, бровар, капліцу і іншыя гаспадарчыя пабудовы, невялікі парк і пладовы сад з вадаёмам. Кампазіцыйнай воссю з'яўляецца цэнтральная алея, якой падпарадкавана размяшчэнне ўсіх пабудоў.

Сядзібны драўляны дом сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў. Цэнтральны ўваход вырашаны ў выглядзе вынасной тэрасы з балконам на разны́х слупах. Унутры прамавугольнага ў плане дома — вялікая зала, абапал якой размешчаны анфілады жылых памяшканняў. Над залай — мансардавы паверх, на які вядзе лесвіца ў левым крыле дома. Сцены ўнутры атынкаваныя і часткова размаляваныя. Будынак мае мураваныя склепы, высокі цокаль і крывалінейныя ў плане бакавыя сходы на галоўным фасадзе.

У баку ад сядзібнага комплексу, на ўзлеску, знаходзіцца капліца-пахавальня. Пабудавана ў стылі неаготыкі ў пачатку 20 ст. Будынак прамавугольны ў плане з трохграннай алтарнай часткай і высокім шчытом на галоўным фасадзе. Праёмы ў выглядзе стральчатых арак. Унутры — нервюрныя скляпенні. Пры ўваходзе ў капліцу размешчаны сходы ў склеп.

Сядзіба — прыклад развітага сядзібна-паркавага ансамбля, помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*


1089. *Курганны могільнік. План.*

### в. Гулічы, Жарабковіцкі сельсавет

**1089. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва К а п ц ы. Размешчаны за 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, недалёка ад хутара Міхалькі. Выявіў у 1969 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1970 г. М. М. Чарняўскі. 19 круглых у плане насыпаў, часткова пашкоджаны. Дыяметр 5—10 м, вышыня 1,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

### в. Дарава, Федзюкоўскі сельсавет

**1090. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля шашы Ляхавічы — Баранавічы. Пахаваны 35 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

### в. Жарабковічы, цэнтр сельсавета

**1091. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**1092. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 жыхароў вёскі, расстраляных летам 1941 г. гітлераўцамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

### в. Завінне, Малагарадзішчанскі сельсавет

**1093. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Па-


1090. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

17 Зак. 2447



**1091.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

хаваны 245 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, што ў пачатку ліпеня 1944 г. вызвалялі раён. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Залужжа, Крывошынскі сельсавет**

**1094. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ 20-й ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ В. С. ГРЫЗАДУБАВАЙ** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі ў лесе ў 1943—44 гг. дыслацыравалася 20-я партызанская брыгада імя В. С. Грызадубавай Баранавіцкага злучэння.

4.5.1943 г. Беларускі штаб партызанскага руху дэсантаваў у Любанскі р-н Мінскай вобл. ініцыятыўную групу (8 чалавек) на чале з маёрам Ц. М. Сухарукавым. З гэтай групы і 103 чалавек, вылучаных Мінскім і Палескім партызанскімі злучэннямі, Ц. М. Сухарукаў стварыў атрад. На яго базе ў ліпені 1943 г. створаны атрады імя А. М. Матросава, імя М. Ф. Сільніцкага, імя В. П. Чкалава, імя Ф. С. Чарнова, «За Радзіму», аб'яднаныя ў брыгаду імя В. С. Грызадубавай (са студзеня 1944 г.— 20-я партызанская брыгада імя В. С. Грызадубавай). У верасні 1943 г. яна прыбыла на месца дыслакацыі ў Быценскім р-не Баранавіцкай вобл. У кастрычніку 1943 г. налічвала 5 атрадаў (каля 300 чалавек). На дзень злучэння з Чырвонай Арміяй 12.7.1944 г. яднала 6 атрадаў (762 партызаны). Камандзіры брыгады Ц. М. Сухарукаў (ліпень — верасень 1943 г.), С. С. Жарыкаў (выконваючы абавязкі, верасень — кастрычнік 1943 г.), В. З. Іваноў (кастрычнік 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары М. І. Засмужац (выконваючы абавязкі, жнівень — кастрычнік 1943 г.), В. З. Іваноў (кастрычнік 1943 г.), Р. Дз. Румянцаў (лістапад 1943 г.— май 1944 г.), І. Я. Пархоўчанка (май — ліпень 1944 г.).

20-я партызанская брыгада імя В. С. Грызадубавай дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Быценскага, Ляхавіцкага і сумежных з імі раёнаў. Яна праводзіла дыверсіі на чыгуначных лініях ад Баранавіч на Брэст, Мінск, Лунінец, на шашэйных і грунтавых дарогах. Партызаны па заданню камандавання Чырвонай Арміі займаліся разведкай, правялі шэраг адкрытых і засадных баёў, удзельнічалі ў аперацыі «Рэйкавая вайна». Яны пусцілі пад адхон 30 чыгуначных эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, збілі 4 самалёты, разбурылі больш за 20 мастоў на шашэйных і грунтавых дарогах, чыгунках, падарвалі больш як 1670 рэек, знішчылі 27 аўтамашын. Пасля злучэння з Чырвонай Арміяй партызаны ўдзельнічалі ў вызваленні Быценскага р-на.

У 1967 г. на месцы дыслакацыі брыгады адноўлена зямлянка.

*Г. І. Дулеба.*

**1095. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1096. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У гонар 20-й партызанскай брыгады імя В. С. Грызадубавай, якая ў 1943—44 гг. базіравалася ў лесе за 2 км на захад ад в. Залужжа, у 1975 г. пастаўлена стэла (гл. таксама артыкул № 1094 «Месца дыслакацыі 20-й партызанскай брыгады імя В. С. Грызадубавай»).

**в. Зарытава, Жарабковіцкі сельсавет**

**1097. МАГІЛА КУХАРЧЫКА** Майсея Амбросавіча (гіст.). На старых могілках.

Герой Грамадзянскай вайны М. А. Кухарчык нарадзіўся ў 1890 г. Скончыў Пецярбургскую школу юнгаў. Служыў на Балтыйскім флоце. У 1917 г. Кухарчык быў унтэр-афіцэрам лінкора «Петрапаўлаўск». Лютаўскую рэвалюцыю 1917 г. ўспрыняў з бальшавіцкіх пазіцый, стаў барацьбітом за сацыялістычную рэвалюцыю.

У Грамадзянскую вайну накіраваны на Брэстчыну для арганізацыі падпольнай і партыз. барацьбы з ворагам. У 1919 г. стварыў і ўзначаліў партызанскі атрад (140 байцоў). Атрад дзейнічаў пад Ляхавічамі. Партызаны праводзілі дыверсіі, зрывалі мерапрыемствы акупацыйных улад. Буйной аперацыяй, якую ў маі 1919 г. паспяхова правялі партызаны, быў налёт на штаб польскага кавалерыйскага палка ў в. Фляр'янава Навасёлкаўскага сельсавета. 5.6.1919 г. коннікі-разведчыкі, сярод якіх знаходзіўся М. А. Кухарчык, патрапілі на засаду. Варожая куля абарвала жыццё мужнага барацьбіта за Савецкую ўладу.

У 1965 г. на магіле М. А. Кухарчыка пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*А. С. Барысавец.*

**в. Канюхі, Жарабковіцкі сельсавет**

**1098. МАГІЛА КІЧЫЛЫ** Марціна Юльянавіча (гіст.). На могілках. Удзельнік Грамадзянскай вайны М. Ю. Кічыла 4.5.1919 г. расстраляны белапольскімі акупантамі. На магіле пастаўлены абеліск.

**в. Краглі, Навасёлкаўскі сельсавет**

**1099. РАДЗІМА РАВІНСКАГА** Платона Фёдаравіча (гіст.). П. Ф. Равінскі — актыўны ўдзельнік барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады на Беларусі, партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР.

Нарадзіўся 23.11.1892 г. ў сялянскай сям'і. У 1909 г. ў пошуках работы выехаў у ЗША. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ў Расіі. Член КПСС з 1917 г. У час акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі з красавіка да лістапада 1918 г. старшыня Бабруйскага падпольнага камітэта РКП(б), адначасова з жніўня 1918 г. член Краявога камітэта камуністычных арганізацый Беларусі і Літвы. Пасля выгнання нямецкіх акупантаў узначальваў Бабруйскія павятовыя рэўком, выканком Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. У час польскай інтэрвенцыі начальнік аддзела Рэўваенсавета 16-й арміі. У 1920 г. старшыня Барысаўскага павятовага рэўкома, Бабруйскага павятовага камітэта партыі. З канца 1921 г. ў Наркамземе БССР: начальнік упраўлення і член калегіі. У 1924—26 гг. на партыйнай рабоце ў Бабруйску. Скончыў Камуністычны універсітэт імя Я. М. Свярдлова ў Маскве (1930 г.), працаваў загадчыкам аддзела ЦКК — НК РСІ БССР. У 1933—35 гг. сакратар Магілёўскага гаркома і райкома КП(б)Б. У 1936—37 гг. у Наркамаце лясной прамысловасці Беларусі. Член ЦКК і Прэзідыума ЦКК у 1933—34 гг., член ЦК КП(б)Б у 1934—37 гг. Член ЦВК БССР у 1920—21 гг., 1931—37 гг. Быў дэлегатам VII Усесаюзнага з'езда Саветаў (1935 г.). П. Ф. Равінскі памёр 19.11.1940.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Крывошын, цэнтр сельсавета**

**1100. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 57 савецкіх воінаў і 2 партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**1101. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 6 жыхароў в. Залужжа Ляхавіцкага р-на, якіх у маі 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупан-

ты. На магіле ў 1978 г. ўстаноўлена пліта.

**1102. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РЭЎКОМА** (гіст.). Устаноўлена ў 1980 г. на доме, дзе працаваў рэўком. Цяпер у будынку знаходзіцца аптэка абласной бальніцы.

Крывошынскі валасны рэвалюцыйны камітэт (рэўком) дзейнічаў (з перапынкам) з лістапада 1918 г. да верасня 1920 г. Ён ажыццяўляў дэкрэты Савецкай улады, устанаўліваў рэвалюцыйны парадак, змагаўся з контррэвалюцыйнымі элементамі на тэрыторыі Крывошынскай воласці (гл. таксама артыкул № 1103 «Месца стварэння рэўкома»).

**1103. МЕСЦА СТВАРЭННЯ РЭЎКОМА** (гіст.). Дом у цэнтры вёскі. Цяпер у будынку размешчаны дзіцячы сад.

Крывошынскі валасны рэўком быў створаны ў лістападзе 1918 г. Дзейнічаў (з перапынкам) да верасня 1920 г. На доме, дзе ён быў арганізаваны, у 1980 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка (гл. таксама артыкул 1102 «Мемарыяльная дошка ў гонар рэўкома»).

**1104. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 1670 г. з цэглы як касцёл езуітаў, у 1863 г. перароблены на праваслаўную царкву. У 1869 г. часткова рэканструявана: у цэнтры сярэдняга нефа ўзведзены купал, на галоўным фасадзе — вежа-званіца, заменена дэкаратыўная аздоба фасада.

Будынак — трохнефавая васьміслуповая базіліка з паўкруглай апсідай, роўнай па вышыні з цэнтральным нефам. Галоўны фасад вылучаюць 2 двух'ярусныя вежы, дэкарыраваныя трохвугольнымі франтонамі. Паміж вежамі — высокая васьмігранная званіца з шатровым пакрыццём і галоўкай. У цэнтры фасада вылучаецца паўцыркульны франтон. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуе купал на цыліндрычным барабане, які апіраецца на чацвярык. У інтэр'еры сярэдні неф, у 2 разы шырэйшы за бакавыя, пераходзіць у апсіду. Бакавыя нефы маюць стральчатыя скляпенні, цэнтральны — крыжовыя. Пры ўваходзе — хоры, якія апіраюцца на 2 слупы. У інтэр'еры захаваліся дэкаратыўная аздоба (пілястры, прафіляваныя цягі, ляпныя дэталі) і творы выяўленчага мастацтва 17—18 стагоддзяў.

Царква — помнік архітэктуры барока з элементамі псеўдарускага стылю. *А. Я. Міцянін.*

**в. Куршынавічы, цэнтр сельсавета**

**1105. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км ад вёскі, за чыгуначным пераездам, справа ад дарогі на в. Гайнінец, у лесе. 26 круглых насыпаў дыяметрам ад 4 да 10 м, вышынёй 0,8—1,3 м. Каля асновы кurганоў прасочаны канаўкі глыбінёй 0,2 м. Выявіў і абследаваў у 1969 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1981 г. А. М. Мядзведзеў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ліпск, Крывошынскі сельсавет**

**1106. МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 партызаны і 9 жыхароў вёскі, якія былі расстраляны 14.1. 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Мінічы, Ганчароўскі сельсавет**

**1107. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у бары, каля шашы Брэст — Бабруйск.

Насыпаны ў 1967 г. на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі 3-га гвардзейскага стралковага корпуса 28-й арміі 1-га Беларускага фронту і партызан, якія загінулі ў баях за свабоду і незалежнасць нашай Радзімы. На вяршыні Кургана пастаўлены абеліск з памятным надпісам па мармуровай дошцы. Пляцоўка вакол Кургана абнесена ланцугом на слупах. Па стромкім схіле Кургана пракладзена бетонная лесвіца. *М. А. Багушэвіч.*

**в. Мядзведзічы, Ганчароўскі сельсавет**

**1108. ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны з цэглы ў 1908 г. Аднавежавая трохнефавая базіліка. Цэнтральны неф падоўжаны пяцігранный алтарнай часткай. З 2 бакоў да яе прылягаюць рызніцы. Галоўны фасад мае ступеньчатую ярусную будову. Уступы па баках фасада згладжаны валютамі. Нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, упрыгожанымі дэкаратыўным арнаментам. Прыклад эклектычнай архітэктуры.

**в. Набярэжная, Ганчароўскі сельсавет**

**1109. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на мысе правага берага р. Шчара. Пляцоўка 34×27 м, авальнай формы. Прасочваецца вал вышынёй 1,5 м і роў глыбінёй 0,5 м. Вал разарваны ў 3 месцах уваходамі: 2 уваходы з боку Шчары і 1 з боку поля. Частка пляцоўкі пашкоджана акопамі. Абарончыя збудаванні прымыкаюць да самага абрыву і ўзнімаюцца над Шчарай на вышыню каля 10 м. Выявіў і абследаваў у 1969 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1981 г. А. М. Мядзведзеў. Пры зачыстцы сцен акспаў знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі. Адносіцца да раннефеадальнага перыяду (10—13 стагоддзі).

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. В. 2.— Мн., 1971. *А. М. Мядзведзеў.*



**1107.** *Курган Славы.*



**1104.** *Пакроўская царква. План.*



**1104.** *Пакроўская царква.*



1111. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Навасёлкі, Крывошынскі сельсавет**

**1110. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,25 км на захад ад вёскі, злева ад лясной дарогі, што перасякае вузкакалейку. Выявіў у 1965 г. П. Ф. Лысенка, абследаваў у 1970 г. М. М. Чарняўскі. У групе было 6 курганоў, выцягнутых у лінію на адлегласці 10—20 м адзін ад аднаго. Захаваліся 2 паўсферычныя, здзірванелыя курганы (вышыня 1,5 м, дыяметр 10 м). Раскопкі не праводзіліся.



1108. *Петрапаўлаўскі касцёл.*

**в. Навасёлкі, цэнтр сельсавета**

**1111. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 58 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. Сярод іх — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі, што загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1112. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 64 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Нача, цэнтр сельсавета**

**1113. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1810—15 гг. Ансамбль сядзібы мае рэгулярную планіроўку з мураваным палацам ў цэнтры, абапал якога размешчаны гаспадарчыя пабудовы. За палацам разбіты пейзажны парк, злучаны з садам і з захаду абмежаваны вадаёмам.

Прамавугольны ў плане аднапавярховы палац мае развіты цокальны паверх і накрыты двухсхільным дахам. Пазней да тарцоў будынка прыбудаваны мураваныя тэрасы. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны шасцікалонным порцікам з драўляным франтонам. На дваровым фасадзе порціку адпавядае плоскі рызаліт. Прамавугольныя аконныя праёмы ў цэнтры маюць стральчатыя абрамленні, а ў бакавых частках — сандрыкі.

Планіроўка паверха анфіладная (цяпер зменена). У цэнтральнай частцы размешчаны вестыбюль і парадная зала, над якімі знаходзіцца мансардавы паверх. Цокальны паверх, дзе размяшчаліся службовыя пакоі, мае калідорную планіроўку з самастойнымі ўваходамі пад тэрасамі.

Сядзіба — помнік архітэктуры позняга класіцызму з элементамі псеўдаготыкі. *А. М. Кулагін.*



1108. *Петрапаўлаўскі касцёл. План.*



1112. *Помнік землякам.*

**в. Падлессе, цэнтр сельсавета**

**1114. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 139 воінаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941 і 1944 гг. У іх ліку — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі і 19-й механізаванай брыгады,



1108. *Петрапаўлаўскі касцёл. Цэнтральны алтар.*



**1113.** *Сядзібны дом. Галоўны фасад.*

якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі Ляхавіцкага р-на. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1115. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля клуба. Скульптура У. І. Леніна пастаўлена ў 1966 г.

**1116. СВЯТАДУХАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 18 ст. з дрэва.



**1113.** *Сядзібны дом. План.*



**1113.** *Сядзібны дом. Дваровы фасад.*

Будынак складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і выцягнутай пяціграннай апсіды, да якой з падоўжных бакоў прыбудаваны невялікія рызніцы. Усе аб'ёмы аб'яднаны двухсхільным гонтавым дахам. Галоўны заходні фасад вырашаны ў выглядзе шасцікалоннага порціка, завершанага трапецападобным франтонам. Порцік і апсіда завершаны гранёнымі фігурнымі вежачкамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны брусамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Дзвярны праём на галоўным фасадзе мае паўцыркульнае завяршэнне. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае з падшыўной столлю. Над уваходам размешчаны хоры, упрыгожаныя балюстрадай.

Царква — прыклад традыцыйнай драўлянай культавай пабудовы, у архітэктуры якой выкарыстаны элементы класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Падсаколле, Малагарадзішчанскі сельсавет**

**1117. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 29 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 54-й гвардзейскай стралковай дывізіі 28-й арміі, што за-




**1113.** *Сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — службовы флігель; 3 — гаспадарчая пабудова; 4 — стайня.*



**1113.** *Сядзіба. Алея ў парку.*



1116. *Святадухаўская царква.*



1116. *Святадухаўская царква. План.*

гінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Падсаколля. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Паўлюкоўшчына, Нацкі сельсавет**

**1118. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 20 савецкіх грамадзян, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Рагачы, Востраўскі сельсавет**

**1119. МАГІЛА КУЧАРЭНКІ** А. А. (гіст.). На могілках. Савецкі лётчык А. А. Кучарэнка загінуў 23.6.1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1118. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



1120. *Парк «Савейкі». Будынак санаторыя.*

**в. Савейкі, Куршынавіцкі сельсавет**

**1120. ПАРК «САВЕЙКІ»** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Закладзены ў 1850 г., плошча каля 10 га. Належыць санаторыю «Савейкі».

Парк пейзажнага тыпу высаджаны на 2 тэрасах. Цэнтр паркавай кампазіцыі вылучаны жылым корпусам санаторыя. Перад галоўным фасадам будынка разбіты партэр, акружаны дрэвамі мясцовых лісцевых парод. Перад паўночна-заходнім фасадам адкрываецца перспектыва на цэнтральную паляну парку, вакол якой густы масіў дрэў і сістэма вадаёмаў. Вялікія і малыя вадаёмы злучаны пратокамі, цераз якія пабудаваны арачныя масткі з бутавага каменю. Уздоўж вадаёмаў і кальца перыметральных пасадак — прагулачныя маршруты. У стварэнні паркавых курцін выкарыстана каля 25 відаў дрэў і кустоў: елка, ясень звычайны суцэльналісты, вярба белая, арэх шэры, каштан конскі, лістоўніца еўрапейская, бэз венгерскі, бузіна чорная, акацыя жоўтая і інш.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. П. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*



1120. *Парк «Савейкі». Сажалка.*



1120. *Парк «Савейкі». Схема планіроўкі.*



1120. *Парк «Савейкі». Алея.*

1121. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі санаторыя «Савейкі». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**в. Сваятычы, Жарабковіцкі сельсавет**

1122. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 25 аднавяскоўцаў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Свяціца, Крывошынскі сельсавет**

1123. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

1124. **ПОМНІК У ГОНАР 19-й ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ В. М. МОЛАТАВА** (гіст.). У цэнтры вёскі.

19-я партызанская брыгада імя В. М. Молатава створана ў студзені 1944 г. на базе атрадаў імя С. Г. Лазо, імя Г. К. Жукава і імя М. І. Кутузава Баранавіцкага партызанскага злучэння. Вяла барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Ляхавіцкага р-на. З лютага да ліпеня 1944 г. базіравалася ў лесе каля в. Свяціца. Камандзіры В. І. Каробкін (студзень — май 1944 г.), Я. П. Луцэнка (май — ліпень 1944 г.), камісар С. К. Дзесюкевіч. Партызаны праводзілі баявыя аперацыі на варожых камунікацыях, галоўным чынам на ўчастках чыгункі Баранавічы — Івацэвічы, Баранавічы — Лунінец, на шашэйных і грунтавых дарогах. Толькі з красавіка да ліпеня 1944 г. знішчылі і пашкодзілі больш за 30 аўтамашын, пусцілі пад адхон 14 чыгуначных эшалонаў праціўніка, правялі шэраг адкрытых і засадных баёў з акупантамі. У час аперацыі «Рэйкавая вайна» 20.6.1944 г. падарвалі больш за 460 рэек. 10.7.1944 г. брыгада злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. На дзень злучэння ў ёй былі 3 атрады (560 партызан).

У 1975 г. ў гонар 19-й партызанскай брыгады імя В. М. Молатава пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**в. Туркі, Федзюкоўскі сельсавет**

1125. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пахаваны 17 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Тухавічы, Востраўскі сельсавет**

1126. **БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Улазавічы, Падлескі сельсавет**

1127. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ураджайная, Навасёлкаўскі сельсавет**

1128. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Яцкаўшчына, Жарабковіцкі сельсавет**

1129. **КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, па дарозе на г. Клецк. Вышыня 2 м, дыяметр 9,5 м. Выявіў у 1965 г. П. Ф. Лысенка, абследаваў у 1970 г. М. М. Чарняўскі. Раскопкі не праводзіліся.

# МАЛАРЫЦКІ РАЁН




Чарняны
Дарапеевічы
Масевічы
Вялікарыта
Лукава
Макраны
Гвозніца
МАЛАРЫТА
Ляхаўцы
Збураж
Хацíслаў
Радзеж
Ланская
Олтуш
Арэхава

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Культавая архітэктура

## XVI. МАЛАРЫТА

Горад, цэнтр раёна. За 52 км на паўднёвы ўсход ад Брэста. Чыгуначная станцыя на лініі Брэст — Ковель.

Упамінаецца ў 1566 г. ў рэвізіі Берасцейскага староства як каралеўская вёска Рыта Малая Палескай воласці; была ў складзе Берасцейскага павета і ваяводства Вялікага княства Літоўскага.

У 1795 г. ў выніку 3-га падзелу Рэчы Паспалітай Маларыта ўвайшла ў склад Расіі, сяло ў Брэсцкім павеце Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1897 г. тут было 1275 жыхароў, 203 двары, сельскае народнае вучылішча. Працавалі 2 лесапільні (у 1914 г.— 41 рабочы), шпалапрапітны завод (20 рабочых), цагельня (4 рабочыя), вятрак.

У 1-ю сусветную вайну Маларыта была акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Брэсцкага павета Палескага ваяводства. Тут дзейнічаў падпольны райком КПЗБ. 4.3.1935 г. адбылася забастоўка рабочых лесапільняў. Пасля ўз'яднання ў 1939 г. Заходняй Беларусі з БССР Маларыта ў складзе Брэсцкай вобл. З 15.1.1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны з 22 да 27.6. 1941 г. Маларыту гераічна абаранялі часці 75-й стралковай дывізіі пад камандаваннем генерал-маёра С. І. Нядвігіна, асобныя падраздзяленні дывізіі вялі баі ў раёне Маларыты да пачатку ліпеня 1941 г. У канцы чэрвеня 1941 г. Маларыта акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія знішчылі ў гарадскім пасёлку 1200 жыхароў. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (з 2.10.1943 г. да 25.3. 1944 г.) і ЛКСМБ (з 28.11.1943 г. да 20.7.1944 г.), якія ўзначальвалі барацьбу з акупантамі. Маларыта вызвалена 20.7.1944 г. часцямі 70-й арміі (камандуючы генерал-палкоўнік В. С. Папоў) 1-га Беларускага фронту сумесна з партызанамі брыгады імя У. І. Леніна (камандзір В. В. Каткоў). З 25.12. 1962 г. да 6.1.1965 г. г. п. Маларыта ў складзе Брэсцкага р-на. З 1970 г. горад.

Першы пасляваенны генеральны план Маларыты, распрацаваны ў 1959 г. ў Брэсцкіх абласных праектных майстэрнях, упарадкаваў квартальную сістэму планіроўкі і намеціў капітальную забудову цэнтральнай часткі. Паводле новага генеральнага плана 1974 г., распрацаванага ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, рост горада вызначаны ў паўночна-заходнім напрамку ўздоўж чыгункі.

На перакрыжаванні асноўных магістралей — вуліц Леніна і Савецкай — склаўся грамадска-адміністрацыйны цэнтр, ансамбль якога фарміруюць будынкі Дома Саветаў, Дома культуры, універмага, рэстарана, кінатэатра, пошты-тэлеграфа, кааператыўнага вучылішча. Панараму забудовы дапаўняюць шматпавярховыя жылыя дамы.

Асноўныя прадпрыемствы: агароднінасушыльны завод, філіял Брэсцкага малочнага камбіната, хлебазавод. Працуюць раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання.

Зона адпачынку — на беразе р. Маларыта, дзе ў 1970-я гады закладзены парк.

У горадзе дзейнічаюць сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, кааператыўнае вучылішча, 2 сярэднія, дзіцяча-юнацкая спартыўная і музычная школы, Дом культуры, 2 бібліятэкі, 4 дзіцячыя дашкольныя ўстановы, кінатэатр, Дом піянераў і школьнікаў, бальніца. Выдаецца газета «Сельскае жыццё».

Устаноўлены помнікі на брацкай магіле танкістаў, што загінулі пры вызваленні Заходняй Беларусі ў 1939 г., на магіле ахвяр фашызму, на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.



XVI. *Вуліца Савецкая.*



XVI. *Цэнтральная плошча.*



XVI. *Будынак універмага.*



**XVI.** *Від на горад з цэнтральнай плошчы.*

*Літ.:* Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии: Краткий экономический очерк.— Мн., 1967; Описание староства Берестейского 1566 года.— У кн.: Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897, т. 1; Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Сандалов Л. М. На московском направлении.— М., 1970.

*У. В. Алісейчык, Э. М. Савіцкі.*

**1130. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЙНЫХ І САВЕЦКІХ РАБОТНІКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 чалавек — работнікаў партыйных, савецкіх, гаспадарчых устаноў Маларыты і раёна, якія загінулі ў 1946—50 гг. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1979 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**1131. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада, у скверы па вул. Савецкай. Пахаваны 151 воін 70-й арміі і партызан брыгады У. І. Леніна, якія загінулі ў баях за вызваленне г. Маларыта і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У ходзе Люблінска-Брэсцкай аперацыі часці 70-й арміі (камандуючы генерал-палкоўнік В. С. Папоў) 1-га Беларускага фронту разграмілі ў раёне Маларыты моцную групоўку праціўніка і сумесна з партызанамі брыгады імя У. І. Леніна 20.7.1944 г. вызвалілі Маларыту ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік (скульпт. Д. Фішар, арх. В. Асакоўскі; бетон; вышыня скульптурнай групы 3 м, пастамента 4,4 м). Помнік — скульптурная кампазіцыя на вертыкальным васьмігранным пастаменце. Фігуры 2 воінаў і жанчыны з суровымі тварамі, са зброяй у руках — абагульнены вобраз абаронцаў Радзімы. Кампазіцыя замкнута з поўначы бетонным блокам. Да пастамента прымыкае невысокая трапецападобная стэла, на якой прозвішчы (вядомыя) пахаваных савецкіх воінаў і партызан. Помнік ушаноўвае таксама памяць 56 жыхароў Маларыты, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

*М. М. Казлоўская, Л. Г. Лапцэвіч.*



**1131.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1132. БРАЦКАЯ МАГІЛА ТАНКІСТАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 савецкія танкісты, якія загінулі ў баі 28.9.1939 г. пры вызваленні Заходняй Беларусі. Сярод іх — камандзір 411-га асобнага танкавага батальёна 52-й стралковай дывізіі Цімафей Гаўрылавіч Несянюк. Яго імем названа вуліца ў Маларыце. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

**1133. КУРГАН СЛАВЫ** * (гіст.). За 6 км на паўднёвы захад ад горада, ва ўрочышчы Мелавая Гара.

Напярэдадні Айчыннай вайны ў Маларыцкім р-не дыслацыравалася 75-я стралковая дывізія (камандзір генерал-маёр С. І. Нядвігін) 4-й арміі. 22.6.1941 г. нямецка-фашысцкія часці, прарваўшы абарончы рубеж, выйшлі на подступы да Маларыты. Каля в. Збураж баявую пазіцыю заняў 115-ы стралковы полк. Каля Мелавай Гары бой з гітлераўцамі вёў 235-ы артылерыйскі полк, які расстрэльваў прамой наводкай варожыя танкі. У ноч на 23 чэрвеня воіны дывізіі занялі абарону на паўднёвай і заходняй ускраінах Маларыты. 23 чэрвеня, калі наступленне ворага ўзмацнілася, 115-ы стралковы полк прыкрываў адыход дывізіі. Часці дывізіі ўтрымлівалі свае пазіцыі каля вёсак Замшаны і Гарохавічы. 24 чэрвеня нямецкія войскі акружылі дывізію. Амаль тыдзень у надзвычай цяжкіх умовах яна вяла баі ў раёне вёсак Ляхаўцы,

Макраны. 27 чэрвеня асноўныя сілы дывізіі прарвалі варожае кальцо і з баямі адышлі ў напрамку воз. Лукава. Падраздзяленні, якія прыкрывалі выхад асноўных сіл, змагаліся ў раёне Маларыты да пачатку ліпеня, потым невялікімі групамі выходзілі на злучэнне з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1969 г. на магіле 76 воінаў 75-й стралковай дывізіі насыпаны Курган. У яго стромкі схіл урэзана мазаічнае пано з выявай рукі, што сціскае аўтамат. Мазаіка выкапана з каляровай цэглы. Перад Курганам запалены Вечны агонь.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Сандалов Л. М. На московском направлении.— М., 1970.
*І. Р. Зюзькоў, М. М. Слепакова.*



**1133.** *Курган Славы.*

**1134. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У двары канторы саўгаса «Маларыцкі». Тут у 1941—44 гг. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 2800 жыхароў г. п. Маларыты і Маларыцкага р-на. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1135. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АЛЕСІКУ** Аляксею Навумавічу (гіст.). Вул. Савецкая, 18.

Актыўны ўдзельнік барацьбы за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. А. Н. Алесік нарадзіўся ў в. Мікольскае Олтушскага сельсавета ў 1915 г. У 1940—41 гг. працаваў участковым упаўнаважаным Маларыцкага раённага аддзялення міліцыі. Загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 23.1.1942 г. каля в. Хлуднева Калужскай вобл. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Леніна.

У 1980 г. на ўшанаванне яго памяці на будынку раённага аддзела ўнутраных спраў устаноўлена мемарыяльная дошка.

**1136. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БУГАЁВАЙ** Марыі Іосіфаўне (гіст.). Вул. Савецкая, 50.

М. І. Бугаёва нарадзілася ў 1909 г. ў в. Буды Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. Настаўнічала ў Гомельскай і Віцебскай абласцях. У 1939 г. скончыла Віцебскі педінстытут, працавала завучам сярэдняй школы Маларыты. У Вялікую Айчынную вайну М. І. Бугаёва — адзін з арганізатараў Маларыцкай падпольнай антыфашысцкай групы, якая дзейнічала з жніўня 1941 г. Арыштавана гестапа ў студзені 1943 г. Закатавана ў жніўні 1943 г.

У 1978 г. на ўшанаванне яе памяці на будынку сярэдняй школы № 1 устаноўлена мемарыяльная дошка.
*В. М. Баскова.*

**1137. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЙНЫМ І САВЕЦКІМ РАБОТНІКАМ** (гіст.). Вул. Чырвонаармейская, 3.

У 1944—50 гг. у барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады загінулі 19 работнікаў партыйных, савецкіх, гаспадарчых устаноў, супрацоўнікаў міліцыі і актывістаў Маларыцкага р-на. У 1968 г. на ўшанаванне іх памяці на будынку райкома КПБ устаноўлена мемарыяльная дошка.

**1138. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САЎЧУКУ** Канстанціну Фамічу (гіст.). Вул. Чырвонаармейская, 6.

К. Ф. Саўчук нарадзіўся ў 1893 г. ў г. Бяла Падляска (ПНР) у сялянскай сям'і. Удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. За рэвалюцыйную дзейнасць супраць буржуазна-памешчыцкага ладу ў Польшчы ў 1934 г. быў зняволены ў турму. У Вялікую Айчынную вайну да 1944 г. ў Чырвонай Арміі, на фронце быў двойчы паранены. З 1944 г. загадчык Маларыцкай цэнтральнай раённай дзяржаўнай ашчаднай касы.



**1134.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

10.5.1946 г. забіты ворагамі Савецкай улады на сходзе ў в. Сушытніца Хаціслаўскага сельсавета.

У 1979 г. на будынку Маларыцкай цэнтральнай раённай дзяржаўнай ашчаднай касы на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка.
*В. М. Баскова.*

**1139. МЕСЦА БОЮ ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). У раёне чыгуначнай станцыі. У час савецка-польскай вайны тут 7.9.1920 г. ў баі з часцямі польскіх войск геraічна загінулі 10 чырвонаармейцаў з бранепоезда № 56 «Камунар», у т. л. камандзір бранепоезда Вальдэмар Боніус-Абашоў. На ўшанаванне іх памяці ў 1981 г. каля будынка вакзала ўстаноўлены мемарыяльны знак; адна з вуліц горада названа вул. Камунараў.

**1140. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва.

Кампазіцыя храма падоўжна-восевая. Складаецца з асноўнага крыжовага ў плане зруба, пяціграннай апсіды і бабінца. Над асноўным аб'ёмам узвышаецца пастаўлены на глухі чацвярык светлавы васьміграны барабан, завершаны купалам. Над бабінцам — двух'ярусная шатровая званіца. Пры ўваходзе ганак на калонках. Сцены гарызантальна ашаляваны. Вокны аздоблены сандрыкамі.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**1141. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Піянерскай, каля вучэбнага корпуса сярэдняга прафесійна-тэхнічнага вучылішча ме-

ханізацыі сельскай гаспадаркі № 11. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1966 г.

**в. Антонава, Вялікарыцкі сельсавет**

**1142. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі. Пахаваны 47 мірных жыхароў, расстраляных у 1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Арлянка, Гвозніцкі сельсавет**

**1143. МЕСЦА БОЮ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Тут 23.9.1943 г. ў баі супраць гітлераўцаў гераічна загінулі камандзір партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна Брэсцкага партызанскага злучэння Л. П. Зяленін і 5 яго баявых сяброў. У 1975 г. на месцы бою пастаўлена стэла.

**в. Арэхава, цэнтр сельсавета**

**1144. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БЕГЕЗУ** Якаву Андрэевічу і **ЛУЦЫКУ** Івану Клімавічу (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Ад рук ворагаў Савецкай улады загінулі 1.1.1947 г. старшыня Арэхаўскага сельсавета Я. А. Бегеза, 29.11.1950 г. дэпутат сельсавета І. К. Луцык. У 1980 г. на ўшанаванне іх памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *В. М. Баскова.*

**1145. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 111 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі і партызан, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны з лаўровай галінкай. Каля падножжа помніка дошка з імёнамі загінуўшых.



**1140.** *Мікалаеўская царква.*



**1141.** *Помнік У. І. Леніну.*

**1146. СТАЯНКІ** (археал.).

**1146а.** Стаянка Арэхава-1. На паўночным беразе воз. Арэхаўскае, на паўднёвым схіле вялікага марэннага ўзгорка. Выявіў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Даўжыня стаянкі 300 м. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы. Раскопкі не праводзіліся.

**1146б.** Стаянка Арэхава-2. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на схіле марэннага ўзвышша. Абследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак шмат нуклеусаў, пласцін, сякерападобных прылад і іншых макралітычных вырабаў і рэчаў, характэрных для свідэрскай культуры. Магчыма, стаянка існавала ў канцы палеаліту і ў мезаліце (10—5-е тысячагоддзі да н. э.). Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1146в.** Стаянка Арэхава-3. На паўднёвым беразе воз. Арэхаўскае. Выявіў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Ацяты, Олтушскі сельсавет**

**1147. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на ўзлеску. Пахаваны 34 мясцовыя жыхары, расстраляныя 7.10.1942 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1145.** *Помнік землякам.*

**в. Багуслаўка, Гвозніцкі сельсавет**

**1148. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на франтах, у партызанах ці былі закатаваны фашыстамі, у 1974 г. пастаўлена стэла.

**в. Боркі, Макранскі сельсавет**

**1149. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 17 воінаў-разведчыкаў 160-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў баі су-




**1146.** *Стаянкі. План.*



1151. *Помнік ахвярам фашызму.*

праць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1150. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Раніцай 23.9. 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі акружылі в. Боркі. Жыхароў сагналі на вясковую плошчу, потым адвялі на могілкі і расстралялі (705 чалавек, у т. л. 372 жанчыны і 130 дзяцей). Забраўшы збожжа, жывёлу, сельскагаспадарчы інвентар і хатнія рэчы, карнікі падпалілі вёску.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965.

**1151. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі.

23.9.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі 705 жыхароў вёскі. У 1977 г. на ўшанаванне памяці загубленых пастаўлены помнік (скульпт. Э. Астаф'еў; мармуровая крошка, бетон; вышыня стэлы 5 м). Архітэктурна-скульптурная кампазіцыя складаецца з бетоннага прамавугольнага блока з гарэльефамі і стэлы з памятным надпісам. Гарэльефныя выявы групы жыхароў вёскі высечаны ў глыбіні блока. Выпрастаўшыся і ўзняўшы галаву, стаіць стары, да яго прыхінулася пажылая жанчына. Гнеўны парыў выражае фігура мужчыны, які закрывае сабою маладую маці з дзіцем. Супастаўленне вялікіх плоскасцей і буйных аб'ёмаў, неспакойны рытм кампазіцыі перадаюць драматычнае напружанне вобразаў. За 50 м ад блока з гарэльефамі размешчана стэла з памятным надпісам.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Брадзяцін, Гвозніцкі сельсавет**

**1152. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). Непадалёку ад школы. У 1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 48 жыхароў вёскі, у 1943 г. спалілі вёску (120 двароў). У 1965 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых на магіле насыпаны Курган. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.



1153. *Помнік землякам.*

**1153. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі.

На ўшанаванне памяці 66 землякоў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на франтах, у партызанскай барацьбе ці былі закатаваны гітлераўцамі, у 1978 г. пастаўлены помнік (скульпт. У. Булыга, арх. Ю. Казакоў; бетон; вышыня пілонаў 10 і 7 м, блока 5 м).

Паміж 2 рознавялікімі пілонамі замацаваны прамавугольны блок. На яго фасадным баку ледзь пазначаны плоскія рэльефныя выявы фігур мужчыны, жанчыны і хлопчыка. Выразна акрэслены толькі галовы. Фігуры высечаны ў абагульнена-ўмоўнай манеры. Ніжэй выява зліваецца з буйной муроўкай. На бакавой грані — прозвішчы загінуўшых. Каля помніка — выкладзеная бетоннымі плітамі пляцоўка.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Вотчын, Макранскі сельсавет**

**1154. МЕСЦА ПАРТЫЗАНСКАГА АЭРАДРОМА** (гіст.). За 8 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Міхерова.

У гады Вялікай Айчыннай вайны тут у 1944 г. дзейнічаў спецыяльна падрыхтаваны партызанскі аэрадром, адкуль у маі 1944 г. былі адпраўлены ў Маскву на перагаворы з Савецкім урадам 4 прадстаўнікі Краёвай Рады Нарадовай — часовага прадстаўнічага дэмакратычнага органа нацыянальнага фронту ў Польшчы. Аэрадром абаранялі ўкраінскія партызаны брыгады С. П. Каплуна.

У 1976 г. на месцы былога аэрадрома пастаўлены абеліск.

**в. Вялікарыта, цэнтр сельсавета**

**1155. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 54 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг., і 11 мірных жыхароў з в. Гусак, расстраляных у 1942 г. гітлераўцамі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. У 1975 г. на пастаменце ўстаноўлена дошка, якая ўшаноўвае памяць 159 землякоў — воінаў Чырвонай Арміі і партызан, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

**1156. МАГІЛА АБРАМУК** Вольгі Васілеўны (гіст.). На тэрыторыі сярэдняй школы.

В. В. Абрамук нарадзілася ў 1925 г. ў в. Вялікарыта. Член ВЛКСМ з 1939 г. Працавала ў сельскім Савеце. Была сакратаром камсамольскай арганізацыі в. Вялікарыта. У Вялікую Айчынную вайну сувязная партызанскага атрада В. В. Абрамук збірала і перадавала народным мсціўцам зброю, каштоўныя звесткі пра ворага. У першыя дні акупацыі адважная камсамолка дапамагла арганізаваць уцёкі савецкіх актывістаў, арыштаваных гітлераўцамі. У кастрычніку 1942 г. яе схапілі фашысты і пасля катаванняў расстралялі ў двары школы.

У 1965 г. на яе магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікі Паўлопаль, Чарнянскі сельсавет**

**1157. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 37 пар-



1155. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан, ахвяр фашызму і землякам.*

тызан атрада імя М. В. Фрунзе брыгады імя І. В. Сталіна Брэсцкага партызанскага злучэння, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг.

У в. Вялікі Паўлопаль і навакольных лясах дыслацыраваўся ў 1943—44 гг. партызанскі атрад імя М. В. Фрунзе. Атрад быў створаны ў ліпені 1943 г. з часткі асабовага складу атрада імя М. М. Чарнака (да чэрвеня 1943 г. называўся Старасельскі, змагаўся з ворагам з чэрвеня 1941 г. Партызанскі атрад імя М. В. Фрунзе дзейнічаў на акупіраванай тэрыторыі Маларыцкага і суседніх з ім раёнаў Брэсцкай вобл. Камандзіры атрада П. П. Спірыдонаў, М. Б. Кадзаеў, М. А. Мартысюк, камісары А. П. Гогалеў, М. А. Саўчук. Партызаны праводзілі баявыя аперацыі на чыгуначных участках Брэст — Уладава, Брэст — Ковель, шашэйных і грунтавых дарогах. Яны ўзарвалі больш за 100 варожых эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай і іншымі грузамі, разбурылі і пашкодзілі больш як 20 маёнткаў, правялі шэраг адкрытых і засадных баёў з гітлераўцамі. 24.3.1944 г. атрад імя М. В. Фрунзе (больш за 300 партызан) выйшаў у савецкі тыл і злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі. Разам з воінамі 1293-га палка 160-й стралковай дывізіі змагаўся супраць ворага ў Любяшоўскім р-не Валынскай вобл. 25.5.1944 г. атрад зноў перайшоў лінію фронту і змагаўся ў тыле ворага. 21.7.1944 г. ў другі раз злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1964 г. на магіле партызан пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *Г. І. Дулеба.*

**в. Гвозніца, цэнтр сельсавета**

**1158. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля школы. Пахавана больш за 100 воінаў, партызан і мірных жыхароў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — воіны 75-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1941 г., а таксама камандзір партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна Леанід Пятровіч Зяленін.

Л. П. Зяленін нарадзіўся ў в. Архангельскае Баброва-Дворскага р-на Курскай вобл. ў 1919 г. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1938 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны. У Вялікую Айчынную вайну ў партызанах: з сакавіка 1942 г. камісар атрада імя М. М. Чарнака, з ліпеня 1943 г. камандзір брыгады імя І. В. Сталіна. Загінуў у баі супраць гітлераўцаў 23.9.1943 г.

*Літ.:* Пронягин П. В. У самой границы.— Мн., 1979. *В. М. Баскова.*

**1159. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ К. Я. ВАРАШЫЛАВА** (гіст.). За 5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Клён. Тут у 1943 г. знаходзіўся лагер атрада імя К. Я. Варашылава Брэсцкага партызанскага злучэння.

Атрад імя К. Я. Варашылава створаны ў лютым 1943 г. на базе асобных партызанскіх груп, з ліпеня 1943 г. да сакавіка 1944 г. ў складзе партызанскай брыгады імя І. В. Сталіна, з 24.3.1944 г.— партызанскай брыгады імя У. І. Леніна. Атрад дзейнічаў на акупіраванай тэрыторыі Маларыцкага і Дамачоўскага р-наў Брэсцкай вобл. Камандзіры атрада В. М. Грабянёў, І. А. Вераб'ёў, камісары І. А. Вераб'ёў, М. П. Жукаў. Спачатку ў атрадзе было 35 партызан, на 1.6.1944 г.— 641 партызан. Народныя мсціўцы рабілі дыверсіі на варожых камунікацыях, вялі адкрытыя і засадныя баі, грамілі гарнізоны праціўніка. Да 1.6.1944 г. яны пусцілі пад адхон 170 паравозаў, 217 вагонаў з жывой сілай, 1008 вагонаў з баявой тэхнікай і рознымі грузамі, знішчылі 13 чыгуначных і 30 мастоў на шашэйных і грунтавых дарогах, 21 варожы склад, падарвалі каля 1700 рэек, збілі 3 самалёты ворага. 20.7.1944 г. атрад злучыўся з Чырвонай Арміяй, сумесна з войскамі вёў бai па знішчэнню брэсцкай групоўкі праціўніка.

У гонар партызанскага атрада імя К. Я. Варашылава ва ўрочышчы Клён у 1965 г. насыпаны Курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Арзуманян С. Земля пылала.— Мн., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**в. Дарапеевічы, Чарнянскі сельсавет**

**1160. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля васьмігадовай школы. Пахаваны 45 мірных жыхароў вёскі, расстраляных і спаленых у красавіку 1944 г. нямецка-фашысцкімі карнікамі. У 1965 г. на магіле ўстаноўлены абеліск. На абеліску прымацавана дошка, што ўшаноўвае памяць 14 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

**1161. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ШВАЙКУ** Івану Майсеевічу (гіст.). На будынку праўлення калгаса «17 Верасня». Устаноўлена ў 1980 г. на ўшанаванне памяці І. М. Швайка — першага старшыні калгаса, які загінуў 29.9.1947 г. ад рук ворагаў Савецкай улады.

**1162. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «17 Верасня». На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, закатаваных у 1941—44 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**1163. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «17 Верасня». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**1164. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 17 ст. з дрэва. З 19 ст. царква Прачыстай Дзевы. У 1902 г. з усходняга боку да царквы прыбудавана алтарная частка, будынак ашаляваны.

Царква мае падоўжна-восевую кампазіцыю. Прамавугольны ў плане ас-



**1164.** *Царква Раства багародзіцы.*



**1164.** *Царква Раства багародзіцы. План.*



**1164.** *Царква Раства багародзіцы. Фрагмент драўлянай агароджы.*



1169. *Курган на месцы спаленай вёскі.*

поўны аб'ём пакрыты вальмавым дахам. З заходняга боку да яго прыбудавана чацверыковая вежа-званіца, падзеленая прычолкам на 2 ярусы. Высокі ніжні ярус служыць бабінцам, верхні ярус завершаны чатырохгранным шатром. Сцены складзены з брусоў і прарэзаны аконнымі праёмамі. Аспоўнае памяшканне зальнае. Над уваходам размешчаны хоры. У інтэр'еры алтарная частка аддзелена ад асноўнага аб'ёму разным іканастасам.

Царква — помнік народнага дойлідства. *С. Ф. Самбук.*

**в. Забалацце, Лукаўскі сельсавет**

**1165. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Лакаток. Пахаваны 2 партызаны атрада імя К. Я. Варашылава, якія загінулі ў чэрвені 1942 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1166. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

Ранкам 23.9.1942 г. фашысцкія карнікі 3-га батальёна 15-га нямецкага паліцэйскага палка ўварваліся ў вёску. Жыхароў сагналі ў памяшканне школы, потым раздзялілі на 3 групы, адвялі да загадзя выкапаных ям і расстралялі. Карнікі забілі 289 чалавек, у т. л. дзяцей і жанчын, спалілі 120 двароў.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965.

**в. Замшаны, Маларыцкі гарадскі Савет**

**1167. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск, што ўшаноўвае таксама памяць 26 землякоў, якія аддалі сваё жыццё за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Збураж, Гвозніцкі сельсавет**

**1168. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «40 гадоў БССР». У 1943 г. гітлераўцы расстралялі 24 жыхароў і спалілі вёску (320 двароў). На франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі 54 аднавяскоўцы. У 1967 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Зялёная Буда (не існуе), Вялікарыцкі сельсавет**

**1169. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад в. Баравая, каля дарогі на в. Антонава знаходзілася в. Зялёная Буда. 9.10. 1942 г. гітлераўцы расстралялі 28 яе жыхароў, а вёску (15 двароў) спалілі. Пасля вайны вёска не адрадзілася. У 1970 г. на месцы в. Зялёная Буда насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965.

**в. Ланская, Олтушскі сельсавет**

**1170. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У гады Вялікай Айчыннай вайны 96 жыхароў вёсак Галёўка, Заазёрная, Ланская, Яміца загінулі на франтах, у партызанскай барацьбе ці расстраляны гітлераўцамі. У 1978 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены помнік — скульптура воіна і мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Лешніца, Вялікарыцкі сельсавет**

**1171. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 20 жанчын і дзяцей — членаў сем'яў абаронцаў Брэсцкай крэпасці, расстраляных нямецка-фашысцкімі карнікамі восенню 1942 г. Сярод іх — сям'я (5 чалавек, у т. л. 3 дзяцей) Героя Савецкага Саюза Андрэя Мітрафанавіча Кіжаватава. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск з зоркай на вяршыні.

**1172. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны мірныя жыхары (81 чалавек), расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. У 1978 г. ўстаноўлена надмагільная пліта.



1170. *Помнік землякам.*

**в. Лукава, цэнтр сельсавета**

**1173. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 37 воінаў 75-й стралковай дывізіі, якая вяла баі ў раёне вёскі ў 1941 г., і партызан, што загінулі ў 1944 г. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата. У 1977 г. на пастаменце ўстаноўлена дошка на ўшанаванне памяці 105 жыхароў сельсавета, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе ў Вялікую Айчынную вайну.

**1174. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны савецкі воін і 12 мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі восенню 1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1175. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**1176. СТАЯНКІ** (археал.).

**1176а.** Стаянка Лукава-1. На паўднёвым беразе воз. Лукаўскае, на поўдзень ад мыса, дзе знаходзяцца вясковыя могілкі. Выявіў і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Размешчана



1171. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*




**1176.** *Стаянкі. План.*

ўздоўж берага, даўжыня каля 100 м. У культурным пласце знойдзены крамянёвыя прылады працы, рэшткі ляпнога глінянага посуду і інш. Адносіцца да позняга неаліту, датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**1176б.** Стаянка Лукава-2. На паўночна-заходнім беразе воз. Лукаўскае, на марэнным узгорку, за 3 км ад вёскі. Даўжыня ўздоўж берага каля 100 м. Адкрыў і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак шмат нуклеусаў, пласцін, адшчэпаў, а таксама прылады працы эпох мезаліту і неаліту.

Знаходкі зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Ляхаўцы, Макранскі сельсавет**

**1177. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 116 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — воіны 75-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1941 г., і воіны 70-й арміі, што загінулі ў баі каля в. Макраны ў сакавіку 1944 г. У 1956 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата. У 1980 г. каля помніка ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі, якія ўшаноўваюць памяць 144 землякоў, што загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе ў Вялікую Айчынную вайну.

**1178. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1713 г. з дрэва. У сярэдзіне 19 ст. значна перабудавана, перад храмам пастаўлена драўляная званіца.

Царква трохзрубная, падоўжна-восевай кампазіцыі. Складаецца з прамавугольнага асноўнага аб'ёму, апсіды, бабінца з трапецападобным тамбурам. Першапачаткова зрубы мелі самастойныя вярхі, у паўночна-заходняй частцы над бабінцам была званіца. Асноўны аб'ём і бабінец накрыты агульным двухсхільным дахам, які пераходзіць у вальмавы над тамбурам. Алтарны зруб мае самастойнае паўвальмавае пакрыццё. Будынак звонку ашаляваны. Цэнтральны зруб прарэзаны спаранымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершаны барочнай двух'яруснай галоўкай.

Інтэр'ер зальнага тыпу. Цэнтральны аб'ём завершаны пірамідальным скляпеннем. Унутраная прастора бабінца і асноўнага аб'ёму злучана шырокім праёмам складанага абрысу. У аб'ёме бабінца ўтвораны хоры. Алтарны зруб, аддзелены іканастасам, мае таксама скляпеністае перакрыцце. З паўднёва-заходняга боку ад царквы, па адной з ёю восі, размешчана зрубна-каркасная званіца, падзеленая прычолкам на 2 ярусы. Верхні ярус прарэзаны арачнымі праёмамі і завершаны шатровым пакрыццём.

Царква — помнік народнага дойлідства. *С. Ф. Самбук.*

**в. Макраны, цэнтр сельсавета**

**1179. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км ад школы. Пахаваны партызаны і мірныя жыхары, якія загінулі ў баях, расстраляны або закатаваны гітлераўцамі ў час Вялікай Айчыннай вайны. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1180. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля шашы Брэст — Ковель. Пахаваны 75 воінаў Чырвонай Арміі і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод іх — воіны 75-й стралковай дывізіі, што загінулі ў чэрвені 1941 г., воіны 70-й арміі, часці якой вялі баі ў раёне Макран у сакавіку 1944 г. У 1975 г. на магіле ўстаноўлена пліта з памятным надпісам.

**1181. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Тут у сакавіку 1944 г. воіны 70-й арміі і партызаны брыгады імя І. В. Сталіна (камандзір брыгады С. Х. Арзуманян, камісар К. А. Шкаварада) вялі ўпартыя баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, праявілі мужнасць і гераізм. У 1965 г. ў гонар іх подзвігу насыпаны Курган.

**1182. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля шашы Брэст — Ковель. На ўшанаванне памяці 64 жыхароў Макранскага сельсавета, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1183. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1967 г.

**1184. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі сярэдняй школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1972 г.

**в. Малінаўка, Чарнянскі сельсавет**

**1185. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). За 2,5 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі на в. Чарняны, у лесе. Тут у 1941—44 гг. нямецка-фашысцкія акупанты расстрэльвалі членаў сем'яў абаронцаў Брэсцкай крэпасці, партызан і савецкіх актывістаў. У 1967 г. ў памяць аб загубленых насыпаны Курган, у 1980 г. каля яго падножжа ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Масевічы, Вялікарыцкі сельсавет**

**1186. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 60 партызан і мірных жыха-





**1178.** *Царква Раства багародзіцы і званіца (злева). Выгляд царквы з боку апсіды.*



**1178.** *Царква Раства багародзіцы. План.*

роў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1975 г. на магіле загінуўшых пастаўлены помнік (скульпт. Дз. Крвавіч; бетон; вышыня скульптурнай групы 3 м, пастамента 1,3 м), што ўшаноўвае таксама памяць 270 землякоў з вёсак Масевічы, Новае Раматова, Пажэжын, Старое Раматова, Струга, якія ў Вялікую Айчынную вайну аддалі жыццё за Радзіму.

На гарызантальна выцягнутым пастаменце-саркафагу, што ўстаноўлены на надмагільнай пліце, укленчаныя скульптурныя фігуры воіна і дзяўчыны з вянком у руках. Мадэліроўка форм абагульненая, рытм плаўных ліній надае кампазіцыі мастацкую выразнасць. На саркафагу высечаны імёны загінуўшых.

**1187. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, побач з чыгункай. 9 курганоў: 4 вялікія вышынёй 2—2,5 м, дыяметрам 18—20 м, 5 малых вышынёй 0,7—1,3 м, дыяметрам 6—12 м. Курганы слаба задзернаваныя, зараслі хмызняком. Абследавалі ў 1961 г. В. В. Сядоў, у 1970 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**в. Мельнікі, Хацілаўскі сельсавет**

**1188. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, каля чыгункі. Пахаваны партызан Вялікай Айчыннай вайны, які загінуў у час баявой аперацыі па падрыву варожага эшалона ў жніўні 1943 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1189. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, каля чыгункі. Пахаваны партызан Вялікай Айчыннай вайны, які загінуў у час баявой аперацыі па падрыву варожага эшалона ў жніўні 1943 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1190. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка васьмігадовай школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1976 г.

**в. Мікольскае, Олтушскі сельсавет**

**1191. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Тут 27.6.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 16 мясцовых жыхароў. У 1969 г. на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск.

**в. Олтуш, цэнтр сельсавета**

**1192. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 100 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод іх — воіны 75-й стралковай дывізіі, што загінулі ў чэрвені 1941 г. У 1959 г. на магіле пастаўлена скульптура воіна.

**1193. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома быту. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**1194. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1783 г. з дрэва. Да выцягнутага ў плане аб'ёму царквы ў 19 ст. прыбудавана двух'ярусная вежа-званіца (васьмярык на чацверыку) з шатровым пакрыццём. Храм трохзрубны. Да асноўнага аб'ёму прылягаюць з усходу трохгранная апсіда, з захаду бабінец, злучаны з вежай-званіцай вузкім тамбурам. Дахі — вальмавы над асноўным аб'ёмам, двухсхільны над бабінцам і трохсхільны над апсідай — увянчаны фігурнымі галоўкамі. Вокны і дзверы абрамлены драўлянымі разнымі ліштвамі. Сцены гарызантальна ашаляваны. У інтэр'еры асноўны аб'ём завяршаецца корабавым размаляваным скляпеннем. Над уваходам у залу размешчаны хоры з балюстрадай. Апсіда ад асноўнага аб'ёму аддзелена трох'ярусным іканастасам, аформленым разнымі пілястрамі і лапаткамі. Асноўны дэкаратыўны акцэнт — царскія вароты (ажурная разьба).

Царква — помнік народнага дойлідства з элементамі архітэктуры барока.

*А. Я. Міцянін.*



**1186.** *Помнік на брацкай магіле партызан, ахвяр фашызму і землякам.*



**1182.** *Помнік землякам.*



**1194.** *Праабражэнская царква. Бакавы фасад.*



1194. *Праабражэнская царква. Іканастас.*



1197. *Помнік на брацкай магіле паўстанцаў.*

в. Пажэжын,
Вялікарыцкі сельсавет

**1195. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1970 г.

в. Печкі, Вялікарыцкі сельсавет

**1196. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны сям'я Цяліпкі Аляксандра Патапавіча (9 чалавек) і 2 дзяцей ваеннаслужачага з Брэсцкай крэпасці, якіх расстралялі фашысцкія карнікі 29.8.1942 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

в. Радзеж, Олтушскі сельсавет

**1197. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАЎСТАНЦАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 4 члены КПЗБ.

У верасні 1939 г. Чырвоная Армія, выконваючы вызваленчую місію, перайшла савецка-польскую граніцу. Насельніцтва Заходняй Беларусі стварала паўстанскія групы і атрады рабочых і сялян для дапамогі вызваліцелям. Паўстанскі атрад быў арганізаваны і ў в. Радзеж. У адной з сутычак атрада з паліцыяй загінулі 4 паўстанцы — члены КПЗБ.

У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1198. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг., і 143 жыхары вёсак Навалессе і Радзеж, расстраляныя гітлераўцамі ў лютым —



1194. *Праабражэнская царква. Выгляд з боку апсіды.*



1194. *Праабражэнская царква. План.*



1198. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*



1202. *Помнік землякам.*

маі 1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Струга, Вялікарыцкі сельсавет**

**1199. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 8 км на захад ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы «Крыж», каля дарогі на былы хутар Халсцінава. 8 насыпаў (справа 7, злева 1) вышынёй 0,38—0,8 м, дыяметрам 5,8—8,2 м. Насыпы задзернаваныя, на некаторых растуць дрэвы. Могільнік выявіла і абследавала ў 1980 г. С. М. Васільева, у 1982 г. абследавала, у 1983 г. раскапала 1 курган Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за курганам. Могільнік адносіцца да 9—10 стагоддзяў. *Т. М. Каробушкіна.*

**в. Хацiслаў, цэнтр сельсавета**

**1200. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі. Часці 75-й стралковай дывізіі 4-й арміі 25.6. 1941 г. вялі бой супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, акружылі і знішчылі артылерыйскі полк гітлераўцаў. У 1967 г. на месцы бою ў гонар воінаў 75-й стралковай дывізіі насыпаны Курган, на яго вяршыні пастаўлены абеліск.



1200. *Курган Славы.*

**1201. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БЕНІСЮКУ** Яфіму Гаўрылавічу і **ЛУК'ЯНЧУКУ** Івану Мікітавічу (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Ад рук ворагаў Савецкай улады загінулі 20.5.1946 г. старшыня Хацiслаўскага сельсавета Я. Г. Беніеюк, 2.1.1948 г. намеснік старшыні сельсавета І. М. Лук'янчук. У 1967 г. на ўшанаванне іх памяці ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1202. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі на Маларыту. На ўшанаванне памяці жыхароў в. Хацiслаў — 60 воінаў і партызан, 96 мірных жыхароў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 5 актывістаў, якія аддалі жыццё ў барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1203. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудавана ў 1799 г. з дрэва. У 1867 г. прыбудавана трох'ярусная званіца, злучаная з царквой нізкім аб'ёмам.

Будынак трохзрубны. Да асноўнага аб'ёму з усходу прымыкае пяцігранная апсіда, з захаду — трохгранны бабінец, фланкіраваны 2 вежамі, пастаўленымі пад вуглом да галоўнай



1203. *Праабражэнская царква. План.*



1203. *Праабражэнская царква. Фрагмент дэкору званіцы.*



1203. *Праабражэнская царква.*



**1204.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму і землякам.*

восі пабудовы. Зрубы аднолькавай вышыні накрыты дахамі, якія маюць схілы, адпаведныя абрысу будынка. Дахі апсіды, асноўнага аб'ёму і вежаў завершаны фігурнымі галоўкамі. Галоўны фасад і вежы падзелены карнізамі і прычолкамі на 3 ярусы. Сцены гарызантальна ашаляваны. Унутры асноўнае памяшканне зальнае, перакрыта карабавым скляпеннем. У верхняй частцы бабінца размешчаны хоры, якія выходзяць у асноўны аб'ём паўкруглым балконам. Алтарную частку аддзяляе шмат'ярусны разны іканастас.

Царква — узор двухвежавага драўлянага храма ў стылі барока.

*С. Ф. Самбук.*

**в. Чарняны, цэнтр сельсавета**

**1204. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 13 мясцовых жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—44 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя воіна з хлопчыкам і бетонны блок з імёнамі 160 жыхароў Чарнянскага сельсавета — воінаў Чырвонай Арміі і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.

**1205. ПОМНІК КРУПСКАЙ** Надзеі Канстанцінаўне (гіст.). Каля будынка аддзялення сувязі. Бюст Н. К. Крупскай, імем якой названы мясцовы калгас, устаноўлены ў 1973 г.

**в. Язвін, Гвозніцкі сельсавет**

**1206. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 мірных жыхароў, расстраляных гітлераўцамі ў кастрычніку 1942 г. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.




# ПІНСКІ РАЁН

Бобрык
Пласкінь
Азарычы
Клятная
Валішча
Дабраслаўка
Лышча
Пагост-Загародскі
Лагішын
Чухава
Новы Двор
Табулкі
Парэчча
Мерчыцы
Сошна
Парахонск
Вулька
Ахова
Ставок
Аснежыцы
Гарадзішча
Бярозавічы
ПІНСК
Малоткавічы
Калавуравічы
Дубай
Плешчыцы
Лемяшэвічы
Барычавічы
Кончыцы
Кнубава
Вуйвічы
Лапацін
Малая Вулька
Хойна
Невель
Востраў
Ласіцк
Парэ
Ладараж

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XVII. ПІНСК

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. Размешчаны на левым беразе р. Піна каля ўпадзення яе ў р. Прыпяць, за 175 км ад Брэста. Чыгуначная станцыя на лініі Брэст — Лунінец, вузел аўтамабільных дарог на Іванава, Івацэвічы, Лунінец, Столін. Рачны порт, аэрапорт. Насельніцтва 102 тыс. чалавек (1983 г.).

Пінск (летапісны Пинеск, Пиньск) упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1097 г. Назва ад р. Піна. Уваходзіў у склад Кіеўскай Русі. Узнік на месцы гарадзішча. Паводле археалагічных даследаванняў, насельніцтва ў 2-й палавіне 11 ст. займалася рамяством, сельскай гаспадаркай, паляваннем і рыбалоўствам, мела гандлёвыя сувязі з Валынню, сярэднім Падняпроўем і Паўночным Прычарнамор'ем. Да сярэдзіны 12 ст.— буйны гандлёвы горад Тураўскага княства, потым — цэнтр самастойнага Пінскага княства. З пачатку 14 ст. ў складзе Вялікага княства Літоўскага, горад у Трокскім ваяводстве, з 1539 г. цэнтр староства, з 1566 г.— павета ў Берасцейскім ваяводстве. У 1581 г. горад атрымаў магдэбургскае права і герб (на чырвоным полі залатыя лук з нацягнутай цецівой і страла). У сярэдзіне 17 ст. меў каля 10 тыс. жыхароў, у т. л. 280 купцоў. Тут праходзіў гандлёвы шлях з Прыбалтыкі на поўдзень. Праз рэкі Піну, Мухавец і Заходні Буг Пінск быў звязаны з гарадамі Польшчы. Пасля Брэсцкай царкоўнай уніі (1596 г.) у Пінску ўзнікла праваслаўнае брацтва, якое ў 1633 г. адкрыла школу. У час вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. у верасні 1648 г. гарадскія нізы Пінска пад кіраўніцтвам рамеснікаў І. Шапені, Р. Мяшковіча і іншых аб'ядналіся з казацка-сялянскім атрадам А. Нябабы, разграмілі касцёлы і каталіцкія манастыры, знішчылі шляхціцаў і каталіцкае духавенства, якія не паспелі ўцячы з горада. Пры набліжэнні карных войск стражніка Мірскага паўстанцы і казакі ўмацавалі гарадскія сцены, перакапалі вуліцы равамі, зрабілі завалы. Першым уварваўся ў горад атрад кавалерыстаў і наёмнікаў на чале з пінскім войтам Л. Ельскім і манахам-францысканцам Халеўскім, але трапіў у засаду і быў разгромлены. З падыходам пяхоты і артылерыі Мірскі асадзіў Пінск. Паўстанцы і казакі аказалі ўпартае супраціўленне, аднак карнікі разбілі агнём артылерыі вароты, уварваліся ў горад, падпалілі яго і ўчынілі жорсткую расправу над насельніцтвам. Згарэла вялікая частка горада, было забіта больш за 3 тыс. паўстанцаў. Горад вельмі пацярпеў у час руска-польскай вайны 1654—67 гг., пасля чаго яго эканамічнае і гандлёвае значэнне істотна зменшылася. У Паўночную вайну 1700—21 гг. у маі 1706 г. разрабаваны войскамі Карла XII.

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.) Пінск у складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета Мінскай губерні. У 1794 г. ў горадзе 3716 жыхароў, 548 дамоў, з іх 2 мураваныя. У сярэдзіне 19 ст. Пінск стаў буйным гандлёвым горадам на Беларусі; тут працавалі 2 гарбарні, медзеапрацоўчы завод, піваварня, млын, тытунёвая фабрыка і інш. Пасля пракладкі Палескіх чыгунак у 1880-я гады гандлёвае значэнне горада зменшылася, але пачала бурна развівацца прамысловасць (27 прадпрыемстваў). Найбольш значнымі прадпрыемствамі ў канцы 19 — пачатку 20 ст. былі галоўныя майстэрні Палескіх чыгунак, шпілечна-фанерная, тытунёвая, запалкавая



XVII. *Пінск. Набярэжная.*



XVII. *Выгляд горада ў пачатку 14 ст. Рэканструкцыя.*

«Прагрэс-Вулкан» фабрыкі, суднабудаўнічы завод, 3 лесапільні, маслабойня. Паводле перапісу 1897 г. ў Пінску было 28 368 жыхароў, у 1904 г.— 32 960 жыхароў, 3 бальніцы, 1 сярэдняя навучальная ўстанова, 9 пачатковых школ.

З павелічэннем колькасці рабочых, якія жорстка эксплуатаваліся, пашыраецца рэвалюцыйная барацьба. З 1890 г. па 1896 г. у Пінску адбылося 10 стачак. Самай вялікай была стачка рабочых чыгуначных майстэрняў у 1893 г. У 1901 г. ў горадзе дзейнічала іскраўская група, якая распаўсюджвала марксісцкую літаратуру сярод рабочых. У пачатку 1905 г. аформілася Пінская група РСДРП. У 1901 г. адбыліся забастоўкі на запалкавай фабрыцы і фанерным заводзе, у 1904 г.— на суднабудаўнічым заводзе. Неаднаразова баставалі рабочыя ў перыяд Рэвалюцыі 1905—07 гг. У час Усерасійскай Кастрычніцкай палітычнай стачкі ў Пінску штодзённа праходзілі дэманстрацыі, узніклі баявыя групы, рыхтавалася ўзброенае паўстанне. Група РСДРП вылучыла ў горадзе чыгуначны, фабрычна-заводскі і рамесніцкі раёны партыйнай работы. 9—23.12.1905 г. адбылася ўсеагульная стачка. Рабочыя горада баставалі таксама ў студзені і снежні 1910 г., у сакавіку 1913 г. З 15.9.1915 г. Пінск быў акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі.

Кастрычніцкае ўзброенае паўстанне 1917 г. ў Петраградзе выклікала на Піншчыне ўздым рэвалюцыйнага руху. 11—12.11.1917 г. ў Лунінцы адбыўся павятовы з'езд Саветаў, на якім быў выбраны выканком Пінскага павятовага Савета. Ад кайзераўскіх акупантаў, белагвардзейскіх і іншых контррэвалюцыйных фарміраванняў горад быў вызвалены 25.1.1919 г. часцямі Чырвонай Арміі і партызанамі. Адразу сюды з Лунінца пераехаў Палескі рэўком. 5.3.1919 г. Пінск захапілі войскі буржуазнай Польшчы. У час акупацыі тут дзейнічала бальшавіцкая падпольная арганізацыя. 23.7.1920 г. горад быў вызвалены Чырвонай Арміяй, але 27 верасня яго захапілі войскі Булак-Балаховіча, потым — буржуазнай Польшчы.

З 1921 г. да 1939 г. Пінск — павятовы горад Палескага ваяводства буржуазнай Польшчы. З 1924 г. тут дзейнічалі акруговыя і гарадскія камітэты КПЗБ і КСМЗБ. У 1923—24 гг. праходзілі стачкі рабочых, у 1927—28 гг. баставалі рабочыя запалкавай фабрыкі, у 1930 г. адбылося масавае выступленне беспрацоўных. 20.9.1939 г. Пінск вызвалены Чырвонай Арміяй. З 4.12.1939 г.— цэнтр Пінскай вобл., з 15.1.1940 г.— раёна. У 1939 г. было 35 912 жыхароў.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР пачалося хуткае эканамічнае развіццё Пінска. З аднаўленнем Днепроўска-Бугскай воднай сістэмы (1940 г.) павялічыўся грузаабарот рачнога порта і чыгуначнай станцыі. У 1940 г. працавалі суднарамонтны завод, 2 фанерныя заводы, запалкавая фабрыка «17 Верасня» і інш. Створана 16 прамыслова-кааператыўных арцелей. Пачала выходзіць газета «Палеская праўда», былі адкрыты драмтэатр, бібліятэкі, Дом партыйнай асветы, Дом народнай творчасці, Дом піянераў і школьнікаў, настаўніцкі інстытут, педвучылішча, музычная і фельчарская школы. Значна вырасла колькасць вучняў у агульнаадукацыйных школах, павялічылася колькасць лячэбных устаноў. З чэрвеня 1940 г. да ліпеня 1941 г. знаходзілася база Пінскай ваеннай флатыліі.

З 4.7.1941 г. да 14.7.1944 г. Пінск быў акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 59 084 мірных жыхароў і ваеннапалонных. У горадзе дзейнічала антыфашысцкае і камуністычнае падполле. У ліпені 1941 г. створаны падпольны гарком ЛКСМБ, у верасні 1943 г.— падпольны гарком КП(б)Б. 18 часцям і злучэнням Чырвонай Арміі, якія вызначыліся пры вызваленні Пінска ад акупантаў, нададзена ганаровае найменне «Пінскіх». Адразу пасля вызвалення пачалося аднаўленне гарадской гаспадаркі. Рамантаваліся гідратэхнічныя збудаванні, пачаў дзейнічаць рачны порт. Аднаўляліся старыя заводы і будаваліся новыя, значна павялічыўся жылы фонд, вырасла сетка гандлёвых прадпрыемстваў, навучальных і культурна-асветных устаноў. З 8.1.1954 г. Пінск — раённы цэнтр Брэсцкай вобл.

* *
*

Архітэктурнае аблічча сучаснага горада складвалася на працягу стагоддзяў. У 11—13 стагоддзях яго планіровачным цэнтрам было ўмацаванае замчышча (плошча 1,76 га) на левым беразе р. Піна. З захаду, поўначы і ўсходу яго абкружаў паўкольцамі вакольны горад (плошча 2,1 га), таксама ўмацаваны сістэмай абарончых збудаванняў. Земляныя валы вышынёю 6—8 м умацоўваліся клецямі. На грэбені валоў былі пастаўлены драўляныя абарончыя сцены. На плане 1794 г. з поўначы паказаны рэшткі вежы, якая ўмацоўвала ўваход на дзядзінец з боку поля.

Паводле інвентароў Пінска сярэдзіны 16 ст. горад меў замак, 2 брамы, Троіцкі мост. У 1552—55 гг. было 27 вуліц (на іх размяшчалася каля 800 сядзіб), 14 праваслаўных цэркваў (у замку знаходзіліся Дзімітраўская саборная і Афанасьеўская), 2 касцёлы з кляштарамі (францысканскі заснаваны ў 1396 г., дамініканскі — у 1542 г.). Існавалі 2 праваслаўныя манастыры: адзін у горадзе, другі ў прадмесці Лешч (вядомы з 13 ст.). Манастыр у прадмесці быў драўляны, уключаў шэраг жылых і гаспадарчых пабудоў, 2 царквы — «цёплую» Святога Духа з трапезнай і галоўны Успенскі храм з 5 вярхамі, уваходную браму, другі ярус якой з'яўляўся званіцай. У 2-й палавіне 16 ст. пабудаваны праваслаўны Богаяўленскі манастыр.

Агульная тэрыторыя горада ў 16 ст. разам з прадмесцямі, урочышчамі Гарадзішча, Пабярэжжа, Вярыга і інш.,




XVII. *План горада канца 18 ст.: 1 — стары замак; 2 — гандлёвая плошча і гандлёвыя рады; 3 — езуіцкі касцёл і калегіум; 4 — кляштар францысканцаў; 5 — замак Вішнявецкіх; 6 — праваслаўная царква; 7 — праваслаўны манастыр; 8 — базыльянскі манастыр; 9 — кляштар дамініканцаў; 10 — уніяцкая царква.*



XVII. *План гістарычнай часткі горада: 1 — езуіцкі калегіум; 2 — французсканскі касцёл; 3 — палац Бутрымовіча; 4 — Варварынская царква; 5 — жылая забудова 19 — пачатку 20 ст.*

дзе жылі рамеснікі, складала каля 51 га. Горад развіваўся ўздоўж ракі, вакол старога гарадзішча, на месцы якога знаходзіўся ўмацаваны старосцінскі замак з адміністрацыйным будынкам і праваслаўнымі саборамі. За замкам былі крамы і каморы. Гарадская забудова захоўвала старажытную радыяльна-кальцавую планіроўку. У 1-й палавіне 17 ст. Пінск значна расшырыўся. Горад у гэты час быў расцягнуты ўздоўж р. Піна амаль на 4 км, шчыльна забудаваны драўлянымі дамамі, колькасць якіх дасягала 5 тыс., меў, акрамя замка, дадатковую вонкавую лінію драўляных умацаванняў. З захаду і ўсходу знаходзіліся 2 брамы: Ляшчынская (ад назвы манастыра) і Паўночная, за якой размяшчаўся маёнтак пінскага ксяндза; дзейнічалі 2 касцёлы з кляштарамі, 2 праваслаўныя і 5 уніяцкіх цэркваў.



XVII. *Будынак Галоўпалессеводбуда.*

У 17—18 стагоддзях сфарміраваўся сучасны цэнтр горада. Паводле плана 1798 г. Пінск меў даволі складаную планіроўку. Цэнтральнае месца займаў замак з земляным валам, за ім знаходзілася гандлёвая плошча з крамамі. Важную ролю ў фарміраванні кампазіцыі горада адыгрывалі манументальныя мураваныя і драўляныя будынкі езуіцкага калегіума (1631—35 гг.), французсканскага кляштара (16—18 стагоддзі), кляштараў кармелітаў (1734 г.) і марыявітак (1746 г.). Больш позняя частка горада фарміравалася за вонкавым валам і паўтарала яго абрысы. У канцы 16 ст. на ўсход ад горада ўзнікла прадмесце — мястэчка Каралін, забудаванае па рэгулярным плане. Тут узведзены мураваны замак Вішнявецкіх з 4 вуглавымі бастыёнамі і курцінамі (разбураны войскамі Карла XII у 1706 г.). У 18 ст. ў Караліне пабудаваны мураваныя касцёлы бернардзінцаў і Карла Барамея з кляштарамі.

Складзены ў 1800 г. першы план забудовы Пінска, які прадугледжваў ліквідацыю паўкальцавых магістраляй, прывязданне ў геаметрычны парадак вулічнай сеткі, узбуйненне гарадскіх кварталаў і пракладку 2 новых радыяльных вуліц для злучэння цэнтра з дарогамі на Брэст і Нясвіж, быў ажыццёўлены ў агульных рысах. Паводле праекта 1842 г. планавалася будаўніцтва новых кварталаў і стварэнне 3 плошчаў у паўночнай частцы горада. План 1856 г. прынцыпова не адрозніваўся ад папярэдняга, але намячаў меншы аб'ём капітальнага будаўніцтва. Планавалася толькі адна плошча, прадугледжвалася рэгуляванне рэк Піны і Струменя. Да 1860-х гадоў на поўнач ад цэнтра было пабудавана некалькі новых кварталаў. Хуткі рост з 1880-х гадоў прамысловасці зрабіў уплыў на архітэктурнае аблічча горада. У 1904 г. ў Пінску было 6360 жылых дамоў, у гэты час з'явілася некалькі прамысловых, канторскіх, банкаўскіх, вучэбных і іншых будынкаў, аднак забудова вялася стыхійна, была малапавярховая (2—3-павярховая ў цэнтры і аднапавярховая ў перыферыйных частках), скучаная.

У час Вялікай Айчыннай вайны жылому фонду Пінска нанесены вялікія страты. Пры аднаўленні і рэканструкцыі горада былі захаваны планіроўка, якая склалася гістарычна, асноўныя помнікі архітэктуры і мураваная забудова 19 — 1-й палавіны 20 ст. ў цэнтральнай частцы Пінска. Першы пасляваенны генеральны план распрацаваны ў 1952 г. ў інстытуце «Белдзяржпраект». Ён прадугледжваў завяршэнне існуючай радыяльна-кальцавой планіроўкі, сувязь галоўных вуліц з плошчай імя У. І. Леніна, пракладку новай магістралі, якая павінна была звязаць заходнія і ўсходнія загарадныя напрамкі, расшырэнне вуліц. У цэнтры намячалася замяніць існуючую малапавярховую забудову 5—4-павярховымі дамамі. У 1950—60-я гады пабудаваны шэраг жылых і адміністрацыйных будынкаў, у дэкоры якіх выкарыстаны ордэрныя формы. Сярод іх вылучаюцца дамы па вуліцах Брэсцкай, 3, Горкага, 55, будынак гаркома КПБ.

У 1972 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва распрацаваны генеральны план забудовы Пінска. Карэкціроўка зроблена ў 1974 г. Праект улічвае гістарычную планіроўку і архітэктурнае аблічча цэнтральнай часткі горада, якая фарміруецца як грамадская і адміністрацыйна-культурная зона. Развіваецца і ўдасканальваецца складзеная стагоддзямі структура. У 1960-я гады галоўная плошча забудавана 5-павярховымі жылымі дамамі з магазінамі. На ёй пастаўлены помнік У. І. Леніну. Плошча раскрыта да р. Піна. У цэнтральным раёне, абмежаваным вуліцамі Брэсцкай, Завальнай, Савецкай і р. Піна, пабудаваны 2—5-павярховыя мураваныя дамы. Тут размешчаны жылыя, адміністрацыйныя, грамадскія, гандлёвыя будынкі, прадпрыемствы бытавога абслугоўвання. На вул. Леніна зберaглася частка забудовы 19 — пачатку 20 ст., а таксама помнікі архітэктуры 16 — 19 стагоддзяў. З канца 1960-х гадоў у вялікім аб'ёме вядзецца жыллёвае будаўніцтва ў Заходнім, Усходнім і Паўночным мікрараёнах. Яны забудоўваюцца 5—9-павярховымі дамамі з цэглы і панелей. Тут створаны мясцовыя грамадска-гандлёвыя цэнтры.

У 1970-я гады ўзведзены новыя жылыя і грамадскія будынкі: дзевяціпавярховыя дамы на вул. Дняпроўскай флатыліі, Дом Саветаў, кінатэатр на вул. Зоі Касмадзям'янскай, Дом культуры на пл. імя Леніна, Дом культуры і бальнічны комплекс на вул. Першамайскай, дзіцячая бальніца на вул. Цэнтральнай. Завяршаецца забудова мікрараёнаў па вул. Цэнтральнай, па вул. Фядотава, па вул. Брэсцкай, дзе пабудаваны 5—9-павярховыя жылыя дамы, гандлёвыя і дзіцячыя ўстановы.

Пінск — прамысловы і культурны цэнтр. Асноўныя галіны прамысловасці: лёгкая — камбінат верхняга трыкатажу, фабрыка трыкатажных спартыўных вырабаў, завод штучных скур, ільнозавод; харчовая — малочны завод, камбінат хлебапрадуктаў, мясакамбінат, кансервавы і вінаробчы заводы; машынабудаўнічая — суднабудаўніча-суднарамонтны, экскаватарарамонтны, ліцейна-механічны, кавальска-прэсавых аўтаматычных ліній заводы, вытворчае аб'яднанне па выпуску ліцейнага абсталявання; дрэваапрацоўчая — вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне «Пінскдрэў». Дзейнічаюць біяхімічны завод, камбінат



**XVII.** *Мікрараён Паўночны.*

будаўнічай індустрыі, фабрыка мастацкіх вырабаў, хімічны камбінат.

Працуюць Усесаюзны дзяржаўны праектна-вышукальны інстытут па праектаванню меліярацыйных сістэм, Палескі комплексны аддзел Беларускага НДІ меліярацыі і воднай гаспадаркі, тэхнікумы мяса-малочнай прамысловасці, індустрыяльна-педагагічны, гідрамеліярацыйны, улікова-крэдытны, саўгас-тэхнікум, вучылішчы медыцынскае, педагагічнае, тэхнічныя трыкатажнікаў, металістаў, прафесійна-тэхнічнае будаўнікоў і сельскае прафесійна-тэхнічнае. У горадзе 17 агульнаадукацыйных, музычная, 2 дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, 2 цэнтралізаваныя бібліятэчныя сістэмы, 14 клубаў, 2 кінатэатры, Беларускі дзяржаўны музей сацыялістычнага пераўтварэння Палесся, Дом культуры, у якім працуюць народны ансамбль танца «Палессе», народны тэатр і народны хор «Палескія песні» і інш., 6 бальнічных і 37 дашкольных устаноў. Выдаецца газета «Полесская правда».

Месцамі адпачынку з'яўляюцца набярэжныя рэк Піны і Прыпяці, лесапаркавая зона горада, парк культуры і адпачынку, у якім размешчаны мемарыяльны комплекс, прысвечаны вызваліцелям Пінска.

Па захаванасці старажытнай планіроўкі і культурных каштоўнасцей Пінск з'яўляецца адным з унікальных гарадоў Беларусі, у якім збераглісяпомнікі археалогіі, гісторыі, архітэктуры, мастацтва і месцы, звязаныя з жыццём вядомых дзеячаў навукі і культуры.

*Літ.:* Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии: Краткий экономический очерк.— Мн., 1967; Городские поселения в Российской империи. Т. 3.— СПб., 1863; Грушевский А. С. Города Великого княжества Литовского в XIV—XVI вв. Старина и борьба за старину.— Киев, 1918; яго ж. Пинское Полесье: Исторические очерки. Ч. 1—2.— Киев, 1901—03; Дунец А. П., Миролюбов Б. В. Пинск.— Мн., 1977; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974; Нетыльркин А. Т. Пинск: Исторический очерк.— Мн., 1961; Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись.— М., 1962; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905; Штыхов Г. В., Лысенко П. Ф. Древнейшие города Белоруссии.— Мн., 1966. Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Kraszewski J. I. Wspomnienia Polesia, Wołynia i Litwy. Cz. 4. Pińsk i okolice.— Warszawa, s. a; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 8.— Warszawa, 1887.

*С. Г. Багласаў, М. І. Камінскі, Ю. А. Якімовіч.*

**1207. БУДЫНАК ГІМНАЗІІ** (гіст.). Вул. Леніна, 39. У гэтым будынку ў 1858 г. была адкрыта першая на Піншчыне гімназія. З 1864 г.— рэальная гімназія, у 1872 г. пераўтворана ў рэальнае вучылішча. У 1882—84 гг. у вучылішчы існаваў гурток марксісцкага кірунку. У 1958 г. ў памяць аб першай сярэдняй агульнаадукацыйнай навучальнай установе ў Пінску на будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1208. ВАРВАРЫНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). Размешчана ў цэнтральнай частцы горада. Першапачатковы будынак узведзены ў 1718 г. з дрэва ў прадмесці Пінска Каралін як касцёл кляштара бернардзінцаў. Мураваны касцёл пастаўлены ў 1786 г., у 1830-я гады перабудаваны і пераўтвораны ў Варварынскую царкву. З поўдня да



**1208.** *Варварынская царква.*



**1208.** *Варварынская царква. План.*



**XVII.** *Дом культуры.*



1208. *Варварынская царква. Папярочны разрэз.*

храма прылягае двухпавярховы корпус манастыра, пабудаванага ў 19 ст., з захаду ад яго — двух'ярусная званіца ў стылі класіцызму.

Царква — аднанефавы бязвежавы храм. Да прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму далучаны развіты прэсбітэрый з паўкруглай апсідай. Памяшканні перакрыты цыліндрычнымі з распалубкамі скляпеннямі на падпружных арках. Пад храмам зроблены склепы, перакрытыя 2 пралётамі масіўных крыжовых скляпенняў. У сценах трапляюцца рады плінфы. Будынак завершаны двухсхільным дахам з атыкавым франтонам складанага профілю. У дэкоры фасадаў — пілястры, раскрапаваныя карнізы, пояскі, абрамленні акон і інш.

Галоўнае зальнае памяшканне, у заходняй частцы якога знаходзяцца хоры, што апіраюцца на 2 слупы, непасрэдна пераходзіць у прэсбітэрый. Скляпенні ад сцяны аддзяляе прафіляваны карніз. У апсідзе ён пераходзіць у маляваны арнаментальны фрыз, які падзяляе выкананую ў тэхніцы грызайль у традыцыях ранняга класіцызму размалёўку алтарнай часткі на 2 ярусы. У ніжнім ярусе імітуюцца архітэктурныя формы карынфскага ордэра (паўратонда з 2 галерэямі, якія разыходзяцца ў 2 бакі). Столь паўратонды арнаментавана кесонамі. Адпаведны дэкор — на падпружных арках зальнага памяшкання. У консе над лучковымі вокнамі, якія абрамляе стылізаваны раслінны арнамент, намаляваны невялікія плафоны. Паміж імі — размалёўка «Маці боская з дзіцем» (пачатак 20 ст.).



1208. *Варварынская царква. Абраз «Маці боская з дзіцем».*



1208. *Варварынская царква. Размалёўка конхі.*

Царква — помнік, архітэктура якога склалася пад уплывам барока.

*Літ.:* В поход по Пинщине: Сборник материалов для краеведов-путешественников по родному краю.— Пинск, 1958; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 5.— Warszawa, 1884.

*Ю. А. Якімовіч, Г. М. Ярмоленка.*

**1209. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У цэнтры сучаснага горада, на левым беразе Піны, насупраць колішняга месца ўпадзення яе ў Прыпяць.

Складалася з дзядзінца і вакольнага горада. Дзядзінец размяшчаўся ў межах сучаснай вул. Чайкоўскага і колішняй рыначнай плошчы, прылягаў з паўднёвага боку да Піны. Паводле плана 1794 г. меў авальную форму: 80 сажняў з захаду на ўсход і 55 з поўначы на поўдзень (плошча 1,76 га). На план нанесены абарончыя валы з усіх бакоў дзядзінца, акрамя таго, што прымыкаў да ракі. Ад вакольнага горада дзядзінец аддзяляўся паўкруглым ровам, які цяпер мае шырыню 60—80 м і глыбіню 3—4 м. З поўначы роў поўнасцю засыпаны, асталася толькі паўночна-заходняя частка.

Вакольны горад старажытнага Пінска ў 11—13 стагоддзях абкружаў дзядзінец з захаду, поўначы і ўсходу (плошча 2,1 га), надыходзячы ў 2 месцах да Піны. Зараз яго тэрыторыя абмяжоўваецца з захаду і поўначы

вул. Горкага, а ўсходняя мяжа праходзіць па ўсходняй частцы пл. імя Леніна. Абарончыя збудаванні (роў і вал) выяўлены ў час земляных работ.

Спроба даказаць, што на тэрыторыі дзядзінца і вакольнага горада існаваў больш старажытны горад, зроблена ў 1896 г. А. І. Мілавідавым. Раскопкі дзядзінца і тэрыторыі вакольнага горада праводзілі ў 1955—64 гг. Т. У. Раўдзіна, Б. В. Міралюбаў, Я. І. Бібікаў, П. Ф. Лысенка. Культурны пласт таўшчынёй да 5 м добра захаваў рэшткі жыллёвых і гаспадарчых пабудоў, насцілы вуліц, дваровыя надмосткі. У асобных выпадках у раскопках ускрыта ад 6 да 9 ярусаў аднačасовых пабудоў рознага характару. Знойдзены рэшткі 2 вуліц, якія ішлі ў радыяльным напрамку ад замка да знешніх умацаванняў. Яны перасякаліся 2 паўкальцавымі вуліцамі, паралельнымі абарончаму валу. Сядзібы складаліся з жылой і некалькіх гаспадарчых пабудоў і абгароджваліся частаколам. Асноўным тыпам жылля былі наземныя аднакамерныя зрубныя пабудовы прамавугольнай формы плошчай каля 16 м², якія рубіліся ў вугал з астаткам, мелі драўляную падлогу і глінабітныя печы. Вуліцы масціліся ўпоперак тонкімі бярвёнамі, накладзенымі на лагі. Будынкі і вуліцы доўгі час размяшчаліся на адным і тым жа месцы.




1209. *Гарадзішча. План.*



1209. *Рэчы з раскопак гарадзішча.*

Рэчы, знойдзеныя пры раскопках (прылады працы, зброя, упрыгожанні, прадметы бытавога прызначэння і хатняга ўжытку), сведчаць аб тым, што насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі (жалезаапрацоўчым, ювелірным, касцярэзным, ганчарным, гарбарным, шавецкім, дрэваапрацоўчым, бандарным і г. д.), паляваннем, рыбалоўствам. Для ўпрыгожання жылля выкарыстоўваліся рознакаляровыя керамічныя пліткі. Знаходкі прывазных рэчаў сведчаць аб гандлёвых сувязях з Кіевам, Валынню, Паўночным Прычарнамор'ем. Найбольш цікавыя археалагічныя знаходкі ў Пінску — фрагмент амфары з надпісам «(Я) рополчевино», шыфернае прасліца з надпісам «NастасиNо прасльNъ», маленькі каменны абразок з выявай Хрыста.

Археалагічныя даследаванні пацвярджаюць існаванне старажытнага Пінска ў апошняй трэці 11 ст. Тэрыторыя гарадзішча з'яўляецца археалагічным запаведнікам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (г. Пінск) і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974. *П. Ф. Лысенка.*

**1210. ДОМ, ДЗЕ ЖЫЎ ЯКУБ КОЛАС** (гіст.). Вул. Чуклая, 63 (раней вул. Водаправодная). Тут на кватэры чыгуначнага фельчара А. А. Балевіча ў 1912—15 гг. жыў народны паэт Беларусі Я. Колас (К. М. Міцкевіч). Ён працаваў настаўнікам у 3-м прыходскім вучылішчы. У Пінску перыяд творчасці Я. Колас напісаў апавяданні «Батрак», «Як Янка забагацеў» і інш., выдаў зборнік апавяданняў «Родныя з'явы» (1914 г.), працаваў над паэмай «Сымон-музыка».



1210. *Дом, дзе жыў Я. Колас.*

У 1964 г. на будынку, дзе жыў Я. Колас, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лужанін М. Колас расказвае пра сябе.— Мн., 1964; Міцкевіч У. А. З роднага кута.— Мн., 1964.

**1211. ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ** (гіст., архіт.). Размешчаны ў гістарычным цэнтры горада, на пл. Леніна. Разам з касцёлам (не збярогся) складаў ансамбль кляштара езуітаў. Пабудаваны ў 1631—35 гг. з цэглы. З 1638 г. ў ім знаходзілася езуіцкая філасофска-



1211. *Будынак езуіцкага калегіума.*

тэалагічная школа. У 18 ст. працавалі друкарня (з 1729 г.) і аптэка. З 1787 г. будынак займалі базыльяне, з 1800 г. ў ім знаходзіўся праваслаўны мужчынскі Богаяўленскі манастыр. Цяпер у будынку размешчаны адміністрацыйныя ўстановы і карцінная галерэя.

Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак паўднёвым фасадам арыентаваны да набярэжнай р. Піна. Планіроўка 1-га паверха галерэйна-калідорная. Тут размяшчаліся класы, трапезная, службовыя памяшканні. 2-і і 3-і паверхі спланаваны па калідорнай сістэме з трохпралётнай схемай перакрыццяў. Крыжовыя скляпенні апіраюцца на масіўныя падоўжныя сцены (таўшчыня ў ніжніх паверхах 1,5—2 м). Тут былі жылыя і рабочыя памяшканні. Пад збудаваннем зроблены склепы. Рытм фасадаў ствараецца аконнымі праёмамі з ляпнымі абрамленнямі і крокам пілястраў 2 ніжніх ярусаў. Паўднёва-заходні вугал фланкіруе шасціграння вежа-контрфорс, што ўмацоўвае сцены пры паніжэнні рэльефу да ракі. Будынак завершаны двухсхільным дахам з заломам. Яго тарцы ўпрыгожаны складанымі франтонамі з дэкаратыўнымі валютамі.

Калегіум — прыклад манастырскага збудавання стылю барока.

*Літ.:* Мараш Я. Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569—1795).— Мн., 1971; Nasze Kościoły. Djecezja Mińska.— Warszawa, [1912]; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 8.— Warszawa, 1887.

*Ю. А. Якімовіч.*



**1211.** *Езуіцкі калегіум. Вуглавая вежа-контрфорс.*



**1211.** *Езуіцкі калегіум. Бакавы фасад.*

**1212. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ ЛЕНІНА** (архіт.). Уключае дамы № 2, 4, 5, 8, 10, 14, 24, 38—40, пабудаваныя ў 2-й палавіне 19 — пачатку 20 ст. і размешчаныя па «чырвонай лініі» вуліцы.

Дом № 2. На скрыжаванні вуліцы і плошчы Леніна. Пабудаваны ў 1925—28 гг. з цэглы. Пры будаўніцтве выкарыстаны прыёмы архітэктуры «мадэрн». Трохпавярховы будынак пад пакатым двухсхільным дахам мае ў плане форму чатырохвугольніка. Крылы дома ўтвараюць вузкі ўнутраны дворык, у які вядзе праезд з боку вуліцы. Архітэктура будынка характарызуецца абмежаванай колькасцю дэкаратыўных дэталей (міжпавярховы прафіляваны паясок, расшыўка тынкоўкі пад руст, плоскія ліштвы праёмаў, ажурныя балконныя рашоткі). Пластычнасцю дэкаратыўнага вырашэння вызначаецца вуглавы эркер.

Дом № 4. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Прымыкае да дома № 2 пры дапамозе крытага праезду ва ўнутраны двор. Двухпавярховы аб'ём выцягнуты ў бок двара і выходзіць на вуліцу вузкім тарцовым фасадам, расчлянёным прамавугольнымі аконнымі праёмамі і вуглавымі лапаткамі. Планіровачна будынак падзелены на 2 палавіны з самастойнымі ўваходамі з боку вуліцы і праезду.

Дом № 5. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы ў стылі канструктывізму. Выцягнуты ўздоўж вуліцы двухпавярховы аб'ём у плане блізкі да прамавугольніка. Будынак мае калідорную сістэму планіроўкі з выхадам у двор і лесвіцай на 2-і паверх. Часткова выкарыстоўваецца гандлёвымі прадпрыемствамі.

Дом № 8. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Невялікі аднапавярховы будынак з мансардавым дахам. У плане мае форму прамавугольніка і падзелены на дзве кватэры. Галоўны вулічны фасад плоскасны з 4 прамавугольнымі лучковымі вокнамі і простым карнізам, вуглы дэкарыраваны лапаткамі. Дом мае 2 уваходы з двара.

Дом № 10. Пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Аднапавярховы жылы будынак у плане блізкі да квадрата. Папярочнай сцяной падзелены на 2 палавіны. Двухсхільны мансардавы дах мае тарцовыя фігурныя шчыты. Галоўны і дваровы фасады сіметрычнай кампазіцыі з 3 лучковымі вокнамі і дзвярамі. Пры ўваходзе — лесвіца на мансарду.



**1212.** *Забудова вуліцы Леніна. Дамы № 2, 4.*



**1212.** *Забудова вуліцы Леніна. Дом № 5.*



**1212.** *Забудова вуліцы Леніна. Дамы № 8, 10, 12, 14.*



**1212.** *Фрагмент забудовы вуліцы Леніна з домам № 24.*



**1212.** *Забудова вуліцы Леніна. Дамы № 38, 40.*

Д о м № 14. На скрыжаванні вуліц Леніна і Камсамольскай. Пабудаваны ў 1920—30-я гады з цэглы пад уплывам архітэктуры «мадэрн». Двухпавярховы невялікі будынак мае Г-падобны план. З боку двара да яго прыбудаваны аб'ём лесвічнай клеткі. Уваходы ў дом праз праезд з боку вул. Камсамольскай. Вулічныя фасады расчляпёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, маюць 2 балконы, дэкарыраваны круглаватым атыкам, вялізным карнізам простага профілю, лапаткамі.

Д о м № 24. Пабудаваны ў 1922 г. з цэглы. Аднапавярховы будынак вузкім тарцовым фасадам выходзіць у бок вуліцы. Завершаны пластычным шчытом мансардавага паверха. Прамавугольны ў плане, выцягнуты ў глыбіню двара, з боку якога знаходзяцца прыбудовы ўваходных тамбураў. Выкарыстоўваецца гандлёвымі прадпрыемствамі.

Д о м № 38—40. На скрыжаванні вуліц Леніна і Някрасава. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Будынак двухпавярховы, складаецца з 2 частак, аб'яднаных адзіным праездам. Вугал дома на скрыжаванні вуліц зрэзаны і вылучаны гранёным эркерам, які навісае над уваходам. У завершы вугла — фігурны шчыт у форме кокошніка, дэкарыраванага філёнгамі і арнаментам з цаглянай муроўкі. Пластыку фасадаў узбагачаюць фігурныя ліштвы акон, лапаткі, філёнгі, пінаклі, руст. Уваходны рызаліт завершаны ступеньчатым атыкам.

Жылая забудова па вул. Леніна з'яўляецца характэрным для 2-й палавіны 19 — пачатку 20 ст. горадабудаўнічым ансамблем. У яго архітэктуры ўвасобіліся эклектычныя рысы.

*А. М. Кулагін.*

**1213. ЗАБУДОВА ВУЛІЦЫ САВЕЦКАЙ** (архіт.). Уключае дамы № 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 11, 13 — фрагмент жылой забудовы 19 — пачатку 20 ст.

Д о м № 2. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы, на скрыжаванні вуліц Савецкай і Кулікова. Двухпавярховы дом вузкім тарцовым фасадам выходзіць на вул. Савецкую. Сіметрычна-восевая кампазіцыя фасада падкрэслена ў цэнтры ўваходным рызалітам, завершаным фігурным атыкам з пінаклямі. Уваход вылучаны лучковым франтонам. Пластыка фасада ствараецца вуглавымі лапаткамі, лучковымі клінападобнымі аркамі аконных праёмаў, прафіляваным карнізам з аркатурным фрызам. Уваход на 2-і паверх — з боку двара праз самастойную лесвічную клетку. У архітэктуры выкарыстаны пластыка-арнаментальныя якасці цаглянай муроўкі. У будынку размешчана гандлёвае прадпрыемства.

Д о м № 3. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Невялікі кампактны будынак уяўляе сабой аднапавярховы, прамавугольны ў плане аб'ём з пластычным мансардавым дахам. Карніз афармлены сухарыкамі.

Д о м № 4. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Развіты ў глыбіню двара, вузкім тарцовым фасадам выходзіць на вуліцу. Вулічны фасад аформлены лапаткамі, падаконнымі прафіляванымі паясамі, карнізамі простага профілю. Лесвічная клетка прыбудавана да тарцовага дваровага фасада.

Д о м № 5. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Значна выцягнуты ў глыбіню двара, аднапавярховым тарцовым фасадам выходзіць на «чырвоную лінію» вуліцы. Атынкаваны галоўны фасад мае прамавугольныя вокны і завершаны фігурным мансардавым шчытом з балконам у цэнтры. У пластычнай апрацоўцы выкарыстаны вуглавыя лапаткі, руст, прафіляваныя карнізы з



**1213.** *План 1-га паверха дома № 2 па вуліцы Савецкай.*



**1213.** *План 1-га паверха дома № 4 па вуліцы Савецкай.*




**1213.** *Забудова вуліцы Савецкай. Дамы № 2, 4, 6.*



1213. *Забудова вуліцы Савецкай. Дамы № 5, 7.*



1213. *План дома № 5 па вуліцы Савецкай.*

сухарыкамі. Капітальнымі сценамі і перагародкамі дом падзелены на кватэры, аб'яднаныя вакол лесвіцы, якая вядзе на мансардавы паверх.

Дом № 6. Пабудаваны ў стылі канструктывізму ў 1928 г. з цэглы. Яго двухпавярховы аб'ём мае выцягнуты прамавугольны галоўны фасад, на якім вылучаецца плоскі ўваходны рызаліт з атыкавым завяршэннем і вертыкальнай стужкай зашклёнай лесвічнай клеткі. Шырокія аконныя праёмы аб'яднаны доўгімі балконамі і завяршальным магутным парапетам. Мае калідорную планіроўку з 2 міжпаверхавымі лесвіцамі.



1213. *План 1-га паверха дома № 6 па вуліцы Савецкай.*



1213. *План дома № 7 па вуліцы Савецкай.*

Дом № 7. Цагляны аднапавярховы дом пабудаваны ў пачатку 20 ст. Складаны ў плане аб'ём з двухсхільным дахам. Вулічны фасад вырашаны плоскасна і расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі. У яго дэкоры выкарыстаны прафіляваны карніз, вуглавыя лапаткі. Унутры дом падзелены перагародкамі на шэраг пакояў. Уваход з боку двара. У будынку размяшчаецца медустанова.

Дом № 8. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы на скрыжаванні вуліц Савецкай і Астроўскага. Прамавугольны двухпавярховы будынак пад пакатым двухсхільным дахам падоўжным фасадам выцягнуты ўздоўж вул. Савецкай. Вулічныя фасады апрацаваны багатым архітэктурным і скульптурным дэкорам (раслінны арнамент, капітэлі, разеткі, руст, лапаткі, балясіны і інш.). 1-ы паверх расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і руставанымі лапаткамі, 2-і — дэкарыраваны пластычным, арнаментальна насычаным фрызам і ляпнымі ліштвамі акон. Дом падзелены на 2 палавіны з самастойнымі ўваходамі і лесвіцамі.

Дом № 11. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. Складаны ў плане, развіты ў бок двара будынак. Атынкаваны галоўны фасад сіметрычна-восевай кампазіцыі рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і філёнгамі. Вокны аформлены ліштвамі, фасады — лапаткамі і прафіляваным карнізам. Уваходы — з двара і бакавых фасадаў.



1213. *Забудова вуліцы Савецкай. Дом № 8.*



1213. *План 1-га паверха дома № 8 па вуліцы Савецкай.*



1213. *План дома № 11 па вуліцы Савецкай.*

Дом № 13. На скрыжаванні вуліц Савецкай і Астроўскага. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы будынак з планам, блізкім да прамавугольніка, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Фасады аформлены карнізамі, філёнгамі, рустам. Лучковыя вокны аздоблены фігурнымі ліштвамі з сандрыкамі. Дом выкарыстоўваецца гандлёвай установай, падзелены на гандлёвую і жылую часткі з самастойнымі ўваходамі.

Архітэктурны воблік забудовы вул. Савецкай мае эклектычны характар.

*А. М. Кулагін.*

**1214. КАСЦЁЛ КАРЛА БАРАМЕЯ** (архіт.). Размешчаны на ўсход ад цэнтра горада, на вул. Кірава. Пабудаваны ў 1770—82 гг. з цэглы, у былым прадмесці Пінска Караліне, на месцы старога драўлянага касцёла, пастаўленага ў 1695 г.



1213. *Забудова вуліцы Савецкай. Дом № 13.*



1213. *План 1-га паверха дома № 13 па вуліцы Савецкай.*



1214. *Касцёл Карла Барамея.*



1215. *Кляштар францысканцаў. Касцёл і званіца.*



1214. *Касцёл Карла Барамея. План.*

Пабудова аднанефавая, з невялікім трансептам. Алтарная частка не вылучана, сакрысціі размешчаны за галоўным алтаром нефа. Да касцёла прылягае двух'ярусная званіца з шатровым дахам і купалам. У яе ніжнім ярусе знаходзяцца хоры. Характэрнай асаблівасцю збудавання з'яўляюцца моцныя канструкцыі сцен, таўшчыня якіх у асобных месцах больш за 2 м. Бакавыя сцены прарэзаны невялікімі арачнымі аконнымі праёмамі і расчлянёны лапаткамі. Нешматлікія элементы барочнай аздобы (пілястры, нішы, паяскі, абрамленні акон і інш.) выкарыстаны галоўным чынам у званіцы. Інтэр'ер — зальнае памяшканне, у якім вялікае значэнне нададзена высокім крыжовым скляпеннем і нішам сцен. Дэкаратыўная аздоба інтэр'ера не захавалася.

Касцёл — помнік архітэктуры з элементамі барока.

*Літ.:* Nasze Kościoły. Djecezja Mińska.— Warszawa, [1912]. *Ю. А. Якімовіч.*

**1215. КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ** (архіт., маст.). Размешчаны ў цэнтры



1215. *Кляштар францысканцаў. Касцёл. План.*



1215. *Кляштар францысканцаў. Агульны выгляд.*



1215. *Кляштар францысканцаў. Фрагмент дворыка.*



**1215.** *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Галоўны алтар.*



**1215.** *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Бакавы алтар.*



**1215.** *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Папярочны разрэз.*

горада, паміж р. Піна і вул. Леніна.

Драўляныя кляштар і касцёл заложаны ў 1396 г. для манахаў францысканскага ордэна. У 1510 г. на месцы драўлянага касцёла збудаваны мураваны. Будынкі значна пашкоджаны ў час паўстання 1648 г., перабудоўваліся. У 1712—30 гг. узведзены мураваныя карпусы кляштара і зноў перабудаваны касцёл. Пры яго рэканструкцыі выкарыстаны муры 16 ст. У 1817 г. перад касцёлам пастаўлена трох'ярусная мураваная званіца (арх. К. Каменскі), 4-ы ярус якой дабудаваны ў пачатку 20 ст. Карпусы кляштара перабудаваны ў 1920-я гады (арх. Г. Гай).

Чатыры ўзаемна перпендыкулярныя двух- і трохпавярховыя карпусы кляштара разам з касцёлам утвараюць некалькі дворыкаў. Пабудовы маюць плоскасныя фасады, рытм якіх ствараецца прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Тарцы завершаны барочнымі франтонамі складанага профілю. Планіроўка калідорная, перакрыцці паверхаў скляпеністыя.

Галоўная пабудова ансамбля — касцёл Успення дзевы Марыі — аднанефавы храм з прыбудаванымі да яго капліцамі. Цэнтральны неф і крыху вузейшая за яго паўкруглая апсіда з прэсбітэрыумам накрыты стромкім чарапічным дахам, які ў месцы злучэння аб'ёмаў завершаны гранёнай вежачкай. Вузкія бакавыя нефы, утвораныя капліцамі, накрыты аднасхільнымі дахамі.

Заходні (галоўны) фасад расчлянёны на 3 ярусы і завершаны складаным франтонам з 2 вежамі па баках. Фасад дэкарыраваны пілястрамі, раскрапаванымі карнізамі, філёнгавымі нішамі і паяскамі. Бакавыя фасады раскрапаваны лапаткамі. Сцены бакавых нефаў прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, цэнтральнага нефа і апсіды — прамавугольнымі праёмамі з лучковым завяршэннем. Галоўны неф і прэсбітэрыум перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках.



**1215.** *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Падоўжны разрэз.*



**1215.** *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Скульптурная выява Архангела Гаўрыіла.*



**1215.** *Кляштар францысканцаў. Касцёл. Амбон.*

У інтэр'еры — разныя пазалочаныя алтары 18 ст. (6 драўляных і 1 стукавы). У іх складаныя кампазіцыі ўключана шмат драўлянай скульптуры і дэкаратыўная арнаментальная разьба, выкананая ў стылі барока.

Найбольш багата аформлены галоўны алтар, які замыкае перспектыву інтэр'ера храма. Першы яго ярус аздабляюць скульптуры апосталаў Пятра і Паўла, завяршае — антаблемент з разарваным франтонам, дзе размешчана гарэльефная кампазіцыя «Стыгматызацыя св. Францыска». Урачысты лад галоўнага алтара падкрэсліваюць бакавыя алтары з драўлянымі скульптурамі святых і разным абрамленнем алтарнага жывапісу. На гранях разнога амбона — рэльефныя выявы 4 евангелістаў з атрыбутамі. Балдахін амбона, аздоблены ажурнай глыбокай разьбой раслінных матываў, завершаны статуяй архангела з вагамі. Дэкаратыўная разьба, драўляныя скульптуры апосталаў, пуцці і іншыя фігуры пазалочаны і пасрэбраны, што надае інтэр'еру ўрачысты і багаты выгляд.

У 1909 г. мастак С. Рудзінскі размаляваў арнаментальнымі матывамі скляпенні і падпружныя аркі, мастак Б. Вішнеўскі на сценах прэсбітэрыума напісаў 2 фрэскі — «Зняцце з крыжа» і «Пакланенне звестуноў».

Кляштар — адзін з буйнейшых архітэктурных ансамбляў Беларусі стылю барока.

*Літ.:* Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Marczak M. Przewodnik po Polesiu.— Brześć nad Bugiem, 1935; Morelowski M. Studja i materjały do historji stosunków artystycznych Polski z Zachodem a w szczególności z ziemią Leodyjską i z dawnemi Niderlandami.— Wilno, 1935; Nasze Kościoły. Djecezja Mińska.— Warszawa, [1912]; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 8.— Warszawa, 1887.

*Л. Г. Лапцэвіч, Ю. А. Якімовіч.*

**1216. МАГІЛА КАНАРЭЕВА** Уладзіміра Рыгоравіча (гіст.). На вул. Спакойнай, гарадскія могілкі.

Герой Савецкага Саюза У. Р. Канарэеў нарадзіўся 12.6.1915 г. на станцыі Сафіеўка Вальнянскага р-на Запарожскай вобл. Член КПСС з 1950 г. У 1939—42 гг. працаваў на заводзе «Строммашына» ў Свярдлоўску. На фронце з 1942 г. У час вызвалення Беларусі старшына 2-й стацці У. Р. Канарэеў у складзе Дняпроўскай ваеннай флатыліі ўдзельнічаў у некалькіх дэсантных аперацыях. Пры вызваленні г. Пінска група дэсантнікаў на чале з У. Р. Канарэевым знішчыла 2 дзоты, вызваліла каля 200 савецкіх ваеннапалонных і разам з іншымі часцямі адбіла шматлікія контратакі ворага. За гераізм і мужнасць, праяўленыя ў баях, У. Р. Канарэеву 7.3.1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Да 1968 г. служыў у Савецкай Арміі, потым жыў у г. Пінску. Памёр 26.11.1973 г.

У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1217. МАГІЛА МІНЕЕВА** Дзмітрыя Міхайлавіча (гіст.). На вул. Спакойнай, гарадскія могілкі.

Герой Савецкага Саюза Дз. М. Мінееў нарадзіўся 24.10.1916 г. ў г. Горкім. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з сакавіка 1943 г. Да верасня 1944 г. старшы лейтэнант 175-га штурмавога авіяцыйнага палка 305-й штурмавой авіяцыйнай Паўлаградскай Чырванасцяжнай дывізіі Дз. М. Мінееў зрабіў 95 баявых вылетаў, збіў 10 варожых самалётаў, знішчыў 8 танкаў, 38 аўтамашын, 17 мінамётна-кулямётных кропак, 4 склады з гаручым і боепрыпасамі, 2 паравозы, 22 вагоны. За мужнасць і адвагу ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў Дз. М. Мінееву 23.2.1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Пасля вайны жыў у Пінску. Памёр 21.1.1954 г.

У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1218. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Вул. Астроўскага, насупраць будынка Пінскага індустрыяльна-педагагічнага тэхнікума.

У гонар савецкіх воінаў 61-й і 28-й армій, Дняпроўскай ваеннай флатыліі 1-га Беларускага фронту і партызан, якія ў ліпені 1944 г. ўдзельнічалі ў вызваленні Пінска, у 1964 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1219. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАВЯТОВАГА КАМІТЭТА РКП(б)** (гіст.). Вул. Першамайская, 23. Устаноўлена ў 1951 г. на будынку, у якім у студзені — сакавіку 1919 г. знаходзіўся Пінскі павятовы камітэт РКП(б). Створаны пасля вызвалення Пінска ад нямецкіх захопнікаў, пятлюраўцаў і белагвардзейцаў 25.1.1919 г.

*Літ.:* Нетылькин А. Т. Пинск: Исторический очерк.— Мн., 1961.

**1220. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ШТАБА 4-й АРМІІ ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ** (гіст.). Вул. Леніна, 5. Устаноўлена ў 1951 г. на будынку, у якім 2—20.9.1920 г. размяшчаўся штаб 4-й арміі (2-га фарміравання) Заходняга фронту.

4-я армія сфарміравана паводле загада камандавання Заходняга фронту ад 30.8.1920 г. на базе Мазырскай групы войск. Камандуючы А. Дз. Шуваеў, з 17.10.1920 г. М. Я. Какурын; члены РВС Я. І. Вегер, І. І. Межлаук, К. І. Грунштэйн; начальнік штаба Вятвінскі, з 20.9.1920 г. С. А. Межанінаў, з 17.10.1920 г. К. К. Шэф. У склад арміі ўваходзілі: 4-я, 10-я, 17-я, 55-я, 57-я стралковыя, 17-я кавалерыйская дывізіі, 142-я стралковая брыгада, 2-я асобная і 13-я кавалерыйскія брыгады, зводны атрад і асобны запасны батальён. З 2.9.1920 г. часці і злучэнні арміі вялі баявыя дзеянні ў раёне гарадоў Пружаны, Кобрын, Целяханы, Пінск і іншых за пераправы цераз р. Прыпяць і яе прытокі. Расфарміравана 18.10.1920 г., часці і злучэнні арміі перададзены ў 16-ю армію Заходняга фронту, штаб пераведзены на Паўднёвы фронт для фарміравання новай 4-й арміі для барацьбы з войскамі Урангеля.



**1219.** *Будынак, дзе знаходзіўся павятовы камітэт РКП(б).*

*Літ.:* Какурин Н. Е. Русско-польская кампания 1918—1920.— М., 1922; Какурин Н. Е., Меликов В. А. Война с белополяками 1920 г.— М., 1925; Борьба за Советскую власть в Белоруссии 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 2.— Мн., 1971; Директивы командования фронтов Красной Армии (1917—1922 гг.): Сб. документов. Т. 4.— М., 1978; Саўчанка М. Л. На зямлі Піншчыны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1979, № 4.

*М. І. Камінскі.*

**1221. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ШТАБА ДНЯПРОЎСКАЙ ВАЕННАЙ ФЛАТЫЛІІ** (гіст.). Вул. Дняпроўскай флатыліі, 39. Устаноўлена ў 1978 г. на будынку, у якім з 28.7.1944 г. да 3.2.1945 г. знаходзіўся штаб Чырванасцяжнай ордэна Ушакова 1-й ступені Дняпроўскай ваеннай флатыліі.

**1222. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ШТАБА ПАЎСТАНСКАГА ПАЛКА** (гіст.). Вул. Леніна, 38. Устаноўлена ў 1974 г. на будынку, у якім пасля вызвалення горада ад германскіх войск у студзені — сакавіку 1919 г. размяшчаўся штаб 2-га Палескага паўстанскага камуністычнага палка.

Полк сфарміраваны ў канцы лістапада 1918 г. з партызанскіх атрадаў вёсак Вітчаўскай, Лемяшэвіцкай, Марачанскай і Радчыцкай валасцей Пінскага павета, якія вялі барацьбу су-



**1223.** *Будынак былога Пінскага абкома КП(б)Б, дзе працавала В. З. Харужая.*

праць акупантаў з лета 1918 г. Асабовы састаў у асноўным быў укамплектаваны ўдзельнікамі 1-й сусветнай вайны, якія мелі вопыт узброенай барацьбы. Полк удзельнічаў у ліквідацыі варожых гарнізонаў і ўстаноў у Пінскім павеце, большая частка тэрыторыі якога была вызвалена да пачатку снежня 1918 г. Аднак у канцы снежня 1918 г. на вызваленую партызанамі зону пачала наступленне пятлюраўская дывізія. Часці 2-га паўстанскага палка да 19.1.1919 г. адкінулі пятлюраўцаў да мястэчка Сарны, у гэты час у Лунінец сталі прыбываць часці Чырвонай Арміі. 23.1.1919 г. часці 2-га Палескага палка і 152-га палка Чырвонай Арміі пачалі баі за Пінск і 25 студзеня вызвалілі горад. 2-і Палескі полк спачатку ўвайшоў у склад Пінскага гарнізона, потым у склад 17-й стралковай дывізіі Заходняй Арміі і вёў баі ў раёне Антопаля, Драгічына, Іванава, удзельнічаў у абароне Пінска. Пасля Грамадзянскай вайны полк расфарміраваны: частка яго байцоў дэмабілізавана, частка ўключана ў склад працоўнай арміі.

*Б. В. Міралюбаў.*

**1223. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст.). Вул. В. Харужай, 12.

У 1939—41 гг. інструктарам аддзела прапаганды і агітацыі Пінскага абкома КП(б)Б працавала В. З. Харужая — Герой Савецкага Саюза (1960 г.). У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны В. З. Харужая і яе муж С. Г. Карнілаў уступілі ў створаны Пінскім абкомам КП(б)Б партызанскі атрад, які ўзначаліў В. З. Корж.

У 1964 г. на будынку, у якім працавала В. З. Харужая, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Новиков И. Г. Вера Хоружая: (Очерк о жизни и деятельности пламенной коммунистки).— М., 1962.

**1224. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст., маст.). У цэнтральным парку культуры і адпачынку.

5.7.1944 г. часці Чырвонай Арміі выйшлі да Пінскіх балот. Нямецка-фашысцкія войскі выкарысталі цяжкапраходныя поймы Прыпяці, Піны, Ясельды і стварылі моцную лінію абароны. У ноч з 11 на 12.7.1944 г. на паўднёва-ўсходняй ускраіне Пінска з караблёў Дняпроўскай ваеннай флатыліі быў высаджаны дэсант — 1323-і стралковы полк 415-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту і атрад маракоў. Дэсантнікі выбілі ворага з прыбярэжных умацаванняў і пачалі рухацца да цэнтра горада. Завязаліся жорсткія баі. Асабліва цяжкае становішча склалася ў паласе 2-га батальёна, калі варожыя танкі, самаходныя ўстаноўкі і пяхота прарваліся да Піны. На дапамогу дэсантнікам прыйшлі маракі бранякатэраў. Бранякатэр № 92, які вёў агонь з адкрытай пазіцыі, адрэзаў пяхоту фашыстаў, хоць сам трапіў пад моцны абстрэл ворага. У гэты час часці 55-й гвардзейскай Іркуцкай стралковай дывізіі 28-й арміі, якія прайшлі па Пінскіх балотах з поўначы на поўдзень, каля в. Вулька далучыліся да 61-й арміі і разам пачалі наступаць на Пінск. Пераадольваючы ўпартае супраціўленне ворага, часці Чырвонай Арміі паспяхова фарсіравалі рэкі Прыпяць, Ясельду, Піну і раніцай 14 ліпеня вызвалілі Пінск ад ворагаў.

У 1950—67 гг. на месцы высадкі дэсанта, там, дзе знаходзіцца брацкая магіла 155 савецкіх воінаў, маракоў Чырванасцяжнай Дняпроўскай ваеннай флатыліі і партызан, якія загінулі пры вызваленні Пінска ў Вялікую Айчынную вайну, створаны мемарыяльны комплекс (арх. М. Заржэцкі, скульпт. А. Шмакаў). Планіроўка комплексу мае восевую кампазіцыю. У пачатку алеі на набярэжнай Піны ўстаноўлены на пастаменце з бетону бранякатэр № 92 і стэла з памятным надпісам. Перспектыву алеі замыкае прамавугольная пляцоўка, якая пад-




**1224.** *Помнік на магіле Ц. І. Калініна.*




**1224.** *Мемарыяльны комплекс вызваліцелям. Фрагмент.*




**1224.** *Помнік на магіле А. Ц. Кулікова.*

водзіць да двухмаршавай лесвіцы. Паміж маршамі зроблены парапет з прымацаванымі да яго дошкамі з 155 імёнамі загінуўшых вызваліцеляў. Лесвіца вядзе да галоўнай кампазіцыйнай часткі комплексу — бетоннай стэлы з бронзавымі барэльефамі матроса, салдата і жанчыны. Каля падножжа стэлы — Вечны агонь. З 2 бакоў стэлы ўстаноўлены абеліскі на магілах Герояў Савецкага Саюза Ціхана Ігнатавіча Калініна і Аляксея Цімафеевіча Кулікова.

Ц. І. Калінін нарадзіўся 6.8. 1916 г. ў сяле Смышляеўка Кузаватаўскага р-на Ульянаўскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Закончыў Горкаўскае ваенна-палітычнае вучылішча імя Фрунзе ў 1941 г. У Чырвонай Арміі з жніўня 1937 г. Удзельнік баёў у раёне воз. Хасан (1938 г.) і савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г.: камандзір бранепоезда № 30, намеснік камандзіра, камандзір 47-га знішчальнага процітанкавага артылерыйскага дывізіёна, з жніўня 1943 г.— камандзір 62-га асобнага гвардзейскага знішчальнага процітанкавага артылерыйскага дывізіёна 55-й гвардзейскай Іркуцкай стралковай дывізіі. Удзельнічаў у баях за вызваленне Каўказа, Кубані, Крыма, Беларусі. Праявіў гераізм пры вызваленні Пінска 13.7. 1944 г. Дывізіён на чале з гвардыі маёрам Ц. І. Калініным фарсіраваў р. Ясельда, захапіў плацдарм на другім беразе ракі і адбіў некалькі варожых контратак. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.9.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Пінску.

А. Ц. Кулікоў нарадзіўся ў 1924 г. ў сяле Горная Пралейка Балашоўскага р-на Саратаўскай вобл. Член ВЛКСМ. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны працаваў на заводзе ў Сталінградзе. На фронце з 1942 г. Удзельнік баёў за вызваленне Украіны і Беларусі. Вызначыўся восенню 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра. Разведчык радавы А. Ц. Кулікоў адным з першых пераправіўся цераз раку, пранік у стан фашыстаў, знішчыў 7 варожых агнявых кропак, разведаў сістэму абароны праціўніка і даставіў разведданыя савецкаму камандаванню. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.10.1943 г. Гвардыі матрос А. Ц. Кулікоў загінуў 12.7.1944 г. ў баі за вызваленне Пінска. Яго імем названа вуліца ў Пінску.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Локтионов И. И. Пинская и Днепровская флотилии в Великой Отечественной войне.— М., 1958; Ивушкин Н. Б. Место твоё впереди.— М., 1976.

*Г. І. Дулеба, Б. В. Міралюбаў.*

**1225. МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ ДОШКІ Ў ГОНАР ПАЛЕСКАГА РЭЎКОМА І ПІНСКАГА ПАВЯТОВАГА ВЫКАНКОМА** (гіст.). Вул. Першамайская, 37 (цяпер сярэдняя школа № 6). Дзве мемарыяльныя дошкі ўстаноўлены ў 1979 г. на будынку, дзе размяшчаліся Палескі рэўком і Пінскі павятовы выканком. Тут з 25.1 да 20.2.1919 г. знаходзіўся Палескі рэўком, у склад якога ўваходзілі Р. М. Астроўскі (старшыня), М. С. Кавалевіч, А. Г. Палхоўскі, К. Ф. Русакоў, Канякін, Паўловіч, Сохнік, Нагорны, М. Ц. Лазнуха. У снежні 1918 г. на з'ездзе партызанскіх камандзіраў Палесся ў Століне створаны Палескі рэўком. 25.1. 1919 г. Пінск быў вызвалены ад нямецкіх войск, белагвардзейцаў і пятлюраўцаў, улада перайшла да Палескага рэўкома, які 31 студзеня пастанавіў склікаць з'езд Саветаў. 20.2. 1919 г. з'езд Саветаў Пінскага павета выбраў Пінскі павятовы выканком, які пачаў ажыццяўляць рэвалюцыйныя пераўтварэнні. Але 5.3.1919 г. горад захапілі войскі буржуазнай Польшчы. Павятовы выканком пераехаў у Лунінец. 11 сакавіка ён быў ператвораны ў Пінскі павятовы рэўком.



**1224.** *Мемарыяльны комплекс вызваліцелям. Бранякатэр.*



**1225.** *Будынак, дзе знаходзіўся Палескі рэўком і Пінскі павятовы выканком.*

*Літ.:* Великий Октябрь — торжество идей марксизма-ленинизма.— М., 1970; Дунец А. П., Миролюбов Б. В. Пинск: Историко-экономический очерк.— Мн., 1977.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**1226. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ ЧЫГУНАЧНІКАЎ У РЭВАЛЮЦЫЮ 1905—07 гг.** (гіст.). Пасля падзей «Крывавай нядзелі» 1905 г. група рабочых сацыял-дэмакратаў Пінска выдала адозву «Да ўсіх рабочых Пінска» з заклікам да ўсеагульнай забастоўкі, узбраення і звяржэння самадзяржаўя. Па гэтаму закліку 29 студзеня ўсе 1500 рабочых галоўных чыгуначных майстэрняў спынілі работы. Пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратаў яны выпрацавалі і прад'явілі адміністрацыі шэраг патрабаванняў (увядзенне 8-гадзіннага рабочага дня, паляпшэнне ўмоў працы, павелічэнне зарплаты, стварэнне спецыяльнай камісіі па абароне правоў чыгуначнікаў, выплаты зарплаты за час хваробы і інш.). Забастоўка працягвалася і ў лютым, пакуль праўленне Палескіх чыгунак не задаволіла частку патрабаванняў забастоўшчыкаў.

Найвышэйшага размаху рэвалюцыйны рух сярод чыгуначнікаў дасягнуў у час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі і Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. У авангардзе працоўных у кастрычніцкія дні 1905 г. ішлі рабочыя галоўных чыгуначных майстэрняў. 11 кастрычніка яны аб'явілі палітычную забастоўку. Да іх далучыліся рабочыя іншых прадпрыемстваў, рамеснікі, прыказчыкі, навучэнцы. Неўзабаве жыццё горада было цалкам паралізавана. Для кіраўніцтва барацьбой быў арганізаваны стачачны камітэт, які стварыў баявыя дружыны, кантраляваў работу чыгуначнай станцыі, аказваў дапамогу забастоўшчыкам, падтрымліваў рэвалюцыйны парадак у горадзе. На дапамогу працоўным Пінска прыбыў узброены атрад рабочых з Лунінца.

У падтрымку пралетарыята Масквы 9 снежня чыгуначнікі спынілі работу, да іх далучыліся рабочыя прамысловых прадпрыемстваў. На чале быў кааліцыйны забастовачны камітэт з

членаў Пінскай групы РСДРП, Бунда, эсэраў, беспартыйных чыгуначнікаў. Як паведамляў 13 снежня ў дэпартамент паліцыі памочнік начальніка Мінскага губернскага жандарскага ўпраўлення, чыгуначнікі аб'ядналіся з гарадскімі рабочымі, узброілася каля 10 тыс. чалавек. Былі разбураны лініі тэлеграфа, рабочыя намагаліся захапіць станцыю, дзе засеў атрад войск. Але ў рашаючы момант забастовачны камітэт па прапанове прадстаўнікоў Бунда вырашыў 20 снежня спыніць забастоўку. Барацьбу працягвалі толькі чыгуначнікі. Іх выступленні былі задушаны 23 снежня атрадам карнікаў.

У 1974 г. на будынку вакзала ў гонар пінскіх чыгуначнікаў, якія актыўна ўдзельнічалі ў Рэвалюцыі 1905—07 гг., устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955. *Э. М. Савіцкі.*

**1227. МЕСЦА, ДЗЕ ПРАЦАВАЎ ЯКУБ КОЛАС** (гіст.). Вул. Чыгуначная, 7. Тут у 1912—15 гг. у 3-м прыходскім вучылішчы працаваў настаўнікам народны паэт Беларусі Я. Колас (К. М. Міцкевіч). Цяпер у будынку размяшчаецца сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 28. У 1952 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Лужанін М. Колас расказвае пра сябе.— Мн., 1964; Міцкевіч У. А. З роднага кута.— Мн., 1964.

**1228. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). Каля аэрапорта. Тут у 1942—43 гг. нямецка-фашысцкія захопнікі сістэматычна расстрэльвалі мірных савецкіх грамадзян, падпольшчыкаў і ваеннапалонных. Масавыя расстрэлы адбыліся ў канцы кастрычніка — пачатку лістапада 1942 г. Усяго загублена больш за 30 тыс. чалавек. Перад прыходам Чырвонай Арміі гітлераўцы, каб знішчыць сляды свайго злачынства, раскапалі магілы, спалілі трупы, а ямы і равы зараўнялі. На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1964 г. ў скверы перад будынкам аэрапорта пастаўлена стэла.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1965. *Г. І. Дулеба.*

**1229. МЕСЦА ПРАЦЫ АНАНІІ** (гіст.). Вядомы беларускі рэзчык па дрэве 2-й палавіны 15 — пачатку 16 ст. Ананія працаваў пры двары пінскага князя Фёдара Яраславіча. Стварыў для яго (паміж 1456—1505 гг.) на пальмавай дошцы разны абраз «Премудрость созда себе дом» на тэму прытчаў Саламонавых.

*Літ.:* Художники народов СССР: Библиогр. словарь. Т. 1.— М., 1970; Искусство стран и народов мира: Краткая художественная энциклопедия. Т. 1.— М., 1962; Уваров А. С. Резная икона «Премудрость созда себе дом»...— У кн.: Древности. Археологический вестник. М., 1868, т. 1; Вестник общества древнерусского искусства.— М., 1874, № 1—3. *Г. І. Барышаў.*

**1230. МЕСЦА РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ РАБОЧЫХ, БАРАЦЬБЫ ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ, МЕСЦА ПРАЦЫ НЯМЫТАВА** Уладзіміра Рыгоравіча (гіст.). Вул. Брэсцкая, 44, цяпер прамысловае аб'яднанне «Пінскдрэў» (раней — фанера-шпілечная і запалкавая «Прагрэс-Вулкан» фабрыкі).



*1227. Будынак былога 3-га прыходскага вучылішча, у якім працаваў Я. Колас.*

**1230а.** Месца выступленняў рабочых у рэвалюцыю 1905—07 гг. У час першай рускай рэвалюцыі на фанера-шпілечнай і запалкавай «Прагрэс-Вулкан» фабрыках адбыліся масавыя выступленні рабочых. Яны прымалі ўдзел у забастоўках у лютым і сакавіку 1905 г., ва ўсеагульнай стачцы 9—23.12.1905 г., у забастоўках у лютым і 1 Мая 1906 г. У 1974 г. ў памяць аб рэвалюцыйных выступленнях устаноўлена мемарыяльная дошка.

**1230б.** Месца забастоўкі ў 1928 г. На пінскай запалкавай фабрыцы «Прагрэс-Вулкан» працавала больш за 500 рабочых, якія знаходзіліся пад уплывам КПЗБ.

У канцы мая 1928 г. па патрабаванню рабочых пінскай запалкавай фабрыкі ў Варшаве была склікана канферэнцыя прадстаўнікоў усіх запалкавых фабрык Польшчы, якая прыняла рашэнне пачаць усеагульную забастоўку. Рабочыя запалкавай прамысловасці патрабавалі павелічэння заработнай платы і паляпшэння ўмоў працы. Адміністрацыя «Прагрэс-Вулкана» адмовілася весці перагаворы, і тады забастовачны камітэт аб'явіў забастоўку, якая працягвалася 3 месяцы. Рабочыя ў гэтай барацьбе паказалі згуртаванасць, адзінства і вытрымку. Яны не дазволілі выкарыстаць на фабрыцы штрэйкбрэхераў, дапамагалі грашовымі сродкамі найбольш бедным. Пінская арганізацыя КПЗБ правяла збор сродкаў і прадуктаў харчавання сярод рабочых і сялян для забастоўшчыкаў. Дапамагалі і салідарныя рабочыя з іншых гарадоў. Рабочыя перамаглі. Адміністрацыя была вымушана павялічыць на 17 % зарплату, заплаціць за ўвесь час забастоўкі, плаціць за звышурочную работу, забяспечыць кожнага рабочага спецвопраткай.

**1230в.** Месца барацьбы падпольшчыкаў у 1941—43 гг. З першых дзён акупацыі Пінска нямецка-фашысцкімі захопнікамі працоўныя горада ўзняліся на барацьбу. З верасня 1941 г. да снежня 1943 г. дзейнічала камуністычнае падполле. Сярод першых былі створаны падпольныя групы на запалкавай фабрыцы і фанерным заводзе. Падпольшчыкі вялі палітычную агітацыю сярод насельніцтва, збіралі зброю, медыкаменты, выводзілі са строю станкі і механізмы. Летам 1943 г. яны падарвалі электрастанцыю на заводзе і паравы кацёл на фабрыцы, у верасні 1943 г.— вадакачку і семафор на чыгуначнай станцыі. У канцы 1943 г. большасць падпольшчыкаў пайшла ў партызаны.

**1230г.** Месца працы Нямытава Уладзіміра Рыгоравіча. На адміністрацыйным будынку прамысловага аб'яднання «Пінскдрэў» у памяць аб былым рабочым, дэпутаце Вярхоўнага Савета БССР, упаўнаважаным ЦК КП(б)Б па Пінскай вобл., партызане У. Р. Нямытаве ў 1974 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Загінуў 30.12.1942 г. ў баі з карнікамі. Пахаваны ў брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Малоткавічы Пінскага р-на.

*Літ.:* Полуян В. А., Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии в 1920—1939 гг.— Мн., 1962; У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗБ — актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.— Мн., 1958. *В. Б. Караткевіч.*

**1231. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ПІНСКАЙ ГРУПЫ РСДРП** (гіст.). Першы рэвалюцыйны гурток узнік у Пінску ў 1882 г. ў асяроддзі навучэнцаў рэальнага вучылішча. Яго члены ўстанавілі сувязь з польскай рабочай партыяй «Пралетарыят», праводзілі прапаганду сярод мясцовых рамеснікаў. Масавыя арышты членаў гуртка ўлетку 1884 г. не спынілі сацыял-дэмакратычнай прапаганды сярод працоўных горада. У 2-й палавіне 1890-х гадоў узнік сацыял-дэмакратычны рабочы гурток, на базе якога пасля І з'езда РСДРП пачала складвацца Пінская сацыял-дэмакратычная група. Члены групы наладзілі сувязі з сацыял-дэмакратамі Гомеля, Варшавы і іншых гарадоў, атрымлівалі і распаўсюджвалі нелегальную літаратуру, у т. л. брашуру У. І. Леніна «Тлумачэнне закона аб штрафах, якія бяруцца з рабочых на фабрыках і заводах», газету «Искра», выданні Арганізацыйнага камітэта па скліканню ІІ з'езда РСДРП, падрыхтавалі і выдалі ўласныя адозвы і пракламацыі «Да ўсіх грамадзян горада Пінска», «Да рабочых параходскіх майстэрняў О'Брыена дэ Ласі», «Да ўсіх пінскіх рабочых і работніц» і інш.

Пад уплывам дзейнасці сацыял-дэмакратаў у Пінску ў пачатку 20 ст. пашырыўся рабочы рух. 3—4.4.1901 г. адбылася забастоўка 100 работніц за-

палкавай фабрыкі Гальперына, якія патрабавалі скарачэння рабочага дня, павелічэння заработнай платы і паляпшэння ўмоў працы. Дзень гадавіны забойства Аляксандра II (1.3. 1903 г.) рабочыя адзначылі мітынгам, на якім прысутнічала каля 3 тыс. чалавек. Мітынг ахоўваўся баявой дружынай і прайшоў пад лозунгамі «Далоў Раманавых!», «Няхай жыве канстытуцыя!». Праз месяц рабочыя напалі на паліцэйскі ўчастак і вызвалілі арыштаваных сацыял-дэмакратаў, пасля чаго мінскі губернатар накіраваў у Пінск 2 роты карнікаў. У чэрвені 1904 г. баставалі рабочыя (151 чалавек) суднабудаўнічага завода, у жніўні і верасні рабочыя горада выступілі з пратэстамі супраць забойства царскімі ўладамі 2 палітычных ссыльных у Якуцку і расстрэлу рабочага мітынгу ў Беластоку.

У пачатку 1905 г. напярэдадні III з'езда партыі Пінская група РСДРП канчаткова аформілася і ўвайшла ў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП. У канцы 1905 г., паводле сведчання газеты «Северо-Западный край» (№ 795 ад 1.12.1905 г.), на чале арганізацыі стаяла цэнтральная партыйная група з 7 чалавек. Пры ёй працавалі калегія прапагандыстаў з 6 чалавек і 2 групы агітатараў. Былі створаны 3 раённыя (чыгуначны — 70, фабрычна-заводскі — 60 і рамесны — 50 членаў партыі) і 2 падраённыя камітэты. Пры раённых арганізацыях дзейнічалі бібліятэкі прапагандысцкай літаратуры. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. група кіравала выступленнямі рабочых і сялян, выдавала лістоўкі, вяла прапаганду сярод рабочых, сялян, вучнёўскай моладзі, пашырыла свой уплыў на Брэст. Буйнейшыя выступленні працоўных Пінска пад кіраўніцтвам групы РСДРП адбыліся ў час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі і Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. У гэтыя дні фактычная ўлада ў горадзе належала стачачнаму камітэту, баявыя дружыны рабочых здабылі зброю, ім на дапамогу прыбыў узброены атрад з Лунінца. Упартая барацьба працягвалася да 23.12.1905 г. Пасля паражэння рэвалюцыі Пінская група РСДРП была разгромлена царскімі ўладамі, большасць яе членаў арыштавана.

*Літ.:* История Коммунистической партии Советского Союза. Т. 1—2.— М., 1964—66; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— 2 изд.— Мн., 1968; КП(б)Б у рэзалюцыях. Ч. 1 (1903—1921 гг.).— Мн., 1934; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Бич М. О. Развитие социал-демократического движения в Белоруссии в 1883—1903 гг.— Мн., 1973; Кузняев А. А. На пути к Октябрю: Из истории партийного строительства в Белоруссии 1884—1917 гг.— Мн., 1970. *Э. М. Савіцкі.*

**1232. МЕСЦА СТВАРЭННЯ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА В. З. КАРЖА** (гіст.). Вул. Заслонава, 8.



1232. *Будынак, дзе на арганізацыйнай нарадзе было прынята рашэнне аб стварэнні партызанскага атрада В. З. Каржа.*

Пінскім абкомам КП(б)Б 26.6.1941 г. быў створаны адзін з першых на Беларусі партызанскі атрад з 60 партыйна-савецкіх работнікаў і камсамольцаў г. Пінска. Камандзір атрада — загадчык сектара Пінскага абкома КП(б)Б, удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі ў 1922—25 гг. і нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі ў 1936—37 гг. В. З. Корж (псеўданім Камароў), камісары М. І. Бандаравец, В. Ц. Меркуль. У ліпені — жніўні 1941 г. ў атрадзе змагалася В. З. Харужая — Герой Савецкага Саюза (1960 г.). У сакавіку 1943 г. на базе атрада В. З. Каржа створана партызанская брыгада імя С. М. Будзённага Пінскага партызанскага злучэння, якая змагалася супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Ленінскага р-на Пінскай вобл. На дзень злучэння з Чырвонай Арміяй (14.7.1944 г.) брыгада налічвала 1078 чалавек (3 атрады). За баявыя заслугі ў Вялікую Айчынную вайну камандзіру атрада, пазней камандзіру Пінскага партызанскага злучэння В. З. Каржу 15.8.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. У 1964 г. на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1.— Мн., 1967; Калинин П. З. Партизанская республика.— 2 изд.— Мн., 1968; Непокорённая Белоруссия: Воспоминания и статьи о всенародном партизанском движении в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1945 гг.).— М., 1963. *Г. І. Дулеба.*

**1233. ПАЛАЦ БУТРЫМОВІЧА** (архіт.). Вул. Леніна, на левым беразе р. Піна. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. Цяпер у ім Палац піянераў і школьнікаў.

Аднапавярховы будынак з высокім цокальным паўпаверхам мае сіметрычны П-падобны план. Галоўны паўночна-заходні фасад, арыентаваны да вуліцы, вылучаны ў цэнтры авальным эркерам з каланадай і невялікай тэрасай. Цэнтральны ўваход на дваровым фасадзе падкрэслены пабудаваным у пачатку 19 ст. тамбурам, завершаным франтонам. Тарцы бакавых крылаў вырашаны порцікамі з падвоенымі калонамі. Сцены расчлянёны пілястрамі і завершаны развітым антаблементам з трыгліфамі. Цокаль і тамбур апрацаваны рустам. Прамавугольныя



1233. *Палац Бутрымовіча. Дваровы фасад.*



1233. *Палац Бутрымовіча. Галоўны фасад.*



1233. *Палац Бутрымовіча. Папярочны разрэз.*



1233. *Палац Бутрымовіча. Падоўжны разрэз бакавога крыла.*

аконныя праёмы аздоблены франтонамі, у цэнтральнай частцы ёсць паўцыркульныя імпасты. У інтэр'еры выкарыстаны анфіладны і калідорны прынцыпы размяшчэння памяшканняў, разнастайных па форме і памерах. У цэнтры на восі сіметрыі знаходзяцца тамбур, вестыбюль і парадная авальная зала з выхадам на тэрасу, па баках — анфілады малых залаў і кабінетаў. Гаспадарчыя і службовыя памяшканні вынесены ў цокальны паверх. Аздоба інтэр'ераў не захавалася.

Палац — помнік архітэктуры позняга барока з элементамі класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**1234. ПОМНІК АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ 1812 г.** (гіст.). У гарадскім парку.



1233. *Палац Бутрымовіча. План.*



1233. *Палац Бутрымовіча. Аксанаметрыя.*

У ліпені 1812 г. 3-я руская армія пад камандаваннем генерала А. П. Тармасава вяла баі з 7-м саксонскім корпусам генерала Ж. Рэньё, асноўныя войскі якога стаялі ў Пружанах, а асобныя атрады — у Брэсце, Кобрыне, Янаве і Пінску. А. П. Тармасаў вырашыў знішчыць непрыяцеля ў гэтых пунктах, а потым працягваць барацьбу ў тыле ворага. Створаныя ім атрады пад камандаваннем К. В. Ламберта і А. Р. Шчарбатава павінны былі рознымі шляхамі падысці 13 ліпеня да Брэста, аб'яднацца і атакаваць ворага, потым рухацца на Кобрын для злучэння з арміяй А. П. Тармасава; дзеянні 3-га атрада пад камандаваннем А. П. Мелісіно павінны былі стварыць уражанне, быццам уся 3-я армія трымае кірунак на Пінск. Гэты план быў выкананы. Корпус Ж. Рэньё, уведзены ў зман атрадам А. П. Мелісіно, з Пружан пайшоў да Янава. Атрад А. Р. Шчарбатава 12 ліпеня прыбыў пад Брэст і, не чакаючы атрада К. В. Ламберта, захапіў горад. Рухаючыся да Янава, А. П. Мелісіно накіраваў у Пінск атрад на чале з палкоўнікам Жэвахавым, які разбіў там французаў і ўзяў у якасці трафея гармату.



1234. *Помнік у гонар разгрому рускімі войскамі атрада французскіх войск у ліпені 1812 г.*

У 1978 г. ў памяць аб гэтай падзеі ўстаноўлены помнік — гранітная глыба з гарматай каля падножжа.

*Літ.:* Михайловский-Данилевский [А. И.] Описание Отечественной войны в 1812 году. Ч. 1.— СПб., 1839.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**1235. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На плошчы Леніна (скульпт. М. Альтшулер, арх. М. Мілавідаў; бронза, граніт; вышыня фігуры 6,5 м). Адкрыты ў 1970 г. На развітым бетонным стылабаце з выразна акрэсленымі квадратамі пліт асіметрычна размешчаны гранітная трыбуна і невысокі гарызантальна вырашаны пастамент з бронзавай фігурай Ільіча. Энергічны крок, крысо паліто, адкінутае назад ветрам, характэрны паварот галавы ствараюць рамантычна-ўзнёслы вобраз правадыра рэвалюцыі. Помнік арганічна завяршае забудову галоўнай плошчы горада ў паўночнай яе частцы, з боку р. Піна.

Помнік вылучаецца манументальнай пластыкай фігуры, выразным сілуэтам, удала знойдзеным маштабам.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**1236. ПОМНІК МАРАКАМ ДНЯПРОЎСКАЙ ВАЕННАЙ ФЛАТЫЛІІ** (гіст.). На вул. Брэсцкай, у садзе каля матроскага клуба.

Маракі Днянроўскай ваеннай флатыліі вызначыліся ў баях за вызваленне Пінска ад нямецка-фашысцкіх акупантаў у ліпені 1944 г. За гэту аперацыю флатылія была ўзнагароджана ордэнам Чырвонага Сцяга, 11 воінам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, сотні матросаў і афіцэраў узнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі, асобным часцям і злучэнням флатыліі нададзены ганаровыя найменні «Пінскіх». У гонар маракоў у 1964 г. пастаўлены мармуровы абеліск (аўтар У. Усціненка). Імем Дняпроўскай флатыліі названа вуліца ў Пінску.

*Літ.:* Локтионов И. И. Пинская и Днепровская флотилии в Великой Отечественной войне.— М., 1958. *Г. І. Дулеба.*

**1237. ПОМНІК Ў ГОНАР БУДАЎНІЦТВА ШАШЭЙНАЙ ДАРОГІ ПІНСК — БРЭСТ** (гіст.). На заходняй ускраіне горада, на вул. Брэсцкай.

У 1935 г. пачалося будаўніцтва першай на Палессі шашэйнай дарогі Пінск — Брэст. Усе работы за нязначную плату выконваліся былымі беспрацоўнымі (іх колькасць у 1936 г. ў Заходняй Беларусі складала больш за 25 тыс. чалавек). 8.11.1938 г. будаўніцтва дарогі, якая праходзіла цераз багну палескіх балот, было скончана. У памяць аб гэтай падзеі ў 1938 г. быў адкрыты помнік — на бетонным чатырохвугольным пастаменце пастаўлены



1235. *Помнік У. І. Леніну.*

18 базальтавых слупоў. У 1974 г. на помніку ўстаноўлена дошка з памятным надпісам.

**1238. ПОМНІК ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (маст.). У скверы на скрыжаванні вуліц Леніна і В. Харужай. Устаноўлены ў 1973 г. ў гонар Героя Савецкага Саюза (1960 г.), дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну, партызанкі, публіцыста В. З. Харужай (скульпт. Б. Івонцьеў, арх. М. Ткачук; бетон, мармуровая крошка; вышыня помніка 4,5 м). Пабудаваны на сродкі, сабраныя камсамольцамі і моладдзю горада.

Помнік — вертыкальная трохгранная стэла са скульптурным партрэтам Харужай. Натхнёны твар поўны энергіі і сілы. Фонам скульптуры з'яўляецца зрэз цэнтральнай грані стэлы. Стэла размешчана ў глыбіні асіметрычнай шматвугольнай у плане пляцоўкі, якая выслана бетоннымі плітамі.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**1239. РАДЗІМА ЖАЛТОЎСКАГА** Івана Уладзіслававіча (гіст.).

Рускі савецкі архітэктар, акадэмік архітэктуры (1909 г.), правадзейны член Акадэміі архітэктуры СССР (1939—56 гг.), Акадэміі будаўніцтва і архітэктуры СССР (з 1956 г.), ганаровы акадэмік АН БССР (з 1947 г.), заслужаны дзеяч навукі і мастацтва РСФСР (1932 г.), заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1944 г.). І. У. Жалтоўскі нарадзіўся 15.11.1867 г. У 1887—98 гг. вучыўся ў пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Вывучаў архітэктуру ў Італіі (у 1910-я гады і ў 1923—26 гг.). З 1898 г. жыў і працаваў у Маскве, займаўся праектнай, тэарэтычнай і педагагічнай дзейнасцю. Выкладаў у мастацкіх ВНУ, Інстытуце аспірантуры Акадэміі архітэктуры СССР. З 1953 г. ўзначальваў архітэктурную майстэрню-школу інстытута «Маспраект».

І. У. Жалтоўскі — адзін з буйнейшых прадстаўнікоў неакласічнага кірунку ў рускай і савецкай архітэктуры. Сярод яго работ у Маскве найбольш вядомыя — дом былога Скакавога таварыства на Скакавой алеі (1903—05 гг.), дом (былы асабняк Тарасава) на вул. А. Талстога (1909—10 гг.), жылыя дамы для рабочых завода АМО (1915 г.). У 1918—23 гг. І. У. Жалтоўскі ўдзельнічаў у складанні плана рэканструкцыі Масквы, быў аўтарам праектаў генплана і плана шэрагу павільёнаў Усерасійскай сельскагаспадарчай і саматужна-прамысловай выстаўкі 1923 г. Яму належаць праекты будынкаў Дзяржбанка (1927—29 гг.), жылых дамоў на праспекце Маркса (1933—34 гг.). За праект жылых дамоў на Ленінскім праспекце (1949 г.) у 1950 г. прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР. І. У. Жалтоўскі з'яўляецца аўтарам праекта жылых



1236. *Помнік маракам Дняпроўскай ваеннай флатыліі.*

дамоў каля Смаленскай плошчы (1950 г.), на праспекце Міру (1957 г.), будынка іпадрома (1951—55 гг.), а таксама павільёна СССР на Міжнароднай выстаўцы ў Мілане (1925—26 гг.), адміністрацыйных будынкаў у Махачкале (1927—28 гг.) і ў Сочы (1934—36 гг.). У 1941 г. пад кіраўніцтвам І. У. Жалтоўскага распрацаваны першы праект драматычнага тэатра ў Гомелі, у 1944 г. ён прымаў удзел у распрацоўцы плана аднаўлення і рэканструкцыі гэтага горада. І. У. Жалтоўскі памёр 16.7.1959 г. ў Маскве.

*Літ.:* И. В. Жолтовский: Проекты и постройки.— М., 1955. *С. Г. Багласаў.*



1238. *Помнік В. З. Харужай.*

**1240. РАДЗІМА КОРБУТА** Пятра Юльянавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза П. Ю. Корбут нарадзіўся 29.9.1908 г. ў сям'і рабочых. Член КПСС з 1928 г. У Чырвонай Арміі з 1931 г. У 1932 г. скончыў Арлоўскую бранятанкавую школу, у 1941 г.— Ваенную акадэмію механізацыі і матарызацыі Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Паўднёвым, 4-м Украінскім франтах. З жніўня 1943 г. гвардыі палкоўнік П. Ю. Корбут — камандзір 37-й гвардзейскай танкавай брыгады. Вызначыўся ў лютым 1944 г. ў баях на Нікапальскім плацдарме. Танкавая брыгада пад камандаваннем П. Ю. Корбута прарвала абарончы рубеж праціўніка, знішчыла 310 салдат і афіцэраў, 59 гармат, 79 кулямётаў, 6 танкаў, 22 аўтамашыны. Загінуў у баі 4.2.1944 г. Пахаваны ў г. Мелітопалі. Брыгадзе за паспяхова праведзеную аперацыю было нададзена ганаровае найменне «Нікапальская», а яе камандзіру П. Ю. Корбуту 19.3.1944 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**1241. ЦАРКВА НА МОГІЛКАХ** (архіт.). На вул. Спакойнай. Пабудавана ў 1823 г. з дрэва, перабудавана ў 20 ст. Асноўны зруб, аднолькавы па шырыні з бабінцам, пераходзіць у пяцігранную апсіду. Зрубы накрыты агульным дахам. Над бабінцам узвышаецца чацверыковая званіца з галоўкай. Фасады ўпрыгожаны пілястрамі. Пры ўваходзе — ганак з 2 калонамі.

Царква — помнік архітэктуры з рысамі класіцызму.



1241. *Царква на могілках.*



1241. *Царква на могілках. План.*

**в. Азарычы, Валішчанскі сельсавет**

**1242. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 68 жыхароў вёсак Азарычы, Клятная, Сакалоўка, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск з 2 дошкамі: на першай — імёны ахвяр фашызму, на другой — імёны 40 воінаў-землякоў, што загінулі ў баях за Радзіму ў 1941—45 гг.

**в. Альшанка, Парэцкі сельсавет**

**1243. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 9 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Аснежыцы, цэнтр сельсавета**

**1244. БЮСТ РАЛЬКО** Уладзіміра Антонавіча (гіст., маст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Устаноўлены ў 1981 г. ў гонар двойчы Героя Сацыялістычнай Працы, гаспадарчага дзеяча, старшыні калгаса «Аснежыцкі» У. А. Ралько.

У. А. Ралько нарадзіўся 30.7.1922 г. ў в. Падарэссе Старадарожскага р-на Мінскай вобл. ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1950 г. У гады Вялікай Айчыннай вайны прымаў удзел у партызанскім руху на Беларусі. У 1944—50 гг. працаваў старшым інспектарам ЦСУ Пінскага р-на. З 1950 г. старшыня калгаса «Аснежыцкі» Пінскага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 18.1.1958 г. за дасягненні ў развіцці жывёлагадоўлі і павелічэнні вытворчасці і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў, другім залатым медалём «Серп і Молат» быў узнагароджаны 23.2.1976 г. за выдатныя заслугі ў развіцці калгаснай вытворчасці і актыўную грамадскую дзейнасць. Член ЦК КПБ з 1976 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1966—70 гг. і з 1974 г., Вярхоўнага Савета БССР у 1959—63 гг.

Пагрудны бронзавы бюст пастаўлены на прамавугольным гранітным пастаменце (скульпт. І. Міско, арх. Ю. Казакоў; вышыня бюста 1,1 м, пастамента 2,9 м), ніжняя частка якога дэкарыравана рэльефным арнаментальным поясам з каласоў. У партрэце падкрэслена мэтанакіраванасць, валявы характар. Зрэзы плячэй, гарызантальныя і дыяганальныя заломы драпіровак адзення надаюць вобразу ўнутраную дынамічнасць. На грудзях — выявы 2 медалёў «Серп і Молат». На пастаменце — інфармацыйны надпіс.

*А. Г. Шчарбатаў, Г. М. Ярмоленка.*




1244. *Бюст У. А. Ралько.*

**1245. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ КАЛГАСА «АСНЕЖЫЦКІ»** (архіт.).

У в. Аснежыцы — цэнтры калгаса «Аснежыцкі» — фарміруецца новы архітэктурны ансамбль пасёлка гарадскога тыпу. Сядзіба забудоўваецца з 1970-х гг. паводле праекта, распрацаванага ў 1968 г. Белдзіпрасельбудам (арх. В. М. Хандогін). Спраектавана як адміністрацыйны і культурна-бытавы цэнтр 6 навакольных вёсак і пасёлка нафтавікоў, якія абслугоўваюць участак нафтаправода «Дружба».

Аснова архітэктурна-планіровачнай арганізацыі сядзібы — галоўная вуліца, вырашаная ў выглядзе шырокага бульвара і звязаная з грамадскім цэнтрам. Уздоўж яе пабудаваны трохпавярховыя васемнаццацікватэрныя жылыя дамы. Іх архітэктурнае аблічча ствараецца рытмам аконных праёмаў, балконаў-лоджый, лесвічных клетак, чырвонай і жоўтай абліцоўкай. Участак бульвара разбіты на газоны, кветнікі, баскеты, асветлены свяцільнямі-ліхтарамі, абнесены чыгуннай арнаментальна-дэкаратыўнай агароджай. Тут устаноўлены бюст двойчы Героя Сацыялістычнай Працы У. А. Ралько (гл. артыкул № 1244 «Бюст Ралько Уладзіміра Антонавіча»). Сквер звязвае плошчу з зонай адпачынку і вадаёмам.

Грамадскі цэнтр размешчаны на высокім узгорку і максімальна раскрыты ў бок галоўнага ўезду і бульвара. Уключае Дом культуры, гандлёвы комплекс, адміністрацыйны буды-



1245. *Жылая забудова цэнтральнай сядзібы калгаса «Аснежыцкі».*

нак, жылыя дамы. За грамадскім цэнтрам ствараецца парк ландшафтнай планіроўкі са спарткомплексам. У агульны ансамбль сядзібы ўключана існуючая індывідуальная забудова, развіццё жылой зоны праектуецца на свабоднай тэрыторыі з паўднёва-ўсходняга боку вёскі. Вытворчая зона размешчана адасоблена на паўночна-заходняй ускраіне. *А. М. Кулагін.*

**в. Астравічы, Гарадзішчанскі сельсавет**

**1246. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі 12.7.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1247. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі на плошчы больш за 4 га. Займае ўчастак другой надпоймавай тэрасы левага берага р. Ясельда. Выявіла і абследавала ў 1980 г. В. С. Вяргей. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Сабраны фрагменты ляпнога посуду з дамешкай жарствы ў цесце і насечкамі на краі венчыка, расшчэплены крэмень са слядамі апрацоўкі. Датуецца 3 ст. да н. э.— 2 ст. н. э., адносіцца да зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Ахова, цэнтр сельсавета**

**1248. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На могілках. Пабудавана ў 1758 г. з дрэва, перабудоўвалася ў 1864 г.

Складаецца з пяціграннага алтарнага і прамавугольнага цэнтральнага зрубаў і невялікага тамбура-бабінца, якія аб'яднаны з цэнтральным у адзіны аб'ём. Алтарны зруб мае 2 рызніцы. Будынак знадворку ашаляваны і накрыты агульным гонтавым вальмавым дахам з залобкам на галоўным фасадзе. Над бабінцам узвышаецца вежа-званіца, завершаная барочнай галоўкай. Сцены апрацаваны шалёўкай з нашчыльнікамі, умацаваны лапаткамі, завершаны карнізамі, вокны аздоблены ліштвамі. Галоўнае і алтарнае памяшканні маюць агульную вышыню плоскай столі і непасрэдна злучаны паміж сабой. Такой жа вышыні і бакоўкі, размешчаныя каля алтарнага памяшкання. У інтэр'еры — разны алтар 18 ст.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі барока. *Ю. А. Якімовіч.*




1247. *Селішча. План.*



1248. *Крыжаўзвіжанская царква. План.*

**1249. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля клуба. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бакінічы, Парахонскі сельсавет**

**1250. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пясчаным узгорку на правым беразе р. Бобрык. Даўжыня 150 м, культурны пласт 0,3 м. Выявіў у 1964 г. і даследаваў у 1965—67 гг. У. Ф. Ісаенка. Пры раскопках трапляюцца ранненеалітычныя знаходкі (5—4-е тысячагоддзі да н. э.; абломкі гаршкоў з расліннымі рэшткамі ў сценках пасудзін, сякерападобныя прылады працы, пласцінистыя прылады працы з крэменю) і позняенеалітычныя (3-е тысячагоддзе да н. э.) прадметы, характэрныя для нёманскай культуры.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976.

**в. Барычавічы, цэнтр сельсавета**

**1251. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1962 г.

**в. Бобрык, цэнтр сельсавета**

**1252. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Перад клубам. На ўшанаванне памяці 106 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, а таксама ад рук ворагаў Савецкай улады, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**1253. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). Насупраць будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева. Бюст героя Грамадзянскай вайны В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1975 г.



1249. *Помнік землякам.*

**в. Ботава, Навадворскі сельсавет**

**1254. СТАЯНКІ** (археал.).

**1254а.** Стаянка-1. За 2 км на поўдзень ад вёскі, на паўночным беразе воз. Пагосцкае, на марэнным узгорку вышынёй да 4—6 м. Даўжыня да 100 м. Выявіў і даследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены больш за 400 апрацаваных крамянёў і крамянёвых прылад працы, абломкі ляпных гаршкоў. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э., адносіцца да эпохі неаліту.

**1254б.** Стаянка-2. За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на паўночным беразе воз. Пагосцкае, на схіле марэннага ўзгорка вышынёй 2—4 м. Даўжыня больш за 120 м. Адкрыў у 1962 г. і даследаваў у 1967—70 гг. У. Ф. Ісаенка. Выяўлены рэшткі 3 агнішчаў. Сярод знаходак — 1250 апрацаваных крамянёў, каля 200 крамянёвых прылад працы (наканечнікі стрэл, сярпы, сякеры, нажы, скрабкі і інш.), абломкі амаль 20 ляпных гаршкоў. Належыць да нёманскай культуры эпохі неаліту і культуры шнуравой керамікі бронзавага веку, ёсць рэчы ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Валішча, цэнтр сельсавета**

**1255. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 76 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — абеліск з выявамі воіна і партызана і стэла з выявай жанчыны ў жалобе і імёнамі загінуўшых землякоў.

**1256. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.



1255. *Помнік землякам.*



1256. *Помнік У. І. Леніну.*

**в. Велясніца, Мерчыцкі сельсавет**

**1257. ПОМНІК СПАЛЕНЫМ ВЁСКАМ** (гіст.). Побач з клубам. У ліпені 1944 г. вёскі Велясніца і Рудка былі спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1968 г. ў памяць аб спаленых вёсках пастаўлены абеліск.

**в. Востраў, Ласіцкі сельсавет**

**1258. ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1720 г. з дрэва. Часткова перабудавана ў 1869 г. Аб'ём храма накрыты двухсхільным дахам, які на галоўным фасадзе ўтварае ўсечаны франтон з чацверыковай вежай і барабанам з галоўкай над ім. Вальмавы схіл над алтаром вянчае маленькі чацверыковы барабан з высокім шлемам. Перад царквой — трох'ярусная зрубна-каркасная вежа-званіца, накрытая шатровым дахам.

Царква — помнік народнага дойлідства.

**1259. СТАЯНКІ** (археал.).

**1259а.** Стаянка-1. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля моста на правым беразе р. Стыр. Займае астанец першай надпоплаўнай тэрасы. Даўжыня 60 м. Выявіў і даследаваў у 1965 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — грубаабабітыя сякеры, трохвугольныя наканечнікі стрэл, абломкі гліняных пасудзін. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

**1259б.** Стаянка-2. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Стыр, на пясчаным узгорку. Даўжыня 150 м. Выявіў і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены 300 апрацаваных крамянёў, абломкі ляпнога посуду. Датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н. э.

**1259в.** Стаянка-3. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на пясчаных узгорках вышынёй 1—3 м над поплавам левага берага р. Стыр. Даўжыня 80 м. Выявіў і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — рэшткі 2 жытлаў, грубаапрацаваныя пікападобныя сякеры, пласціністыя наканечнікі стрэл, скрабкі, мікралітычныя вырабы, абломкі гаршкоў нёманскай культуры. Датуецца 5—4-м тысячагоддзямі да н. э.

**1259г.** Стаянка-4. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, уздоўж дарогі на Ласіцк. Даўжыня 200 м. Выявіў і даследаваў у 1973 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і абломкі ляпных гаршкоў з вельмі бугрыстай паверхняй. Датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э. і ранні́м жалезным векам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Вуйвічы, Барычавіцкі сельсавет**

**1260. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўночна-заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1788 г. з дрэва, часткова перабудавана ў 1937 г.

Першапачаткова была трохзрубная, складалася з прамавугольнага бабінца, квадратнага цэнтральнага і гранёнага алтарнага зрубаў. Цэнтральны зруб быў вылучаны шатровым дахам з галоўкай на глухім барабане, бабінец меў двухсхільны, а алтарны зруб — вальмавы дахі. Пры перабудове над цэнтральным зрубам зроблены нізкі васьмерыковы верх на ветразях



1258. *Прачысценская царква і званіца.*



1258. *Прачысценская царква. План.*



1260. *Ільінская царква. Бакавы фасад.*



1260. *Ільінская царква. Выгляд з боку апсіды.*



1260. *Ільінская царква. План.*

(накрыты шатровым дахам), да яго бакавых сцен прырублены гранёныя прыбудовы, бабінец ператвораны ў трох'ярусную званіцу. У выніку перабудовы кампазіцыя царквы стала асіметрычнай.

Прамавугольныя вокны аздоблены ліштвамі. Масіўная трох'ярусная званіца завершана сферычным пакрыццём з галоўкай. Яе трэці ярус расчлянёны прычолкамі на 2 часткі.

У інтэр'еры вылучаецца двух'ярусны цэнтральны аб'ём, у які раскрываюцца шырокімі праёмамі астатнія памяшканні. Ва ўсходняй частцы званіцы зроблены хоры, злучаныя з цэнтральным зрубам.

Помнік адлюстроўвае пераемнасць традыцый архітэктуры мясцовай школы 18 ст. і пачатку 20 ст.

*Ю. А. Якімовіч.*

**в. Вулька,**
**Гарадзішчанскі сельсавет**

**1261. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 116 жыхароў вёскі, загубленых гітлераўцамі ў маі — чэрвені 1943 г., у 1979 г. пастаўлены помнік. Цэнтральная частка помніка ўяўляе сабою стылізаваныя рэшткі печы спаленай хаты, у комін якой умацціраваны звон, у ніжняй частцы — барэльефная выява бацькоў, якія падтрымліваюць паранепага сына. Абапал цэнтральнай часткі — дзве гарызантальныя стэлы з барэльефнымі выявамі твараў мірных жыхароў у жалобе, савецкіх воінаў і партызан і імёнамі загінуўшых землякоў.




1261. *Помнік ахвярам фашызму.*

**в. Вылазы, Парахонскі сельсавет**

**1262. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі 12.7.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1263. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Ш в е д с к і я к а ц ц ы. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, за 50 м улева ад дарогі на Стараселле. 5 курганоў вышынёй 0,5—0,6 м, дыяметрам 8—15 м. Насыпы паўсферычныя, расплывістыя. Вядомы з 1928 г., абследавалі ў 1970 г. В. Б. Караткевіч, у 1980 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Археологические открытия 1970 года.— М., 1971.

**1264. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1787 г. з дрэва. Двухзрубная пабудова з прамавугольным галоўным і гранёным алтарным зрубамі з усходу (да сярэдзіны 19 ст. мела бабінец са званіцай). Сцены знадворку ашаляваны гарызантальна, у ніжніх частках — вертыкальна. Высока размешчаныя прамавугольныя вокны аздоблены ліштвамі. Кожны зруб накрыты асобным шатровым дахам. Цэнтральны аб'ём завяршаецца масіўным чацверыковым са зрэзанымі вугламі барабанам, аздобленым шалёўкай «ромбам» і ўвянчаным барочным звонападобным каўпаком, алтарны аб'ём — галоўкай на двух'ярусным барабане. Памяшканні маюць плоскую бэлечную



1264. *Царква Раства багародзіцы і званіца.*



1264. *Царква Раства багародзіцы. План.*

столь аднолькавай вышыні і непасрэдна злучаны паміж сабой вялікім праёмам. Алтарная частка аддзелена іканастасам.

Званіца, размешчаная з захаду ад царквы, пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. З'яўляецца традыцыйнай для Палесся двух'яруснай зрубна-каркаснай пабудовай, накрыта шатровым гонтавым дахам. Царква — помнік народнага дойлідства, у архітэктуры якога адлюстраваны працэс фарміравання храмаў яруснай кампазіцыі.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии... [В.] 6. Пинский уезд.— Мн., 1879. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Высокае, Гарадзішчанскі сельсавет**

**1265. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці экіпажа бранякатэра БК-154 Дняпроўскай ваеннай флатыліі (6 чалавек), якія загінуў 12.7.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры высадцы дэсанта ў в. Пачэпава.

**в. Вяз, Навадворскі сельсавет**

**1266. СТАЯНКІ** (археал.).

**1266а.** Стаянка-1. За 0,5 км на захад ад вёскі, на паўднёвым беразе воз. Пагосцкае. На пясчаным узвышшы, даўжыня 220 м, шырыня 80 м. Культурны пласт да 0.2 м. Выявіў і даследаваў у 1969 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі жытлаў. 270 крамянёвых прылад працы, абломкі каля 20 гліняных ляпных гаршкоў і інш. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э. У сувязі са стварэннем вадасховішча стаянка апынулася пад дамбай.

**1266б.** Стаянка-2. За 1 км на захад ад вёскі. На востраве сярод вадасховішча. Даўжыня 60 м. Выявіў і даследаваў у 1970 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — 300 апрацаваных крамянёў і 35 крамянёвых прылад працы. Адносіцца да эпохі мезаліту.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Вяляцічы, Плешчыцкі сельсавет**

**1267. РАДЗІМА САВІЧА** Франца Андрэевіча (гіст.). Беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, паэт і публіцыст. Ф. А. Савіч нарадзіўся ў 1815 г. ў сям'і уніяцкага святара. У 1833 г. скончыў Пінскае павятовае вучылішча і вучыўся ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі (1833—38 гг.). У Вільні стварыў нелегальную рэвалюцыйную арганізацыю «Дэмакратычнае таварыства». Таварыства арганізавала тайны гурток рабочых і рамеснікаў Вільні на чале з Я. Духноўскім, наладзіла сувязі з рэвалюцыйнымі гурткамі ў Пінску, Слуцку, студэнцкім зямляцтвам у Дэрпце (цяпер Тарту), а ў жніўні 1837 г.— з кіраўніком тайнага таварыства «Садружнасць польскага народа» Ш. Канарскім. Галоўнай мэтай «Дэмакратычнага таварыства», як вызначаў яго статут «Прынцыпы дэмакратызму», складзены Ф. А. Савічам, было распаўсюджванне ідэй вольнасці, братэрства паміж народамі, нянавісць да прыгнятальнікаў і падрыхтоўка паўстання, якое, на думку аўтара, павінна знішчыць дэспатызм, вызваліць сялян з-пад прыгону, надзяліць іх зямлёю, усталяваць роўнасць паміж усімі людзьмі. Далейшае развіццё поглядаў Ф. А. Савіча знайшло адлюстраванне ў пракламацыі «Заўвагі аб маральнай вайне народа з дэспатызмам...»



**1268.** *Помнік на месцы першага бою партызанскага атрада В. З. Каржа.*

Вясною 1838 г. паліцыя арыштавала Ф. А. Савіча. 14.2.1839 г. па прыгавору суда ён быў аддадзены ў салдаты і сасланы на Каўказ, адкуль 22.4.1842 г. уцёк, але быў схоплены на румынскай граніцы і каля 2 гадоў зняволены ў Цірапальскай турме. Уцёк другі раз, працаваў урачом пад імем Адам Гельгег у мястэчку Янішпаль (цяпер пасёлак Іванапаль Чуднаўскага р-на Жытомірскай вобл.). Памёр каля 1845 г. Пахаваны ў Астрожку на Украіне.

З літаратурна-публіцыстычнай спадчыны Ф. А. Савіча да нас дайшлі беларускі верш «Там бліз Пінска, на шырокім полю», успаміны «Споведзь грэшніка, што каецца», напісаныя ў віленскай турме, успаміны, а таксама ліст да доктара Ф. Шаламіцкага ў Слуцк.

*Літ.:* Александровіч С. Х. Старонкі братняй дружбы.— Мн., 1960; Смірноў А. П. Франц Савіч.— Мн., 1961; Мохнач Н. Н. Идейная борьба в Белоруссии в 30—40-е годы XIX в.— Мн., 1971. *С. Ф. Цярохін.*



**1271.** *Манастырскі будынак. Тарцовы фасад.*

**в. Галева, Аснежыцкі сельсавет**

**1268. МЕСЦА БОЮ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне в. Галева. Тут у пачатку Вялікай Айчыннай вайны адбыўся першы бой Пінскага партызанскага атрада В. З. Каржа.

Раніцай 4.7.1941 г. разведка атрада паведаміла, што па шашы з Лагішына на Пінск рухаецца кавалерыйскі эскадрон варожай разведкі. Узброеныя ручнымі кулямётамі, гранатамі і вінтоўкамі 60 партызан на чале з камандзірам атрада В. З. Каржом зрабілі засаду. У час бою было знішчана 17 коннікаў і 2 танкеткі ворага, загінула некалькі партызан, у т. л. камандзір аддзялення С. Г. Карнілаў.

У 1960 г. на месцы бою пастаўлены абеліск з памятным надпісам.

*Літ.:* Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 гг.): Сб. воспоминаний.— Мн., 1961; Андрющенко Н. К. Народное ополчение Белоруссии.— Мн., 1980. *Г. І. Дулеба.*

**в. Ганькавічы, Ахоўскі сельсавет**

**1269. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1977 г.

**в. Гарадзішча, цэнтр сельсавета**

**1270. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На высокім мысападобным выступе берага воз. Палескае, каля вёскі. Пляцоўка памерам 40×20 м, не ўмацавана валамі. Абследавалі ў 1928 г. Р. Гарашкевіч, у 1961 г. Ю. У. Кухарэнка, у



**1271.** *Манастырскі будынак. План 1-га паверха.*

1964 г. Л. Д. Побаль, у 1970 г. В. Б. Караткевіч, у 1981 г. В. С. Вяргей. У агаленнях культурнага пласта на пляцоўцы выяўлены ляпная кераміка мілаградскага, зарубінецкага, пражскага тыпаў і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (Пінск). *В. С. Вяргей.*

**1271. МАНАСТЫРСКІ БУДЫНАК** (архіт.). На схіле берага воз. Палескае. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы на тэрыторыі старажытнага праваслаўнага манастыра. Прамавугольны



1272. *Троіцкая царква. Агульны выгляд.*



1272. *Троіцкая царква. План.*



1272. *Троіцкая царква. Бакавы фасад.*



1273. *Помнік землякам.*

ў плане двухпавярховы будынак (ніжні паверх часткова цокальны) накрыты вальмавым дахам. Уваход на 2-і паверх праз высокі ганак. Фасады сціпла аздоблены плоскімі нішамі. Над 1-м паверхам перакрыцці крыжовыя, над 2-м — бэлечныя. см. стр. 21

Будынак — узор манастырскай пабудовы з элементамі позняга барока.

**в. Дабраслаўка, Бобрыкаўскі сельсавет**

**1272. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, каля дарогі Ганцавічы — Лагішын. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва.

Першапачаткова была трохзрубная, складалася з асноўнага памяшкання, вузкага бабінца і алтарнай часткі, накрытых вальмавым гонтавым дахам. У 19 ст. з захаду прыбудавана званіца. Сцены ўмацаваны лапаткамі і вертыкальна ашаляваны. Невялікія прамавугольныя вокны размешчаны высока і аздоблены ліштвамі. Сцяна галоўнага фасада завершана ўсечаным шчытом з прычолкам. Гонтавы дах пры пераходзе да алтарнага зруба паўтарае абрыс плана. Цэнтр даху над асноўным памяшканнем увенчвае двух'ярусны глухі барабан з шатровым пакрыццём.

У інтэр'еры царквы асноўнае зальнае памяшканне вылучана па вышыні. У заходняй частцы аб'ёму зроблены хоры. Алтарная частка з 2 бакавымі памяшканнямі шырока адкрыта ў храм.

Царква — помнік народнага дойлідства.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии... [В.] 6. Пинский уезд.— Мн., 1879. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Дамашыцы, Малоткавіцкі сельсавет**

**1273. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 39 жыхароў вёсак Дамашыцы, Жабчыцы, Залессе і Малоткавічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дубай, цэнтр сельсавета**

**1274. ПАРК «ДУБАЙ»** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Заснаваны як сядзібны парк у сярэдзіне 18 ст. У 1-й палавіне 19 ст. расшыраны ў паўночным напрамку і набыў пейзажную кампазіцыю. Большасць сядзібна-паркавых пабудоў не захавалася.

Парк спланаваны на квадратным участку плошчай каля 11 га, абмежаваным каналамі і сажалкамі. Асноўны зялёны масіў, які знаходзіцца за былым палацам, разам з ліпавымі шпалерамі быў фонам для манументальных пабудоў параднага партэра. Абапал яго былі зафлігельныя прамавугольныя баскеты з пладовым садам. Пачатковая планіроўка парку мела сіметрычна-восевы характар. Прынцыпу рэгулярнасці падпарадкоўвалася размяшчэнне палаца, жылых флігеляў, капліцы, фантанаў, кветнікаў, баскетаў. У паркавы ландшафт былі ўключаны аранжарэі, цяпліцы, масткі і інш. Цэнтральны ўезд у сядзібу вырашаны 2 руставанымі пілонамі, якія падкрэслівалі падоўжную вось



1274. *Парк «Дубай». Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — флігелі; 3 — капліца; 4 — гаспадарчыя пабудовы.*



1274. *Парк «Дубай». Капліца.*

ансамбля. 2 бакавыя пад'езды праходзяць па яловых алеях. Планіровачна-прасторавая кампазіцыя заснавана на чаргаванні адкрытай прасторы палян і вадаёмаў з цяністымі прысадамі. Прагулачныя маршруты праходзілі па алеях, уздоўж каналаў і дамб. У парку растуць мясцовыя пароды дрэў: елка, ліпа, таполя, бяроза, хвоя, ясень, а таксама піхта, лістоўніца, тсуга канадская, каштан, валоскі арэх.

Прынцыпу рэгулярнасці падпарадкавана і арганізацыя воднай сістэмы парку: па восі палаца знаходзяцца круглая (дыяметр каля 30 м) сажалка і шраг прамавугольных вадаёмаў. На паўднёва-заходняй ускраіне сядзібы былі рыбныя садкі, якія з дапамогай дамб стваралі перапад вады і жывілі паркавыя сажалкі і фантаны.

Ад комплексу сядзібных пабудоў захавалася капліца, размешчаная на паўднёвы ўсход ад былога палаца. Васьміграннасць архітэктурнага аб'ёму, вуглавая крапоўка пілястрамі, складанасць абломаў, шлемападобнае фігурнае завяршэнне з гранёным ліхтаром надаюць капліцы барочную пластычнасць. Інтэр'ер упрыгожаны фрэскавай размалёўкай.

Парк «Дубай» — рэдкі помнік садова-паркавага мастацтва т. зв. «французскага» рэгулярнага тыпу планіроўкі 18 ст.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. М. Кулагін.*

**1275. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Іскра». На ўшанаванне памяці 28 жыхароў вёсак Бяркозы, Дубай, Сасновічы, Стаховічы, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1276. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт., маст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля шашы Брэст — Пінск. Пабудавана ў 1811 г. з цэглы.

Складаецца з цэнтрычнага васьмігранага аснoўнага аб'ёму і аднолькавых прамавугольных у плане апсіды і бабінца (па восі ўсход — захад). Асноўны аб'ём накрыты гранёным купалам, завершаным галоўкай на глухім васьміграннам барабане. Двухсхільныя дахі над алтарнай часткай і бабінцам утвараюць на фасадах трохвугольныя франтоны. Паўночная і паўднёвая плоскасці фасадаў завершаны ступеньчатымі атыкамі. Сцены апсіды, бабінца і вуглы будынка руставаныя. Вялікія вокны з паўцыркнульным завяршэннем. Дэкаратыўныя дэталі вылучаны белым колерам.



1276. *Царква Раства багародзіцы. План.*

Васьміграннaя форма асноўнага аб'ёму добра акрэслена ў інтэр'еры. Хоры падтрымліваюць 2 драўляныя калоны. На сценах захавалася размалёўка (1885 г.), выкананая ў тэхніцы грызайль, якая імітуе архітэктурныя дэталі.

Царква — помнік муравaнай архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Товаров А. В. Историко-статистическая справочная книжка Минской епархии.— Мн., 1903. *Г. М. Ярмоленка.*

**в. Жабчыцы,**
**Малоткавіцкі сельсавет**

**1277. ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ** (архіт.). Каля дарогі на Пінск. Пабудавана ў 1788 г. з дрэва, капітальна адрамантавана ў 1863 г. Складаецца з 3 роўных па вышыні зрубаў. Асноўны амаль квадратны ў плане і пяцігранны алтарны зруб накрыты агульным дахам з вальмамі над алтаром і васьміграннай вежай. Зруб бабінца падзелены на 2 ярусы і накрыты двухсхільным дахам. На другім ярусе размешчана званіца. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі.



1276. *Царква Раства багародзіцы. Бакавы фасад.*



1277. *Царква Параскевы Пятніцы. План.*





1277. *Царква Параскевы Пятніцы. Агульны выгляд (злева), бакавы фасад.*

Царква — помнік традыцыйнага народнага дойлідства Палесся.

*Т. В. Габрусь.*

**в. Жоўкіна, Ласіцкі сельсавет**

**1278. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 41 воін, партызан і мірны жыхар, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1967 г. на ўшанаванне іх памяці і памяці 69 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, пастаўлены абеліск.

**в. Жытнавічы, Малоткавіцкі сельсавет**

**1279. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 37 жыхароў вёсак Вялікая Вулька, Жытнавічы, Ізін, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Заполле, Аснежыцкі сельсавет**

**1280. СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Сядзібны дом, пабудаваны ў 1920-я гады з дрэва, абкружаны невялікім паркам пейзажна-рэгулярнага тыпу. На тэрыторыі сядзібы пракладзены 2 узаемна перпендыкулярныя алеі. У паўночна-заходняй частцы парку — сажалка і пладовы сад.



**1280.** *Сядзіба. Схема планіроўкі.*



**1280.** *Сядзібны дом. План.*

Дом — аднапавярховы П-падобны ў плане аб'ём, пакрыты фігурным мансардавым дахам. Уваходы на галоўным і дваровым фасадах вырашаны чатырохкалоннымі порцікамі тасканскага ордэра. Выразнасць кампазіцыі дасягаецца спалучэннем нерасчлянёных, пазбаўленых дэкору сцен з пластычнай формай мансардавага даху і манументальнымі порцікамі. У планіроўцы дома выкарыстана анфіладна-калідорная сувязь памяшканняў. У цэнтральнай частцы двухсветлавы вялізны вестыбюль, які праз шырокі праём злучаецца з парадпай залай. У крылах размешчаны службовыя памяшканні з асобнымі бакавымі ўваходамі.

Сядзіба з'яўляецца характэрным для пачатку 20 ст. прыкладам адраджэння ў архітэктуры форм барока і класіцызму.

*А. М. Кулагін.*

**в. Калбы, Лапацінскі сельсавет**

**1281. КАПЛІЦА** (архіт., гіст.). У цэнтры вёскі.

Пабудавана ў 19 ст. Васьмігранны ў плане будынак з барочным купалам, вяршыню якога ўвенчвае цыбулепадобная галоўка на глухім васьмерыковым барабане. Уваход вылучае навес з трохвугольным франтонам. Сцены цагляныя, перакрыцце з дрэва, пакрыццё металічнае. Знадворку будынак атынкаваны.

Капліца — помнік архітэктуры з рысамі барока і класіцызму.

У вёсцы з 14.8 да 3.9.1916 г. жыў рускі паэт Аляксандр Блок, які знаходзіўся на ваеннай службе, удзельнічаў у будаўніцтве ўмацаванняў. Пра гэты перыяд свайго жыцця А. Блок пісаў у лістах да маці А. А. Кубліцкай-Піётух і жонкі Л. Дз. Мендзялеевай-Блок. У лісце да жонкі ад 16 жніўня паэт даслаў малюнак Калбоўскай капліцы.



**1281.** *Капліца.*

**в. Камень, Загародскі сельсавет**

**1282. СТАЯНКІ** (археал.).

**1282а.** Стаянка-1. На паўднёвай ускраіне вёскі, на пясчаных пагорках. Даўжыня да 100 м. Выявіў і даследаваў у 1966 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт часткова пашкоджаны эрозіяй. Сярод знаходак — больш за 150 крамянёвых прылад працы. Адносяцца да эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н. э.).



**1280.** *Сядзібны дом.*




1282. *Стаянкі. План.*



1282. *Стаянкі. Крамянёвыя прылады працы.*

**1282б.** Стаянка-2. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе левага берага р. Бобрык. Займае тэрыторыю памерам 200×60 м. Даследаваў у 1967—80 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,6 м падзяляецца на 2, месцамі на 3 гарызонты. Дзякуючы высокаму ўзроўню грунтавых водаў і вапнаваму складу глебы захаваліся вырабы з рогу і косці. Ускрыта 8500 м² плошчы, выяўлены рэшткі наземных жытлаў, агнішчаў, абкладзеных камянямі, сабрана больш за 4 тыс. касцей, якія належалі, відаць, не менш як 200 жывёлінам (дзік — 30 %, лось — 10 %, конь, тур, алень высакародны — да 7 %, мядзведзь, бабёр, казуля, бык свойскі — 20 %, свіння — 7 %). Косці быка трапляюцца ў ніжнім гарызонце разам з ранненеалітычнымі знаходкамі, гэта першыя звесткі аб свойскай жывёле на тэрыторыі Беларусі. Па колькасці знаходак стаянка займае выключнае становішча на Палессі: каля 40 тыс. апрацаваных крамянёў (у т. л. 8 тыс. прылад працы), 20 тыс. абломкаў 250—300 гаршкоў, сярод якіх гаршкі нёманскай і тшцінецкай культур. З прылад працы ёсць грубаапрацаваныя сякеры і цёслы, долаты, скрэблы, скрабкі, скоблі, праколкі, трохвугольныя наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы і інш. Прылады працы, зробленыя з рагоў і касцей жывёлы (70 экземпляраў — сякеры, цёслы, долаты, клінкі і інш.), да раскопак стаянкі былі вядомы на Палессі толькі па выпадковых знаходках. Стаянка адносіцца да неаліту і бронзавага веку (5—2-е тысячагоддзі да н. э.).

**1282в.** Стаянка-3. За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, паблізу хутара Шаламіцкага. Займае заходні схіл пясчанага ўзгорка вышынёй 5—7 м на левым беразе р. Бобрык. Даўжыня 90 м. Даследаваў у 1967—80 гг. У. Ф. Ісаенка. Пры раскопках знойдзены 700 апрацаваных крамянёў, 192 прылады працы (трохвугольныя наканечнікі стрэл, крамянёвыя серп, клін, абломак матыкі беларуска-літоўскага тыпу, плітка для шліфавання і інш.), абломкі 15 ляпных гаршкоў. Датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э.

**1282г.** Стаянка-4. За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўночна-заходнім схіле ўзгорка каля хутара Шаламіцкага. Даўжыня 200 м. Даследаваў у 1967—71 гг. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены 1000 апрацаваных крамянёў, у т. л. каля 200 прылад працы (пласціністыя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, нажы і інш.), абломкі 10 ляпных пасудзін. Адносіцца да макралітычнай і нёманскай культур (9—4-е тысячагоддзі да н. э.).

**1282д.** Стаянка-8. На захад ад вёскі і р. Бобрык, абапал пратокі Вісліца з воз. Пагосцкае. Даўжыня да 150 м. У час раскопак (1977—78 гг., У. Ф. Ісаенка) ускрыта 400 м². Культурны пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены рэшткі агнішчаў, косці жывёл, вырабы з косці, рогу і крэменю, шліфавальныя пліткі і абломкі посуду эпохі неаліту і бронзавага веку, іглападобныя наканечнікі дроцікаў (6), рыбалоўныя кручкі (20), сякеры, нажы з расшчэпленых іклаў дзіка, унікальны сэрцападобны амулет, праколкі, кінжалы і інш., некалькі вырабаў з медзі і бронзы.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР, Дзяржаўным музеі БССР і Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Некоторые черты неолитической эпохи Полесья.— У кн.: Археологические открытия 1969 года. М., 1970; яго ж. Неолитическое поселение Камень в верховьях Припяти.— У кн.: Вопросы истории. Мн., 1969; яго ж. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976; яго ж. Изучение Полесья.— У кн.: Археологические открытия 1978 года. М., 1979.
*У. Ф. Ісаенка.*



1283. *Царква.*



1283. *Царква. План.*

**1283. ЦАРКВА** (архіт.). На могілках, на левым узвышаным беразе р. Бобрык. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва.

Прамавугольны ў плане асноўны аб'ём з прырубленай невялікай пяцісценнай апсідай і трох'яруснай званіцай. Асноўны аб'ём завершаны двухсхільным гонтавым дахам. Пакрыццё над апсідай асобнае вальмавае. Званіца ўвянчана нізкім шатром з барабанам і макаўкай.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**в. Клятная,**
**Валішчанскі сельсавет**

**1284. ПОМНІК САВЕЦКІМ АКТЫВІСТАМ** (гіст.). За 300 м на паўднёвы ўсход ад вёскі. Тут у жніўні 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі 12 актывістаў калгаса імя Карла Маркса. У 1967 г. на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск.

**в. Кнубава, Плешчыцкі сельсавет**

**1285. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 70 жыхароў вёсак Вялікія Дворцы, Вяляцічы, Дзіковічы, Кнубава, Сярнічкі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кончыцы, Дубайскі сельсавет**

**1286. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 37 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Купяцічы,**
**Гарадзішчанскі сельсавет**

**1287. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. 19.3.1943 г. фашысты расстралялі 8 сем'яў савецкіх актывістаў (33 чалавекі). У 1958 г. на магіле ўстаноўлена мемарыяльная пліта.

## XVIII. ЛАГІШЫН

Гарадскі пасёлак (з 22.12.1959 г.) у Пінскім р-не (з 1962 г.). Знаходзіцца за 28 км ад Пінска і 203 км ад Брэста, на аўтамабільнай дарозе Пінск — Івацэвічы.

Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1552 г., уваходзіў у Пінскі павет Вялікага княства Літоўскага. У 17 ст. мястэчка, цэнтр староства, якім валодалі Радзівілы. У 1643—1776 гг. меў магдэбургскае права і герб.

У 1795 г. пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай Лагішын увайшоў у склад Расійскай імперыі; мястэчка Пінскага павета Мінскай губерні. У першую сусветную вайну быў акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Пінскага павета Палескага ваяводства. Тут дзейнічала падпольная арганізацыя КПЗБ. Пасля ўз'яднання ў 1939 г. Заходняй Беларусі з БССР Лагішын у складзе Пінскай вобл., з 15.1.1940 г. да 1962 г. цэнтр раёна. З чэрвеня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія знішчылі ў Лагішыне і раёне 1952 жыхароў. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (16.7. 1943 г.— 10.7.1944 г.) і ЛКСМБ (май 1943 г.— 10.7.1944 г.), якія ўзначальвалі барацьбу з акупантамі, дыслацыраваліся партызанскія брыгады імя В. У. Куйбышава, імя В. М. Молатава і 208-ы партызанскі полк імя І. В. Сталіна. Вызвалены 15.7. 1944 г. часцямі 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі (камандзір генералмаёр А. П. Турчынскі) 28-й арміі 1-га Беларускага фронту сумесна з партызанамі 208-га партызанскага палка імя І. В. Сталіна (камандзір Я. М. Бяспоясаў).

Забудова пасёлка ўпершыню ўпарадкавана генеральным планам 1958 г. Новы праект развіцця Лагішына створаны ў 1973 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Сучасная планіровачная структура характарызуецца акрэсленай прамавугольнай сістэмай вуліц і развіваецца ў паўднёвым напрамку. Асноўныя транспартныя артэрыі — вуліцы Тамілава і Ленінская, якія падзяляюць пасёлак на 4 жылыя раёны з квартальнай сістэмай планіроўкі. На вул. Ленінскай сканцэнтраваны ўстановы гандлёва-бытавога абслугоўвання — магазіны, гасцініца, універмаг, кафэ, камбінат бытавога абслугоўвання, аўтастанцыя, шэраг двухпавярховых мураваных дамоў. Кампазіцыйным цэнтрам гэтай часткі пасёлка з'яўляецца сквер. Ансамбль цэнтра пасёлка ўключае кінатэатр, Дом культуры і 2 помнікі архітэктуры 19 — пачатку 20 ст.— Петрапаўлаўскі касцёл і Троіцкую царкву. У скверы пастаўлены помнік У. І. Леніну і помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан. Фарміраванне новага грамадскага цэнтра прадугледжана на скрыжаванні вуліц Ленінскай і Савецкай.



**XVIII.** *Забудова вуліцы Ленінскай.*



**1288.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: вытворчы ўчастак Пінскага гарадскога малочнага завода, маслазавод, вапнавы завод, хлебапякарня, каўбасны цэх. Працуюць аддзяленне Дзяржкамсельгастэхнікі, камбінат бытавога абслугоўвання.

У пасёлку сярэдняя і музычная школы, яслі-сад, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца.

Зонай адпачынку з'яўляецца парк і тэрыторыя ўздоўж берагоў р. Ясельда.

*А. М. Кулагін.*

**1288. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы па вул. Ленінскай. Пахаваны 54 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Пры набліжэнні часцей Чырвонай Арміі 2 батальёны 208-га партызанскага палка імя І. В. Сталіна спрабавалі вызваліць Лагішын. У ноч на 9 ліпеня яны атакавалі яго з 3 бакоў. Пачаўся жорсткі бой. Нягледзячы на колькасную перавагу сіл праціўніка, асобныя групы партызан прарваліся ў цэнтр пасёлка. Раніцай на дапамогу фашыстам падышло падмацаванне з Пінска, і партызаны адступілі. У час баёў загінулі 25 партызан. 11.7.1944 г. партызанскі полк злучыўся з часцямі 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі 28-й арміі і 15.7.1944 г. разам з воінамі ўдзельнічаў у вызваленні Лагішына.

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

*М. М. Казлоўская.*

**1289. ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). На вул. Тамілава. Пабудаваны ў 1907—09 гг. з цэглы. Да асноўнага прамавугольнага аб'ёму па падоўжнай восі прылягаюць пяцігранная апсіда прэсбітэрыя і чатырох'ярусная званіца, з боку апсіды — некалькі дапаможных памяшканняў. Усе аб'ёмы маюць стромкія высокія дахі. Сцены расчлянёны контрфорсамі, вокны стральчатыя.



**1289.** *Петрапаўлаўскі касцёл. План.*



**1289.** *Петрапаўлаўскі касцёл.*



**1289.** *Петрапаўлаўскі касцёл. Званіца.*

Касцёл — помнік архітэктуры неагатычнага стылю.

**1290. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У скверы, па вул. Ленінскай. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**1291. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Камсамольскай, у скверы. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Да асноўнага квадратнага ў плане аб'ёму, які завершаны 5 галоўкамі, далучаны чатырохгранная апсіда і праз невялікі пераходны аб'ём — трох'ярусная званіца.

Агульная кампазіцыя і дэкаратыўная аздоба помніка выкананы ў псеўдарускім стылі.

**в. Ладараж, Ласіцкі сельсавет**

**1292. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 14 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лапацін, цэнтр сельсавета**

**1293. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 воін, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі сельсавета. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск. На мемарыяльных дошках увекавечана памяць 97 жыхароў вёсак Калбы, Канюхі, Лапацін, Лосічы, Полхава, Хлябы, што загінулі на франтах і ў партызанах, а таксама закатаваны гітлераўцамі.

**1294. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БЛОКУ** Аляксандру Аляксандравічу (гіст.). На будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1980 г. ў гонар паэта, які ў час ваеннай службы ў жніўні 1916 г. жыў у в. Лапацін. У Доме культуры ў 1980 г. адкрыты музей. Экспануюцца творы паэта на рускай мове, пераклады яго твораў на мовы народаў СССР і замежныя, літаратура і дакументы аб жыцці і творчым шляху, шматлікія фотаздымкі А. Блока і яго сучаснікаў.

**1295. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на пясчаным узгорку каля р. Стыр. Даўжыня ўздоўж берага ракі 80 м, вышыня над поймай 5—8 м. Даследаваў у 1970, 1980 гг. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі 2—3 агнішчаў, больш за 200 крамянёвых прылад працы, абломкі посуду эпохі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Ласіцк, цэнтр сельсавета**

**1296. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАВАЛЕВІЧУ** Мікалаю Сцяпанавічу (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху на Палессі ў Грамадзянскую вайну. М. С. Кавалевіч нарадзіўся ў 1891 г. ў сялянскай сям'і. Чл. КПСС з 1917 г. Батрачыў у памешчыкаў. У 1915 г. арыштаваны за рэвалюцыйную дзейнасць. У 1918 г. старшыня Вітчаўскага валаснога рэўкома, член Палескага рэўкома, з студзеня 1919 г. камендант г. Пінск. У 1919—22 гг. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі. У жніўні 1941 г. прызначаны камандзірам партызанскага атрада «Смерць фашызму». Загінуў пры вызвалені ў зону дзейнасці атрада.

У 1979 г. на ўшанаванне яго памяці на Доме культуры ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *А. Г. Шчарбатаў.*

**1297. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 61 земляка, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1978 г. пастаўлены абеліск. Побач устаноўлены 2 пліты з імёнамі 74 воінаў 369-га стралковага палка 212-й стралковай дывізіі 61-й арміі, што загінулі пры вызваленні вёскі ў 1944 г.

**1298. СТАЯНКА І ПАСЕЛІШЧА** (археал.).

**1298а.** Стаянка-1. За 1 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Стыр. Займае ўсходні схіл пясчанага ўзвышша. Даўжыня каля 150 м. Выявіў і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і абломкі ляпнога посуду. Датуецца 5—4-м тысячагоддзямі да н. э.



**1291.** *Троіцкая царква. Фрагмент бакавога фасада.*



**1290.** *Помнік У. І. Леніну.*

**1298б.** Паселішча-2. За 2 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Стыр. Займае цэнтральную частку пясчанага ўзвышша. Даўжыня да 300 м. Выявіў і даследаваў у 1964 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзена больш за 1000 апрацаваных крамянёў, 90 прылад працы (наканечнікі стрэл, скрабкі, скоблі і інш.), абломкі глінянага посуду. Адносіцца да эпохі неаліту і ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Некоторые черты неолитической эпохи Полесья.— У кн.: Археологические открытия 1969 года. М., 1970. *У. Ф. Ісаенка.*



**1291.** *Троіцкая царква. План.*



1293. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Лемяшэвічы, цэнтр сельсавета**

**1299. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Непадалёку ад царквы. Пахаваны 367 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі сельсавета. Сярод пахаваных — воіны 1323-га палка 415-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў баях 10—12.7.1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1300. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, у хваёвым лесе, абапал дарогі на Марозавічы. 29 насыпаў паўсферычнай формы, круглых і авальных у плане, вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам ад 8—9 да 14—16 м. Абследавала ў 1980 г. В. С. Вяргей. Насыпаны на месцы селішча ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**1301. СЕЛІШЧА** (археал.). За 2,5—3 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Прыпяць, на пясчаным узвышшы, якое з усіх бакоў акружана балотамі. Адкрыў і абследаваў у 1963 г. У. Ф. Ісаенка, у 1980 г. даследавала В. С. Вяргей. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі коп'яў і стрэл, каменныя сякеры, фрагмент крамянёвага сярпа, нажы, праколкі, ляпная і ганчарная кераміка. На паўночнай ускраіне селішча ў 1980 г. былі закладзены 2 раскопы агульнай плошчай 500 м². Культурны пласт 0,36—0,38 м. Выяўлены ляпная кераміка, вялікая колькасць гліняных грузілаў, прасліц, грузікаў, бронзавыя літая прамавугольная спражка, фрагменты фібулы, арнаментаванага бранзалета і пласцінкі, 2 скіфскія наканечнікі стрэл і завушніца, вырабы з жалеза (спражка, нажы, цвікі, абломак сярпа і г. д.). Селішча адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку (6 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.), знаходзіцца на месцы стаянкі неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы даследаванняў зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*В. С. Вяргей.*

**1302. СТАЯНКА** (археал.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на схіле пясчанага ўзгорка, які падыходзіць з захаду да воз. Святое. Даўжыня 150 м, вышыня над узроўнем вады 3—4 м. Выявіў і абследаваў у 1963 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — трохвугольныя наканечнікі стрэл, валынскі серп з чорнага крэменю, скрабкі, пласцінкі, разцы, абломкі глінянага посуду часткова з расліннымі дамешкамі. Адносіцца да ранняга і позняга неаліту.

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1303. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1885 г. з дрэва. Асноўны квадратны ў плане зруб накрыты чатырохсхільным дахам з какошнікамі і чацверыковай галоўкай у цэнтры. Прамавугольная апсіда, сярэдні аб'ём і бакавыя прыбудоўкі надаюць царкве крыжападобны план. Пры ўваходзе — трох'ярусная шатровая званіца.

Царква — узор архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Лісяцічы, Мерчыцкі сельсавет**

**1304. ПОМНІК СПАЛЕНАЙ ВЁСЦЫ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У ліпені 1944 г. вёска была цалкам спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Пасля вайны адноўлена. У 1968 г. ў памяць аб спаленай вёсцы пастаўлены абеліск.

**в. Лышча, цэнтр сельсавета**

**1305. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.) У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 40 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**1306. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1971 г.



1303. *Царква Раства багародзіцы. План.*




1301. *Селішча. План.*




1302. *Стаянка. План.*

**в. Любель, Аснежыцкі сельсавет**

**1307. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Тут нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну расстралялі 18 жыхароў в. Любель. У 1977 г. на ўшанаванне памяці



1303. *Царква Раства багародзіцы.*



1309. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ахвяр фашызму на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск.

**в. Любель-Поль, Аснежыцкі сельсавет**

**1308. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У чэрвені 1943 г. ў Любель-Поль уварваўся фашысцкі карны атрад. Акупанты расстралялі 140 жыхароў, у т. л. дзяцей, жанчын і старых, а вёску спалілі. Пасля вайны адноўлена. У 1963 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малоткавічы, цэнтр сельсавета**

**1309. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У сквера. Пахаваны 95 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — Шая Іосіфавіч Бяркові і Уладзімір Рыгоравіч Нямытаў.

Ш. І. Бярковіч нарадзіўся 14.3. 1918 г. ў г. Барысаў у сям'і рабочага. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Ленінградскі тэхнікум чыгуначнага транспарту (1938 г.). З 1938 г. інжынер Упраўлення Беларускай чыгункі ў г. Гомелі. З 1939 г. сакратар, з верасня 1940 г. першы сакратар Пінскага гаркома ЛКСМБ. З ліпеня 1941 г. сакратар пінскіх падпольных абкома і гаркома ЛКСМБ, адначасова з лістапада 1942 г. камісар партызанскага атрада імя С. Лазо. Загінуў у баі 30.12. 1942 г.




1311. *Селішча. План.*

У. Р. Нямытаў нарадзіўся ў 1898 г. на Арлоўшчыне ў сям'і рабочага. Кандыдат у члены КПСС. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў на Пінскай запалкавай фабрыцы імя 17 Верасня. 24.3.1940 г. быў выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, стаў партызанам. З жніўня 1942 г. камандзір узвода партызанскага атрада імя С. Лазо, упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Пінскай вобл. Загінуў у баі 30.12.1942 г. У чэрвені 1943 г. аднаму з партызанскіх атрадаў брыгады імя В. М. Молатава прысвоена імя У. Р. Нямытава. Яго імем названа вуліца ў Пінску.

У 1957 г. на брацкай магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

*М. В. Кірэйшын.*

**в. Мерчыцы, цэнтр сельсавета**

**1310. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Побач са школай. На ўшанаванне памяці 48 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1311. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Ясельда. Памеры 500×280 м. Адкрыла і абследавала ў 1980 г. В. С. Вяргей. Сабраны крамянёвыя адшчэпы, грубаляпная гладкасценная кераміка з дамешкамі жарствы ў цесце, рэшткі ганчарнай керамікі, абломак цёмна-зялёнага шклянога бранзалета. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Раней на месцы селішча была стаянка каменнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*В. С. Вяргей.*

**в. Месткавічы, Плешчыцкі сельсавет**

**1312. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1875 г. з дрэва. Царква чатырохзрубная, крыжовакупальная. Пры ўваходзе — зруб бабінца са званіцай на другім ярусе. Светлавы васьміграны барабан на



1312. *Троіцкая царква.*



1312. *Троіцкая царква. Фрагмент бакавога фасада.*

сяродкрыжжы накрыты шлемападобным купалам. Такі ж купал над званіцай завершаны спічаком. Сцены гарызантальна ашаляваны і аздоблены разьбой (пілястры, кранштэйны і сухарыкі карнізаў, падзоры, ліштвы).

Царква — помнік архітэктуры з рысамі класіцызму.

**в. Мясяцічы, Барычавіцкі сельсавет**

**1313. ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ** (архіт.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1794 г. з дрэва.

Мае трохзрубную падоўжна-восевую кампазіцыю. Да прамавугольнага ў плане цэнтральнага аб'ёму з захаду прылягае прамавугольны бабінец, з усходу — пяцігранны алтарны зруб. Цэнтральны аб'ём спачатку меў пірамідальны верх (ліквідаваны пры перабудовах 19—20 стагоддзяў), цяпер вылучаны шатровым дахам, увянчаным галоўкай на барабане. Над астатнімі аб'ёмамі пакрыццё вальмавае. Сцены гарызантальна ашаляваны дошкамі, умацаваны лапаткамі, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.

У інтэр'еры ўсе памяшканні маюць плоскую бэлечную столь аднаго ўзроў-



1312. *Троіцкая царква. План.*

ню, злучаюцца паміж сабой вялікімі праёмамі. Алтарнае памяшканне адзелена невысокім іканастасам. У заходняй частцы бабінца зроблены хоры. На поўнач ад храма на масіўных падрубах стаіць двух'ярусная зрубнакаркасная званіца, накрытая гонтамі. Ярусы падзелены развітым прычолкам. Сцены ніжняга і ніз другога ярусаў звонку ашаляваныя.

Царква і званіца — помнікі драўлянага дойлідства Прыпяцкага Палесся.
*Ю. А. Якімовіч.*

**в. Невель, Хоінскі сельсавет**

**1314. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Каля калгаснага двара. Тут пахаваны рускія і нямецкія салдаты, якія загінулі ў 1-ю сусветную вайну. У 1936 г. каля ўваходу на могілкі пастаўлена стэла з надпісам на рускай і нямецкай мовах: «Сябры і ворагі, смерцю аб'яднаныя».

**1315. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля калгаснага двара. Пахаваны 188 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 12.12.1942 г. У 1949 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1316. СТАЯНКІ** (археал.).

**1316а.** С т а я н к а - 1. За 1,5 км на захад ад вёскі, на схіле пясчанага ўзгорка. Даўжыня каля 140 м. Выявіў у 1966 г. і даследаваў у 1969, 1979 гг. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — прылады працы з крамянёвых пласцінак, прылады працы тыпу сякер эпохі мезаліту і неаліту.

**1316б.** С т а я н к а - 2. За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўднёвым схіле пясчанага ўзгорка над рачной пратокай. Даўжыня да 120 м. Выявіў у 1966 г. і даследаваў у 1969 гг. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя нажы, скрабкі, трохвугольныя наканечнікі стрэл, сякеры. Датуецца эпохай неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.).

**1316в.** С т а я н к а - 3. За 0,5—1 км на поўдзень ад вёскі, на рачной тэрасе і паўночных схілах узгоркаў, за пратокай, на ўзроўні 3—6 м над вадой. Даўжыня больш за 200 м. Выявіў у 1970 г. і даследаваў у 1973, 1980 гг. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — крамянёвыя прылады працы (скрабкі, скоблі, нажы і іншыя вырабы), рэшткі глінянага посуду. Помнік адносіцца да неаліту, трапляюцца рэчы і больш позняга часу.



1313. *Царква Параскевы Пятніцы. План.*




1316. *Стаянкі. План.*

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Новы Двор, цэнтр сельсавета**

**1317. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 60 жыхароў вёсак калгаса «Камунар», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1318. СТАЯНКІ** (археал.).

**1318а.** С т а я н к а - 1. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на заходнім беразе воз. Пагосцкае, на паўднёвым схіле ўзвышша ніжэй вусця р. Вісліца. Даўжыня 120 м. Выявіў і даследаваў у 1967 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — 110 крамянёвых прылад працы (пласцінікстыя разцы, наканечнікі стрэл, скрабкі, праколкі). Адносіцца да эпохі мезаліту (9—5-е тысячагоддзі да н. э.).

**1318б.** С т а я н к а - 2. За 1 км на ўсход ад вёскі, за прыазёрным балотам, на пясчаных узгорках на заходнім беразе воз. Пагосцкае. Даўжыня амаль 150 м. Выявіў і даследаваў у 1967 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены 60 прылад працы, у т. л. тронкавы наканечнік кап'я. Адносіцца да эпохі неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.).

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*У. Ф. Ісаенка.*




1319. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Пагост-Загародскі, цэнтр Загародскага сельсавета**

**1319. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на вул. Леніна. Пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (салдат і дзяўчынка).

**1320. МЕСЦА ЖЫЦЦЯ БЛОКА** Аляксандра Аляксандравіча (гіст.). Тут у ліпені 1916 г. ў час вайсковай службы жыў рускі паэт А. А. Блок.

**1321. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 61 воіна, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 34 жы-



1313. *Царква Параскевы Пятніцы і званіца.*



**1321.** *Помнік землякам.*

нароў вёскі — ахвяр фашызму ў 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1322. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**1323. СТАЯНКІ** (археал.).

**1323а.** Стаянка-1. За 2 км на захад ад вёскі, на ўсходнім беразе воз. Пагосцкае. Даўжыня 80 м. Выявіў у 1967 г. У. Ф. Ісаенка. У 1978 г. засыпана дамбай.




**1323.** *Стаянкі. План.*



**1323.** *Стаянкі. Крамянёвыя прылады працы.*

**1323б.** Стаянка-2. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе правага берага р. Бобрык. Даўжыня 300 м. Выявіў і даследаваў у 1967 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, абломкі ляпнога посуду. Адносіцца да нёманскай культуры неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н. э.) і ранняга жалезнага веку.

**1323в.** Стаянка-3. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, за могілкамі, сярод сасняку. Даўжыня 200 м, паверхня пашкоджана эрозіяй. Выявіў і даследаваў у 1966 г. У. Ф. Ісаенка. Большая частка крамянёвых прылад працы, знойдзеных на стаянцы, адносіцца да эпохі мезаліту.

**1323г.** Стаянка-4. За 1 км ад вёскі, на паўднёвым беразе воз. Пагосцкае. Даўжыня 300 м, культурны пласт 0,2 м. Даследаваў у 1967—70 гг. У. Ф. Ісаенка. Выяўлены рэшткі жылля, больш за 110 прылад працы, 800 апрацаваных крамянёў, абломкі гаршкоў, шліфаваныя каменныя сякеры. Адносіцца да нёманскай культуры.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. Ф. Ісаенка.*

**1324. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на скрыжаванні вуліц. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Асноўны васьміграны аб'ём накрыты купалам з галоўкай. Да яго прылягаюць пяцісценная апсіда, прамавугольны сярэдні аб'ём і двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку) з купалам. Вокны ў асноўным маюць паўцыркульныя імпасты. Сцены завершаны карнізам з сухарыкамі.

Царква — помнік архітэктуры з рысамі позняга класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Паняцічы,**
**Бярозавіцкі сельсавет**

**1325. МЕСЦА ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, за 700 м ад чыгункі. Тут фашысцкія карнікі ў Вялікую Айчынную вайну расстралялі 13 жыхароў в. Берказы. У 1967 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на месцы расстрэлу пастаўлены абеліск.

**в. Парахонск, цэнтр сельсавета**

**1326. МЕСЦА ЖЫЦЦЯ БЛОКА** Аляксандра Аляксандравіча (гіст.). Тут ў



**1324.** *Царква. План.*



**1322.** *Помнік У. І. Леніну.*

жніўні 1916 г. і студзені 1917 г. жыў рускі паэт А. Блок. У ліпені 1916 г. ён быў прызваны ў армію і накіраваны ў штаб 13-й інжынерна-будаўнічай дружыны Усерасійскага земскага саюза, якая размяшчалася ў раёне Пінска. 1.8.1916 г. штаб пераехаў у в. Парахонск. Дружына, дзе служыў А. Блок, праводзіла дарожныя і фартыфікацыйныя работы. У час паездак ў атрады, размешчаныя за некалькі



**1324.** *Царква.*

дзесяткаў кіламетраў ад асноўнай базы, паэт пазнаёміўся з жыццём і бытам беларускіх сялян. Адсюль А. Блок перапісваўся з Л. Андрэевым і іншымі рускімі пісьменнікамі, а 16.1.1917 г. ў Парахонску сустрэўся з пісьменнікам А. М. Талстым. 19.3.1917 г. А. Блок выехаў з Беларусі. Захаваліся лісты паэта з Парахонска да маці.

*У. У. Бянько.*

**в. Парэ, Ласіцкі сельсавет**

**1327. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Побач са школай. На ўшанаванне памяці 44 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Парэчча, цэнтр сельсавета**

**1328. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У скверы, каля школьнай майстэрні. Тут пахаваны 4 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1329. *Парк «Парэчча». Схема планіроўкі: 1 — крухмальны завод; 2 — гаспадарчыя пабудовы.*



1329. *Парк «Парэчча». Фрагмент.*



1330. *Царква Раства багародзіцы. План.*

**1329. ПАРК «ПАРЭЧЧА»** (архіт.). На правым беразе р. Ясельда, займае плошчу каля 60 га. Закладзены пры сядзібе Скірмунтаў, якая ўключала суконную фабрыку (1837 г.), цукровы завод (1860 г.), бровар (1905 г.), крухмальны завод і іншыя гаспадарчыя пабудовы. У 2-й палавіне 19 ст. адзін з старых фабрычных будынкаў перабудаваны пад палац. На астраўку, утвораным Ясельдай і яе прытокам Ясенем, быў насаджаны пладовы сад. Парк мае рэгулярную планіроўку. Яго тэрыторыя падзелена дарогай Моталь — Лагішын на паўночную і паўднёвую часткі. Выразная геаметрычная сетка ўзаемна перпендыкулярных алей гарманіруе з ландшафтам зарэчнай часткі. Перад будынкам крухмальнага завода быў размешчаны газонны партэр, абмежаваны з 2 бакоў радамі высокіх лістоўніц.

У парку каля 30 відаў дрэў, а таксама шэраг экзатычных насаджэнняў, якія ў значнай меры вызначаюць яго аблічча. Сярод іх — піхты (белая, сібірская, аднакаляровая), елкі (канадская, Энгельмана), дугласіі (цісалістая і блакітная), лістоўніца еўрапейская і інш. Каля сажалкі, на паўночнай ускраіне парку, расце адзіны ў рэспубліцы экземпляр залацістай елкі. Каштоўнымі пародамі з'яўляюцца унікальны экземпляр кіпарыса балотнага і 5 цюльпанавых дрэў. З лісцевых парод ёсць дуб чырвоны, клён, каштан, бук, арэхавыя дрэвы Зібальда, пладаносныя экземпляры дуба шарлахавага. Паўднёвая частка парку — дуброва, дзе растуць пераважна чырвоны дуб і белая акацыя. Значны ўчастак парку заняты пад пладовы сад.

Парк «Парэчча» — узор рэгулярнага парку з каштоўным дэндралагічным складам.

*І. А. Сітнікава.*



1330. *Царква Раства багародзіцы.*

**1330. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1912 г. з дрэва. Асноўны чацверыковы зруб мае трох'ярусную кампазіцыю і завершаны галоўкай. З 4 бакоў да яго прылягаюць нізкія бакавыя алтары і пяціграння апсіда, якія надаюць будынку крыжападобны план. Пры ўваходзе — трох'ярусная шатровая званіца. У аздобе фасадаў выкарыстана дэкаратыўная разьба (карнізы, ліштвы, вуглавыя накладкі).

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Пінкавічы, Аснежыцкі сельсавет**

**1331. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 197 воінаў 55-й гвардзейскай стралковай дывізіі 20-га



1331. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

стралковага корпуса 28-й арміі 1-га Беларускага фронту і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у ліпені 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**1332. МЕСЦА ПРАЦЫ КОЛАСА** Якуба (гіст.). У в. Пінкавічы з жніўня 1904 г. да студзеня 1906 г. ў народным вучылішчы працаваў настаўнікам Я. Колас (К. М. Міцкевіч). Ён распаўсюджваў рэвалюцыйную літаратуру сярод насельніцтва, дапамог выпрацаваць патрабаванні да мясцовага памешчыка Скірмунта аб свабоднай лоўлі рыбы ў 2 азёрах, адмове ад незаконнага захопу сялянскіх угоддзяў і аб уступцы сервітутнага ўчастка зямлі. У вёску прыбылі ўзброеныя казакі і разагналі сялян, якія выступілі супраць памешчыка. Я. Колас у парадку пакарання быў пераведзены ў Верхменскае народнае вучылішча. Гэты перыяд даў матэрыял для апісання жыцця жыхароў в. Выганы ў аповесці «У глыбі Палесся» (1927 г.).

На будынку школьнага музея ў 1962 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**1333. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1830 г. з дрэва.

Трохзрубная царква складаецца з прамавугольнага бабінца, васьмерыковага цэнтральнага і пяцісценнага алтарнага зрубаў. Цэнтральны зруб выцягнуты па папярочнай восі, што стварае кампактную цэнтрычную кампазіцыю. Ён завершаны шатровым дахам, з якім злучаюцца вальмавы дах алтарнага памяшкання і двухсхільны бабінца. Над бабінцам узвышаецца завершаная шатровым дахам чацверыковая званіца. Сцены знадворку ашаляваны гарызантальна. Высока размешчаныя прамавугольныя вокны аздоблены ліштвамі. Усе 3 памяшканні злучаюцца паміж сабой вялікімі праёмамі і перакрыты пірамідальнымі ўсечанымі зверху скляпеннямі. У бабінцы зроблены хоры.



**1333.** *Пакроўская царква. Бакавы фасад.*



**1335.** *Помнік камсамольцам-падпольшчыкам.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока.

*Ю. А. Якімовіч.*

**в. Пласкінь, Бобрыкаўскі сельсавет**

**1334. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 64 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, і 15 мірных жыхароў — ахвяр фашызму ў 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Плошчава, Калавуравіцкі сельсавет**

**1335. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ-ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці камсамольцаў-падпольшчыкаў вёскі, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла.



**1333.** *Пакроўская царква. План.*

**в. Рудка, Мерчыцкі сельсавет**

**1336. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,2 км ад вёскі, на правым беразе р. Ясельда. Памеры 600×350 м. Адкрыла і абследавала ў 1980 г. В. С. Вяргей. Сабраны крамянёвы інвентар (адшчэпы, пласціны, нажы, скрабкі, разцы і інш.), некалькі фрагментаў грубаляпных пасудзін з дамешкамі жарствы ў цесце і шмат ганчарнай керамікі з лінейным і хвалістым арнаментам. Адносяцца да ранняга жалезнага веку і сярэднявечча. Раней на месцы селішча была стаянка каменнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Стытычава, Плешчыцкі сельсавет**

**1337. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Р. І. Катоўскага. На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлены помнік з барэльефнымі выявамі твару савецкага воіна, ордэна Айчыннай вайны і імёнамі загінуўшых землякоў.

**в. Сушыцк, Гарадзішчанскі сельсавет**

**1338. СТАЯНКІ** (археал.).

**1338а.** Стаянка-1. За 1 км на захад і паўночны захад ад вёскі, абапал дарогі на вёскі Клін і Гарадзішча, што пракладзена ўздоўж надпоплаўнай тэрасы р. Ясельда, паміж пясчаных узгоркаў. Даўжыня да 300 м. Выявіў у 1962 г. і даследаваў у 1966 г. У. Ф. Ісаенка. Сабраны крамянёвыя прылады працы эпохі неаліту, абломкі глінянага посуду. Частка знаходак адносіцца да ранняга жалезнага веку.

**1338б.** Стаянка-2. За 0,5—1 км на ўсход ад вёскі, на пясчаных узгорках, уздоўж надпоплаўнай тэрасы р. Ясельда. Даўжыня каля 200 м. Выявіў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка, даследавала ў 1980 г. В. С. Вяргей. Знойдзены скрабкі, пласціны, разнастайныя наканечнікі стрэл, абломкі гаршкоў эпохі неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў.

**1338в.** Стаянка-3. За 1,2 км на ўсход ад вёскі, уздоўж дарогі, якая праходзіць па краі надпоплаўнай тэрасы р. Ясельда. Даўжыня да 400 м.




**1336.** *Селішча. План.*




1337. *Помнік землякам.*

Культурны пласт захаваўся часткова. Выявіў і даследаваў у 1962 г. У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, праколкі і прылады працы, якімі секлі, абломкі ранненеалітычнага посуду, кераміка позняга неаліту, ранняга бронзавага і жалезнага вякоў.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. Ф. Ісаенка.*

**в. Табулкі, Парэцкі сельсавет**

**1339. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 21 аднавяскоўца, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хваросна, Валішчанскі сельсавет**

**1340. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля клуба. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**в. Цвярдоўка, Мерчыцкі сельсавет**

**1341. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць школы. На ўшанаванне памяці 13 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Церабень, Лемяшэвіцкі сельсавет**

**1342. СТАЯНКІ** (археал.).

**1342а.** Стаянка-1. За 2 км на ўсход ад вёскі, побач з прыстанню. Даўжыня каля 200 м. Выявілі ў 1957 г. Ю. У. Кухарэнка і Б. В. Міралюбаў, даследавалі ў 1963 г. У. Ф. Ісаенка, у 1980 г. В. С. Вяргей. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, каменныя сякеры, рэшткі 2 зямлянак, 4 пахаванні ранняга жалезнага веку. Большасць знаходак адносіцца да позняга неаліту і бронзавага веку.

**1342б.** Стаянка-2. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на пясчаным узгорку ў левабярэжжы Прыпяці. Даўжыня 200 м, культурны пласт збярогся часткова. Выявіў і даследаваў у 1975 г. У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — вялікая колькасць апрацаваных крамянёў (у т. л. наканечнікі стрэл, нажы, скрабкі, сякеры, разцы і інш.), абломкі глінянага посуду, рэшткі агнішчаў, посахападобная шпілька. Адносіцца да позняга неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (Пінск).

*Літ.:* Исаенко В. Ф. Неолит Припятского Полесья.— Мн., 1976; Кухаренко Ю. В. Первобытные памятники Полесья.— М., 1962. *У. Ф. Ісаенка.*

**в. Чамярын, Парэцкі сельсавет**

**1343. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 18 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены абеліск.

**в. Чухава, Навадворскі сельсавет**

**1344. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў сакавіку 1919 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1338. *Стаянкі. План.*




1342. *Стаянкі. План.*

**1345. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 47 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1346. СТАЯНКА** (археал.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на паўночна-заходнім беразе воз. Пагосцкае. Займае ўзгорак вышынёй 3—5 м. Даўжыня 120 м. Выявіў і даследаваў у 1966 г. У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт да 0,3 м. Сярод знаходак — 700 апрацаваных крамянёў, 150 прылад працы і абломкі амаль 10 ляпных гаршкоў. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.




# ПРУЖАНСКІ РАЁН

Зеляневічы
Магілёўцы
Кавалі
Ружаны
Паўлава
Лыскава
Бярэзніца
Варанілавічы
Калазубы
Гута
Шчытна
Боркі
Папялёва
Труханавічы
Смаляніца
Роўбіцк
Руднікі
Сухопаль
Мурава
Мокрае
Харава
Крыніца
Вял. Сяло
Скорцы
Стараволя
ПРУЖАНЫ
Шарашова
Смаляны
Сланімцы
Шані
Брады
Чахец
Лінова
Аранчыцы
Бакуны
Шчарчова
Гарадзечна
Паддубна

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна, барацьба працоўных Заходняй Беларусі)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

## XIX. ПРУЖАНЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Мухавец, за 89 км на паўночны ўсход ад Брэста, 13 км ад чыгуначнай станцыі Аранчыцы (на лініі Баранавічы — Брэст). Вузел аўтамабільных дарог на Брэст, Высокае, Шарашова, Слонім, Кобрын.

Першае ўпамінанне аб Прушанскай валасці адносіцца да 1433 г. Пружаны вядомы з 1487 г. пад назвай Дабучын. Да 1519 г. ў Кобрынскім княстве. Пасля смерці кобрынскага князя Івана Сямёнавіча Пружаны перайшлі ва ўладанне да яго жонкі Фядоры, у 1519 г. па прывілеі вялікага князя літоўскага Жыгімонта I Старога — да маршалка В. Касцевіча, уваходзілі ў Кобрынскае староства. З 1520 г. ў Кобрынскім павеце Падляшскага ваяводства, з 1566 г. ў Брэсцкім павеце і ваяводстве. Каралева Рэчы Паспалітай Бона, якой у 16 ст. некаторы час належалі Пружаны, дала гораду герб: на сярэбраным полі шчыта звілістая блакітная вужака паглынае малое дзіця. У 1589 г. горад, які на гэты час быў даволі буйным гандлёвым цэнтрам, атрымаў магдэбургскае права, за ім замацавана назва Пружаны. Тут праводзіліся 4 кірмашы ў год. Паводле інвентару 1563 г., у Пружанах было 1250 жыхароў, 7 вуліц, 278 гаспадарак. У час войнаў сярэдзіны 17 — 1-й палавіны 18 ст. горад моцна разбураны. У 1776 г. пазбаўлены магдэбургскага права. Да канца 18 ст. адноўлены, у 1791 г.— 2094 жыхары. З 1795 г. Пружаны ў складзе Расіі, горад, цэнтр павета Слонімскай, з 1797 г. Літоўскай, з 1801 г. Гродзенскай губерняў. У 1852 г. ў прадмесці Горкі пабудавана капліца, у 1861—66 гг. у цэнтры Пружан — сабор Аляксандра Неўскага, у 1875—78 гг.— Спаса-Праабражэнская царква. У 1-й палавіне 19 ст. былі гарбарны, піваварны, цукровы і маслабойны заводы. У час паўстання 1863—64 гг. на Пружаншчыне дзейнічалі атрады Р. Рагінскага, С. Сонгіна і Б. Рыльскага. 13.2.1863 г. яны занялі горад.

Адмена прыгоннага права станоўча адбілася на эканамічным развіцці горада. Паводле перапісу 1897 г. ў Пружанах 7633 жыхары (43,4 % пісьменных), 14 дробных прадпрыемстваў, павятовае і двухкласнае прыходскае вучылішчы. У час Рэвалюцыі 1905—07 гг. у Пружанах адбыліся забастоўкі рабочых тытунёвай фабрыкі.

З жніўня 1915 г. горад акупіраваны нямецкімі, з 30.1.1919 г. да ліпеня 1920 г.— польскімі войскамі. З 27.7 да 19.9.1920 г. ў горадзе існавала Савецкая ўлада, дзейнічаў павятовы ваеннарэвалюцыйны камітэт. Паводле Рыжскага мірнага дагавора ў 1921—39 гг. Пружаны ўваходзілі ў склад буржуазнай Польшчы, павятовы горад Палескага ваяводства. Барацьбу працоўных за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ўзначальвалі арганізацыі КПЗБ, КСМЗБ, Беларускай сялянска-рабочай грамады.

З канца 1939 г. Пружаны ў складзе БССР, з 15.1.1940 г. цэнтр раёна Брэсцкай вобл. 23.6.1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З 1942 г. дзейнічаў падпольны антыфашысцкі камітэт, з 23.11.1943 г. да 11.7.1944 г.— падпольны райком КП(б)Б, з 1.9.1943 г. да 11.7.1944 г.— падпольны райком ЛКСМБ. Акупанты нанеслі гораду вялікія страты, жылы фонд быў разбураны на 70 %. 17.7. 1944 г. Пружаны вызвалены войскамі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту.

У 1959 г. ў абласных праектных майстэрнях г. Баранавічы распрацавана схема планіроўкі Пружан, якая ўпарадкоўвала нерэгулярную сетку вуліц. У 1974 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва складзены генеральны план горада.



**XIX.** *Вуліца Камуністычная.*

У горадзе 3 планіровачныя раёны: паўднёвы, заходні і ўсходні. Планіровачная структура вызначаецца цэнтральнай восевай магістраллю (вуліцы Савецкая, Кобрынская, Кастрычніцкая), перпендыкулярнымі да яе вуліцамі Леніна, Камуністычнай, Чырвонаармейскай і звілістым абрысам поймы р. Мухавец. Гістарычным цэнтрам горада з'яўляецца Савецкая пл., дзе зберагліся помнікі архітэктуры 19 ст.— гандлёвыя рады і сабор Аляксандра



**XIX.** *Вуліца Леніна. Фрагмент забудовы канца 19 — пачатку 20 ст.*



**XIX.** *Цэнтральная плошча.*



XIX. *Забудова вуліцы Юбілейнай.*

Неўскага. Новы адміністрацыйна-грамадскі цэнтр Пружан склаўся на вуліцах Камуністычнай і Савецкай. У забудове вылучаюцца Дом Саветаў, гасцініца, жылы дом з крамамі. Цэнтральная частка горада і цэнтр усходняга раёна забудаваны шматпавярховымі жылымі дамамі. Узніклі новыя мікрараёны ў паўночнай частцы горада і па вул. Кастрычніцкай.

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: агароднінакансервавы камбінат, масласырзавод, кансервавы завод, хлебазавод, ільнозавод, камбінат будаўнічых матэрыялаў. Працуюць раённае аб'яднанне Дзяржкамсельгастэхнікі, раённае вытворчае аб'яднанне бытавых паслуг, лясгас, метэастанцыя.

У Пружанах дзейнічаюць саўгас-тэхнікум, 4 сярэднія (у т. л. школа-інтэрнат), музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 7 дашкольных устаноў, 2 Дамы культуры, 2 кінатэатры, 2 бібліятэкі, бальніца, Брэсцкая абласная сельскагаспадарчая доследная станцыя, занальная аграхімлабараторыя. Выдаецца газета «Зара камунізму».

Помнікі: У. І. Леніну, В. З. Харужай, лётчыку С. М. Гудзімаву, савецкім лётчыкам, абеліск на брацкай магіле савецкіх воінаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Гарадская зона адпачынку знаходзіцца ў заходняй частцы Пружан каля штучнага вадаёма і звязана р. Мухавец з паркам у паўночнай частцы горада, дзе захаваўся помнік архітэктуры — гарадская сядзіба 19 ст.

*Літ.:* Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии: Краткий экономический очерк.— Мн., 1967; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и сёла Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.— М., 1965; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Wysłouch S. Rozwój granic i terytorjum powiatu Kobryńskiego do połowy XVI wieku.— Wilno, 1930.— (Odbitka z «Ateneum Wileńskiego», 1929, rocznik 6, zesz. 3—4); M. F., U. R. Prużana i jej okolice.— Ziemia, 1911, t. 2, № 47.

*У. В. Алісейчык, С. Ф. Цярохін.*

**1347. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Вул. Кафанава, на могілках. Пахаваны 250 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 50-й і 96-й гвардзейскіх стралковых дывізій і іншых часцей 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні г. Пружан і Пружанскага р-на, а таксама лётчыкі 33-га знішчальнага авіяпалка, воіны 30-й танкавай і 205-й матарызаванай дывізій, што загінулі ў чэрвені 1941 г. ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск з барэльефам воіна.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.



1347. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**1348. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). Вул. Кафанава, на могілках. Пахаваны 26 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў барацьбе за Савецкую ўладу ў 1920 г. На магіле ўстаноўлены 3 пліты.

**1349. ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ** (архіт.). У цэнтры горада, на Савецкай пл. Пабудаваны ў 1896 г. з цэглы (арх. Міхайлоўскі і Савіч). Выкарыстоўваюцца як гандлёвае прадпрыемства.

Прамавугольны ў плане будынак складаецца з 2 радоў гандлёвых ячэек, накрыты двухсхільным дахам з франтонамі на тарцах. Падоўжныя фасады аформлены масіўнымі аркадамі, якія ствараюць адкрытыя галерэі. Кожнаму інтэрвалу паміж слупамі арак дакладна адпавядае неглыбокая прамавугольная ніша ў сцяне. У нішах размешчаны дзверы і вітрыны гандлёвых памяшканняў. Колішні праезд пасярэдзіне падкрэслены трохпралётнымі рызалітамі, апрацаванымі пілястрамі і завершанымі фігурнымі франтонамі. Франтоны маюць крывалінейныя і ступеньчатыя абрысы і разам з карнізам раскрапаваны пілястрамі.



1349. *Гандлёвыя рады.*



1350. *Сядзібны дом. План 1-га паверха.*



1350. *Сядзібны дом.*

Гандлёвыя рады — помнік грамадзянскай архітэктуры.

Літ.: Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977.
*У. В. Алісейчык.*

**1350. ГАРАДСКАЯ СЯДЗІБА** (архіт.). На паўночнай ускраіне горада, у парку. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. паводле праекта арх. Ланці. Цяпер тут размешчана дашкольная ўстанова.

Ансамбль сядзібы ўключае мураваныя дом, да якога з боку горада вядзе шырокая алея, 2 флігелі і парк пейзажнага тыпу. Сядзібны дом складаецца з 2 груп рознавялікіх аб'ёмаў, аб'яднаных аднапавярховым корпусам. Заходні кампактны двухпавярховы аб'ём з эркерам накрыты двухсхільным дахам, да яго прылягае квадратная ў плане вежа і аднапавярховая прыбудова з паўкруглай верандай, усходні — Г-падобны ў плане, двухпавярховы, утварае на галоўным фасадзе неглыбокі рызаліт, які завершаны шчытом. Дваровы фасад павернуты ў бок парку вялікай тэрасай на 2 калонах. Аконныя праёмы прамавугольныя, з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Планіроўка асабняка анфіладная. Памяшканні 1-га паверха маюць плоскую столь з падугамі і аздоблены прафіляванымі ляпнымі карнізамі. Каміны і дзверы дэкарыраваны тонка прарысаванымі дэталямі. Паверхі звязаны паміж сабой вузкімі драўлянымі лесвіцамі.




**1350.** *Гарадская сядзіба. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом, 2, 3 — флігелі.*



**1350.** *Сядзібны дом. Фрагмент аздобы дзвярэй.*

Сядзіба — помнік сядзібна-паркавай архітэктуры стылю «мадэрн».
*У. В. Алісейчык.*

**1351. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ АВІЯЦЫЙНАГА ПАЛКА** (гіст.). Вул. Чырвонаармейская, 34. У гэтым будынку ў 1941 г. знаходзіўся штаб 33-га знішчальнага авіяпалка 10-й мяшанай авіядывізіі. Полк у чэрвені 1941 г. прымаў удзел у абарончых баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Брэсцкай вобл. У 1977 г. ў гонар палка на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Літ.: Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977. *Г. І. Дулеба.*

**1352. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 11, на будынку універмага. Устаноўлена ў 1967 г. ў гонар вызвалення горада савецкімі воінамі і баявой дзейнасці партызан брыгады імя П. К. Панамарэнкі.

17.7.1944 г. войскі 28-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі) 1-га Беларускага фронту ў выніку двухдзённых баёў вызвалілі Пружаны ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У баях удзельнічалі 50-я і 96-я гвардзейскія стралковыя дывізіі (камандзіры генерал-маёр А. С. Уладычанскі і генерал-маёр С. М. Кузняцоў), 65-ы асобны танкавы полк (камандзір падпалкоўнік В. Ф. Абіх), 1898-ы самаходны артылерыйскі полк (камандзір маёр В. В. Багамолаў), 63-я гаўбічная артылерыйская брыгада (камандзір палкоўнік К. А. Папа) і 157-я пушачная артылерыйская брыгада (камандзір палкоўнік Ц. К. Кірылаў).

У час вайны на тэрыторыі раёна дзейнічала партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі, арганізаваная ў чэрвені 1943 г. на базе атрадаў імя Г. М. Дзімітрова, імя С. М. Кірава, імя А. В. Суворава, імя В. П. Чкалава, «Савецкая Беларусь» і дыверсійнай групы М. Ф. Новіка. Камандзіры брыгады І. П. Урбановіч (да ліпеня 1943 г.), М. У. Сенькін (ліпень 1943 г.— ліпень 1944 г.); камісары С. П. Пацыруха (да ліпеня 1943 г.), К. Дз. Талочка (верасень — лістапад 1943 г., загінуў), М. Е. Крыштафовіч (лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначных і шашэйных дарогах, разбуралі ўмацаванні ворага, вялі адкрытыя і засадныя баі з акупантамі, ахоўвалі насельніцтва ад вывазу на катаржныя работы ў Германію. 11.7.1944 г. брыгада злучылася з войскамі Чырвонай Арміі. На час злучэння налічвала 4 атрады (1537 партызан). Разам з часцямі Чырвонай Арміі вызваляла Пружаны.

Літ.: Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; Сообщения Советского Информбюро. Т. 7.— М., 1945. *Г. І. Дулеба.*



**1353.** *Дом, у якім размяшчаўся рэўком.*

**1353. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РЭЎКОМА** (гіст.). Вул. Савецкая, 10. Устаноўлена ў 1967 г. на будынку, дзе ў ліпені — верасні 1920 г. размяшчаўся павятовы рэўком.

27.7.1920 г. Чырвоная Армія вызваліла Пружаны ад войск буржуазнай Польшчы. 28.7.1920 г. мясцовыя камуністы разам з прадстаўнікамі вайсковых часцей стварылі Пружанскі павятовы рэўком. Старшыня Р. І. Засім, з 10.8.1920 г. А. М. Вінаградаў. У загадзе № 6 ад 12.8.1920 г. павятовы рэўком паведаміў аб арганізацыі пры ім аддзелаў: зямельнага, харчовага, кіравання, фінансавага, народнай асветы, працы, аховы здароўя і камунальнай гаспадаркі. Гарнізон, які падтрымліваў рэвалюцыйны парадак, узначальваў П. В. Горын (Каляда). 19.9.1920 г. Пружаны зноў захапілі польскія войскі.

Літ.: Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июнь — декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1957.
*Т. А. Слесарук.*

**1354. ПОМНІК ГУДЗІМАВУ** Сцяпану Мітрафанавічу (гіст.). На вул. Чырвонаармейскай, у скверы імя 50-годдзя піянерыі.

Лётчык-знішчальнік С. М. Гудзімаў нарадзіўся ў 1913 г. ў с. Ягаднае Камышынскага р-на Валгаградскай вобл. У Чырвонай Арміі з 1934 г. З мая 1938 г. служыў на Беларусі штурманам эскадрыллі 33-га знішчальнага авіяпалка, у верасні 1939 г. ўдзельні-



1355. *Помнік У. І. Леніну.*



1357. *Помнік савецкім лётчыкам.*

чаў у вызваленні Заходняй Беларусі. Член КПСС з 1941 г.

Раніцай 22.6.1941 г. пад прыкрыццём знішчальнікаў на аэрадром у Пружанах наляцелі варожыя бамбардзіроўшчыкі. У паветраным баі лейтэнант С. М. Гудзімаў збіў адзін самалёт, другі тараніў, але і яго самалёт быў пашкоджаны. Лётчык выкінуўся з парашутам, але стропы парашута зачапіліся за абломкі нямецкага самалёта, і Гудзімаў загінуў. 15.2.1968 г. пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай Вайны 2-й ступені.

У 1972 г. на ўшанаванне памяці С. М. Гудзімава пастаўлены абеліск. На фасаднай плоскасці помніка ўмацаваны трохлопасцевы прапелер самалёта, пад ім — дошка з памятным надпісам.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

*Г. І. Дулеба, С. Ф. Цярохін.*



1354. *Помнік С. М. Гудзімаву.*

**1355. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст., маст.). Вул. Камуністычная, на невялікай плошчы перад будынкам райкома партыі. Пастаўлены ў 1977 г. (скульпт. Л. Гумілеўскі, арх. М. Ткачук; бронза, граніт; агульная вышыня 8 м, вышыня фігуры 4,5 м).

Аснова кампазіцыі помніка — гранітны стылабат з асіметрычна размешчаным невысокім пастаментам з ружовага граніту, на якім узвышаецца фігура У. І. Леніна. Вобраз правадыра трактаваны ва ўрачыста-рамантычным плане. Творчая энергія і валявая сканцэнтраванасць, духоўная мэтанакіраванасць адлюстраваны ў паставе, жэсце, стрыманай мадэліроўцы аб'ёму. У. І. Ленін стаіць, крыху падаўшыся наперад, у паліто, крысо якога адкінуў вецер. Пластычнае вырашэнне помніка ўзбагачае сяміметровая бронзавая стэла, размешчаная за фігурай, якая сваёй канфігурацыяй нагадвае лунаючыя сцягі. Яна развівае асноўную тэму помніка: Ленін — правадыр рэвалюцыі, яе сцяг.

**1356. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Кастрычніцкай, каля сярэдняй школы № 3. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1966 г.

**1357. ПОМНІК САВЕЦКІМ ЛЁТЧЫКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада, непадалёку ад шашы на Ружаны.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны каля Пружан дыслацыраваўся 33-і знішчальны авіяполк 10-й змешанай авіядывізіі. На світанні 22 чэрвеня 1941 г. на пружанскі аэрадром, дзе ў гэты час знаходзілася рэзервовая эскадрылля, наляцела 20 бамбардзіроўшчыкаў і некалькі знішчальнікаў праціўніка. У паветраным баі савецкія лётчыкі збілі 5 варожых самалётаў.

У 1971 г. ў памяць аб гераічным подзвігу савецкіх лётчыкаў пастаўлены помнік — самалёт-знішчальнік на пастаменце. На 2 мармуровых дошках высечаны памятны надпіс і словы з «Песні пра Сокала» М. Горкага.

**1358. ПОМНІК ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст.). На вул. Кастрычніцкай, каля будынка сярэдняй школы № 3.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі В. З. Харужая ў 1924 г. вяла ў Пружанскім павеце падпольную работу: распаўсюджвала нелегальную літаратуру, арганізоўвала сходкі, мітынгі, заклікала працоўных да барацьбы за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Помнік В. З. Харужай — бюст на прамавугольным пастаменце (скульпт. З. Азгур) — пастаўлены ў 1963 г.

**1359. САБОР АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (архіт.). На рагу вул. Камуністычнай і Савецкай пл. Пабудаваны ў 1861—66 гг. з цэглы.

Будынак складаецца з 3 частак. Прамавугольны ў плане асноўны трохнефавы аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Над тамбурам узвышаецца званіца (васьмярык на чацверыку), за-



1358. *Помнік В. З. Харужай.*

вершаная купалам з галоўкай. Асаблівасцю будынка з'яўляецца паўкруглая ў плане трох'ярусная алтарная частка, верхні ярус якой — светлавы барабан з люнетамі, накрыты вялікім купалам. Сцены раскрапаваны пілястрамі і завершаны спрошчаным антаблементам. Аконныя і дзвярныя праёмы з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі маюць кілепадобныя абрамленні. Уваходы ў будынак з 3 бакоў падкрэслены франтонамі. Пілястры першага яруса апсіды на другім ярусе прадоўжаны лапаткамі, на трэцім — спаранымі пілястрамі. Унутраная прастора асноўнага аб'ёму 6 квадратнымі ў плане слупамі падзелена на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем, бакавыя — крыжовымі. Скляпенні ўмацаваны падпружнымі аркамі.



1359. *Сабор Аляксандра Неўскага. Выгляд з боку апсіды.*



1359. *Сабор Аляксандра Неўскага. План.*

Сабор — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *У. В. Алісейчык.*

**1360. ЦЭНТР РАМЯСТВА** (гіст.). З 16 ст. Пружаны вядомы як цэнтр па вырабу паліванага посуду і кафлі, а таксама задымленага і чорнаглянцаванага посуду. Яшчэ ў пачатку 20 ст. 250 ганчароў горада выраблялі міскі, глякі, гаршкі, макотры, гладышы, друшлякі гладкія і аздобленыя рэльефным арнаментам беларускага ўзорыстага ткацтва і вышыўкі, раслiннымі матывамі, пакрытыя карычневай, зялёнай і сіняй палівамі. Кафля аздаблялася рэльефным раслінным арнаментам і традыцыйным для Беларусі матывам вазона, потым пакрывалася той жа гамай каляровых палiў. Частка задымленага посуду аздаблялася глянцаваным сеткаватым, рамбічным, паласатым, спіралепадобным або ў «елачку» рысункамі, якія наносіліся ўручную перад абпальваннем, пасля чаго посуд набываў чорна-шэры металічны бляск.

Традыцыі вырабу пружанскай керамікі развіваюцца і цяпер. Пружанская кераміка зберагаецца ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах (філіял Дзяржаўнага мастацкага музея БССР), Музеі старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і Музеі мастацкага промыслу АН УССР (г. Львоў).

*Літ.:* Города России...— СПб., 1906—14. *М. М. Яніцкая.*

**1361. ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА** (гіст.). Вул. Сацыялістычная, 7. У гэтым доме з 1923 г. да 1938 г. знаходзілася явачная кватэра КПЗБ.



1359. *Сабор Аляксандра Неўскага.*



1361. *Дом, у якім знаходзілася явачная кватэра КПЗБ.*

Падпольная камуністычная арганізацыя ў Пружанах існавала ўжо ў 1921 г. Пасля стварэння КПЗБ (1923 г.) партыйныя арганізацыі пачалі ўзнікаць і ў вёсках Пружанскага павета. У 1924 г. па 5—7 чалавек налічвалі ячэйкі ў Залессі, Калядзічах, Пінянах, Смалянах, Хараве, Шанях і іншых вёсках. У Пружанах у гэты час знаходзіўся райком КПЗБ, у Хараве, Шанях, Шарашове — падрайкомы. Вясковыя партыйныя ячэйкі вялі палітычную прапаганду, збіралі сродкі на дапамогу палітзняволеным, распаўсюджвалі лістоўкі і падпольныя газеты. Пружанскі райком КПЗБ друкаваў лістоўкі (на шапірографе).

З 1927 г. да 1930 г. Пружанскі падпольны райком КПЗБ знаходзіўся ў в. Варотнае, з 1930 г.— у Хараве. У розны час яго сакратарамі былі А. Чатырбок, С. П. Пацяруха, М. Е. Крыштафовіч. Пад кіраўніцтвам райкома ў Пружанах у 1928 г. быў створаны агульнагарадскі прафсаюз. У сакавіку 1932 г. ў 29 з 50 вёсак павета дзейнічалі ячэйкі КПЗБ. Роля КПЗБ як арганізатара барацьбы працоўных яскрава праявілася ў час забастоўкі рабочых лясных промыслаў у Белавежскай пушчы (15.10.1932 г.— сярэдзіна лютага 1933 г.). У ёй удзельнічалі 4 тыс. рабочых-лесарубаў і малазямельных сялян з 56 вёсак. Актыўную ролю ў яе перамозе (павялічана зарплата, паменшаны рабочы дзень і інш.) адыграў Пружанскі райком КПЗБ, сакратар якога С. П. Пацяруха быў адным з кіраўнікоў забастоўкі.

На доме, дзе была явачная кватэра КПЗБ, у 1968 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Революционный путь Компартии Западной Белоруссии (1921—1939 гг.).— Мн., 1966; У суровыя гады падполля.— Мн., 1958. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Аранчыцы, Ліноўскі сельсавет**

**1362. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёс-

кі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Будынак прамавугольны ў плане, з пяціграннай апсідай і двух'яруснай шатровай вежай на галоўным фасадзе. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**1363. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 50 жыхароў в. Аранчыцы і суседніх вёсак, загубленых нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Байкі (не існуе), Крыніцкі сельсавет**

**1364. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Байкі знаходзілася за 4,5 км на ўсход ад в. Крыніца. У 1941 г. спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі (8 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Байкі, Ружанскі сельсавет**

**1365. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У паўднёвай частцы вёскі, каля калгаснага саду. Пахаваны мірныя жыхары, ахвяры нямецка-фашысцкага тэрору.

22.1.1944 г. атрад карнікаў акружыў в. Байкі і сагнаў усіх жыхароў у хлявы. Мужчын расстралялі, жанчын спалілі жывымі, на дзяцей нацкавалі аўчарак, пакалечаныя дзіцячыя целы кінулі ў агонь. Усяго было загублена 987 жыхароў, спалена 120 двароў.

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 выд.].— Мн., 1965.

*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**1366. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1367. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАРАНУ** Ціхану Максімавічу (гіст.). Устаноўлена ў 1967 г. на доме, дзе ён нарадзіўся і жыў.

Піянер-герой, удзельнік барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў Ціхан Баран нарадзіўся 4.4.1932 г. Збіраў для партызан боепрыпасы, зброю, харчы, звесткі аб ворагу, распаўсюджваў сярод насельніцтва антыфашысцкую літаратуру. З чэрвеня 1943 г. партызан атрада імя С. М. Кірава брыгады імя П. К. Панамарэнкі Брэсцкай вобл. 22.1.1944 г. ў час расправы над жыхарамі в. Байкі, дзе Ціхан знаходзіўся па заданню камандавання атрада, гітлераўцы захапілі яго ў палон і загадалі паказаць месца дыслакацыі партызан. Юны патрыёт паўтарыў подзвіг І. Сусаніна: завёў карнікаў у непраходнае балота. Раз'юшаныя акупанты расстралялі Ц. Барана.

*Літ.:* Пионеры-герои.— [3 выд.].— Мн., 1972; Орлята Великой Отечественной.— Мн., 1972; Васілеўская Г. Малюнак на снезе: Дакументальная аповесць.— Мн., 1969.

*Г. І. Дулеба.*

**1368. ПАДПОЛЬНАЯ ДРУКАРНЯ** (гіст.). На сядзібе селяніна М. І. Барана ў зямлянцы ў перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі знаходзілася падпольная друкарня Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта. Зямлянку выкапалі браты М. І. і Л. І. Бараны. У ёй знаходзілі часовы прытулак падпольшчыкі і партызанскія сувязныя. Зімой 1942—43 гг. у зямлянцы абсталяваў друкарню Камітэт барацьбы з нямецкімі акупантамі, рэарганізаваны ў 1943 г. ў Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт. За гады вайны ў друкарні надрукаваны 168 тыс. экземпляраў газет, лістовак, адозваў, зводак Саўінфармбюро на беларускай, рускай, польскай і нямецкай мовах.

У 1967 г. зямлянка аднаўлена. На доме М. І. Барана ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977; В памяти народной.— Мн., 1969.

*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**в. Бакуны, цэнтр сельсавета**

**1369. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева. На ўшанаванне памяці 137 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—45 гг., у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура партызана і дзяўчыны.

**1370. ПОМНІК ЧАПАЕВУ** Васілю Іванавічу (гіст.). Каля будынка клуба. Бюст героя Грамадзянскай вайны В. І. Чапаева ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Бакуны, Велікасельскі сельсавет**

**1371. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС САВЕЦКІМ ВОІНАМ, ПАРТЫЗАНАМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі. У брацкай магіле пахаваны 77 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі.

У 1968 г. на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў, партызан і землякоў, што загінулі ў Айчынную вайну, створаны мемарыяльны комплекс (скульпт. І. Краўчанка, арх. Ю. Казакоў; бетон; вышыня скульптурнай групы 3,5 м, пастамента 1,75 м). Дамінантай комплексу з'яўляецца скульптурная група: у маўклівай жалобе застыла жанчына з апушчанымі рукамі і воін у паходнай форме, які абдымае яе за плечы. Справа ўзвышаецца стэла з графічнай выявай зоркі і надпісам-прысвячэннем, злева — Сцяна памяці (даўжыня 6 м) з імёнамі 119 загінуўшых землякоў.

*Г. І. Дулеба, Л. Г. Лапцэвіч.*



1371. *Мемарыяльны комплекс савецкім воінам, партызанам і землякам. Фрагмент.*

**в. Барысікі, Лыскаўскі сельсавет**

**1372. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 80 воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1375. *Царква Аляксандра Неўскага. План.*



1375. *Царква Аляксандра Неўскага.*

**в. Блізная, Ружанскі сельсавет**

**1373. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1374. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1375. ЦАРКВА АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі, на могілках. Пабудавана ў 1888 г. з бутавага каменю і цэглы. Складаецца з асноўнага прамавугольнага аб'ёму з трохграннай апсідай і квадратнай у плане званіцы. Званіца ўвянчана чатырохгранным шатром з шырокімі схіламі і цыбулепадобнай галоўкай. Аконныя праёмы — арачныя, з простымі ліштвамі. Царква — узор мясцовай трактоўкі культавай архітэктуры.

**в. Брады, Шчарчоўскі сельсавет**

**1376. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 55 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — начальнік штаба партызанскага атрада імя В. П. Чкалава брыгады «Савецкая Беларусь» Брэсцкай вобл. лейтэнант М. З. Храбрых.

У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — трохгранная стэла з барэльефнымі выявамі галоў воіна, партызана і жанчыны-маці. Перад стэлай — пліта з імёнамі пахаваных. На гранях стэлы — дошкі, на якіх высечаны імёны 110 аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе.

**в. Бярэзніца, Паўлаўскі сельсавет**

**1377. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля вёскі, ва ўрочышчы Пель. 4 насыпы. Вышыня 1 м, дыяметр 10—12 м. У плане круглыя. Вядомы з канца 19 ст. Абследаваў у 1970 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Варанілавічы, цэнтр сельсавета**

**1378. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі на Ружаны. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1379. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.




1376. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Варотнае, Ліноўскі сельсавет**

**1380. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**хутар Выдзерка (не існуе), Ліноўскі сельсавет**

**1381. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Выдзерка знаходзіўся за 4 км на поўдзень ад в. Аранчыцы. У 1943 г. спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі (35 двароў). Пасля вайны не адрадзіўся.

**в. Вяжное, Шчарчоўскі сельсавет**

**1382. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі. Пабудавана да 1791 г. з дрэва.

Выцягнуты прамавугольны ў плане будынак з трохграннай апсідай накрыты двухсхільным гонтавым дахам з вальмамі над алтаром. З боку галоўнага заходняга фасада над асноўным аб'ёмам узвышаецца двух'ярусная шатровая званіца (васьмярык на чацверыку). Пярэдняя грань чацверыка супадае з плоскасцю франтона. Званіца і дах завершаны галоўкамі. Сцены гарызантальна ашаляваны і ўмацаваны брусамі. Аконныя праёмы прамавугольныя. Асноўнае памяшканне зальнае. Пры ўваходзе — тамбур з харамі.

У архітэктуры царквы выкарыстаны прыёмы традыцыйнага народнага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*



1382. *Мікалаеўская царква. План.*

**в. Вялікае Сяло, цэнтр сельсавета**

**1383. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 54 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарадзечна, цэнтр сельсавета**

**1384. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На школьным двары. Пахаваны 133 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 28 мірных жыхароў, расстраляных гітлераўскімі акупантамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1385. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1825 г. з цэглы. Прамавугольны ў плане будынак з вежай-званіцай над уваходам. Асноўны трохнефавы аб'ём накрыты двухсхільным дахам, над якім узвышаецца драўляны васьміграпны светлавы барабан. На галоўным фасадзе накладны порцік. Вокны абрамлены простымі ліштвамі. У архітэктуры царквы выкарыстаны элементы класіцызму.

**1386. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Ф. Э. Дзяржынскага. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1970 г.



1382. *Мікалаеўская царква.*



1385. *Пакроўская царква.*

**в. Жабін, Гарадзечанскі сельсавет**

**1387. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Заполле, Ружанскі сельсавет**

**1388. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1389. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ-ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі.

У жніўні 1941 г.— ліпені 1944 г. ў в. Заполле дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя. У 1942 г. ў ёй было 16 камсамольцаў-падпольшчыкаў. Сакратары: Я. І. Гардзей (жнівень 1941 г.— май 1943 г.), У. В. Прэдка (чэрвень — жнівень 1943 г.), І. М. Маньчык (жнівень 1943 г.— ліпень 1944 г.). Юнакі збіралі зброю, боепрыпасы, разведданыя аб праціўніку, удзельнічалі ў дыверсіях, распаўсюджвалі сярод жыхароў Заполля і навакольных вёсак лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро. Летам 1942 г. падпольшчыкі мелі друкарню. У барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі І. В. Дэйка,



1390. *Мікалаеўская царква.*



1385. *Пакроўская царква. План.*

А. А. Куніца, І. А. Куніца, У. В. Прэдка і іншыя члены падпольнай арганізацыі.

На ўшанаванне памяці камсамольцаў-падпольшчыкаў у 1975 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Ромма Ф. Мужала молодость в боях.— Мн., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**в. Засімавічы, Шанеўскі сельсавет**

**1390. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1811 г. з цэглы. Невялікі прамавугольны ў плане аб'ём з трохграннай алтарнай часткай пакрыты двухсхільным гонтавым дахам, абмежаваным з заходняга боку дашчаным франтонам. У апрацоўцы сцяны галоўнага фасада выкарыстаны руст па тынкоўцы. Помнік архітэктуры класіцызму.

**в. Зельзін, Зеляневіцкі сельсавет**

**1391. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1878 г. з цэглы. Складаецца з прамавугольнага асноўнага аб'ёму, выцягнутага ў папярочным напрамку, і апсіды. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, завершаным галоўкай. Пры ўваходзе да асноўнага аб'ёму прыбудаваны тамбур, з паўночнага боку да апсіды — рызніца. Па восі царквы стаіць змураваная з буту двух'ярусная званіца з вальмавым дахам. Помнік эклектычнай архітэктуры.

**в. Зеляневічы, цэнтр сельсавета**

**1392. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку, каля будынка канторы саўгаса «Зеляневічы». На ўшанаванне памяці 18 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлена стэла.



1390. *Мікалаеўская царква. План.*

**1393. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Кавалі, Паўлаўскі сельсавет**

**1394. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Кавалі». Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Казлы, Мокраўскі сельсавет**

**1395. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 180 мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 17.7.1942 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Калазубы, Варанілавіцкі сельсавет**

**1396. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 70 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Канстанцінава (не існуе), Ружанскі сельсавет**

**1397. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). На поўнач, недалёка ад сучаснай в. Воля Ружанскага сельсавета знаходзілася в. Канстанцінава, якая была знішчана разам з жыхарамі 8.7. 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі (175 жыхароў, 35 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Кацёлкі, Шанеўскі сельсавет**

**1398. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 100 м на поўнач ад школы, абапал дарогі Шані — Абруб, у лесе. 6 насыпаў. Вышыня 1,5—3,5 м, дыяметр 5—15 м. У плане курганы круглыя, насыпы пясчаныя, стромкія. У 1960 г. 2 курганы раскапалі члены гістарычнага гуртка Пружанскай сярэдняй школы № 1. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавою на захад. Каля асновы насыпаў выяўлена попельна-вугальная праслойка таўшчынёй каля 7 см. Пры раскопках знойдзены гаршчок, абломкі керамікі, праслiцы, цвікі, сярэбраны S-падобны пярсцёнак, залачоная шкляная біканічная пацерка. Могільнік датуецца 11—13 стагоддзямі. Належаў дрыгавічам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў музеі школы № 1 г. Пружаны.

**в. Качаны (не існуе), Крыніцкі сельсавет**

**1399. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Качаны знаходзілася за 3 км на захад ад в. Крыніца. Спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў

1941 г. (4 двары). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Козі Брод, Шанёўскі сельсавет**

**1400. МЕСЦА ДЫСЛАКАЦЫІ ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА ІМЯ В. П. ЧКАЛАВА** (гіст.). У 1943—44 гг. у вёсцы і навакольных лясах дыслацыраваўся партызанскі атрад імя В. П. Чкалава.

Атрад створаны ў сакавіку 1943 г. на базе груп П. І. Масалова, С. Г. Бокшы, «Віктара», Я. Г. Беражняка, Х. Камуратава. Атрад дзейнічаў на акупіраванай тэрыторыі Пружанскага, Ружанскага і суседніх з імі раёнаў Брэсцкай вобл. да чэрвеня 1943 г. асобна, потым у складзе брыгады імя П. К. Панамарэнкі, са жніўня 1943 г. ў складзе брыгады «Савецкая Беларусь». Камандзіры П. І. Масалоў, С. З. Астроўскі, Я. К. Калеснікаў, камісары Х. Камуратаў (загінуў), А. І. Жылякоў, Я. Г. Беражняк. Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначных і шашэйных дарогах, удзельнічалі ў «рэйкавай вайне», грамілі варожыя гарнізоны, паліцэйскія ўчасткі, апорныя пункты. Яны падарвалі 77 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай ворага, 88 паравозаў, 340 рэек, знішчылі і пашкодзілі 7 шашэйных мастоў. У зоне дзеяння атрада знаходзіўся сямейны лагер, дзе мясцовыя жыхары ратаваліся ад тэрору акупантаў. У сярэдзіне ліпеня 1944 г. атрад злучыўся з часцямі Чырвонай Арміі. На час злучэння ў ім налічвалася 190 партызан.

У 1975 г. ў памяць аб баявой дзейнасці атрада імя В. П. Чкалава за 6 км на поўнач ад в. Козі Брод, каля шашы Пружаны — Брэст пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**в. Краснае, Мокраўскі сельсавет**

**1401. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 224 мірныя жыхары вёсак Клепачы, Краснае, Ліхасельцы, Ліхачы, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 17.7.1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1391. *Крыжаўзвіжанская царква. План.*

**в. Крыніца, цэнтр сельсавета**

**1402. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля шашы Пружаны — Камянюкі. 27.7.1920 г. каля в. Крыніца паміж часцямі Чырвонай Арміі Заходняга фронту і польскімі войскамі адбыўся бой, у якім загінулі 12 чырвонаармейцаў. Па рашэнню Пружанскага рэўкома (1920 г.) на магіле герояў быў пастаўлены помнік — кулямёт «Максім» на невялікім бетонным пастаменце (не захаваўся). 9.5.1967 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых воінаў пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *М. П. Клімец.*

**1403. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 13 км на захад ад вёскі, у Белавежскай пушчы. Пахаваны каля 120 жыхароў навакольных вёсак, забітых нямецка-фашысцкімі захопнікамі 31.7—2.8.1941 г.

Карная аперацыя па «эвакуацыі» жыхароў населеных пунктаў Белавежскай пушчы праводзілася 25.7—19.8. 1941 г. 322-м паліцэйскім батальёнам і ротай «Штутгарт». Гітлераўцы выселілі амаль 7 тыс. жыхароў, спалілі каля 40 населеных пунктаў, забралі каля 6 тыс. галоў жывёлы. У ходзе аперацыі карнікі расстралялі больш як 490 чалавек, у т. л. ўсіх схопленых імі камуністаў, савецкіх работнікаў і актывістаў, а таксама членаў іх сем'яў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск. *У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**1404. ПОМНІК КАФАНАВУ** Рыгору Ільічу (гіст.). За 13 км на паўночны захад ад в. Крыніца, у Белавежскай пушчы. Пагранічнік Р. І. Кафанаў загінуў 19.9.1939 г. пры выкананні баявога задання. Бюст устаноўлены ў 1972 г. Імя Р. І. Кафанава прысвоена пагранзаставе, дзе ён служыў.

**1405. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Куляны, Ружанскі сельсавет**

**1406. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.).



1391. *Крыжаўзвіжанская царква. Званіца.*



1402. *Помнік на брацкай магіле чырвонаармейцаў.*

У цэнтры вёскі. Пахаваны 744 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. З іх 692 воіны загінулі ў чэрвені 1941 г., 52 воіны — пры вызваленні раёна ў ліпені 1944 г. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1407. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 мірных жыхароў вёскі, расстраляных у 1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Купічы, Крыніцкі сельсавет**

**1408. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 36 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск, які ўшаноўвае таксама памяць 115 аднавяскоўцаў, што аддалі жыццё за свабоду і незалежнасць Радзімы.

**в. Куплін, Смалянскі сельсавет**

**1409. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1834 г. з цэглы. Прамавугольны ў плане будынак. У архітэктуры выкарыстаны прыёмы класіцызму.

**в. Кутнявічы, Бакунскі сельсавет**

**1410. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 50 воінаў і пар-



**1415.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

тызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лазкі (не існуе), Крыніцкі сельсавет**

**1411. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Лазкі знаходзілася за 4 км на ўсход ад в. Крыніца. У 1941 г. спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі (14 двароў). Пасля вайны не адрадзілася.

**в. Лінова, цэнтр сельсавета**

**1412. КАСЦЁЛ** (архіт.). На вул. Школьнай. Пабудаваны ў 1-й палавіне 19 ст. з дрэва. Выразнасць прамавугольнага ў плане аб'ёму дасягаецца высокім двухсхільным дахам. Помнік драўлянага дойлідства з элементамі неагатычнага стылю.

**1413. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны каля 400 савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1971 г. ў памяць аб загінуўшых пастаўлены 2 абеліскі.

**1414. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Лыскава, цэнтр сельсавета**

**1415. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 502 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і пры вызваленні Пружанскага р-на ў ліпені 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены скульптура воіна і абеліск, дзе ўшанавана таксама памяць 100 аднавяскоўцаў, што загінулі ў барацьбе за свабоду і незалежнасць Радзімы.

**1416. КЛЯШТАР МІСІЯНЕРАЎ** (архіт.). У цэнтры вёскі на ўзгорку. Складаецца з Троіцкага касцёла і размешчанага насупраць яго жылога корпуса.

Т р о і ц к і к а с ц ё л узведзены ў 1763—85 гг. з цэглы. У 1818 г. перабудавана вежа. У 1866 г. касцёл перароблены ў праваслаўную царкву. У 1883—84 гг. пад наглядам арх. П. І. Залатарова праводзіліся работы па аднаўленню храма, які абгарэў у 1881 г. (выкладзены новыя скляпенні, заменены кроквенныя канструкцыі даху, пакрыццё і інш.). Касцёл крыжовы ў плане, аднавежавы, з прамавугольнай алтарнай часткаю і 2 сакрысціямі. Вежа чатырох'ярусная, плаўна выступае на асноўнай плоскасці галоўнага заходняга фасада. Карніз дзеліць вежу на 2 часткі: ніжнюю, сучлененую ў адзіным аб'ёме з асноўнай часткаю храма, і верхнюю, якая ўяўляе сабой дамінуючае ў сілуэце двух'ярусное завяршэнне. Ніжняя частка вежы разам са сцяной асноўнага аб'ёму падзелена прафіляванай цягай на 2 ярусы: ніжні выкананы ў выглядзе масіўнага цокаля, верхні расчлянёны пілястрамі і завершаны франтонам у пярэдняй грані. Верхняя частка вежы дэкарыравана слаба развітымі валютамі. Вуглы вежы закруглены і раскрапаваны пілястрамі.

Асноўнае памяшканне касцёла зальнае, перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Скляпенні ўмацаваны падпружнымі аркамі, якія апіраюцца на багата прафіляваныя імпасты і пераходзяць у пілястры сцен. Паміж пілястрамі размешчаны вялікія арачныя нішы. Над нішамі — прамавугольныя аконныя праёмы, аддзеленыя прафіляванай паласой фрыза. Алтарная частка перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя крылы трансепта і сакрысціі — крыжовымі. Размалёўка паўночнага крыла трансепта імітуе архітэктурную ордэрную пластыку.

Ж ы л ы к о р п у с — двухпавярховы П-падобны ў плане будынак, пастаў-



**1416.** *Будынак жылога корпуса кляштара місіянераў.*



**1416.** *Кляштар місіянераў. Троіцкі касцёл.*



**1416.** *Троіцкі касцёл. План.*



**1416.** *Троіцкі касцёл. Фрагмент інтэр'ера.*



**1416.** *Будынак жылога корпуса кляштара місіянераў. План.*

лены ў 2-й палавіне 18 ст. Сцены расчлянёны па перыметры пілястрамі. Галоўны ўсходні фасад з цэнтральным рызалітам павернуты да касцёла. Выступы рызаліта змякчаны вязкамі пілястраў. Бакавыя часткі фасада падзелены карнізнай цягаю на 2 ярусы. Пілястры ніжняга яруса апрацаваны рустам. Вокны 1-га паверха размешчаны ў арачных нішах, вокны 2-га абрамлены простымі ліштвамі. Планіроўка галерэйная. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, аднатыпныя ячэйкі памяшканняў — крыжовымі скляпеннямі. На 1-м паверсе паўднёвага крыла знаходзілася кузня і трапезная. Цяпер у будынку размешчана бальніца.

Кляштарны комплекс — помнік архітэктуры барока. *У. В. Алісейчык.*

**1417. МАГІЛА КАРПІНСКАГА** Францішка (гіст.). У цэнтры вёскі, каля касцёла.

Польскі паэт і драматург Ф. Карпінскі нарадзіўся ў 1741 г. ў в. Галаскоў (цяпер Івана-Франкоўскай вобл. УССР). Вучыўся ў калегіуме ў Станіславе (Івана-Франкоўск) і Львоўскай езуіцкай акадэміі. Атрымаў ступень доктара філасофіі і свабодных навук. З 1780 г. жыў у Варшаве. З 1793 г. арандаваў фальварак Краснік (Карпін) у Пружанскім павеце, дзе замяніў паншчыну на чынш (грашовая рэнта). У 1819 г. пабыў фальварак Хораўшчыну каля в. Лыскава, адкрыў там народную школу. Сваю бібліятэку падарыў Свіслацкай гімназіі. Ф. Карпінскі — пачынальнік паэзіі польскага сентыменталізму. Найбольшага поспеху дасягнуў у жанрах ідыліі і элегіі. У некаторых творах («Да Станіслава Малахоўскага», «Чынш») заклікаў палепшыць долю прыгонных сялян. Зрабіў уплыў на творчасць беларускага паэта і драматурга В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Памёр 16.9.1825 г. ў Хораўшчыне.

У 1827 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Краткая литературная энциклопедия. Т. 3.— М., 1966; Kostkiewiczowa T. Model liryki sentymentalnej w twórczości Franciszka Karpińskiego.— Wrocław etc., 1964. *А. І. Мальдзіс.*

**1418. РЭШТКІ КАРАЛЕЎСКАГА ЗАМКА** (гіст.). За 0,5 км ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, каля дарогі на в. Майсеевічы, на балоцістым правым беразе невялікай рэчкі Шчыбы (Мухі) знаходзяцца рэшткі замка 15—17 стагоддзяў, земляныя ўмацаванні якога і цяпер уражваюць сваёй магутнасцю.

Па перыметры квадратнага ў плане (68×68 м) замчышча — насыпныя валы. Заходні вал, які параўнальна добра захаваўся, узвышаецца над пляцоўкай замка на 2,5—3 м, каля падножжа мае шырыню 10 м, на яго вяршыні — пляцоўка шырынёю каля 2 м, пасярэдзіне — уезд у замак. Прыкладна такія ж параметры і паўднёвага вала. Ад усходняга вала асталіся ўчасткі вышынёй да 2 м. На вуглах замчышча стаялі круглыя драўляныя вежы дыяметрам каля 8 м (не зберагліся). Замак быў абкружаны ровам, які захаваўся з заходняга і паўднёвага бакоў (шырыня 10 м, глыбіня 4,5 м). За ровам знаходзяцца рэшткі другога вала вышынёй 1—1,5 м і шырынёй да 4 м (захаваўся з захаду і поўдня). Яшчэ адзін дугападобны вал (вышыня да 5 м, шырыня каля падножжа да 11 м, у цэнтры — сляды ўезду) і роў (глыбіня да 5 м, шырыня 10—12 м) знаходзіліся на адлегласці каля 90 м ад замчышча і абкружалі замак з поўначы, захаду і поўдня. Дуга ўмацавання замыкалася з усходу балоцістымі берагамі ракі.

Даследавалі ў 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1970 г. М. А. Ткачоў. Выяўлены культурны пласт да 40 см. Знойдзены дробныя фрагменты паліванай кафлі, кераміка 15—17 стагоддзяў, кавалкі баразнаватай цэглы з ваппай і гліняная абмазка. На перадзамчышчы захаваліся сляды паселішча. Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

Рэшткі замка — помнік абарончага дойлідства.

*Літ.:* Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии.— У кн.: Труды девятого археологического съезда в Вильне. 1893. М., 1895, т. 1; Ткачоў М. А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст.— Мн., 1978. *М. А. Ткачоў.*

**1418.** *План умацавання каралеўскага замка.*

**1419. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі.

Пабудавана ў 1930 г. з дрэва. Крыжападобны ў плане будынак. Над сяродкрыжжам на чацверыку ўзвышаецца масіўны васьмігранны барабан з купалам, увянчаным галоўкай. Алтарны зруб накрыты вальмавым дахам. Зруб бабінца завершаны двух'яруснай званіцай з купалам. Дахі над бакавымі алтарамі і рызніцамі ўтвараюць своеасаблівую кампазіцыю.

У архітэктуры царквы адчуваецца ўплыў традыцый народнага драўлянага дойлідства.

**в. Магілёўцы,**
**Зеляневіцкі сельсавет**

**1420. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На могілках. 8 насыпаў. Вы-



**1419.** *Царква Раства багародзіцы. План.*



**1419.** *Царква Раства багародзіцы. Фрагмент.*



1429. *Абеліск з нагоды 150-годдзя бою каля в. Паддубна.*

шыня 0,5—1 м, дыяметр 7—11 м. У плане круглыя. Выявіў у 1968 г. В. Р. Супрун, абследаваў у 1970 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**1421. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Малочкі, Ружанскі сельсавет**

**1422. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 287 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Манчыкі, Ружанскі сельсавет**

**1423. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 мірных жыхароў вёскі, якіх забілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мокрае, цэнтр сельсавета**

**1424. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, насупраць сярэдняй школы. Пахаваны 35 воінаў і 11 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (воін і жанчына).

**1425. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з цэглы. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**1426. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1965 г.

**в. Мурава, Сухопальскі сельсавет**

**1427. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На будынку Дома культуры. На ўшанаванне памяці 32 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

**в. Нямковічы, Мокраўскі сельсавет**

**1428. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 58 жыхароў вёсак Нямковічы і Пасталова, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі 17.7.1942 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паддубна,**
**Гарадзечанскі сельсавет**

**1429. МЕСЦА БОЮ 1812 г.** (Гарадзечанская бітва; гіст.). Ва ўрочышчы Высокая Гара, за 2 км на поўдзень ад вёскі.

У Айчынную вайну войскі 3-й рускай арміі (каля 18 тыс. чалавек) пад камандаваннем генерала А. П. Тармасава 31.7.1812 г. вялі бой з аўстрыйскім корпусам К. Шварцэнберга і саксонскім корпусам Ж. Л. Рэнье (каля 40 тыс. чалавек). У гэтым баі вораг страціў 6 тыс. салдат і афіцэраў.

На месцы бітвы пабудавана мураваная капліца (закладзена ў 1912 г.). На яе сценах былі высечаны найменні вайсковых часцей, якія ўдзельнічалі ў бітве, і імёны загінуўшых воінаў. Афіцыйнае адкрыццё помніка не адбылося ў сувязі з пачаткам 1-й сусветнай вайны. У 1915 г. каля капліцы хавалі загінуўшых рускіх салдат. У Вялікую Айчынную вайну капліца была разбурана, захаваўся шасціграны цокаль. На яго фасадзе — металічная пліта з памятным надпісам.

У 1962 г. з нагоды 150-годдзя бітвы на 22-м км шашы Пружаны — Высокае, каля павароту на в. Паддубна, пастаўлена сяміметровая стэла.

*Літ.:* Война русского народа с Наполеоном 1812 г.— СПб., 1910; Михайловский-Данилевский В. А. Описание Отечественной войны 1812 года. Ч. 1—2.— СПб., 1839—43; Отечественная война и русское общество. 1812—1912. Т. 3.— М., 1912. *А. М. Мартынаў.*

**1430. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля клуба. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Папялёва, Сухопальскі сельсавет**

**1431. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 138 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1432. ПОМНІК КАЖЭЎНІКАВУ** Рыгору Нікіфаравічу (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі. Чырвонаармеец Р. Н. Кажэўнікаў загінуў 28.6.1941 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На месцы гібелі ў 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Парасляны, Пружанскі сельсавет**

**1433. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 61 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паўлава, цэнтр сельсавета**

**1434. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 310 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Плябанцы, Пружанскі сельсавет**

**1435. ПОМНІК САВЕЦКІМ ТАНКІСТАМ** (гіст.). У заходняй частцы вёскі.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны войскі Чырвонай Арміі аказалі ўпартае супраціўленне нямецка-фашысцкім захопнікам у раёне г. Пружаны. Тут з 23 да 25.6.1941 г. жорсткія абарончыя баі вяла 30-я танкавая дывізія (камандзір палкоўнік С. І. Багданаў). Нягледзячы на вялікую перавагу праціўніка ў жывой сіле і тэхніцы, воіны дывізіі стрымлівалі націск гітлераўцаў, адбілі шэраг атак ворага і нанеслі яму страты.

У 1977 г. ў гонар баявых подзвігаў танкістаў 30-й танкавай дывізіі ўстаноўлены абеліск.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

**в. Роўбіцк, цэнтр сельсавета**

**1436. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Пахаваны 45 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск, побач — пліты з імёнамі 73 землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг.

**1437. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БРЫТУНУ** Андрэю Емяльянавічу **І ШЧЭРБЕ** Івану Сцяпанавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, на будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці першых старшыні і сакратара Роўбіцкага сельсавета А. Е. Брытуна і І. С. Шчэрбы, расстраляных у жніўні 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**1438. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КЛІМЦУ** Паўлу Антонавічу (гіст.).

На будынку праўлення калгаса «Шлях Леніна». Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці арганізатара і першага старшыні калгаса П. А. Клімца, які трагічна загінуў у 1953 г.

1439. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Руднікі, Мокраўскі сельсавет**

1440. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У заходняй частцы вёскі. Пахаваны 168 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

1441. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля скрыжавання дарог Руднікі — Замошша і Селішчы — Навадворцы. Каля 50 насыпаў. Вышыня 0,6—1,3 м, дыяметр 6—11 м. Выявіў і абследаваў у 1968 г. В. Р. Супрун. Раскопкі не праводзіліся.

## XX. РУЖАНЫ

Гарадскі пасёлак у Пружанскім р-не, на р. Ружанка. За 45 км на паўночны ўсход ад Пружан, 140 км ад Брэста, 38 км ад чыгуначнай станцыі Івацэвічы, на скрыжаванні аўтамабільных дарог Брэст — Слонім і Ваўкавыск — Косава.

Першае пісьмовае ўпамінанне аб Ружанах (Ражанах) адносіцца да 1552 г. Мястэчка належала Тышкевічам, з 1598 г.— Сапегам. Уваходзіла ў Слонімскі павет Вялікага княства Літоўскага. У 1637 г. Ружаны атрымалі магдэбургскае права. Кампазіцыйныя цэнтры пасёлка — замак і плошча — аб'ядноўваліся галоўнай вуліцай. У 17 ст. ў Ружанах больш за 400 дамоў, плітачны і цагельны заводы, базыльянская школа, 2 манастыры, царква, касцёл. У 18 ст. створаны палацавы ансамбль, адкрыты прыгонны тэатр, працавалі паперня, суконныя і палатняныя мануфактуры, выраблялiся дываны, мастацкія паясы і інш.

З 1795 г. Ружаны ў складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Слонімскага павета і губерні, з 1797 г.— Літоўскай, з 1801 г.— Гродзенскай губерняў. У 1831 г. за ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830—31 гг. канфіскаваны і перададзены ў казну. Каля Ружан у 1863 г. адбыўся бой паўстанцаў з царскімі войскамі. У 19 ст. ў мястэчку 2 гарбарныя заводы, палатняная і 3 суконныя фабрыкі. Паводле перапісу 1897 г. было 5016 жыхароў, 769 будынкаў, 5 дробных прадпрыемстваў (у т. л. 2 вадзяныя млыны), народнае вучылішча, прыёмны пакой. У 1914 г.— 6815 жыхароў, 26 дробных прадпрыемстваў (341 рабочы). У час Рэвалюцыі 1905—07 гг. баставалі рабочыя суконнай фабрыкі. У 1-ю сусветную вайну з 1915 г. Ружаны акупіраваны нямецкімі, у 1919—20 гг.— польскімі войскамі. У ліпені 1920 г. ўстаноўлена Савецкая ўлада. У 1921—39 гг. у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Косаўскага павета Палескага ваяводства. Дзейнічаў Ружанскі райком КПЗБ. У 1926 г. баставалі рабочыя.

Пасля ўз'яднання ў 1939 г. Заходняй Беларусі з БССР Ружаны з 15.1. 1940 г. гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 23.6.1941 г. былі акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі; дзейнічалі падпольны антыфашысцкі камітэт, на тэрыторыі раёна — Пружанскі падпольны райком КП(б)Б, з 1.8.1943 г. да 15.7.1944 г. Ружанскі падпольны райком ЛКСМБ. 13.7.1944 г. Ружаны вызвалены войскамі 28-й арміі 1-га Беларускага фронту. З 1962 г.— у Пружанскім р-не.

Гістарычная структура пасёлка стала асновай яго сучаснай планіроўкі і забудовы. У Ружанах 2 планіровачныя раёны, падзеленыя поймай ракі і звязаныя паміж сабою вул. Савецкай — асноўнай кампазіцыйнай воссю пасёлка. Генеральны план распрацаваны ў 1974 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Адміністрацыйна-гандлёвы цэнтр знаходзіцца на месцы былой рыначнай плошчы (цяпер пл. 17 Верасня), дзе сыходзяцца вуліцы Леніна, Савецкая і Чырвонаармейская. Зберагліся помнікі архітэктуры 17—19 стагоддзяў — Троіцкі касцёл і Петрапаўлаўская



XX. *Дом культуры.*

царква. Значную ролю ў фарміраванні сілуэта і сучаснага аблічча Ружан адыгрывае палацавы комплекс 16—18 стагоддзяў. Забудова вуліц Леніна, Савецкай, Чырвонаармейскай мураваная, у асноўным 2- і 3-павярховая. Па вул. Чырвонаармейскай сфарміраваны комплекс пяціпавярховых жылых дамоў.

Прамысловая зона развіваецца ў заходнім напрамку. Дзейнічаюць мэблевая фабрыка, майстэрні бытавога абслугоўвання, цэх бялілаў і фарбаў Пружанскага камбіната будаўнічых матэрыялаў, вытворча-харчовы камбінат, хімлесаўчастак.

У Ружанах працуюць сярэдняя і музычная школы, 2 дашкольныя ўстановы, Дом культуры, Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, 2 бальніцы. Помнікі: У. І. Леніну; І. П. Урбановічу; на брацкай магіле савецкіх воінаў



XX. *Вуліца Савецкая.*



1443. *Курган Славы.*

і партызана, што загінулі ў 1941—44 гг.; Курган Славы на магіле воінаў, якія загінулі ў баях у чэрвені 1941 г.; помнік-танк.

Зона адпачынку — вадасховішча Паперня на паўночным захадзе пасёлка з прылеглымі ляснымі масівамі.

*Літ.:* Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 2.— СПб., 1863; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 3.— Warszawa, 1846; Lorentz S. Wycieczki Słonimskie: Krótki przewodnik krajoznawczy po Słonimie oraz Albertynie, Byteniu, Dereczynie, Mereczowszczyźnie, Różanie, Synkowiczach, Zdzięciole i Żyrowicach.— Słonim, 1933.

*А. С. Барысавец, Т. А. Слесарук, А. А. Міцянін.*



1444. *Манастыр базыльян. Петрапаўлаўская царква.*

**1442. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На пл. 17 Верасня, у скверы. Пахаваны 189 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг.

У 1-й палавіне ліпеня 1944 г. войскі 1-га Беларускага фронту, пераадольваючы ўпартае супраціўленне ворага, падышлі да г. п. Ружаны. Часці 9-га гвардзейскага Бабруйскага Чырванасцяжнага танкавага корпуса (камандзір генерал-маёр Б. С. Бахараў) і конна-механізаваная група (генерал-лейтэнант І. А. Пліеў) прарвалі варожую абарону і 13.7.1944 г. вызвалілі Ружаны.

У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Буг в огне: [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

**1443. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад гарадскога пасёлка, каля шашы на Ваўкавыск.

На подступах да Ружан у чэрвені 1941 г. ў жорсткіх абарончых баях савецкія воіны нанеслі значныя страты нямецка-фашысцкім захопнікам. Тут змагаліся 22-я (генерал-маёр В. П. Пуганаў) і 25-я (палкоўнік Н. М. Нікіфараў) танкавыя дывізіі. Да 30 чэрвеня воіны стрымлівалі націск гітлераўцаў, знішчылі некалькі дзесяткаў варожых танкаў. Астанкі загінуўшых 127 савецкіх воінаў былі перазахаваны ў брацкай магіле.

У 1967 г. на магіле насыпаны Курган Славы (вышыня 6,5 м). Побач на жалезабетонным пастаменце ўстаноўлены танк Т-34. Вяршыню Кургана вянчае пяціканцовая зорка. На пастаменце і на схіле насыпу ўмураваны мемарыяльныя дошкі з памятнымі надпісамі і імёнамі (вядомымі) пахаваных. На схіле Кургана — урна з тэкстам клятвы сучаснікаў на вернасць служэння Радзіме.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*М. П. Клімец.*

**1444. МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН** (архіт., маст.). На пл. 17 Верасня. Уключае Петрапаўлаўскую царкву і жылы корпус.

Петрапаўлаўская царква выходзіць галоўным усходнім фасадам на плошчу. Пабудавана як уніяцкая ў 1675 г. з цэглы. У 1784—88 гг. перабудавана (арх. Я. С. Бекер). Будынак аднанефавы, аднавежавы, з вялікай паўкруглай апсідай, накрыты невысокім двухсхільным дахам, які над апсідай пераходзіць у конусападобны і завершаны галоўкай. У месцы злучэння нефа з апсідай па баках сіметрычна размешчаны 2 квадратныя ў плане невысокія рызніцы, накрытыя трохсхільнымі дахамі. Галоўны фасад з рызалітам у цэнтры завершаны развітым антаблементам і двух'ярусным атыкам з трохвугольным франтонам у ніжнім ярусе. Другі ярус атыка з'яўляецца асновай для плоскай чацверыковай вежы-званіцы, накрытай крыжападобным дахам з 4 франтончыкамі і галоўкай у цэнтры. Галоўны фасад аздоблены слаістымі пілястрамі, прафіляванымі цягамі, нішамі і філёнгамі. Сцены бакавых фасадаў раскра-



1444. *Петрапаўлаўская царква. Апсіда.*



**1444.** *Петрапаўлаўская царква. План.*



**1444.** *Петрапаўлаўская царква. Падоўжны разрэз.*

паваны пілястрамі і завершаны развітым карнізам. Аконныя і дзвярныя праёмы з паўцыркульным арачным завяршэннем маюць прафіляваныя абрамленні. У рызаліце галоўнага фасада размешчаны лесвіцы, якія вядуць на хоры і ў вежу-званіцу. Інтэр'ер зальны з люстэркавым скляпеннем. На столі галоўнага аб'ёму і апсіды — размалёўка на тэму «Праабражэнне» (пашкоджана пажарам у 1895 г., адноўлена ў пачатку 20 ст.). У концы апсіды размешчана кампазіцыя «Бог Саваоф». На паўночнай і паўднёвай сценах (каля іканастаса) у медальёнах выявы Пятра і Паўла. Жывапіс вызначаецца сухаватай акадэмічнай манерай. У агульнай каларыстычнай гаме, нягледзячы на багацце сініх таноў, пераважаюць прыглушаныя цёплыя адценні (карычнева-чырвоныя, вохрыстыя).



**1444.** *Будынак жылога корпуса манастыра базыльян. План 1-га і 2-га паверхаў.*

Ж ы л ы  к о р п у с  пабудаваны ў 1784—88 гг. з цэглы (арх. Я. С. Бекер) з паўднёвага боку царквы. Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы, з вальмавым дахам. Галоўны ўсходні фасад сіметрычны, кампазіцыя трохчасткавая. Цэнтральная частка вылучана невялікім рызалітам, бакавыя падзелены пілястрамі, паміж якімі размешчаны вокны з філёнгамі. Рызаліт і вуглы будынка апрацаваны падвоенымі пілястрамі. Цэнтральны дзвярны праём — арачны паўцыркульны, аконныя — прамавугольныя, дэкарыраваныя трохвугольнымі і паўкруглымі сандрыкамі на 1-м паверсе. Дваровы і бакавыя фасады без архітэктурнага ўбрання. Будынак мае канструкцыйную схему з 3 падоўжна-несучымі сценамі. Упоперак корпуса размешчаны скразны праход з лесвіцай. Планіроўка 1-га паверха анфіладная, 2-га — калідорная. 1-ы паверх перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, перакрыцце 2-га паверха плоскае. Цяпер тут размяшчаецца паліклініка.

Манастыр — помнік архітэктуры барока.

*Літ.:* Б о б р о в с к и й  П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния. Ч. 2.— СПб., 1863; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; L o r e n t z  S. Wycieczki Słonimskie: Krótki przewodnik krajoznawczy po Słonimie oraz Albertynie, Byteniu, Dereczynie, Mereczowszczyźnie, Różanie, Synkowiczach, Zdzięciole i Żyrowicach.— Słonim, 1933.

*У. В. Алісейчык, В. В. Церашчатава.*



**1444.** *Петрапаўлаўская царква. Інтэр'ер. Размалёўка алтара.*

**1445. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА УРБАНОВІЧУ** Іосіфу Паўлавічу (гіст.). Вул. 17 Верасня, на будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1967 г. па ўшанаванне памяці ўдзельніка рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага надполля і партызанскага руху ў Брэсцкай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну І. П. Ур-



**1444.** *Будынак жылога корпуса манастыра базыльян.*




1446. *Палацавы комплекс. Схема планіроўкі: 1 — галоўны корпус; 2 — усходні корпус (тэатр); 3 — аркады; 4 — уязная брама з флігелямі.*



1446. *Руіны галоўнага корпуса палаца.*

бановіча, які працаваў тут старшынёй Ружанскага пасялковага Савета ў 1939—41 гг. Гл. артыкул № 1448 «Помнік Урбановічу Іосіфу Паўлавічу».

**1446. ПАЛАЦАВЫ КОМПЛЕКС** (архіт.). На высокім узгорку ў паўднёва-ўсходняй частцы гарадскога пасёлка. У 16 ст. пабудаваны двухпавярховы крыжападобны ў плане мураваны палац з 3 вежамі. Дзве з іх былі квадратныя ў плане: пры ўваходзе з боку галоўнага паўднёвага фасада і на тарцы левага заходняга крыла. На паўночна-ўсходнім вуглу будынка размяшчалася пяціграниая вежа. У цэнтральнай частцы палаца, якая выступае на падоўжных фасадах глыбокімі рызалітамі, знаходзіліся парадныя залы і вестыбюль з чатырохмаршавай лесвіцай, у бакавых частках — жылыя пакоі, кабінеты, архіў, бібліятэка. Унутраная планіроўка анфіладная. Памяшканні на 1-м паверсе мелі скляпеністыя, на 2-м — бэлечныя перакрыцці. Пад будынкам вялізныя двухпавярховыя скляпеністыя падвалы.

Палац быў значна разбураны войскамі канфедэратаў у 1698 г. і ў час Паўночнай вайны 1700—21 гг., аднаўляўся ў 1-й палавіне 18 ст., у 1784—86 гг. перабудаваны (арх. Я. С. Бекер). Вежы на галоўным фасадзе і вуглавая былі разабраны, а тарцовая забудавана, у выніку палац стаў сіметрычны ў плане. Да галоўнага фасада прыбудавалі накладны порцік з падвойнымі калонамі і пілястрамі, завершаны высокім трохвугольным франтонам са скульптурай.

Адначасова створаны палацавы комплекс з некалькіх згрупаваных вакол параднага двара карпусоў, з паркам, садамі і аранжарэяй. Сіметрычныя ўсходні і заходні карпусы, размешчаныя перпендыкулярна палацу, злучаліся з ім паўцыркульнымі ў



1446. *Руіны палацавага комплексу.*



**1446.** *Руіны ўсходняга корпуса палацавага комплексу.*

плане аркадамі. Ва ўсходнім корпусе быў тэатр, у заходнім (не збярогся) — карцінная галерэя. Паралельна палацу па восі сіметрыі вялікага параднага двара размешчана ўязная брама, якая злучае 2 двухпавярховыя жылыя флігелі. Брама вырашана накшталт трохпралётнай трыумфальнай аркі, упрыгожана разнымі геральдычнымі картушамі з моранага дубу. У аздабленні фасадаў будынкаў палацавага комплексу выкарыстаны руставаныя пілястры, ляпныя гірлянды, скульптуры, разнастайныя абрамленні акон.

Дварцовы комплекс пашкоджаны ў 1914 г., часткова рэстаўрыраваны ў 1930 г., у 1944 г. разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Захаваліся аспоўныя пабудовы (галоўны і ўсходні карпусы, аркады, уязная брама і флігелі), фрагменты аздобы інтэр'ераў і канструкцый перакрыццяў.



**1446.** *Галоўны корпус палаца. План 1-г паверха.*

Комплекс — адзін з буйнейшых помнікаў палацавай архітэктуры Беларусі 16—18 стагоддзяў, у якім спалучаюцца рысы позняга барока і класіцызму.

*Літ.:* Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; Ходыко Т. В. Дворцовый комплекс в Ружанах.— Строительство и архитектура Белоруссии, 1974, № 3; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Baliński M., Lipiński T. Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym. T. 4.— Warszawa, 1886; Lorentz S. Wycieczki Słonimskie: Krótki przewodnik krajoznawczy po Słonimie oraz Albertynie, Byteniu, Dereczynie, Mereczowszczyźnie, Różanie, Synkowiczach, Zdzięciole i Żyrowicach.— Słonim, 1933.

*Т. В. Габрусь.*

**1447. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. 17 Верасня, у цэнтры пасёлка. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**1448. ПОМНІК УРБАНОВІЧУ** Іосіфу Паўлавічу (гіст.). На вул. Савецкай, у скверы.

Актыўны ўдзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Брэсцкай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну І. П. Урбановіч нарадзіўся 21.3. 1907 г. ў в. Шэйпічы Пружанскага р-на. Член КПСС з 1928 г. З 1930 г. сакратар Баранавіцкага, потым Брэсцкага акруговых камітэтаў КПЗБ. У 1931 г. асуджаны польскімі буржуазнымі ўладамі на 6 гадоў турмы. У 1934 г. выпушчаны пад залог.



**1447.** *Помнік У. І. Леніну.*

У 1939—41 гг. працаваў старшынёй Ружанскага пасялковага Савета. У жніўні 1941 г. па рашэнню ЦК КП(б)Б І. П. Урбановіч накіраваны праз лінію фронту ў Ружанскі р-н для арганізацыі партызанскага руху.



**1446.** *Палацавы комплекс. Уязная брама і жылыя флігелі.*



**1446.** *Палацавы комплекс. Фрагмент аркады.*



**1448.** *Помнік І. П. Урбановічу.*

Быў сакратаром Ружанскага раённага падпольнага антыфашысцкага камітэта, з 1942 г. сакратар міжраённага Камітэта барацьбы з нямецкімі акупантамі, які ў 1943 г. рэарганізаваны ў Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт. У чэрвені — ліпені 1943 г. камандзір партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі Брэсцкай вобл. Загінуў 10.7.1944 г. Пахаваны на партызанскіх могілках ва ўрочышчы Гута-Міхалін, за 13 км на поўдзень ад в. Верашкі Івацэвіцкага р-на.

У 1960 г. на ўшанаванне яго памяці ўстаноўлены помнік — паплечны бюст (скульпт. А. Сурскі; бетон, мармуровая крошка; вышыня бюста 0,9 м, пастамента 2 м).

*У. С. Пасэ, А. А. Фактаровіч.*

**1449. СІНАГОГА** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы. Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане. Фасады дэкарыраваны прафіляванымі лапаткамі. Помнік культавай архітэктуры, у якім выкарыстаны формы класіцызму.

**1450. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). На пл. 17 Верасня. Мураваны храм закладзены ў 1615 г. (на месцы старога драўлянага). У 1768 г. прыбудавана капліца св. Крыжа, у 1787 г.— капліца св. Варвары і зроблены купал над апсідай (арх. Я. С. Бекер). Рэканструкцыя 1850 г. надала архітэктурнаму дэкору касцёла рысы класіцызму. Касцёл адноўлены пасля пажару 1891 г.

Будынак аднанефавы, аднавежавы, з паўцыркульнай апсідай прэсбітэрыя. Да прамавугольнага ў плане нефа з бакоў сіметрычна прылягаюць невысокія капліцы, да апсіды — такія ж па вышыні сакрысціі. Пры ўваходзе размешчана чатырох'ярусная (3 васьмерыкі на чацверыку) вежа-званіца, накрытая высокім гранёным шатром. Ярусы падзелены прафіляванымі карнізамі, аздоблены плоскімі нішамі і



**1450.** *Троіцкі касцёл.*

скразнымі арачнымі праёмамі. Сцены бакавых фасадаў рытмічна падзелены контрфорсамі, паміж якімі прарэзаны аконныя праёмы з арачным завяршэннем і люнеты. Знадворку ў пішы сцяны апсіды скульптура св. Дамініка. Неф касцёла перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Скляпенне прэсбітэрыя ўмацавана падпружнымі аркамі. Капліцы і сакрысціі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам у заходняй частцы будынка размешчаны хоры на драўляных крыжападобных у плане слупах з разнымі фігурнымі кранштэйнамі.

Памяшканні багата ўпрыгожаны архітэктурнай пластыкай, скульптурай і жывапісам. Амбон, скляпенні і падпружныя аркі аздоблены ляпным стукавым арнаментам расліннага характару. Прастору прэсбітэрыя замыкае чатырохкалонны галоўны алтар з раскрапаваным лучковым франтонам, які ўпрыгожваюць скульптуры анёлаў, ляпны арнамент і герб Сапегаў. Абапал калон размешчаны драўляныя паліхромныя скульптуры св. Пятра і Паўла. Прэсбітэрый ад нефа аддзяляе кавапая агароджа 18 ст., кампазіцыя якой складаецца з акантавых завіткоў, валют, кветак і манаграмы фундатара касцёла. Адпаведна алтарнай частцы выращаны ўваходы ў бакавыя памяшканні і капліцы. Стукавая і драўляная скульптура галоўнага алтара і бакавых капліц работы скульптара І. Прукнера.

У архітэктуры помніка выкарыстаны элементы ранняга барока, у аздобе інтэр'ераў — позняга барока. У выніку шматлікіх перабудоў помнік набыў некаторыя рысы класіцызму.

*В. В. Церашчатава, М. М. Яніцкая.*

**в. Сасноўка, Гарадзечанскі сельсавет**

**1451. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Сілічы, Мокраўскі сельсавет**

**1452. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 45 мірных жыхароў, расстраляных 17.7.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Вёска (56 двароў) была спалена. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Слабудка, Пружанскі сельсавет**

**1453. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 180 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 і 1944 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1454. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Пахавана больш за 3000 савецкіх ваеннапалонных, падпольшчыкаў і мірных жыхароў, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сланімцы, Пружанскі сельсавет**

**1455. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 53 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Смаляніца, Хараўскі сельсавет**

**1456. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 70 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1457. ПОМНІК У ГОНАР БРЭСЦКАГА АБЛАСНОГА АНТЫФАШЫСЦКАГА КАМІТЭТА, ПРУЖАНСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б і ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ ІМЯ П. К. ПАНАМАРЭНКІ** (гіст.). За 5 км на ўсход ад вёскі, каля шашы Пружаны — Ружаны. У гады Вялікай Айчыннай вайны ў Ружанскай пушчы размяшчаліся Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт, Пружанскі падпольны райком КП(б)Б і штаб брыгады імя П. К. Панамарэнкі.



**1450.** *Троіцкі касцёл. Алтар бакавой капліцы.*



**1450.** *Троіцкі касцёл. План.*



**1450.** *Троіцкі касцёл. Хоры.*



**1450.** *Троіцкі касцёл. Галоўны алтар.*



**1450.** *Троіцкі касцёл. Фрагмент інтэр'ера. Каваная агароджа.*

У красавіку 1942 г. на парадзе кіраўнікоў антыфашысцкіх арганізацый і груп Брэсцкай вобл. быў створаны Камітэт барацьбы з нямецкімі акупантамі, які ўзначаліў антыфашысцкі рух на тэрыторыі паўночных і цэнтральных раёнаў Брэсцкай вобл., а таксама суседніх раёнаў Баранавіцкай і Беластоцкай абласцей. Паводле рашэння ЦК КП(б)Б у ліпені 1943 г. Камітэт барацьбы рэарганізаваны ў Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт. Раённыя антыфашысцкія арганізацыі Баранавіцкай і Беластоцкай абласцей былі перададзены ў падпарадкаванне падпольных міжрайкомаў і райкомаў КП(б)Б. Брэсцкі абласны антыфашысцкі камітэт дзейнічаў пад кіраўніцтвам Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б. У ліпені 1944 г. аб'ядноўваў 11 раённых арганізацый, 422 ячэйкі, 1893 падпольшчыкі. На чале яго стаялі І. П. Урбановіч, М. Е. Крыштафовіч, І. І. Жышка, Я. М. Афанасьеў і інш. Камітэт ствараў антыфашысцкія арганізацыі і групы, кіраваў іх баявой дзейнасцю, праводзіў масава-палітычную работу па мабілізацыі працоўных на барацьбу з акупантамі. У ліпені 1942 г. пачала працаваць друкарня камітэта, якая выпускала адозвы, звароты, зводкі Саўінфармбюро і іншыя матэрыялы на беларускай, рускай, польскай і нямецкай мовах, са снежня 1943 г.— газету «За Родину». Пад кіраўніцтвам камітэта былі створаны і дзейнічалі партызанскія атрады (да кастрычніка 1942 г. створаны 7 атрадаў, 1500 чалавек), на базе якіх летам 1943 г. арганізаваны брыгады імя П. К. Панамарэнкі і «Савецкая Беларусь».

Пружанскі падпольны райком КП(б)Б створаны 23.11.1943 г., працаваў да 11.7.1944 г. Яго дзейнасцю кіраваў Брэсцкі падпольны абком КП(б)Б. Сакратаром Пружанскага райкома КП(б)Б быў дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі С. П. Пацяруха. Райком узначальваў камуністычнае падполле ў раёне, кіраваў партызанскім рухам, вёў палітычную і арганізатарскую работу сярод насельніцтва. Падпольшчыкі праводзілі дыверсіі на камунікацыях ворага, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, харчы, медыкаменты, вялі разведку, распаўсюджвалі сярод насельніцтва антыфашысцкую літаратуру.

Партызанская брыгада імя П. К. Панамарэнкі Брэсцкай вобл. створана ў чэрвені 1943 г. Дзейнічала на тэрыторыі Бярозаўскага, Косаўскага, Пружанскага, Ружанскага р-наў Брэсцкай і Слонімскага р-на Баранавіцкай абласцей. Камандзіры брыгады І. П. Урбановіч (чэрвень — ліпень 1943 г.), М. У. Сенькін (ліпень 1943 г.— ліпень 1944 г.), камісары С. П. Пацяруха (чэрвень — ліпень 1943 г.), К. Д. Талочка (верасень — лістапад 1943 г.; загінуў), М. Е. Крыштафовіч (лістапад 1943 г.— ліпень 1944 г.). Партызаны праводзілі дыверсіі на чыгуначных і шашэйных дарогах, разбуралі варожыя ўмацаванні, вялі засадныя баі з праціўнікам, знішчалі яго жывую сілу і тэхніку. У лютым 1944 г. разбілі гарнізон у в. Баравікі Слонімскага р-на. 11.7.1944 г. брыгада злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. На дзень злучэння налічвала 4 атрады (1537 партызан).

У памяць аб дзейнасці Брэсцкага абласнога антыфашысцкага камітэта, Пружанскага падпольнага райкома КП(б)Б і партызанскай брыгады імя П. К. Панамарэнкі ў 1975 г. пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Бут в огне.— [Зб. успамінаў].— 3 изд.— Мн., 1977.

*Г. І. Дулеба, А. А. Фактаровіч.*

**1458. ПОМНІК ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза (1960 г.) В. З. Харужай, якая ў жніўні 1924 г. выступала на мітынгу ў в. Смаляніца, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**1459. ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з цэглы. У яе трохчасткавай аб'ёмнай кампазіцыі дамінуюць шатровая званіца і цыбулепадобны шлем на гранёным барабане. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Смаляны, цэнтр сельсавета**

**1460. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 42 воіны, у т. л. 3 лётчыкі 69-га бамбардзіровачнага авіяпалка, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, і 18 мірных жыхароў, расстраляных гітлераўцамі ў 1944 г.

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Стараволя, цэнтр сельсавета**

**1461. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 35 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск, які ўшаноўвае таксама памяць 103 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**1462. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВАЗНІШЧЫКУ** Мікалаю Васілевічу (гіст.). На будынку клуба. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці старшыні выканкома Старавольскага сельсавета М. В. Вазнішчыка, забітага ворагамі Савецкай улады 27.3.1947 г.

**1463. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Сухопаль, цэнтр сельсавета**

**1464. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 воін і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**1465. КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы. Мае трохчасткавую кампазіцыю з шатровай вежай-званіцай і шлемападобным купалам над асноўным аб'ёмам. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**в. Харава, цэнтр сельсавета**

**1466. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КРЫШТАФОВІЧУ** Васілю Емяльянавічу (гіст.). На будынку праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці першага старшыні калгаса В. Е. Крыштафовіча, якога ў 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**1467. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У гонар воінаў 28-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія вызвалілі в. Харава ў ліпені 1944 г., у 1957 г. ўстаноўлены помнік — скульптура воіна.

**1468. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. На ўшанаванне памяці 236 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Харкі, Гарадзечанскі сельсавет**

**1469. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1970 г.

**хутар Хомна (не існуе), Ліноўскі сельсавет**

**1470. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ХУТАРА** (гіст.). Хутар Хомна знаходзіўся за 3 км на захад ад в. Лінова. У 1943 г. спалены нямецка-фашысцкімі захопнікамі (21 двор). Пасля вайны не адрадзіўся.

**в. Чахец, Шанёўскі сельсавет**

**1471. МЕСЦА МІТЫНГУ СЯЛЯН** (гіст.). Каля будынка школы.

Тут у жніўні 1924 г. адбыўся мітынг сялян вёсак Козі Брод, Лінова, Ляхі, Чахец, Шані і іншых, на якім з прамовай выступіла сакратар ЦК КСМЗБ В. З. Харужая. Яна заклікала сялян да барацьбы супраць памешчыкаў і капіталістаў, непасільных падаткаў, за перадачу зямлі сялянам.

У 1970 г. ў памяць аб мітынгу на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗБ — актыўных удзельнікаў рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.— Мн., 1958.

**в. Шакуны, Шанёўскі сельсавет**

**1472. РАДЗІМА ШЫРМЫ** Рыгора Раманавіча (гіст.).

Беларускі савецкі харавы дырыжор, фалькларыст, грамадскі дзеяч, народны артыст СССР (1955 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1977 г.). Р. Р. Шырма нарадзіўся 8.1.1892 г. З сялян. Член КПСС з 1959 г. Пачатковую адукацыю атрымаў у Пружанах, потым скончыў Седлецкі настаўніцкі інстытут (1918 г.). З 1912 г. настаўнік. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. З 1926 г. выкладчык беларускай гімназіі ў Вільні. На гэты перыяд прыпадае пачатак культурна-асветніцкай і грамадскай дзейнасці Р. Р. Шырмы. Ён выступаў з лекцыямі аб беларускай літаратуры і мастацтве, узначальваў хор беларускай гімназіі, стаў мастацкім кіраўніком універсітэцкага хору, хору Беларускага саюза студэнтаў у Вільні. У 1928—37 гг. сакратар прагрэсіўнай культурна-асветніцкай арганізацыі Таварыства беларускай школы (ТБШ) і рэдактар часопіса «Беларускі летапіс». Быў двойчы зняволены ўладамі буржуазнай Польшчы. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Р. Р. Шырма — арганізатар і мастацкі кіраўнік Беларускага ансамбля песні і танца (з 1940 г.; у 1950 г. ансамбль рэарганізаваны ў Дзяржаўны хор БССР, з 1955 г.— Дзяржаўная харавая капэла БССР, з 1957 г. акадэмічная, з 1978 г. носіць імя Р. Р. Шырмы). Пад кіраўніцтвам Р. Р. Шырмы капэла атрымала шырокае прызнанне ў нашай краіне і за яе межамі як выдатны харавы калектыў з самабытным стылем, дасканалай культурай інтэрпрэтацыі мастацкіх твораў, бездакорнай інтанацыйнай чысцінёй.

На працягу ўсяго жыцця ў аснове творчай дзейнасці Р. Р. Шырмы было збіранне і вывучэнне беларускага музычнага фальклору, мастацкай спадчыны беларускага народа. Ім запісана больш за 2000 песень розных жанраў, апублікаваных у зборніках «Беларускія народныя песні» (в. 1, Вільня, 1929 г.), «Наша песня» (Вільня, 1938 г.), «Дзвесце беларускіх народных песень» (М., 1958 г.), «Беларускія народныя песні» (т. 1—4, Мн., 1959—76 гг.). Запісы Шырмы выяўляюць характэрныя для беларускай народнай песеннай творчасці меладычныя стылі, найбольш тыповыя жанравыя з'явы, лакальныя тыпы напеваў. Многія з гэтых запісаў выкарыстаны беларускімі кампазітарамі. Значную ўвагу аддаваў Шырма харавым апрацоўкам беларускіх песень і іх шырокай папулярызацыі. Ім складзена анталогія «Беларускія народныя песні (для хору)» (т. 1—2, 1971—73 гг.).

Р. Р. Шырма вядомы як публіцыст, музычны і літаратурны крытык (яго артыкулы і выступленні 1929—74 гг. сабраны ў кнізе «Песня — душа народа», 1976 г.). Значны ўклад зрабіў у прапаганду беларускага савецкага мастацтва за межамі рэспублікі. Сакратар праўлення Саюза кампазітараў СССР і старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР (1966—78 гг.), старшыня таварыства «Радзіма». Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1955 г. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР 1966 г. і 1974 г. Памёр 23.3.1978 г., пахаваны на могілках па Маскоўскай шашы ў Мінску. На доме, дзе ён жыў у Мінску, устаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імя прысвоена Ружанскай музычнай школе.

*Літ.:* Нисневич И. Г., Г. Р. Ширма.— 2 изд.— Л., 1971; Журавлёв Д. Н. Союз композиторов БССР: Краткий биобиблиогр. справочник.— Мн., 1978.

*Т. А. Дубкова.*

**в. Шані, цэнтр сельсавета**

**1473. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДЫБЕ** Івану Міхайлавічу (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці першага старшыні Шанёўскага сельсавета І. М. Дыбы, якога ў 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**1474. ПОМНІК БАХАРАВУ** Барысу Сяргеевічу (гіст.). За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля шашы Пружаны — Брэст.

Удзельнік баёў на Беларусі ў Вялікую Айчынную вайну Б. С. Бахараў нарадзіўся 19.9.1902 г. ў г. п. Дзямянск Ноўгарадскай вобл. Член КПСС з 1924 г. Скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе (1932 г.). Генерал-маёр танкавых войск (1942 г.). На чале 9-га танкавага корпуса вызначыўся ў баях за Беларусь. Загінуў 16.7.1944 г. ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопні-



1479. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

каў каля в. Шакуны. Пахаваны ў Бабруйску.

У 1975 г. на месцы гібелі Б. С. Бахарава пастаўлены абеліск.

**1475. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 200 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**1476. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**1477. РАДЗІМА ЗАСІМА МІКОЛЫ** (гіст.). Беларускі савецкі паэт М. Засім нарадзіўся 6.11.1908 г. Гл. таксама артыкул № 38 «Магіла Засіма Мікалая Арцёмавіча» (г. Брэст).

**г. п. Шарашова**

**1478. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне пасёлка. Пахаваны 18 мірных жыхароў, расстраляных у снежні 1942 г. гітлераўскімі акупантамі, і 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1479. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Леніна, у цэнтры пасёлка. Пахаваны 84 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата. На мемарыяльнай дошцы таксама ўшанавана памяць 28 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**1480. ЗВАНІЦА** (архіт.). На вул. Савецкай, каля цэнтральнай плошчы пасёлка. Пабудавана ў 1799 г. з дрэва каля Прачысценскай царквы (1760 г., не збераглася).

Двух'ярусная квадратная ў плане званіца мае змешаную канструкцыю. Ніжні ярус зрублены з брусоў «у лапу» і аддзелены ад верхняга шырокім гонтавым адлівам. Верхні ярус — каркасны, складаецца з 8 стоек з разной дашчанай агароджай. Зверху стойкі абложаны вянком брусоў. Крываліне́йныя падкосы надаюць праёмам яруса арачны характар. Шатровы гонтавы дах завершаны шасцігранняй вежачкай, дэкарыраванай глухімі арачнымі праёмамі. У сярэдзіне паўночнага і паўднёвага схілаў дах мае невялікія хвалі, якія ўзбагачаюць пластыку збудавання.

Званіца вылучаецца дасканаласцю архітэктурна-мастацкіх і канструкцыйных форм. *У. В. Алісейчык.*

**1481. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГРЫНКЕВІЧУ** Васілю Пятровічу (гіст.). Вул. 8 Сакавіка, 3, на будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1968 г. на ўшанаванне памяці першага старшыні выканкома В. П. Грынкевіча, якога ў жніўні 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі.

**1482. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудавана ў 1872 г. з цэглы. Помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

**1483. ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўднёвай частцы пасёлка, на могілках. Пабудавана ў 1824 г. з дрэва.

Аднагрубны храм з трохграннай алтарнай часткай накрыты высокім двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Галоўны заходні фасад вылучаны шасцікалонным порцікам з трохвугольным франтонам, які завершаны двух'ярусная вежачкай. Два рамбічныя аконныя праёмы размешчаны на франтоне сіметрычна адносна восі фасада. Дэкаратыўнае аздабленне галоўнага фасада дапаўняе паліхромная афарбоўка верхняй часткі сцяны. Шалёўка франтона «ў елачку». Вокны прамавугольныя і рамбічныя. Інтэр'ер зальны, перакрыцце плоскае.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з рысамі класіцызму. *У. В. Алісейчык.*

**1484. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Леніна, у цэнтры пасёлка. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1954 г.

**1485. ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ** (архіт.). У цэнтры пасёлка. Пабудаваны ў 1848 г. з цэглы. Трохнефавы прамавугольны ў плане будынак з 2 аднаяруснымі вежамі на галоўным фасадзе. Пластычнасць фасадам надаюць пілястры, арачныя нішы з аб'ёмнай скульптурай, ліштвы, якія абрамляюць арачныя аконныя праёмы. Помнік архітэктуры позняга класіцызму.



1480. *Званіца.*



1480. *Званіца. Разрэз.*



1483. *Петрапаўлаўская царква. План.*

в. Шубічы, Шанёўскі сельсавет

**1486. РАДЗІМА БАБРУКА** Сяргея Антонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза генерал-лейтэнант (1955 г.) С. А. Бабрук нарадзіўся 2.2.1901 г. ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1920 г. Член КПСС з 1929 г. Скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе (1940 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 23.6. 1941 г. Камандзір 47-й гвардзейскай стралковай Ніжнедняпроўскай дывізіі гвардыі палкоўнік С. А. Бабрук вызначыўся пры вызваленні г. Нікапаля. З 31.1 да 12.2.1944 г. дывізія на чале з С. А. Бабруком прарвала моцную абарону праціўніка, знішчыла каля 2100 гітлераўцаў, 156 аўтамашын, 9 танкаў і самаходных гармат, шмат іншай баявой тэхнікі, захапіла 22 гарматы, 655 аўтамашын, 14 складоў з боепрыпасамі, гаручым, прадуктамі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.3.1944 г. Да 1960 г. С. А. Бабрук служыў у Савецкай Арміі. Памёр 18.3.1962 г. *Г. І. Дулеба.*



1483. *Петрапаўлаўская царква.*

в. Шчарчова, цэнтр сельсавета

**1487. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 59 воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1488. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАВАЛЬЧУКУ** Піліпу Андрэевічу (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці першага старшыні Шчарчоўскага сельсавета П. А. Кавальчука, якога расстралялі ў 1941 г. нямецка-фашысцкія захопнікі.

в. Шэйпічы, Зеляневіцкі сельсавет

**1489. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1490. РАДЗІМА УРБАНОВІЧА** Іосіфа Паўлавіча (гіст.). Удзельнік рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Брэсцкай вобл. ў Вялікую Айчынную вайну І. П. Урбановіч нарадзіўся 21.3.1907 г. Гл. таксама артыкул № 1448 «Помнік Урбановічу Іосіфу Паўлавічу».

22 Зак. 2447




# СТОЛІНСКІ РАЁН

Беразцы
Гальцы
Стахава
Асаўцы
Плотніца
Дубай
Лядзец
Туры
Вялікія Арлы
Давыд-Гарадок
Харомск
Альшаны
Сямігосцічы
Вял. Малешава
Велямічы
Рамель
Аздамічы
Рухча 1-я
Відзібор
Беражное
Рубель
Хатомель
Фядоры
Радчыцк
Белавуша
Глінка
Манькавічы
СТОЛІН
Гарадная
Рэчыца
Верхні Церабяжоў
Варані
Струга
Альманы

 Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

 Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

 Цэнтры рамёстваў

 Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

 Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

 Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

 Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

 Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі

 Культавая архітэктура

 Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XXI. СТОЛІН

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Гарынь, за 245 км на ўсход ад Брэста, на аўтамабільнай дарозе Пінск — Давыд-Гарадок, за 7 км ад чыгуначнай станцыі Гарынь на лініі Лунінец — Сарны.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца сярод «гарадоў пагарынскіх» 12—13 стагоддзяў. З 16 ст. мястэчка. Ім валодалі магнаты Саламярэцкія, Вішнявецкія, Пацы, Солтаны, Скірмунты, Стахоўскія і інш. Уваходзіла ў Берасцейскае ваяводства Вялікага княства Літоўскага. З 17 ст. горад. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. рускія войскі разбілі (1655 г.) пад Столінам войска Вялікага княства Літоўскага і некалькі гадоў утрымлівалі горад. З 1792 г. цэнтр Запінскага павета Брэсцкага ваяводства. З 1793 г. ў складзе Расіі (валасны цэнтр Пінскага павета Мінскай губерні). У 1816 г. тут адкрыта першая на Беларусі школа ўзаемнага навучання, дзе выкладаліся асновы аграноміі. У 1897 г. ў горадзе 250 двароў, 3,3 тыс. жыхароў, пачатковае вучылішча, бровар і смалакурня.

Савецкая ўлада ў Століне ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З лютага 1918 г. да студзеня 1919 г. акупіраваны нямецкімі войскамі. У гэты час на Століншчыне разгарнуўся партызанскі рух. Быў створаны падпольны рэвалюцыйны камітэт, які кіраваў барацьбой паўстанскіх атрадаў (камандзіры — А. Ф. Разановіч і Ф. А. Казубоўскі). Савецкая ўлада адноўлена летам 1920 г. У 1921—39 гг. Столін у складзе буржуазнай Польшчы (павятовы цэнтр Палескага ваяводства).

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР — раённы цэнтр (з 1940 г.) Пінскай вобл., з 1954 г.— Брэсцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з 12.7.1941 г. да 7.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Барацьбу з ворагам узначалілі падпольныя райкомы КП(б)Б (1.9.1943 г.—16.2.1944 г.) і ЛКСМБ (9.8.1943 г.—1.3.1944 г.). У студзені 1944 г. партызаны брыгады «Савецкая Беларусь» і атрадаў злучэння С. А. Каўпака разграмілі ў Століне варожы гарнізон.

У горадзе пераважае квартальная планіроўка, жылая забудова размешчана ўздоўж р. Гарынь. Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва ў 1970 г., вядзецца рэканструкцыя вулічнай сеткі, узбуйняюцца жылыя кварталы, фарміруецца грамадскі цэнтр. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр — пл. Леніна, на якой пастаўлены помнік У. І. Леніну. Тут жа будынак райвыканкома. Насупраць яго, пры ўваходзе ў гарадскі сквер, помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, якія загі-



XXI. *Вуліца Савецкая.*



XXI. *Вуліца Савецкая. Фрагмент жылой забудовы.*



XXI. *Будынак раённага Дома культуры.*

нулі ў Вялікую Айчынную вайну. У цэнтральнай частцы (вуліцы Леніна, Савецкая, Дзяржынскага, Гагарына і інш.) пяціпавярховая жылая забудова. Узведзены: бальнічны комплекс, вул. Дзяржынскага (1965—66 гг.); кінатэатр, вул. Леніна (1971 г.); сярэднія школы № 1, вул. Савецкая (1961 г.), і № 2, вул. Інтэрнацыянальная (1976 г.); Дом культуры, вул. Камсамольская (1977 г.); магазін «1000 дробязей», вул. 17 Верасня (1977 г.); Дом быту, вул. Леніна (1981 г.); Дом сувязі, вул. Савецкая (1981 г.). Ва ўсходняй частцы ў 1976 г. закончана будаўніцтва комплексу сельгастэхнікума (вучэбны корпус, інтэрнаты, жылыя дамы і інш.).

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: камбінат будматэрыялаў, масласырзавод, хлебакамбінат, фабрыка кухоннай мэблі, спіртзавод, кансервавы завод. Працуе камбінат бытавога абслугоўвання. У горадзе сельскагаспадарчы тэхнікум, 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, дзіцячая мастацкая школа, Дом культуры, кінатэатр, краязнаўчы музей, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Навіны Палесся».

З архітэктурных помнікаў 18—19 стагоддзяў зберагліся мураваны будынак сінагогі, парк «Манькавічы». Зоны адпачынку знаходзяцца на беразе р. Гарынь, у парку «Манькавічы».

*Літ.:* Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная Пинским Старостою Станиславом Хвальчевским в 1552—1555 гг.— Вильна, 1884; Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński: (Notatki historyczne).— Brześć nad Bugiem, 1930.

*С. Ф. Цярохін, Т. І. Чарняўская.*

**1491. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАНА І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На пл. Леніна. Пахаваны 94 воіны 397-й і 415-й стралковых дывізій 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 7.7.1944 г. пры вызваленні горада. Пазней сюды перанесены астанкі камандзіра Столінскага партызанскага атрада В. Е. Ключанкова (загінуў у ліпені 1941 г.) і 6 ахвяр фашызму. Тут жа пахаваны былы намеснік старшыні Столінскага райвыканкома І. В. Часнакоў, забіты 8.8.1944 г. ворагамі Савецкай улады. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з памятным надпісам.

**1492. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Урочышча Стасінскі лес, за 3 км ад аўтабазы № 12. Пахавана больш за 12 тыс. жыхароў раёна, загубленых у Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1493. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АБАДОЎСКАМУ** Мікалаю Адамавічу (гіст.). Вул. Савецкая, 54, на будынку сярэдняй школы № 1. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці ўдзельніка падпольнай барацьбы і партызанскага руху ў Вялікую Айчынную вайну, былога дырэктара школы М. А. Абадоўскага.

**1494. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КРЫЖУ** Мікалаю Андрэевічу (гіст.). Вул. Савецкая, 55, на будынку рэдакцыі газеты «Навіны Палесся». Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці былога супрацоўніка рэдакцыі, удзельніка падпольнай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну (загінуў у жніўні 1942 г.).

**1495. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЙНЫМ І САВЕЦКІМ РАБОТНІКАМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 63, на будынку райвыканкома. Устаноўлена ў 1969 г.

У Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінулі старшыня Столінскага райвыканкома, член Пінскага падпольнага абкома КП(б)Б, камандзір Столінскага партызанскага атрада І. Л. Масленнікаў, сакратар Столінскага райкома КП(б)Б Ф. І. Палавінка, сакратар Давыд-Гарадоцкага падпольнага райкома КП(б)Б, камандзір Давыд-Гарадоцкага партызанскага атрада М. А. Скарабагацька.

**1496. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 3. Устаноўлена ў 1965 г. ў гонар савецкіх воінаў, якія вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, партызан брыгады «Савецкая Беларусь» і брыгады С. П. Каплуна.

У Вялікую Айчынную вайну ў час акупацыі нямецка-фашысцкімі захопнікамі на тэрыторыі Столінскага р-на дзейнічалі партызанская брыгада «Савецкая Беларусь» і брыгада ўкраінскіх



XXI. *Кінатэатр.*



XXI. *Будынак сярэдняй школы № 1.*



XXI. *Комплекс будынкаў сельгастэхнікума.*

партызан С. П. Каплуна. Брыгада «Савецкая Беларусь» створана ў жніўні 1943 г. на базе атрадаў «Савецкая Беларусь» і імя М. І. Кутузава. Камандзіры П. П. Тамілаў (жнівень 1943 г.— люты 1944 г.), І. А. Сматроў (люты — чэрвень 1944 г.); камісар І. А. Сматроў. Партызаны брыгады грамілі варожыя гарнізоны ў Давыд-Гарадку (ліпень, кастрычнік 1943 г., разам з атрадам злучэння А. М. Сабурава), у Століне (студзень 1944 г., разам з атрадамі злучэння С. А. Каўпака), знішчылі сельскагаспадарчыя ўправы ў вёсках Альшаны, Ольпень, Сямігосцічы, Харомск, 126 аўтамашын, рабілі дыверсіі на чыгунцы і шашэйных дарогах Давыд-Гарадоцкага, Столінскага і Тураўскага р-наў. У студзені 1944 г. разам з часцямі Чырвонай Арміі вялі баі каля вёсак Колбікі і Старына Давыд-Гарадоцкага р-на, у лютым 1944 г.— каля в. Іванава Слабада Тураўскага р-на. У лютым 1944 г. брыгада (903 партызаны) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. Пасля рэарганізацыі перайшла ў складзе атрадаў імя М. І. Кутузава, імя К. К. Ракасоўскага і імя В. П. Чкалава лінію фронту і зноў вяла баявую дзейнасць па акупіраванай тэрыторыі Столінскага і Давыд-Гарадоцкага р-наў. 8.6. 1944 г. пасля злучэння з часцямі Чырвонай Арміі партызанская брыгада «Савецкая Беларусь» расфарміравана.

7.7.1944 г. воіны 397-й стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік М. Ф. Андоньеў) 61-й арміі 1-га Беларускага фронту вызвалілі г. Столін.

*М. В. Кірэйшын.*

**1497. ПАРК «МАНЬКАВІЧЫ»** (архіт.). На ўскраіне горада, каля шашы Столін — Давыд-Гарадок, на левым беразе р. Гарынь. Цяпер парк культуры і адпачынку працоўных. Плошча 27,9 га.

Закладзены ў 1885 г. як сядзібны. З пабудоў асталіся толькі гаспадарчыя. Цэнтрам кампазіцыі быў мураваны палац (пачатак 20 ст., арх. Венцаль; разбураны ў Вялікую Айчынную вайну), пастаўлены на насыпной тэрасе з кветнікавым партэрам. Тэраса абмежавана земляным валам вышынёю да 1,5 м і нагадвае верхні сад.




**1491.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызана і ахвяр фашызму.*




1497. *Парк «Манькавічы». Схема планіроўкі: 1 — палац (не збярогся); 2 — гаспадарчыя і службовыя пабудовы; 3 — брама; 4—7 — сучасныя будынкі.*

Большая частка тэрыторыі парку на роўным берагавым плато. Паўночна-ўсходнюю і паўночна-заходнюю часткі перасякаюць некалькі алей. Інтэнсіўнасць насаджэнняў змяншаецца ў напрамку ракі. У парку больш за 35 відаў дрэў і кустоў. Апрача мясцовых парод, растуць хвоі веймутава і чорная, дуб і елка канадскія, лістоўніца еўрапейская, піхты аднаколерная і каўказская.

Парк «Манькавічы» — прыклад пейзажнага парку Беларусі 2-й палавіны 19 ст.

*Літ.:* Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński. (Notatki historyczne).— Brześć nad Bugiem, 1930; Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych Krajów słowiańskich. T. 10.— Warszawa, 1889.

*Н. С. Будыка.*

**1498. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Савецкай, каля ўваходу ў парк «Манькавічы». Гармата на пастаменце ўстаноўлена ў 1977 г. ў гонар воінаў 397-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія 7.7.1944 г. вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1499. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На пл. Леніна. На ўшанаванне памяці 54 жыхароў горада, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1975 г. ўстаноўлена стэла з барэльефнай выявай галавы жанчыны і надпісам-прысвячэннем. Побач мемарыяльная дошка з імёнамі загінуўшых.

**1500. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.). На пл. Леніна. Пастаўлены ў 1980 г. (скульпт. С. Селіханаў, В. Паляйчук, арх. Ю. Казакоў; бронза, ружовы граніт; агульная вышыня 10,3 м, фігуры 6,2 м).

На гарызантальна развітым ступеньчатым стылабаце — трыбуна і ссунуты ўлева пастамент з бронзавай скульптурай У. І. Леніна. Размашысты, энергічны крок, расхінутае ветрам паліто перадаюць імклівасць, парыў. Дынаміку руху падкрэсліваюць глыбокія складкі паліто, асіметрычна зрэзаная грань пастамента. У агульную кампазіцыю помніка ўключана невялікая, выкладзеная шэрымі бетоннымі плітамі плошча, з трох бакоў абмежаваная гарадскім паркам і скверам, чацвёртым з'арыентавана да вул. Савецкай. Помнік — кампазіцыйна-мастацкі цэнтр плошчы. *Л. Г. Лапцэвіч.*



1498. *Помнік Вызвалення.*

**1501. СІНАГОГА** (архіт.). У цэнтры горада. Пабудавана ў 1792 г. з цэглы. Прамавугольны ў плане аднапавярховы двухсветлавы будынак. Унутраная прастора падзелена 2 радамі калон на 3 нефы. У архітэктуры помніка захоўваюцца рысы барока, у дэкаратыўнай аздобе інтэр'ера — класіцызму.

**1502. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). На вул. Гарынскай. Пабудавана ў 1-й палавіне 20 ст. з дрэва. Прасторавую кампазіцыю храма фарміруюць шатровая званіца, бабінец, асноўны кубападобны аб'ём з светлавым васьміграннным барабанам і пяцігранная апсіда з прыбудоўкамі. У архітэктуры царквы знайшлі адлюстраванне рысы псеўдакласіцызму.

**в. Аздамічы, Рамельскі сельсавет**

**1503. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Альгомель, Вялікамалешаўскі сельсавет**

**1504. ВАСКРАСЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1817 г. з дрэва.

Прамавугольны ў плане зруб накрыты двухсхільным дахам з вальмай над алтаром. Над цэнтрам узвышаецца васьміграннны светлавы барабан, завершаны шатровым дахам з галоўкай. З захаду да асноўнага зруба пры-



1497. *Парк «Манькавічы». Алея.*



1500. *Помнік У. І. Леніну.*

будавана чацверыковая званіца, накрытая шатром з галоўкай. Уваход вылучаны ганкам з 2 слупамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны лапаткамі. Карніз, дапоўнены разным аркатурным фрызам, дзеліць вежу званіцы на 2 ярусы. Аконныя праёмы з лучковымі, дзвярныя — з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Унутры памяшканне зальнае. Алтарная частка з рызніцай аддзелена драўляным іканастасам.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Альманы, Стружскі сельсавет**

**1505. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 9 жыхароў вёскі, расстраляных у 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1506. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны 3 жыхары вёскі, расстраляныя ў 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На магіле пастаўлены абеліск.



1501. *Будынак былой сінагогі.*

**1507. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Савецкая Беларусь». На ўшанаванне памяці 79 жыхароў вёсак Альманы і Кашары, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Альпень, Веляміцкі сельсавет**

**1508. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1888 г. з дрэва.

Трохзрубны храм. Мае пірамідальную кампазіцыю з трохгаловым завяршэннем. Асноўны квадратны ў плане зруб завершаны васьмігранным светлавым барабанам з купалам, двухсхільныя дахі 2 больш нізкіх зрубаў (алтара і бабінца) — з адналькавымі галоўкамі. Сцены гарызантальна ашаляваныя. У аздобе фасадаў выкарыстана накладная дэкаратыўная разьба.

У архітэктуры царквы адлюстраваны традыцыі монументальнага драўлянага дойлідства Палесся перыяду класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Альшаны, цэнтр сельсавета**

**1509. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры.

7.7.1941 г. воіны 75-й стралковай дывізіі і маракі 6-й асобнай роты марской пяхоты Пінскай ваеннай флатыліі вялі каля в. Альшаны жорсткі бой з намнога большымі сіламі нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Некалькі разоў вёска пераходзіла з рук у рукі. У баі загінулі 16 савецкіх воінаў. У 1967 г. на іх магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**1510. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Хіноўск. Пахаваны 685 мірных жыхароў, якія былі расстраляны восенню 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На магіле пастаўлены абеліск.

**1511. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Пастаўлены ў 1967 г. на ўшанаванне памяці 100 землякоў. 87 вяскоўцаў аддалі жыццё ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе, 13 — расстраляны гітлераўцамі ў гады акупацыі Століншчыны. На скошанай плоскасці бетоннага блока ўстаноўлены 3 мемарыяльныя дошкі з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**1512. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1966 г.

**1513. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1866 г. з дрэва.

Асноўны квадратны ў плане зруб накрыты чатырохсхільным дахам. Да



1502. *Царква Ушэсця. Бакавы фасад.*



1504. *Васкрасенская царква. План.*



1508. *Успенская царква.*



1508. *Успенская царква. План.*



**1509.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

яго прымыкаюць больш нізкія пяцісценная апсіда і сярэдні аб'ём з самастойнымі пакатымі дахамі. Да сярэдняга аб'ёму прыбудаваны бабінец, накрыты чатырохсхільным шатром, са званіцай у другім ярусе. У інтэр'еры разныя паліхромныя царскія вароты. У аздобе фасадаў выкарыстаны разьба і дэкаратыўная шалёўка.

У архітэктуры царквы традыцыйныя формы драўлянага дойлідства Палесся спалучаюцца з элементамі класіцызму.

**в. Асаўцы, Відзіборскі сельсавет**

**1514. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «XIX партз'езд». На ўшанаванне памяці 30 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**1515. ПОМНІК КАРЛУ МАРКСУ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «XIX партз'езд». Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1971 г.

**1516. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «XIX партз'езд». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1971 г.



**1513.** *Царква. Выгляд з боку апсіды.*

**в. Атвержычы, Столінскі гарадскі Савет**

**1517. ГРУНТАВЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, часткова на сучасных могілках.

Раскопкі праводзілі ў 1955, 1957 і 1962 гг. Ю. У. Кухарэнка, у 1963 і 1965 гг. К. В. Каспарава. Ускрыта 19 урнавых і 48 ямных пахаванняў (пахавальны абрад — трупаспаленне). Пахавальныя ямы блізка адна ад адной, авальнай і круглай формы, на глыбіні 0,4—0,8 м ад узроўню старажытнага гарызонта. Даўжыня авальных ям 0,7—1,4 м, шырыня 0,3—0,5 м, дыяметр круглых 0,5 м. Пры раскопках знойдзены 177 гліняных ляпных пасудзін (міскі, гаршкі, кубкі і інш.), бронзавыя і жалезныя фібулы, шпількі з бронзавага дроту з плоскаспіральнымі галоўкамі, бронзавыя падвескі, бранзалеты, унікальны для зарубінецкай культуры паясны набор (кавалак скуранога пояса, упрыгожаны бронзавымі пласцінкамі, бляшкамі і пласцінітай спражкай). Могільнік датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э., належаў плямёнам зарубінецкай культуры.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Эрмітажы (Ленінград) і ў Столінскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Каспарова К. В. Могильник и поселение зарубинецкой культуры у дер. Отвержичи.— Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР о докладах и полевых исследованиях, 1967, в. 112; Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961; яго ж. Зарубинецкая культура.— М., 1964. *В. Б. Караткевіч.*

**1518. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На правым беразе р. Гарынь, на сучасных могілках.

У групе каля 50 насыпных паўсферычных курганоў вышынёй да 1 м, дыяметрам 5—10 м. Адзін з іх (у цэнтральнай частцы) мае дыяметр 13 м, вышыню каля 2 м. Выявіў у 1953 г. Б. В. Міралюбаў, даследаваў у 1955 і 1957 гг. Ю. У. Кухарэнка. Раскапаны 3 курганы, у т. л. самы вялікі. Нябожчыкі ляжалі на праслойках з попелу і вугалёў галовамі на захад ці паўднёвы захад. Знойдзены рэшткі спаленай драўлянай пабудовы накшталт будана і побач з імі пахаванне (пахавальны абрад — трупапалажэнне), жалезныя абручы, дужка ад вядра, абломкі ганчарнай керамікі. Могільнік належаў славянскім плямёнам, датуецца 10—11 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Столінскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961. *Я. Г. Зверуга.*



**1513.** *Царква. План.*



**1513.** *Царква. Царскія вароты.*




**1517.** *Грунтавы могільнік. Рэчы з раскопак: 1 — бронзавая шпілька; 2—4 — гліняны посуд; 5, 6 — бронзавыя фібулы.*

**в. Белавуша, цэнтр сельсавета**

**1519. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 воінаў 397-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск. На мемарыяльнай дошцы ўвекавечаны таксама імёны 41 земляка, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**1520. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы Акоп, Замак. За 2,5 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Гарынь. Пляцоўка авальнай формы, памерам 35×45 м. Вал гарадзішча ўзвышаецца над навакольнай нізінай амаль на 2 м. Перад ім роў глыбінёю каля 1 м. Даследавалі ў 1957 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1961 г. П. А. Рапапорт. Культурны пласт не прасочваецца. Каля гарадзішча знойдзена кераміка 10—11 стагоддзяў. Мяркуюць, што помнік адносіцца да гэтага часу.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Столінскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Раппопорт П. А. Военное зодчество западно-русских земель X—XIV вв.— Л., 1967.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 140).

**1521. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1905 г. з дрэва. Асноўны квадратны ў плане зруб завершаны масіўным светлавым васьмерыком, накрытым купалам з галоўкай. Прамавугольныя зрубы алтара і трапезнай больш нізкія. Пры ўваходзе — шмат'ярусная шатровая званіца. Будынак багата дэкарыраваны разнымі дэталямі. У аздобе царквы адчуваецца ўплыў псеўдарускага стылю.

**в. Беражное, цэнтр сельсавета**

**1522. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 воін 397-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 7.7.1944 г. пры вызваленні тэрыторыі калгаса імя Леніна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1951 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата. На 3 мемарыяльных дошках ушанавана памяць 87 жыхароў вёсак Беражное, Бор Дубянецкі, Дубянец, Магільнае, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.



1521. *Троіцкая царква.*



1522. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**1523. МАГІЛА ЛАЗНУХІ** Майсея Цярэнцьевіча (гіст.). На могілках. М. Ц. Лазнуха нарадзіўся ў 1883 г. Служыў на Балтыйскім флоце. У 1906 г. за рэвалюцыйную дзейнасць быў засуджаны на 4 гады зняволення. Пасля вызвалення вярнуўся ў родную вёску, вёў бальшавіцкую агітацыю сярод сялян. У 1916 г. зноў засуджаны. Вызвалены ў час Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Удзельнічаў у штурме Зімняга палаца. Пасля вяртання на радзіму выбраны старшынёй Столінскага валаснога выканкома. У час акупацыі Беларусі войскамі кайзераўскай Германіі, потым буржуазнай Польшчы ўзначальваў на радзіме партызанскую барацьбу супраць захопнікаў. 14.8. 1919 г. схоплены польскімі інтэрвентамі і пасля катаванняў расстраляны.

У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*А. С. Барысавец.*



1521. *Троіцкая царква. План.*

**1524. ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана каля 1884 г. з дрэва на падмурку царквы 18 ст. Перабудавана ў 20 ст.

Спачатку была трохзрубная, складалася з размешчаных па восі ўсход — захад прамавугольнага бабінца, квадратнага цэнтральнага аб'ёму, завершанага вялікім светлавым чацверыком, і пяціграннай апсіды. Будынак гарызантальна ашаляваны, прамавугольныя вокны аздоблены ліштвамі. Зрубы аб'яднаны шматсхільным дахам. Пры перабудове з захаду прырублена двух'ярусная званіца з хорамі, накрытая шатровым дахам, з поўдня — прамавугольная прыбудова, завершаная светлавым васьмерыком. У інтэр'еры дамінуе цэнтральнае двухсветлавое памяшканне, з якім вялікімі праёмамі злучаюцца бабінец, алтар, бакавая прыбудова.

Царква — традыцыйны для Прыпяцкага Палесся тып трохзрубнага храма яруснай кампазіцыі з цэнтральным верхам.

*Літ.:* Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст.— Мн., 1978.

*Ю. А. Якімовіч.*

**в. Беразцы, цэнтр сельсавета**

**1525. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну.



1524. *Царква Параскевы Пятніцы. План.*



1524. *Царква Параскевы Пятніцы.*




**1529б.** *Грунтавы могільнік Велямічы-2. Рэчы з раскопак: 1 — бронзавая шпілька; 2 — бронзавая падвеска; 3, 6—9 — гліняны посуд; 4 — бронзавая фібула; 5 — бронзавая грыўня.*

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Варані, Рэчыцкі пасялковы Савет**

**1526. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 35 жыхароў вёскі, расстраляных і спаленых жывымі 14.2.1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1527. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 10 савецкіх актывістаў, расстраляных 27.9.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1528. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Ленінскі шлях». На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Велямічы, цэнтр сельсавета**

**1529. ГРУНТАВЫЯ МОГІЛЬНІКІ, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1529а.** Могільнік Велямічы-1. За 4 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Турска. Выяўлены 136 пахаванняў (11 з іх адносяць да 3—4 стагоддзяў н. э.).

**1529б.** Могільнік Велямічы-2. За 1,5 км на захад ад могільніка Велямічы-1, ва ўрочышчы Пугачэнец. Выяўлена больш за 100 пахаванняў, 2 з іх 3—4 стагоддзяў н. э. Раскопкі праводзілі ў 1953—57 гг. Ю. У. Кухарэнка, у 1957—62 гг. К. В. Каспарава. Пахаванні (пахавальны абрад — трупаспаленне) у ямах глыбінёй 0,3—1 м ад узроўню дзённай паверхні, большасць на глыбіні 0,6—0,8 м прадаўгаватых (даўжыня 0,6—2,4 м, шырыня 0,3—0,8 м) і круглых (дыяметр не перавышае 0,7 м). Выяўлены таксама урнавыя пахаванні і кенатафы. Пры раскопках знойдзены гліняны ляпны посуд (гаршкі, міскі, кубкі), з упрыгожанняў — вялікія шпількі з бронзавага дроту, бронзавыя трапецападобныя падвескі, жалезныя і бронзавыя пярсцёнкі і фібулы, шкляныя пацеркі і інш. Сярод знаходак жалезныя нажы, наканечнікі, тачыльныя брускі, глінянае прасліца і інш.

**1529в.** Селішчы. У ваколіцах Велямічаў вядомы 3 селішчы зарубінецкай культуры. На адным з іх (за 0,5 км на паўночны ўсход ад могільніка Велямічы-2) праводзілі раскопкі ў 1953—57 гг. Ю. У. Кухарэнка, у 1957—62 гг. К. В. Каспарава. Селішча аднапластавае, культурны пласт 0,4—0,8 м. Выяўлены рэшткі 3 жылых пабудоў і шмат ям гаспадарчага прызначэння.



**1530.** *Ільінская царква. Званіца.*



**1530.** *Ільінская царква.*



**1530.** *Ільінская царква. План.*




1531. *Помнік землякам.*

Жылыя збудаванні ў плане няправільнай прамавугольнай формы (даўжыня 6—7 м, шырыня 5 м), нагадваюць паўзямлянкі. Захаваліся рэшткі глінабітнай печы. Знойдзены абломкі гліпянага посуду, каменных жорнаў, косці жывёл, кавалкі абпаленай гліны, у т. л. з адбіткамі драўляных канструкцый, жалезны серп, маленькая бронзавая пласціністая падвеска. Могільнікі і селішчы належалі плямёнам зарубінецкай культуры, датуюцца 2 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі СССР (Масква), у Эрмітажы (Ленінград), у Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (Пінск).

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Зарубинецкая культура.— М., 1964; яго ж. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961. *В. Б. Караткевіч.*

**1530. ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1881 г. з дрэва, у 1888 г. зроблены бакавыя прыбудовы.

Цэнтральнае месца ў крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі будынка займае квадратны ў плане асноўны аб'ём, да якога прылягаюць пяцігранны алтарны зруб, квадратны бабінец і прамавугольныя бакавыя прыбудовы. Абапал алтара — нізкія рызніцы. Зрубы завершаны самастойнымі вярхамі з гранёнымі купаламі і галоўкамі: цэнтральны — васьмерыком на чацверыку, астатнія — васьмерыкамі. Уваходы ў бабінец і бакавыя прыбудовы з захаду вылучаны тамбурамі з двухсхільнымі дахамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны лапаткамі. Прамавугольныя і лучковыя аконныя праёмы аздоблены ліштвамі. У інтэр'еры дамінуе цэнтральны трохсветлавы аб'ём, з якім вялікімі праёмамі злучаны астатнія памяшканні. На паўднёвы захад ад царквы — трох'ярусная зрубна-каркасная званіца (васьмярык на 2 чацверыках), накрытая шатровым дахам.

Царква — помнік архітэктуры з рысамі барока.

*Літ.:* Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст.— Мн., 1978. *Ю. А. Якімовіч.*

**1531. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: два воіны.

**в. Верхні Церабяжоў, Рэчыцкі пасялковы Савет**

**1532. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 12 воінаў 397-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну пры вызваленні вёскі ў ліпені 1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1533. ПОМНІК ДРУЖБЫ** (гіст.). На паўднёвы захад ад вёскі, на граніцы БССР і УССР. Пастаўлены ў 1967 г. ў гонар 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, як сімвал непарушнага братэрства беларускага і ўкраінскага народаў. Стэла-трыпціх з барэльефнымі выявамі дзяржаўных гербаў БССР, УССР і сціснутых у сяброўскім поціску рук. Помнік вянчаюць дзяржаўныя сцягі СССР, БССР і УССР.

**в. Вялікае Малешава, цэнтр сельсавета**

**1534. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1974 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вялікія Арлы, Лядзецкі сельсавет**

**1535. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 97 землякоў з вёсак калгаса імя Суворава, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Гальцы, Беразцоўскі сельсавет**

**1536. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 28 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Гарадная, цэнтр сельсавета**

**1537. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 76 воінаў 212-й стралковай дывізіі 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 12.7.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1538. ГАРАДЗІШЧА, ПАСЕЛІШЧА** (археал.).

**1538а.** Гарадзішча. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на беразе ручая, на мысападобным канцы вялікай пясчанай грады. Пляцоўка памерам 41×48 м, над узроўнем ручая ўзвышаецца прыкладна на 8 м. З боку поля абнесена 2 (з інтэрвалам у 30 м) дугападобнымі валамі вышынёю каля 3 м. З вонкавага боку валоў — равы глыбінёй каля 2 м. Паніжэнне мыса таксама ўмацавана валам вышынёй 2—3 м. Абследаваў у 1955 г. Ю. У. Кухарэнка. Культурны пласт не прасочваецца. Магчыма, гарадзішча было сховішчам. Пляцоўка зарасла лесам.




1533. *Помнік Дружбы.*

**1538б.** Паселішча. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, адразу за валам гарадзішча, ва ўрочышчы Замкавішча. Адкрыў і абследаваў у 1955 г. Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1962 г. П. Ф. Лысенка. Займае пясчанае ўзвышша плошчай каля 0,5 га. У агаленнях прасочаны культурны пласт 0,1—0,2 м. Сабраны рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да тшцінецкай культуры бронзавага веку. Датуецца 15—11 стагоддзямі да н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследаванняў зберагаюцца ў Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; яго ж. Первобытные памятники Полесья.— М., 1962.

**1539. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, непадалёку ад школы. Пахаваны 400 мірных жыхароў, якіх восенню 1942 г. загубілі ня-



1538. *Гарадзішча. План.*



1540. *Троіцкая царква.*



1540. *Троіцкая царква. План.*

мецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1540. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва, перабудавана ў 1930-я гады.

Будынак складаецца з 2 зрубаў: квадратнага ў плане асноўнага і пяціграннага алтарнага, зрубы аднолькавай шырыні, аб'яднаны ў суцэльны аб'ём, накрыты высокім вальмавым дахам. Вяршыні схілаў тарцовых вальмаў даху завершаны гранёнымі галоўкамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Высока размешчаныя прамавугольныя вокны аздоблены ліштвамі. З захаду да царквы ў 1930-я гады прыбудавана двух'ярусная званіца (чацверык на чацверыку), накрытая шатровым дахам з галоўкай. Ніжні ярус аднолькавай вышыні з асноўным аб'ёмам, аддзелены ад верхняга шырокім прычолкам. Унутры галоўны і алтарны зрубы злучаны вялікім прамавугольным праёмам. Кожны зруб перакрыты скляпеннем у выглядзе васьміграннай усечанай пірамідзы. Хоры — у аб'ёме званіцы. Алтарная частка аддзелена драўляным іканастасам.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства.

*Літ.:* Я к і м о в і ч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст.— Мн., 1978. *Ю. А. Якімовіч.*

**1541. ЦЭНТР ГАНЧАРНАГА РАМЯСТВА** (гіст.). З старажытнасці на мясцовай сыравіне — абястлушчаных светлых (пры абпальванні даюць ружовы чарапок) і тлустых цёмных глінах — у вёсцы існавала вытворчасць ганчарных вырабаў, якія атрымалі назву «гараднянская кераміка». У 17 ст. в. Гарадная мела статут горада. Тут існавала цэхавая арганізацыя ганчароў. Посуд (мясцовыя назвы «мамзель», «пярознак», «пададзінец», «злівач», «бунька») рабілі шара-, амфара-, яйцападобнай і біканічнай формы, аздаблялі ангобнай размалёўкай чырвонага колеру па светла-жоўтым ці ружовым фоне, геаметрычным арнаментам, які складаўся з прамых, хвалістых і зубчастых канцэнтрычных паяскоў, свабоднай расліннай размалёўкай (стылізаваныя расліны з кручкаватым завяршэннем лістоў).

З 1930 г. ў вёсцы пашырыўся выраб паліванага посуду. З канца 1960-х гадоў ганчары працавалі надомнікамі ад Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў, з 1980 г.— Кобрынскага камбіната будаўнічых матэрыялаў. Цяпер вырабляюць толькі палівany посуд. Гаршкі, гляkі, міскі, макітры, вазоны, дробная пластыка вызначаюцца самабытнасцю традыцыйных форм.

*Літ.:* Е л а т о м ц е в а И. М. Художественная керамика Советской Белоруссии.— Мн., 1966; Ж д а н о в і ч В. Чырвоныя вясількі: Рэпартаж.— Маладосць, 1969, № 10. *М. М. Яніцкая.*

**в. Глінка, цэнтр сельсавета**

**1542. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе калгаса «1 Мая». На ўшанаванне памяці 34 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў барацьбе супраць ворагаў Савецкай улады, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

## XXII. ДАВЫД-ГАРАДОК

Горад. За 35 км на паўночны ўсход ад Століна, 280 км ад Брэста, 41 км ад чыгуначнай станцыі Гарынь на лініі Лунінец — Сарны. Прыстань на р. Гарынь. Аэрапорт. Злучаны са Столінам і Пінскам аўтамабільнай магістраллю.

Узнік у пачатку 12 ст. як горад Кіеўскай Русі. Мяркуюць, што яго заснавальнікам быў унук Яраслава Мудрага валынскі князь Давыд Ігаравіч, які ў 1100 г. атрымаў у валоданне Пагарынне і заклаў у сутоку рэк Гарыні і Прыпяці крэпасць. З канца 14 ст. горад у Вялікім княстве Літоўскім, з 1551 г. належаў Радзівілам. Паводле ўскосных звестак, меў магдэбургскае права. З 1579 г.— цэнтр ардынацыі, у 1586 г. быў далучаны да Клецкай, у 1875 г.— да Нясвіжскай ардынацыі. Жыхары Давыд-Гарадка ўдзельнічалі ў вызваленчай вайне беларускага і ўкраінскага народаў 1648—54 гг., трымалі пад сваім кантролем Гарадоцкую воласць і суседнюю частку Пінскага павета. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. горад разбураны і спалены. У 2-й палавіне 17—18 ст. эканамічна занепаў. З 1793 г. ў складзе Расіі, з 1795 г. павятовы горад Мінскай губерні. З 1796 г. мястэчка ў Мазырскім павеце. З пераводам жыхароў Давыд-Гарадка ў саслоўе мяшчан (1836 г.) ажывілася яго эканамічнае жыццё. Пачала дзейнічаць суднаверф, пашырыліся гандлёвыя сувязі з Вільняй, Варшавай, гарадамі Валыні і Бесарабіі. У 1897 г. было 7815, у 1907 г.— 13 217 жыхароў.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З лютага 1918 г. акупіраваны нямецкімі, у 1919—20 гг.— польскімі войскамі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. адышоў да буржуазнай Польшчы, мястэчка Столінскага павета Палескага ваяводства. Дзейнічаў падпольны райком КПЗБ. З 1939 г. ў складзе БССР. З 15.1. 1940 г. цэнтр раёна Пінскай вобл.

У Вялікую Айчынную вайну з 7.7. 1941 г. да 10.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Барацьбу супраць ворага ўзначальвалі падпольныя райкомы КП(б)Б (ліпень 1941 г.— 13.9.1941 г., 16.7.1943 г.— 12.2. 1944 г.) і ЛКСМБ (11.8.1943 г.— 12.2. 1944 г.). З 1954 г. раённы цэнтр Брэсцкай вобл. З 1961 г. ў складзе Столінскага р-на.

З поўдня на поўнач горад перасякае р. Гарынь, якая дзеліць яго на левабярэжную (заходнюю) і правабярэжную (усходнюю) часткі. У структуры горада вылучаюцца 3 планіровачныя раёны — заходні, цэнтральны і ўсходні, звязаныя мастамі. Галоўная вось — магістраль Пінск — Тураў. Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1974 г. ў Мінскім філіяле Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва з улікам перспектывы росту насельніцтва, прадугледжана ўпарадкаваць архітэктурна-планіровачную структуру горада без значнага павелічэння яго тэрыторыі. У выніку работ па ўмацаванню берагоў Гарыні пад забудову будзе выкарыстана тэрыторыя, якая цяпер затапляецца ў час веснавых паводак. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр развіваецца ўздоўж галоўнай восі, што кампазіцыйна падкрэслівае яе значэнне.

Асноўныя прадпрыемствы размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы горада. Працуюць філіял Кобрынскага інструментальнага завода, камбінат бытавога абслугоўвання, цэх № 2 Столінскага хлебазавода. У горадзе 2 сярэднія, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, яслі-сад, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. У гістарычным цэнтры, на правым беразе Гарыні, знаходзіцца гарадзішча 11—12 стагоддзяў, на ўсходняй ускраіне горада — помнік драўлянага дойлідства 18 ст. (па іншых звестках канца 17 ст.) Георгіеўская царква. У скверы, на рагу вул. Школьнай і

Калініна, помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.

*Літ.:* Богдановіч А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии: Краткий экономический очерк.— Мн., 1967; Грушевский А. Пинское Полесье: Исторические очерки. Ч. 1—2.— Киев, 1901—03; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905; Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974; Horoszkiewicz R. Powiat Stoliński: (Notatki historyczne).— Brześć nad Bugiem, 1930; Marczak M. Przewodnik po Polesiu.— Brześć nad Bugiem, 1935; Jakimowicz R. Dawidgródek.— Pińsk, 1939. *Ю. А. Якімовіч.*

**1543. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Школьнай, каля дома № 4. Пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у т. л. воіны 397-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1543.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1544. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На тэрыторыі сучаснага горада, на правым беразе р. Гарынь, за 14 км ад упадзення яе ў Прыпяць, за 0,2 км ад моста ніжэй па цячэнню.

Займае ўзгорак вышынёю 3—5 м, якому штучна нададзена амаль круглая ў плане форма (дыяметр 100—110 м); невялікі выступ — у паўночна-заходнім напрамку. Абарончыя валы праходзілі па ўсім перыметры гарадзішча (зберагліся толькі на асобных участках; вышыня да 2 м). На поўдні, паводле чарцяжоў канца 18 — пачатку 19 ст., працякала р. Няпраўда (перасохла), якая ўпадала ў Гарынь. Гарадзішча абкружаў абарончы роў, падножжа яго было ўмацавана некалькімі радамі пакладзеных гарызантальна драўляных брусоў.

У 1937—39 гг. раскопкі праводзіў Р. Якімовіч, у 1967 г.— П. Ф. Лысенка. Культурны пласт каля 3,5 м дзеліцца на 5 стратыграфічных пластоў. У ім добра зберагліся прадметы арганічнага і неарганічнага паходжання. Ускрыты рэшткі 15 жылых і гаспадарчых пабудоў, 6 будаўнічых ярусаў. Памеры будынкаў ад 2,4×2,4 да 4,6×4,8 м, яны рубленыя з сасновых бярвенняў у вугал з астаткам. Падлога пераважна з дошак, печы — глінабітныя. Выяўлены вулічныя насцілы, абарончы вал, які меў драўлянае ўмацаванне. Пры раскопках знойдзены наканечнікі коп'яў і стрэл, свінцовыя булавы, кавальскія абцугі, прабойнік, сякера, долата, бандарная пілка, разец-лыжкар, нажы, нажніцы, жорны, касцяныя іголкі для вязання сетак, драўляны точаны і выдзеўбаны посуд, верацёны, лыжкі, шавецкія калодкі, рэшткі бандарнага і глінянага посуду, скуранога абутку, ювелірныя ўпрыгожанні, прасліцы, бруcкі, абломкі шкляных бранзалетаў, касцяныя вырабы, косці свойскіх і дзікіх жывёл. У культурным пласце выяўлены пахаванні ў дамавінах-калодах. Гарадзішча датуецца 12—14 стагоддзямі.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў музеях ПНР і ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Лысенко П. Ф. Города Туровской земли.— Мн., 1974; Jakimowicz R. Dawidgródek.— Pińsk, 1939. *П. Ф. Лысенка.*

**1545. ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт., маст.). На старых могілках. Пабудавана ў 1724 г. (па іншых звестках у канцы 17 ст.) з дрэва.

Будынак трохзрубны. Усе зрубы накрыты чатырохсхільнымі шатрамі, якія ўтвараюць трохверхую кампазіцыю. Алтарны і асноўны зрубы ў плане блізкія да квадрата, бабінец — падоўжаны прамавугольнік. Асноўны зруб вылучаны невысокім чацверыком 2-га яруса. Вяршыні шатроў над бабінцам і алтаром зрушаны з геаметрычных цэнтраў планаў. Каркасныя тамбур і рызніца з паўночнага боку прыбудаваны пазней. Сцены гарызантальна ашаляваны, умацаваны шырокімі лапаткамі і сіметрычна прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Асноўнае памяшканне двухсветлавое, злучана з бабінцам і алтарнай часткай шырокімі праёмамі. Перакрыцце ва ўсіх зрубах бэлечнае, з падшыўной столлю. Чацвярык 2-га яруса асноўнага зруба падтрымліваюць бэлькі. Хоры размешчаны ў бабінцы над уваходам. Драўляны разны пяціярусны іканастас — помнік манументальна-дэкаратыўнага мастацтва 18 ст. Яго памеры, форма і аздабленне арганічна звязаны з архітэктурай храма. Ярусы іканастаса раздзяляюць простыя карнізы, паўкалонкі аздоблены рэльефнай разьбой. Побач з царквой каркасная двух'ярусная званіца (чацвярык на чацверыку), накрытая шатровым дахам і вертыкальна ашаляваная дошкамі з нашчыльнікамі.

Царква — помнік традыцыйнага народнага дойлідства, вызначаецца выразнасцю аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, арганічным сінтэзам архітэктурнага вырашэння і дэкаратыўнага афармлення інтэр'ера.

*Літ.:* Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст.— Мн., 1978. *Э. І. Вецер, Т. В. Габрусь.*

**1546. ГРУНТАВЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны ўсход ад горада, на правым беразе р. Гарынь, ва ўрочышчы Леваноўшчына. Выяўлены ў 1979 г. на глыбіні 0,7 м у час земляных работ. Абследаваў у 1980 г. Г. М. Залашка. Знойдзены 8 сасудаў, ляпная пахавальная урна (з кальцыпіравапымі касцямі) з светла-жоўтай гліны з дамешкам жарствы і пяску, 2 міскі (1 чорнаглянцаваная), 4 гаршкі з ручкамі (1 чорнаглянцаваны з абадком), невялікі сасуд светла-жоўтага колеру. Могільнік адносіцца да зарубінецкай культуры, датуецца 1—5 стагоддзямі н. э.






**1544.** *Гарадзішча. План.*



**1544.** *Гарадзішча.*



1545. *Георгіеўская царква.*



1545. *Георгіеўская царква. План.*

Матэрыялы абследавання зберагаюцца ў Столінскім краязнаўчым музеі.

*Г. М. Залашка.*

**1547. МАГІЛА ЮРЧАНКІ** Якава Іванавіча (гіст.). На гарадскіх могілках. Камандзір Чырвонай Арміі Я. І. Юрчанка загінуў 19.9.1939 г. пры вызваленні Заходняй Беларусі. У 1940 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1548. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля кінатэатра «Зара». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**1549. ПОМНІК У ГОНАР 40-ГОДДЗЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ** (гіст.). Вул. К. Маркса, у гарадскім скверы. Устаноўлены ў 1957 г. Скульптура чырвонаармейца пастаўлена на высокі прамавугольны пастамент. На фасаднай грані помніка — дошка са словамі У. І. Леніна: «Наша сацыялістычная рэспубліка Саветаў будзе стаяць моцна, як факел міжнароднага сацыялізма і як прыклад перад усімі працоўнымі масамі».

**в. Дубай, Відзіборскі сельсавет**

**1550. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Задубенне, на пясчаным узвышшы каля забалочанага луга.

28 курганоў (раней было да 60) вышынёю 0,2—2 м, дыяметрам 6—25 м. Насыпы сферычныя, расплывістыя, задзірванелыя. Адкрыў у 1955 г. і ў 1955—56 гг. раскапаў 13 насыпаў Ю. У. Кухарэнка. У большасці курганоў пахаванні на ўзроўні старажытнага гарызонта, у 3 — у невялікіх прамавугольных ямах. Нябожчыка клалі на спіну, галавой на паўднёвы ўсход.



1545. *Георгіеўская царква. Чарцёж іканастаса.*



1545. *Георгіеўская царква. Падоўжны разрэз.*

У 2 насыпах выяўлены рэшткі спаленых прамавугольных зрубаў з пахаваннямі. Ва ўсіх курганах знойдзены гліняны ляпны посуд, у 5 — жалезныя наканечнікі коп'яў, у іншых — жалезны нож, залатая завушніца і інш. Могільнік датуецца 6 — пачаткам 5 ст. да н. э., належаў плямёнам мілаградскай культуры.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (Пінск), Столінскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961. *В. Б. Караткевіч.*

**1551. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны савецкія патрыёты М. А. Сувораў (нарадзіўся ў 1897 г.) і яго сын Л. М. Сувораў (нарадзіўся ў 1920 г.), якіх 9.8.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1552. МЕСЦА ГІБЕЛІ ПРУСА** Авакума Лазаравіча (гіст.). Вул. Чкалава, 29. Тут 9.8.1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі калгаснага актывіста А. Л. Пруса. На месцы яго гібелі ў 1978 г. пастаўлены абеліск.

**1553. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1906 г. з дрэва. Асноўны зруб завершаны чатырохгранным купалам з галоўкай у цэнтры і 4 меншымі галоўкамі па вуглах. З усходу да асноўнага зруба прымыкае пяцісценная апсіда з вальмавым дахам. Пры ўваходзе шмат'ярусная шатровая званіца, якая злучана з асноўным зрубам роўным з ім па вышыні аб'ёмам, накрытым пакатым двухсхільным дахам. Фасады аздоблены разнымі драўлянымі ордэрнымі элементамі, рустам, какошнікамі і інш.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**1554. ПОМНІК АКТЫВІСТАМ** (гіст.). Каля будынка пошты.

У чэрвені 1949 г. ад рук ворагаў Савецкай улады загінулі сакратар партыйнай арганізацыі калгаса «Світанне», дырэктар мясцовай школы Рыгор Апанасавіч Зайцаў і сакратар камсамольскай арганізацыі Васіль Андрэевіч Малей. У 1965 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены абеліск.

**1555. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 700 м на паўночны ўсход ад вёскі. Тут 9.8.1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі савецкіх патрыётаў М. А. і Л. М. Сувoравых. На месцы іх гібелі ў 1971 г. пастаўлены абеліск.

**1556. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 55 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 2 актывістаў, забітых у 1949 г. ворагамі Савецкай улады, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



1553. *Мікалаеўская царква. План.*

**1557. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Світанне». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1964 г.

**в. Дубенец,**
**Беражноўскі сельсавет**

**1558. МАГІЛА ЮРЧУКА** Цярэнція Максімавіча (гіст.). Каля клуба. Пахаваны арганізатар і першы старшыня калгаса імя Леніна Ц. М. Юрчук, якога 28.7.1949 г. забілі ворагі Савецкай улады. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1559. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на скрыжаванні галоўных вуліц. Пабудавана ў 1718—20 гг. з дрэва.

Будынак трохзрубны. Па падоўжнай восі размешчаны прамавугольныя ў плане цэнтральны і алтарны зрубы, бабінец, да якога з захаду прырублена ярусная званіца. Бабінец аднолькавай шырыні з цэнтральным зрубам. З усходу да алтарнага зруба прылягае нізкі аб'ём рызніцы. Сцены ў верхняй частцы ашаляваны гарызантальна, у ніжняй — «у елку», умацаваны лапаткамі, завершаны карнізам. Вокны высокія, са зрэзанымі верхнімі вугламі. Бабінец накрыты двухсхільным, алтар — трохсхільным гонтавымі дахамі. Цэнтральны аб'ём завершаны масіўным чацверыковым барабанам са зрэзанымі вугламі, які трымаецца на 4 слупах, мае прамавугольныя вокны і купальны дах. Трох'ярусная званіца (2 ніжнія чацверыкі і 3-і верхні са зрэзанымі вугламі) завершана шатровым дахам. Галоўны ўваход вылучаны крытым ганкам. У інтэр'еры дамінуе цэнтральны аб'ём. Алтарнае памяшканне і бабінец больш нізкія і злучаны з цэнтральным аб'ёмам вялікімі праёмамі. Алтарнае памяшканне аддзелена іканастасам. Царква — помнік архітэктуры з элементамі стылю барока.

*Літ.:* Товаров А. В. Историко-статистическая справочная книжка Минской епархии.— Мн., 1903; Описание церквей и приходов Минской епархии... [В.] 6. Пинский уезд.— Мн., 1879; Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII — XIX стст.— Мн., 1978. *Ю. А. Якімовіч.*



1559. *Царква Раства багародзіцы. План.*



1553. *Мікалаеўская царква. Фрагмент.*

**в. Калоднае, Радчыцкі сельсавет**

**1560. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, і 6 аднавяскоўцаў, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1974 г. ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**1561. ПОМНІК ПАЎСТАНЦАМ 1863 г.** (гіст.). На паўднёвы ўсход ад вёскі, каля чыгуначнага пераезда.

У канцы мая — пачатку чэрвеня 1863 г. ў час паўстання 1863—64 гг. у Польшчы, Літве і на Беларусі Кобрынскі атрад паўстанцаў на чале з Р. Траўгутам і Брэсцкі атрад А. Ваньковіча накіраваліся з Піншчыны на паўднёвы ўсход. Усё больш адрываю-



1559. *Царква Раства багародзіцы.*

чыся ад сваіх баз, атрады праз лясы і балоты рухаліся ў глыбіню Палесся. Цяжкімі былі пераправы цераз рэкі, асабліва цераз Прыпяць, Стыр і інш. Пасля некалькіх дзён паходу паўстанцы ўвайшлі ў Столін. Ноччу яны пераправіліся на правы бераг Гарыні і сталі лагерам, каб аб'яднацца з валынскімі атрадамі, але апошнія ў гэты час адступілі на поўдзень, перайшлі граніцу Галіцыі. Тым часам на разгром паўстанцаў сцягваліся царскія войскі. 11.6.1863 г. паўстанцы зрабілі засаду і разбілі 3 роты пяхоты праціўніка. Царскія войскі вымушаны былі адступіць. Праз некалькі дзён, страціўшы надзею аб'яднацца з валынцамі, атрады зноў пераправіліся цераз Гарынь і невялікімі групамі накіраваліся ў Брэсцкі і Кобрынскі паветы, дзе далучыліся да іншых атрадаў.

У 1981 г. на ўшанаванне памяці паўстанцаў устаноўлена стэла.

*Літ.:* За нашу и вашу свободу: Герои 1863 года.— М., 1964.— (Жизнь замечательных людей); Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863—1864 гг.— М., 1965.

*В. Б. Караткевіч.*

**в. Лядзец, цэнтр сельсавета**

**1562. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе калгаса імя Леніна. На ўшанаванне памяці 78 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком і стэла.

**1563. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**в. Магільнае, Беражноўскі сельсавет**

**1564. МАГІЛА АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны арганізатары калгаса «Чырвоны партызан» Мікалай Сяргеевіч Каральчук, Мікалай Сямёнавіч Каральчук і Кацярына Пятроўна Каральчук, якія ў 1949 г. сталі ахвярамі ворагаў Савецкай улады. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск. Адна з вуліц вёскі названа імем Мікалая Сяргеевіча Каральчука.

**в. Манькавічы, Столінскі гарадскі Савет**

**1565. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 57 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены абеліск.

**в. Плотніца, цэнтр сельсавета**

**1566. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля развілкі вуліц. Пахаваны 25 воінаў 397-й і 415-й стралковых дывізій, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Плотніцкага сельсавета. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1567. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1875 г. з дрэва.

Чатыры зрубы ўтвараюць у плане крыж, у вуглах якога ўбудаваны дапаможныя памяшканні. Усе аб'ёмы роўнай вышыні, накрыты складаным дахам з пакатымі схіламі. Васьмігранныя галоўкі ў цэнтры (на светлавым барабане) і на вуглах утвараюць пяцікупальную кампазіцыю. Царква мае 3 уваходы з ганкамі. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Вокны аздоблены ліштвамі.

Царква — прыклад цэнтрычнага культавага збудавання.

**1568. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці воінаў-аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**1569. ПОМНІК КАРЛУ МАРКСУ** (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1968 г.



1567. *Пакроўская царква.*



1567. *Пакроўская царква. План.*

**1570. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**в. Радчыцк, цэнтр сельсавета**

**1571. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «XXII з'езд КПСС». На ўшанаванне памяці 53 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 31 аднавяскоўца, якія сталі ахвярамі фашысцкага тэрору, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**1572. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

**1573. ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Адносіцца да тыпу цэнтрычных храмаў. Васьмігранны аб'ём завершаны драўляным купалам, фасады дэкарыраваны порцікамі. Царква — помнік архітэктуры класіцызму.

**в. Рамель, цэнтр сельсавета**

**1574. ГРУНТАВЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Ва ўрочышчы Ляшча, на ўзвышшы за вясковымі могілкамі. Даследаваў у 1954—55 гг. Ю. У. Кухарэнка. На плошчы 196 $м^2$ выяўлены 7 пахаванняў. У 6 знойдзены рэшткі спаленых нябожчыкаў, ляпныя гаршкі, міскі, кубкі, жалезныя і бронзавыя фібулы. Могільнік належаў плямёнам зарубінецкай культуры, датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Знаходкі зберагаюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (Пінск).

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961.

*В. Б. Караткевіч.*

**1575. МАГІЛА ДЗЕМКІ** Пятра Мікалаевіча (гіст.). На могілках.

П. М. Дземка нарадзіўся ў 1917 г. ў в. Альшаны. Рана стаў на шлях рэвалюцыйнай барацьбы. Не раз быў арыштаваны ўладамі буржуазна-памешчыцкай Польшчы, зняволены ў Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. У 1939 г. вызвалены Чырвонай Арміяй. Працаваў у органах НКУС. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны на падпольнай рабоце. У ліпені 1941 г. схоплены гітлераўцамі і закатаваны. Яго імем названа вуліца ў вёсцы. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. М. Удальцоў.*

**1576. МАГІЛА УРОДНІЧА** Васіля Мікалаевіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Партызан В. М. Уродніч загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у лістападзе 1943 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1577. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У паўночнай частцы вёскі. Пабудавана ў 18 ст. з дрэва. У пачатку 20 ст. з захаду прыбудавана трох'ярусная званіца.

Амаль квадратны ў плане асноўны і пяцігранны алтарны зрубы аб'яднаны агульным вальмавым дахам. Вяршыні тарцовых схілаў даху завершаны галоўкамі, у месцы злучэння зрубаў трохвугольныя застрэшкі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны лапаткамі і завершаны карнізамі з зубчастым падзорам. Высокія прамавугольныя вокны аздоблены ліштвамі. Памяшканні перакрыты бэлькамі з плоскай падшыўной столлю. Званіца трох'ярусная, чацверыковая, зрубна-каркаснай канструкцыі, накрыта шатровым дахам. У яе ніжнім ярусе хоры на 2 слупах.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства. *Ю. А. Якімовіч.*

**1578. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе калгаса «Запаветы Леніна». На ўшанаванне памяці 77 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе, а таксама ахвяр фашызму ў 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Рубель, цэнтр сельсавета**

**1579. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На правым беразе р. Гарынь, на сучасных могілках. У групе больш за 30 паўсферычных здзірванелых насыпаў вышынёй да 1 м. У цэнтральнай частцы 1 насып вышынёю каля 2,5 м, дыяметрам амаль 20 м. Курганы размешчаны блізка адзін каля аднаго, амаль усе пашкоджаны сучаснымі пахаваннямі. Выявіў у 1956 г. Ю. У. Кухарэнка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.



**1577.** *Міхайлаўская царква. План.*



**1577.** *Міхайлаўская царква.*



**1578.** *Помнік землякам.*

**1580. МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У заходняй частцы вёскі. Пабудавана ў 1796 г. з дрэва.



**1580.** *Міхайлаўская царква. Падоўжны разрэз і план.*

Будынак складаецца з трох шмат'ярусных зрубаў: прамавугольнага ў плане бабінца, васьміграннага асноўнага і пяцiграннага алтарнага. Асноўны зруб развіты па папярочнай восі, завершаны васьмерыком на чацверыку з грапёным купалам і галоўкай, алтарны зруб і бабінец завершаны васьмерыкамі. Уваходныя тамбуры з трох бакоў прыбудаваны пазней. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і завершаны развітымі карнізамі. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены ліштвамі. Унутры асноўнае памяшканне трохсветлавое, алтар і бабінец двухсветлавыя. У бабінцы над уваходам размешчаны хоры. Асноўнае памяшканне аддзелена ад алтара іканастасам з разнымі вітымі калонкамі. Трох'ярусная званіца размешчана на захад ад царквы, складаецца з 2 чацверыкоў і васьмерыка, накрытага грапёным купалам.

У архітэктуры царквы традыцыі драўлянага дойлідства спалучаюцца з рысамі барока.

*Літ.:* Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века.— Мн., 1962; его ж. История архитектуры Белоруссии. Дооктябрьский период.— Мн., 1969; Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст.— Мн., 1978.

*Ю. А. Якімовіч.*

**1581. СЕЛІШЧА** (археал.). За 3 км на поўнач ад вёскі, абапал дарогі на Давыд-Гарадок, ва ўрочышчы Прысава. Даследавалі ў 1956 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1962 г. К. В. Каспарава. Таўшчыня культурнага пласта 0,5 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жылля, глінянага ляпнога посуду. Селішча належала плямёнам зарубінецкай культуры, датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Эрмітажы (Ленінград) і Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (г. Пінск).

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Памятники железного века на территории Полесья.— М., 1961.

**1582. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 45 жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях су-



**1580.** *Міхайлаўская царква.*

праць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Рухча 1-я, цэнтр сельсавета**

**1583. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 131 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, закатаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі, сталі ахвярамі тэрору ворагаў Савецкай улады, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**1584. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.

**1585. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі, на скрыжаванні дарог на Столін і Плотніцу. Пабудавана ў 1730 г. з дрэва.

Будынак аднаразрубны, з развітай трохсценнай алтарнай часткай, накрыты вальмавым гонтавым дахам, які завяршае ссунуты ад цэнтра на ўсход васьмігранны барабан з галоўкай. Сцены гарызантальна ашаляваны, умацаваны лапаткамі. Столь плоская, бэлечная. На ўсход ад царквы двух'ярусная (чацвярык на чацверыку) зрубна-каркасная званіца пад шатровым гонтавым дахам.

У архітэктуры царквы рысы стылю барока спалучаюцца з традыцыйнымі прыёмамі народнага дойлідства.

*Літ.:* Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII—XIX стст.— Мн., 1978. *Ю. А. Якімовіч.*

**в. Рыбнікі, Белавушскі сельсавет**

**1586. ПОМНІК КЛЮЧАНКОВУ** Васілю Елісеевічу (гіст.). У цэнтры вёскі.

В. Е. Ключанкоў нарадзіўся 29.12. 1899 г. ў в. Быкавічы Мсціслаўскага р-на. У 1918—22 гг. у Чырвонай Арміі, потым на партыйнай і савецкай рабоце ў Калінінскай і Магілёўскай акругах. З красавіка 1928 г. ў органах АДПУ. З лістапада 1938 г. выконваючы абавязкі начальніка дарожнага аддзела міліцыі на Беларускай чыгунцы. У 1940—41 гг. дырэктар рыбгаса ў пас. Дубрава (цяпер в. Рыбнікі). З ліпеня 1941 г. камандзір Столінскага партызанскага атрада. У канцы ліпеня 1941 г. ў час разведкі схоплены ворагамі. Калі яго звязанага пе-



1585. *Царква Раства багародзіцы.*



1587. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

равозілі цераз р. Гарынь, кінуўся ў раку. Пахаваны ў брацкай магіле ў г. Століне.

У 1968 г. на ўшанаванне памяці В. Е. Ключанкова пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1—2. Кн. 1—2: Документы и материалы.— Мн., 1967—78. *М. В. Кірэйшын.*

**рабочы пасёлак Рэчыца**

**1587. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 101 воін 397-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са сцягам.

**в. Стахава, Плотніцкі сельсавет**

**1588. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Пабудавана ў канцы 19 ст. з дрэва. Адносіцца да тыпу трохчасткавых храмаў са званіцай, асноўным аб'ёмам і апсідай. Двух'ярусная званіца завершана шатром, кубападобны аб'ём храма — цыбулепадобнай галоўкай. У архітэктуры царквы выкарыстаны элементы псеўдарускага стылю.



1585. *Царква Раства багародзіцы. План.*

**1589. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 76 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Струга, цэнтр сельсавета**

**1590. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 85 воінаў 397-й і 415-й стралковых дывізій 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні вёсак Струга і Вікаравічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**в. Сямігосцічы, Альшанскі сельсавет**

**1591. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 56 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Талмачава, Вялікамалешаўскі сельсавет**

**1592. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 19 воінаў-аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**в. Турское, Веляміцкі сельсавет**

**1593. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 15 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Туры, Харомскі сельсавет**

**1594. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва З а м ч ы ш ч а. За 2,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Барок. Адкрыў у 1953 г. Б. В. Міралюбаў, абследаваў у 1980 г. Г. М. Залашка. Пляцоўка круглая ў плане, дыяметрам 100 м. Умацавана валам вышынёю каля 5 м і шырынёю 12—15 м, моцна зарасла дрэвамі і кустамі. У выніку шурфоўкі выяўлены культурны пласт 0,1 м. Раскопкі не праводзіліся.

**1595. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля Дома быту. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1971 г. пастаўлены помнік. Асіметрычная архітэктурна-скульптурная кампазіцыя ў выглядзе вертыкальнай стэлы з кубападобным пастаментам, на якім устаноўлена скульптурная група — партызан і жанчына.

**в. Фядоры, цэнтр сельсавета**

**1596. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка шко-



1589. *Помнік землякам.*

лы. Пахаваны 146 воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі.

У ліпені 1944 г. 212-я стралковая дывізія 9-га гвардзейскага стралковага корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту сустрэла ўпартае супраціўленне ворага каля в. Фядоры. Праціўнік займаў зручную пазіцыю на вышыні. 12.7.1944 г. воіны 669-га стралковага палка ў рукапашным баі авалодалі вышынёй і вызвалілі вёску. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1597. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Перад будынкам выканкома сельсавета. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1977 г.

**в. Харомск, цэнтр сельсавета**

**1598. ГАРАДЗІШЧА ЧОРТАВА ГАРА** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзвышшы. Пляцоўка памерам 25×50 м, вышынёй 4 м. Абследаваў у 1961 г. П. А. Рапапорт, раскопкі праводзіў у 1980 г. Г. М. Залашка. Ускрыта і даследавана 188 м². Культурны пласт 0,25—0,3 м. Амаль на мацерыку, на вуголлі знойдзены рэшткі жалезнага нажа, крамянёвы рэтушор, біканічнае прасліца, гліняныя грузілы для вертыкальнага ткацкага станка. У верхняй частцы культурнага пласта выяўлены ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі і фрагменты посуду 5—7 стагоддзяў, рэшткі ляпнога посуду ранняга жалезнага веку. Гарадзішча адносіцца да ранняга этапа зарубінецкай культуры (2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.) і да старажытнарускага перыяду.

Знаходкі зберагаюцца ў Столінскім краязнаўчым музеі і ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Г. М. Залашка.*

**1599. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 51 аднавяскоўца, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хатомель,**
**Рубельскі сельсавет**

**1600. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА, ГРУНТАВЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на хутары Гарадзішча.

**1600а.** Гарадзішча. На заходняй ускраіне пясчанага ўзгорка. Пляцоўка авальнай формы, памерам 40×30 м. З трох бакоў абкружана балоцістай нізінай і старыцай ручая. З усходу, дзе да гарадзішча прылягае паселішча, перашыек узгорка перасякаюць абарончы вал і роў. Раскопкі праводзілі ў 1953 г. Б. В. Міралюбаў, у 1954—57 гг. Ю. У. Кухарэнка, у 1964 г. І. П. Русанава. Таўшчыня культурнага пласта ў цэнтры каля 0,4 м, па краях 2—2,5 м. Пляцоўка абкружана карытападобнымі ямамі, паглыбленымі ў мацерыковы пясок. Ямы запоўнены вуголлем, каменнем і рэшткамі ляпной керамікі так званага «пражскага» тыпу. У адной з ям знойдзены абломак трохлопасцевай стралы аварскага тыпу. Паглыбленні ў мацерыку перакрыты праслойкай з попелу і вуголля. Выяўлены рэшткі ачагоў і ям ад слупоў наземных пабудоў. У культурным пласце, над праслойкай, знойдзены рэшткі ляпной керамікі больш развітых форм, у т. л. фрагменты посуду, зробленага на ганчарным крузе, металічныя наканечнікі стрэл розных тыпаў, абломак сярэбранага бранзалета з крыху расшыраным канцом, жалезная спражка, скроневае крамянёвае кольца, коп'і, цуглі.

Знаходкі даюць падставу датаваць верхні гарызонт 8 — пачаткам 10 ст., ніжні — 7 ст. Гарадзішча стала не было заселена, служыла, відаць, сховішчам на выпадак небяспекі. Аднак спецыфічны набор рэчаў, выяўленых у верхнім пласце, наводзіць на думку, што ў позні перыяд магло быць грамадскім цэнтрам — месцам сходаў.

**1600б.** Селішча. У 1964 г. даследавана 16 жылых пабудоў, паглыбленых у мацярык на 0,2—0,5 м. Даўжыня сцен 3—6 м. Жытло прамавугольнае ў плане, з роўнай падлогай і глінабітнай печчу на драўляным каркасе. Найбольш раннія пабудовы размяшчаліся блізка ад гарадзішча. У іх знойдзена ляпная кераміка таго ж перыяду, што і ў ніжнім гарызонце на гарадзішчы. Больш познія жытлы, аддаленыя ад гарадзішча, будаваліся паралельна валу ў 2 рады. У рэштках жылых пабудоў выяўлена ляпная кераміка таго самага тыпу, што і на гарадзішчы, а таксама ганчарная больш позніх часоў. Знойдзены жалезныя нарогі, нажы, восці для лоўлі рыбы, абломкі сярпоў, долата, тачыльныя брускі і праслiцы.



1600. *Гарадзішча і селішча. План.*



1600а. *Гарадзішча.*

**1600в.** Грунтавы могільнік. За 200 м на паўднёвы ўсход ад гарадзішча. Адкрыты ў час земляных работ. На глыбіні 0,6 м знойдзены абкладзены камянямі перавернуты гаршчок з перапаленымі касцямі нябожчыкаў (трупаспаленне).

Археалагічны комплекс каля Хатомеля адзін з першых раннеславянскіх помнікаў 2-й палавіны 1-га тысячагоддзя н. э., даследаваных на поўдні Беларусі і ў паўночна-заходняй Украіне. Адметны спалучэннем жылога селішча, гарадзішча-сховішча і могільніка. Матэрыялы яго даследавання выкарыстоўваюцца як эталон пры датаванні іншых археалагічных аб'ектаў. Гарадзішча, селішча і могільнік належалі плямёнам пражскай культуры, пазней драўлянам.

Матэрыялы раскопак зберагаюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі і Беларускім дзяржаўным музеі сацыялістычнага пераўтварэння Палесся (Пінск).

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Раскопки на городище и селище Хотомель.— М., 1957.— (Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры АН СССР; в. 68); его ж. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961; Русанова И. П. Славянские древности VI — IX вв. между Днепром и Западным Бугом.— М., 1973.

*І. П. Русанава.*

**в. Цмень 2-я, Рухчанскі сельсавет**

**1601. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 400 м на ўсход ад вёскі. Пахаваны 9 жыхароў вёсак Цмень 1-я і Цмень 2-я, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Юнішчы, Столінскі гарсавет**

**1602. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.). У ваколіцы вёскі. Абследавалі ў 1955 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1970 г. В. Б. Караткевіч, у 1980 г. Г. М. Залашка.

**1602а.** Гарадзішча-1 (мясцовыя назвы Акоп, Малое Гарадзішча). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на ўзвышшы сярод балота. Пляцоўка амаль прамавугольнай формы (55×70 м), з поўдня, поўначы і захаду ўмацавана 2 валамі вышынёй 3,5—1 м. Каля асновы валоў прасочваюцца роў глыбінёю каля 1 м, у заходняй, паўночнай і паўднёвай частках уваходы. Культурны пласт 0,1 м.

**1602б.** Гарадзішча-2 (мясцовая назва Вялікае Гарадзішча). За 1,5 км на поўнач ад вёскі. Квадратная ў плане пляцоўка (90×90 м) умацавана валам вышынёю 2 м і шырынёю каля 15 м.

Раскопкі гарадзішчаў не праводзіліся.

*Літ.:* Кухаренко Ю. В. Средневековые памятники Полесья.— М., 1961.

*Г. М. Залашка.*

Антопальская гарпасялковая (Драгічынскі р-н, г. п. Антопаль, вул. Савецкая, 73).

Антопальская гарпасялковая дзіцячая (Драгічынскі р-н, г. п. Антопаль, вул. Савецкая, 73).

Баранавіцкая гарадская цэнтральная імя В. Таўлая (г. Баранавічы, вул. Леніна, 51). Фонд 159,9 тыс. экз.

Баранавіцкая гарадская № 1 (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 14). Фонд 75,6 тыс. экз.

Баранавіцкая гарадская № 2 (г. Баранавічы, вул. Камуністычная, 19 а). Фонд 26,6 тыс. экз.

Баранавіцкая гарадская дзіцячая № 1 (г. Баранавічы, вул. Камуністычная, 19 а). Фонд 46,9 тыс. экз.

Баранавіцкая гарадская цэнтральная дзіцячая № 2 (г. Баранавічы, вул. Камсамольская, 23 а). Фонд 63,7 тыс. экз.

Баранавіцкая раённая цэнтральная (в. Новая Мыш, цэнтр сельсавета). Фонд 823,4 тыс. экз.

Белаазёрская гарадская дзіцячая (Бярозаўскі р-н, г. Белаазёрск, вул. Леніна, 34).

Брэсцкая абласная імя М. Горкага (г. Брэст, бульвар Касманаўтаў, 48). Фонд 625,5 тыс. экз.

Брэсцкая абласная дзіцячая (г. Брэст, вул. Куйбышава, 32). Фонд 109,0 тыс. экз.

Брэсцкая раённая цэнтральная (г. Брэст, вул. Сонечная, 37). Фонд 611,4 тыс. экз.

Брэсцкая раённая дзіцячая (г. Брэст, вул. Сонечная, 37).

Брэсцкая гарадская цэнтральная імя А. С. Пушкіна (г. Брэст, бульвар Шаўчэнкі, 3). Фонд 178,0 тыс. экз.

Брэсцкая гарадская дзіцячая імя А. С. Пушкіна (г. Брэст, вул. Набярэжная, 32). Фонд 65,3 тыс. экз.

Брэсцкая гарадская № 1 (г. Брэст, вул. Маладагвардзейская, 6). Фонд 23,1 тыс. экз.

Брэсцкая гарадская № 2 (г. Брэст, вул. Беларуская, 51). Фонд 17,4 тыс. экз.

Брэсцкая гарадская № 3 імя Я. Купалы (г. Брэст, вул. Баброва, 4). Фонд 66,3 тыс. экз.

Брэсцкая гарадская № 4 імя А. Гайдара (г. Брэст, вул. Ковельская, 20). Фонд 27,8 тыс. экз.

Брэсцкая гарадская № 5 (г. Брэст, вул. Леніна, 11). Фонд 2,7 тыс. экз.

Брэсцкая гарадская № 6 (г. Брэст, вул. Падгародская, 71). Фонд 11,0 тыс. экз.

Брэсцкая гарадская № 7 (г. Брэст, вул. Набярэжная, 32). Фонд 73,3 тыс. экз.

Бярозаўская раённая цэнтральная (г. Бяроза, вул. Савецкая, 18). Фонд 663,8 тыс. экз.

Бярозаўская раённая дзіцячая (г. Бяроза, вул. Леніна, 34).

Высокаўская гарадская (Камянецкі р-н, г. Высокае, вул. Леніна, 7). Фонд 50,0 тыс. экз.

Высокаўская гарадская дзіцячая (Камянецкі р-н, г. Высокае, вул. Савецкіх Пагранічнікаў, 13). Фонд 23,3 тыс. экз.

Ганцавіцкая раённая цэнтральная (г. Ганцавічы, вул. Кастрычніцкая, 5). Фонд 341,6 тыс. экз.

Ганцавіцкая раённая дзіцячая (г. Ганцавічы, вул. Заслонава, 2).

Гарадзішчанская гарпасялковая (Баранавіцкі р-н, г. п. Гарадзішча, вул. Мірская, 11).

Гарадзішчанская гарпасялковая дзіцячая (Баранавіцкі р-н, г. п. Гарадзішча, вул. 60 год Кастрычніка, 7).

Давыд-Гарадоцкая гарадская (Столінскі р-н, г. Давыд-Гарадок, вул. К. Цэткін, 3).

Давыд-Гарадоцкая гарадская дзіцячая (Столінскі р-н, г. Давыд-Гарадок, вул. Савецкая, 10).

У спісе прыведзены абласныя, раённыя, гарадскія, гарпасялковыя, пасялковыя бібліятэкі. Кніжны фонд даецца на 1.1.1983 г. па цэнтралізаваных бібліятэчных сістэмах.

Дамачоўская гарпасялковая (Брэсцкі р-н, г. п. Дамачова, вул. Кастрычніцкая, 70).

Дамачоўская гарпасялковая дзіцячая (Брэсцкі р-н, г. п. Дамачова, вул. Кастрычніцкая, 70).

Драгічынская раённая цэнтральная (г. Драгічын, вул. Леніна, 115). Фонд 754,8 тыс. экз.

Драгічынская раённая дзіцячая (г. Драгічын, вул. Леніна, 73).

Жабінкаўская раённая цэнтральная (г. Жабінка, вул. Піянерская, 29). Фонд 380,0 тыс. экз.

Жабінкаўская раённая дзіцячая (г. Жабінка, вул. Кірава, 9).

Іванаўская раённая цэнтральная (г. Іванава, вул. 17 Верасня, 6). Фонд 740,8 тыс. экз.

Іванаўская раённая дзіцячая (г. Іванава, вул. Я. Купалы, 9 а).

Івацэвіцкая раённая цэнтральная (г. Івацэвічы, вул. Савецкая, 24). Фонд 806,1 тыс. экз.

Івацэвіцкая раённая дзіцячая (г. Івацэвічы, вул. Савецкая, 24).

Камянецкая раённая цэнтральная (г. Камянец, вул. Леніна, 23). Фонд 841,2 тыс. экз.

Камянецкая раённая дзіцячая (г. Камянец, вул. Леніна, 23).

Кобрынская раённая цэнтральная (г. Кобрын, вул. Жданава, 12). Фонд 638,3 тыс. экз.

Кобрынская раённая дзіцячая (г. Кобрын, вул. Жданава, 8).

Косаўская гарадская (Івацэвіцкі р-н, г. Косава, вул. Чырвонаармейская, 1). Фонд 29,1 тыс. экз.

Лагішынская гарпасялковая (Пінскі р-н, г. п. Лагішын, вул. Леніна, 53).

Лагішынская гарпасялковая дзіцячая (Пінскі р-н, г. п. Лагішын, вул. Першамайская, 26).

Лунінецкая раённая цэнтральная (г. Лунінец, вул. Фрунзе, 9). Фонд 504,6 тыс. экз.

Лунінецкая раённая дзіцячая (г. Лунінец, вул. Чырвоная, 50).

Ляхавіцкая раённая цэнтральная (г. Ляхавічы, пл. Леніна, 33). Фонд 584,3 тыс. экз.

Ляхавіцкая раённая дзіцячая (г. Ляхавічы, пл. Перамогі, 3).

Маларыцкая раённая цэнтральная (г. Маларыта, вул. Савецкая, 53). Фонд 455,9 тыс. экз.

Маларыцкая раённая дзіцячая (г. Маларыта, вул. Савецкая, 53).

Мікашэвіцкая пасялковая (Лунінецкі р-н, рабочы пасёлак Мікашэвічы, вул. Чыгуначная, 7).

Мікашэвіцкая пасялковая дзіцячая (Лунінецкі р-н, рабочы пасёлак Мікашэвічы, вул. Ленінская, 8).

Пінская гарадская цэнтральная (г. Пінск, вул. Леніна, 25). Фонд 161,1 тыс. экз.

Пінская раённая цэнтральная (г. Пінск, вул. К. Маркса, 2). Фонд 875,2 тыс. экз.

Пінская раённая дзіцячая (Пінскі р-н, в. Пінкавічы, вул. Я. Коласа, 90).

Пінская гарадская № 1 (г. Пінск, вул. Першамайская, 24). Фонд 79,5 тыс. экз.

Пінская гарадская № 2 (г. Пінск, завулак Ліцейны, 3). Фонд 29,0 тыс. экз.

Пінская гарадская № 3 (г. Пінск, вул. Брэсцкая, 85). Фонд 56,0 тыс. экз.

Пінская гарадская № 4 (г. Пінск, Крайновічы). Фонд 9,8 тыс. экз.

Пінская гарадская дзіцячая (г. Пінск, вул. Леніна, 25). Фонд 60,5 тыс. экз.

Пружанская раённая цэнтральная (г. Пружаны, вул. Савецкая, 12). Фонд 815,2 тыс. экз.

Пружанская раённая дзіцячая (г. Пружаны, вул. Камуністычная, 13).

Ружанская гарпасялковая (Пружанскі р-н, г. п. Ружаны, вул. Леніна, 10).

Ружанская гарпасялковая дзіцячая (Пружанскі р-н, г. п. Ружаны, вул. Леніна, 12).

Рэчыцкая пасялковая (Столінскі р-н, рабочы пасёлак Рэчыца, вул. Клубная, 3).

Столінская раённая цэнтральная (г. Столін, пл. Камсамольская, 1). Фонд 819,2 тыс. экз.

Столінская раённая дзіцячая (г. Столін, вул. Савецкая, 65).

Целяханская гарпасялковая (Івацэвіцкі р-н, г. п. Целяханы, вул. Савецкая, 19).

Целяханская гарпасялковая дзіцячая (Івацэвіцкі р-н, г. п. Целяханы, вул. Леніна, 37).

Шарашоўская гарпасялковая (Пружанскі р-н, г. п. Шарашова, вул. Леніна, 47).

Шарашоўская гарпасялковая дзіцячая (Пружанскі р-н, г. п. Шарашова, вул. Фаміна, 5).

## МУЗЕІ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

**БАРАНАВІЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 14). Заснаваны ў маі 1946 г. на базе Слонімскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея. З мая 1952 г. ў Баранавічах. З 1954 г. Баранавіцкі краязнаўчы музей. У фондах музея захоўваецца на 1.1.1983 г. больш за 27 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода краю, гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага перыяду.

**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ПЕРАЎТВАРЭННЯ ПАЛЕССЯ** (г. Пінск, вул. Леніна, 27). Заснаваны ў студзені 1979 г. на базе Пінскага краязнаўчага музея. Вядзецца работа па стварэнню новай экспазіцыі. У фондах на 1.1.1983 г. каля 52 тыс. экспанатаў. Дзейнічае экспазіцыя: прырода краю, Піншчына ў перыяд феадалізму і капіталізму, уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР, Піншчына ў Вялікую Айчынную вайну.

**БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ-ГЕРОЯ МУЗЕЙ** (г. Брэст, на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці). Адкрыты ў лістападзе 1956 г. на базе гарнізоннага пакоя-музея. У фондах і 11 экспазіцыйных залах на 1.1.1983 г. больш за 35 тыс. экспанатаў. Аддзелы: гісторыя Брэсцкай крэпасці (19 ст.— верасень 1939 г.); гарнізон Брэсцкай крэпасці перад Вялікай Айчыннай вайной; вераломны напад фашысцкай Германіі на СССР, прыгранічныя бai ў раёне Брэста; гераічная абарона Брэсцкай крэпасці; асноўныя этапы Вялікай Айчыннай вайны і ўдзел у ёй абаронцаў крэпасці; Брэсцкая крэпасць-герой — усенародная школа патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання.

**БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Брэст, вул. Леніна, 34). Заснаваны ў 1950 г., адкрыты ў чэрвені 1957 г. У музеі і яго філіялах на 1.1.1983 г. амаль 108,5 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода, гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства. Філіялы: Камянецкая вежа (помнік архітэктуры абарончага дойлідства 13 ст., г. Камянец), археалагічны музей «Бярэсце» (археалагічны помнік 11—13 стагоддзяў, на Шпітальным востраве Брэсцкай крэпасці), Музей партызанскай славы [ва ўрочышчы Хаванiшчына Івацэвіцкага раёна, дзе ў 1943—44 гг. размяшчаліся Брэсцкія падпольныя абкомы КП(б)Б, ЛКСМБ і штаб партызанскага злучэння].

**БЯРОЗАЎСКІ ГІСТОРЫКА-РЭВАЛЮЦЫЙНЫ МУЗЕЙ** (г. Бяроза, вул. Леніна, 69). Заснаваны ў чэрвені 1961 г. Адкрыты ў лістападзе 1965 г. На 1.1.1983 г. ў фондах і 6 экспазіцыйных залах каля 15 тыс. экспанатаў. Аддзелы: рэвалюцыйна-вызваленчы рух на Беларусі; 1-я сусветная вайна; Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і Грамадзянская вайна; КПЗБ — кіруючая сіла ў барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне; канцлагер Бяроза Картузская; 2-я сусветная вайна, вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, уз'яднанне беларускага народа ў адзінай сям'і, першыя крокі Савецкай улады на Бярозаўшчыне; Вялікая Айчынная вайна, зверствы нямецка-фашысцкіх акупантаў на Бярозаўшчыне, партызанскі рух у краі, вызваленне Бярозаўскага раёна войскамі Чырвонай Арміі 16.7.1944 г.; аднаўленне і развіццё народнай гаспадаркі ў пасляваенныя гады; перыяд развітога сацыялізма.

**КОБРЫНСКІ ВАЕННА-ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ ІМЯ А. В. СУВОРАВА** (г. Кобрын, вул. Суворава, 16). Заснаваны ў чэрвені 1946 г., адкрыты ў маі 1948 г. Размешчаны ў доме, дзе ў 1797 г. і 1800 г. жыў А. В. Сувораў. У фондах на 1.1.1983 г. каля 6,4 тыс. экспанатаў. Экспазіцыя прысвечана жыццю і дзейнасці А. В. Суворава.

**ЛУНІНЕЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Лунінец, вул. Савецкая, 16). Заснаваны ў 1978 г. Вядзецца работа па збору матэрыялаў і стварэнню экспазіцыі, якая раскажа пра гісторыю краю, яго мінулае і сучаснасць.

**СТОЛІНСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Столін, у парку «Манькавічы»). Заснаваны ў 1954 г. Адкрыты ў лістападзе 1955 г. У фондах на 1.1.1983 г. больш за 7,5 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода, археалогія, гісторыя дасавецкага перыяду, гісторыя савецкага грамадства, Вялікая Айчынная вайна, перыяд развітога сацыялізма.

## АРХІВЫ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

**ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ** (г. Брэст, вул. Савецкіх пагранічнікаў, 34). Створаны паводле пастановы СНК БССР ад 11.2.1940 г. Зберагаюцца дакументы ваенна-рэвалюцыйных камітэтаў (1920 г.), арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў Палескага ваяводства, Баранавіцкага павета Навагрудскага ваяводства буржуазнай Польшчы (да 1939 г.), абласных, раённых, гарадскіх і сельскіх арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў Брэсцкай (з 1939 г.), а таксама Баранавіцкай, Пінскай (1939—54 гг.) абласцей, тэрыторыі якіх уключаны ў Брэсцкую вобл., асобныя дакументы савецкіх устаноў за 1939—41 гг., дакументы мясцовых савецкіх абласных, раённых і сельскіх устаноў і арганізацый пасляваеннага часу.

Мае філіялы ў Баранавічах (вул. Лісіна, 12), Кобрыне (вул. Леніна, 18), Пінску (вул. Астроўскага, 42). Зберагаюць дакументы савецкіх устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў пасляваеннага часу, а таксама асобныя дакументы савецкіх устаноў за 1939—41 гг.

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У імянны паказальнік вынесены прозвішчы ўсіх асоб, пра якіх ёсць асобныя артыкулы ці якія ўпамінаюцца ў тэкстах артыкулаў і ў подпісах пад ілюстрацыямі, у бібліяграфіі, а таксама прозвішчы аўтараў падпісаных артыкулаў. Лічбы паказваюць нумар артыкула, з якога вынесена прозвішча.

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У геаграфічны (адрасны) паказальнік вынесены ўсе населеныя пункты вобласці, дзе ёсць помнікі, а таксама назвы знішчаных нямецка-фашысцкімі захопнікамі і неадроджаных вёсак. Пасля назвы населенага пункта даецца назва сельсавета і раёна, да якіх адносіцца гэты населены пункт. Лічбы паказваюць нумар артыкула пра помнік, які знаходзіцца ў гэтым населеным пункце.

## ХРАНАЛАГІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У храналагічным паказальніку ўсе помнікі згрупаваны па часе, да якога адносяцца. Лічбы паказваюць нумар артыкула пра помнік.

## ЗМЕСТ



## СУПРАЦОЎНІКІ СЕКТАРА «ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ» ІНСТЫТУТА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ АН БССР, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ ТОМА

Заг. сектара: член-карэспандэнт АН БССР, доктар гістарычных навук С. В. Марцэлеў (да 1977 г.— член-карэспандэнт АН БССР, доктар мастацтвазнаўства У. І. Няфёд).

Ст. навук. супрацоўнікі: кандыдаты гістарычных навук М. Б. Батвіннік, У. Дз. Будзько, Г. І. Дулеба, В. Б. Караткевіч, Э. М. Савіцкі; кандыдаты архітэктуры Т. В. Габрусь, Т. І. Чарняўская, Ю. А. Якімовіч; кандыдаты мастацтвазнаўства Г. І. Барышаў, Л. Г. Лапцэвіч, В. В. Церашчатава, М. М. Яніцкая; кандыдат філалагічных навук І. Ф. Кудраўцаў.

Мал. навук. супрацоўнікі: У. В. Алісейчык, С. Г. Багласаў, В. М. Баскова, У. У. Бянько, Э. І. Вецер, І. М. Гатоўчыц, М. М. Казлоўская, М. В. Кірэйшын, Г. П. Кобля, М. К. Кошалеў, А. М. Кулагін, Т. С. Кухарава, В. М. Ладзіс, А. М. Лапкоўская, А. А. Мацвееў, А. А. Міцянін, А. Ю. Пятросава, С. Ф. Самбук, В. В. Семянюк, В. М. Удальцоў, Т. Р. Чуракова, А. Г. Шчарбатаў, Л. І. Шэйко, В. Л. Шаціла, Т. М. Ярмоленка.

Лабаранты: Т. В. Басалыга, Н. І. Пятровіч, Г. Ф. Раманаў, Л. М. Рыткіна; мастакі С. М. Андрэйчык, Н. П. Вараб'ёва, Н. С. Ліхтаровіч, М. У. Мікалаеў.

## СУПРАЦОЎНІКІ ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ» ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ ТОМА

Заг. рэдакцый: А. І. Марозава, В. С. Паваліхіна, Н. А. Русак, С. П. Самуэль, кандыдат архітэктуры Ю. А. Якімовіч.

Ст. навук. рэдактары: Я. К. Габец, В. В. Гетаў, А. Дз. Зубар, М. І. Камінскі, З. П. Кузьмічэнка, Г. Р. Шыкунова, У. М. Якунін.

Навук. рэдактары: В. М. Барадуліна, Л. В. Календа, М. А. Маўзон, Т. П. Панчанка, кандыдат філасофскіх навук Дз. П. Радзюк, Л. В. Сакалова, Л. А. Суднік, Н. А. Ясінская.

Рэдактары: В. В. Казлова, Р. А. Ларчанка, Л. І. Паўловіч.

Карты-схемы раёнаў выканалі картографы Г. Р. Шыкунова і П. П. Явід, чарцёжніца Л. А. Панцялеева.

У томе змешчаны фотаздымкі У. Ф. Варварына, У. Б. Жэрко, П. М. Захаранкі, В. В. Сасноўскага.

**СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ БЕЛОРУССИИ**

**Брестская область**

На белорусском языке

Минск, издательство «Белорусская Советская Энциклопедия» имени Петруся Бровки

У томе змешчана 19 карт, 1015 ілюстрацый, з іх 199 каляровых.

Афармленне і мастацкае канструяванне *У. М. Якуніна.*
Мастацкія рэдактары *С. П. Русак, У. М. Якунін.*
Тэхнічны рэдактар *А. У. Шэметавец.*
Карэктары: *В. І. Багдановіч, Р. Р. Блашко, В. С. Бугаёў, С. А. Крукава, А. А. Федасеева, М. К. Хадыка.*

ІБ № 33
Здадзена ў набор 27.10.82. Падпісана да друку 14.09.83 г. АТ 21182. Фармат 84×108$^{1}/_{16}$. Папера мелаваная. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Фіз. друк. арк. 23,0. Ум. друк. арк. 38,64. Ум. фарба-адбіткаў 281,4. Ул.-выд. арк. 55,18. Тыраж 6000 экз. Зак. 2447. Цана 8 руб. 00 кап.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. Броўкі Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МППО імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.

